УДК 821.161.3-3
ББК 84(4Беи)
С44

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў*
*«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 84.*
*Заснаваная ў 2009 годзе.*

**Скобла, М.**
С44 Саркафагі страху : прознае / Міхась Скобла. — Мінск : Кнігазбор, 2016. — 392 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 84).
ISBN 978-985-7144-55-6.

Новая кніга Міхася Скоблы — сплаў асабістых успамінаў і ўдумлівых развагаў на літаратурныя і гістарычныя тэмы. «Прознае» — гэта і палемічнае эсэ, і блог-даследаванне, і водгук на цікавае выданне. «Гуслям, княжа, не пішуць законаў» — гэты радок Янкі Купалы мог бы стаць эпіграфам да большасці тэкстаў, чые героі словам і чынам разбуралі здаўна прысутныя ў нашай культурнай прасторы «саркафагі страху».

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7144-55-6**

# ПЕРШЫ КАСМАНАЎТ, альбо VIVAT ALBARUSSIA LIBERTA

Язэпа Драздовіча можна назваць першым беларускім касманаўтам. Яшчэ на месцы касмадрома Байканур пасвіліся дзікія суслікі, яшчэ ў правінцыйнай Калузе школьны настаўнік Цыялкоўскі толькі накрэсліваў праекты першых касмічных караблёў, а ўжо летуценны мастак з засценка Пунькі на Віленшчыне апісваў убачаныя ім краявіды — на Месяцы, Венеры, Сатурне. Апісваў дэталёва знешнасць лунідаў і сатурнянаў, апісваў падрабязна расліны, што раслі на гэтых планетах, маляваў тамтэйшыя экзатычныя пейзажы.

Пра касмічны турызм свет загаварыў у пачатку XXI стагоддзя. Тады ж з'явіліся і першыя касманаўты-турысты — усмешлівыя амерыканскія мільянеры, якія за некалькі галавакружных кульбітаў у стане бязважкасці гатовыя паражніць свае важкія кашалькі. А першая «касмічная тарпеда» для міжзорных бізнес-ваяжоў была прыдуманая не ў сучасным канструктарскім бюро, а ў міжваеннай Вільні, у няпаленай майстэрні самадзейнага мастака, які мусіў маляваць насценныя дываны за кавалак хлеба ды начлег у цяпле.

У падарожжы на другія планеты Язэп Драздовіч выпраўляўся, як на пагасціны да суседа. Занатоўваў убачанае там без асаблівага здзіўлення, нібы апісваў суседскі падворак: «З пятніцы на суботу я меў шчасце зрабіць гадзінную вандроўку на Месяц. Тускласветная папялятая ноч. Ляту і аглядаю з птушынага палёту... Бачыў шмат крутагорых вадападаў, цяснін, астравоў. Пралятаў скрозь залацістабазальтавы грот. Бачыў гарачакрынічныя вадамёты — фантаны... Учора гадзіне а 12-й ночы бачыў на маладзіковым акрайцы Месяца пры ўзыходзячым сонцы вялікі і пекны горад... У міжгор'і чорнага вала ў краіне задымленага неба бачыў штучна пасаджаныя расліны, якія прыпомнілі мне наш хрэн і салату...

Што бачыў на Марсе. Роўная сцяна нейкіх скал, адгор'я. А ў сцяне — прастакутнія адтуліны дзвярэй і акон, з якіх даносіліся таемныя меладычныя гукі, якія прыпаміналі музыкальныя тоны струн цытры, а заадно і жураўлінае з выраю курлыканне... А па віджаным, падаўшыся ў глыб міжскальнай цясніны, я напаткаў стаячую пад шэрай скалой невялічкую камлюкаватую фігурку голага чарнаскурага чалавека. Ён меў досыць буйную, выпукластаЛобую і зусім безвалосую галаву, паўнашчокі акруглясты твар і нізкарослую фігуру...

Вяртаючыся з засаджанага парасоністымі дрэўцамі поля, бачыў чатырохногую пачвару — кот не кот, яшчар не яшчар, скура чорная, як у жука, тулава худое і доўгае, ногі кароткія, а галава круглая, як качан, рот шырокі, без носа, а вочы круглыя, вялікія — па яблыку, і блішчаць...

А хто гэтаму не верыць, хай праверыць праз тэлескопы, і я пэвен, што бальшыну таго, што мной апісана, убачыць як на далоні...»

Як гэта важна для мастака — быць пэўным у сваім бачанні свету і Сусвету! Такой бяды, што і сам Язэп Драздовіч свае касмалагічныя візіі «праверыць праз тэлескопы» не мог — уваход у абсерваторыю Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя быў платным, а мастак часам не меў за што здаць паліто ў гардэроб.

Зорнае неба над намі... Чым яно вабіць чалавека, якую сілу мае над ім? Язэп Драздовіч у сваім спасціжэнні космасу кіраваўся найбольш інтуіцыяй, узыходзіў на свае арбіты ў снах, з заплюшчанымі вачыма, як той памесяўнік па страсе, якога аклікаць нельга — ачнецца і зваліцца долу. А мастака да будзённай рэчаіснасці вяртала шмат што. Вяртаў клопат пра хлеб надзённы. Вяртала беспрытулле і бесхацімства. Вярталі замкі і гарадзішчы, якія мусіў замалёўваць для нашчадкаў. Вярталі кепікі сяброў і знаёмых, якія на сур'ёзнае зацікаўленне мастака глядзелі як на вартае жалю дзівацтва.

Максім Танк у «Лістках календара» 7 траўня 1938 года зрабіў гэткі запіс: «Драздовіч падараваў мне сваю кнігу “Нябесныя бегі”. Не знаю, які з яго астраном. Мне здаецца, што ён не праз тэлескоп, а праз бутэльку глядзеў на нябесныя бегі

планет...» Дзеля справядлівасці ўсё ж адзначым, што мастацкі талент Драздовіча паэт прызнаваў, а ягоныя дываны называў «рэдкім скарбам, якому некалі і цаны не будзе».

Але хапала абыякавасці і няўвагі. У 1932 годзе Язэп Драздовіч закончыў напісанне навуковай манаграфіі «Гармонія планет Сонечнай сістэмы». Паслаў у Менск, у Акадэмію навук, зазначыўшы ў суправаджальным лісце: «Я знайшоў тлумачэнне паходжання планет і іх самакручэння...» Адказу так і не атрымаў. Пройдзе семдзесят шэсць гадоў, і ў цэнтры Еўропы навукоўцы збудуюць велічэзны адронны калайдар з тою самай мэтай — каб даведацца, як усё ж утварылася Сонечная сістэма. Каб жа падобны калайдар меў у сваім распараджэнні ў засценку Пунькі самадзейны астраном Язэп Драздовіч! Глядзіш — і таямніцы Сусвету адкрыліся б чалавецтву значна раней.

Язэп Драздовіч, нібы ў чароўнае люстэрка, заглядаўся ў поўню, якая — не толькі апошняя квадра месяца, але і шматзначны панятак-вобраз у сусветнай культуры. І калі ўдзень, паводле вызначэння Максіма Багдановіча, нам «сонца асляпляла вочы», то начною парою таямнічы Сусвет прамаўляў да мастака галасамі найбліжэйшых зорак і паказваў яму фрагменты надрэальных касмавізіяў на круглым экране поўні.

У сусветнай мастацкай культуры найбліжэйшымі Драздовічу бачацца мне дзве постаці — літоўскі мастак Мікалоюс Чурлёніс і польскі паэт Канстанты Ільдэфанс Галчыньскі. Паглядзіце на Чурлёнісаву «Санату зорак» — хіба не гучыць яна ва ўнісон з Драздовічавым «Космасам»? А з Галчыньскім беларускі мастак хадзіў па адных і тых жа віленскіх вуліцах, яны маглі нават сустракацца на супольных беларуска-польскіх культурніцкіх вечарынах. Гэта даволі лёгка ўявіць, паколькі польскага паэта і беларускага мастака натхнялі тыя самыя рэчы і вобразы. Так, прачытаўшы лекцыю пра свой чарговы «палёт» на ваколземныя планеты перад уяўнымі слухачамі, Язэп Драздовіч запісвае ў дзённіку фінальную фразу: «Месяц — гэта мір вечнапагоднага неба». А паглядзіце — «ніч яка місячна» на ягоных маляваных дыванах! Здаецца, месяц з палотнаў Драздовіча перавандраваў у

вершы яшчэ аднаго памесяўніка — Галчыньскага і загаварыў там ад першай асобы:

Механізмам патайным рухомы,
Я плыву ў хаціны і харомы.
Дзіўна — пасля нашае сустрэчы
Ажываюць нежывыя рэчы.
Горад вымер пад маім паглядам
І абвіўся дзікім вінаградам.
Прыхавае цемра шпіль ці комін —
І туды дастане срэбны промень.
Хто ж такі я? Вам адкрыўшы душу,
Я па-польску развітацца мушу.
Рэчы мілыя, мой свеце ясны,
Добрай ночы ўсім, я хутка згасну.
Як памру — не плач, маё каханне,
Я вярнуся да цябе пад ранне,
Вытру слёзы, зазірну у вочы:
«Гэта я. Твой месяц. Сэрца ночы»*.

Літовец Чурлёніс, паляк Галчыньскі і беларус Драздовіч — тры мастакі, тры песняры зорнага неба, з'яднаныя адной — віленскай — зямлёй пад нагамі. З усіх трох беларус у Сусвет узлятаў мо найдалей, адухаўляючы пэндзлем неабжытыя планеты, насяляючы іх жывымі істотамі. А калі не было за што купіць фарбаў і палатна, браў у рукі пяро і працягваў нястомна-захоплена паэтызаваць космас. «Віталёткі — аўрорынкі, якія кожную раніцу выходзяць са сваіх хатаў (на Месяцы. — *М. С.*) на павітанне ўзыходзячага сонца, з распрасцёртымі рукамі, як да ўзлёту крыламі», — чытаем мы ў Драздовічавым дзённіку. І што з таго, што амерыканскія астранаўты пабывалі на Месяцы і не пабачылі там аніякіх віталётак? Яны проста перабраліся на другую планету. Можа быць, на тую, дзе жыве Маленькі Прынц...

У чытача можа скласціся ўражанне, што Язэп Драздовіч быў гэткім сабе небажыхаром, які на зямлю апускаўся толь-

* Пераклад аўтара.

кі вады папіць ды скарынку хлеба з'есці. Зусім не. Сваю Бацькаўшчыну, найперш Віленшчыну ды Віцебшчыну, ён схадзіў упоперак і ўдоўжкі. І, ад прыроды летуценнік, умеў прынесці людзям і практычную карысць.

З падказкі Янкі Купалы аздобіў вокладку першай кнігі Канстанцыі Буйло «Курганная кветка».

Для Віленскай беларускай гімназіі намаляваў першы ў гісторыі жывапісны партрэт Францішка Скарыны.

Вучыў беларускіх падлеткаў нялёгкаму рамяству мастака — у Вільні, у Радашковічах, у Беластоку. На старым фотаздымку пад імклівай Пагоняй — мастацкая секцыя Радашковіцкай гімназіі. Сорак два юныя мастакі! Сорак трэці — сам настаўнік, заклапочана-задаволены: столькі таленавітай моладзі нараджае беларуская зямля!

На просьбу землякоў распісаў сталоўку ў мястэчку Лужкі. Людзі абедалі, а вока ім цешылі яркапёрыя птушкі, што, нібы ў вырай, прыляцелі на Зямлю з Марса ці Венеры. Але прыехаў нейкі чыноўнік, роспіс загадаў замаляваць, а на яго месца павесіць копію карціны Шышкіна.

І адкуль у нас гэткая паталагічная нелюбоў да свайго і гэткае запабяганне перад чужым? У суседзяў жа нашых сістэма каштоўнасцяў не парушаная. Гэтым летам мне давялося пабываць у Траццякоўскай галерэі. Сярод сотняў і сотняў выдатных і знакамітых мастакоў — толькі два беларусы: Станіслаў Жукоўскі і Вітольд Бялыніцкі-Біруля. І ўсё. Расіянам цікавае найперш сваё, а нам... Ці варта падлічваць, колькі адсоткаў выставачнай плошчы займае беларускае мастацтва ў нашым Нацыянальным мастацкім музеі?.. Да нядаўняга часу там Драздовіча ў сталай экспазіцыі зусім не было. Дзякуй Богу, цяпер некалькі палотнаў з'явілася, хоць пад Драздовіча не шкодзіла б адвесці цэлую залу.

Я люблю спыняцца ў гэтым музейным закутку — перад «Зімовым сном» Бялыніцкага-Бірулі і «Пагоняй Ярылы» Язэпа Драздовіча. Першая карціна — супакойвае, даводзіць душу да малітоўнага стану. Другая — наадварот, бадзёрыць, узнімае дух. Славутая Багдановічава «Пагоня» «біла ў сэрцы нас, біла мячамі». Драздовічава — рассейвала змрок нябыту

зыркай паходняй. І абедзве — «не давалі чужынцамі быць». Дарэчы, сваёй Пагоняй мастак (рэдкі выпадак!) ганарыўся, як, мабыць, ніводным уласным творам. У 1921 годзе ён пісаў у Беларускі музей імя Івана Луцкевіча ў Вільні: «Не зважаючы на недастатак матэрыялаў, я ў працягу гэтага лета змог вымаляваць адзін абраз сімвалічнай пагоні — «Пагоня Яра (Ярылы)». Можа, нявартa занадта хваліцца, але я ўжо заўважыў, што гэты мой абраз рабіў на адведаўшых мяне інтэлігентаў-беларусаў досыць моцнае ўражанне».

Заўважыў і я: сучасныя маладзёны стараюцца непрыкметна для наглядчыцы сфатаграфавацца на фоне Драздовічавай Пагоні, перапісваюць у нататнікі накрэслены на палатне дэвіз: Vivat Albarussia liberta — Няхай жыве свабодная Беларусь.

У свой час мне давялося быць рэдактарам альбома-манаграфіі «Язэп Драздовіч», выдадзенага ў шматспадзеўнай серыі «Мастакі Беларусі». Памятаю сваё ўзрушэнне: больш-менш знаёмы мастак аказаўся яшчэ і выдатным разбярам, і таленавітым пісьменнікам. Вось, напрыклад, адзін нешматслоўны абразок, па якім пазнаецца не толькі музычны густ Драздовіча, але і тагачаснае палітычнае ўладкаванне Еўропы: «Хадзілі да братоў нябожчыка ксяндза-беларуса Рамейкі новае радыё паслухаць: з Масквы — “аб калхозах”, з Менска — “Лявоніха”, з Варшавы — батлейка, з Будапешта — опера, з Прагі чэшскай — усялякага роду музыкі, з Берліна — апроч адных і тых самых маршаў — нічагусенькі».

Уразілі ў тым самым альбоме (каля трохсот твораў!) і драўляныя фігуры Божай Маці, святых і анёлаў, зробленыя для прыдарожных каплічак і ўкрыжаванняў. Колькі іх мокла пад дажджом і калела ў зімовыя сцюжы на дарогах Дзісеншчыны, Меншчыны, Віленшчыны — па ўсёй Заходняй Беларусі!

У музеі Язэпа Драздовіча ў Германавічах сярод іншых дзівосных экспанатаў пабачыў я кій з фігурным навершнікам. Падобныя кіі вырабляў мастак на продаж, яны добра набываліся ў Вільні замежнымі турыстамі. На адным з кіёў, які так і хочацца назваць посахам, Драздовіч выразаў аблічча біблейскага Масея, якога любіў «за маладцаватасць» і за галоўны пастулат у ягонай тэорыі стварэння свету: «Бог ства-

рыў чалавека на сваё падабенства». Каму служыць сёння той посах, каго выводзіць «з няволі егіпецкай», каму некалдобістую дарогу намацвае?

Свае касмалагічныя відзежы Язэп Драздовіч старанна пераносіў на палатно, пачасту матэрыялізуючы на ім сваю зямную мару пра гарманічны свет. Польскія ўлады зачынялі беларускія школы на «крэсах всходніх» — мастак станавіўся за мальберт і пісаў «Марсіянскую школу пад адкрытым небам». Распарадзіўся Віленскі магістрат адабраць майстэрню ў мастака Рафала Яхімовіча — сябра Язэп тут жа на палатне выбудаваў свой «Артаполіс» (горад мастацтва), дзе хапіла б месца ўсім беларускім творцам.

Шкада, што адну сваю відзежу Драздовіч так і не перанёс на палатно. Вось яна: «Назаўтра раніцай, ужо дзяньком, мне прывідзеўся сон — быццам я знаходжуся на тым месцы, дзе малюю (Францысева гумно), стаю, гляджу ў бок Князьвозера і віджу: ідзе наш спрадвечны Настаўнік — Хрыстос. Спачатку ён паказаўся мне звычайнай дзераўлянай фігурай, якіх мы нярэдка спатыкаем у старых уніяцкіх касцёлах, у пабочных алтарах, — твар белы, барада і валасы шэрыя, кашуля цемнавата-белая з чырвоным прасцірадлам цераз плячо, а на галаве — чарнаватая, цярністая карона. І калі праходзіў Хрыстос міма мяне, я не заўважыў у твары Ягоным ані ценю, патрабуючага рабапрэклонства. Аблічча Ягонае было чыстае ад усялякай пагарды да асобы чалавека... Я ўкланіўся Яму...»

Аляксандр Іванаў пісаў сваё «Яўленне Хрыста народу» ажно дваццаць адзін год! Пісаў, жывучы ў Італіі, на беразе цёплага мора, адасобіўшыся ад паўсядзённых і будзённых турботаў. Ці мог Язэп Драздовіч гэтак жа самазабыўна адплысці ў свет мастацтва пад ветразем натхнення? Нават адчуўшы ўнутраны покліч, нават атрымаўшы знак звыш — не. Акадэмік жывапісу Іванаў атрымліваў ад дзяржавы пенсію (пачынаючы з дваццаці чатырох гадоў!), а ганарарам Язэпа Драздовіча мог пазайздросціць хіба жабрак на цвінтары.

Вось ён, няпоўны пералік «заробкаў» мастака за вясну, лета і восень 1934 года: «Для Ядзькі ў Лазовіках 1 дыван — за пяць аршынаў кужалю. Для Эміліі Янцэвічанкі ў Наваполлі — за

гасцінства. Для Домценькі Няміры ў Юркаве — за гасцінства. Для паненак Юшкевічанак з Войткава 2 дываны — за пяць аршынаў кужалю. Для паненкі Сарафімы Мятлянкі ў Кухцінцах 1 дыван поўны — за два злотых. Для Ядзькі Фурсянкі ў Заполлі дыван у адну столку — за тры злотых... Ой, як трудна грош даецца!»

І ўсё ж, нягледзячы на «трудны грош», мастак ішоў ад засценка да засценка, ад вёскі да вёскі, ад мястэчка да мястэчка і рабіў сваю малааплатную працу — «дзеля развіцця мастацкага густу ў народзе той краіны, дзе радзіўся і вырас».

Адвечны спакой пануе на касмічных палотнах Язэпа Драздовіча. І моры там не ведаюць штормаў, і сады зацішныя, і кактусы стаяць нязрушна, як мармуровыя калоны.

А на зямлі ягоная ўлюбёная стыхія — вецер. (Калі, вядома, мастак не змалёўвае старое гарадзішча, архітэктурны помнік ці адметны тыпаж сялянкі ў народных строях.) На графічным аркушы «Святар-мудрэц» прысутнасць ветру адчуваецца ва ўсім — у павеўных валасах старога, у крылата напятым адзенні, у пульхнаватай кнізе, якой так і не церпіцца хутчэй гартацца, у прыгнутых вершалінах дрэваў (улюбёны вобраз Драздовіча). Гляджу на ягоныя «ветравейныя» працы, і міжволі прыходзяць на памяць радкі ўкраінскай паэткі Ліны Кастэнкі:

Якщо не можна вітер змалювати,
Прозорий вітер на ясному тлі, —
Змалюй дуби, могутні і крислати,
Котрі од вітру гнуться до землі.

Магутнага духам сваім крывіцка-беларускім Язэпа Драздовіча сагнула доля ў шэсцьдзясят шэсць няпоўных гадоў. І пахварэў нядоўга. Памёр ён у 1954 годзе, спачувальна, без злосці прамовіўшы да сваіх землякоў: «Вы пра мяне яшчэ згадаеце...»

Праз тры гады пасля смерці мастака ўзляцеў на ваколземную арбіту першы штучны спадарожнік. Праз сем гадоў свет вітаў першага касманаўта — Юрыя Гагарына са Смаленшчыны. Праз дзевятнаццаць гадоў у космасе пабываў Пятро Клімук з

Берасцейшчыны. Праз дваццаць тры гады блакітнай зямлёй з касмічных вышыняў любаваўся Уладзімір Кавалёнак, які нарадзіўся на Меншчыне.

Усе яны па-свойму расказалі пра ўбачанае. А Клімук нават захапляльную кнігу «Зоры — побач» напісаў, падлеткі да гэтай пары зачытваюцца.

Але першыя аповеды пра космас беларусы пачулі ўсё ж ад Язэпа Драздовіча. І не толькі пачулі, але і пабачылі незямныя краявіды, што ў самнамбулічных снах уяўляліся мастаку. І таму ён назаўсёды застанецца для нас першаадкрывальнікам таямнічай касмічнай прасторы.

*2008*

# КУПАЛА ЯНКА І ЛАЯНКА

Праз якія выпрабаванні павінен прайсці пісьменнік, каб канчаткова і незваротна вытрымаць іспыт перад вечнасцю?

Праз агонь, ваду і медныя трубы — адкажаце вы. І што тут дадаць, калі ў гэтай біблейскай трыядзе насамрэч зашыфравана ўсё тое, што звычайна чакае творцу на калдобістай жыццёвай дарозе. З трох пералічаных выпрабаванняў найцяжэйшым лічацца медныя трубы — той хвалебны фіміям, ад якога шмат у каго закружылася галава, а сёй-той учадзеў ды перастаў адэкватна ўспрымаць свет.

Але ёсць яшчэ адно выпрабаванне, дадатковае, вытрымаць якое пісьменніку таксама няпроста. А магчыма, яно і найскладанейшае, бо — пасмяротнае. Праходзячы першыя тры, пісьменнік сам ці праз кагосьці можа паўплываць на сітуацыю, а вось пераадоленне чацвёртага ад яго цалкам не залежыць. Чацвёртае выпрабаванне — гэта поўны збор твораў. Калі ўдумацца, то ў гэтым ёсць нешта помслівае. Гэткая сабе помста няўдзячных нашчадкаў. Ах, цябе пры жыцці ўзвялічылі, табе помнікі скрозь паставілі? Зараз мы цябе трохі апусцім. Поўны збор твораў — адзін са спосабаў апусціць. Бо цягам цэлага жыцця не скажа нічога лішняга толькі нямы.

У гісторыі беларускай літаратуры пад падобную экзекуцыю падпалі пакуль толькі чацвёра — Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас і Максім Танк. Поўныя зборы твораў першых двух, куды ўвайшлі нават дарчыя надпісы на фотаздымках, ужо выйшлі, для двух апошніх гэты малапрыемны працэс яшчэ не закончыўся. Поўнымі зборамі твораў ганаруюцца (караюцца?) толькі вялікія. А з вялікіх і спыт асаблівы. Вось і шаноўны Ян Максімюк у сваім артыкуле «Цёмная камора белліту» на сайце радыё «Свабода» вырашыў зрэвізаваць Поўны збор твораў Янкі Купалы ў 10 кнігах. І выбраў для рэвізіі самы змрочны пяты том, які склалі вершы і паэмы паэта за дванаццаць апошніх гадоў — з 1930-га па 1942-гі. Менавіта ў ім змешчаныя, па вызначэнні Максімюка, «драўляныя вершы

пра хлопчыкаў і лётчыкаў ды тапельцаў у Вісле». А таксама паэма «Над ракой Арэсай», названая маім апанентам «гідотай». Ян Максімюк вывучаў гэты твор у вясковай школе на Падляшшы і да гэтай пары гідзіцца, я — у Дзярэчынскай СШ на Гарадзеншчыне, але ні тады, ні цяпер не гіджуся. «Крумкач глюгу звесіў / над згніўшай калодай, / прысніла Палессе / мінулыя годы», — з чаго ж тут гідзіцца?

Майго дзеда-хутаранца бізунамі (літаральна!) заганялі ў калгас, праўда, прапаноўвалі і альтэрнатыву — Калыму. Таму змест паэмы да мяне вельмі добра даходзіў, як і змест «Людзей на балоце» Івана Мележа. Ці існавалі калгасы на замежным Падляшшы? Ян Максімюк прызнаецца, што — не, і падзеі, апісаныя ў паэме «Над ракой Арэсай», успрымаліся ім не дужа ўцямна, як рэаліі жыцця на Марсе. Дык адкуль гэткая катэгарычнасць («гідота»!) адносна «іншапланетных» рэалій?

Я таксама не лічу згаданую паэму шэдэўрам. «Над ракой Арэсай» я б ніколі не ўключыў у выбранае Купалы, ёй месца — толькі ў ПЗТ. Але савецкая сістэма адукацыі акурат і базавалася на падобных творах. Яна мела на мэце дыскрэдытаваць нацыянальную літаратуру, каб вучні як мага хутчэй адчулі сябе часткай адзінай гістарычнай супольнасці — савецкага народа. Але ці ж варта твор Купалы, хай сабе і няўдалы, называць гідотай? Увогуле мяне здзіўляе, з якой лёгкасцю і безапеляцыйнасцю Ян Максімюк выносіць свае прысуды. Ну, напрыклад: «Купалу зламалі не толькі як паэта і як сімвал нацыянальнага духу, але і зрабілі апалагетам сістэмы, якая ў сваіх метастазах трывае ў Беларусі і па сённяшні дзень».

Па-першае, некарэктна параўноўваць сталінізм і сённяшні палітычны лад у Беларусі. Гэта ўсё ж не з аднаго поля ягады. Па-другое, калі б Купала быў апалагетам сталінскай сістэмы, яго не цягалі б на начныя допыты ў ГПУ, ён не рабіў бы сабе харакіры, а яго кнігу «Творы» ў 1930-м не парэзалі б на макулатуру. Урэшце, у 1942 годзе таварыш Айзік Кучар не напісаў бы санкцыяваны зверху хлуслівы данос у адпаведныя інстанцыі, што фашысты ў акупаваным Менску назвалі вуліцу імем Купалы, пасля чаго паэта скінулі ў лесвічны пралёт гасцініцы

«Масква» (была ж прычына!). Са сваімі апалагетамі сістэма так не абыходзілася.

Прызнаюся, мяне проста шакуюць сваёй паказной бравадай «парады» Яна Максімюка Купалу: мог жа дзеля ўратавання свайго імя падацца ў эміграцыю, «мог сказаць бальшавікам “не” і ўпасці ў дол у Курапатах», «мог бы напісаць нешта, што праслізнула б праз сетку бальшавіцкай цэнзуры і засталося б нам у спадчыну як сімвал нескаронасці духу перад дулам пісталета».

А хіба перадсмяротны ліст Купалы не ёсць гэтае «нешта»? «Уміраю, прымаючы тое, што лепей смерць фізічная, чымся незаслужаная смерць палітычная. Відаць, такая доля паэтаў. Павесіўся Ясенін, застрэліўся Маякоўскі, ну і мне туды за імі дарога...» Ці многа ў сусветнай літаратуры падобных дакументаў? Якіх жа яшчэ «сімвалаў нескаронасці» нам трэба?

У свой час, агледзеўшы экспазіцыю Купалаўскага музея, у сутнасці сваёй — ардэнаносна-савецкую, я напісаў верш, у якім былі такія радкі:

Вось Купалу машына вязе,
Вось Купала заняты гаворкаю.
Вось Купала стаіць у чарзе —
Не па хлеб, па аўтограф да Горкага.
Вось Купала ў прэзідыўме зноў ж
Разам з іншымі дбае аб міры...
Пакладзіце ля ордэна нож,
Што зрабіў песняру харакіры!

Нож поруч з ордэнам у экспазіцыю і па сённяшні дзень не паклалі. Як не паклалі і перадсмяротны ліст паэта на імя старшыні ЦВК Аляксандра Чарвякова. А каб паклалі? Як гэтыя экспанаты ўжываліся б з ордэнам Леніна? Нешта давялося б прыбраць. Я прыбраў бы ордэн...

Ці выратавала б Купалу эміграцыя? Сумняваюся. Вось жа Ларысу Геніюш і эміграцыя не ўратавала. З другога боку, як тая эміграцыя мусіла выглядаць? Купала на ўласным «шаўрале» пад’язджае да «Негарэльскае аркі», яму казыраюць пamежнікі,

а начальнік пагранзаставы становіцца на зважай? Такую карціну ўявіць немагчыма, можна толькі напісаць — «маслом». Посным. Бо іншым ніяк не атрымліваецца.

Што да знакамітага «шаўрале», якое часам таксама выступае ў якасці аргумента... Аднойчы ў Ляўках, пабачыўшы лецішча Купалы і гараж з тым самым аўто, я пацікавіўся ў музейнага наглядчыка: а што гэта за дамок проста перад ганкам паэта? А ў ім жыў Купалаў шафёр — патлумачыў наглядчык...

А цяпер давайце пачытаем ліст Купалы да сябра Б. Емяльянава, пісаны 8 траўня 1942 года ў Пячышчах пад Казанню: «Шафёр Яртымік у мяне больш не працуе, пачаў хаміць — ажно да асабістых абразаў». Ці магчыма ўявіць сабе звычайнага шафёра, які абражае таго, каго возіць — па даручэнні ўраду? Немагчыма. Значыць, шафёр, які меў дамок-вартоўню пры паэтавым лецішчы, быў не зусім звычайны. Да забойства Купалы заставалася менш за два месяцы, пра тое таварыш Яртымік ведаў, вось і «адвязаўся». Старэйшыя пісьменнікі прыгадвалі: калі той шафёр памёр, дык хавалі яго з ротай ганаровай варты. Купалу так не хавалі. Так што тое разрэкламаванае «шаўрале» было насамрэч «чорным воранам», які і прывёз урэшце Купалу да пагібелі.

Аўто, дарэчы, нядаўна выстаўлялі пры музеі на ўсенародны паказ. Цэлы натоўп вакол сабраўся, карэспандэнту БТ было дазволена залезці ў кабіну, каб «карцінкай» пацвердзіць клопат савецкай дзяржавы пра народнага песняра. Вось на што агідна было глядзець. Якая там рака Арэса... «А па рэчцы па Арэсе / бегае маторка, / стары човен, як карыта, / пазірае горка». Эх, каб сеў Купала ў тую маторку, ды па Арэсе — у Прыпяць, а па Прыпяці — у Буг, а па Бугу — у Віслу, па якой плаваў тапелец, а па Вісле — яшчэ куды далей і далей... Наталля Арсеннева заплыла ажно за Атлантычны акіян, у ЗША. І што — уратавала імя? «Люблю цябе, Сталін, і я невымоўна», — гучыць аднекуль, мабыць з «цёмнай каморы белліту», яе даваенны верш.

А следам, з гэткай жа цёмнай каморы, гучаць радкі Ганны Ахматавай: «И благодарного народа / Вождь слышит голос: “Мы пришли / сказать: где Сталин, там свобода, / мир и величие земли”».

А следам «цёмная камора» азываецца голасам Восіпа Мандэльштама: «И на земле, что избежит тленья, / будет будить разум и жизнь Сталин».

А следам ужо чуваць цэлы хор прасталінскай паэтычнай патэтыкі — Мікалай Забалоцкі, Барыс Пастарнак, Яраслаў Сайфэрт, Пабла Нэруда... Ахматава, каб ўратаваць з ГУЛага сына, напісала і надрукавала цэлы зборнік прасавецкіх вершаў з вельмі красамоўнай назвай «Слава міру». Народнаму паэту Беларусі Янку Купалу таксама было што і каго ратаваць, і ён выдатна ведаў, чым можа абярнуцца ягонае непадпарадкаванне, ягоны бунт.

Чаму ж сёння ў Расіі не пабіваюць камянямі тую ж Ахматаву, а захапляюцца яе «Рэквіемам»? Чаму там не прывязваюць да ганебнага слупа Мандэльштама, Забалоцкага і Пастарнака? І чаму ў Беларусі стала ледзь не модным звінавачваць Купалу ў «здрадзе літаратуры», называць яго Каянам Лупакам ды папікаць савецкім ордэнам, лецішчам і персанальным «шаўрале»?

«Як чалавека, Купалу можна і трэба апраўдваць. Як прароку і паэту, яму няма даравання», — з уласцівай яму катэгарычнасцю заяўляе Ян Максімюк. Рыхтык пракурор на судзе. Усім крытыкам з пракурорскімі замашкамі я мог бы назваць дзясятак-другі геніяльных твораў Купалы, пачынаючы з паэмы «Курган», якой адной хопіць для любога апраўдання, але замест гэтага нагадаю адну старазапаветную прыпавесць. Хам, сын Ноя, пабачыў на спячым пасля выпіўкі бацьку непрыкрыты сорам і пачаў пад'юджваць братоў Сіма і Яфета на здзек са старога. Але тыя далікатна паправілі бацькава адзенне і прысаромілі Хама. У свой час гэтую прыпавесць трапна пракаментаваў Антон Паўлавіч Чэхаў: «Хам заўважыў толькі, што бацька ягоны — п'яніца, і зусім забыўся пра тое, што ён пабудаваў каўчэг і выратаваў свет».

Янка Купала таксама пабудаваў для нас каўчэг. Разам з Якубам Коласам, Максімам Багдановічам, Алесем Гаруном, Максімам Гарэцкім. Каўчэг новай беларускай літаратуры. Дык ці выпадае нам сёння прыпадабняцца да таго Хама, якому так хацелася паздзекавацца з бацькі?

Пра горы мяркуюць па вяршынях. А пра вялікіх пісьменнікаў — па іхніх шэдэўральных творах. Не варта залазіць у «цёмныя каморы» поўных збораў твораў і выцягваць адтуль на белы свет нештачка такое, што выклікае ў сённяшніх літаратурных гурманаў эстэтычнае ці любое іншае несмакоцце. Тым болей, не трэба трагедыю ператвараць у фарс.

І апошняе. Янка Купала — псеўданім Яна Луцэвіча, сына Дамініка. Можна сказаць Ян Луцэвіч, а можна — Луцэвіч Ян, ад гэтага нічога не зменіцца. Але паводле гетэранімічных нормаў і здаровага сэнсу нельга перастаўляць месцамі склады і словы ў псеўданіме. Бо калі мы замест звыклага Янка Купала гаворым Купала Янка, чуецца — лаянка. Давайце не будзем лаяцца.

*2011*

# УКРАІНСКІ ФРОНТ БЫКАВА

«Васіль Быкаў быў баец. Вайна яго так і не пакінула ў спакоі», — роздумна гаворыць Юры Мушкетык. З адным са старэйшых ва Украіне пісьменнікаў мы сядзім у гатэлі «Дніпро» ў Чаркасах, дзе праходзіць міжнародны паэтычны фестываль, прысвечаны 200-м угодкам Тараса Шаўчэнкі. Толькі што вярнуліся з Халоднага Яра, дзе Юры Міхайлавіч у свае восемдзесят пяць пад спякотным сонцам з паўгадзіны натхнёна расказваў пра антыбальшавіцкую Халаднаярскую рэспубліку, якая за кароткі час змагла паставіць «пад ружжо» 15 тысячаў змагароў. Пасля яркіх сонечна-сланечнікавых краявідаў хочацца пабыць у паўзмроку, у нумары не гарыць святло. Прыцьмела і зорка Героя Украіны на грудзях майго суразмоўцы.

Быкава мы прыгадалі з тае прычыны, што праз нейкую сотню кіламетраў на поўдзень — Кіраваградчына, дзе ён ваяваў і адкуль у вёску Бычкі на Віцебшчыне ў 1944 годзе прыйшла «пахаронка». У пасёлку Вялікая Севярынка да гэтай пары стаіць помнік загінулым, на якім сярод іншых пазначана і прозвішча Быкава, а ў мясцовай школе створаны невялікі Быкаўскі музей, якім апякуецца былая настаўніца Лізавета Сергіенка.

Раней я думаў, што ў выпадку з «пахаронкай» штабісты нешта наблыталі ў ваеннай неразбярысе. Але нядаўна даследчык Сяргей Шапран апублікаваў архіўны дакумент — спіс загінулых у тым жорсткім баі пад Вялікай Севярынкай. Дык там усё па-ваеннаму коратка і ясна: камандзір стралковага ўзвода лейтэнант Васіль Уладзіміравіч Быкаў загінуў 10 студзеня 1944 года, паведаміць бацьку... І пячатка з подпісамі камандзіра і начштаба палка — капітана Перапёлкіна і маёра Марозава.

Сам Быкаў у «Доўгай дарозе дадому» прыводзіў дзве версіі свае «гібелі». Цікаўных адсылаю да гэтай кнігі, без якое шмат што ў быкаўскім жыццяпісе зразумець складана. Зрэшты, у лёсе геніяў выпадковасцяў не бывае. Нейкі знак звыш быў і ёсць і ў той даўняй «пахаронцы», і ў тым помніку на Кіраваградчыне, на якім так і засталося прозвішча пісьменніка.

Здаецца, ён і не прасіў нікога, каб спіс той падкарэктавалі, не бачыў у тым праблемы. Можа, верыў у народную прыкмету, паводле якой пахаваны пры жыцці мусіць жыць доўга.

Раптоўна, як нейкая палёгка, да нас з Мушкетыкам прыходзіць выснова, што Быкаў загінуў за Украіну. Хай сабе і сімвалічна. Не за неабсяжную «родину», а менавіта за Украіну. Бо за спіной лейтэнанта Быкава быў украінскі стэп, была Вялікая Севярынка, якую штурмавалі нямецкія танкі. Канкрэтна ён абараняў менавіта лапік украінскай зямлі, а не прасторы і хімеры савецкай імперыі. Самы галоўны ваенны фронт Быкава быў усё ж украінскім.

Мушкетык са шкадаваннем прызнаецца, што не ведае новай прозы Быкава, ягоных прыпавесцяў. А яны, тыя прыпавесці, ляжаць у маім нумары на стале! Ды яшчэ па-ўкраінску. У перакладзе Дзмітра Шчарбіны з Крывога Рога. Кніжку я прыхапіў з сабой са спадзевам, што ў чарадзе святочных імпрэзаў знойдзецца акно, знойдуцца яшчэ ахвотнікі, і мы з'ездзім у тую Вялікую Севярынку. Нейкая сотня кіламетраў... На жаль, не знайшлося ні акна, ні ахвотнікаў.

Але кніжка ўсё ж нездарма прыехала ва Украіну. Неўзабаве Юры Мушкетык ужо разглядае, узважвае яе на далоні. «Василь Биков. Байки світові. Передне слово — Ігор Ольшевський, перекладач Дмитро Щербина, видавництво "Янтар", книжку надруковано в кількісті 60 нумерованих примірників...»

Мушкетыку ажно не верыцца, што Быкава зусім нядаўна выдалі ў Луганску, які стаў адным з цэнтраў сепаратызму, вакол якога ідуць поўнамаштабныя ваенныя дзеянні з выкарыстаннем баявых самалётаў і танкаў.

Атрымалася — Быкаў нібы ізноў змабілізаваны на ўкраінскі фронт. У Другую сусветную ў ягоным распараджэнні быў узвод. На гэтай вайне ягоныя салдаты, ягоная нацыянальная гвардыя — 60 кніжак. Дзе яны служаць сёння? У бібліяфільскіх калекцыях, на якія праз патрушчанае шкло стэлажоў вогненна дыхнула вайна? Ці ў вайсковых заплечніках тых луганцаў, якія змагаюцца за адзіную і непадзельную Украіну? А можа, «Байки світові» гартае цяпер, прысеўшы ў акопе, якінебудзь маладзён, які ўпершыню знаёміцца з творчасцю Васіля

Быкава. На вайне чытачы таксама трапляюцца. Памятаеце радавога Фішара з «Жураўлінага крыку»?

Юры Мушкетык шматкроць сустракаўся з Быкавым, калі быў старшынёй украінскага Саюза пісьменнікаў. Добра ведае ранейшую творчасць свайго амаль раўналетка, лічыць яе актуальнай да сканчэння веку («Сотнікаў» — твор на вечную тэму»). А ці актуальныя быкаўскія прыпавесці? Я раю свайму суразмоўцу прачытаць «Насарогі ідуць» — пра тое, як адно племя трапіла пад прыгнёт другога, больш магутнага, якое адбірала ў сваіх суседзяў зямлю, брала ў палон людзей. Прычым зямлю захоплівала паступова, па частках. І паланяла таксама не ўсіх адразу — спачатку забірала, як выкуп, самых прыгожых дзяўчатаў. Племя насарогаў дзейнічала нахабна, парушаючы ўсе дамовы, аж пакуль не натыкнулася на адчайны, самаахвярны адпор...

Юры Міхайлавіч чытае «Насарогаў» услых, хваліць майстэрства перакладчыка. А я пра яго што магу сказаць? Ведаю, што Дзмітро Шчарбіна — карэнны крыварожац, які ніколі не быў у Беларусі. Мову беларускую вывучыў, чытаючы «Слова пра паход Ігаравы» і «Вожык» ды слухаючы радыё «Свабода». Перакладаць з беларускай мовы на ўкраінскую і наадварот пачаў гадоў сем таму — пунктам адліку тут прыпавесць Быкава «Тры словы нямых», надрукаваная ў кіеўскім часопісе «Всесвіт».

Свае пераклады з Рыгора Барадуліна, Ліны Кастэнкі, Анатоля Вярцінскага, Рыгора Крушыны, Уладзімера Някляева Дзмітро публікуе на сваёй старонцы ў сеціве: http://dmytrosherbyna.blogspot.com. Пазнаёміліся мы з ім завочна, праз фэйсбук, год таму. І з тае пары я не перастаю захапляцца яго перакладчыцкім талентам, яго літаратурным густам, яго адчуваннем нашай мовы (калі браць пад увагу адсутнасць спецыяльнай адукацыі).

Дзмітро з маленства мае сур'ёзныя праблемы са зрокам, лекары забараняюць яму праседжваць за кнігай ці камп'ютарам, а ён усё роўна чытае, перакладае і папулярызуе ва Украіне беларускую літаратуру, увядомлівае ў байнэце ўкраінскую. Самахвярнік, якія цяпер сустракаюцца надзвычай рэдка.

Адны перакладчыкі пільнуюцца літары, другія — стараюцца захаваць дух твора. Дзмітро Шчарбіна ў сваіх перакладах з Быкава здолеў дапільнаваць і літару, і дух — быкаўска-беларускі. У працэсе перакладу да кожнага сумнеўнага слова ён падбірае цэлы ружанец сінонімаў, і гэта так нязвыкла ў нашым паспешлівым свеце.

Развітаўшыся з Юрыем Мушкетыкам, я выходжу на балкон сцішэлага ўжо гатэля і думаю пра ўкраінскі складнік у лёсе Быкава. Украіна прызвала яго, учарашняга навучэнца Віцебскай мастацкай вучэльні, на Другую сусветную. Украіна яго «пахавала», як героя, ушанавала помнікам. Ва Украіне быў створаны першы музей Быкава. Украінка Ларыса Шапіцька зняла самы вядомы ў свеце фільм паводле Быкава — «Узыходжанне». Восем з шаснаццаці быкаўскіх аповесцяў перакладзеныя на ўкраінскую мову. І сёння Украіна выдае Быкава, прычым не ў зацішным Львове, а ў памежным зрусіфікаваным Луганску, на перадавой новай вайны. А значыць, «баец Быкаў» зноў атрымаў позву на ўкраінскі фронт, як некалі ў сорак першым. Бо — насарогі ідуць...

*2014*

# ДУДАР, ЯКОГА СЛУХАЛА НЕБА

Па Беларусі найлепш падарожнічаць пад песні гурта «Камелот» — у гэтым я неаднойчы пераконваўся сам і пераконваў сваіх сяброў па вандроўках. Зрэшты, сяброў агітаваць доўга не даводзілася — звычайна пасля дзвюх-трох песняў яны дружна цікавіліся, дзе можна набыць камелотаўскі дыск. Як жа дарэчна гучалі тыя песні пад сценамі Мірскага, Наваградскага і Крэўскага замкаў, на беразе Свіцязі і Кромані, на бясконцых беларускіх бальшаках! Плэер ставіўся на паўтор, і неўзабаве чарговы экіпаж машыны баявой чатырма-пяццю галасамі заглушаў аўтадынамікі:

Хай паказыча нам горла
Каралеўскі напой!
Хай давядзе, што не ўмёрла
Наша справа з табой!
Весялей, браце мой,
Гэй, браце мой...

Песні для «Камелота» пісаў Зміцер Сідаровіч — мой даўні сябра, першы ў маім жыцці тэхнар з беларускім светапоглядам. Навіной пра ягоную раптоўную смерць у сорак восем гадоў я быў літаральна агаломшаны, вярнуўшыся з Украіны, з 200-годдзя Шаўчэнкі. У Кіеве мы са Змітром і пазнаёміліся — у яшчэ савецкім 1987-м. Тады таксама трываў травень, і каштаны на сонечным Храшчаціку ўздымалі свае белыя свечкі.

Зміцер быў і жнец, і швец, і на дудзе ігрэц. Ён сапраўды належаў да рэдкага роду мультымастакоў. Ён пісаў вершы, прыдумваў мелодыі і выконваў уласныя песні. Ён граў на гітары і на дудзе. Ён мог навучыць вас танцаваць падыспань. Ён умеў адрозніць аўтэнтычны фальклор ад прафесійных падробак.

Можна было падумаць, што Зміцер закончыў Акадэмію мастацтваў (прычым адразу некалькі аддзяленняў), філфак універсітэта і харэаграфічную навучальню. А ён — выпускнік

будаўнічага факультэта політэхнічнага інстытута, дзе, дарэчы, дыплом абараняў па-беларуску. І было гэта амаль трыццаць гадоў таму, калі айчынная палітэхніка з роднай мовай амаль не зналася. А да інстытута Зміцер Сідаровіч, карэнны мянчук, закончыў 121-ю сталічную школу, звычайную, без «ухілаў».

Ухіл быў у ім самім — любоў да беларускай старасвеччыны, да нацыянальнага меласу, да бардаўскай песні. І калі з менскіх сцэнаў загучаў гурт «Камелот», творчым рухавіком якога стаў Зміцер, здалося — гэта пачуліся галасы сярэднявечных ваяроў, якія, ідучы на Грунвальд, прысядалі за стол у карчомцы дзе-небудзь пад Наваградкам ці Крэвам.

Я перакананы: нягледзячы на кароткі час свайго існавання (1991–1996), «Камелот» ужо застаўся ў гісторыі беларускай музычнай культуры. Песні з ягонага альбома «У краіне талераў» мне даводзілася чуць і на глухім лясным хутары пад Ракавам, і ў аўто на вуліцах Львова, і ў кватэры прафесара Варшаўскага ўніверсітэта. Мой сын Вячка, ледзь-ледзь навучыўшыся хадзіць, адважна пайшоў у скокі, як толькі пад акампанемент бубна пачуліся словы: «А дзе ж тыя ваяры, што са мной хадзілі ў Крым»...

Добра, што «Камелот» прагучаў своечасова. На світанку нашай незалежнасці былі патрэбныя якраз такія песні — ваярскія, мужныя, якія б выхоўвалі сапраўдных абаронцаў Айчыны. Нездарма ў шматспадзеўныя 20-я гады мінулага стагоддзя Янка Купала палічыў сваім абавязкам напісаць нізку ваяцкіх, маршавых песняў.

Шкада, што «Камелот» так хутка распаўся, бо наша адраджэнне зацягнулася, і патрэба ў духаўздымных песнях з акцэнтацыяй на айчынную гісторыю засталася. Асабліва пераконваешся ў гэтым, калі трапляеш у Беларусі на чарговы рыцарскі фэст, дзе маладзёны ў даспехах размаўляюць па-расійску — на мове краіны, у якой тых рыцараў спакон вякоў не было.

«Камелот» распаўся, але Зміцер Сідаровіч і без сяброўпаплечнікаў не апусціў рукі. Ён ахвотна адгукаўся на прыяцельскія запросіны выступіць з камелотаўскім рэпертуарам. Сплаўляўся на байдарках па Вяллі, ехаў у падбеластоцкі Гарадок на «Басовішча», у Крынічнае над Нёманам на

Брылёўскія чытанні, у Зэльву на прэзентацыю новай кнігі Ларысы Геніюш, у Гарошкаў на песенны фестываль памяці Анатоля Сыса, у Сынкавічы на фэст хрысціянскай паэзіі... І паўсюль з ім былі дуда і гітара.

У Крынічным я паказаў сябру цуд прыроды — ладнаватую бярозу, якая вырасла проста на дубовым пні. Стаяла як на пастаменце, нібы сімвалізуючы паяднаную красу і сілу. Зміцер агледзеў той «бярозадуб» з усіх бакоў і сур'ёзна заўважыў, што ў любой справе найгалоўнае — добры падмурак.

Надзейным падмуркам для яго самога была гісторыя — пераважна Вялікае Княства, у якое ён, як аднойчы прызнаўся, згодны быў перасяліцца назаўжды. Зміцер пакінуў нам песні пра Бітву пад Воршай, пра славутага Тадэвуша Рэйтана, пра мрою ўсіх ліцвінскіх дзяўчатаў — пана Скіргайлу, песні, у якіх — рыцарская вернасць Радзіме і каханай, весялосць і кемлівасць нашых далёкіх продкаў, якія ведалі смак жыцця. Нездарма галоўным музычным інструментам для Змітра стала дуда, гісторыя якой на беларускіх землях налічвае больш за чатырыста гадоў!

О, пра дуду ён мог расказваць бясконца, быццам праводзіў экскурсію па старасвецкім музеі. Расказваў і паказваў, як дзейнічаюць усе тыя бурдоны і пішчыкі, з якой скуры вырабляецца мех, у чым адрозненне шатландскіх дудаў ад беларускіх.

Памятаю, выступалі мы разам у Мазыры, у гімназіі. Без лішняга розгаласу... І розгаласу не было, пакуль Зміцер не ўзяў у рукі дуду. Праз пяць хвілінаў у актавую залу збеглася ўся гімназія ўлучна з кухаркамі са сталоўкі і рамонтнікамі-страхарамі, якія мянялі шыфер на даху. Усе тады пабачылі дуду, якая грала, упершыню. Не выключана, што дуда прыцягнула ўвагу і мясцовых ідэолагаў, чаго дырэктар гімназіі, непалахлівы ўвогуле чалавек, трохі асцерагаўся.

Дудар ад Бога, Зміцер Сідаровіч ахвотна браўся і за гітару. І як бард таксама ўмеў зацікавіць слухачоў, асабліва моладзь. Найбольш ёй падабалася песня «Ясна панна мая», якую Зміцер выконваў проста віртуозна. Рэч у тым, што прыпеў тае песні спяваўся скорагаворкай, і я заўсёды перажываў за сябра, каб не збіўся. Не збіўся ні разу. Слухачы забываліся пра

ўсё на свеце і здзіўляліся, як можна за дзесяць секундаў (я неяк захранаметраваў) так незвычайна прызнацца ў каханні. Вось як гучаў той прыпеў (косак адмыслова не стаўлю — выканаўца не дазваляў сабе аніводнай паўзы, як толькі паветра ў лёгкіх хапала):

Горы рассыплюцца ў порах
Сонца закрыецца чорным
Зоры сарвуцца з нябёсаў
Буду я голы і босы
Знікнуць гады як хвіліны
Рознае стане адзіным
Золатам зробіцца смецце
Ўсё памяняецца ў свеце
Толькі не знікае
Будзе ў сэрцы гэта песня
Наша зорка зноў заззяе
Наша сонца уваскрэсне!

Перачытваю адзіную кніжку Змітра Сідаровіча «Тры жалуды» (2007), якую выпала рэдагаваць. На ёй — сяброўскі размашысты аўтограф «за тытанічную працу»... Праца не была тытанічнай. Бо як ты будзеш рэдагаваць песню, якую спяваюць, якая жыве ў народзе? Спеў не заўсёды падуладны законам граматыкі. Вершамі-песнямі з тае кніжкі можна прызнавацца ў каханні. З імі смялей выходзіць на бой і прыемней бавіць час у вясёлай сябрыне. Любячы і спяваючы іх, шмат хто лічыў Сідаровіча музыкам-прафесіяналам. А ён працаваў ва ўстанове, назву якой з першага разу і не вымавіш, — «Белпраектстальканструкцыя». Канструяваў рэтрансляцыйныя вежы. І пісаў рыцарскія балады.

Калі рыхтавалі тыя «Тры жалуды» да друку, я папрасіў аўтара даслаць як мага больш падрабязную біяграфію. Як зазвычай бывае — аўтар складае свой жыццяпіс, рэдактар рэдагуе і скарачае. Тым разам скарачаць нічога не давялося. Сябра даслаў «падрабязную біяграфію» ў такім выглядзе: «Зміцер Сідаровіч нарадзіўся ў 1965 годзе ў Менску. Дудар. Збірае

фальклор». І ўсё. Нават сваю навуковую кандыдацкую ступень не палічыў патрэбным прыгадаць. Так у кніжцы і выйшла.

Апошнім часам ён жыў самотнікам. Сваю аднапакаёўку на дзевятнаццатым паверсе па вуліцы Каліноўскага аздобіў насценнымі камянямі, як старажытны замак. Па вечаровых позніх званках было зразумела, што самоты тае ён у любую хвіліну гатовы пазбавіцца. Дуда і гітара заўсёды былі пад рукой. Аднойчы я спытаўся, зірнуўшы з акна на далёкую ўнізе вуліцу і блізкія хмары: каму ты тут граеш, калі застаешся надоўга адзін? І Зміцер без ценю ўсмешкі адказаў:

– Небу.

— І слухае?

— Гэта самы лепшы слухач...

Цяпер ён грацьме там. І калі мы, чарговым разам настрашаныя пра хуткі канец свету, раптам пачуем адкульсці звысоку зыкі, падобныя на голас архангельскае трубы, то не спяшаймася ставіць апошнюю кропку. Магчыма, гэта гучыць для нас дуда Змітра Сідаровіча. Дудара, якога слухала і слухае неба.

*2014*

# МАЦАК АД ДАМАШЭВІЧА, альбо НАЦЫЯНАЛІСТ У КУБЕ

Тою вясною, акурат перад Вялікаднем я атрымаў на пошце бандэроль з Гародні — ад Дануты Бічэль. Са шчыльнай пакоўкі вылузнуліся два асобнікі яе новай кнігі «Правінцыя святога Францішка». Адзін я мусіў пакінуць сабе, а другі — адвезці Уладзіміру Дамашэвічу. Два дні датэлефаноўваўся і, пачуўшы нарэшце ў слухаўцы слабы голас, зразумеў, што гэта якраз той выпадак, калі адклад не ідзе ў лад.

У дзверы званіў таксама доўга. Гаспадар кватэры выглядаў зблажэлым, рухаўся марудна, накульгваючы, праз кожныя тры крокі прыпыняючыся. З гадзіну мы прагаварылі, ён не хацеў адпускаць мяне, чамусьці павёў па ўсёй прасторнай, даўно не прыбіранай кватэры. На пісьмовым стале перабраў стосік запыленых кніг і нечакана ўзяўся расхвальваць раман-эсэ «Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае» Алега Лойкі.

Найдаўжэй мы прыпыніліся каля стэлажоў, на якіх, шчыльна пашыхтаваўшыся, стаялі сотні сшыткаў з узорамі велікодных пісанак. Калекцыя засталася пасля нябожчыцы-жонкі, якая ў мастацтве роспісу тых пісанак папросту не мела сабе роўных. Стварыла больш за 250 000 (!) непаўторных узораў — і ўсе ў беларускай традыцыі, у адпаведных колеравых гамах. Нейкі замежны музей хацеў набыць калекцыю, але мастачка не згадзілася. І вось пыляцца тыя пісанкі, не патрэбныя нікому...

У калідоры вісеў ці не пазалеташні насценны каляндар. «Дык цяпер жа і няма іх, беларускіх», — неяк змірэнна прамовіў Уладзімір Максімавіч. Я паабяцаў неўзабаве прывезці — свежы, беларускі, паэтычна-міфалагічны — з Барадулінным-Дамавіком, Бураўкіным-Баем, Вярцінскім-Жыценем...

На развітанне Уладзімір Дамашэвіч прынёс з кухні і літаральна ўпіхнуў мне ў кішэню чырвонае яйка. Сказаў — традыцыя, валачобнае, і адмаўляцца нельга.

Паехаўшы назаўтра на Зэльвеншчыну, я тым Дамашэвічавым чырвоным яйкам на дзіва ўсім размалаціў біткі братоў, швагерак і пляменнікаў. Аказалася, Уладзімір Максімавіч узычыў мне сапраўднага мацака! Ажно шкада было яго на закусь пускаць...

Дамашэвіч і сам быў як той мацак. З выгляду далёка не асілак, сіла ягоная была не ў цягліцах, а ў душы. Здавалася, яго трымала і не дазваляла згінацца нейкая здаровая беларуская сарцавіна. Міналі дзесяцігоддзі, а сарцавіна тая ніякага шашалю не баялася, толькі мацнела.

Змагацца за беларушчыну Уладзімір Дамашэвіч вучыўся з маленства. Меў за прыклад роднага дзядзьку, якога польскія ўлады як «upartego Białorusina» кінулі ў турму. Савецкая ўлада ў 1939-м нібы выпусціла на волю, як аказалася — дужа кароткачасовую. Словам, дзядзька на ўласнай скуры спазнаў праклён міжваеннага часу: каб цябе дэфензіва пасадзіла, а НКВД вызваліла...

Пляменнік наўслед дзядзьку за беларушчыну ў турму і ГУЛаг, на шчасце, не трапіў, хоць цемрашалам прыўладным заўсёды гаварыў праўду ў вочы. Беларуская сэрцавіна не дазваляла шапкаваць і дзякаваць за клопат партыі, як тое рабілі аблаўрэачаныя калегі-пісьменнікі, пабліскваючы з трыбунаў зоркамі герояў. Дамашэвіч лаўрэатам не быў. Ён быў упартым беларусам. Як дзядзька.

Беларуская сарцавіна не давала яму зламацца ў гэтак званым Галоўліце, дзе ён бараніў ад цэнзуры аповесць Васіля Быкава «Жураўлінны крык». Рэдактар-абаронца — ці многа мы такіх ведаем? Ціхмяны, нешматслоўны і, здавалася, пастаўлены на месца Дамашэвіч вяртаўся з Галоўліта ў выдавецтва, падпісваў крамольную аповесць у друк і, не чакаючы, пакуль яна сустрэнецца з варштатам Скарыны, пісаў артыкул у падтрымку аўтара. Да канца сваіх дзён Быкаў успамінаў удзячным словам свайго рэдактара-абаронцу.

Беларуская сарцавіна спружыніла ў ім напорнай сілай кожнага разу, калі хтосьці замахваўся на беларушчыну ці беларусаў, калі пад пагрозай апынаўся нацыянальны гонар. Так Уладзімір Дамашэвіч адным з першых выступіў у абарону

моладзі, збітай «афганцамі» ў Траецкім прадмесці ў красавіку 1986-га. Увогуле, ён любіў маладых, апекаваўся імі. Быў заснавальнікам фонду дзеля іх падтрымкі, які ў няпросты час праіснаваў гадоў пяць і дапамог многім пачаткоўцам.

Беларуская сарцавіна не давала яму адседжвацца ў зацішным кутку на пісьменніцкіх пленумах і з'ездах. Вострыя дамашэвічаўскія выступы перадрукоўваў нью-ёркскі «Беларус», яны неаднойчы гучалі па радыё «Свабода». На тых пісьменніцкіх форумах, як правіла, чыталіся даклады пра дасягненні, падлічвалася колькасць выдадзеных за пяцігодку «мнагатомных, мнагатонных і манатонных эпапей». Выходзіў на трыбуну Уладзімір Дамашэвіч і ціхім голасам праўды заглушаў звон фанфараў.

Вось некалькі вытрымак з ягонага выступу на IX з'ездзе Саюза пісьменнікаў БССР у 1986 годзе: «На нашых вачах робяцца справы, за якія нас нашы нашчадкі праклянуць... Мы сваімі рукамі робім нацыянальную пустэльню... Мы без бою аддаем тое багацце, якое нашы продкі збіралі па каліўцу, па макулінцы, зберагалі ад чужынцаў, за якое паміралі сотнямі і тысячамі, за якое ішлі на катаргу і шыбеніцу».

Тады яшчэ на пісьменніцкія з'езды прыходзіла ўлада — сакратары ЦК КПБ, міністры, і Дамашэвічу было да каго звяртацца. Ён і звяртаўся — сакратарам, відаць, аж млосна рабілася: «Калі я гавару дома, на рабоце, на вуліцы, у краме па-беларуску — мяне называюць нацыяналістам. Калі я хачу, каб на роднай мове гаварылі ўсе беларусы, што жывуць у рэспубліцы, то я — нацыяналіст у квадраце. А калі, Божа барані, я хачу, каб па-беларуску навучыліся гаварыць усе, хто прыехаў да нас і даўно жыве ў Беларусі, то я — нацыяналіст у кубе».

Я добра памятаю, як «нацыяналіст у кубе» павярнуўся да прыціхлага прэзідыума і закончыў свой выступ з цвёрдасцю Каліноўскага на лукішкаўскім эшафоце: «Калі за беларускую мову будуць запісваць у чаргу на расстрэл ці ў турму — запішыце мяне першым!» Не, усё ж нездарма ўлюбёным дэвізам Дамашэвіча быў паўстанцкі пароль: «Каго любіш? — Люблю Беларусь! — Дык узаемна».

Зразумела, што цэкоўскія сакратары пасля такіх выступаў рабілі пэўныя «аргвывады». Неяк я ў Нацыянальнай бібліятэцы зняў з паліцы свежы нумар «Маладосці» і натыкнуўся там на дзённікі Уладзіміра Дамашэвіча. Адзін з запісаў, датаваны жніўнем 1987 года, пачынаўся так: «Сёння занёс у выдавецтва “Мастацкая літаратура” раман, напісаны 18 гадоў таму». Маецца на ўвазе «Камень з гары», які ў выдавецтве праляжаў яшчэ два гады і праз два дзесяцігоддзі пасля напісання нарэшце выйшаў у свет. Падобнае дадрукарскае выпрабаванне часам (таксама дваццаць гадоў) выпала хіба раману «Леаніды не вернуцца да зямлі» Уладзіміра Караткевіча. Дарэчы, маладога і задзірыстага празаіка Караткевіча ставіў на крыло таксама Дамашэвіч і нават падказаў назву для яго першай кнігі — «Блакіт і золата дня».

Сёння ўжо мала хто з менчукоў згадае, як некалькі гадоў пасля адкрыцця сталічнага метро па-беларуску рабіліся абвесткі толькі на адной станцыі — імя Якуба Коласа. І як менавіта Уладзімір Дамашэвіч першым пачаў «біць у звона» — дамагацца поўнай беларусізацыі метрапалітэна. І дамогся.

Я часта сустракаў яго на незалежніцкіх мітынгах. У сваёй нязменнай берэтцы з Пагоняй ён звычайна стаяў дзе-небудзь збоку, ніколі не пяўся да мікрафона, не ўсчынаў дыскусій у натоўпе. Але па ягоным рашучым позірку было відно — ён па-ранейшаму гатовы за беларушчыну хоць у турму, хоць пад расстрэл. Бог не даў яму гэткіх выпрабаванняў, светлым вясновым днём забраў да сябе. Відаць, і ў той, абавязковай для ўсіх нас тагасветнай Беларусі нацыяналісты ў кубе таксама патрэбныя.

*2014*

# ПРАФЕСАР КРЫЛАТАЙ МОВЫ

Фразеалогія — самая жывая галіна на дрэве мовазнаўства. Гэта вам не коскі з працяжнікамі расстаўляць, не жаночыя і мужчынскія прозвішчы на -а скланяць, не склады на фанемы дзяліць. А бачыць і адчуваць, як мова смяецца, смуткуе, выкпівае, іранізуе, насміхаецца, жартуе, пагражае, кленічы насылае. У мудраслоўях — тысячагадовы досвед народа, як быццам дзясяткі пакаленняў адначасова прыселі на прызбе і з табой пра жыццё-быццё гутарку вядуць. Як тут не прыслухацца?

Іван Лепешаў больш за паўстагоддзя прыслухоўваўся да жывой мовы, учытваўся ў яе пісьмёны, прасейваў «адзінага слова дзеля тысячы тонаў слоўнай руды». І пачутае, вычытанае, прасеянае — занатоўваў, кампанаваў у слоўнікі. У сваёй гарадзенскай кватэры з гонарам паказваў мне рукапісную картатэку — каля 100 000 (!) картак. Кнігі чытаў з алоўкам, яго цікавіла ўжыванне таго ці іншага фразеалагізма ў розных кантэкстах. Мабыць, не было такога пісьменніка, у якога ён не адшукаў бы моўнай залацінкі. Ён мог не звяртаць увагі на рыхлы сюжэт, на безаблічнасць герояў, на прадказальнасць аўтарскай задумы. Ён заходзіў у кнігу, нібы ў пагудасты лес, і пускаў сваю думку, як ганчака па следзе, — у пошуках крылатых выразаў.

Сем тысячаў фразеалагізмаў зафіксавана і растлумачана ім. Тут Івану Лепешаву роўні не было. Яго слоўнікі часам крытыкавалі — за расійскія ўплывы і пазычанні. Памятаю, пра гэта мы неаднойчы гаварылі з яшчэ адным знаным мовазнаўцам з Гарадзенскага ўніверсітэта Паўлам Сцяцко, які прытрымліваўся больш радыкальных поглядаў у лексікаграфіі. Слоўнікі Сцяцко — гэта мова, якая прайшла праз своеасаблівы чысцец, і ў гэтым іх каштоўнасць. Слоўнікі Лепешава фіксуюць сучасны стан мовы — з усімі яе хваробамі і адхіленнямі ад нормы. Але насамрэч патрэбныя і тыя, і другія. Каб паставіць дыягназ, неабходна ведаць гісторыю захворвання.

Сваю галоўную працу — двухтамовы «Слоўнік фразеалагізмаў» (2008) Іван Лепешаў падараваў мне з такім аўтографам: «Шаноўнаму Міхасю Скоблу з найлепшымі пачуццямі падпісваю гэты словазбор, з якога, на жаль, цэнзары выкінулі 15 аўтараў (і вас у тым ліку)».

Хто ж сцэнзураваў лепешаўскі слоўнік? Фактычна, цэнзар быў адзін — пыхлівы і графаманісты Г. П. — галоўны рэдактар дзяржаўнага выдавецтва, дзе той слоўнік меўся выйсці. Раней той рэдактар рэдагаваў камуністычную газету, і да цэнзуравання матэрыялаў яму было не прывыкаць. Смела пішу «цэнзуравання», бо і сам меў магчымасць пераканацца ў метадах працы Г. П.

У свой час для таго ж выдавецтва я склаў анталогію беларускай паэзіі, яна была запланаваная ў серыі «Школьная бібліятэка». Прынёс на візу галоўнаму рэдактару. Той учытаўся ў змест... Праз імгненне я ўжо шкадаваў, што звязаўся з такімі выдаўцамі. З анталогіі вылятали паэты толькі за тое, што былі святарамі, выкасоўваліся вершы, прысвечаныя не тым падзеям і асобам. Агаломшаны, я спрабаваў штосьці адстаяць, кагосьці вярнуць — безвынікова. Службова-чыноўніцкая пыха («я прызначаны на пасаду прэзідэнтам і павінен сачыць!») біла цераз край, маіх аргументаў ніхто не слухаў.

Прафесара Лепешава таксама ніхто не паслухаў. Сабраны цягам паўстагоддзя выніковы слоўнік быў разгромлены тым самым Г. П. гэтак жа бесцырымонна, як і мая бяскрыўдная анталогія. Згледзеўшы ў іменным паказніку прозвішчы «нячэсных» пісьменнікаў, рэдактар-цэнзар распарадзіўся ачысціць слоўнік спачатку ад іх. Алесь Пашкевіч? Ён жа нелаяльны да ўлады Саюз пісьменнікаў узначальвае. Прэч. Аляксандр Лукашук? Ён жа на радыё «Свабода» працуе. Далоў. Святлана Алексіевіч? Яна ж па замежжах туляецца і на радзіму паклёпнічае. Выкінуць. Сяргей Дубавец — таксама свабодавец. Выкрасліць.

І выкрэсліваліся імёны з такімі ці падобнымі характарыстыкамі. Да пералічаных прадказальна дадаліся Ларыса Геніюш, Наталля Арсеннева, Масей Сяднёў, Уладзімір Някляеў,

Сяргей Законнікаў, Уладзімір Арлоў, Сяргей Астраўцоў, Вінцэсь Мудроў, Барыс Пятровіч...

Аўтары выкасоўваліся, а цытаты з іхніх твораў часам заставаліся. Не акадэмічны слоўнік атрымліваўся, а зборнік ананімак.

Пасля расправы над пісьменнікамі рэдактар-цэнзар абрынуў свой гнеў на перыядычныя выданні. У выніку са спісу крыніцаў вылецелі часопіс «Дзеяслоў» і газеты «Наша ніва», «Народная воля», «Наша слова», «Свабода», беластоцкая «Ніва».

Пасля экзекуцыі над перыёдыкамі настала чарга ўласна фразеалагізмаў. Тут ужо рэдактар-цэнзар разышоўся не на жарты. Не выкасоўваў — касіў. Размашыста і пад корань. Усё, што нейкім чынам пасягала на ягонае камуняцкае мінулае. І зазеўралі ў жывой тканіне слоўніка новыя шматлікія лакуны.

«Архіпелаг ГУЛаг — канцэнтрацыйныя лагеры ў перыяд сталінскага таталітарызму»; «завезці да белых мядзведзяў — адправіць у канцлагеры на поўначы Расіі»; «чырвоны памешчык — старшыня калгаса як гаспадар з неабмежаванай уладай»; «кактэйль Молатава — бутэлька з гаручай сумессю»; «абкласці чырвонымі сцяжкамі — стварыць скрайне неспрыяльныя ўмовы для чыёй-небудзь дзейнасці»...

Кожны з нас безліч разоў чуў гэтыя ўстойлівыя выразы. Але іх па волі невука на пасадзе Г. П. няма ў слоўніку Лепешава. Ні выразаў, ні тлумачэнняў да іх, напісаных — трэба аддаць належнае аўтару — мовай простай і дакладнай.

Што відавочная ці прыхаваная антысаветчына асабліва раздражняла таварыша Г. П. — гэта я зразумець магу. Не магу ўцяміць, чым пільнавокі і чуйнавухі галоўны рэдактар (супрацоўнікі выдавецтва казалі — угалоўны) кіраваўся, калі выкідаў са слоўніка, напрыклад, такое чатырохрадкоўе Рыгора Барадуліна: «Няхай жыве народ / у думцы, згодзе, бунце — / яму замок на рот / павесіць не спрабуйце»? Як па мне — запамінальная, проста афарыстычная ілюстрацыя да вядомага фразеалагізма. І аўтар — народны паэт, які, як і належыць, доляй народу пераймаецца. А ўсё ж не пройдзе! Паэта ў слоўніку замянілі на другога. Каб змаглі, мабыць, і народ замянілі б...

Усяго са слоўніка галоўным-угалоўным рэдактарам ды яго памочнікамі было выкінута больш за паўтысячы (!) цытатаў. Дзясяткі і дзясяткі фразеалагізмаў засталіся без пацверджанняў. Скалечаны слоўнік выйшаў у свет, не прынёсшы аўтару заслужанай радасці. Якой там радасці — стаў несціхальным пажыццёвым болем аўтара. У дадатак выдавецтва падманула яго з ганарарам.

Магчыма, таварыш Г. П. у адносінах да Івана Лепешава дзейнічаў так брутальна, бо ведаў: пры ягонай любімай камуністычнай уладзе той пакаштаваў гулагаўскай баланды. Ці — з'ездзіў да белых мядзведзяў, як сам напісаў у сваім слоўніку. Гэта цемнаватая старонка ў жыццяпісе гарадзенскага прафесара. І асвятляць яе ён чамусьці не стараўся. Увогуле неяк не спалучаліся яны — Лепешаў і ГУЛаг. Нездарма ў даведніку Леаніда Маракова «Рэпрэсаваныя настаўнікі» персаналія «Іван Лепешаў» — нібы пра нейкага іншага Лепешава, які таксама нарадзіўся ў кастрычніку 1924 года ў вёсцы Іскозы на Дубровеншчыне, таксама працаваў настаўнікам у мястэчку Свіслач, таксама быў 9.8.1949 арыштаваны, 12.10.1949 асуджаны, 23.9.63 рэабілітаваны, чый «далейшы лёс невядомы». Так нібыта і пазначана ў асабовай справе № 8034п, што захоўваецца ў архіве КДБ па Гарадзенскай вобласці.

Справа ляжала на паліцы, а былы гулагавец з «невядомым лёсам» штодня хадзіў міма таго архіва на працу — у Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Купалы.

Я паказваў Івану Якаўлевічу тую таямнічую персаналію. Ён адказаў, як і належала прафесару фразеалогіі, устойлівым выразам: «Бач, нават яны ў трох соснах заблукалі». І было незразумела, хто заблукаў — Леанід Маракоў ці КДБ...

Іван Лепешаў працаваў, не адчуваючы гадоў за плячыма. За свае амаль дзевяноста толькі сорак два дні паспеў пабыць пенсіянерам. Марыў перавыдаць свой слоўнік — без цэнзурных скаротаў, з гулагаўскімі, праверанымі на ўласнай практыцы, фразеалагізмамі.

Падчас нашай апошняй сустрэчы скрушна ўздыхаў: «З беларушчынай горай было толькі за царызмам». Уздыхаў і

зноў схіляўся над сваёй статысячнай картатэкай, дзе аперва-
лася крылатымі выразамі, каб таксама стаць крылатай, мова.
Зрэшты, гэта не так і мала — зрабіць сваю мову крылатай.
Каб — крылатая — і за чырвоныя сцяжкі, і з кіпцюроў белых
мядзведзяў змагла вырвацца.

*2014*

# І АДНА Ў ПОЛІ — ВОІН

Масквіч родам з-пад Ігумена (сённяшняга Чэрвеня) Аляксей Каўка аднойчы з горыччу прызнаўся мне, што за паўстагоддзя жыцця ў расійскай сталіцы ні разу не пачуў беларускага слова з вуснаў маскоўскіх пісьменнікаў. І згадаў — дзеля параўнання — учынак польскага паэта Ежы Путраманта, які неяк на літаратурнай вечарыне ў Варшаве, не заглядваючы ў паперку, прачытаў па-беларуску верш Максіма Танка «Спатканне». Гэта агульнапрынятая праява сяброўства і павагі — сказаць хоць пару словаў на мове сябра ці суседа. Дык вось — ні разу. За пяцьдзясят гадоў.

Мне ў гэтым сэнсе пашанцавала больш — падчас чацвёртага ці пятага прыезду ў Маскву (заўсёды — кароткачасовага) я мову пачуў. Ды якую мову — «Пагоню» Багдановіча! Ды ад каго — ад вядомага палітыка і знакамітай дысідэнткі Валерыі Навадворскай! Чытала яна з жудасным акцэнтам, але — «с чувством, с толком, с расстановкой». І ў гэтым быў кайф.

Была нядзеля, быў касцёл, дзе вянчаліся маладыя Янка Луцэвіч і Уладка Станкевічанка, быў помнік Купалу на Кутузаўскім праспекце — і тады, і цяпер афіцыйна не адкрыты. І мне захацелася атрымаць нейкі ўцямны адказ ад кагосьці з масквічоў — чаму ў вас Купала стаіць фактычна нелегалам? Калі ў Менску помнік Пушкіну адкрывалі, на набярэжнай Свіслачы паўдня бутлі з шампанскім бухалі.

У маім нататніку знайшоўся толькі службовы тэлефон Навадворскай. Хто ж сядзецьме ў выходны дзень у офісе? Яна сядзела. «Пан Міхась, прыязджайце», — і назвала адрас. Трохі збянтэжаны такім звароткам (мяне так ніхто і ніколі не называў), я паехаў на Цвярскі бульвар, адлічыў ад помніка Пушкіну патрэбную колькасць крокаў і зайшоў у будынак без шыльдаў. Думалася пра канспірацыю, аб якой мусяць дбаць маскоўскія апазіцыянеры. Ахоўнік набраў унутраны нумар.

Шмат хто ў апошнія дні пісаў пра мажнасць Валерыі Іллінічны, пра тое, што ў яе балелі ногі. А тады, усяго за год

да смерці, яна не сыходзіла па лесвіцы — збягала, узмахваючы рукамі, як гераіня адной з гайдаеўскіх кароткаметражных камедый студэнтка Ліда пасля паспяхова здадзенага іспыту. Прызнаюся — я тады міжволі залюбаваўся.

Прагаварылі мы тады гадзіны дзве — з дыктафонам і без, хоць маю суразмоўцу кожныя хвілінаў пятнаццаць тузалі па мабільніку, кудысьці клікалі. У гутарцы неяк вельмі натуральна і ўсплыла «Пагоня», якую Навадворская ўпэўнена называла беларускім нацыянальным гімнам, для іншых тэкстаў месца ў гэтым жанры яўна не пакідаючы. На падмацоўку кожнай сваёй тэзы яна з відавочным задавальненнем цытавала страфу ці дзве — і такім чынам прагучаў увесь верш.

Шкадуючы, што побач няма Аляксея Каўкі, я выказаў сумненне, што ў 50-я гады ў Баранавічах (радзіма Навадворскай) вывучалі ў школах «Пагоню». Валерыя Іллінічна іранічна зірнула праз тоўстыя шкельцы акуляраў: «А колькі сёння ў Баранавічах беларускіх школаў?» — «Ніводнай». — «Вы дарэмна думаеце, пан Міхась, што пасляваенныя камуністы былі большымі нацыяналістамі за сённяшніх беларускіх чыноўнікаў».

Між іншым, пасля выхаду тае перадачы ў эфір на радыё «Свабода» мне сёй-той казаў: Навадворская да дзевяці гадоў жыла ў Беларусі, у школе тут вучылася, таму і вершы са школьнай хрэстаматыі ведае... Дзевяць гадоў — гэта максімум другі клас. Хацеў бы я пабачыць таго настаўніка расійскамоўнай баранавіцкай школы (і ў пояс яму пакланіцца!), які ў 50-я гады ставіў «пяцёркі» другакласнікам за дэкламаванне «Пагоні»... Ды не, Багдановіч у навучальнай праграме Навадворскай яўна ўваходзіў у «пазакласнае чытанне», калі кнігу бяруць у рукі не для адзнакі, а для душы.

Пакінуўшы Баранавічы ў дзевяцігадовым узросце, Навадворская на ўсё жыццё захавала сантымент да рэдка чутай у маленстве беларускай мовы і Беларусі (асабліва да Заходняй). Тады ж, падчас сустрэчы ў Маскве, яна прызналася, што зберагае дома мяшэчак з беларускай зямлёй...

Ведаючы пра яе абазнанасць у сусветнай літаратуры, я папрасіў назваць беларускіх пісьменнікаў, беларускія творы, якія

вартыя прызнання ў цэлым свеце. Трохі падумаўшы, Валерыя Іллінічна назвала кнігу-помнік «Я з вогненнай вёскі» Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і Уладзіміра Калесніка, «Апошнюю пастараль» таго ж Адамовіча. Назвала і імя Васіля Быкава. «А якія творы?» — «Усе!» — прагучаў адказ.

Пра быкаўскіх герояў Петрака і Сцепаніду са «Знака бяды» яна гаварыла, як вернік гаварыў бы пра апосталаў Пятра і Паўла. Хоць, як згадаць таго Петрака (у пташукоўскім фільме яго бліскуча сыграў Генадзь Гарбук), — звычайны хутаранец, якіх тысячы было ў Беларусі пад час вайны.

Так, Навадворская, як мала хто з сучаснікаў, ведала літаратуру. Усю — ад старажытных рымлянаў да паэтаў Срэбнага веку і савецкага графа Аляксея Талстога. За вокамгненныя дзве гадзіны я пачуў, як яна смакавала афарыстычныя радкі Барыса Чычыбабіна. Захаплялася апошнімі вершамі Мікалая Гумілёва і — асабліва — яго паводзінамі ў чэкісцкіх засценках перад расстрэлам. Іранізавала з Маякоўскага з яго вядомым: «Я хочу, чтоб к штыку приравняли перо». Гэта ад яе я ўпершыню пачуў працяг тых радкоў, што гучаў як пародыя: «С чугуном чтоб и с выделкой стали / о работе стихов на Политбюро / чтобы делал доклады Сталин». Пра Багдановіча, які для Навадворскай быў беларускім Срэбным векам у адной асобе, я ўжо згадваў. Паводле Валерыі Іллінічны, беларусы мусілі ў жыцці кіравацца «Пагоняй», там прапісана ўся наша нацыянальная ідэя.

На развітанне яна надпісала мне сваю кнігу «Поэты и цари»: «Сябру Михасю Скобле от В. Новодворской. Живе Беларусь! 19.11.2012». Выйшла з расійскім акцэнтам — як і цытаванне «Пагоні». Гэты амаль пяцісотстаронкавы том я параіў бы ў якасці падручніка ўсім студэнтам-філолагам. Навадворская таленавіта ўзняла на катурны сапраўды вартых творцаў, а пралікі іхнія бязлітасна зрэвізавала.

Прыкладам, паэму «Дванаццаць» Аляксандра Блока, разгадваючы якую пасівела не адно пакаленне ўніверсітэцкай прафесуры, Навадворская назвала папросту «дзікім кактэйлем з бандыцкага шансону, урыўкаў з бальшавіцкіх дэкрэтаў і прафанацыі хрысціянства». Не, званне gonoris causa за літа-

ратуразнаўчыя дасягненні ёй у Расіі ніяк не свяціла. Хоць на лекцыі Навадворскай, пусці яе ў МГУ, студэнты, я ўпэўнены, збягаліся б натоўпамі.

Бескампраміснасць і непадкупнасць Валерыі Навадворскай у адстойванні ўвідочненай ёй ісціны праявіліся яшчэ ў той час, калі яна вучылася ў Маскоўскім інстытуце замежных моваў і рыхтавалася стаць перакладчыцай французскай літаратуры. Аднойчы, адклаўшы ўбок недаперакладзенага Камю, яна напісала антыкамуністычную ўлётку-верш, дзе быў рэфрэн: «Спасибо, партия, тебе». Там дзячылася КПСС за рабства і двухдушша, за хлусню і подлае маўчанне, за паходню на пражскай плошчы — меўся на ўвазе Ян Палах, які самаспаліўся, пратэстуючы супраць савецкай акупацыі ў 1968-м.

Аддзячаная партыя паспрабавала правучыць дысідэнтку псіхбольніцай. Не дапамагло. Паспрабавала Ляфортаўскай турмой. Безвынікова. Паспрабавала спакусіць падсалоджаным на Лубянцы хлебам эміграцыі. Але і гэта не ўдалося. І партыя змірылася. А апрануўшыся ў тогу дэмакратыі, ужо ў 1993-м, намервалася нейтралізаваць Навадворскую ордэнам. Яна ордэн не прыняла.

Дарэчы, я неяк спрабаваў высветліць, хто з беларускіх пісьменнікаў адмаўляўся ад дзяржаўных ордэнаў. І атрымалася, што такіх за ўсю савецкую гісторыю папросту не было. Ніводнага. Найбольшае, ад чаго ў нас адмаўляліся, — ганаровая грамата камсамола.

Пра неадкрыты помнік Купалу мы з Валерыяй Іллінічнай тады так і не пагаварылі. Купала ёй быў нецікавы. Каліноўскі — так: бясстрашны, самаахвярны, сапраўдны герой.

Згодна з яе перакананнямі выходзіла, што кожны палітык павінен быць гатовы ў любы момант узысці на эшафот. Наш Кастусь і Жанна д'Арк былі тут для Навадворскай яскравымі прыкладамі. Сама яна загінуць у супрацьстаянні з ворагам лічыла сваім абавязкам. Але — каб на барыкадах, каб смерць сустрэць тварам у твар. І, як заўсёды, падмацоўвала сваю думку вершаванымі радкамі, у гэтым выпадку — гумілёўскімі: «И умру я не на постели, / при нотариусе и враче...» Але смерць менш за ўсё клапоціцца пра геройства сваіх ахвяраў.

Адзін з паплечнікаў Валерыі Навадворскай параўнаў яе жыццёвыя прынцыпы з самурайскім кодэксам. Маўляў, памерці за радзіму — запаветная мара самурая.

Дзіўнае японскае слова «самурай». Яно як бы складаецца з трох беларускіх. Сам у рай трапіў — вось і атрымаўся самурай...

Не ведаю, які кодэкс спраўдзіў у рабы Божай Валерыі апостал Пятро. Сумняваюся, што самурайскі. Мне здаецца, што яму было больш цікава паслухаць анёлаў-суправаджальнікаў, якія расказалі, як новапрыбылая да райскай брамы душа заўсёды слугавала свабодзе і супраціўлялася чалавеканенавісніцкім рэжымам. Як раба Божая Валерыя ўсім сваім жыццём аспрэчвала і ўрэшце аспрэчыла папулярны ў народзе выраз пра тое, што адзін у полі не наваюеш. Валерыя Навадворская даказала: і адна ў полі — воін, калі раці за спіной няма, а ворагу даваць адпор трэба.

*2014*

# З БІБЛІЯЙ У КОШЫКУ

Апошнія гадоў дваццаць Мікола Арочка пражыў, як Рабінзон на пустэльнай выспе, як Дыяген у бочцы. Сам казаў мне пра гэта падчас нашых нячастых сустрэчаў у вёсцы Вецявічы на Слонімшчыне. Забытая Богам і рэйсавымі аўтобусамі, амаль вымерлая вёска нездарма параўноўвалася ім з неабжытай выспай і цеснай бочкай. Пагаварыць там доктару навук, паэту, аўтару дваццаці пяці кніг не было з кім. Хоць насамрэч днём з ліхтаром па вуліцы хадзі, як той старагрэцкі філосаф, у пошуку чалавека.

Асабліва з жыццём пустэльніка было цяжка звыкнуцца ў першыя гады пасля развітання са сталіцай, дзе трагічна загінулі два ягоныя сыны. Іх смерць і змусіла згараванага бацьку пакінуць Менск, Акадэмію навук, якой аддаў больш за дваццаць гадоў жыцця. Думаў — праца на зямлі верне сілы, не дасць упасці ў беспрасветны смутак. І не памыліўся. Але без інтэлектуальнага асяродку сумаваў. Калі мы з Сяргеем Чыгрыным прыязджалі ў адведкі — доўга не адпускаў, пра ўсё распытваў, чытаў свае новыя вершы, якія чамусьці, як змовіўшыся, перасталі друкаваць сталічныя выданні.

Адзінай сувяззю са светам быў груваcткі радыёпрымач яшчэ савецкага вырабу, па якім вецявіцкі пустэльнік слухаў пераважна радыё «Свабода». Але неяк у пакінутую незамкнёнай хату залезлі невядома адкуль прыблыя зладзеі. Вынеслі старую лядоўню, сапсаваны пыласмок, нешта з апраткі і, галоўнае, прымач. Ні па чым так не бедаваў гаспадар хаты, як па ім.

Мы падгаворвалі яго пісаць успаміны, а ён адмахваўся — хлопцы, няма калі. Паказваў свае спрацаваныя рукі, ківаў на сялянскі рыштунак пры хаце. І, як далёкія продкі ў XIX стагоддзі, што не ведалі ніякай механізацыі, хадзіў за плугам, касіў касой траву, даглядаў жывёлу і птаства. «За першыя сем летаў я накасіў сто вазоў сена!» Якія там успаміны...

А расказваць умеў і меў пра што. Пра сваё навучанне ў заходнебеларускай польскай школе, дзе гадзінаў на беларускую

мову і літаратуру адводзілася больш, чым у Беларусі сучаснай. Як потым працягваў вучыцца ў беларускай школе пры немцах — па хрэстаматыі Дварчаніна і граматыцы Тарашкевіча. Як потым тую школу спалілі савецкія партызаны, хоць месцілася яна ў гэтак званым Народным доме, збудаваным на грамадскія складкі.

Як яшчэ падлеткам трапіў у спісы раскулачаных. Як разам з маці хаваўся ад «чорнага ворана», накліканага вучнёўскімі, падазронымі з гледзішча савецкай улады, вершамі. Як потым стаяў пад расстрэлам на падпаленым немцамі хутары.

Як быў самым заўзятым чытачом мясцовай Вялікакракоцкай бібліятэкі, што ў свой час камплектавалася наўпрост з віленскіх беларускіх выдавецтваў і кнігарняў. Бібліятэка пазней атрымала імя Янкі Купалы, і яе неаднойчы наведвала ўдава першага народнага паэта — Уладзіслава Луцэвіч. Дык вось, улюбёнаму ў беларускую кнігу падлетку з Вецявічаў нават дазвалялася начаваць у бібліятэцы, і ён да світання чытаў Купалу, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага, Танка...

У вершах Міколы Арочкі жыла і змагалася Заходняя Беларусь, падымала народ статысячная Грамада, бунтавалі палітзняволеныя на Лукішках. Ён ажыўляў гісторыю. Яшчэ ў 70-я гады, калі ў айчыннай гістарыяграфіі панавала абэцадаршчына, паэт напісаў дзве выдатныя драматычныя паэмы — «Курганне» і «Крэва» (выйшлі пад адной вокладкай у 1982-м), дзе вялікія князі Ягайла і Вітаўт звярталіся да чытача на дзяржаўнай мове ВКЛ — беларускай.

А якой знаходкай для нас, студэнтаў, былі аўтарскія каментары да згаданых паэмаў! Каментары тыя «цягнулі» на энцыклапедычныя артыкулы. З іх можна было даведацца пра жыццяпісы вялікіх князёў, навыпісваць старабеларускай лексікі: маргаслепы, долнік, зжэніна (каханка)...

Гэта ў «Крэве» я вышукаў назву для свайго першага паэтычнага зборніка «Вечны Зніч», пра што Мікалаю Мікалаевічу праз гады было прыемна пачуць у занесеных снегам Вецявічах.

Зачытаную і заканспектаваную кнігу «Курганне. Крэва» ў мяне скралі ў студэнцкім інтэрнаце. Неяк я прызнаўся пра гэта аўтару. Ён выцягнуў аднекуль з-пад стала і надпісаў

свой асобнік. Дарма, што пераплёт у ім аказаўся пагрызены мышамі, ад якіх не было ратунку ў старой, месцамі дарэшты збуцвелай хаце. Той пагрызены асобнік і цяпер стаіць у мяне на ганаровай паліцы.

Восем тысячаў чытачоў «Крэва» (такі наклад кнігі) спускаліся разам з Вітаўтам у лёхі Крэўскага замка, прысутнічалі пры зацятых спрэчках Вітаўта з Ягайлам, чулі лямантацыі Вітаўтавай кароны, якая так і не даехала да Вялікага Княства:

Мяне перанялі велькапаляне.
Ніводзін звер не знаў такіх засад!
На кожнай сцежцы — біскуп ці магнат.
І меч. То ж на карону паляванне!
Мяне, рассекшы мечам надвая,
Прыцвікавалі ў Кракаўскім саборы...
Як сімвалічна са сцяны гаворыць
Пра еднасць душ, пра лёс наш плоць мая!

Падчас апошняга свайго прыезду ў Вецявічы я застаў Міколу Арочку над новай гістарычнай паэмай. «Каранацыю Міндоўга» ён пісаў марудна і пакутліва. Пісаў асадкай, якую не хацелі трымаць пакручаныя цяжкай фізічнай працай пальцы. «Страціў кваліфікацыю», — аджартоўваўся. Але было відно, што не супакоіцца, пакуль не паставіць апошнюю кропку. Меў за арыенцір паэму «Mindaugas» літоўца Юсцінаса Марцінкявічуса, з якім, дарэчы, ліставаўся. Зразумела, што Арочкаў Міндоўг шмат у чым адрозніваўся ад Mindaugasa, які каранаваўся ў горадзе з дзіўнай назвай Naugardukas.

Складаючы анталогію беларускай паэзіі «Краса і сіла», я меўся ўлучыць у яе Арочкаву «Баладу пра няскошанае жыта». Арыгінальная па задуме, яна, аднак, не задавальняла мяне сваім фіналам. Не памятаю ўжо, чым канкрэтна. І я не прыдумаў нічога лепшага, як напісаць аўтару ультыматыўны ліст: альбо дапрацоўваеце сваю баладу, альбо ў анталогію яна не трапіць...

У лепшым выпадку чакаў маўчання, у горшым — адлупу. Мікола Арочка выканаў умову і нават не паўшчуваў складальніка за нахабства!

Далікатны ў абыходку з людзьмі і з кожнай жывой істотай, ён і ў слове адчуваў і вычуваў кожны гук. Мог па-майстэрску ва ўласны верш уплесці фальклорны малюнак: «Іду, як заваражаны, / а спеў плыве з-за гаці: / не ўсе лугі пакошаны, / не ўсе сенажаці». І дзе тут народнае, а дзе Арочкава?

Урабляючы зямлю і даглядаючы козаў, накошваючы свае незлічоныя стагі сена, паэт у апошнія гады зусім заняпаў здароўем. А тут яшчэ ў вёсцы аб'явіўся адзін зацяты прыхільнік «русского мира» і ўсяго, з ім звязанага. Палітычныя дыскусіі і спрэчкі, што важней — каўбаса ці мова, здароўя, вядома, не дадавалі. Сілы пакідалі Арочку. Вось адзін з яго апошніх вершаў «Падсочка», які я запісаў на дыктафон:

Дажываюць сосны бору.
Бор той не стары.
Галаву задзёршы ўгору,
Ходзяць там майстры
І разцом шваргочуць моўчкі.
Крапне з-пад ляза
Не жывіца ад падсочкі,
А бурштын-сляза.
Льецца ў посуд, нібы ў лейку,
Праз канаўку-роў.
Меднастволіцам — паўвеку.
Маладая кроў...
Ды заступніцкае моцы
Я не маю тут.
Сам я чуюся ў падсочцы,
Як і ўвесь мой люд.

«Падсочанага» хваробамі паэта даглядалі жонка Марыя і ўнук Валерык, які, дарэчы, следам за дзедам пачаў пісаць вершы на роднай мове.

Аднойчы, прыехаўшы ў Вецявічы, я пабачыў сапраўдны букалічны краявід. Мікола Арочка сядзеў на поплаве пад здзічэлай яблыняй, а вакол яго пасвіўся цэлы статак козаў. Наводдаль скублі траву каровы і раз-пораз рыкалі ў вялікія

доўгія трубы, зрыхтаваныя для газаправода Ямал–Еўропа. «Зірні — ім падабаецца трубіць і чуць рэха», — сказаў паэт-пастух. Мы яшчэ тады памеркавалі, куды каровы хутчэй дарыкаюцца — да Ямала ці да Еўропы.

І на пашы, і на сенажаці Мікола Арочка не разлучаўся з лазовым кошыкам. Насіў у тым кошыку рукапісы і Біблію. Рукапісы ён увесьчасна дапісваў і дапрацоўваў, а Біблію чытаў у любую вольную хвіліну. У тую нашу апошнюю сустрэчу яго вельмі цікавіла Евангелле ад Яна, ён нават некалькі разоў паўтарыў: «І Слова стала плоццю, і ўсялілася ў нас, поўнае мілаты і праўды».

І слова Міколы Арочкі таксама было напоўненае праўдай і мілатой. Мабыць, і ў свой апошні шлях ён выправіўся з той зачытанай у стагах і заношанай у кошыку беларускай Бібліяй.

*2013*

# БАРАНІЦЬ ВУЛЛІ СВАЕ

## 1

Смерць і радзіны не выбіраюць гадзіны. Зоська Верас не дажыла да свайго стагоддзя ўсяго месяц з паловай. А так хацелася, каб дажыла, каб заставалася жывым злучнікам паміж пакаленнямі, эпохамі і стагоддзямі.

Яе, маладую ўдаву нацдэма Фабіяна Шантыра, расстралянага бальшавікамі ў 1920 годзе, прытуліў Панарскі лес пад Вільняй. А лес у беларусаў з лёсам сугучны, і лёсу скрыжалі недвухсэнсоўна вызначаюць, дзе і што нам рабіць: у сасновым лесе маліцца, у бярозавым — любіцца, у дубовым — волю каваць, у яловым — душу д'яблу прадаваць. А вось у якім лесе беларусу паміраць — скрыжалі тыя не паведамляюць. Таму Зоська Верас, калі прыйшла пара пакінуць гэты свет, пераехала ў Вільню, да дачкі.

Я не быў на яе магіле, і мне здаецца, што нікуды яна не пераязджала. Проста выйшла аднойчы за парог і — сама стала лесам, сунічнікам, верасам. Або шарай пташкай — яшчэ адзін з яе псеўданімаў.

Амаль сем дзясяткаў гадоў — цэлае чалавечае жыццё — Зоська Верас пражыла ў сваёй Лясной хатцы. У глінабітнай, без усякіх выгодаў, у двары нават калодзежа не было. Улетку збіралі ў бочкі дажджавую ваду, узімку — тапілі снег.

Зоська Верас жыла ў лесе не пустэльніцай, хутчэй — партызанкай. І ваявала яна — актыўна і бескампрамісна — з усімі, хто пасягаў на гістарычную праўду. «Фальш шкодзіць гісторыі», — не стамлялася паўтараць старая дзеячка ў лістах да сваіх шматлікіх адрасатаў. Толькі за паваенны час лістоў гэтых яна напісала больш за шэсць тысячаў, і ў кожным — штосьці ўдакладняла, кагосьці папраўляла, камусьці выносіла свой няўмольны прысуд.

Паказальны ў гэтым сэнсе выпадак з кнігай Алега Лойкі «Як агонь, як вада», якая выйшла ў 1984 годзе. Хітрамудры жанр «рамана-эсэ» не дапамог аўтару пазбегнуць знішчальнай крытыкі ад Зоські Верас. За прыніжэнне Янкі Купалы і «Нашай Нівы», за хлуслівыя вобразы Івана і Антона Луцкевічаў (названых у рамане Лапкевічамі), за дыскрэдытацыю асобы Вацлава Ластоўскага (у рамане — Ласоўскі) кніга Лойкі ў Лясной хатцы была прыгаворная да найвышэйшай меры пакарання і пайшла дымам у неба і попелам у зямлю.

Аднойчы я даволі бестактоўна спытаўся ў свайго ўніверсітэцкага выкладчыка, ці ведаў ён пра тое лясное аўтадафэ. Алег Антонавіч са скрухай прызнаўся, што ведаў. Мала таго, тое вогнішча ў Панарскім лесе не давала яму спакою да канца дзён, яно і прымусіла ўрэшце перапісаць раман. Пасля дапрацоўкі ён павялічыўся на сто старонак, а ягоным героям былі вернутыя іх сапраўдныя прозвішчы.

Аўтарытэтаў на сваёй партызанскай вайне за праўду Зоська Верас не прызнавала. Дасталося ад яе і Змітраку Бядулю — за няпраўдзівыя ўспаміны пра Максіма Багдановіча, і супрацоўніку Гістпарта пры ЦК КПБ Мікалаю Сташкевічу. Гаспадыня Лясной хаткі прачытала ягоную манаграфію «Прысуд рэвалюцыі: крах антысавецкага руху ў Беларусі (1917–1925)» і на правах відавочцы апісаных там падзеяў вынесла свой прысуд: «Блытаніна!»

Зняпраўджвала Зоська Верас і распаўсюджаную ў савецкіх даследаваннях інфармацыю пра падтрымку немцамі беларускага руху ў 1917–1918 гадах. Расказала, як немцы брутальна выганялі беларускія арганізацыі з Губернатарскага дома ў Менску, як нейкі кайзеравец літаральна схапіў яе за руку, калі яна спрабавала забраць з шуфляды пячатку...

Дарэмна шукаць артыкулы Зоські Верас пра ўсё гэта ў афіцыйным друку (а тады ўвесь друк быў афіцыйны). Па-першае, не надрукавалі б. Па-другое, не надта яна таму друку давярала. І таму ў ход звыкла ішлі лісты-лістоўкі — праверaная партызанская практыка.

Усе менскія нефармалы 80-х перабывалі ў Лясной хатцы. І такой бяды, што фотаздымкі з тых сустрэчаў потым траплялі

на старонкі адыёзнага «Политического собеседника». Усім хацелася дакрануцца да жывой гісторыі.

Памятаю, як улетку 1988 года мы з Анатолем Сідарэвічам ішлі па чыгуначным палатне ў кірунку Панараў. Між бліскучых рэек палахліва прыгіналі галовы прыземістыя рамонкі, чыгунка на даляглядзе пакалыхвалася ў спякотным марыве. Вось і чаканая паваротка. У лесе наш рух запаволіўся — проста абапал сцежкі (як хто крапідлам пакрапіў) — чырвоныя россыпы суніцаў. Яны і прывялі нас да партызанскага жытла — Лясной хаткі. Нас сустрэў Лявон Луцкевіч — зяць гаспадыні і найлепшы знаўца гісторыі Вільні. Ягоная жонка Галіна Войцік частавала нас чарніцамі з малаком. Пачастунак зацягваўся — Людвіка Антонаўна заседжвалася дапазна, таму з раніцы яе стараліся не будзіць. Мы бавілі час на падворку, дзе Лявон Луцкевіч паказваў нам жыццёва неабходную ў сухаземным лесе сістэму вадасцёкаў.

Праз якую гадзіну пані Галіна паклікала нас у хату — прачнулася маці і была гатовая з намі сустрэцца. І вось — зацішная бакоўка, нейкія старыя камоды з шуфлядамі і ў зручным фатэлі — Яна. Маленькая, прыветлівая, з маладымі вачыма. Анатоль Сідарэвіч пісаў вялікімі літарамі свае пытанні (на дзясятым дзясятку Зоська Верас кепска чула), а мне было няёмка і турбаваць яе прыпамінаннямі. Колькі падобных паломнікаў і цэлых дэлегацый прыняла яна за сваё жыццё і перад кожным дапытлівым суразмоўцам браму скарбаў сваіх адчыняла.

Гэта яна надрукавала свой першы твор яшчэ ў 1907 годзе — усяго на два гады пазней за Янку Купалу, а аўтарам легендарнай «Нашай нівы» стала ў 1911-м.

Гэта яна ў 1916 годзе прывячала ў Менску і ў 1917-м праводзіла ў Крым Максіма Багдановіча, які абяцаўся пісаць ёй з Ялты, з «белага дома над сіняй бухтай».

Гэта яна на ўсё жыццё запомніла, як бальшавікі ў снежні 1917-га разганялі ў Менску І Усебеларускі кангрэс.

Гэта яна за свае сціплыя заробкі ў 1928 годзе выдала паэтычны зборнік Міхася Машары «Малюнкі» і толькі за гэта

заслугоўвае не меншай пашаны, чым Магдалена Радзівіл — фундадарка неўміручага «Вянка».

Гэта яна рыхтавала і выпускала ў свет часопісы для дзяцей «Заранка» і «Пралескі», а для дарослых — месячнік «Беларуская борць», якім карысталіся пчаляры па ўсёй Заходняй Беларусі.

Гэта яна склала і выдала ў 1924 годзе знакаміты «Беларуска-польска-расійска-лацінскі батанічны слоўнік», у які і сёння не зашкодзіць зазірнуць самым дасведчаным лексікографам, каб даведацца, як праўдзіва на роднай мове называецца тая ці іншая расліна.

Гэта да яе паэт і бібліёграф Гальяш Леўчык пісаў са Слоніма прачулыя лісты, якія пачыналіся ласкавымі звароткамі «залаценечка і дарагенечка дзядзіначка» альбо «паважаная цётухна і залатая сястронка»...

Лісты ў Лясную хатку прыходзілі часта. І на кожны Зоська Верас давала адказ — успамінала, тлумачыла, удакладняла. Здавалася, што яна помніла літаральна ўсе падзеі, сведкам якіх была. Яе шматадрасная карэспандэнцыя захоўвалася ў ідэальным парадку — я меў магчымасць пераканацца ў гэтым на свае вочы. Усе шуфляды ў бакоўцы былі запоўненыя фотаальбомамі і акуратна перавязанымі стосікамі лістоў. Памятаю, Зоська Верас прасіла адчыніць пэўную шуфляду, дастаць патрэбны альбом ці пакунак, а пасля далікатна трымала іх на каленях — лісты ад Аркадзя Смоліча, Міхася Забэйды-Суміцкага, Міколы Ермаловіча, Віталя Скалабана, Янкі Саламевіча, Дануты Бічэль, Ларысы Геніюш...

Ліставанне з Ларысай Геніюш доўжылася каля чатырнаццаці гадоў — з 1967-га па 1983-ці — і было надзвычай актыўным. Абедзве Антонаўны пісалі свае эпісталярныя летапісы проста самазабыўна. Ларыса Антонаўна ў снежні 1967-га наведала Лясную хатку, нават заначавала ў сваёй прыяцелькі, і яны да самай раніцы не маглі нагаварыцца. Гэтыя дзве пасіянарныя беларускі ўмелі і пчол гадаваць, і кветкі разводзіць, і вершы пісаць, і нацыянальным духам палымнець, ды так, каб і другія займаліся.

Як жа шкада, што Лясная хатка, у якой Зоська Верас пражыла — так прыкметна для Беларусі! — сем дзясяткаў гадоў, згарэла напачатку 90-х, калі гаспадыні там ужо не было. Памятаю, пачуўшы пра пажар у Панарскім лесе, я з жалем падумаў, што згарэла і ўся бачаная ў Лясной хатцы перапіска. Але, дзякаваць Богу, вялікая частка таго эпісталярыя ацалела.

Тады, у 1988-м, я адыходзіў з Лясной хаткі з дзіўным пачуццём — быццам здзейсніў падарожжа ў мінулае на машыне часу. І доўга не мог апрытомнець, нават ужо сеўшы ў менскі цягнік. Жалезныя колы разгоніста татахкалі на рэйкавых стыках, я чытаў зборнік «Каласкі», падараваны Анатолю Сідарэвічу з аўтографам аўтаркі, і думаў, што дарэмна Зоську Верас менскія парнасцы паблажліва называлі толькі дзіцячай пісьменніцай. Ёсць у яе верш «Ліст», які не трапіў у «Каласкі» акурат з-за свае недзіцячасці. Гэтым лірычным шэдэўрам нашаніўскай эпохі калі-небудзь адкрыецца збор твораў паэткі і мемуарысткі, лексікографа і публіцысткі, перакладчыцы і асветніцы Зоські Верас:

Хацела да цябе напісаці
На пялёстку ружы пахучай,
Але пялёстак мог згінуць
У пору буры грымучай.

Хацела да цябе напісаці
На скрыллі у матылёчка,
Але матыль умірае,
Як прыйдзе цёмная ночка.

Хацела я ліст паслаці
Праз ластаўку з нашага дому,
Але ж яна магла даці
Яго каму-небудзь другому.

І так дзянёчкі праходзяць.
Не маю яго як паслаці,
А ліст такі ўжо сардэчны
Хацелася напісаці.

Адзін літаратуразнаўца, пачуўшы гэтыя радкі, усклікнуў: «Дык гэта ж наследаванне Максіму Танку — ягонай "Перапісцы з зямлёй"!» Давялося патлумачыць калегу, што ў час, калі пісаўся «Ліст», падлетак Жэнік Скурко (будучы Танк) яшчэ бегаў са свайго хутара Пількаўшчына ў Сваткаўскую школку і пра вершы наўрад ці думаў.

На экслібрысе Зоські Верас (аўтар — Вячка Целеш) архітэктурнай дамінантай — вежа Гедыміна. І гэта заканамерна — Зоська Верас была душой беларускай Вільні. Яна пра многае ведала, яна шмат што магла засведчыць, яна, здавалася, помніла ўсё і, на шчасце, паспела расказаць нам — ва ўспамінах і лістах. Застаўшыся без Зоські Верас, Вільня лягчэй ператвараецца ў Вільнюс.

Шкада, што Людвіка Антонаўна Сівіцкая — назавем нарэшце яе сапраўднае імя — пахаваная не на Росах, дзе ёсць нейкае падабенства нацыянальнага некропаля. Сваім жыццёвым подзвігам яна бясспрэчна заслужыла на апошнюю пашану. Заслужыла сваім узвышэннем праўды і Беларусі. А ўзгорыстыя могілкі Росы — адзінае месца ў свеце, дзе беларусы — вышэй за ўсіх.

**2**

Панарскі лес пад Вільняй заслугоўвае мець гісторыка-мемарыяльны статус: ён апеты ў знакамітай паэме Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш». У тым лесе ладзіліся княскія паляванні і баляванні, асабліва любіў выязджаць туды легендарны заснавальнік Вільні, што і засведчана ў радках вялікага паэта: «Калісьці Гедымін, палюючы ў Панарах, адпачываў на шкуры пры агні на нарах і гладзіў поўсць мядзведжую, закалыханы шумам вячыстых дрэў»*.

У тым лесе бываў і сам Міцкевіч — яшчэ студэнтам Віленскага ўніверсітэта, на філамацкіх патаемных сходках. Таму панарскія ўзгорыстыя краявіды настальгічна ўспаміналіся яму і ў далёкім Парыжы, дзе «Пан Тадэвуш» і прыходзіў

* Пераклад Язэпа Семяжона.

на свет, дзе так жадана летуцелася пра «краіну дум сваіх» — наваградска-віленскую Літву.

А яшчэ ў Панарскім лесе, у адзінокай глінабітнай хатцы, доўгі час жыла Зоська Верас — збіральніца словаў і зёлак, ахвярная працаўніца на маларасцяробленых лядах беларускай культуры ды гісторыі. Не маючы ў паслужным спісе ўніверсітэцкіх дыпломаў, закончыўшы ўсяго толькі гімназію і агародніцка-пчалярскія курсы, яна, тым не менш, ні ў якой справе не выглядала дылетантам — пісала вершы і апавяданні, перакладала п'есы для школьных тэатраў, склала запатрабаваны і сёння «Беларуска-польска-расійска-лацінскі батанічны слоўнік», рэдагавала часопісы «Заранка», «Пралескі» і «Беларуская борць» (апошні — спецыялізаваны, для пчаляроў).

Яе, рухавую і энергічную, чакалі ў Лукішкаўскай турме — з прадуктовымі перадачамі, на віленскім паштамце — з пакункамі беларускіх перыёдыкаў, з неадменнай гатовасцю да працы ў рэдакцыях грамадаўскіх газетаў, дзе яна была і адміністратарам, і бухгалтарам, і кальпартэрам. І так — у гушчыні падзей — Зоська Верас пражыла ладную частку жыцця. Таму для пакаленняў пазнейшых яна была найперш жывой сведкай нашай гісторыі, і як жа добра, што Бог падараваў ёй так багата гадоў. Усё, што ведала, усё, што памятала, яна паспела сказаць для будучыні, асабліва ёй рупілі ці не самыя сфальшаваныя ў савецкай гістарыяграфіі гады (1917–1920-я).

Пад спакойны пошум Панарскага лесу пісаліся ўспаміны: пра Гарадзенскі гурток беларускай моладзі, пра Першы Усебеларускі з'езд у Мінску, пра Максіма Багдановіча, Гальяша Леўчыка, Аркадзя Смоліча, братоў Луцкевічаў і братоў Родзевічаў...

Успаміны пісаліся, але мінскія рэдакцыі ставіліся да іх насцярожана — у друк праходзіла толькі самае бяскрыўднае. Часцей Зоську Верас друкавалі беластоцкія выданні — беларускія календары і тыднёвік «Ніва», але і там тэксты былой нашаніўкі (пра гэта ведалі ўсе) і сяброўкі Рады БНР (пра гэта ведалі хіба ў адпаведным ведамстве), часам, ляжалі гадамі.

І тады Зоська Верас пра ўсё, што помнілася, пачала расказваць у прыватным парадку — у лістах. Ахвотнікаў ведаць

праўдзівую гісторыю знайшлося нямала: у Менску і Гародні, у Зэльве і Пружанах, у Германавічах на Віцебшчыне і Гудзевічах на Гарадзеншчыне, на Беласточчыне за заходняй мяжой і на Стаўрапольшчыне за мяжой усходняй, у Варшаве і Маскве.

Сама аўтарка пазней спрабавала падлічыць колькасць тых лістоў-успамінаў — выходзіла больш за 6000. Пакуль што апублікавана каля 800, і з іх, нібы з мазаічных шкельцаў, паступова складаецца вялікая панарама беларускага жыцця XX стагоддзя.

Сярод адрасатаў Зоські Верас людзі знаныя, а таму калісьці дойдзе чарга і да зваротнай карэспандэнцыі, акуратна спарадкаванай і зберажонай у той прыцягальнай для многіх Лясной хатцы. О, яе гаспадыня ведала, з кім ліставалася, разумела каштоўнасць таго эпісталярыя. Як на добры лад, яго і публікаваць варта было б асобнымі выданнямі: у адным томе — перапіска з паэткай Ларысай Геніюш, у другім — з гісторыкам Юрыем Туронкам, у трэцім — з этнографам Арсенем Лісам, у чацвёртым — з літаратуразнаўцам Аляксеем Пяткевічам.

Гэтыя працяглыя эпісталярныя дыялогі (скажам, у архіве Л. Геніюш захоўваецца 309 лістоў Зоські Верас) не заўсёды ўяўляюць з сябе пытанні з разгорнутымі адказамі. Там абмен інфармацыяй ідзе з абодвух бакоў, старэйшая векам рэспандэнтка проста штосьці ўдакладняе, падказвае, далікатна падштурхоўвае ў правільным кірунку.

Напрыклад, з яе падказкі прафесар ГрДУ А. Пяткевіч займаўся даследаваннем дзейнасці Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі (1909–1914), апублікаваў у альманаху «Краю мой — Нёман» (1986) артыкул «З кагорты пачынальнікаў» — пра аднаго з актывістаў таго гуртка паэта Язэпа Лявіцкага (літаратурны псеўданім Юрка Снапко). Зоська Верас цаніла ў сваім гарадзенскім сябру глыбокія, сапраўды энцыклапедычныя веды па гісторыі Гарадзеншчыны, адчувала ў ім блізкую душу, бо сама цягам усяго жыцця стварала ўласную (рукапісную!) энцыклапедыю, якая складалася з жыццяпісаў забароненых за савецкім часам дзеячаў: Аркадзя Смоліча, Станіслава Грынкевіча, Францішка Грышкевіча, Міхася Забэйды-Суміцкага...

Уяўляю, як яна парадавалася б, калі б паспела пабачыць «энцыклапедыю Пяткевіча» — дыхтоўны біяграфічны даведнік «Людзі культуры з Гарадзеншчыны», які пабачыў свет у 2000 годзе.

Сучасныя сродкі камунікацыі дазваляюць імгненна перадаваць на любыя адлегласці любую інфармацыю (тэкставую, фота, аўдыё і відэа). А ў часы Зоські Верас адзіным перадатчыкам была звычайная, надзвычай марудная з гледзішча сённяшняга дня пошта. Лісты з Панарскага лесу ішлі тыднямі — можна здагадвацца, як чакалі іх усе тыя, хто стала карэспандаваў з гаспадыняй Лясной хаткі.

Гісторыку Юрыю Туронку Зоська Верас дасылала звесткі пра ягонага бацьку, вядомага ў Заходняй Беларусі лекара Браніслава Туронка, пра братоў Іваноўскіх, якія ўзбагацілі сваёй дзейнасцю тры культуры — беларускую, польскую і літоўскую.

Паэтцы Дануце Бічэль падказвала, як найпаўней і змястоўней паказаць жыццяпіс Максіма Багдановіча ў навастораным музеі.

Дырэктару Мінскага абласнога музея (знаходзіўся ў Маладзечне) Генадзю Каханоўскаму расказвала пра свайго прадзеда Ігната Кулакоўскага, педагога і асветніка, які яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя дамагаўся ад царскіх уладаў вывучэння ў школах беларускай мовы...

А колькі ў Лясную хатку прыходзіла лістоў удзячнасці! Краязнавец з вёскі Германавічы Шаркаўшчынскага раёна Клімент Кожан пісаў: «Я ў сваім жыцці закончыў два ўніверсітэты — Беларускі дзяржаўны і Універсітэт Зоські Верас». Вольным слухачом таго «ўніверсітэта» быў і Уладзімір Караткевіч, які з удзячнасцю за падказаныя спрадвечна беларускія назвы раслінаў аднойчы, звяртаючыся да Зоські Верас, эмацыйна ўсклікнуў: «Вы наш батанічны бог!» А як палічыць усіх наведнікаў Гудзевіцкага этнаграфічнага музея, якія практычна скарысталіся з рэцэптаў, і сёння даступных у экспазіцыі «Лекавыя зёлкі», што стваралася пад цярплівую «дыктоўку» Зоські Верас...

На жаль, пры жыцці яна заставалася як бы за спінамі сваіх вялікіх сучаснікаў — найперш Максіма Багдановіча, гербоўнік гонару якога быў яе заўсёдным і першачарговым клопатам. І гора было тым, хто з тых ці іншых прычынаў кідаў на яго цень, пляміў няпраўдай. І трэба прызнаць: шмат у чым той Багдановіч, якога мы сёння ведаем і прымаем, увідочніўся для нас дзякуючы Зосьцы Верас. Каб сабраць усё напісанае ёю пра паэта, атрымаўся б важкі дадатак да персанальнай энцыклапедыі «Максім Багдановіч», ідэя якой узнікала і акрэслівалася ў двух месцах аднайчасова: у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя» (дзе працаваў яшчэ адзін энцыклапедыст — Янка Саламевіч) і ў той жа Лясной хатцы.

Сталася так, што мемуарыстка засланіла сабой паэтку, аўтарку арыгінальных празаічных імпрэсій, друкаваных яшчэ ў «Нашай ніве» і пазнейшых заходнебеларускіх перыёдыках. Прачытаўшы іх, чалавек з дзвюма вышэйшымі адукацыямі і добрым літаратурным густам Аркадзь Смоліч усклікнуў: «Няхай вам Найвышні дае сілаў! Тое, што робіце і зрабілі вы ў гэты глухі час, доўга памятаць будуць беларусы, для будучыні яно будзе прыкладам».

Прыкра пра гэта гаварыць, але ўдзячнай памяці, у якой быў так упэўнены аўтар першай геаграфіі Беларусі, хапіла толькі на тоненькую, з выгляду як вучнёўскі сшытак, кніжачку «Каласкі», якая выйшла ў свет у 1985 годзе, прынёсшы мала радасці пісьменніцы. Праўда, яе тут жа прынялі ў Саюз пісьменнікаў, прызначылі пенсію, прапанавалі рыхтаваць другую кнігу.

Але замест яе Зоська Верас падрыхтавала кнігу Фабіяна Шантыра — свайго першага мужа, таленавітага публіцыста, расстралянага бальшавікамі яшчэ ў 1920 годзе... У выніку ні Шантыр, ні Зоська Верас у менскія выдавецкія планы больш не траплялі. Пражыўшы без малога цэлае стагоддзе, яна так і адышла ў лепшы свет аўтаркай адзінай, замаскаванай у выдавецтве «Юнацтва» пад дзіцячую, кніжкі. І гэта пры тым, што пісала, пакуль бачылі вочы. Ужо на самым схіле жыцця імкнулася дагаварыць недагаворанае, дапісаць недапісанае. Амаль страціўшы зрок, на адмыслова разлінееных аркушах,

звяртаючыся да аднаго з сяброў, навослеп выводзіла: «Чуюся вельмі дрэнна, але стараюся яшчэ сёе-тое зрабіць, пакуль рука пяро трымае».

Мала хто з беларускіх літаратараў так напоўніцу адпрацаваў дадзены яму звыш талент. Самаахвярна, з пачуццём адказнасці перад будучыняй. Зоська Верас і тут паказала прыклад. У дзевяноста чатыры гады яна яшчэ пісала праніклёныя элегічныя вершы!

Людская ўдзячнасць нярэдка позніцца, але момант ісціны позна ці рана абавязкова настае. Такім момантам ісціны ў адносінах да Зоські Верас бачыцца мне вялікі том яе спадчыны, выдадзены ў серыі «Гарадзенская бібліятэка» ў 2013 годзе. З'явіліся водгукі ў друку, пра пісьменніцу ці не ўпершыню загаварылі як пра самадастатковую фігуру на айчынным Парнасе. Тэлеканал «Белсат» зняў пра Зоську Верас, асабліва не трывожачы ценяў яе вялікіх сучаснікаў, дакументальны фільм.

Са здымачнай групай мы наведалі тады дзве дарагія для гераіні фільма мясціны: фальварак Альхоўнікі, што на паўдарозе паміж Гродняй і Беластокам, і той Панарскі лясок, які на віленскіх мапах чамусьці пазначаны як вуліца Рэвоню. У Альхоўніках Людвіка Сівіцкая (дзявочае імя Зоські Верас; па мужу — Войцік) засынала малою пад беларускія калыханкі, прачыналася дзяўчынай пад выбухі Першай сусветнай, там яна гадавала свайго першынца Антося, адтуль выхапіў яе і панёс у шырокі свет вір імклівага грамадскага жыцця. А Панарскі лес, затулены ад гаманлівага горада прыўзнятым каўняром чыгункі, стаў зацішнай прыстанню, дзе добра думалася і пісалася без агляднкі на ідэалагічныя павевы, ад якіх пісьменніку за савецкім часам схавацца было няпроста.

У замежных Альхоўніках з захаванымі старымі будынкамі акурат рыхталіся да жніва, там дбайна гаспадарыў фермер і пчаляр Рыгор Кульмачэўскі — праўнук Антона Кульмача, які амаль сто гадоў таму набыў фальварак у Сівіцкіх. За мураванай стадолай у расквітнелай грэчцы гула шматвуллёвая пасека. (Вось бы парадавалася колішняя рэдактарка часопіса «Беларуская борць» і заснавальніца таварыства «Пчала»!)

А ў такім жа замежным (толькі за другой мяжой) Панарскім лесе мы ледзьве адшукалі тую мясціну, дзе калісьці стаяла Лясная хатка. Яна згарэла ў 1990 годзе, калі гаспадыня ў ёй ужо не жыла, мы пра гэта ведалі, але каб так змяніўся памятны для многіх ландшафт! Здзічэлы, змізарнелы сад, паляна перад хатай, ледзь бачныя пад крушнямі закуранай цэглы падмуркі — усё было захоплена лесам. Самотныя яблыні частавалі нас гаркаватымі яблыкамі, колішняга падворка было не пазнаць, перыметр хаты (якой прасторнай яна здавалася мне ў 1987 годзе!) пад наступам змрочных ялінаў сціснуўся і выглядаў нерэальна маленькім. А прайшло ўсяго нейкіх дваццаць пяць гадоў...

Стоячы на парэштках ганка, я пераказаў сваім спадарожнікам баладу Бертольда Брэхта «Пра людзей Картэса», у якой па-майстэрску апісана, як густы паўднёваамерыканскі лес за ноч захапіў у палон і праглынуў, як кіт Іону, цэлую экспедыцыю іспанскіх каланізатараў. Запозна спахапіўшыся, яны не паспелі прасекчы выйсце ў наступаючай з усіх бакоў мярэжы галінаў...

Так, любы лес (лацінаамерыканская сельва ці беларускі мяшаны) — захопнік, ён не любіць пустэчы. І што яму з таго, што пад той секвояй спыняўся Картэс, пад тым дубам начаваў Гедымін, у тым хвойніку чытаў вершы Адам Міцкевіч, а ў той лагчыне стаяла хатка Зоські Верас? Ён шматствольна і рашуча ідзе ў наступ, пашыраючы сваю жыццёвую прастору.

Адзняты відэаматэрыял ужо мантажаваўся, калі спатрэбіўся нейкі вобраз, які перадаваў бы галоўную сутнасць гераіні фільма. Кадры з ім і мусілі пачынаць стужку. І неяк сам па сабе ў нашай калектыўнай памяці праявіўся вобраз пчалы. Курсы пчалярства, пасека ў Альхоўніках (дзядоўскіх і сучасных), таварыства «Пчала», часопіс «Беларуская борць», кніжка «Мёдадайныя расліны», выдадзеная ў міжваеннай Вільні... Пчаліны рой трапіў нават на экслібрыс Зоські Верас!

І самае галоўнае — яна ўсё жыццё працавала, як тая пчала, у поце чала свайго. Дабрачынна і самаахвярна, без гарантаваных заробкаў і ўласцівых творчым людзям амбіцый. Чорнарабочай

беларускай культуры назваў яе ў белсатаўскім фільме Арсень Ліс, чыё маленства было асветленае верасаўскай «Заранкай».

За чатырыста з гакам гадоў да тае яснай «Заранкі» над Вільняй узышло сонца маладзіковае Францішка Скарыны. Калі нашаму слаўнаму першадрукару ў прадмове да кнігі «Юдзіф» спатрэбіўся вобраз-сімвал адданасці роднаму краю, ён таксама ўзгадаў пчолаў, што бароняць вуллі свае. Думаецца, нездарма ў той прадмове сказана: птушкі ведаюць гнёзды свае, рыбы адчуваюць віры свае, а пчолы свае вуллі — бароняць.

Зоська Верас — яшчэ і бараніла. Цягам амаль цэлага ваяўнічага XX стагоддзя. І за гэта мы ёй у стагоддзі XXI павінны *і за гарою пакланіцца*. Так, паводле народнай мудрасці, выяўляецца найвялікшая людская ўдзячнасць. Аўтарка гэтай кнігі такую ўдзячнасць, без сумневу, заслужыла.

*2013, 2015*

# З РАБРА БЕЛАРУСКАЙ ВЯРБЫ

У юбілейным 2010-м, калі адзначаліся 100-я ўгодкі Ларысы Геніюш, у менскай сядзібе ТБМ імя Францішка Скарыны прайшла вечарына памяці паэткі. Адметная яна была тым, што прысутныя на вечарыне вядомыя людзі (пісьменнікі, мастакі, гісторыкі) чыталі невядомыя, не публікаваныя раней геніюшаўскія вершы. Выцягнутыя незадоўга перад гэтым са шматгадовай архіўнай цішы, яны першапублікаваліся галасамі, прыходзілі ў свет духам, а не літарай.

Вершаў пятнаццаць тады прагучала — пазней чытачы сустрэліся з імі на старонках геніюшаўскага двухтомніка, з якім паспела да юбілею выдавецтва «Лімарыус».

Пасля чытання я папрасіў удзельнікаў проста на аркушах з вершамі запісаць сваё ўражанне пра толькі што агучаны твор ці кароткую подумку пра яго аўтарку. У гамане і мітусні не ўсе здолелі выканаць просьбу, але напісанае — засталося. Экспромты, вядома ж. Але хіба тэкст, занатаваны похапкам, саступае па шчырасці напісанаму пасля працяглых разважанняў? Хутчэй наадварот. Зрэшты, у кожнага творцы свае спавядальні, і лепей туды без пільнай патрэбы не лезці.

Памятаю, з якім хваляваннем на той вечарыне чытаў верш «Хрыстос васкрос, і свет прачнуўся...» мастак Аляксей Марачкін. Імпрэза адбывалася акурат на Звеставанне, і гэта стварала адпаведны ўзнёслы настрой у цеснаватай зале. А пад вершам чытальнік напісаў: «Ларыса Геніюш — наша Жанна д’Арк. Яна патрабавала ад нас, сваіх сяброў, быць свабоднымі. Яна жывіла нас энергетыкай супраціву, каб мы супрацьстаялі цемры, падману і здрадніцтву. Яна і сёння ў Беларусі самая актуальная паэтка».

Гісторык Міхась Чарняўскі выбраў для чытання верш на гістарычную тэму: «Топчуцца коні тэўтонаў па землях адвечных прусаў...» Хоць якія там тэўтоны з прусамі — алегорыя верша відавочная, таму і не аддавала яго аўтарка ў друк, таму і праляжаў ён у архіве амаль паўстагоддзя. Блізкі сябра паэткі

і публікатар яе знакамітай «Споведзі» на палях верша напісаў коратка і ясна: «Да спасціжэння Ларысы Геніюш нам яшчэ ісці ды ісці. Дойдзем да Геніюш — дойдзем да Беларусі».

Паэт Васіль Зуёнак агучыў на вечарыне верш «Лёг світаннем на стол позні ранак барвовы...», а водгук свой разгарнуў у цэлае міні-эсэ, згадаўшы другую, таксама ж доўгія гады апальную, паэтку: «“Калі б вы зналі...” — споведна прызналася аднойчы Ганна Ахматава. І кожны раз, калі я кранаюся душой паэтычных радкоў Ларысы Геніюш, хочацца ўсклікнуць таксама: “Калі б вы зналі, з чаго нараджаліся яе вершы!” Яна сама расказала аб гэтым у сваёй вялікай — перад Богам і людзьмі — “Споведзі”. І расказалі аб тым, расказваюць і расказваць будуць сведкі гэтай споведзі — вершы. Няйначай сам лёс дыктаваў радкі непакоры паэтычнай музе Ларысы Геніюш. Яны абедзве — і Геніюш, і Ахматава — ніколі духам сваім не былі вязнямі. Яны паўставалі трыумфатарамі, пераможцамі над светам цемрашалаў і катаў».

Тры водгукі (а можна было б прывесці і больш) — і ў кожным удзячнасць чытача, суайчынніка, нашчадка. Кніга «Духу магутныя чары: Ларыса Геніюш ва ўспамінах, лістах і архіўных матэрыялах», што выйшла ў слыннай серыі «Беларуская мемуарная бібліятэка», — таксама найперш праява людской удзячнасці, бо менавіта ўдзячнасці ў ёй найбольш — і ў пасмяротных згадках, і ў прыжыццёвых лістах. Успаміны Рыгора Барадуліна, Адама Мальдзіса, Масея Сяднёва, Паўліны Мядзёлкі, Міхася Чарняўскага, Вольгі Іпатавай, Зянона Пазняка, Аляксея Марачкіна, Дануты Бічэль, Уладзіміра Арлова ўжо друкаваліся ў першым на Беларусі «персанальным» біяграфічным альманаху «Асоба і час» (№ 3), а чатырнаццаць аўтараў прыгадалі той даўні ўжо час адмыслова для новай кнігі. Сярод іх вільнянка Леакадзія Шышэя (была з Ларысай Геніюш у адным лагеры ў Комі АССР), зэльвянка Яніна Шматко (запісала галасы зэльвенскіх знаёмых паэткі), мастак Уладзімір Басалыга (аздабляў зборнік паэткі «Невадам з Нёмана»)...

У эпісталярнай частцы кнігі — таксама людская ўдзячнасць. Чытаючы яе, разумееш, чаму нешматслоўны і дакладны ў выказваннях Міхась Стральцоў назваў лісты «ашчадкніж-

камі дружбы». Асабліва гэта тычыцца архіўных лістоў, якія доўга праляжалі «на дэпазітах» і ад гэтага сталі яшчэ больш каштоўнымі.

Львавянка Аксана Сенатовіч у сваіх пасланнях у Зэльву сярод іншага дзякавала беларускай паэтцы за «спогады» аб пражскіх украінцах. Былы гулагавец Мікола Канаш — за вершы, што дапамагалі выжыць на «беласмертнай поўначы». А поўны вялікіх задум трыццаціпяцігадовы Уладзімір Караткевіч — за цяпло і беларускі дух зэльвенскай хаты, дзе ён «моцна адагрэўся душою».

Бываючы ў Зэльве, стараюся і я не мінаць тае хаты — на былой Царкоўнай вуліцы, колішняй Юзафа Пілсудскага, сённяшняй Савецкай, у будучыні (хочацца спадзявацца!) — імя Ларысы Геніюш. Збудаваная ў далёкім 1895 годзе, яна цудам ацалела ў міжваенным пажары, выстаяла пад бомбамі Другой сусветнай, каб улетку 1956-га прытуліць Ларысу Антонаўну і Івана Пятровіча, якія вярнуліся з савецкай няволі. За сто дваццаць гадоў неаднойчы перабудаваная, яна і да гэтай пары ўсё ж тоіць у сабе патаемны дух даўніны і, здаецца, гатовая адгукнуцца на покліч сваёй былой гаспадыні: «О сям'я Генюшоў, блаславёная хата!»

Ці не ўсе аўтары кнігі «Духу магутныя чары...» пабывалі ў той «блаславёнай хаце». Ехалі ў Зэльву і тыя, каму проста бракавала дазволенай бээсэсэраўскай беларушчыны, якую ўлада старанна лімітавала, пачынаючы ад дзіцячага садка і заканчваючы сталічнымі тэатрамі ці музеямі. З тае «блаславёнай хаты» згаданы ўжо Міхась Чарняўскі выносіў пад покрывам ночы рукапіс «Споведзі» і дзеля засцярогі ад чужых вачэй даваў кругаля праз стары мост над Зэльвянкай і зарэчны лес. З той хаты ў 1971 годзе Васіль Быкаў вывез яшчэ адзін смелы па тым часе тэкст, пасля прачытання якога можна было падумаць, што ў ціхамірнай Зэльве выспявае антысавецкае паўстанне, падбухторшчыкамі якога выступаюць... намеснік рэдактара мясцовай газеты і дэпутатка пасялковага Савета, якія (так, прынамсі, выглядала) паставілі свае подпісы пад артыкулам, дзе крытыкавалася нацыянальная палітыка ЦК КПБ. Той напісаны, як падаецца, самой Ларысай Геніюш ар-

тыкул пад назвай «Ці наступіць гэты доўгачаканы рашучы паварот?» (ён змешчаны ў раздзеле «Dubia») Быкаў тады ж, падалей ад ліхіх вачэй, перадаў на захаванне Нілу Гілевічу, а народны паэт (праз сорак з гакам гадоў!) уручыў аўтару гэтых радкоў — для публікацыі.

Адзін з карэспандэнтаў паэткі, мовазнавец Фёдар Янкоўскі ўспамінаў, як аднойчы ў правінцыйнай кнігарні набыў адразу 11 кніг «На чабары настоена» і пасля з радасцю дарыў іх сябрам. Быў распаўсюднікам Слова Ларысы Геніюш. Відаць, не памылюся, калі скажу, што і ўсе аўтары кнігі «Духу магутныя чары...», каму пашчасціла пры жыцці ведаць паэтку (а іх ажно 64!), таксама неслі ў беларускі свет тое духаўздымнае Слова. А часам і цярпелі за яго, рызыкавалі за яго сваёй свабодай ці кавалкам хлеба, цярпліва перахоўвалі да лепшых часоў. І тут ужо сваю ўдзячнасць мусім выказаць ім мы — чытачы гэтай кнігі.

Сярод архіўных знаходак, якія трапілі ў кнігу, не выпадае абмінуць увагай і перапіску Ларысы Геніюш з Канстанцінам Езавітавым. Датуецца яна 1943 годам, калі паэтка ўжо была аўтаркай вядомай сярод беларусаў на чужыне кнігі «Ад родных ніў». Энергічны Езавітаў адным з першых ацаніў талент Геніюш, настойліва рэкамендаваў яе вершы кампазітару Аляксею Туранкову, паэтцы раіў засесці за напісанне гістарычнай паэмы, распаўсюджваў, дзе толькі мог, немалы наклад кнігі (найперш рупіўся, каб як мага больш асобнікаў трапіла ў беларускія школы). А адзін з лістоў закончыў шчырым сяброўскім заклікам: «На той зямлі, дзе мы праводзілі першую баразну, зараз Вы мусіце сеяць. Сейце, мая даражэнькая, сейце лепшае, што знойдзецца ў Вашым сэрцы. Сейце зярняткі ўсхожыя, каб зарунела і закаласавала як найхутчэй, як найбуйней!»

На жаль, час для сяўбы быў неспрыяльны. Усяго праз два гады савецкія спецслужбы схопяць Езавітава і вывезуць у Мінск, дзе ён і загіне ў турэмных засценках. Тады ж пачнецца паляванне і на Ларысу Геніюш, якую, урэшце, не абароніць і спехам прынятае чэхаславацкае грамадзянства...

Чытаеш кнігу «Духу магутныя чары...», і міжволі прыгадваецца апавяданне «Цуды ў хаціне» Янкі Брыля. Бо і ў зэльвен-

скай хаце адбываліся цуды. І найпершы з іх — цуд пасвячэння ў беларусы, калі наведнік пасля гутаркі з Ларысай Антонаўнай выходзіў на вуліцу чалавекам іншай якасці. А хіба не цуд тое нацыянальнае яднанне, якое здаралася на Геніюшавых шматлюдных днях народзінаў, ці той факт, што аднойчы пасля пабыўкі ў Зэльве гісторык Мікола Ермаловіч пачаў пісаць вершы? Таленавіты са школьнай лаўкі Алесь Разанаў пісаў іх і раней, але сустрэчу з Геніюш таксама запомніў на ўсё жыццё — энергетыка яе была настолькі адчувальнай, што ён мусіў перапыніць размову. Сучасныя парапсіхолагі, магчыма, вытлумачаць гэта фенаменальным біяполем ці чымсьці яшчэ, але нас у дадзеным выпадку цікавіць найперш сама з'ява.

Феномену Ларысы Геніюш, яго паходжанню і станаўленню прысвечана ўжо нямала розных па якасці тэкстаў, у будучай Беларусі ім зацікавяцца новыя пакаленні даследчыкаў, якія зададуцца «гарэцкаўскім» пытаннем — што яно?

І сапраўды, усё з нечага ўзнікае, усё ў нешта вытлумачальна пераходзіць: смала-жывіца — у каштоўны бурштын, пясчынка на дне марскім — у бліскучую перліну, жоўты пясочак — у празрыстае шкло...

У чалавека, як істоты адушаўлёнай, паходжанне больш складанае, яго самае разгалістае радаводнае дрэва не ахопіць. Як не здолее прадпісаць самы ганаровы гербоўнік ступень годнасці для паэта. Вось які «радавод» — па мячы і па кудзелі — вызначыла сама для сябе Ларыса Геніюш:

З беларускай учэпістай гліны
І з рабра прынямонскіх вярбін,
Я галінка ля белага тыну
Незабыўных адвечных святынь.

З гліны Бог стварыў першачалавека Адама, з ягонага рабра — Еву. У радках паэткі біблейская гісторыя перамяшалася з канкрэтна-быццёвай, гліна месапатамская — з глінай беларускай, прынямонская вярба перагукнулася з лацінскім verba (слова). Дарэчы, вярба, паводле падлікаў даследчыкаў, часцей за іншыя дрэвы называецца ў беларускай паэзіі. Самае

непераборлівае і вытрывалае дрэва — дзе ў зямлю ні ўткнеш, там і вырасце.

Вярба, што аддала сваё рабро для містычнага акта паэтатварэння, і сёння паўсюдна расце на Зэльвеншчыне. Яна прарасла ўжо і ў свет святочна-сакральны, хто ж не ведае прыказкі-прыпеўкі: «Не я б'ю — вярба б'е, праз тыдзень — Вялікдзень...»

У сувязі з гэтым як не прыгадаць і гісторыю будзённа-празаічную? Неяк папрасіла мяне маці прыехаць і пасекчы на дровы спілаваныя дарожнікамі ўзбоч вясновай вясковай вуліцы вербы. Цэлае лета прыехаць не выпадала, а пад самую восень падышоў я з сякерай да курганка напілаваных калодак і — сумеўся. Даўжынёй усяго па локцю, бязлітасна і канчаткова адарваныя ад пажыўнай зямлі, яны павыганялі да сонца метровыя парасткі! Толькі сваёй унутранай сілай!

Тыя парасткі, што так праглі ўкараніцца ў родную зямлю, я тады перасадзіў з дрывотніка на азёрны бераг. Як яны там пайшлі ў рост — на вачах проста!

Максім Багдановіч «чуў у цішы, як расце трава», а мне хацелася засведчыць, што бачу, як расце вярба...

Паэзія — не скіданае ў стажкі бібліятэк шматкніжжа, не выпадковы збор рыфмаў, эпітэтаў і метафар. У ёй закадаваныя сэнсы, да якіх людзі мусяць прыслухоўвацца і прыглядацца.

Беларуская паэзія падае нам *вярба*-льны знак. І знак гэты адназначна вітальны — мы мусім выжыць, мы павінны расці — сілкуючыся з роднай зямлі ці (на скрайні выпадак) толькі з назапашаных аўтаномных рэсурсаў. Як тая непераборлівая вярба, што расце на голых сухадолах, пры балоце-чароце ці на гліне пры даліне. Расце, каб нехта з паэтаў і ў наступных стагоддзях наўслед за Ларысай Геніюш мог сказаць: *я з рабра беларускай вярбы.*

І будуць вербы шумець каля грэблі, і пад вярбой дзяўчына мыцьме ручнікі, і на перадвелікодную Вербніцу нас — так небалюча-ласкава — будзе біць тая вярба... Жыццялюбна-неўміручая, як і яе спаконвечны сузямельнік — беларускі народ.

*2015*

# ЁЙ ДАДЗЕНА БЫЛО ПЕРАМАГЧЫ

Дзіўныя рэчы часам адбываюцца пад сонцам. Бывае, паэт са скуры вылузваецца, каб займець прыжыццёвы помнік-шматтомнік, каб атрымаць прэмію, ордэн ці званне ад дзяржавы, каб трапіць у школьныя праграмы ці на тэлеэкран. І ўсё гэта (ці амаль усё) яму нярэдка ўдаецца, і чуе ён вакол сябе непрытоеныя воклічы захаплення, і бачыць адпаведную свайму становішчу пашану. А завугольныя зайздрослівыя перашэпты яшчэ больш падкідваюць саломы ў вогнішча ягонай славы.

Ды няўстойлівая яна, прыжыццёвая слава. Вогнішча, падкормленае саломай, гарыць высока і ярка, але хутка ападае агонь, датляваюць вуглі, прыцьмявае і халаднее прысак. А ў халодным прыску нават бульбы не спячэш.

А бывае наадварот. Паэт пры жыцці не самаўздымаецца на катурны, не чакае на калятронным зэдліку ласкі ад улады, не складае ёй одаў, не пнецца ні ў слугі народа, ні ў валадары думаў народных. Жыве годна, праўдзіва і сумленна, нібы маючы перад сабою накрэслены кімсьці звыш шлях.

Так пражыла сваё зямное жыццё Ларыса Геніюш. З яе зэльвенскай старасвецкай хаты не наладжваліся наўпроставыя радыётрансляцыі, практыкаваныя яшчэ ў 20-я гады савецкай уладай да прыручаных паэтаў, да яе не напрошваліся на гутарку журналісты (Ларыса Антонаўна за сваё жыццё не дала аніводнага інтэрв'ю), у гонар яе не гучалі фанфары ў публічных месцах.

Зрэшты, дзяржаўнай увагай паэтка ўсё ж не была абыдзеная. Улада па-свойму адзначыла яе заслугі перад радзімай — 25 гадамі ГУЛага, чвэрцьстагоддзем пакутаў на «беласмертнай Поўначы». Што ж, паводле вечнай іерархіі хрысціянскіх каштоўнасцяў — гэта вышэй за ўсе прэміі і званні, разам узятыя. Бо толькі дух чалавечы, прайшоўшы праз усе выпрабаванні, вытрымаўшы іх і загартаваўшыся імі, мае права сам-насам сумаўляцца з вечнасцю. Так што падзякуем той, *чужой*, няіснай

ужо, дзяржаве за неабыякавасць да *нашай* паэткі, за своечасова *ацэнены* яе літаратурны і грамадзянскі чын.

Пасмяротная слава паэтаў — з'ява куды больш доўгатрывалая і надзейная. Праўда, прыходзіць яна ў розны час, калі палічыць патрэбным. І рухаецца, як правіла, знізу ўверх. Смерць Пушкіна ўжо ўскалыхнула палову Расіі, а фанабэрысты чыноўнік з цэнзурнага камітэта не пасаромеўся ўчыніць разнос рэдактару газеты, якая надрукавала некралог, дзе гаварылася пра веліч здзейсненага вялікім паэтам.

Смешна і нібыта недарэчна параўноўваць чыноўніка, прыналежнага да імператарскага двара, і чыноўніка савецкага, які займаўся цэнзурнымі справамі ў Зэльвенскім райвыканкаме. Але выканалі яны падобныя функцыі. Некралог па Ларысе Геніюш у зэльвенскай раёнцы таксама выклікаў чыноўніцкі гнеў. І адбылося гэта пасля таго, як пасмяротная слава паэткі ўжо закружыла над прыціхлаю Зэльвай, паказаўшы і мястэчку, і ўсёй Беларусі, каго яна абірае для сумоўя з вечнасцю.

Для мяне і сёння загадка, як у 1983 годзе, пры моцнай яшчэ савецкай уладзе, у савецкім запалоханым і дарэшты падкантрольным гарадку тысячы савецкіх людзей прыйшлі на вуліцу Савецкую, каб правесці ў апошні шлях несавецкую паэтку. Яны прыйшлі, як на маўклівую маніфестацыю, перамогшы страх, усім сваім выглядам нібы пацвярджаючы словы нябожчыцы: «Мы вам не племя слугаў, мы — народ!»

З тых красавіцкіх дзён прайшло ўжо амаль тры дзесяцігоддзі. За гэты час чаго толькі не адбылося на белым свеце! Знікла кіроўная і адзінаправільная партыя, распалася велізарная імперыя, БССР перайменавалася ў Рэспубліку Беларусь, якая займела ўсе атрыбуты дзяржаўнасці ўлучна з пасадай прэзідэнта... Але — па вялікім рахунку — нічога не змянілася, і час нібы закансерваваўся на вуліцы Савецкай у Зэльве. Спытайцеся ў мясцовага чыноўніка пра Ларысу Геніюш — і пачуеце звыклае, сто разоў тут моўленае і чутае: «Не паложана»... А што і куды павінна быць «паложана» — не ведаюць чыноўнікі ні ў Зэльве, ні ў Гародні, ні ў Менску.

І ці ўведаюць калі... Дзесяць гадоў стукаючыся ў высокія дзяржаўныя кабінеты наконт рэабілітацыі паэткі ці чарго-

вых Геніюшаўскіх чытанняў, я нарэшце зразумеў адну рэч і перастаў стукацца. Па адносінах улады да Ларысы Геніюш можна вызначыць характар гэтай самай улады. Геніюш для яе непрымальная? Значыць, улада гэтая антынацыянальная ў сваёй сутнасці, якія б там заклікі «За Беларусь!» ёю ні прагалошваліся. І наадварот, я ў гэтым перакананы, адным з першых крокаў сапраўды беларускай улады стане рэабілітацыя Ларысы Геніюш і належнае ўшанаванне яе памяці. А пакуль тое не адбылося, не адбылася і Рэспубліка Беларусь як нацыянальная дзяржава, і неістотна, пад якія гімны мы ўстаем і пад якія калыханкі кладземся.

У Бога народаў многа, але на кожнага хапае найвышэйшай апекі. Таму ў цяжкую для народа часіну Бог пасылае пасіянарных асобаў, якія здольныя абудзіць, раскатурхаць, вывесці яго са стану нацыянальнага здранцвення. У 1840 годзе Бог паслаў беларусам Багушэвіча — каб не ўмёрлі. І яны не ўмёрлі. Праз два пакаленні Бог паслаў Францішку ў помач Купалу з Коласам — з цэлым народам гутарку весці, а дакладней — выкласці перад народам цэлую нацыянальную праграму. І яны выклалі — найперш праз газету «Наша Ніва». Наступным пасланцом Божай пасіянарнай дружыны стаў Максім Багдановіч, чыё прозвішча наўпрост паказвала, кім ён пасланы-дадзены. Здавалася б, на мяжы неспакойных стагоддзяў, калі зямля пад нагамі захадзіла, ужо ніхто не засне, абуджэнне пяройдзе ў адраджэнне, а адраджэнне — у нармальнае жыццё. Але абуджаныя беларусы адрадзіцца не паспелі. Давялося Богу і ў ХХ стагоддзі паўтараць свой пасіянарны дэсант на Беларусь.

Калі чытаеш першыя старонкі аўтабіяграфічнай «Споведзі» Ларысы Геніюш (а нарадзілася яна паводле новага стылю 9 жніўня 1910 года ў фальварку Жлобаўцы на Ваўкавышчыне), то міжволі складваецца ўражанне, што прыйшла яна ў гэты свет з нейкім заданнем, з пэўнай высокай будзіцельскай місіяй. «Народ ляжаў бяздзейнай і бяспраўнай палітычнай масай... Я нарадзілася такой, ад пялюшак ужо прасякнутай усім, што наша, з болем і прагай змагання».

Нарадзілася, прыкмецім гэта, Міклашавічанкай, і дзед яе — Павел Міклашэвіч, і бацька — Антон Міклашэвіч, працавалі на зямлі і мелі гэтай самай зямлі шмат. Але не жыта жаць і не снапы ў мэндлікі ставіць наканавана было Ларысе, і па Божай волі яна разам з мужам атрымлівае прозвішча Геніюш (у перакладзе з лацінскай — дух-ахоўнік). Са Жлобаўцаў пераязджае ў Зэльву, і пра што з маладой нявесткай, выпускніцай польскай гімназіі, гаворыць яе свёкар, дабрэйшай душы чалавек Пятро Станіслававіч Геніюш? Пра Полацкае княства і пра тое, ці ўтрымаецца Беларусь, калі стане незалежнай. А якія кнігі падсоўвае сваёй каханай жоначцы пражскі студэнт Янка Геніюш? «Шляхам жыцця» Янкі Купалы. Нібы эстафетную палачку — ад будзіцеля будзіцелю. І што тут выпадковае, а што прадвызначанае?..

Дарэчы, у Геніюш з Купалам не ўсё было гладка. Не як у вучаніцы-наступніцы з настаўнікам-папярэднікам. Былі прэтэнзіі светапогляднага характару. У адным з вершаў, папракнуўшы Купалу ў празмернай плаксівасці, што выглядала як выклік і парушэнне ўсіх субардынацый, Геніюш усё ж не магла парушыць субардынацыю любові, нават калі просталінейна заяўляла: «Я змалку прывыкла дастойна ісці, / і я не заплачу з табою. / Мне — іншая доля ў нялёгкім жыцці, / Купала каханы, я — з бою!»

Вось такія разыходжанні і прызнанні ў любові. Ларысе Геніюш бракавала «бою» не толькі ў творчасці Купалы. За адсутнасць пратэсту яна не прымала паэзію Уладзіміра Дубоўкі. Патрабавала рашучасці ад літаратуразнаўцы Міколы Прашковіча, а за кожны кампрамісны крок выгаворвала яму як апошняму адступніку. Папракала Янку Брыля за пасіўнасць ягонага героя Алеся Руневіча з «Птушак і гнёздаў»...

З Янкам Брылём адносна Ларысы Геніюш у мяне аднойчы невялічкая спрэчка адбылася. Загаварылі пра нашых паэтак, і шаноўны Іван Антонавіч назваў тры з іх — Ніну Мацяш, Наталлю Арсенневу і Ларысу Геніюш (менавіта ў такой паслядоўнасці). Паслядоўнасць гэтую мне і захацелася перайначыць, і тут я пачуў, што Ларысу Геніюш у вачах чытачоў узвышае ГУЛаг, а пісаць яна магла б і лепш.

Я зрабіў выгляд, што пагадзіўся, і тут жа запытаўся: «Іван Антонавіч, а якая самая высокая гара ў свеце?» Здзіўлены раптоўным пераходам ад літаратуры да геаграфіі, Брыль не адразу назваў Джамалунгму, патлумачыўшы заадно, дзе той Непал знаходзіцца. Мне стала трохі няёмка, але мусіў дагаворваць да канца: «Не, Іван Антонавіч, самая высокая гара ў свеце — Галгофа». — «Ну, калі ў такім сэнсе», — лагодна ўсміхнуўся атэіст Брыль.

Галгофа сапраўды ўзвышае. Што праўда, ва ўсе часы былі аматары ўплятаць дэкаратыўныя церні ў свае лаўравыя вянкі. Таму і аблаўраны паэт часам выглядаў бутафорна, хоць вазьмі і сашчыкні лісток-другі на кухонную прыправу.

У ГУЛагу цеплалюбны лаўр не рос, а вось з тысячаў кіламетраў калючага дроту можна было звіць мільёны церневых вянкоў.

Крыжовы шлях Ларысы Геніюш цягнуўся восем доўгіх гадоў. Тыя, хто адпраўляў яе на пакуты, думалі, што перамога за імі. Але яны памыліліся. Гэтую жанчыну перамагчы было немагчыма. У пераможцах заўсёды заставалася яна.

Гестапаўцы ў 1942 годзе, пасля выхаду ў свет зборніка «Ад родных ніў», так і не дамагліся ад яе паэтычных дыфірамбаў фюрару. Хоць і пагражалі Асвенцімам.

Галоўны гэбіст БССР Цанава ў сутарэннях менскай «амерыканкі» восенню 1948-га так і не даведаўся ад яе, дзе архівы БНР.

Вярхоўны суд у 1949-м так і не пачуў ад яе прызнання віны і пакаяння.

Усе лагерныя дзяржыморды, як ні стараліся, не паставілі яе на калені.

ЦК КПБ так і не прымусіў яе прыняць савецкае грамадзянства.

Атэістычная ўлада не змагла адабраць у яе веры ў Бога.

Татальная русіфікацыя не заглушыла на яе вуснах беларускай мовы.

Цэнзура была змушаная прапускаць яе вершы ў друк...

Ларысе Геніюш дадзена было перамагчы. І яна — з гледзішча вечнасці — перамагла. І як жа памыляецца той, хто і сён-

ня лічыць яе пераможанай і самаўпэўнена заяўляе з экрана БТ, што ён, ці бачыце, разабраўся з Геніюш! Ларыса Геніюш пераможа і яго. Не дапаможа і дасье, сфабрыкаванае на паэтку службістамі Цанавы і схаванае за сямю замкамі ў іхнім сумнавядомым ведамстве.

Увогуле, усе партыйныя сакратары, фюрары і прэзідэнты павінны ведаць, што вайна з пісьменнікамі, з літаратурай бессэнсоўная. Ваяваць з літаратурай — як страляць з рагаткі па зорках. І ўсё ж знаходзяцца аматары паваяваць. Хто з рагаткай, хто з рагацінай. Не навучыла іх савецкае мінулае рабіць высновы з ранейшых памылак. Для такіх Ларыса Геніюш прыдумала трапнае слова — сталіназаўры. Што ж, з усёй пароды выкапнёвых яны аказаліся самыя жывучыя. Але і сталіназаўры вымруць...

У савецкай Беларусі з Ларысы Геніюш імкнуліся зрабіць этнаграфічную паэтку. Крытыкі хвалілі яе паэму «Куфар», дзе сапраўды па-майстэрску ўслаўлялася спрадвечнае рамяство жанчыны-ткаллі. Але Геніюш не была этнаграфічнай паэткай. Кажучы фігуральна, у яе «куфры», прыхаваным ад празмерна цікаўных вачэй, маглі «ляжаць» іншыя скарбы, якія і будзілі творчую фантазію паэткі.

На дне таго куфра мне бачыцца тастамент старшыні Рады БНР Васіля Захаркі ад 6 сакавіка 1943 года, паводле якога Ларыса Геніюш станавілася сакратаром беларускага ўрада на выгнанні.

Там магла зберагацца самаробная паштоўка з Пагоняй, перавітая бел-чырвона-белай стужкай, якою павіншавалі Ларысу Геніюш сябры ў яшчэ гулагаўскім 1954-м.

У тым куфры магла зберагацца яе лагерная кашуля з нашытым на спіне арыштанцкім нумарам 0-287 — да таго, як стаць экспанатам у лонданскім Музеі-бібліятэцы імя Скарыны.

Там паэтка магла перахоўваць сваю пражскую кнігу «Ад родных ніў», над старонкамі якой ніякавелі нават спрактыкаваныя спецдаследчыкі ў спецфондах, прачытаўшы, напрыклад, такія радкі: «Нам не страшны сібірскі больш холад, / нам не страшны маскаль альбо лях, / чужы серп не патрэбны, ні молат — / мы разгорнем крывіцкі наш сцяг!».

У прыскрынку таго куфра сярод іншых сямейных дакументаў магла захоўвацца выпіска з пастановы асобнай нарады пры НКВД ад 22 сакавіка 1941 года — аб асуджэнні «сацыяльна небяспечнага элемента» Антона Паўлавіча Міклашэвіча да пяці гадоў выпраўленча-працоўнага лагера. Усю яго сям'ю — па спіску — выслалі ва ўсходнія раёны СССР годам раней — 13 красавіка 1940 года. У тым спіску значыліся імёны маці паэткі — Аляксандры Васільеўны, трох яе братоў — Расціслава, Аляксея і Аркадзя, і трох сясцёр — Ксеніі, Ніны і Людмілы. Была ў спіску і... Ларыса Міклашэвіч, хоць яна на той час ужо два гады як жыла з мужам у Празе. Не дагледзелі пільнавокія і чуйнавухія таварышы — адна з «кулацкіх дачок» не трапіла ў настаўленыя імі сілкі. Ні бацька, ні маці паэткі з высылкі ўжо не вярнуліся. І ў яе, як бачым, быў рэальны шанец пад канвоем пакінуць радзіму яшчэ ў 1940-м...

У тым жа прыскрынку магла чакаць лепшых часоў аўтабіяграфія паэткі пад назвай «Сто ранаў у сэрца», напісаная на просьбу аднаго з менскіх выдавецтваў і забароненая цэнзурай.

Тамсама маглі знаходзіцца сотні і сотні не разлічаных на публікацыю вершаў, з якіх потым складзецца геніюшаўскі архіўны фонд № 31 у Акадэмічнай бібліятэцы.

Больш за дзесяць гадоў працуючы ў тым фондзе, я прыкінуў: нават пасля выхаду ў свет зборніка «Невадам з Нёмана» (1967) у друк праходзіла хіба адна дзясятая частка з таго, што пісалася Ларысай Геніюш. Прычым адабраныя для друку вершы караціліся, падчышчаліся, рэдагаваліся — часам да непазнавальнасці. З таго ж пашматанага цэнзарскімі нажніцамі рукапісу «Невадам з Нёмана» ўрэшце было выкінута 120 радкоў.

Адзін крытык задаўся пытаннем — чаму Ларыса Геніюш пісала словы *Краіна, Край* з вялікай літары? Нібы няма такога правіла ў беларускай граматыцы. У граматыцы няма, але такое правіла дыктаваў паэтцы правапіс сэрца. Гэта быў яе адказ тым, хто прыніжаў Беларусь, цягам стагоддзяў імкнуўся ператварыць яе ў бязмоўную і паслухмяную калонію. Фактычна Беларусь стала незалежнай у 1991 годзе, для паэткі яна была Краінай нават у складзе савецкай імперыі.

«У краіне краіна» — як напісаў адзін украінскі паэт. Кемлівыя рэдактары тут жа папраўвілі: «у краіне раіна» (тапаля). Гэтак пільная цэнзура стаяла на варце цэласнасці Савецкага Саюза. Але ўсачыць за ўсімі іншадумцамі не магла і яна...

Калі ўвесну 1983 года ў лесе пад Зэльвай міліцыянты спынілі «рафік», на якім вывозіўся ў Менск архіў памерлай Ларысы Геніюш, іхнія начальнікі наўрад ці ведалі, што самы крамольны яе твор — «Споведзь» — ужо даўно знаходзіцца ў бяспечным і недасягальным для іх месцы. Пра існаванне «Споведзі» спецслужбы ведалі пэўна — пра мемуары ёсць неаднаразовыя згадкі ў ліставанні паэткі, якое ж, бясспрэчна, перлюстравалася. Тады ў лесеператрусу ці рэквізіцыі архіва ўдалося пазбегнуць — найперш дзякуючы Адаму Восіпавічу Мальдзісу, які, выпраўляючыся ў Зэльву з адказнай місіяй, змог заручыцца падтрымкай у высокіх інстанцыях. Але, відаць, і дасведчанаму Мальдзісу не прыходзіла ў галаву, што адзін з самых каштоўных рукапісаў Ларысы Геніюш улетку 1982-га, пад покрывам ночы, ужо вынес з Зэльвы гісторык Міхась Чарняўскі.

Шкада, што тады ж, яшчэ задоўга да ўсіх перабудоваў і галоснасцяў, ён не пераправіў «Споведзь» на Захад. Сусветны рэзананс на той час ёй быў гарантаваны. І варыянт замежнай публікацыі разглядаўся — з усяго рукапісу былі нават зробленыя фотакопіі. Не сталася, не адбылося. «Споведзь» прыйшла да чытача толькі ў 1990-м, калі былы выгнаннік і дысідэнт Аляксандр Салжаніцын за свой «Архіпелаг ГУЛаг» ужо атрымліваў Дзяржаўную прэмію Расіі...

І ўсё ж той вясновы дзень павінен застацца ў аналах айчыннай архівістыкі. Сем пакаўных мяхоў з геніюшаўскім архівам, літаральна вырваныя з рук зэльвенскіх чыноўнікаў ды іх спецпамагатых, правезеныя праз лясны міліцэйскі заслон, былі ўрэшце дастаўленыя ў Акадэмічную бібліятэку. У яе прытульных сценах некалькім пакаленням геніюшазнаўцаў праца забяспечаная.

О, гэтае ні з чым не зраўнанае, трапяткое пачуццё, калі ты развязваеш тасёмкі чарговай архіўнай справы, адкладаеш убок

чысты ліст карыстальніка (твой подпіс на ім будзе першым) і... Што цябе чакае? Якія знаходкі падаруе табе архіўная схованbudзь гэтым разам? Унікальны дакумент, рэдкі фотаздымак, невядомы твор?

У юбілейным, 2010 года, двухтомніку Ларысы Геніюш 72 вершы былі надрукаваныя ўпершыню. Безумоўна, тое надало вагі першаму збору твораў пісьменніцы. А колькі тамоў будзе ў яе будучым Поўным зборы твораў? Дзесяць, пятнаццаць, дваццаць?.. Спадчына Ларысы Геніюш — як калодзеж: на паверхні толькі некалькі цыбравінаў, астатнія — на глыбіні. І чым глыбей зачэрпнеш, тым чысцейшае і смачнейшае пітво...

«Ганаруся вашай залатой паэтычнай жылачкай», — пісаў у 1967 годзе Ларысе Геніюш літаратурны кансультант «Гродненской правды» Васіль Быкаў, чыя сусветная слава яшчэ толькі замігцела на даляглядзе. Ён ужо тады беспамылкова адчуў тую глыбінную, прыхаваную жылу, якая калісьці будзе духова жывіць суайчыннікаў.

Ларыса Геніюш умела «серед лиха співати пісні», як сказана ў вершы «Contra spem spero!» Лесі Украінкі. Дарэчы, з яе сястрой беларуская паэтка пасябравала ў Празе — некалькі гадоў жылі ў адным доме. Пані Аксана Косач нават перадрукоўвала на сваёй машынцы тастамент Васіля Захаркі, паводле якога яе суседка пераставала быць толькі паэткай і рабілася палітычным дзеячам, хай сабе і ў сімвалічнай Радзе БНР... Невялікая заслуга — спяваць песні ў вясёла-шумлівым застоллі, а вось падтрымаць людзей на духу «серед лиха»... У самы атэістычны час хтосьці з геніюшаўскіх сяброў атрымліваў ліст, а ў ім — промнем святла ў цемры: «Дабро ў жыцці — як перамога / над чорным апрамеццем зла. / Дык будзем жа часцінкай Бога, / Ягонай праўды і святла!» З такімі радкамі ў душы жылося лягчэй.

Напачатку юбілейнага 2010 года ў занесенай снегам вёсачцы пад Беластокам я сустрэўся з унукам Ларысы Геніюш Міхасём. У грубцы патрэсквалі дровы, са сцяны на нас глядзела маладая, у модным капялюшыку, бабуля, а перада мною на стале ляжаў зборнік «На чабары настоена» з яе апошнім

аўтографам: «Адыходзячы пакідаю, Міхасёк, Табе маю любоў і благаслаўленне. Ларыса Геніюш. Гродна, больніца. 22.3.83 г.».

Я спытаўся ў свайго цёзкі — які галоўны жыццёвы ўрок атрымаў ён ад свае бабулі? (Мы запісвалі перадачу для радыё «Свабода», і мне хацелася пачуць нейкі арыгінальны адказ.) Але ў адказе прагучалі два звычайныя словы: бабуля наказвала ўнуку — трымайся праўды!

Праўдзе не патрэбныя пстрычкі парадоксаў.

Праўду не закапаеш і не сашлеш у ГУЛаг.

Ларыса Геніюш перамагла — праўдай.

*2010*

# ТРЫ СЛОВЫ ШЫМБОРСКАЙ

«Пані Віслава», — так у размовах называла яе незабыўная Ніна Мацяш. У кожны мой прыезд у Белаазёрск Шымборска невідочна прысутнічала ў светлай мацяшоўскай кватэры: ці то гаспадыня чытала новыя пераклады, ці то прасіла дастаць з верхняй паліцы кнігу з удзячным аўтографам паэткі-набілянткі, ці то раілася, як лепш аздобіць пёркаграфіяй вокладку яе двухмоўнага зборніка «Chwila» («Хвіля»), які мне ў 2005-м выпала рэдагаваць.

Мне добра помніцца прэзентацыя таго зборніка ў бібліятэцы не забранага яшчэ Дома літаратара, калі людзі стаялі ўздоўж сценаў і дзве гадзіны слухалі паэзію Шымборскай — у арыгінале і па-беларуску. Ніна Мацяш чытала, седзячы ў інвалідным вазку, але якім духаўздымным было тое чытанне! І слухачы пляскалі і патрабавалі чытаць яшчэ, у сваім міжвольным эгаізме забываючы, што перакладчыцу тым вечарам яшчэ чакала няблізкая зваротная дарога на Берасцейшчыну, у Белаазёрск, на вуліцу Леніна.

Тая вуліца Леніна Ніны Мацяш з вышчарбленымі ходнікамі выразна кантраставала з горадам Шымборскай Кракавам, які за стагоддзі не страціў сваёй каралеўскай велічы. Гэтаксама як кантраставалі міжсобку дзве прэміі — уручаная польскай паэтцы Нобелеўская і Дзяржаўная Рэспублікі Беларусь, якую ў самы апошні момант палахлівыя чыноўнікі вырашылі не даваць паэтцы беларускай. Непараўнальна выглядала і сусветная слава пані Віславы, чые вершы вывучаліся ва ўсіх найбуйнейшых універсітэтах свету, у параўнанні з вядомасцю Ніны Мацяш, якая як кіраўніца адной з абласных філіяў незалежнага Саюза пісьменнікаў не мела доступу ні на старонкі афіцыйных выданняў, ні ў дзяржаўны тэле- і радыёэфір.

У чым беларуска не саступала польцы, дык гэта ў чытацкай любові. Перакладчыцу і паэтку Ніну Мацяш у Беларусі любілі як мала каго. У дадатак да згаданай ужо вечарыны менскай мне прыгадваюцца дзве яе аўтарскія сустрэчы ў

Белаазёрску — у мясцовым электрамеханічным каледжы і ў гарадскім Доме культуры, дзе сваю пісьменніцу сышліся паслухаць чалавек шэсцьсот. У 2004 годзе мне давялося браць удзел у кракаўскім паэтычным фестывалі «Наезд паэтаў на сталіцу Пястаў», там таксама паўпустых залаў не было, але ўсё ж параўнанне — не на карысць палякаў. З тае пары помніцца самакрытычнае выказванне аднаго з арганізатараў таго фестываля: «У нас паэтаў любяць пасмяротна — як Міцкевіча».

Думаю, што з Віславай Шымборскай лёс абышоўся куды больш літасціва, чым з аўтарам «Пана Тадэвуша». Яе любілі і шанавалі пры жыцці. Яна прынесла польскай літаратуры чацвёртага Нобеля — пасля Генрыка Сянкевіча, Уладыслава Рэйманта і Чэслава Мілаша. Прэзідэнт Польшчы, ганаруючы яе прэстыжным ордэнам Белага Арла, прызнаў, што менавіта паэзія Шымборскай абудзіла ў паляках падупалы за часы ПНР нацыянальны дух.

Што і казаць, любы нацыянальны дух, абуджаючыся, можа ўпадаць у фанабэрыю, не пазбегнуць іншых хваробаў росту. Шымборска ў падобных выпадках клікала на дапамогу іронію. Вось у адным з вершаў нейкая не вельмі абазнаная ў геаграфіі французжанка тэмпераментна запытваецца: «La Pologne? La Pologne? Там вельмі холадна, праўда?» Сярэднестатыстычны кракавяк ці варшавяк, ведама ж, абурыўся б — як, вы не ведаеце, дзе знаходзіцца Польшча?! А Шымборска вынаходліва падтаквае, нанізваючы адну іранічную гіпербалу на другую: «О пані, маеце рацыю, / паэты майго краю пішуць у пальчатках, / іх вершы складаюцца з суцэльных пахукванняў, / класікі поркаюць чарнільным ледзяшом па прытаптаных гурбах, / а калі хтосьці кагосьці схоча ўтапіць, / то мусіць спачатку сякерай прасекчы палонку...»

Ці не ад гэтых радкоў паэткі адштурхнуўся лонданскі даследчык Арнольд Макмілін, калі назваў сваю гісторыю беларускай літаратуры «Пісанне ў халодным клімаце»? Бо еўрапейскі «полюс холаду» неяк незаўважна перасунуўся ў Беларусь, і беларускім паэтам наўслед за Шымборскай можна смела «засяляць» Нарач і Свіцязь цюленямі, а Белавежу — белымі мядведзямі.

Верш Шымборскай не толькі іранічны. Ён — свабодны і вольны (зрэшты, гэта літаратуразнаўчыя тэрміны). Хутчэй, ён — разняволены наколькі магчыма, ён зазвычай не зашпілены на гузікі рыфмаў, яго не абмяжоўваюць метры і рытмы, у ім логіка часам адступае перад неўтаймоўнай фантазіяй. Вобразы паэткі ўражваюць то сваёй планетарнасцю («Гімалаі — горы ў бегу на Месяц»), то ўцісканнем глобуса ў мапу-міліметроўку, і ўжо «Ціхі акіян слухмяна ўплывае ў рачулку Рудаву», якая, у сваю чаргу, «нядаўна хмурынкай плыла над Парыжам»...

Гісторыя і філасофія — вось два рухавікі паэзіі Віславы Шымборскай. Першая — падкідвае сюжэты, другая — перадумвае іх на свой лад. Але часам бывае дастаткова для чытання і першай часткі верша, асабліва калі вы збіраецеся ў госці і ваша сяброўка прымярае перад люстэркам вечаровую сукенку:

Дэкальтэ паходзіць ад decollo.
Decollo азначае «сцінаю галаву».
Каралева Шатландская Марыя Сцюарт
З'явілася на эшафот у адпаведным строі:
Кашуля выдэкальтаваная была,
Чырвоная, як крываток...

Вергілій вёў героя «Боскай камедыі» кругамі пекла. І чытач Шымборскай часамі апынаецца перад дзвярыма, прыадчыненымі ў страхотлівае XX стагоддзе. Вунь за тымі дзвярыма маленькі Адольфік Шыкльгрубер усміхаецца ў фотакамеру, а за тымі — дзяўчынка Ірма, зачатая на матрацы з чалавечых валасоў, прывезеных з Бухенвальда ці Дахау...

Паэзія Шымборскай пранізаная трагічным неспакоем, часам яна заганяе чытача ў куток сваёй безвыходнасцю. І тады думаеш, што вершы гэтыя маглі б узяць на ўзбраенне прыхільнікі шматкроць прадказанага канца свету. Часам верш ператвараецца ў метафарычны гушчар, праз які прадзіраешся і, знясілены, мусіш спыніцца на сярэдзіне, каб перавесці дых. Тады адчуваеш сябе бездапаможным героем знакамітага брэхтаўскага верша «Пра людзей Картэса», у якім джунглі за ноч праглынулі цэлую экспедыцыю. Зрэшты, гэта толькі маё

суб’ектыўнае ўражанне. Камусьці творчасць польскай паэткі падасца больш жыццялюбнай. Вось жа і Ніна Мацяш, якая перастварыла па-беларуску тры яе кнігі, адчувала ў іх «светлую энергетыку, параўнальную хіба з ціхім чарам пухнатых вярбовых коцікаў, лёгкіх зменлівых аблокаў, з густападным адвольным віраваннем сняжынак».

Восемдзесят восем поўных гадоў адпусціў Бог Віславе Шымборскай. І гэтыя дзве васьмёркі — як знакі бясконцасці яе паэзіі, якую нам спасцігаць і спасцігаць. Ужо без Ніны Мацяш. Яны так і не сустрэліся *тут*, можа быць, сустрэнуцца *там* і як роўня з роўняй паразмаўляюць пра штосьці істотнае — з гледзішча вечнасці.

З нядаўняй паездкі на Гарадзеншчыну я вярнуўся акурат у дзень смерці Віславы Шымборскай. Вярнуўся з неспадзяванай знаходкай дакамп’ютарнай эры — друкаркай маркі «Ивица». Калісьці яна належала Ніне Мацяш, і машынапіс першай беларускай кнігі будучай набілянткі для выдавецтва «Мастацкая літаратура» яшчэ ў савецкі час рыхтаваўся на ёй. Затым друкарка трапіла да Дануты Бічэль у Гародню, дзе на ёй падпольна размнажаліся антысавецкія вершы Ларысы Геніюш. На высахлай амаль да празрыстасці чорнай капіявальнай стужцы можна распазнаць асобныя літары і нават словы. Сярод іх дзесьці ў хаатычнай неразбярысе і словы Шымборскай. Які сказ з іх можна скласці сёння, калі паэткі не стала? Хіба гэты, з трох словаў — СВЕТ ВАРТЫ ВЯРТАННЯ. Так называлася яе кніга, выдадзеная восенню 1991 года, — як падарунак незалежнай Беларусі.

*2012*

# ВЕСЯЛОСЦЬ У ВОСЕНЬСКАЙ ЖУРБЕ

Сюды, пад шаты вечназялёных шапаткіх хвояў, вядуць усе жыццёвыя шляхі. Збочыўшы з хуткасных бальшакоў, гаманкіх гасцінцаў і галавакружных кружн*ы*х дарог...

Могілкі паводле народных звычаяў заўсёды лічыліся месцам сакральным, адкуль катэгарычна забаранялася штонебудзь зносіць — гэта ўспрымалася як вялікі грэх. Абкраданне могілак і сёння лічыцца не проста злачынствам, а святатацтвам, парушэннем мяжы спакою паміж гэтым і тым светамі. Але ёсць людзі, якіх не палохае свет патойбочны з яго пякельнымі жахамі. Тым больш як дзяцінная гульня ім свет гэты — з яго бяскрыўдным, у параўнанні з геенай вогненнай, адміністрацыйным кодэксам.

З вартоўні на сталічных Чыжоўскіх могілках нехта скраў кнігу пахаванняў за другую палову 1987 года. Тую кнігу, у якой 25 жніўня названага года быў зроблены запіс аб дакладным месцазнаходжанні магілы Міхася Стральцова. Пры жыцці — адметнага паэта і празаіка, пасмяротна — лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, з гледзішча часу сённяшняга і будучага — класіка беларускай літаратуры. Прапала кніга, а без яе, як без лоцмана, выпраўляцца на пошукі па неагляднай прасторы, густа застаўленай помнікамі-крыжаносцамі, бессэнсоўна.

Тысячы і тысячы магілаў, сціплыя стандартныя помнікі і цэлыя мармуровыя некропалі... Пісьменнік Міхась Стральцоў? Зычлівая маладзіца адмоўна хітае галавой — тут столькі знакамітасцяў пахавана...

Але стукайце — і адчыніцца, шукайце — і знойдзеце. Чамусьці запомнілася мне, што непадалёк ад Стральцова пахаваны брат Уладзіміра Мулявіна. Славуты «пясняр» на Дзяды нярэдка прыязджаў на могілкі, таму пра месцазнаходжанне магілы Валерыя Мулявіна (ён таксама выступаў у «Песнярах») ведае ледзь не кожны супрацоўнік могілак. І сапраўды, магіла Стральцова — у нейкім дзясятку метраў ад мулявінскае.

На помніку — ссунутая набакір вясёлая снегавая шапка. Да шэрай каменнай брылы прытуліўся сімвал вечнасці — ядловец. На камені выразна праступае ці то лебядзінае крыло ў размаху, ці то — з часінаў мезазою ці палеазою — адбітак папараці (у такой сімволіцы ўбачыўся стральцоўскі свет ясны скульптару Генадзю Лойку). Ад усіх гэтых асацыяцый на душы робіцца не па-могілкаваму светла, ледзь не радасна. І нібы нашаптаныя гэтымі вечнымі соснамі, гэтым марозаўстойлівым ядлоўцам, гэтым каменным лістом папараці, прыходзяць на памяць радкі. Класічна-ясныя. Роздумна-эмацыйныя. Стральцоўскія.

З двара прыйду і сяду ля агню.
Палаюць дровы. Ссечана капуста
На градах — блаславенне дню.
Змрок у палях — там сіберна і пуста.

Узыдзе месяц позна. На парог
Я ноччу выйду. У нямым здранцвенні
Паветра, далеч. Серабрыцца лог
За сажалкай — на ім снуюцца цені.

О роднае маё! Як доўга да цябе
Ішоў я, кволы падарожнік.
О весялосць у восеньскай журбе!
Агонь.
Саган.
Вуголле і трыножнік.

Верш называецца «Бацькаўшчына». Я не ўяўляю яго рукапіс у чарналессі паправак і закрэсліванняў. Мне здаецца, ён напісаўся як выдыхнуўся — адразу ўсімі сваімі зычнымі і галоснымі, без адзінага лішняга гуку. Такі паэт Міхась Стральцоў — нешматслоўны і надзіва гарманічны. Па ім, як па камертоне, можна правяраць свой паэтычны слых, настройвацца на чытанне сапраўднай паэзіі. Я наўмысна не гавару тут пра Стральцова-празаіка, бо і проза ягоная напоўненая паэзіяй, як напоўнены сокам даспелы яблык. Выцісніце яго — і атрымаюцца непрыдатныя для спажывы жамерыны. Стральцоў

мог пачаць і закончыць празаічны твор вершам, як, напрыклад, аповесць «Адзін лапаць, адзін чунь», і як жа арганічна тое выглядала! Мог уласную прозу напоўніць чужой паэзіяй, як гэта зроблена ў бліскучым эсэ «Загадка Багдановіча». Тая «Загадка...» сталася таямніцай і самога Стральцова — як ён, ні разу не пабываўшы ў Крыме, у Ялце, у «белым доме ля сіняй бухты», здолеў так псіхалагічна дакладна апісаць апошнія дні Максіма Багдановіча?

Міхася Стральцова ў паваеннай беларускай літаратуры няма з кім параўнаць, у сваім пакаленні ён глядзіцца непадобным на другіх адзінцом. Магчыма, гэтым сваім непадабенствам ён кагосьці і раздражняў. Але Стральцова любілі і шанавалі тыя творцы, каму не засціла вочы зайздрасць, хто цаніў адметнасць чужога таленту, — Рыгор Барадулін, Уладзімір Караткевіч, Янка Брыль. Вось напісаў я пра немагчымасць параўнання і ўспомніў, што Брыль сугучнага Стральцову пісьменніка ўсё ж знайшоў. Праўда, не ў беларускай літаратуры. Прадстаўляючы трыццацігадовага Стральцова ўсесаюзнаму чытачу (у Маскве ў перакладзе на расійскую мову выходзіла кніга «Что будет сниться»), Іван Антонавіч параўнаў свайго маладога калегу з... Іванам Буніным («абодвух чытаў на адной хвалі прыёму»). Празорлівы і начытаны Брыль ведаў, што гаворыць, і ўсё роўна словы ягоныя выглядалі як нечувана шчодры аванс, які належала адпрацаваць. І Стральцоў адпрацаваў — колькі паспеў.

Дзве розныя мовы — і адна хваля прыёму? Чым жа яны сугучныя — патомны дваранін з-пад Арла і сын настаўніка з Магілёўшчыны? І ў Буніна, і ў Стральцова — вытанчаны псіхалагізм, паэтычнае светаадчуванне, увага да дэталі. «Прыгадваецца мне ранняя пагодная восень. Жнівень быў з цёплымі дажджамі, быццам наўмысна спорнымі для сяўбы...» Хто гэта? Мабыць, Стральцоў. Але ў якім ягоным апавяданні такі пачатак? Не шукайце — не знойдзеце. Гэта пачатак «Антонаўскіх яблыкаў» Буніна. Думаецца, пры добрым перакладзе стральцоўскай прозы магчымы і адваротны эфект. І як быццам няма тут аніякага дзіва — малодшы мог вучыцца ў старэйшага, як скрозь водзіцца ў літаратуры. Але Бунін —

з'ява непаўторная і немагчымая па-за літаратурай расійскай. Проста павінен быў нарадзіцца падобны талент, з гэткай жа чулай, як мембрана, душой. Праўда, тут можна згадаць яшчэ і той факт, што продкі Буніна паходзілі з Беларусі і насілі прозвішча Бункоўскія. Жонка так і называла яго беларускім імем — Ян.

«Милый Ваня, мой бог свободен от цензуры, и я ликую», — гэтак Яну-Івану Буніну надпісаў свой дарэвалюцыйны здымак Фёдар Шаляпін. Савецкая цэнзура хутка разабралася з усімі багамі, і ўжо напачатку 20-х і знакаміты пісьменнік, і славуты спявак, ратуючы свае таленты, апынуліся за мяжой, у Францыі. Эмігранцкі хлеб горкі, але жылі яны ў культурнай сталіцы Еўропы — Парыжы, вандравалі па свеце, ім былі даступныя здабыткі сусветнай культуры.

Грамадзянін другой краіны і жыхар другой эпохі Міхась Стральцоў таксама цягнуўся да сусветнай культуры — наколькі гэта было магчыма ў СССР. «Плач па Гарсія Лорку», «Калі сын Феба — Фаэтон / памчаў адзін на калясніцы...», «У Анны у Андрэеўны Ахматавай / ёсць невялікі вершык...» — так пачынаюцца першыя, якія прыйшлі на памяць, стральцоўскія вершы.

Помніцца, у студэнцкую пару мне здавалася, што і пісацца такія творы павінны ў нейкім нязвыклым антуражы, заморскім паркерам на якой небудзь незвычайнай стальніцы. Якое ж было маё здзіўленне, калі я пазней апынуўся ў кватэры Стральцова (ужо без гаспадара) на вуліцы Прытыцкага і пабачыў стол паэта. Ён быў з белага мармуру! Забыўшыся на пачастунак — нейкі смачна-хмельны напой, — я ўсё глядзеў на той стол, і хацелася мне не чарку ў рукі ўзяць, а памацаць на тым стале розныя завітушкі, ці не са слановых біўняў зробленыя.

Цікава, вядома ж, паназіраць за Фаэтонам на калясніцы ці паразмаўляць з музай, якая калісьці дыктавала старонкі «Пекла» самому Дантэ. Але барабанна-барацьбітная эпоха вымагала іншых тэмаў і герояў. І сапраўдныя паэты, каб не здрадзіць сабе, не могучы эміграваць кудысьці далей (мяжа была на сямі замках), эмігравалі — хто ў перакладчыкі (як

Арсеній Таркоўскі), хто ў казачнікі (як Уладзімір Дубоўка), хто ў сумную краіну маўчання або ў вясёлае на першы погляд царства Вакха (такіх лічыць — не пералічыць). Міхась Стральцоў таксама пабываў і там, дзе сум, і там, дзе весялосць. І калі сябры пачыналі дакараць за празмернае маўчанне, паэт абараняўся таленавіта, як умелы фехтавальнік: «Над словам і над гукам, / даўмешыся пары, / спярша на рукі хукай, / пасля ужо твары». Тонкі, дасціпны ўкол тым творцам, якіх прынята называць пладавітымі.

А дакоры за ўцёкі ў царства Вакха неспадзявана абярнуліся яшчэ адной эміграцыяй — за калючы дрот. Тагачаснае кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў вырашыла, што так будзе лепш, і ў 1982 годзе адправіла Стральцова ў Мазырскі ЛТП (хай застаецца больш звыклая абрэвіятура — ад рускага «лечебно-трудовой профилакторий»). І прабыў там паэт больш за год.

Што там была за ўстанова, аўтару гэтых радкоў патлумачыў Леанід Дранько-Майсюк, які — адзіны з беларускіх пісьменнікаў! — адведаў старэйшага калегу. Вось што ён там убачыў і пачуў: «Ураджанне было вельмі гнятлівым: высокі глухі плот з калючкай наверсе, на КПП узброеныя прапаршчыкі, закрытыя кратамі вокны, падобныя на астрожнікаў пацыенты, злосны брэх вартаўнічай аўчаркі...»

Горка чытаць у адным з лістоў на волю і словы самога Міхася Стральцова, чыё фота раптоўна спатрэбілася ў сталічным выдавецтве: «Я ім здымак адсюль пашлю: валасы на 2 см нам дазваляюць, кляйма на ілбе няма, ноздры не вырваныя, а гольф я ў каго-небудзь, хто на свабоду будзе ісці, на 5 хвілін, каб сфатаграфавацца, пазычу».

«Кляйма на ілбе няма...» Але ж застаецца, павінен застацца след ад Божага пацалунка, якім адзначаюцца вялікія таленты ад самага нараджэння. Кажуць жа — паэт, пацалаваны Богам. Ці бачылі, ці заўважалі тую Божую ласку на светлым чале Міхася Стральцова мазырскія прапаршчыкі? Наўрад ці. Хоць настойваць не буду — там, за калючым дротам, паэту ўсё ж было дазволена працаваць у бібліятэцы.

Я ўсё шукаў, дзе ў стральцоўскай паэзіі праявіцца тая «гнятлівая атмасфера» перыферыйнага ЛТП з яго шэрымі

сценамі, забранымі ў краты вокнамі і казарменным існаваннем ад пабудкі да адбою? Прозы ён там не пісаў, але паэзія не пакідала яго і ў паднявольным жыцці, і ладная частка кнігі «Мой свеце ясны» (1986) пісалася менавіта ў Мазырскім ЛТП. Шукаў я доўга, але замест натуральных у тых умовах змрочных рэфлексій знаходзіў радкі накшталт гэтых:

Вось тут, далёка ад сталіцы,
Паблізу ісцінаў старых,
Жыву, як выгнаны патрыцый,
Грыбы збіраю у бары.

Шукаю вернай панацэі
Ад розных там душэўных ран
Тут, у бярозавым ліцэі,
І на рысталішчах палян.

Гасподай апальнага рымскага патрыцыя ўбачыўся Стральцову Мазырскі ЛТП, а лес за калючым дротам — бярозавым ліцэем. Ён так бачыў свет — без бруду і хамства. Ён і ў падканвойнай казарме адчуваў сябе свабодным, як да гэтага і пасля гэтага пачуваўся свабодным у далёка несвабоднай Бээсэсэрыі, у беларускай літаратуры, якую сумнавядомы Галоўліт стараўся трымаць на кароткім павадку.

«Мой свеце ясны» — адна з найлепшых айчынных паэтычных кніг XX стагоддзя. Калі паэт дачасна згас у анкалагічным шпіталі ў Бараўлянах (1987 год), літфункцыянеры спахапіліся і ўзнагародзілі ўжо мёртвага Стральцова Дзяржаўнай прэміяй. Як чатыры гады перад гэтым узнагароджвалі — таксама пасмяротна — Уладзіміра Караткевіча. Але ж — «гэта трэба не мёртвым, гэта трэба жывым». Ды што паробіш, калі ўлада, як правіла, заўважае найперш дзяржаўны падхалімаж. Няма яго — няма і прэміі.

А запабягаць перад кімсьці было не ў характары Міхася Стральцова. Памятаю, у рэстаране Цэнтральнага дома літаратара ў Маскве пасля прысвечанай Алесю Адамовічу вечарыны я апынуўся поплеч з вядомым крытыкам Валянцінам Аскоцкім. Ён уразіў мяне веданнем сучаснай беларускай

паэзіі і зусім ужо ашаламіў, калі разам з паэткай Рымай Казаковай зацягнуў беларускую народную песню. «Адкуль гэта ў вас?» — спытаўся я ў Аскоцкага. «Ад сябра майго — Мішы Стральцова», — быў адказ.

Ужо дома ў стральцоўскім аднатомніку я прачытаў прысвечаны сябру-масквічу верш, які заканчваўся радкамі: «Далёкі друг, я даль тваю люблю, / далёкі друг, любі маю таксама». І аніякага табе шапказдымання перад уплывовым крытыкам. Сказана з пачуццём уласнай годнасці і раўнапраўнай дружбы. Чаго сёння так не хапае некаторым беларускім палітыкам. Палітыкі мусяць браць урокі ў літаратараў, у тым ліку ў Міхася Стральцова.

Ён так і застаўся ў айчыннай літаратуры пяцідзесяцігадовым патрыцыем, які, аднак, не захінаўся ў тогу высакамернасці, калі, «хукнуўшы на рукі», ціха прамаўляў непачутыя своечасова ісціны, выяўляў сваю захопленасць светам (абавязкова — ясным). Сёння многія стральцоўскія радкі гучаць афарыстычна: «Калі душа маўчыць, не гаварыце лепш», «Павер, што болей чым імгненне / не прыме вечнасць ад цябе», «Хай слова будзе як патрэба, / як у прыпар вады глыток, / але ж бывае слова — срэбра, / маўчанне — золата, браток». І калі афарызмы гэтыя гучаць сапраўды неяк па-патрыцыянску, то ўмеў Стральцоў і пра высокія матэрыі сказаць проста і даходліва, нібы знарок для якога Хведара ці Панаса, якія мільгаюць у адным з ягоных вершаў. Прычым сказаць на папулярнай у народзе ва ўсе часы трасянцы: «Цвічок ва ўласным боце / страшней, чым “Фауст” Гёце».

Прасеяўшыся залатым пяском праз сіта часу, афарыстычна загучала і проза Міхася Стральцова. Вось як заканчваецца ягоная «Загадка Багдановіча»: «Застаўся пасля яго адзін “Вянок”. Не старайцеся ўплятаць туды новыя кветкі: тыя, што там, ніколі не завянуць. Сплятайце свае вянкі. Не старайцеся адшчыкнуць хоць адзін лісток ад тых лаўраў: тыя лаўры, перш чым стаць імі, былі цернямі». Які годны запавет творчай моладзі, якая часам пнецца самасцвердзіцца праз прыніжэнне старэйшага пакалення. Але не будзем папракаць

маладых — звычайна тое адбываецца праз элементарнае няведанне спадчыны.

Аднойчы прыляцела да мяне юная шчабятлівая ластаўка з тэлеканала «Белсат». «А чаму ў беларускай літаратуры няма шэдэўраў сусветнага ўзроўню? А чаму яна ўся прыземленавясковая? А можаце назваць што-небудзь не горшае за... Гары Потэра?» І пачаў я той ластаўцы называць — усё стральцоўскае: «Смаленне вепрука», «Сена на асфальце», «Адзін лапаць, адзін чунь»... Бачу — крывіцца расчаравана, вёскай ёй ад тых загалоўкаў патыхае. А названыя творы — лірычна-філасофская проза самай высокай якасці, чытво на ўсе ўзросты. І ўвогуле, гэта той выпадак, пра які народная мудрасць трапна гаворыць: мае лапці твае боты пераходзяць.

Як і кожнаму творцу, Міхасю Стральцову хацелася быць пачутым. У тым апошнім для яго 1987-м ён згаджаўся на ўсе выступы. У сталічным Доме літаратара прэзентаваліся «Мой свеце ясны» і кніга крытыкі «Пячатка майстра». А ўсяго за тры месяцы да смерці ў бараўлянскім шпіталі ён сустракаўся са сваімі чытачамі ў Гародні і Лідзе. І ў восеньскай журбе спрабаваў дапільнаваць імгненні жыццёвай весялосці...

Ужо са смяротнай лажніцы ён прашаптаў схіленаму над ім Янку Брылю: «Мне без вас нельга». Сёння ўсім нам нельга абысціся без Міхася Стральцова. Дык часцей бывайма ў ягоным свеце ясным, каб стральцоўскай яснаты пабольшала і ў нашых душах.

*2012*

# АПОШНІ ВЕРШ СТРАЛЬЦОВА

Укладаючы том Міхася Стральцова для «Беларускага кнігазбора», я ледзь не паддаўся на ўгаворы літаратурных усёведаў, якія настойліва раілі проста ўзяць і сасканаваць выбранае 1987 года, а не бегаць па бібліятэках і архівах у пошуках новых тэкстаў. Маўляў, усё роўна нічога вартаснага не знойдзеш. Ды і архіва пасля Стральцова практычна не засталося — не захоўваў ён рукапісаў, не сартаваў па тэчках папяровай непатрэбшчыны. Вопіс яго асабістага фонду ў Беларускім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва танюткі, як вучнёўскі сшытак, ды і там нічога недрукаванага няма...

Выбранае з прадмовай Алеся Адамовіча я паціху сканаваў, патроху каментаваў, а сам думаў — буду апошнім лайдаком, калі не знайду ну хоць бы стральцоўскіх лістоў — эпісталярны раздзел у будучай кнізе адчайна пуставаў.

Дзе тыя лісты шукаць? Я прыехаў на вуліцу Прытыцкага, у дом № 6, падняўся на скрыпучым ліфце ў кватэру, дзе жыў «абраннік сонечнага Феба» (паводле Анатоля Сідарэвіча).

Удава паэта Алена Дзмітраўна сустрэла мяне надзвычай гасцінна і — о дзіва! — ледзь не з парога абнадзеіла. Аказваецца, стральцоўскі архіў быў падзелены на дзве часткі — адна трапіла ва ўжо згаданы БДАМЛіМ, а другая была вывезеная на захаванне ў адну з падменскіх вёсак. Дваццаць пяць гадоў таму.

Кожны наступны дзень я даймаў Алену Дзмітраўну тэлефоннымі званкамі — калі паедзем на пошукі? Нарэшце яна знайшла гаспадароў дома, дамовілася, і мы адправіліся ў пошукавую экпедыцыю. На месцы мяне адразу правялі ў падвал і паказалі гару хломазду пад самую столь — шукайце тут. Старое адзенне, посуд, заплеснелыя ад сырасці кнігі, елачная мішура, гаршкі з-пад вазонаў, веласіпедныя колы, абутак на ўсе сезоны, пустыя пляшкі і напоўненыя нечым падазроным флаконы — я раскопваў тую падвальную джамалунгму з імпэтам салігорскага шахцёра, якога паабяцалі прэміяваць за вагон прадукцыі звыш нормы.

Час ад часу вылазячы наверх хапянуць свежага паветра, я адчуваў, што цярпенне гаспадароў на сыходзе, мае лёгкія пратэстуюць і вочы слепнуць. Але, гнаны невядомай сілай, зноў спускаўся ў паўцёмны падвал і ледзь не вобмацкам перабіраў невядома з якой мэтай знесеныя туды клункі, скрынкі і living рознае рыззё.

Паводле закона зямной гравітацыі тое, што я шукаў, аказалася на самым дне. З-пад пагрызенай мышамі дванаццацітомнай «Истории второй мировой войны» я выцягнуў бліжэй да цьмянай лямпачкі прадаўгаватую скрыню і з трымценнем у сэрцы прачытаў зроблены фламастарам надпіс «Архіў М. Стральцова»...

На зваротнай дарозе ў Менск мне неадчэпна думалася пра знойдзеную скрыню, дзе магло быць што заўгодна, у тым ліку і рукапіс легендарнай аповесці «Конь гуляў на волі»...

Тою ноччу я не заснуў — раскладаў на падлозе змесціва скрыні і не спяшаючыся ўчытваўся ў пажаўцелыя старонкі. Нечакана знайшлося шмат лістоў — многія з іх апублікаваныя ў «кнігазбораўскім» томе. У тэчцы з перакладамі зверху ляжаў Мікеланджэла па-беларуску — перакладзены ў пачатку 70-х для італьянскай паэтычнай анталогіі, ён чамусьці туды не ўвайшоў. Знайшліся ў скрыні і жартоўныя вершы, адрасаваныя паэтам дачцэ і сябрам. У асобным канверце ляжалі фотаздымкі.

Почырк у Стральцова далёка не каліграфічны — некаторыя чарнавікі не расчыталіся да гэтай пары. Пад адным скрэсленым рукапісам я звярнуў увагу на дату: 7.07.87. Паэт ужо ведаў пра свой дыягназ, меўся класціся ў бараўлянскую больніцу. Заставалася паўтара месяца жыцця...

«У скверы гэтым лугавінка...» Далей ішлі зусім нечытэльныя, шматкроць закрэсленыя радкі. Цалкам удалося прачытаць толькі адну страфу ды заканчэнне: «Касіў за двух і жыў за двух!»

Накід верша, зроблены да таго ж алоўкам, у том выбранага, зразумела, не трапіў. Ды нешта мне рупіла ў тым нерасчытаным рукапісе. Я насіў яго з сабою, расказваў пра яго ў

Слаўгарадскім доме культуры падчас прэзентацыі стральцоўскай кнігі, вазіў у Сычын — на радзіму паэта.

І Міхась Лявонавіч нада мной злітаваўся! Нядаўна ў дабраславёным БДАМЛіМе мне прынеслі не тую справу. Замаўляў Сяднёва, а памылкова прынеслі Стральцова. Я машынальна зірнуў на дзясятак даследчыцкіх роспісаў на лісце карыстальніка і ледзь не здаў тую справу 36 з фонда 361 назад у сховішча.

Гартануўшы ўсё ж белы нататнік з вядомымі мне перакладамі, я нечакана ўбачыў — белавы варыянт таго адшуканага ў падвале верша! Старонка мела нумар 37 — год нараджэння Стральцова... Вось ён, невядомы чытачам апошні верш паэта, які пачуваўся выгнаным патрыцыем у беларускай савецкай літаратуры:

У скверы гэтым лугавінка
Мне, што выпадкам, так сабе,
Задобрыў думку успамінкам
Аб даўняй ліпеньскай касьбе, —
Такая радасць і аддуха,
Такая горыч і журба!
Сядзі і ўласным сэрцам слухай,
Як адступае ціха скруха,
А з ёй — і гора, і бяда.
Няхай! Ды толькі дзе, мой хлопча,
Падстрэшак той і дзе каса?
Другі ўжо нехта копы топча,
Другі ў прыпар спачыну хоча,
Другія там — не ты ўжо сам.
Ах, божа мой! Чыёю верай
Перада мной той даўні луг
Паслаўся чыстаю паперай,
Каб я радком пракосы мераў,
Касіў за двух
І жыў за двух!

Калі б ананімную раздрукоўку гэтага верша мне прыйшлося вылавіць у закаркаванай бутэльцы дзе-небудзь на неабжытай выспе пасярод акіяна, то і тады не ўзнікла б аніякіх сумневаў наконт аўтарства — столькі ў гэтых дваццаці радках стральцоўскага дыхання, стральцоўскай гэтак зразумелай журбы!

А той адшуканы ў вясковым падвале архіў яшчэ неаднойчы прыцягне ўвагу літаратуразнаўцаў і паслугуе крыніцай новых тэкстаў пры складанні збору твораў Міхася Стральцова.

*2016*

# КАВАЛЕР ОРДЭНА ЎСМЕШКІ

Аднойчы, будучы ў Варшаве, я зайшоў у кнігарню паблізу Тэатральнай плошчы. Заўважыўшы маё зацікаўленне польскай паэзіяй, ветлівая пані параіла звярнуць увагу на адну кніжную паліцу. На ёй стаяла кніг трыццаць — рознага фармату і формы. Былі там кнігі-мініяцюры і падарункавыя фаліянты, кнігі ў бліскучых супервокладках і факсімільныя перавыданні. Была нават кніга, зробленая ў форме сэрца.

Ва ўсіх гэтых кніг быў адзін аўтар — невядомы мне Ян Твардоўскі. Я ўзяў у рукі прыемны на дотык томік, разгарнуў і прачытаў: «Kiedy Bóg drzwi zamyka — to otwiera okno» («Калі Бог зачыняе дзверы, то адчыняе акно»). Гэты радок настолькі ўразіў мяне, што я зграб усю тую паліцу ў абярэмак і пад здзіўленым позіркам прыязнай прадавачкі прыладкаваўся за нізенькім столікам у куце кнігарні...

Праз гадзіну я выйшаў на вуліцу трошкі іншым чалавекам. Лепшым за таго, які нядаўна от так сабе, ад няма чаго рабіць тузянуў дзверы тае кнігарні. Ці шмат увогуле на свеце кніг, якія могуць нас палепшыць?

Яшчэ пару гадзінаў таму я бязмэтна блукаў па Варшаве, недзе глыбока ў памяці трымаючы двух Твардоўскіх. Адзін з іх, беларус з паходжання, стаў выдатным расійскім паэтам, рэдактарам найлепшага ў СССР літаратурнага часопіса. У часы партыйных ганенняў на Васіля Быкава ён насуперак усім загадам зверху друкаваў земляка, а аднойчы з Масквы ў Гародню, дзе жыў тады апальны пісьменнік, прыслаў паштоўку з памятнымі з юнацтва словамі — «усё мінецца, а праўда застанецца». Ні характарам, ні абліччам ён не ўпісваўся ў маскоўскія літаратурныя прэзідыумы, дзе яго за вочы пагардліва называлі *чудь белоглазая*.

Звалі таго паэта і рэдактара Аляксандр Твардоўскі.

Другі Твардоўскі быў з ліку маіх улюбёных літаратурных герояў — гэта ён у вядомай баладзе Адама Міцкевіча перадасціпнічаў нячысціка ў наваградскай карчме пад назвай «Рым».

І вось у маім жыцці з’явіўся трэці Твардоўскі — Ян. І засланіў сабою ўсіх астатніх.

У той варшаўскай вандроўцы я ўсё ж схітрыўся заашчадзіць колькі дзясяткаў злотых і дамоў вярнуўся з кніжкай паэта-ксяндза «Budzić nadzieję». А неўзабаве ў менскай «Духоўнай кнізе» (рэкамендую гэтую кнігарню ўсім беларускім чытачам!) трапіліся мне вершы Яна Твардоўскага ў перакладзе на расійскую мову. Таксама набыў. Яшчэ і па той прычыне, што адным з перакладчыкаў значыўся там масквіч Андрэй Базілеўскі — мой даўні знаёмец. Неяк на адным з міжнародных паэтычных фестываляў у Варшаве, здзіўлены яго бездакорнай польскай мовай (для масквічоў з’ява даволі рэдкая) і западозрыўшы ў ім тую самую «чудь белоглазую», я напаўжартам пацікавіўся ў Андрэя — з якіх базілеўсаў ён выводзіць свой радавод? І пачуў у адказ прадказальнае — мой бацька з Беларусі, з Віцебскай вобласці...

Помніцца, сваім прыпозненым адкрыццём вялікага паэта-мысляра я падзяліўся з рэдактаркай «Нашай веры» Хрысцінай Лялько. І як жа быў усцешаны, калі пачуў ад яе, што рыхтуецца кніга Яна Твардоўскага па-беларуску. І вось яна выйшла ў выдавецтве «Про Хрысто» — на паспалітае чытанне і добрае навучанне, калі пакарыстацца вядомым Скарынавым выразам.

Кніга «Разам з Табою» — гэта паэтычны ружанец, які кліча да роздуму і да малітвы; перабіраеш вершы-пацеркі — і змрочны свет робіцца яснейшым, а нам сёння гэтак бракуе яснасці свету!

Кніга «Разам з Табою», як спрактыкаваны лекар, робіць чытачу небалючыя прышчэпкі веры ў несмяротнасць чалавечай душы. Я ўпэўнены — нават зацятага матэрыяліста прымусіць задумацца ну хоць бы такі радок: «Смерць — хвіліна найбольшай надзеі».

У кнізе «Разам з Табою» з усмешкай гаворыцца пра рэчы сакральныя, але гэта не дэсакралізуе і не прыніжае іх. Ці гэта просьба да Крыжа, каб не прыходзіў у наш свет без Укрыжаванага. Ці гэта іранічны пасаж наконт фіранак у стаенцы, дзе нарадзіўся Збаўца. А як вам такая замалёўка, зробленая (аж не верыцца) паэтам-ксяндзом?

Мой Бог галодны
худое цела і рэбры
не мае грошай
высокіх катэдраў са срэбра
Не памагаюць яму
доўгія песні і свечкі
упалыя грудзі
лекаў не хоча з аптэчкі...

Неяк аўтару гэтых радкоў давялося выступаць з чытаннем вершаў у касцёле (цяпер літаратурныя сустрэчы ў храмах — не рэдкасць). Прагучалі тады і радкі пра тое, як «не можа ніяк — увесьчасна занята — дазваніцца да Бога аднаўлены храм». Пасля сустрэчы да мяне падышла сур'ёзная кабета і наківала пальцам — больш так, малады чалавек, не багахульствуйце. Пачытала б яна Яна Твардоўскага, у яго падобнага «багахульства» — тры карабы з каптуром.

І яшчэ адно адхіленне ў сваё, асабістае. Калі мы з братамі ўсталёўвалі надмагільны помнік па бацьку, паўстала пытанне — а што на ім напісаць? Думалі-прагаворвалі, а да згоды аніяк прыйсці не маглі. Тады я ўзяў Біблію і папрасіў аднаго з братоў назваць старонку і нумар радка зверху. Прагучалі дзве адвольныя лічбы. Я разгарнуў Кнігу кніг і прачытаў нібы адмыслова напісанае для эпітафіі: «Душа мая да Цябе прыляпілася, і Ты трымаеш яе ў дзясніцы сваёй».

Чаму мне гэта прыгадалася? Бо Ян Твардоўскі падобным спосабам выбіраў назвы для сваіх зборнікаў!

Ён быў мудрацом і любіў паглыбіцца ў одум на лавачцы пад лістоўніцай, што расла паблізу яго сціплай, як манаская келля, кватэркі пры касцёле сясцёр-візітантак у Варшаве. У той кватэрцы ён жыў разам з парцалянавымі анёламі і драўлянымі пеўнікамі, што скакалі па падваконні, а ў шыбах зіхацелі каляровыя батлеечныя вітражы.

Ён любіў усё жывое, у сваіх паэтычных казанях размаўляў з кветкамі, птушкамі і дрэвамі, а яго ўлюбёным лірычным героем была... божая кароўка, якая павольна перапаўзала з верша ў верш ды так і засталася на вокладцы адной з ягоных кніг.

Ён ведаў, што самая вялікая каштоўнасць у свеце — любоў, і перад няспынным гадзіннікам вечнасці заклікáў сваіх чытачоў: «Спяшаймася любіць людзей!»

Яна Твардоўскага называлі паэтам Хрыста, які ўсміхаецца, і гэта вельмі трапнае і дакладнае вызначэнне.

Імем паэта-ксяндза ў Польшчы названыя больш за 200 (!) школаў і бібліятэк, ён быў доктарам honoris causa Люблінскага ўніверсітэта, атрымаў вельмі шмат розных прэміяў і ўзнагародаў, у ліку якіх і найганаровейшы Камандорскі крыж ордэна Адраджэння Польшчы. Але, як мне падаецца, знакі дзяржаўнай увагі не асабліва цікавілі паэта. Праўда, быў ва ўзнагародным спісе Яна Твардоўскага незвычайны ордэн — польскія дзеці ўганаравалі яго ордэнам Усмешкі! Паэт атрымаў узнагароду з будучыні, і гэта найлепшае прызнанне для творцы.

Сам Ян Твардоўскі пра сваё служэнне Богу і паэзіі сказаў так: «У свеце бязвер'я я спрабую гаварыць пра веру, у свеце без надзеі — пра надзею, у свеце без любові — пра любоў». І яго творчасць, што грунтуецца на веры, надзеі і любові, — гэта паэтычнае кварцаванне прасторы, пасля чаго знікаюць бацылы бязвер'я, адчаю і нянавісці.

Калісьці ўжо прыгаданы ў гэтых нататках другі Твардоўскі (не той, што перахітрыў нячысціка ў карчме «Рым») параўнаў паэтычны пераклад з высушаным сенам, а арыгінал — з пахучай сакавітай канюшынай.

Перакладчыцы кнігі «Разам з Табою» — Данута Бічэль і Хрысціна Лялько — аспрэчылі гэтыя словы. Паэзія Яна Твардоўскага ў іхнім перакладзе не страціла ні каліва сваёй першароднай вобразнай красы і філасофскай сілы. Думаю, што гэта была нялёгкая праца, параўнальная хіба з перакладам богаслужбовых тэкстаў.

На жаль (і гэта адзіны выпадак, калі, загарнуўшы кнігу «Разам з Табою», хочацца прамовіць: на жаль), у беларускі зборнік Яна Твардоўскага не патрапіў адзін верш, які запыніў маю ўвагу яшчэ ў той, шчаслівай для мяне, варшаўскай кнігарні. Я яго проста перакажу сваімі словамі, не прэтэндуючы на эквілінеарнасць ды іншыя патрабаванні перакладчыцкага рамяства. Верш мае назву «Больш нічога».

«Бог мой» — напісаў ён. І закрэсліў, падумаўшы: настолькі ж мой, наколькі я эгаіст. Напісаў «Бог людзей» і — прыкусіў язык, згадаўшы, што ёсць яшчэ анёлы і камяні, падобныя ў снезе на зайцоў. Нарэшце напісаў проста «Бог». Больш нічога. Бо і так напісаў занадта шмат.

Ян Твардоўскі працаваў, як Радэн. Скульптар прызнаваўся, што бярэ мармуровую глыбу і проста адсякае ўсё непатрэбнае. Паэт з безлічы словаў таксама пакідаў у вершы мінімум, гаворачы пры гэтым пра многае.

І ашчаслівулены будзе той, хто пачуе гэтага кавалера ордэна Усмешкі.

*2012*

# МОСТ У КРАІНУ НЕМАНІНУ

Дарога з разгону хоча пераскочыць цераз рэчку, і — з’яўляецца мост. Як шлях у невядома-нязведанае, з берага расчаравання — на бераг надзеі. Бежанец з зямлі, чужынец для вады, мост найбліжэй да паветранай стыхіі. Мост — злучво паміж светамі дабра і зла, чыстая прастора, таму на ім добры малойца заўсёды перамагае ліхую сілу. У беларускіх народных песнях мост служыць правобразам шлюбу, таму ў нашых незлічоных Зарэччах і Замасточчах, Мастах і Мастаўлянах спрадвеку гучала дзявочае: «Цераз рэчку-ручаіну я масточак перакіну. Хадзі, любы, хадзі, мой, хадзі летам і зімой». І чулася ў адказ радасна-згоднае: «Масці кладку, заві ў хатку».

Будаўнікі мастоў у старажытныя часы складалі асобную касту і нават вызваляліся ад службы ў войску. Дайце веры, сучаснае слова «пантыфік» паходзіць ад лацінскага тэхнічнага тэрміна pontifex, што літаральна азначае «той, хто будуе масты».

Мне ўспамінаюцца самыя незвычайныя масты, па якіх давялося праходзіць. Немагчыма забыць Карлаў мост у Празе, якому амаль шэсцьсот гадоў. Найлепш шпацыраваць па ім зігзагамі — ад скульптуры да скульптуры, якіх на мосце налічваецца каля трох дзясяткаў. Ідзеш, чытаеш надпісы, і перад табой праходзіць уся гісторыя Чэхіі. А ўнізе ў срэбных каралях штучных перакатаў паблісквае Влтава.

У Калінінградскай вобласці, колішняй Усходняй Прусіі, уразіў мост, разведзены з часоў Другой сусветнай вайны. Немцы, адступаючы, развялі, а саветы, прыйшоўшы, звесці не змаглі. Так і ўзвышаюцца роспачна ўгору дзве палавіны моста як сімвал нестыкоўкі пруска-расійскай палітыкі ў дачыненні да гэтай зямлі.

Помніцца і самы доўгі беларускі мост у Жыткавічах — цераз разлівістую Прыпяць. Яго ўвогуле будавалі ў падсохлай пойме, лічы, у чыстым полі, а потым ужо, як наравістую кабылу ў аглоблі, заганялі пад мост раку.

Ды ці мала ў свеце ёсць цікавых мастоў, якія вагаюцца, плаваюць, узвышаюцца над вадой на галавакружную вышыню, злучаюць не проста берагі, а мацерыкі.

Але самы незвычайны, самы жывы мост збудавала Данута Бічэль, назваўшы кнігу сваёй біяграфічнай прозы «Мост святога Францішка».

«Як дагнаў я свае леты на кляновым мосце, вяртайцеся, мае леты, да мяне у госці», — нібы чую я голас сваёй бабы Настулі ў зацішку пад вішнямі на нашым хутары пад Дзярэчынам. Данута Бічэль — таксама хутаранка, відаць, таму амаль усіх герояў яе новай кнігі я ўспрымаю як сваю радню. Усе яны сваякі — духоўныя ці крэўныя — і аўтарцы. Чытаю эсэ пра Адама Міцкевіча і разумею, што ён ёй брат раднюткі — па паэзіі, па долі, па Нёмане. «Краю мой Нёман», — так Данута Бічэль злучала ў адно радзіму і раку ў зборніку «Загасцінец». А Міцкевіч звяртаўся да Нёмана ласкава, нібы па воднай плыні рукою гладзіў: «Niemne, domowa rzeko moja!» Цікава, між іншым, як па-рознаму патлумачылі гэты міцкевічаўскі вобраз перакладчыкі: «рэчка майго дому» (А. Стаповіч), «родны мой Нёман» (Ю. Гаўрук), «рака Айчыны» (А. Салавей), «рэчка мая радаводная» (Р. Барадулін), «родная рака» (П. Бітэль), «хатні мой Нёман» (В. Жуковіч)...

Вышэй я абмовіўся — біяграфічная проза. Але ж піша яе паэтка! І таму проза натуральна перацякае ў паэзію. Як у тым жа эсэ пра Адама Міцкевіча, калі на прапанову малайцаватага хлопца Стана Скалабана пісаць сачыненне пра Лабановіча і Ядвісю ўлюбёная ў «песняра Літвы» гераіня раптам пачынае адказваць рытмічна і зарыфмавана: «Вось што, юнача, табе адкажу я: гэта містычная нават кашуля, і Нёман містычны цячэ краем жыта, у хвалях містычных кашуля памыта. Толькі прызнайся, ў каго ты пазычыў сёння ўначы гэты німб таямнічы?»

Проза і паэзія пераліваюцца, як вада ў спалучаных сасудах, у яшчэ адным эсэ — пра Анатоля Сыса. Шчыра кажучы, не прыпомню гэткага змешвання жанраў у другіх пісьменнікаў. А можа, гэта не змешванне, а нейкі новы жанр, якому з цягам часу падшукаецца найменне?

Ад Нёмана-ракі ў кнізе лёгка перакінута кладка да Чэслава Нёмана (менавіта на такім напісанні настойвае аўтарка). Апошнім часам гэтаму спеваку надаецца шмат увагі ў беларускіх і польскіх медыях, а ў вёсцы Старыя Васілішкі на Лідчыне нават адчыніўся нядаўна ягоны музей. Усе беларускія фаны Чэслава Нёмана, відаць, пабываюць у тым музеі, на розныя галасы наспеўваючы ягоны хіт «Dziwny jest tę świat». Але мала хто з іх ведае, што першая ў Беларусі выстава, прысвечаная іхняму куміру, была зладжаная, яшчэ за савецкім часам, у гарадзенскім музеі Максіма Багдановіча, калі там працавала Данута Бічэль. Але гэта так, да слова прыйшлося. Чэслаў Нёман сёння — легенда. Хлопец з беларускай вёскі вырваўся за жалезную заслону, пакарыў сваімі песнямі Варшаву... Асабіста мне ў гэтай легендзе бракавала адной крэскі, адной згадкі, якую я з удзячнасцю напаткаў у кнізе «Мост святога Францішка» — пра тое, як спявак прыходзіў на начныя эфіры польскага тэлебачання і спяваў беларускія песні. Адшукайце іх запісы, мілыя даследчыкі, яны павінны гучаць і ў васілішкаўскім музеі!

Чытаю «Мост святога Францішка» — нібы хаджу па роднай Гарадзеншчыне і сустракаю дарагіх сэрцу людзей. З мастаком-рэстаўратарам Валодзем Кіслым мы аднойчы ездзілі ў Варшаву — на прэзентацыю кнігі ўспамінаў князя Яўстаха Севярына Сапегі. Да скідальскага самотніка, паэта Алеся Чобата я стараюся заязджаць па дарозе ў Гародню і заўсёды ўражваюся яго дыягенаўскім аскетызмам і платонаўскай яснатой розуму. З Сержуком Сокалавым-Воюшам мы аднойчы цэлы дзень блукалі-ездзілі па Празе і пазнаходзілі ўсе тамтэйшыя адрасы Ларысы Геніюш. Аляксей Карпюк рэкамендаваў мяне ў Саюз пісьменнікаў, сам прывёз рэкамендацыю ў Менск і, не зважаючы на свой безнадзейны дыягназ, аптымістычна дабраслаўляў земляка ў літаратуру. З Анатолем Іверсам мы сустракаліся ў ягонай вясковай хаціне ў Слоніме, на вуліцы Дабрыяна, і колькі там было пачута такога, чаго не знойдзеш у акадэмічных гісторыях літаратуры! З Зоськай Верас мне таксама пашчасціла спаткацца — у яе знакамітай Лясной ха-

тцы пад Вільняй, дзе аўтарка беларуска-лацінскага батанічнага слоўніка жыла ў поўным суладдзі з прыродай, як і святы Францішак з Асіза...

Цяпер вы разумееце, за што я люблю біяграфічную прозу Дануты Бічэль. Яе не цікавіць побыт, яна піша пра галоўнае — пра судакрананне душамі. Бо — «няма ў цябе, чалавеча, нічога, апрача душы» (Піфагор Самоскі). «Дзе скарб ваш?» — пытаўся апостал Мацей у людзей будучых тысячагоддзяў. «Скарбы — у душы», — ціха адказваў яму беларус Максім Гарэцкі.

Калі я ўпершыю трапіў у гарадзенскую кватэру Дануты Бічэль, сеў на пянёк (сапраўдны!) пасярод пакоя і агледзеўся, то пабачыў на сцяне партрэт польскага паэта Мацея Юзафа Канановіча. Пра яго мне калісьці трохі расказваў Янка Брыль, акцэнтуючыся на іхняй супольнай вандроўцы ў вёску Дубраўка на Шчары (туды ад майго Дзярэчына кіламетраў пяць напрасткі). Пасля тае вандроўкі Мацей Кананові напісаў шчымлівыя вершы пра надрэчныя дубы, што так і не сабраліся ў вырай, бо ў гнёздах заставаліся пiскляняты жалудоў...

Зробленае Канановічам для Беларусі заслугоўвае ордэна Скарыны, але як матэрыяльную ўзнагароду перашлеш на той свет? Можна толькі далікатна судакрануцца душамі. І ўдзячнае эсэ Дануты Бічэль, паверце, вартае ордэна. Чытаючы яго, я спачатку трохі заблытаўся ў радаводным дрэве Канановічаў, але потым нарэшце ўцяміў, што сын гарадзенскай пані Стасі Кананові Мірык, з якім мы бавілі час на летніх вакацыях, не хто іншы, як пляменнік таго Мацея з Лодзі. Чуеш, Мірык, я абавязкова напішу табе ў далёкую Данію ліста, а ты мне адкажаш, і так мы пагаворым пра твайго дзядзьку. А пачну я свой ліст з апісанага Данутай Бічэль выпадку, як аднойчы ў прыцемненай залі варшаўскага кінатэатра Мацей Кананові устаў і выразна прамовіў: «Pan inżyner Tadeusz Kościuszko jest nazawsze w naszych sercach». А яшчэ прыгадаю, як ён першы кілішак заўсёды выпіваў за Касцюшку. Як ён на вуліцах пытаўся ў маладзёнаў, як даехаць да вуліцы Касцюшкі. Як ён ператварыў сваю лодзеўскую кватэру ў музей Касцюшкі...

Як жа ўмее Данута Бічэль вылушчыць са стажка жыццёвага гарохавіння галоўнае! Якасць, уласцівая далёка не ўсім творцам.

Гарадзенскі Край паэтка называе Краінай Неманінай. Удалая назва. Тут і Нёман, плывучы па якім можна пісаць гісторыю культуры Панямоння. Тут і біблейскае «не мані». Тут і наша змушанае аняменне...

Загарнуў «Мост святога Францішка» і падумаў: няўжо я прымаю ў кнізе абсалютна ўсё? Няўжо нічога не выклікала пярэчання? Не, ёсць і спрэчныя, на маю думку, мясціны. Праўда, іх няшмат. Спачатку думалася — чатыры-пяць. Перачытаў, аказалася — дзве-тры. Скажам, я не магу прыняць нацыянальнага самалупцавання на фоне ўзвялічвання другога народа. Калі Данута Бічэль раптам пачынае звяртаць увагу на побыт, ёй, як мне падаецца, здраджвае густ. Ну не ва ўсіх беларусаў на падворках круглы год ляжаў гной, як і не на ўсіх польскіх падворках быў ідэальны парадак (эсэ пра Элізу Ажэшку).

Зразумейце, я зусім не супраць таго, каб пісьменнік, калі таго вымагаюць абставіны, сцябаў свой народ розгамі сарказму і сатыры, як тое рабілі ўкраінец Уладзімір Сасюра ў паэме «Мазепа» ці наш Янка Купала ў «Тутэйшых».

Перасцярог бы я аўтарку і ад передчасных прысудаў накшталт: «нявестка Ларысы Геніюш была раўнадушнай да беларускай мовы».

З Валянцінай Геніюш, нараджэнкай вёскі Бярэжкі пад Зэльвай, я неаднойчы сустракаўся і яе беларускай мовай увесь час захапляўся. Што ж, яна яе ў спольшчаным Беластоку, дзе жыве апошнія паўвека, вывучыла?

Зрэдку трапляюцца ў кнізе і рэдактарскія недагляды (а рэдактараў у кнігі — ажно два). Прыкладам, Іван Бровікаў ніколі не быў старшынёй Вярхоўнага Савета БССР, ён узначальваў Савет Міністраў.

Але хай гэтае драбноцце не спыніць вас па дарозе ў Краіну Неманіну, дзе ходзяць басанож і судакранаюцца душамі.

Гадоў пятнаццаць таму мы з Анатолем Сысам вазілі ў Гародню Дануце Бічэль сігнальны асобнік яе паэтычнага зборніка «Снапок». Летась мне выпала адвезці ў сталічнае выдавецтва электронны набор будучай кнігі «Мост святога Францішка».

Данута Янаўна, вы толькі пішыце, а мы і надалей — будзем вазіць.

*2011*

# НАШ АБАРОНЧЫ МУР

Вялікая Кітайская сцяна, змураваная з сабранага па ўсёй імперыі камення, стагоддзямі аберагала жыхароў Паднябеснай ад варожых набегаў.

Рыцары ў сярэднявечнай Еўропе абносілі свае замкі землянымі валамі, абкопвалі глыбокімі равамі і выседжвалі ў непрыступных фартэцыях самыя працяглыя аблогі.

Абарончая сцяна ў самым высакагорным горадзе Мачу-Пікчу ў перуанскіх Кардыльерах высечаная з суцэльнай скалы, якая і сёння вежавымі зубцамі прычэсвае аблокі, хоць ахоўваць няма каго — турыстаў і тых няшмат на каменных вузкіх вулачках.

З чаго складзеная абарончая сцяна Беларусі? З якіх найтрывалейшых матэрыялаў, што і ў агні не згарэлі, і перад ваеннымі землятрусамі ўстаялі? З кніг. З тысячаў і мільёнаў кніг, якія леглі ў тую сцяну замест цаглінаў і камянёў. І гэта самая трывалая сцяна, самы надзейны мур у свеце, бо яго не падкапаеш і таранам не разаб'еш.

Беларусь шматкроць кроілі дзяржаўнымі межамі, дзялілі на чужацкія *гміны* і *уезды*, заганялі то ў літбелы, то ў бээсэсэры, то ў райхі, а беларусы як жылі на сваёй зямлі, так і жывуць. І цары, і генеральныя сакратары сыходзілі, а Беларусь заставалася. Значыць, мае яна надзейны абарончa-ахоўны мур, які падступнаму чужаку разбурыць не пад сілу. І няхай мур гэты, кажучы сучаснай мовай, віртуальны, ён можа абараніць вас ад усіх нашэсцяў. Гэты мур самаўзводзіцца ў кожным з нас дзякуючы прачытаным кнігам. Таму мы, беларусы, павінны ў кожнай кватэры-хаце мець па бібліятэцы. Нечытанне кніг мяжуе для нас з нацыянальным злачынствам. Невыпадкова вялікі будаўнік ахоўнай сцяны Беларусі Уладзімір Караткевіч напісаў у адным са сваіх праграмных вершаў: «Чалавек прыходзіць з-за далёкіх, чужых нам меж і здзіўляецца: што вы за нацыя, хай вас халера, што ні дом — сотні кніг! Гэта правільна, дружа, іначай мы не былі б ні народам, ні нацыяй, а гноем,

хімерай». Таму і не дзіўна, што беларус купляе кнігі «коштам пайковага хлеба», а «выходзячы пад бомбы ў дарогу, мае — у сэрцы Бога, а ў кайстры — Багдановіча, Танка, Купалу, Коласа, Панчанку і Эклезіяста».

Нам трэба радавацца кожнай таленавітай беларускай кнізе — з яе выхадам ахоўная сцяна Беларусі мацнее.

Кожны муляр ведае, што самае галоўнае ў мулярскай справе — закласці кутнія камяні, выверыць па іх падмуркі, узвесці вуглы. Далей па нацягнутым шнурку цэглу класці здолее і вучань. У ахоўнай сцяне Беларусі кутнія камяні кладуць і вуглы ўзводзяць гісторыкі. На іх працу раўняюцца астатнія будаўнікі.

Юры Туронак паклаў свае кутнія камяні глыбока і трывала. Можна сказаць — нязрушна. Стаяцьме на іх наша абарончая сцяна вечна.

Не мною заўважана, што гісторыя чалавецтва — гэта пераважна гісторыя войнаў. Не стала тут выняткам і гісторыя Беларусі — на нашай тэрыторыі зброя лязгала часцей, чым дзе. Але паколькі войны на беларускай зямлі, як правіла, ішлі за чужыя інтарэсы, то і гісторыю гэтых войнаў для нас пісалі таксама чужакі. Як прыклад можна прывесці таўшчэзны двухтомавік «Усенародная партызанская вайна ў Беларусі супраць фашысцкіх захопнікаў» аўтарства Цанавы (ён жа Джанджагава, ён жа Лаўрэнцій ІІ паводле чэкісцкіх святцаў). Паводле гэтага партызаназнаўцы ў генеральскіх пагонах, ледзь не з першых дзён вайны ўсе беларусы, якія не паспелі змабілізавацца ў Чырвоную Армію, шчыльнымі радамі пайшлі ў лес, адкуль білі фашыстаў і днём і ўночы і ў хвост і ў грыву. На падобных гісторыях і выхоўваліся мы ўсе, у тым ліку аўтар гэтых радкоў. Але ў школе мне пашанцавала на настаўніка, які часам расказваў тое, чаго не было ў савецкіх падручніках. Аднойчы настаўнік Пятро Мікалаевіч Марціноўскі (светлая яму памяць) проста на ўрок прынёс дзве кнігі — «Беларускую граматыку» Браніслава Тарашкевіча і «Беларускі правапіс» Антона Лёсіка. Абедзве — выданне 1943 года. Дапытлівым вокам я неўзабаве згледзеў, што наклад тых «ваенных» падручнікаў — па 100 000 асобнікаў. Лічба мяне ўразіла. Атрымлівалася, што пад нямецкай акупацыяй у

Беларусі дзейнічала прыкладна 500 школаў з прыблізна такой жа колькасцю вучняў, як у нашай сярэдняй Дзярэчынскай. Наклады Тарашкевіча і Лёсіка ў два разы пераўзыходзілі наклады аналагічных савецкіх падручнікаў!

Улучыўшы хвілінку, каб нам ніхто не перашкаджаў, я падаўся ў роспыты да настаўніка. Аказалася, што ён пры немцах вучыўся ў беларускай школе, ведаў дружыновага Саюза беларускай моладзі на Слонімскую акругу Барыса Суравога, ад якога навучыўся спяваць файныя песні. Настаўнік па-маладому матлянуў густым пасівелым чубам і напаўголаса праспяваў: «Дык ці ў шчасця дзень пагодны, ці у буры дні благім знайма першы кліч народны: Беларусь — перадусім!»

З таго часу прайшлі доўгія гады, пакуль складаная гісторыя апошняй вайны больш-менш упарадкавалася ў маёй галаве. І ўпарадкаваў яе гісторык з Варшавы Юры Туронак. Памятаю, як на маіх вачах у менскай кнігарні «Светач» людзі стаялі ў чарзе, каб набыць ягоную «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» у кідкай бел-чырвона-белай вокладцы. І бралі па дзве, па тры — сабе і сябрам. Дайце веры, навуковая кніга стала сапраўдным бестселерам!

Зразумела, што і ўсе пазнейшыя кнігі Юрыя Туронка не прайшлі міма мяне — і «Беларуская кніга пад нямецкім кантролем», і «Людзі СБМ», і «Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі», і — нарэшце — «Мадэрная гісторыя Беларусі», куды ўвайшлі асноўныя працы гісторыка. Усе кнігі чыталіся запойна. Чытаў і думаў — гэта ж адзін чалавек зрабіў работу за цэлы інстытут, прычым не маючы папярэднікаў, ідучы па цаліку. Асоба! А паколькі асоба гэтая жыве ў Варшаве, куды і пасля прыўзнятай жалезнай заслоны не заўсёды даедзеш, то звестак пра Туронка мы мелі мала. Хацелася ведаць больш. Звычайна незаменныя штрыхі ў партрэт любой асобы дадаюць мемуары. І вось — маем іх і ад Юрыя Туронка. Кнігу «За кардонам Бацькаўшчыны» мне падараваў куратар і апякун бібліятэчкі часопіса «Беларускі гістарычны агляд» Генадзь Сагановіч, дзякуючы якому яна і пабачыла свет.

Юры Туронак і ў мемуарах застаецца гісторыкам, таму чытача чакае падрабязная гісторыя яго родных Дукштаў —

з лічбамі і табліцамі, па якіх можна параўнаць два стагоддзі ў жыцці мястэчка — XIX і XX. У Дукштах будучы гісторык 27 красавіка 1929 года прыйшоў на свет, там немаўлём быў ахрышчаны ў парафіяльным касцёле ксяндзом Зянонам Буткявічусам, там падшпаркам на вуліцах услухоўваўся ў польскую, жыдоўскую, расійскую і літоўскую мовы. (Свая — беларуская — культывавалася ў сям'і, у доме, дзе на сценах віселі партрэты Багушэвіча, Купалы і Казіміра Сваяка.)

«Jak ty się nazywasz? Jureczek?» — пыталася ў трохгадовага лабатага хлопчыка суседка. «Nie Jureczek, а Юрачка», — адказваў той насуплена, і рабілася відавочным — такога не перавучыш і не пераназавеш.

Вялікую ўдзячнасць да сваіх бацькоў — Браніслава Туронка і Марыі з дому Рэшэцяў — захаваў у сваім сэрцы сын. Бацька, лекар па прафесіі, лячыў усю ваколіцу, а сабе не дапамог — рана памёр ад запалення лёгкіх. Але спрыяў сыну і пасля смерці — у 1942 годзе, пачуўшы прозвішча Туронак, дырэктар віленскай гімназіі без іспытаў залічыў Юрку у гімназісты і нават вызваліў ад платы за навучанне ў 100 марак. Прыйдзе час, і ўдзячны сын напіша пра бацьку цэлую кнігу, якую выдасць слынны нью-ёркскі БІНіМ.

Успаміны Юрыя Туронка часам жахаюць сваёй праўдай. Вось малаўцямная для нас, сённяшніх, карцінка: жанчыны на каленях моляцца ў хаце: «Божа, пашлі вайну!» Але што гэтаму папярэднічала? Дэпартацыя ў клятую Сібір (тры дні і тры начы энкавэдысты напаўнялі эшалон на станцыі ў Дукштах)... Мястэчковы ветэрынар, псіхалагічна не вытрымаўшы тэрору, брытвай перарэзаў сабе горла... Дарэшты запалоханая, як і ўсе мястэчкоўцы, новай уладай, Юркава бабуля спаліла ў печы кніжку Францішка Аляхновіча «У кіпцюрах ГПУ»... Вайна насамрэч была збаўленнем і ачышчэннем не толькі для маленькіх Дукштаў, але і для ўсёй вялізнай краіны, якая на касцях сваіх грамадзянаў будавала цёмны шлях у светлую будучыню. Была яна збавеннем і для галоўнага тырана, якому спісвала ўсе грахі, і для ягоных незлічоных памочнікаў, якія перад абліччам больш грознага ворага маглі не актыўнічаць у пошуку «ворагаў народа» сярод суайчыннікаў.

Так што сапраўды не пазбаўленая сэнсу дзіўная на першы погляд расійская прыказка: *кому война, а кому мать родна*. На вайну можна спісаць любыя злачынствы, як тое і рабілася неаднойчы ў паваенны час. Напрыклад, па звыклай завядзёнцы на немцаў спісалі забойства беларускіх ксяндзоў Станіслава Глякоўскага і Дзяніса Мальца, а забілі іх менскія праваслаўныя экстрэмісты пад кіраўніцтвам беларуса-паліцыянта. Пра ўсё гэта піша ў сваіх мемуарах гісторык Юры Туронак. Колькі яшчэ савецкіх міфаў дрыжыць у страху перад ім?

Са школьнай лаўкі памятаю ўзрушаны аповед настаўніцы пра партызанскія зялёныя школы, дзе вучыліся без падручнікаў, а пісалі ледзь не на бяросце. Сам у адным з музеяў трымаў у руках скручаны дротам цуд партызанскага самвыдата — паэтычны зборнік Анатоля Астрэйкі «Слуцкі пояс», аздоблены застаўкамі з бярозавых і дубовых плашак... Ніхто ж не спрачаецца — і зялёныя школы, і партызанскі самвыдат мелі месца, але, гаворачы пра іх, не варта аддаваць забыццю другія школы, другія кнігі і другія друкарні. Паводле падлікаў Юрыя Туронка, у акупаванай немцамі Беларусі пабачылі свет 52 кнігі. Нібыта і няшмат (у суседняй Латвіі за той жа перыяд — 1500), але гэта былі вартыя выданні — «Сягоння» Наталлі Арсенневай, «Мае песні» Алеся Салаўя, «Беларусь учора і сяння» Язэпа Найдзюка...

За настаўніцкую працу падчас вайны прафесар Тадас Іванаўскас (родны брат Вацлава Іваноўскага) меў ад літоўскага савецкага ўрада медаль «За доблестный труд». А якія падзякі атрымалі беларускія настаўнікі, якія вучылі школьнікаў па тых «статысячных» падручніках Тарашкевіча і Лёсіка? Добра яшчэ, калі абыходзілася дзесяцігадовай выправай у Сібір, а магло скончыцца і трагічна, як тое бліскуча апісана ў апавяданні Вячаслава Адамчыка «Прылёт кажана». Многа, ой многа прыгадак-асацыяцый прыходзіць на памяць над старонкамі Туронкавых успамінаў.

Славуты афарызм Тэрэнцыяна Маўра мы звыклі цытаваць у абсечаным выглядзе: *Habent sua fata libelli* («Кнігі маюць свой лёс»). Але ёсць яшчэ і працяг: «Кнігі маюць свой лёс, гледзячы па тым, як іх прымае чытач». І тут зноў хочацца вярнуцца да

кнігі «Беларусь пад нямецкай акупацыяй». Я ўжо згадваў, як яе размяталі з прылаўкаў менчукі. Але хто падрабязней ведае лёс кнігі, яе біяграфію, як не сам аўтар? Аказваецца, самая знакамітая кніга Юрыя Туронка перад тым, як трапіць на варштат Скарыны, пабыла навуковай дысертацыяй і прынесла даследчыку годнасць доктара гуманітарных навук у галіне гісторыі. Прычым (факт рэдкі!) усе 23 чальцы навуковай рады прагаласавалі «за». З поспехам абароненую дысертацыю рыхтавалі да выдання ў варшаўскім нелегальным выдавецтве WERS (1987 год, яшчэ існавала народная Польшча). Пакуль тэкст набіраўся, польскі камуністычны рэжым ляснуў, і кніга выйшла ў свет легальна. З польскага арыгінала яе пераклалі ў Менску Вітаўт Мартыненка і Уладзімір Панада і паспелі цісkануць некалькі раздзелаў у газеце «Чырвоная змена», пакуль не спахапіліся іх камсамольскія куратары. І нарэшце «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» своечасова патрапіла на Першы з’езд беларусаў свету — у тым самым бел-чырвона-белым аздабленні выдавецтва «Беларусь».

Акрылены поспехам кнігі аўтар правамерна чакаў не толькі захопленых чытацкіх водгукаў (іх было шмат), але і ўзважанага слова калегаў-гісторыкаў і мужоў дзяржаўных. І дачакаўся. Тагачасны прэм’ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч на сустрэчы з ветэранамі паабяцаў прыцягнуць Юрыя Туронка да крымінальнай адказнасці і дадаў: «По поводу книги “Беларусь под немецкой оккупацией” я уже вёл разговор с министром информации, кому подчинено издательство. Как можно такое издавать?» Прысутная на сустрэчы старэнькая Марыя Осіпава (удзельніца замаху на Вільгельма Кубэ) падтакнула прэм’еру: «Есть ли мозги у того, кто написал книгу?» Магчыма, калі б Юры Туронак з’яўляўся грамадзянінам Беларусі, яго і сапраўды паспрабавалі б пасадзіць на лаву падсудных. Хто ведае — такі быў час. А сёння месца злосным філіпікам прэм’ера бачыцца хіба толькі сярод каментароў да будучага трэцяга выдання «Беларусі пад нямецкай акупацыяй», якое даўно наспела.

Кніга «За кардонам Бацькаўшчыны» — гэта панарама чалавечага жыцця, дзе трэба — дакладна-падрабязная (відно,

што аўтар абапіраецца на дзённікі), дзе трэба — жывапісна-кінематаграфічная. Вось адна з яскравых сцэнак. 29 чэрвеня 1944 года, Дукшты. Беларус Пецька Кузьміцкі, які служыць у латышскім (!) вайсковым аддзеле, у форме люфтвафэ (!) ідзе з вінтоўкай на варту і спявае на ўсю вуліцу расійскую савецкую (!) песню «С нами Сталин родной, он железной рукой...». Наўрад ці дзесяцігадовы падлетак разумеў усю трагікамічнасць гэтай сітуацыі, але — запомніў, каб потым выкарыстаць як аздобу-дэталь у сваіх мемуарах.

Ці яшчэ адна сцэнка, ужо з гісторыі найноўшай, якая так і просіцца ў які-небудзь гісторыка-прыгодніцкі фільм пра чарговую хвалю беларускага адраджэння: 25 сакавіка 1985 года, Варшава. Пры шчыльна заслоненых вокнах і запаленых свечках у памяшканні Беларускага грамадска-культурнага таварыства праходзіць строга законспіраваная сустрэча студэнтаў. Даклад пра стварэнне БНР чытае доктар Юры Туронак з бел-чырвона-белай стужкай на грудзях...

У тыя шматспадзеўныя гады і ў менскія студэнцкія асяродкі даходзіла выдадзеная за заходняй мяжой літаратура. Тую кантрабанду па аднаму яму вядомых сцежках спраўна дастаўляў у беларускую сталіцу беластоцкі студэнт Юрка Ляшчынскі. Ён часам падначоўваў у нашым інтэрнаце на вуліцы Кастрычніцкай, дзе мы і сартавалі пачкі з самвыдатаўскімі часопісамі, са спеўнікамі і падцэнзурнымі брашуркамі. Не ведаў я тады, ды і пазней не падазраваў, што да шматлікага варшаўска-беластоцкага самвыдата меў самае непасрэднае дачыненне Юры Туронак — дзяліўся прывезенымі ў свой час з Лондана тэкстамі, перадрукоўваў на машынцы песні Данчыка...

Прыміце ж, паважаны кнiганоша, хоць запозненую падзяку ад спажыўца той друкаванай прадукцыі, якая прыносіла ў Беларусь адчувальны подых свабоды!

А цяпер пра два шкадаванні, адчутыя мною пасля прачытання кнігі Юрыя Туронка «За кардонам Бацькаўшчыны». Шкадаванне першае. Гісторык прыгадвае, што ліставаўся з удавой прэзідэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка Нінай Ляўковіч і нават пазнаёміўся з ёю падчас паездкі ў Парыж.

Шкада, што стасункі гэтыя не прывялі да выяўлення архіва БНР, які, па сведчаннях відавочцаў, захоўваўся на гарышчы Абрамчыкавага дома ў Вільпінце. Шкадаванне другое. Мемуары Туронка выдадзеныя недаравальна мізэрным накладам — усяго 100 асобнікаў. Гэта роўна ў тысячу разоў меней ад накладаў згаданых вышэй граматыкі Тарашкевіча і правапісу Лёсіка, выпушчаных у свет пад нямецкай акупацыяй! І гэта прытым, што Туронкавы кнігі, якім пашчасціла на выхад у Беларусі, неаднаразова перавыдаваліся. Што з гэтай акалічнасці вынікае? Вынікае, што шаноўнаму гісторыку рана карчаваць пні на лецішчы ў падбеластоцкіх Трыпуцях. Трэба рыхтаваць другое, дапоўненае выданне сваіх мемуараў.

*2011*

# ЗНАКІ НЕСПАКОЮ

Паэт Анатоль Вярцінскі сваім сябрам і знаёмцам любіць рабіць нечаканыя падарункі ў выглядзе рэдкіх кніг. Прызнаюся, у ліку ашчасліўленых неаднойчы давялося быць і мне. Неяк Анатоль Ільіч пасля гутаркі пра пераклады сусветнай класікі на беларускую мову падараваў мне беларускамоўнага Бальзака 1937 года выдання. Перакладчыкам там значыўся Рыгор Казак, і я, да таго часу падрыхтаваўшы да друку тры кнігі Рыгора Крушыны (а гэта і ёсць Рыгор Казак) і лічачы сябе не абы-якім крушынаведам, глядзеў на тое выданне з такім здзіўленнем, як мой дзед Васіль на хмарачосы ў Чыкага, куды ездзіў на заробкі са свайго заходнебеларускага хутара...

А неяк я выходзіў з паэтавай кватэры, несучы пад пахай анталогію «Fair Land of Byelorussia» («Мая цудоўная Беларусь») — з аўтографамі перакладчыка на англійскую Уолтэра Мэя і амаль усіх сарака пяці (!) яе аўтараў — А. Куляшова, М. Танка, К. Крапівы ды іншых. Жартоўная прыпіска дароўцы яшчэ больш дадавала вартасці і без таго каштоўнаму выданню: «Маю дачыненне да гэтай кнігі не толькі як аўтар, але і як укладальнік (compiler), і аўтар біяграфічных даведак. Словам, пасупрацоўнічаў з англасаксам. Сто рублёў (ці фунтаў стэрлінгаў) не меў — меў Уолтэр Мэй. А. Вярцінскі».

Пра яшчэ адзін падарунак Анатоля Ільіча варта было б напісаць асобна (дасць Бог, калі-небудзь напішу) — гэта ягоная паэма «Заазер’е», выдадзеная ў 1975 годзе ў адгароджаным на той час жалезнай заслонай Нью-Ёрку. Тады беларускаму паэту выдацца там было — як злятаць на Месяц. На такіх глядзелі з асцярогай і падазрэннем. А як іначай можна было глядзець на таго ж Вярцінскага? Прадмову да яго кніжкі напісаў перакладчык і па сумяшчальніцтве заўзяты антысаветчык Леанід Палтава, пасляслоўе — былы палявы камандзір УПА Яраслаў Стэцько, а ананімнае (ці засакрэчанае?) выдавецтва змясці-

ла на вокладку геаграфічную карту, дзе і Бранск, і Дзвінск, і Беласток — у межах Беларусі...

Дзеля цікавасці я праверыў — нью-ёркскага «Заазер'я» няма нават у Нацыянальнай бібліятэцы. Якія кніганошы ці кнігавозы і па якіх кантрабандных сцежках даставілі кніжку ў Менск — ведае, відаць, толькі аўтар. Я з лішнімі роспытамі ў вочы яму не лез. Хтосьці дужа рызыкаваў, ды і паэту ў выпадку чаго не паздаровілася б. Але неяк пранесла.

Думаю, сказанае вышэй яскрава пацвярджае відавочную выснову: Анатоль Вярцінскі — чалавек смелы і шчодры. Шчодры ў раздаванні, раздорванні свайго — іншым. Бо і насамрэч, як трапна зазначыў Руставелі, «што схаваў ты, ўсё прапала, што аддаў ты, ўсё тваё».

Прыгадаўшы бібліяфільскія дарункі паэта асабіста мне, як жа я магу забыцца на тысячы і тысячы ашчасліўленых чытачоў, якіх Анатоль Ільіч вось ужо паўстагоддзя абдорвае сваімі ўласнымі кнігамі? Было іх нямала, і кожная заслугоўвала і заслугоўвае ўхвальнага слова. Аўтар гэтых радкоў проста спазніўся нарадзіцца, і кнігі са шматспадзеўных шасцідзясятых прыходзілі да мяне пазней, парою ўніверсітэцкага юнацтва. Памятаю, якім адкрыццём і скарбонкай паэтычных афарызмаў стала для мяне кніга «Ветрана». Атмасфера тады, у сярэдзіне 80-х, была даволі гнятлівая, хацелася свежага паветра, і кніга тая зрабілася для мяне своеасаблівай кіслароднай падушкай. Чытаў — як дыхаў...

Але хопіць уздыхаць па далёкім мінулым, паэзіі знаходзіцца месца і ў непаэтычнай на першы погляд сучаснасці. Летась чытачы атрымалі ад Анатоля Вярцінскага чарговы падарунак — кнігу «Жыцьмем». Думаецца, яна невыпадкова так назвалася, бо яе асноўны матыў — жыццесцвярджальны. Дзеясловы жыцця дамінуюць у вершах і паэмах, бадзёра перагукаюцца між сабой: «жыцьме мой родзе, мой народзе», «прагучаў тройчы вокліч, што радзіма жыве, прагучала малітва “Магутны Божа”», «жыццё ж не канчаецца, жыццё прадаўжаецца»... А вось як паэт канкрэтызаваў славуты купалаўскі кліч «Занімай, Беларусь маладая мая, свой пачэсны пасад між

народамі» (у першасным варыянце ў Купалы было — «між славянамі»):

Jeszcze Polska nie zginęła...
Ще не вмерла Україна...
І жыве на свеце белым
Беларусь, мая краіна.

У касцёле існуе добрая традыцыя — па заканчэнні службы вернікі паціскаюць суседзям рукі, абмяняўшыся пранікнёнымі позіркамі. Передаюць адзін другому знакі супакою. Дзеля малітоўнай прасветленасці ў душы, дзеля руху любові ад сэрца да сэрца гэты знак вельмі дарэчы. Паэзія рухаецца, наадварот, неспакоем. І ўся новая кніга Анатоля Вярцінскага — гэта знакі неспакою. Чалавек падарожжа (у свой час аб'ездзіў паўсвету — ад Нью-Ёрка да Кітая), ён і ў новай кнізе застаецца вандроўнікам. Падарожныя ўражанні жывяць яго музу. І тут, відаць, не мае вялікага значэння, па Вялікай Кітайскай сцяне ты ідзеш ці лясною гравійкаю спяшаешся ў быкаўскія Бычкі на адкрыццё Дома-музея славутага пісьменніка. Бо ў любым выпадку via est vita, як казалі старажытныя, і кожная дарога дорыць свае непаўторныя ўражанні. А часам і правярае на трываласць.

На адкрыццё згаданага Музея Васіля Быкава мы з паэтам і нашымі агульнымі сябрамі ўлетку 2004 года безнадзейна спазняліся. І тут на нейкім скрыжаванні пад Лепелем Анатоль Ільіч выбраў малапрыкметную на карце партызанскую дарогу, якая мусіла нас вывесці наўпрост у Бычкі, мінаючы Вушачы. Як не паслухаць карэннага лепельца? Паехалі па ёй і ледзь не загрузлі ў пяску. Завярнулі на іншую дарогу, яшчэ менш прыкметную і яшчэ больш партызанскую, да таго ж гарыстую. Неспрактыкаваны да язды ў такіх умовах, я (бяру ўсю віну на сябе) у нейкі момант не справіўся са стырном, і аўто зляцела з дарогі, наскрозь пратараніўшы маладзы падатлівы ельнік. Вылез я на дарогу з дрыжачымі каленьмі (думаю, не толькі ў мяне яны дрыжалі)... Ці ж думалася мне тады, што тое ДТЗ

(паводле міліцэйскага пратакола) трапіць і ў паэтычныя аналы. А яно-такі трапіла:

Была вайна, мог быць забіты,
мог быць забіты і забыты,
на тыя звезены клады,
дзе ціха спяць твае дзяды...
Пацвердзяць Скобла і Акулін,
як іх аўто ляцелі кулем,
як мы ляцелі пад адхон
з бядою наўздагон, на скон.
Усе жывыя, дзякуй Богу.
Жыву, збіраюся ў дарогу.

Не, што ні кажыце, прыемна стаць героем кнігі, хай сабе і коштам разбітай аўтамабільнай фары! А тады, калі мы на самым прыцемку ўсё ж дабраліся ў Бычкі, Анатоль Вярцінскі па-філасофску падсумаваў: «Дарога да Быкава простай не бывае». І як тут не пагадзіцца з паэтам-мысляром? Да зрубленай на скорую руку музейнай хаты можна і па заасфальтаванай шашы пад'ехаць, а каб асэнсаваць творчасць вялікага пісьменніка, трэба часам і пакружляць. Увогуле, быкаўская тэма для Вярцінскага — не прахадная і не праязная. Свайму старэйшаму сябру прысвяціў ён нямала радкоў. Вось і ў новым зборніку мы знаходзім такія выдатныя вершы, як «З ліста Васілю Быкаву ў Фінляндыю» і «Быкаў — гэта лета».

Адметная кніга «Жыцьмем» і тым, што некаторыя творы, змешчаныя ў ёй, у свой час друкаваліся толькі ў перыёдыцы і ніколі не траплялі ў кніжныя выданні. З ліку такіх хачу назваць паэму з дзіўнай назвай «Кэты-мэнэй». Напісаная ў далёкім 1971 годзе, яна чакала на публікацыю ў часопісе «Крыніца» роўна трыццаць гадоў, а пасля ізноў з невядомых прычын была адкладзеная аўтарам у глыбокую шуфляду. Не ўвайшла, скажам, у «кнігазбораўскі» том, пра што мне як чытачу і даўняму прыхільніку паэта даводзіцца толькі пашкадаваць. «Кэтымэнэй» не забараняла цэнзура, яна — пра каханне, пра светлае маладое каханне, пра дзівосную пару, калі закаханыя могуць

размаўляць на адной ім зразумелай мове, вынаходзячы для яе нечуваныя раней словы: «Кэты-мэнэй!» — гукнулі разам мы. / «Кэты-мэнэй!» — зашапацела лісце. / «Кэты-мэнэй!» — зашчабяталі птушкі. / «Кэты-мэнэй!» — загаманілі дрэвы. / Выходзіла, што двое закаханых / знайшлі агульную з усімі імі мову...» Або: «і я глядзеў на яблыні, / на гэты цуд новаяўлены, / я глядзеў на квецень / і адыходзіў душой. / Такое было адчуванне, / такое хваляванне, / якое бывае ў храме / з яго ўрачыстай імшой». Зрэшты, выбачаюся, апошяя цытата не з паэмы, а з верша «Не помню такога лета». Але як гэтыя два творы (між датамі іх напісання — цэлае чалавечае жыццё) гучаць ва ўнісон! Паверце, гэта вельмі рэдкая з'ява, калі паэт і ў сталым веку не развучыўся глядзець на свет па-юнацку.

Блізкі мне Анатоль Вярцінскі і сваім стаўленнем да айчыннай гісторыі. Чытаючы яго верш «Адзін дзень у БНР» (яго можна назваць міні-паэмай), дзе фігуруе ці не ўвесь сакратарыят Беларускай Народнай Рэспублікі, ледзь не пагалоўна пасля вынішчаны, міжволі прыгадваеш, што і аўтар гэтага твора самым непасрэдным спосабам спрычыніўся да абвяшчэння незалежнай Беларусі ў 1991-м. Дарма, што потым сёй-той з летапісцаў у «дэпутаты незалежнасці» залічыў толькі прадстаўнікоў адной-адзінай партыі. Так што следам за «Адным днём у БНР» не шкодзіла б Анатолю Вярцінскаму апісаць і тыя дні ў Вярхоўным Савеце, калі яму даводзілася і тэкст Канстытуцыі рэдагаваць, і Дзень Незалежнасці з парламенцкай трыбуны абвяшчаць.

Калі ўжо зайшла гаворка пра гісторыю, то не выпадае абмінуць увагай і верш-рэцэнзію на кнігу «Расстраляная літаратура». 66 яе аўтараў былі забітыя ў Курапатах, не вярнуліся з ГУЛага, былі закатаваныя ў савецкіх турмах. Наймаладзейшаму з іх — Янку Філістовічу — было 26 гадоў, найстарэйшаму — Аляксандру Уласаву — шэсцьдзясят сем. 399 кніг «ворагаў народа» ў 1937-м былі спаленыя ва ўнутраным дворыку тагачаснай турмы НКВД. Чытаць «Расстраляную літаратуру» цяжка, і складаць яе было цяжка — сведчу як адзін з укладальнікаў. Як пра гэтую трагедыю сказаць у вершы? Тут любая неасцярожная рыфма можа ста-

цца блюзнерскай бразготкай. А як падшукаць той эпітэт, які будзе да месца і не паблякне на чорным мармуры? Анатоль Вярцінскі знайшоў патрэбныя словы. І калі на месцы спалення кніг калі-небудзь паўстане помнік (а ён позна ці рана павінен паўстаць), то словы для яго ўжо знойдзеныя Вярцінскім:

Пакутніцкія лікі
глядзяць з тых кніжных бачын.
Госпадзе, памілуй,
дай іхнім душам спачын.
А нам, жывым, дай моцы,
дай пільнасці, каб надалей
нас гэтак больш не знішчалі,
нас, нашых кніг і людзей.

У Нямеччыне падобны помнік на месцы, дзе ў часы трэцяга рэйху адбываліся кніжныя аўтадафэ, усталяваны. Колісь час ачышчэння і пакаяння настане і ў Беларусі, і пісьменнікам, і іхнім кнігам аддасца належнае. Бо спаліць кнігу — гэта знішчыць духоўны свет творцы. Гэта таксама злачынства.

«Паболей вершаў, паменей Трэцяга аддзялення», — так, здаецца, адгукнулася Ганна Ахматава на манаграфію аднаго пушкініста, які на жыццяпісы Бенкендорфа і яго супрацоўнікаў таксама не пашкадаваў атраманту. Магчыма, падобнага водгуку заслугоўвае і аўтар гэтых радкоў. Маўляў, хіба няма ў творчасці Вярцінскага, як і ў кожнага сапраўднага паэта, чыстай красы? Вядома ж, ёсць. Але ёсць і болевыя кропкі, якія, на маю думку, з'яўляюцца вызначальнымі для кнігі «Жыцьмем».

А яе вяршынным творам, ні хвіліны не вагаючыся, я назаву верш (які, ізноў жа, сваім зместам заважыць на цэлую паэму) «Здарэнне ў Судны дзень, або Ніл Гілевіч як аргумент». Твор-прыпавесць пра тое, як вернасць роднай мове аднаго чалавека ўратавала цэлы народ. Гэта вялікі ва ўсіх сэнсах твор — і па колькасці радкоў (каля паўтары сотні), і па сваёй мастацкай значнасці. Наўмысна не буду яго цытаваць. Знайдзіце і прачытайце. Шэдэўры (як жа яны рэдка з'яўляюцца!) заслугоўваюць быць прачытанымі ад пачатку да канца. У кнізе, поўнай

знакаў неспакою (знакаў бяды — паводле Быкава), «Здарэнне ў Судны дзень...» выглядае як знак супакою і нацыянальнага аптымізму. А такіх знакаў беларускай літаратуры сёння відавочна бракуе.

Думаў на гэтым паставіць кропку. Але згадаў яшчэ адзін — самы нечаканы — падарунак ад Анатоля Вярцінскага. Аднойчы ён падараваў мне... Каран. Дыхтоўнае выданне — пераклад і грунтоўны каментар акадэміка Ігната Крачкоўскага. На мой запытальны позірк дароўца параіў знайсці дваццаць шостую суру пад назвай «Паэты». І што я прачытаў у мудрай, шанаванай мільёнамі людзей кнізе? Дайце веры, там чорным па белым было напісана, што «паэты — хлусы, якія блукаюць па раўнінах і гавораць тое, чаго самі не робяць». Рызыкую наклікаць на сябе гнеў прарока Мухамеда, але беларускіх паэтаў тыя словы ніякім чынам не датычацца.

Беларускі паэт — і на Найвышэйшым судзе аргумент, як пераканаўча паказаў Анатоль Вярцінскі. Беларускія паэты сваю праўду адстойвалі часам коштам сваіх жыццяў — і пра гэта высокі Суддзя таксама не забудзе. А лжэсведчанні, як вядома, на тым судзе пад увагу не бяруцца.

*2012*

# З НЕБЫЦЦЯ — НА ПОКУЦЬ

Мы ідзем восеньскім прыснулым Панарскім лесам з віленскім беларусам Яраславам Войцікам. Ідзем да месца, дзе калісьці ў зацішнай лагчыне стаяла хатка-мазанка, у якой жыла Зоська Верас — бабуля майго спадарожніка. Застаўшыся без гаспадыні (ледзь не на сотым годзе жыцця яна перабралася да дачкі ў Вільню), хатка праіснавала зусім нядоўга — пайшла дымам у неба. Абставіны пажару так і засталіся нявысветленымі. Калі Яраслаў адным з першых прыімчаўся на пажарышча, у куце яшчэ дагаралі кнігі, і вецер гартаў палаючыя старонкі...

Ён расказвае, і я бачу, што нават праз чвэрць стагоддзя для яго — гэта балючы ўспамін. Каб на душы палягчэла, мы заходзім спачатку ў захоплены лесам сад, дзе напаўадзічэлыя яблыні частуюць нас крамянымі сакаўнымі антонаўкамі. І я задаю Яраславу пытанне, якое ўжо даўно, з тае пары, як пачаў збіраць мемуарную і эпісталярную спадчыну Зоські Верас, не дае мне спакою. А чым займалася заўсёды актыўная беларуская дзеячка ў часы Другой сусветнай вайны? Ні ва ўспамінах, ні ў лістах я не знайшоў адказу на гэтае пытанне. Нават намёку не знайшоў. Названы перыяд у жыццяпісе Зоські Верас для мяне — поўная таямніца.

Яраслаў Войцік трохі іранічна глядзіць на мяне і няспешна, нават неяк задумліва разважае ўслых: «А можа, бабуля, жывучы ў лесе, і не заўважыла, што адбылася вайна? Ды і пасля вайны доўгі час яна жыла пустэльніцай. Да актыўнага жыцця яе вярнуў Арсень Ліс — ён, па сутнасці, "абудзіў" Зоську Верас з летаргічнага сну, падгаварыў яе пісаць успаміны, паказаў дарогу да Лясной хаткі многім беларусам, якія шукалі тут сапраўднай беларускай гісторыі».

«Абудзіў» Арсень Ліс... Потым я знайду пацверджанне гэтым словам у аўтабіяграфіі самой Зоські Верас.

Арсень Ліс — менавіта будзіцель. Ён абудзіў не толькі Зоську Верас, ён настойліва і мэтанакіравана будзіць, раска-

турхвае ад сну ўвесь народ. Бо абуджэнне з летаргіі чалавека ці народа, для якога сон можа цягнуцца стагоддзямі, магчымае толькі пры наяўнасці памяці. Пры амнезіі — поўнай страце памяці — абуджаны чалавек ці народ рызыкуюць пачаць жыццё немаўляці — з чыстага аркуша. Зразумела, тады яны маюць пільную патрэбу ў апекунах-настаўніках.

Кнігі Арсеня Ліса — гэта лекі ад амнезіі, ад страты нацыянальнай памяці. Іх няшмат (лекаў і не трэба шмат), але яны дзейсныя. Хто іх прачытае — умацуе сябе нацыянальна, атрымае эфектыўную прышчэпку ад шкодaносных антыбеларускіх вірусаў, для якіх у нашай краіне ізноў створаная спрыяльная атмасфера.

Калі яшчэ ў студэнцтве трапіла мне ў рукі кніга «Вечны вандроўнік» — пра Язэпа Драздовіча — і была прачытаная на адным дыханні, я зразумеў, што павінен знайсці і прачытаць усе кнігі гэтага аўтара. І паступова знаходзіў, хоць зрабіць гэта было, трэба прызнаць, нялёгка. Не здаюць людзі ў букіністычныя крамы кніг Арсеня Ліса. І ўсё ж за гадоў дзесяць мэтанакіраваных пошукаў у маёй бібліятэцы шчасліва апынуліся і «Браніслаў Тарашкевіч» (1966), і «Мікола Шчакаціхін» (1968), і «Пётра Сергіевіч» (1970), і «Купальскія песні» (1974), і «Песню — у спадчыну» (1989), і «Пякучай маланкі след» (1981), на якую я найдаўжэй паляваў. Апошняя кніга — пра таленавітага заходнебеларускага мастака Язэпа Горыда, вернутага літаральна з забыцця. Ці трэба казаць, што мой кнігазбор папоўніла — адразу ж па выхадзе ў свет — «Цяжкая дарога свабоды» (1994), а аб'ёмны фаліянт (754 шырокафарматныя старонкі!) «Gloria victis!» (2010) за апошнія гады па перачытванні ўпэўнена займае першае месца.

«Gloria victis!» — Слава пераможаным! Менавіта такім воклічам варта сустракаць герояў кніг Арсеня Ліса. Сустракаць з небыцця і забыцця, з заплеценых хлуслівай павутой каmoраў і камераў, што і дагэтуль ахоўваюцца прыслужнікамі цёмначасся. Сустракаць і праводзіць на покуць Беларускага Дому, на самае пачэснае месца, якое яны заслужылі. Бо не можа покуць быць пустапарожняй, неадушаўлёнай.

Хто ж яны, вартыя, на думку Арсеня Ліса, святога месца — покуці — у Беларускім Доме? Аляксандр Уласаў і Браніслаў Тарашкевіч, Аляксандр Цвікевіч і Тамаш Грыб, Леапольд Родзевіч і Аркадзь Смоліч, Рыгор Шырма і Мікола Шчакаціхін, Антон Грыневіч і Максім Танк, Пётра Сергіевіч і Уладзімір Караткевіч... Яны і сталіся галоўнымі героямі новай кнігі нястомнага даследчыка, якая нядаўна пабачыла свет у класічнай серыі «Беларускі кнігазбор».

«Почему Лис поднимает этих мертвецов?» — яшчэ ў канцы 60-х дапытваўся адзін служака з таго фронту, які прынята называць нябачным, у выкліканых на размову пісьменнікаў. Няўцям было таму служаку, што малады даследчык «падымае» не нябожчыкаў, а дойлідаў беларускай дзяржаўнасці, якія ў дужа неспрыяльных умовах паспелі закласці падмуркі Беларускага Дому. Мала хто тады, паўстагоддзя таму, верыў, што Дом гэты адбудуецца па ўсіх правілах дзяржаўнага будаўніцтва і на мапе Еўропы з'явіцца краіна Рэспубліка Беларусь. Арсень Ліс верыў і ведаў, і дзеля гэтага працаваў не апускаючы рук.

Чытаючы кнігазбораўскі том, я заўважыў, што хоць імёны і паўтараюцца (Тарашкевіч, Шчакаціхін, Сергіевіч...), але аўтар сабе паўтарацца не дазваляе. У новай кнізе — новыя тэксты, новыя факты. І — новыя імёны, пра якія — пазней.

Пра Браніслава Тарашкевіча мы маем дзве манаграфіі — адна, ужо згаданая, Лісава, другая — польскай даследчыцы Аляксандры Бергман. Здаецца, там дадзеныя падрабязныя жыццяпісы знанага палітыка, навукоўца і дзеяча на ніве культуры. У свой час я тыя манаграфіі старанна чытаў, нават канспектаваў. Але ўчытваюся ў невялічкі, шаснаццацістаронкавы нарыс «Браніслаў Тарашкевіч», і ягоны герой адкрываецца для мяне яшчэ адной гранню свайго разнастайнага таленту. Што Браніслаў Адамавіч на турэмных нарах «Пана Тадэвуша» пераклаў, а значыць — меў паэтычны дар, гэта вядома. Але тое, што ён яшчэ і ўласныя вершы пісаў, сталася для мяне сапраўдным адкрыццём. Ды якія вершы! Адзін з іх — «Сто тысяч нас было, сяброў...» — меўся стаць гімнам Беларускай Грамады:

Смялей, сябры, ужо світае,
Гарыць зарой усход.
І беларус ярмо скідае —
Змагаецца народ.
Ўжо волі час, ўжо волі час,
Ўжо волі час бліжэй да нас!

Яшчэ адзін дойлід нашай дзяржаўнасці — рэдактар «першай беларускай газеты з рысункамі» Аляксандр Уласаў. Помню пачуты ад Арсеня Сяргеевіча аповед пра гэтага магута з нашаніўскай кагорты. Сенатар Уласаў сустрэўся з Зоськай Верас і запрапанаваў ёй выдаваць дзіцячы часопіс, паабяцаўшы сціплую фінансавую падтрымку. «Як можна за 30 злотых выдаць часопіс?» — запыталася кандыдатка на выдаўца-рэдактара. «А вы скромненька», — адказаў Уласаў... І пачаў часопіс «Заранка» выходзіць у свет, і выйшла яго ажно 15 нумароў!

Са старонак кнігі Аляксандр Уласаў паўстае не толькі ўмелым арганізатарам-выдаўцом, палітыкам і грамадскім дзеячам, але і спрактыкаваным гаспадарнікам. Ён яшчэ сто гадоў таму разумеў, што лес — нацыянальнае багацце беларусаў і з ім трэба абыходзіцца ашчадна. Мяне як чытача ўразілі развагі і падлікі Уласава адносна адбудовы Беларусі пасля Першай сусветнай вайны. Ён падлічыў, што на адну хату запатрабуецца 180 дрэваў, на 200 000 хатаў — 36 мільёнаў дрэваў, дзеля чаго мае быць высечана 200 тысяч дзесяцін спелага лесу. Адсюль выснова Уласава — Беларусь можа ператварыцца ў аравійскую пустэльню. І ён просіць знаёмых архітэктараў, насамперш Лявона Дубейкаўскага, спраектаваць будынкі з цэглы, каменю і жалеза. І насамрэч — дойлід.

З цікавасцю прачытаў я і эсэ Арсеня Ліса «На разломе эпохі» — пра Максіма Танка. У ім так арганічна пераплятаюцца развагі абазнанага архівіста, літаратуразнаўца і ўспаміны пра асабістыя сустрэчы і гутаркі з паэтам. Мабыць, не памылюся, калі скажу, што ніхто да Ліса не спрабаваў у нас даследаваць такую далікатную тэму, як маральная адказнасць Танка перад рэпрэсаванымі савецкай уладай паплечнікамі і сябрамі. А ў паваенны час іх нямала апынулася ў ГУЛагу — ксёндз

Адам Станкевіч, выдавец Янка Шутовіч, рэдактар часопіса «Крыгалом» Юры Кепель... Не было ў Максіма Танка на той час вялікіх магчымасцяў дзеля іх абароны, сваёй свабодай рызыкаваў, але ішоў, стукаўся ў высокія кабінеты, тлумачыў. І сяго-таго ўдалося ўратаваць. Скажам, заходнебеларускага паэта Міхася Васілька, якога ў 1944-м загрэбла НКВД за тое, што друкаваўся ў берлінскай газеце «Раніца». Якім гэта было злачынствам для савецкіх уладаў, сведчыць наступны факт: праз пяць гадоў, у 1949-м, яшчэ адна аўтарка «Раніцы», Ларыса Геніюш, дастала ад Вярхоўнага Суда БССР дваццаць пяць гадоў зняволення...

А як нечакана дапаўняецца партрэт народнага паэта наступным штрыхом. Падчас выступу ў БДУ студэнты запыталіся з залы: калі вам, шаноўны Яўген Іванавіч, найлепей пісалася? Адказ быў лаканічным: «У польскай турме». Яго чуў сам аўтар — на той час студэнт філфака. З такіх жыццёвых крэсак і вымалёўваецца постаць творцы і грамадзяніна, а не толькі з дэпутацкіх і вярхоўнасавецкіх прамоваў, якіх ці не зашмат у нядаўна выдадзеным Зборы твораў у 13 тамах.

Эсэ «З любасцю, думна, годна» — адно з лепшых у кнізе. І лепшае з усяго таго, што мне давялося прачытаць пра Уладзіміра Караткевіча. Я ажно не даў веры вачам, не знайшоўшы тое эсэ, напісанае яшчэ ў 1986 годзе, у таўшчэзнай кнізе «Быў. Ёсць. Буду: Уладзімір Караткевіч», якая выйшла ў 2005-м у серыі «ЖЗЛБ» (расшыфроўваецца, здаецца, як «Жыццё знакамітых людзей Беларусі»). Паглядзеў яшчэ раз і яшчэ — няма. Зрэшты, у тым «ЖЗЛБ» няма і выдатнага эсэ Рыгора Барадуліна. Як па мне, дык лепш такіх кніг увогуле не выдаваць, чым выдаваць у гэткім выглядзе, пасмяротна абкрадаючы класікаў на сяброў.

Сваім абурэннем я падзяліўся па тэлефоне са старэйшым сябрам, які як мала хто ведае ўсю — празаічную і паэтычную — Караткевічыяну. «А ты зірні, як пачынаецца тое эсэ Ліса, — пачуў я ў слухаўцы насмешлівы голас, — “Не быў блізкім сябрам...”. Гэта, відаць, і адштурхнула ўкладальніцу». Можа, і так. Зразумела, тую кнігу я ніколі не скарыстаю як падстаў-

ку пад патэльню (як і любую другую беларускую кнігу), але горкі прысмак на душы застаўся.

«Не быў блізкім сябрам...» Такі пачатак сведчыць хіба пра сціпласць і шляхотнасць аўтара. А ўспомніць яму было пра што. Хоць бы пра тое, як ён у бытнасць сваю супрацоўнікам выдавецтва выратаваў ад рэдактарскага глуму тры вершы ў першым зборніку Караткевіча «Матчына душа». Сярод іх — і вядомая сёння элегія «У векавечнай Бацькаўшчыне клёны...». А хіба не цікавы сюжэт, як Арсень Сяргеевіч выступіў у ролі свата і вазіў Уладзіміра Сымонавіча на агледзіны ў Вільню? Ды цаны такім успамінам няма! І як жа добра, што яны напісаліся — з любасцю, думна, годна і — таленавіта.

Калі я рыхтаваў для «Гарадзенскай бібліятэкі» том спадчыны Зоські Верас, мне яўна бракавала інфармацыі пра яе першага мужа Фабіяна Шантыра. Так, таленавіты публіцыст, харызматычны прамоўца на салдацкіх мітынгах, кароткі час пабыў нават наркамам у першым савецкім урадзе Беларусі. І раптам — арышт і расстрэл у 1920-м. Сама Зоська Верас не знала прычынаў, пра смерць мужа даведалася з гарадзенскай газеты. І вось сустракаю ў новай кнізе Арсеня Ліса звесткі, запісаныя ім непасрэдна ад старога беларускага дзеяча Язэпа Сушынскага: «Энергічна і нервова паводзіў сябе на Усебеларускім з’ездзе бальшавік Фабіян Шантыр. Імклівы, амбітны, з кольтам праз плячо, у неадступным суправаджэнні некалькіх чалавек (казалі — група Шантыра) снаваў між дэлегатамі. У адказ на нейчую рэпліку-нязгоду запальчыва кідаў: “Патрабую сатысфакцыі за абразу!”» Зноў жа — некалькі штрыхоў, а партрэт вымалёўваецца. Хіба складана было ў той час нарвацца амбітнаму, ужо пабываламу ва ўладзе нацыянал-бальшавіку, да таго ж узброенаму кольтам, на такіх жа ўзброеных проста бальшавікоў?..

Ладнаватае месца ў кнігазбораўскім аднатомавіку займаюць фальклоразнаўчыя даследаванні Арсеня Ліса. Так, ён яшчэ і выдатны фальклярыст — тэарэтык і практык, які з груваcткім бабінным магнітафонам абышоў не адзін дзясятак вёсак, вышукваючы залацінкі народнага меласу. У полі яго зроку калядкі і шчадроўкі, купальскія, пятроўскія, касецкія і жніўныя

песні. Я з належнай пашанотай стаўлюся да шматтомнай серыі «Беларуская народная творчасць», але калі душа прагне спеваў, я бяру ў рукі не груваcткія, з акадэмічнымі каментарамі, тамы, а маленькі томік «Беларускія народныя песні» (1970), складзены Арсенем Сяргеевічам. Густ у яго бездакорны, ды і фармат кніжкі зручны — хоць за пазухай насі.

Ужо даволі працяглы час, дастаўшы з паштовай скрыні тыднёвік «Новы час», я з нецярпеннем шукаю ў ім працяг успамінаў Арсеня Ліса. Добра, што знайшлося для іх месца і ў кнігазбораўскім выбраным. Аўтар вяртаецца ў незабыўную пару школьнага юнацтва, і мне было цікава разам з ім апынуцца ў яго роднай Залескай школе, якая працавала і пад нямецкай акупацыяй. У свой час мой школьны настаўнік Пятро Марціноўскі падараваў мне «Беларускую граматыку для школ» Браніслава Тарашкевіча. Мяне ўразіў яе наклад — 100 000 асобнікаў, якія неяк не спалучаўся з высновамі савецкай прапаганды, дзе беларускаму школьніцтву ў гады вайны месца не знаходзілася. І мяне цікавілі падрабязнасці: як і што ў такіх школах чынілася, у якой атмасферы знаходзіліся там вучні.

Аказалася, што юны Арсень Ліс вывучаў родную мову па той самай граматыцы Тарашкевіча — 1943 года выдання, з букецікам васількоў на вокладцы. Ён з удзячнасцю прыгадвае выкладчыка малявання Паўла Южыка — прафесійнага мастака, выпускніка Віленскай рысавальнай школы прафесара Трутнева (потым вучань пра свайго настаўніка напіша бліскучае эсэ «Мастак родам з Вётхава»)... Чытаю — і нібы прысутнічаю на ўроку ў той Залескай школе. Вось у клас заходзіць «жвавы і энергічны» настаўнік Аляксандр Быкоўскі і замест звыклага «добры дзень» вітаецца воклічам «Жыве Беларусь!» — «Жыве!» — шматгалоса адказвае клас. На партах перад вучнямі — чытанка «Родны край», адкуль і да гэтай пары Арсень Ліс памятае вершы Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Алеся Гаруна, байкі Альгерда Абуховіча. У школе практыкаваліся звароты — спадар настаўнік, спадарыня настаўніца.

Як і многім дзеткам у Заходняй Беларусі, школьніку Арсеню свяціла і ўжо згаданая «Заранка» Зоські Верас.

Выдаваная «скромненька», яна тым не менш настойліва ўзгадоўвала ў юных душах парасткі патрыятызму. Каб выпісаць улюбёны часопіс, дзеці збіралі і сушылі лекавыя зёлкі. Арсеню пашанцавала — «Заранку» прывёз яму сваяк з Вільні, дзе паражніўся склад пры старой кнігарні.

Падпісчыкаў і чытачоў часопісаў «Заранка» і «Беларуская борць» Зоська Верас пасля расшуквала ўсё жыццё. Яны парабіліся яе найбліжэйшымі сябрамі і вернымі карэспандэнтамі. Таму мне бачыцца невыпадковай яе сустрэча з адным з чытачоў — іх лучыла «Заранка», іх ядналі замоўчаныя і прызабытыя ў савецкай Беларусі постаці, дух якіх, здавалася, лунаў у Лясной хатцы. З іх належала адсланіць заслону бяспамяцтва, паказаць належнае ім месца — на покуці. І Арсень Ліс выдатна справіўся з роляй будзіцеля, што засведчана Зоськай Верас, што мусім засведчыць і мы — ягоныя чытачы.

Я не прыхільнік даваць парады творцам. Як правіла, яны самі ведаюць, пра што і пра каго пісаць. Але прыканцы гэтых нататак я ўсё ж асмелюся выказаць спадзеўную просьбу. Арсень Сяргеевіч, я вельмі спадзяюся, што ў Ваш цыкл гісторыка-літаратурных эсэ «Дойліды беларускай дзяржаўнасці» неўзабаве дадасца роздум-успамін пра Зоську Верас. Тыя 400 з гакам лістоў ад яе, якія Вы ашчадна перахоўваеце, — неацэнны матэрыял, які проста просіцца на старонкі новай кнігі, на сустрэчу з чытачамі. Месца Зоські Верас — таксама на покуці, і найлепей пра гэта ведаеце Вы — будзіцель яе і будзіцель усяе Беларусі.

*2014*

# КРЭНТУ-МЭНТУ, альбо КОЛЬКІ ВАЖЫЦЬ ЭПІГРАМА

Кажуць, маладое віно ліць у старыя мяхі нявартa. Наўрад ці словы гэтыя ўспрымаюцца ўсур'ёз сучаснымі вінаробамі, якія льюць сваё віно ў што заўгодна — у пластыкавыя пляшкі, у папяровыя пакеты, у карабельныя бочкі, у чыгуначныя цыстэрны. Абы хмельнае пітво да спажыўца даплыло-даехала.

Гэта калі ўспрымаць крылаты выраз пра віно ў мяхах у літаральным сэнсе. А калі ў пераносным, што больш характэрна для афарызмаў, то тут залатое правіла старажытных вінаробаў аспрэчваецца на кожным кроку.

Возьмем, напрыклад, літаратуру. Не злічыць, колькі галонаў маладога паэтычнага віна было разліта ў старыя мяхі — прыдуманыя богведама калі формы. І як тое віно-зеляно маладзіла, здавалася б, спарахнелыя канструкцыі санетаў, трыялетаў, танкаў, рандо, одаў і эпіталамаў!

Эпіграма таксама мех яшчэ той — за стагоддзі добра-такі падношаны, месцамі зацыраваны. Але як трымае давераныя яму градусы!

Хто ж быў першым айчынным эпіграмістам? Разгарнуў я «Паэтычны слоўнік» прафесара Вячаслава Рагойшы і вачам не паверыў: «Першыя беларускія эпіграмы з'явіліся на пачатку XX ст. Майстрам Э. быў Я. Купала...»

Прыбядняцца мы ўмеем, гэта ўвайшло ў наш нацыянальны характар. Але ў дадзеным выпадку — навошта? І навошта шляхецкую кавеньку Купалы ставіць у кожны літаратурны качарэжнік? Ёй там не заўсёды месца. Ды і самому Яну Дамінікавічу грэцца ў промнях чужой славы наўрад ці спадабалася б. Мог бы і не змоўчаць ды палічыць той самай кавенькай гаршкі на плоце. Ці эпіграмай смалянуць, ды такой, што страшна падступіцца: «Макну пёрка ў атрамэнту / ды як чыркну па паперы, — / крэнту-мэнту, крэнту-мэнту, — / як быкі, стаяць літэры!»

Малаўцямнае для вушэй сучасных чытачоў *крэнту-мэнту* гучыць сёння, як шаманскае камланне, але постраху паранейшаму наганяе. Што ж, вялікі паэт і гневацца мае права па-алімпійску.

Дык а ў промнях чыёй славы няма патрэбы грэцца Купалу? О, ён меў цэлую кагорту годных папярэднікаў-эпіграмістаў. Давайце зазірнем адразу ў змрачнаватае для Беларусі XVII стагоддзе. Эпіграмы тады пісалі ігумен Куцеінскага манастыра Іаіль Труцэвіч і друкар першага буквара Спірыдон Собаль, аўтар «Граматыкі славянскай» Лаўрэн Зізаній і кнігавыдавец Лявон Мамоніч. Як і ўся тагачасная літаратура, эпіграмы названых аўтараў плылі ў рэчышчы рэлігійным, але баявы дух ужо мелі. Як вось гэтая, Мамонічава: «Вера, меч креста держачи, цвите тобою, / бо естесь з супостатом готов до бою».

Але зусім не XVII стагоддзем датуюцца першыя беларускія эпіграмы. Пісаліся яны і раней. Славутым эпіграмістам быў беларуска-польскі паэт другой паловы XVI стагоддзя Андрэй Рымша, чые эпіграмы, праўда, нагадваюць хутчэй панегірыкі. А пальмай першынства мы маем поўнае права ўганараваць усё таго ж Францішка Скарыну — аўтара эпіграмы ў кнізе «Іоў», адкуль і паходзіць знакаміты радок «людем посполитым к доброму научению».

Такім чынам, эпіграма — жанр, успадчынены ад Скарыны, які ў сваю чаргу пераняў яго ад старажытнагрэцкіх і рымскіх паэтаў. Жанр, які вымагае ад творцы дасціпнай думкі і лёгкага пяра. У сувязі з гэтым эпіграму прынята залічваць да лёгкіх жанраў. Сапраўды, над чатырма-шасцю радкамі чаго доўга карпець? Карпець доўга, можа, і не варта, але ж адточанасць эпіграмных радкоў, іх рыфмоўка мусяць быць бездакорнымі. А гэта ўжо праца ювелірная. Іначай кажучы, эпіграмы пісаць — не молатам па кавадле гахаць, эпіграміст хутчэй нагадвае фехтавальніка, які элегантнай рапірай робіць нечаканы і дакладны ўкол.

На першы погляд, лёгкасць (-*грам*-) нібыта прысутнічае і ў самім слове эпіграма. Але яна падманлівая. Справа ў тым, што ў часы даўнейшыя выбуховы гук ***г*** перадаваўся ў стара-

беларускай мове дзвюма літарамі ***кг***, адпаведна і пісалася — эпікграма. І вось гэтыя ***кг***, якія невідочна прысутнічаюць у кожнай эпі(к)граме, для мяне і ёсць паказчыкам, колькі яна насамрэч важыць. Важыць шмат. Асабліва калі выходзіць з-пад пяра майстра. Тады яе і баяцца гіцлі рознай масці, бо ведаюць: напісанае пяром не высечаш і тапаром.

Спадзяюся, чытачы даруюць мне экскурс у гісторыю эпіграмы, бо не надта яна ў нас і даследавалася, і выдавалася. Часцей — уперамешку з іншымі гумарыстычнымі ды сатырычнымі вершамі ў адмысловых раздзелах паэтычных зборнікаў. Гадоў з дзясятак таму выйшла ў свет анталогія беларускай эпіграмы — на газетнай паперы, наспех скіданая, як стажок перад дажджом, без хоць якога даведачнага апарату.

І вось нарэшце чытацкім набыткам зрабілася першая айчынная *аўтарская* кніга эпіграмаў. Яе аўтар — народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч.

Першую эпіграму ён напісаў больш за паўстагоддзя таму — яшчэ ў 1958 годзе. І з тае пары ніколі не забываўся на гэты жанр, які ў паэтавым творчым арсенале адзін з самых запатрабаваных. А запатрабаваны таму, што Ніл Гілевіч ніколі не хаваўся ў вежу са слановай косці ад надзённых і балючых праблемаў, заўсёды даваў адпор тым, каго Янка Купала назваў «ворагамі беларушчыны». Супраць іх патрэбныя былі розная зброя і набоі розных калібраў, але першымі ў бой бясстрашна ішлі менавіта эпіграмы.

Іх заўсёды было нямала — тых, хто жадаў скону Беларусі, хто бачыў яе «ўсходнімі крэсамі» ці «северо-западным краем». На жаль, не паменшала іх і ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь, што выглядае дзівам з дзіваў. Здавалася б, тут вам, панове, і гамон, ды дзе там — плодзяцца і распаўзаюцца па краіне, як саранча. Ніл Гілевіч нават быў змушаны падзяліць іх на віды і падвіды, бо не ўмяшчаюцца ўсе ў адну загарадку.

Хрыстапрадаўцы, адшчапенцы, юды,
Пярэваратні, выпаўзні, прыблуды,
Фальшыўцы, прайдзісветы, ашуканцы,
Рабаўнікі, зладзюгі, махляры,

Манкурты, прыхвасні, прыстасаванцы,
Урвіцелі, хапугі, махляры» —

вось яны, героі эпіграмаў Ніла Гілевіча, чыю сатыру даследчыкі назвалі кінжальнай. Менавіта гэтай яе якасцю — біць прыцэльна і напавал — захапляўся ў свой час Васіль Быкаў.

Асабліва ваяўнічых ворагаў беларушчыны паэт-узвышэнец Уладзімір Жылка, прыехаўшы ў 1926 годзе ў савецкі Менск з залатой Прагі, назваў беларусаедамі. Далікатны і інтэлігентны Жылка, а не стрываў. Вось адзін з такіх тыпаў, выяўлены Гілевічам і высвечаны промнем яго эпіграмы, як на экране (а таму — пазнавальны). У апантаным наступе супраць усяго нацыянальнага ён гатовы хаўрусавацца з кім заўгодна:

Я — ва ўсім дэмакрат прынцыповы,
За свабоду жыццё пакладу.
А супроць беларускае мовы
Нават з Гітлерам разам пайду!

Вось чыноўнік (паводле класіфікацыі паэта, відаць, належыць да адшчапенцаў), які, пнучыся заняць уладную пасаду, вытруціў у сабе ўсё беларускае, але не змог пазбавіцца аднаго — акцэнту:

Шаноўненькі мой беларусік з чыноўнага племя!
Запомні: калі ты падчас афіцыйнай прамовы
Не скажаш чатыры разы «ў настаяшчая ўрэмя» —
Ты тэсту не пройдзеш на веданне рускае мовы.

Хто там наступны? Пярэварацень-манкурт? Пра такіх гаварыць у адзіночным ліку таксама не выпадае, толькі ў множным, бо і ім імя — легіён. Думаю, што мы ўсе стаміліся іх згадваць, сузіраючы музей Суворава ў Кобрыне, «домік Пятра I» у Полацку, мемарыяльны знак «царю-освободителю Александру II» у Заслаўі, памятныя шыльды дзеячам Арміі Краёвай на Лідчыне, «дубы Напалеона» па ўсёй Беларусі, вал Івана Жахлівага ў тым самым Полацку... Кім жа гэта ўсё збудавана, названа, ушанавана і разрэкламавана? А тым самым

суайчыннікам-пярэваратнем, які атрымаў ад Гілевіча іранічнае найменне — «звышудзячны беларус-патрыёт», бо:

Ад настальгіі па раі за Польшчай
Ён лічыць задачай сваёй найбольшай —
Ля шляху між Менскам і Маладэчнам
Паставіць камень з надпісам вечным:
«Тут у дваццатым спыняўся пры дрэве
Юзаф Пілсудскі па малой патрэбе».

Аднак захапіўся я цытаваннем, больш не буду. Цытаваць будзеце вы, шаноўныя чытачы, калі прачытаеце гэтую кнігу. Прычым — на памяць, я ў гэтым перакананы, бо напісаныя па-майстэрску афарыстычныя эпіграмы Ніла Гілевіча лёгка запамінаюцца. А запомніўшыся, будуць надзейна слугаваць вам, дапамагаць ставіць на месца нягоднікаў розных пароды, бараніць свой свет ад малых і вялікіх агрэсій свету чужога.

Часы насталі такія, што вербальныя войны штодня ўрываюцца ў нашы кватэры з тэлеэкранаў, прыносячы небяспеку, руйнуючы не падрыхтаваныя да падобных атакаў душы. Трэба быць падрыхтаваным. І Гілевічава сатыра — адзін з самых дзейсных сродкаў супраць чужацкай набрыдзі і сваіх пустадомкаў, супраць агрэсіўнай у наш час пошасці, фальшу і прыстасавальніцтва.

У артыкуле пра эпіграму ў вышэйзгаданым «Паэтычным слоўніку» названыя ажно трыццаць тры класікі жанру, пачынаючы ад Катула і Вальтэра і заканчваючы айчыннымі майстрамі эпіграмнага досціпу Анатолем Вялюгіным і Рыгорам Барадуліным. На дзіва, чамусьці сярод гэтых трыццаці трох не згадваецца імя Ніла Гілевіча — беларускага сатырыка № 1, аўтара бліскучых сатырычных паэмаў, найперш славутага «Сказа пры Лысую гару». Сатырыка, які, паўтаруся, эпіграмы піша больш за паўстагоддзя.

Не хочацца ставіць пад сумненне дасведчанасць аўтара слоўніка, хутчэй за ўсё гэта прыкрая выпадковасць. Ды хіба ўсё своечасова дапільнуеш і ўлічыш?

А кніга — рэч заўважная. Вось напісаў у свой час Янка Сіпакоў кнігу «Веча славянскіх балад», і ніхто пасля гэтага не гаварыў, што ў беларускай літаратуры баладны жанр у занядбанні. Напісаў Юрка Голуб цэлую кнігу трыялетаў, і гэты жанр відавочна папрыкметнеў для нашых літаратуразнаўцаў. Выдаў той самы Ніл Гілевіч кнігу актаваў (яшчэ ў 1976-м) і — нібы ўзаконіў гэтыя васьмірадкоўі ў айчынным пісьменстве. Бо адна справа — прышчапіць адзін-два саджанцы, і зусім іншая — пасадзіць цэлы сад.

З выхадам гэтай кнігі на беларускім Парнасе з'явіўся яшчэ адзін сад. Калючы і страхотлівы, з неспадзяванымі сукамі і патырчакамі — для прайдзісветаў. І з гаркаватымі, але спажыўнымі пладамі — для суайчыннікаў-аднарадзімцаў. Сад эпіграмаў.

Хоць, прызнаюся, у дадзеным выпадку мне хочацца пісаць гэтае слова на старасвецкі лад — эпі**кг**рамаў. Хочацца яшчэ раз вылучыць гэтае знакавае для нас спалучэнне літараў — ***кг***. Бо эпі**кг**рамы Ніла Гілевіча не прызначаныя для пустапарожняга зубаскальства, яны насамрэч усе — вагомыя.

А ўсім тым, хто думацьме інача, хай штоночы над вухам гучыць купалаўскае — крэнту-мэнту, крэнту-мэнту...

*2014*

# ПАЛАНЭЗ ДЛЯ ВАЛАТОВАК

На вокладцы кнігі Язэпа Янушкевіча «Зямля кенатафаў» — закаваны ў ланцугі вязень грае на скрыпцы. У закратаваным акне сінее неба, яшчэ больш адцяняючы паўзмрок турэмнай камеры. Лёгкі смык кранаецца струнаў, і пад пазвоньванне арыштанцкіх «маністаў» на волю лятуць шчымлівыя гукі паланэза.

Хто ён — вязень-музыка? Нядаўні паўстанец, якому пагражае мураўёўскі гальштук? Ці збяднелы шляхціч, які даў прытулак параненаму інсургенту? А можа — скрыпач з аркестра, які адмовіўся граць «Боже, царя храни» на балі ў начальніка «Северо-Западного края», фактычна — на хаўтурах паўстання?..

Памятаецца, як намнога пазней, пры польскай санацыі, Валянцін Таўлай упарта, дзень за днём «пілаваў вершам краты». Чатыры гады пілаваў, нажыў сухоты, а краты так і не паддаліся. І смыком таксама не рассунеш жалезныя парэнчыны, змірыся, вязень, з доляй астрожнай.

Але — аблічча ў скрыпача такое прасветленае і натхнёнае, нібы грае ён не турэмным пацукам, а арыстакратычнай публіцы ў філарманічнай зале. «Ти до плеча мене притулиш / Безсмертним рухом скрипаля» (Ліна Кастэнка). Ці не ў гэтым і ёсць галоўны абавязак творцы — у любых, самых неспрыяльных умовах зрабіць гэты несмяротны рух — смыком, пэндзлем, пяром?

Бываюць кнігі, у якіх — трохі пра вечнае. Кніга Язэпа Янушкевіча «Зямля кенатафаў» — уся пра вечнае. Ён з тых даследчыкаў, якія маюць нюх на слова, непадуладнае тлену. Каб збіць са следу спрактыкаванага ганчака, дастаткова пасыпаць сляды расцертым палыном. Але аніякі палын, якога на беларускіх сцежках-дарожках не бракуе, не саб’е з тропу Язэпа Янушкевіча ў архівах Парыжа, Вільні, Варшавы, Кракава, Львова, Менска. У ягоным падручным ноўтбуку — сотні сігнатураў архіўных фондаў, якія трэба прагледзець, вывучыць,

увесці ў літаратуразнаўчы ўжытак. І ён не сядзіць склаўшы рукі — працуе. Дзякуй Богу, пісьмовы стол даследчыка сёння — дзе заўгодна: на лаўцы ў скверы, у вагоне цягніка, на ўласных каленях; дзе ноўтбук прыладзіў, там і стол, лаві за хвост агонь-птушку натхнення.

Чытач можа пасміхнуцца — маўляў, навошта тое натхненне чалавеку, які раскопвае радовішчы пажаўцелых ад часу рукапісаў? Навошта натхненне шахцёру, які напорыста паглыбляецца ў падземныя пласты? Праца ж механічная, знай сабе шуфлюй... Але ж пабачыў аднойчы польскі шахцёр на сцяне саляной шахты аблічча Хрыста. А ягоны беларускі калега на тысячакіламетровай глыбіні пад Салігорскам, выцерабіўшы адзін калійны гарызонт, перад другім міжволі спыніў свой зубасты экскаватар: пласты солі ляжалі ў дзіўнай паслядоўнасці — белы, чырвоны, белы... Не, у любой працы натхненне патрэбнае, без яго не заўважыш галоўнага.

Вядомае жыццёвае правіла: кожны чалавек за сваё жыццё павінен збудаваць дом, нарадзіць сына і пасадзіць дрэва. Да гэтага правіла, сыходзячы з нашай беларускай сітуацыі, можна дапісаць дадатак: і выдаць кнігу. Але можна дадаць і да дадатку: выдаць яшчэ і чужую кнігу. Таго аўтара, які з розных прычынаў не паспеў дайсці да варштата Скарыны. Такіх у беларускай літаратуры — сотні.

Прызнаюся, мне імпануе, што Язэп Янушкевіч выдае не толькі свае, але і чужыя кнігі. Трацячы часу на іх падрыхтоўку не менш, чым на напісанне ўласных. І гэта таксама — вага́ на шалях вечнасці. Хораша гэта, калі творца не толькі дбае пра тое, як ён сам выглядацьме ў вачах нашчадкаў, але і пакладзе Богу на пасад зробленае «за другі свая». Пісьменнік, які не адчувае адказнасці за ўсё айчыннае прыгожае пісьменства, звычайна і на сваім палетку абы-як поркаецца.

Творчы рахунак Язэпа Янушкевіча гэткі: на кожную ўласную кнігу ў яго прыходзіцца тры-чатыры чужыя. Дыхтоўны аднатомавік Вацлава Ластоўскага ў серыі «Беларускі кнігазбор». Том Францішка Багушэвіча. Юбілейны двухтомавік Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Трохмоўная «Новая зямля» Якуба Коласа. Шасцімоўная «Пінская шляхта», васьмімоў-

ны «Тарас на Парнасе» Кастуся Вераніцына, трохмоўны «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча... І да кожнага выдання — грунтоўная прадмова, падрабязныя каментары. Не кажучы ўжо пра такія «дробязі», як камп'ютарны набор, рэдактура і карэктура, якія зазвычай робяцца безадказнымі «паплечнікамі» — Янушам Карловічам, Янам Крывіцкім ды Янам Бardzдыньскім...

«Атрасі рукі», — бывала, казала мая бабуля Настуля, калі я падшыванцам занадта ўлягаў у нейкую цяжкую работу: градкі ўскопваў, гарод палівaў ці дровы калоў. У сэнсе — адпачні, усю работу за раз не пераробіш.

Язэп Янушкевіч, выдаўшы чарговы фаліянт, не атрасае рукі. І Ластоўскі, і Багушэвіч, і Дунін-Марцінкевіч, і Міцкевіч, як выглядае, — ягоны пажыццёвы клопат. Бо чарадой ідуць юбілеі, адшукваюцца новыя біяграфічныя звесткі, выяўляюцца невядомыя творы. Мусіш ізноў брацца і рабіць да ламаты ў паясніцы.

Вось і нядаўна адзначалася 210 гадоў з дня народзінаў слаўнага «песняра Літвы». Здавалася б, ты зрабіў што мог, — вызваліў з архіўнага палону, адрэдагаваў і апублікаваў «Пана Тадэвуша» ў перакладзе Пятра Бітэля. Атрасі рукі. Не. І вось ужо ў велічным Ракаўскім касцёле пасля нядзельнай імшы ладзяцца Міцкевічаўскія чытанні, гучаць вершы, а мясцовы ксёндз з удзячнасцю прымае ад земляка ў дар шматтомны Збор твораў вялікага паэта — на развод парафіяльнай бібліятэкі.

«Кожны дуб сваёй дуброве шуміць», — гэтак афарыстычна пачынаецца артыкул Язэпа Янушкевіча пра Адама Міцкевіча, змешчаны ў «Зямлі кенатафаў». Як жа гэтыя словы дарэчы ў гаворцы пра паэта, які на покуці сваёй душы праз усё жыццё меў адзіны абраз — Літву-Беларусь.

Для Янушкевіча-міцкевічазнаўца істотнае значэнне мае не толькі год выхаду ў свет «Пана Тадэвуша», але і месяц і дзень. 28 чэрвеня 1834 года трапіла паэма на паліцы парыжскіх кнігарняў, і — трохтысячны наклад не разышоўся. Ці то не знайшлося ў французскай сталіцы адпаведнай колькасці суайчыннікаў, ці то пара́ года для кнігагандлю стаяла неспрыяльная — са́ма макаўка лета, але частка накладу так і заста-

лася ляжаць на складзе. І калі праз шэсць гадоў выдаваўся збор твораў Адама Міцкевіча, кемлівыя выдаўцы ў адпаведных тамах толькі замянілі вокладку. І пайшоў «Пан Тадэвуш» пераможным крокам па шырокім свеце — толькі беларусы пераклалі паэму чацвёрачы.

Пятро Бітэль здзейсніў свой перакладчыцкі подзвіг у савецкім ГУЛагу. Пасля прыгадваў: «За дзень я пераклаў 26 радкоў — урывак, які знаў на памяць з часоў семінарскіх урокаў літаратуры. Схаваўшы спісаную паперчыну ў халяўку чаравіка, я прынёс яе ў лагерную зону і, улучыўшы адпаведны момант, сказаў сябру: «Слухай, як Міцкевіч гучыць па-беларуску». І прачытаў яму свой пераклад. Сябра стаяў як аслупянелы, маўчаў і толькі міргаў вачыма... Вечарам у лагернай зоне мы выцягвалі са сховішча кнігу, я перапісваў з яе радкоў 20–30 (заданне на дзень), а на рабоце, выконваючы норму выпрацоўкі, мармытаў сабе пад нос пераклад і, як здаралася магчымасць, ці ў абедзенны перапынак, схаваўшыся ад лішніх вачэй, прыпіраў лісток да сцяны і запісваў». Аднойчы наглядчык сканфіскаваў трыста радкоў перакладу, а перакладчык за тое, што «писал после отбоя какие-то дурацкие стишки», трапіў на трое сутак у карцар... Як жа ўзбагачаюць нашы веды пра той ці іншы твор падобныя звесткі!

Памятаю, як уразіў мяне верш Рыгора Барадуліна «Вяртанне “Пана Тадэвуша”». Ён як лаканічная эпапея: на дзвюх няпоўных старонках ці не ўся гісторыя перакладу слыннай паэмы на беларускую мову. Прачытаўшы той верш, я паставіў пытальнік на палях кнігі насупраць радкоў: «Не скіне з Вішнева слонка / На шчасце пяро. / Для школьніка Лёніка, / Роднага ў сібірскім прымусе, / Перакладае Міцкевіча / Яшчэ малады Пятро / І для адабранай у яго Беларусі». Што за Лёнік? — падумалася тады, але далей высвятляць асобу таго школьніка штосьці перашкодзіла. А потым пытанне забылася, як шмат што забываецца ў кругабегу дзён. І вось у «Зямлі кенатафаў» знаходжу адказ: Лёнік Мазура, родам з Дзятлава. Яшчэ і зямляк, аказваецца. Аўтар «Зямлі кенатафаў» неаднаразова бываў у Вішневе ў Пятра Бітэля, запасаўся звесткамі,

як быццам ведаў, што праз два дзесяцігоддзі будзе рыхтаваць шматпакутны бітэлеўскі пераклад да друку.

Расказваецца ў «Зямлі кенатафаў» і пра пераклад яшчэ аднаго беларускага эпасу — «Новай зямлі» — на-польскую і ўкраінскую мовы. Прызнаюся, што перакладчыку на ўкраінскую мову В. Стралко я не надта давяраў: занадта шмат знаходзілася агрэхаў у яго ранейшых перакладах з беларускай на расійскую. Скажам, у «Слуцкіх ткачыхах» Максіма Багдановіча выкаўзнуўся з-пад ягонага пяра радок: «Свои широкие текстили / На лад персидский ткут они». Гэтыя «текстили» — як жалезам па шкле, аж чытаць балюча. На здзіўленне, падобных агрэхаў ва ўкраінскай версіі «Новай зямлі» я не знайшоў. Перакладчык пастараўся ці рэдактар-тэкстолаг дапамог?

Язэп Янушкевіч не толькі рэдагаваў польскі і ўкраінскі пераклады паэмы, але і падрабязна занатаваў этапы нялёгкай працы над імі. Будучыя коласазнаўцы калісьці з удзячнасцю разгорнуць «Зямлю кенатафаў» і натрапяць там на своеасаблівы летапіс «Новай зямлі» ў той час, калі яна ляжала на працоўным стале Чэслава Сэнюха. «Ужо ў 1992 г. перакладчык адолеў песні: II — “Раніца ў нядзельку” і III — “За сталом”. Да канца 1995 г. былі гатовыя тэксты: I — “Леснікова пасада”, VI — “Каля зямлянкі”, XIII — “Панская пацеха”, VII — “Дзядзькакухар”, X — “На панскай службе”, V — “Пярэбары”. У 1999 г. скончаны раздзелы: X — “На Каляды”, VIII — “Падгляд пчол”, XIV — “Дырэктар”, XXV — “Летнім часам”, XXVIII — “Дзядзька ў Вільні”; дагладжаны 27.06.1999 г. у Менску. Фінал усёй агромністай працы прагучаў 7 чэрвеня 2001 г. перакладам песні XIX — “На рэчцы”...»

Gloria рабачаю-перакладчыку, але ж хвала і летапісцу, які і на перакладчыцкія будні здолеў зірнуць з гледзішча вечнасці.

Спатрэбіцца «Зямля кенатафаў» і будучым коласазнаўцам з Варшавы і Масквы. Бо толькі на яе старонках апублікаваная адмысловая табліца, дзе па кожным раздзеле «Новай зямлі» прыводзіцца колькасць радкоў у арыгінале і ў польскім ды расійскім перакладах. Цікава, між іншым, параўнаць. Скажам, у арыгінале «Раніцы ў нядзельку» — 256 радкоў, у Чэслава Сэнюха атрымалася 258, а ў ягонага расійскага калегі Сяргея

Гарадзецкага — 240. Ва ўсёй «Новай зямлі» — 10 963 радкі. Ч. Сэнюх дапісаў Я. Коласу 130 радкоў, а брыгада расійскіх перакладчыкаў (акрамя Гарадзецкага туды ўваходзілі Міхаіл Ісакоўскі, Яўген Мазалькоў, Павел Радзімаў, Пятро Сямынін), наадварот, скараціла паэму амаль на 1000 радкоў!

Дзеля чаго, спытаеце вы, гэтак па-бухгалтарску падлічваць чужыя радкі? А каб давесці перакладчыку: пераклад не эквілінеарны, а значыць — патрабуе ўдасканалення.

Трэба ведаць, як пяшчотна сябруюць Сэнюх з Янушкевічам, каб зразумець высокі сэнс вядомай лацінскай прыказкі: Amicus Plato, sed magis amica veritas.

У працяг тэмы звернемся да яшчэ аднаго тэксту, змешчанага ў кнізе «Зямля кенатафаў». Гэта рэцэнзія на альбом «Напалеон Орда», які выйшаў летась у выдавецтве «Беларусь» — да 200-годдзя мастака. Прызнаюся — і я маю яго ў сваёй кніжніцы, і чытаў, і разглядаў неаднойчы. Але — што значыць пільнае вока прафесіянала! У згаданым альбоме Язэп Янушкевіч навыяўляў безліч памылак, прыпісаных складальнікамі мастаку. Паводле ўсё ж іх (а не Орды), Тадэвуш Касцюшка нарадзіўся ў 1246 годзе (сучаснік Чынгіс-хана!). Замест ракі Лукаў, што ўпадае ў Днестр, складальнікі ўнеслі ў подпіс пад літаграфіяй невядомую географам раку Кіеў. Заместа рачулкі Дунаец у альбоме цячэ паўнаводны Дунай. Жонцы Напалеона Орды прысвоена новае прозвішча Багле (замест праўдзівага Бугле) і г.д. І зноў жа — сярод складальнікаў альбома фігуруе прозвішча сябра патрабавальнага рэцэнзента... Бог ты мой, каб нашыя гісторыі літаратуры, крытычныя опусы ды энцыклапедыі пісаліся без аглядкі на сяброўства-аднакашніцтва, без папраўкі на палітычныя завіхрэнні, як жа пабольшала б у іх аб’ектыўнасці і праўдзівасці!

Гаспадарку весці — галавой ды кішэняй трэсці. Маю ўражанне, што трапнае народнае слоўца, скарыстанае Я. Янушкевічам у запеўцы да «Трагікамедыі ў Люцынцы» (неідылічных сцэнак з жыццяпісу Вінцэнта Марцінкевіча), дапамагла аўтару і надалей выказвацца ёмка і дасціпна. І часам немагчыма адрозніць: дзе тут фальклор, а дзе аўтарскія прыдумкі. Многія сцэнкі, як бачна, напісаныя з добрым веданнем справы. У каго не пацячэ

слінка над абзацам, дзе ракаўскія ды менскія шляхцюкі каштуюць у шынку крамбамбулю: «Глыток (малю-ю-сенькі), і другі (шырэйшы), і трэці — наўздагон, зліваючыся і даганяючы адзін аднаго ў страўніку, смакавітым замілаваннем напаўнялі шлунак і раптам раскаціліся, захапляючы духмянай сакавітасцю ўсё-ўсенькае нутро, быццам з разарваных рэзгін раптоўна патыхнула скошаным мурагом, што аж задыхнуцца можна ад пахучага разнатраўя. Асалода яскрава адбілася на тварах усіх пітакоў». Дадамо з пэўнасцю — і чытачоў. Асабліва тых, хто не раз і не два прычашчаўся добрай ракаўскай пушчанкай над срэбраводнай Ісладчу.

Пішу гэтыя радкі — і раптам падумалася: хай бы засеў Язэп Янушкевіч у сваім Ракаве ды напісаў пра кожнага героя «Зямлі кенатафаў» па невялічкай аповесці. Пра неадменнага сакратара Адраджэння Вацлава Ластоўскага. Пра калумба Беларусі Яўхіма Карскага. Пра таго ж Адама Міцкевіча... Біяграфічная аповесць — самы дэфіцытны жанр у нашай літаратуры. За выдатны ўзор можна ўзяць бліскучыя аповесці Юрыя Нагібіна пра Фёдара Цютчава, Інакенція Аненскага, Івана Буніна.

Удаюцца Язэпу Янушкевічу і вандроўныя эсэ. «Беларускі Парыж» — добрае таму сведчанне. Ён увогуле лёгкі на нагу хадок і падарожнік. У 2006 годзе апынуліся мы з ім у Празе. Язэпа ў чэшскую сталіцу прывялі жыццёвыя пуцявіны Вацлава Ластоўскага, мяне — Ларысы Геніюш. За тры дні мы аблазілі з ім палову Прагі (на Альшаны, зачыненыя з нагоды нейкага свята, пералазілі цераз трохметровую агароджу). А раніцай дня чацвёртага неспадзеўна стукнула мне ў галаву ідэя ехаць у горад Вімперк (140 км ад Прагі) — шукаць вуліцу Бэнэша, дом 161, дзе ў 1948 годзе чэшскія спецслужбы на заказ савецкага МГБ арыштавалі Ларысу і Янку Геніюшаў. Падзяліўся сваёй задумай з Язэпам, не вельмі спадзеючыся, што складзе кампанію. А ён і пра квіткі на аўтобус парупіўся, і па прыбыцці на месца палову жыхароў Вімперка апытаў, і ў тамтэйшы магістрат дастукаўся, і па вяртанні ў Прагу слаўную піўніцу «У Флека» пасярод вулічных лабірынтаў адшукаў. Цяпер я разумею, якім павінен быць сапраўдны даследчык.

Пабудзіце Язэпа Янушкевіча сярод ночы і спытайцеся пра любую драбніцу з жыцця Дуніна-Марцінкевіча — адкажа без запінкі. І не толькі пра самога класіка, але і пра ягоных дачок, і пра зяцёў, і пра ўнукаў-праўнукаў — раскажа як звяжа. Бо ў справе, якой прысвячаеш жыццё, драбніцаў няма. Усё — істотнае, і на ўсё знойдзецца вузельчык у памяці і файл у камп'ютары.

«Што мне Вена, Мадрыд, што мне Лондан туманны? / Я найболей бацькоўскаму краю адданы». Калі б аўтар гэтых радкоў, шляхціч герба «Лебедзь», трапіў у Ракаў да свайго нястомнага даследчыка, яны б лёгка сышліся на краёвым патрыятызме. Сваю ракаўскую сядзібу Язэп Янушкевіч умацоўвае, як крэпасць. Калі агароджа — дык каменная, калі склеп — дык глыбокі і мураваны, калі франтон упрыгожваць — дык неадменна мечаноснай Пагоняй. І гэта невыпадкова, бо якія мы гаспадары — такія і нашыя двары.

Як гісторык літаратуры, вымушаны шанаваць прозы дух цвярозы, Язэп Янушкевіч кнігі свае, тым не менш, любіць падпісваць у рыфму. Вось і гэтую, з закайданеным скрыпачом на вокладцы, падараваў, размашыста накрэсліўшы на шмуцтытуле: «Адклаўшы ўбок Тувімаў, Стафаў, чытай зямельку кенатафаў!» А паколькі атрымліваў я дарунак у Купалаўскім тэатры, пасля «Пінскай шляхты», 7 сакавіка — на пяцідзесяцігоддзе аўтара, то давялося і мне рыфмаваць у адказ на анталогіі сусветнай паэзіі «Галасы з-за небакраю»:

Хтось гаворыць нам ка́зань штодзённа пра зло і дабро,
А табе і дагэтуль баліць ад дубінак рабро.
Што ж, такое цяпер у краіначцы роднай становішча.
Ды калі землятрус скалане ці, крый Божа, вайна,
Я ў твой Ракаў збавенны прыйду пехатой без майна,
Каб схавацца ў зацішак падземны твайго бамбасховішча.
Збудаваў, змураваў, укапаў яго ў Ракаў Язэп...
Ды хвалюе адно — а ці ўлезем мы ўсе у той склеп?

Добра, калі ў чалавека чацвёра братоў і сяброў — як у лесе грыбоў.

Шматкроць, услед за аўтарам рэцэнзаванай кнігі, я паўтарыў яе назву — «Зямля кенатафаў», але наўрад ці паспаліты чытач зразумеў, чыя зямля маецца на ўвазе. Бо слова гэтае чужаземнае і рэдкаўжывальнае не фіксуе і найноўшы «Тлумачальны слоўнік» (2002). А кенатаф — гэта пустая магіла, тое, што ў палякаў называецца grob symboliczny. Беларускія кенатафы — магіла братоў Луцкевічаў на віленскіх Росах, магіла Адама Станкевіча на кладах вёскі Арляняты на Смаргоншчыне.

Кніга «Зямля кенатафаў» — пра волатаў духу беларускага. А месцы апошняга спачыну волатаў у Беларусі спрадвеку называліся валатоўкамі. Волаты сваёй зямлі і магілаў сваіх не пакідаюць. А таму жывем мы на зямлі валатовак. І вязень-музыка з прасветленым тварам грае свой паланэз не для кенатафаў — хто ж з магільнай пустэчы будзе яго слухаць? Ён грае свой паланэз для валатовак.

*2009*

# АДКУЛЬ ПАХОДЗІЦЬ НАРОДЕЦЪ?

У абавязкі прэзідэнтаў напісанне прадмоваў да кніг не ўваходзіць. Яны іх і не пішуць. Хіба толькі зрэдку, у выняткавым парадку. Скажам, у свой час прэзідэнт Францыі Жорж Пампіду напісаў прадмову да анталогіі французскай паэзіі. Праўда, гэта быў збор ягоных улюбёных вершаў, ім жа самім і ўкладзены. Тая паэтычная анталогія да гэтай пары лічыцца адной з лепшых у гісторыі французскага прыгожага пісьменства.

Прызнацца, я не чакаў, што прадмовы пачне пісаць і Аляксандр Лукашэнка. Неяк не пасуе яму гэты занятак. Кіраўніка вобласці зняць з пасады ў жывым эфіры — пасуе, лазню ў сталічным мікрараёне Малінаўка адкрыць — за мілую душу, Папу Рымскага букваром адарыць — тут Аляксандр Рыгоравіч у сваёй талерцы. А прадмову да кнігі напісаць... Адразу паўстае пытанне — да чаго? Дзе той новаяўлены шэдэўр з шэдэўраў, песня песняў, вартыя прэзідэнцкай прадмовы?

Самае дзіўнае, што такая песня песняў знайшлася. Праляжала ў архівах роўна сто гадоў і — прычакала свайго зорнага часу. Каму ж гэта так пашчасціла? — запытаеце вы. І тут, хочам мы таго ці не, без лірычнага адступлення не абысціся.

Сто гадоў таму па паўднёвай Меншчыне падарожнічаў дзіўны вандроўнік. За два леты ён пераадолеў амаль дзве тысячы вёрст — дзе на падводзе, дзе чыгункай, дзе на параходзе, дзе на ровары. Апошні транспартны сродак, праўда, сябе не апраўдаў — з яго палешукі насміхаліся, і ўрэшце з жалезным конікам вандроўніку давялося развітацца. З чым ён ніколі не развітваўся, дык гэта з груваскай скрынкай на трыножніку, перад якой, паставіўшы ў жывую чаргу, муштраваў тых самых палешукоў. Стань вось тут, зірні туды, павярніся бокам. Адным словам, адрываў ад пільнай сялянскай работы. Падазроны тып.

Палешукі, да любой муштры не дужа прыдатныя, некалькі разоў здавалі падарожніка ў пастарунак. Аднойчы ў Петрыкаве

вандроўніка з ягоным загадкавым рыштункам арыштавалі проста на кірмашы, дзе ён абходжваў, няйначай са зламыснымі намерамі, мясцовых ганчароў і бондараў, стэльмахаў і кашаплётаў. У вёсцы Грыцэвічы валасны пісар прыняў яго за замежнага выведніка і таксама неадкладна выклікаў стражніка. А на адной з чыгуначных станцый вандроўніку патаўклі ўвесь ягоны рыштунак, бо ведама ж — паляшук і за адну шчэпку знойдзе зачэпку. А там шчэпак было шмат.

Што праўда, кожнага разу затрыманага даводзілася адпускаць. Бо як толькі справа даходзіла да сур'ёзнага высвятлення асобы, ён выцягваў з патайной кішэні пасведчанне на бланку «Минскій губернаторъ», з пячаткай і подпісам, дзе чорным па белым прадпісвалася «предъявителю сего Исаакію Авраамовичу Сербову оказывать законное содействіе в составленіи этнографических коллекцій».

Такім чынам, падазроным падарожнікам быў этнограф Ісак Сербаў — пасланнік Імператарскага Расійскага геаграфічнага таварыства. Аддамо яму належнае — нягледзячы на часам негасцінны прыём, ён сваім прафесійным «Кодакам» зрабіў больш за 2000 здымкаў на абшары ад Пінска да Рэчыцы, ад Барысава да Турава. 442 з іх увайшлі ў шыкоўны альбом, выдадзены летась у Менску.

Ангельская версія змешчаных у альбоме тэкстаў дазваляе меркаваць, што тавар ад пачатку задумваўся на экспарт. У такіх выпадках прадмова ад прэзідэнта — бяспройгрышны маркетынгавы ход. З такой прадмовай і дзяржбібліятэкі ад набыцця не адмовяцца, і амбасады распаўсюджваць ахвотней возьмуцца.

На якой казе выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» пад'ехала на вядомы адрас Маркса, 38, я не ведаю. Але Аляксандр Лукашэнка да альбома «Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава. 1911–1912» прадмову напісаў. Правільную прадмову. У ёй сказана і пра «каштоўную спадчыну», і пра «шанаванне продкаў», і пра тое, як неабходна «ведаць і памятаць гісторыю сваёй Радзімы і быць беларусам». Але я не збіраюся аналізаваць тэкст прадмовы(аў), іх у альбоме дзве — другая,

грунтоўная і куды больш цікавая, належыць мастацтвазнаўцу Вользе Лабачэўскай — аўтару ўсяго праекта. Я паспрабую вызначыць, чаму ўвогуле кіраўнік краіны раптам вырашыў выступіць у нехарактэрнай для яго ролі прадмовапісальніка. Што яму ў тых здымках стагадовай даўніны магло спадабацца?

«Угледзімся ў твары на фотаздымках — такія знаёмыя і родныя», — піша Аляксандр Лукашэнка. Давайце прыгледзімся да тых твараў і мы.

Вось на фота жыхар мястэчка Любяшоў Пінскага павета Гаўрыла Палікарпчук — «37 гадоў, 2 аршыны і 4 вяршкі, з каўтуном». Жывая ілюстрацыя да вядомай някрасаўскай паэмы «Чыгунка», якую шматлікія пакаленні беларускіх школьнікаў змушаныя былі вучыць на памяць. Памятаеце? «Лица бескровные, веки упавшие... ноги опухли, колтун в волосах...» Запамінальны партрэт беларуса атрымаўся ў Някрасава. І ў Сербава — таксама.

А вось яшчэ адзін любяшовец, зафіксаваны для гісторыі «Кодакам» Сербава. Подпіс этнографам зроблены проста паўзверх здымка: «Конь есць сена, а ў палукашы ляжыць Герасім Чарняк, з каўтуном». Герасім і яго аднавяскоўвец Гаўрыла выглядаюць так, быццам пражылі гадоў трыццаць на бязлюдным востраве і дарэшты абрабінзоніліся. Яны глядзяць на фотаапарат, як папуасы на вінчэстар у руках Міклухі-Маклая.

Трапілі ў аб'ектыў Ісака Сербава і знябожаныя Гітля і Шмэрка Эрэнбургі (абодва па 2 аршыны і 4 вяршкі) з вёскі Рудня Бабруйскага павета. І Саўка Музычык з Юравічаў, заспеты этнографам проста ў баразне. Двое валоў цягнуць нават не саху, а нейкае сапраўды дапатопнае рала.

Вось хата ў вёсцы Выганашчы Пінскага павета, пальцам папіхні — паваліцца. Вось хлеў з плятня ў вёсцы Вуйвічы, які ўвесь свіціцца. Вось вуліца ў Язвіне на Бабруйшчыне, па якой рухаюцца нейкія чалавекападобныя цені па калені ў гразі. Вось случак (сакун — паводле Сербава) Хведар Шаўкун — у разбэрсаных пасталах, на якога глядзець без жалю і спачування немагчыма. Такое адчуванне, быццам менавіта яго меў на ўвазе Герцэн, ствараючы яшчэ адзін абагульнены тып бела-

руса: «Десять поколений, замученных на барщине, образовали такого парию, его череп сузился, его рост измельчал, его рот судорожно искривлён, он отвык от слова». Герцэнаўскі «Колокол» званіў на ўсю Заходнюю Еўропу, і так тады нас у той Еўропе ўспрымалі...

Як падаецца, за нештачка ўсё ж этнограф Ісак Сербаў палешукоў не любіў — здымаў пераважна лапцюжных абдзіртусаў, ракурсы не лепшыя выбіраў. А вось паляшучак любіў. У святочных строях, яны проста заварожваюць сваёй натуральнай прыгажосцю — усе гэтыя Праксэды, Прузыны, Куліны, Параскі, Адаркі, Агапкі і Аўхіміі (за аўтэнтычную перадачу імёнаў — дзякуй дадатковы). Паляшучкі на здымках не толькі белазуба ўсміхаюцца, але і спяваюць. Ад Праксэды Стральчук з вёскі Плотніца Пінскага павета этнограф запісаў жыццярадасную прыпеўку: «Як пэмэр мэй небэжчык, / Поховала журбу ў гэршчэк, / Чэрэпочком накрыла, / Шоб по ёму не тужыла!»

На тле гразкіх вуліцаў і змрочных мужчынскіх твараў белымі айсбергамі плывуць па сербаўскай фотакраіне праваслаўныя храмы. З усіх астатніх архітэктурных помнікаў «Кодакам» даследчыка зафіксаны хіба толькі адзін — зразумела ж, імператару Аляксандру ІІ. У тым жа, неаднойчы згаданым, Любяшове, дзе мужыкі каўтуны пазапускалі.

А цяпер задамося пытаннем: ці правільна зрабіў Аляксандр Лукашэнка, напісаўшы прадмову да працы Сербава? Яшчэ як правільна. Бо і звычайны фотаальбом можа стацца чыннікам вялікай палітыкі. Помніцца, як за савецкім часам прапагандысты ледзь не ўсе паказчыкі параўноўвалі з 1913 годам. А чаму і ў наш час не параўнаць? Думаю, беларускія амбасадары ўжо атрымалі з дыпламатычнай поштай па асобніку сербаўскага альбома. І з цягам часу ў замежных СМІ з'явяцца гучныя публікацыі: глядзіце, Еўропа з Амерыкай, там, дзе паляшук з каўтуном на балотнай купіне сядзеў, сёння лядовы палац красуецца!

Наколькі мне вядома, «Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава» — першае і адзінае кніжнае выданне, да якога

прадмову напісаў кіраўнік Беларусі. А раз пісаў (ці падпісваў), то, мусібыць, пагартаў і сёе-тое пабачыў. Ці не адтуль у прэзідэнцкі лексікон лёгкай ластаўкай упырхнула слова *народецъ* (яго найлепш ужываць менавіта са старым ерам)? Бо той люд на фотаздымках і ёсць *народецъ* — з каўтуном на галаве, з помнікам імператару Аляксандру ў галаве, з перададзеным нашчадкам бязмоўем на вуснах, на якіх, нібы імперскі пірсінг, да сённяшняга дня муляецца сто гадоў таму адмерлая літара Ъ.

*2013*

# ПРА ЭНЦЫКЛАПЕДЫЮ «МАКСІМ БАГДАНОВІЧ»

Сто чатыры гады таму ўкраінскі славіст Іларыён Свянціцкі выдаў у Львове кнігу «Відроджене білоруського писменства», дзе сказаў колькі словаў пра апавяданне Максіма Багдановіча «Музыка», незадоўга перад гэтым надрукаванае ў «Нашай Ніве». Гэтую публікацыю, відаць, і можна лічыць кропкай адліку для багдановічазнаўства. За стагоддзе з добрым гакам жыццёвы і творчы шлях паэта быў даследаваны даволі падрабязна. Калі і засталіся факталагічныя таямніцы, то хіба нязначныя, а феномен з'яўлення генія заўсёды застанецца загадкавым, і кожнае новае пакаленне разгадвае яго па-свойму.

Велізарны факталагічны матэрыял даўно патрабаваў энцыклапедычнай сістэматызацыі. І вось нарэшце з'явілася доўгачаканая энцыклапедыя «Максім Багдановіч» — трэцяя персанальная, пасля аналагічных выданняў, прысвечаных Янку Купалу (1986) і Францыску Скарыну (1988).

Тры персанальныя энцыклапедыі за чвэрць стагоддзя — зусім някепскі паказнік для адзінага ў краіне галіновага выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», якое гадоў пяць таму загадам сталічных уладаў было выселенае з уласнага будынка на Акадэмічнай вуліцы. Цяпер там засядае суд. Што ж, суддзі ў сучаснай Беларусі насамрэч запатрабаваныя куды больш, чым энцыклапедысты...

Энцыклапедыя «Максім Багдановіч» пакідае прыемнае ўражанне — і сваім густоўным паліграфічным аздабленнем, і зместам. Але гэта толькі на першы погляд. І чым далей я яе гартаў, тым болей маё ўражанне мянялася — у горшы бок.

Скажам, аўтар грунтоўнага артыкула «Багдановічазнаўства» Юрась Пацюпа добрым словам згадвае двух знаных даследчыкаў — Антона Адамовіча і Станіслава Станкевіча, пад рэдакцыяй і з прадмовамі якіх мюнхенскае выдавецтва

«Бацькаўшчына» ў 1960 годзе выпусціла ў свет «Вянок паэтычнай спадчыны» М. Багдановіча. Сам факт выхаду гэтай кнігі сучасны даследчык называе «яркай падзеяй». Але артыкулаў пра Адамовіча і Станкевіча ў энцыклапедыі няма. «Вянкоў» там зафіксавана ажно чатыры: знакаміты «марцінакухтаўскі» 1913 года, віленскі 1927 года, выдадзены на дзясятыя ўгодкі з дня смерці паэта, славацкі «Veniec» — 59 вершаў у перакладзе Юрая Андрычыка (год выдання — 1990) і факсімільнае перавыданне «Вянка», ажыццёўленае ў 1981-м. А мюнхенскі «Вянок», хоць і «яркая падзея ў багдановічазнаўстве», на старонкі энцыклапедыі, на жаль, не трапіў.

Зразумела, што ў энцыклапедыях падобнага кшталту павінны быць артыкулы пра кожнае асобнае выданне даследаванага творцы. Скажам, як выглядала б Скарынаўская энцыклапедыя, калі б на яе старонках былі абыдзеныя ўвагай «Малая падарожная кніжка» ці «Апостал»? А вось у Багдановічаўскай энцыклапедыі гэты заганны выбарачны прынцып прысутнічае. Апісваецца, напрыклад, нічым не прыкметнае менскае «Выбранае» 1977 года, але чамусьці забытыя «Выбраныя творы» (Ватэнштэт, 1946) і «Апокрыф» — выдадзены чацвёрачы: Згуртаваннем беларускіх скаўтаў у тым самым Ватэнштэце ў 1946-м, выдавецтвам «Ніва» ў ЗША ў 1952-м і двойчы па-гішпанску ў 1956-м — у Мадрыдзе і Нью-Ёрку (пераклад Янкі Сурвілы). Перакладчык у энцыклапедыі ўвогуле не згадваецца.

Не пашанцавала і другім перакладчыкам. Прычым выбар іх таксама дзіўнаваты. Скажам, украінец Раман Лубкіўскі ў энцыклапедыю заслужана трапіў, а ягоны суайчыннік Леанід Палтава — не. А ён жа выдаў «Малую анталогію беларускай паэзіі», дзе змешчаная і ладная нізка перакладзеных ім жа вершаў М. Багдановіча. Па незразумелых прычынах адсутнічае ў энцыклапедыі і перакладчык Валеры Стралко — аўтар шыкоўна выдадзенай анталогіі «Трыяда беларускай паэзіі» (Кіеў, 2008). Ён перакладае М. Багдановіча на ўкраінскую і расійскую мовы. Так, у перакладчыка можна знайсці нямала хібаў, але ці падстава гэта для выкрэслівання імя перакладчыка са слоўніка персаналій? Не. Артыкул пра Стралка мусіў быць у энцыклапедыі — з адпаведным аналізам зробленых ім перакладаў.

Забыліся энцыклапедысты-багдановічазнаўцы і на яшчэ аднаго перакладчыка — нямецкага гісторыка і літаратара Аўгена фон Энгельгарта, які пакінуў па сабе не толькі цікавае даследаванне «Беларусь: народ і край» (1943), але і пераклаў цэлы зборнік лірыкі М. Багдановіча «Беларуская радзіма» (1949).

А ці шмат у нас манаграфічных даследаванняў пра М. Багдановіча? Паспрабуем пералічыць асноўныя: «Святло паэзіі і цені жыцця» Уладзіміра Конана, «Чалавек напрадвесні» Рыгора Бярозкіна, «Загадка Багдановіча» Міхася Стральцова, «Максім Багдановіч і праблемы развіцця беларускай літаратуры» Алега Лойкі, «Космас “Вянка”» Тамары Чабан, «Шляхі» Ніны Ватацы, «А сэрца ўсё імкне да бацькаўскага краю» Генадзя Каханоўскага... Пра ўсіх названых даследчыкаў у энцыклапедыі змешчаныя артыкулы. А вось аўтар манаграфіі «Пясняр свабоды і красы» (Баварыя, 1947) Аўген Калубовіч (выступаў пад псеўданімам А. Верасень) на яе старонкі не трапіў. І дзе ж тут логіка?

Яшчэ менш у нас буйных мастацкіх твораў пра М. Багдановіча. Калі называць, асабліва не launched пературасаючы кішэні памяці, то і згадаецца ўсяго пара-тройка: «Каханне і смерць, або Лёс Максіма Багдановіча» (аўтар — Яўген Міклашэўскі), паэма Эдуарда Акуліна «Шлях да радзімы», вершаваныя цыклы Дануты Бічэль і Алеся Чобата «Ты не самотны»... І тут мне тым больш незразумела, чаму з энцыклапедыі выпаў Уладзімір Глыбінны — аўтар аповесці «Пад лебядзіным знакам» (Нью-Ёрк, 1983)? А хіба не заслужыў энцыклапедычнай нататкі пісьменнік Леанід Зубараў — аўтар кнігі «Максім Багдановіч» (1989) і дакументальнай аповесці «Крык буравесніка» — пра М. Горкага і сям’ю Адама Багдановіча (яны былі ў блізкім сваяцтве)?

Не знайшлося месца ў энцыклапедыі і мастачцы Ірэне Рагалевіч-Дутко, якая напісала цудоўны партрэт М. Багдановіча. Ён, дарэчы, да 100-годдзя паэта быў двойчы выдадзены ў Нью-Ёрку ў выглядзе паштоўкі агульным накладам 6000 асобнікаў.

Можна па-рознаму ставіцца да п’есы «Дзённік паэта» Сяргея Кавалёва, якая была напісаная па матывах гэтак званага «Крымскага дзённіка» М. Багдановіча. П’еса доўгі час ішла

ў Тэатры беларускай драматургіі, адзначалася на міжнародных тэатральных фестывалях. Не заўважыць гэты твор увогуле немагчыма — дастаткова набраць словы «дзённік паэта» ў інтэрнэтаўскім пошукавіку... Але — не заўважылі. У энцыклапедыі няма звестак ні пра Кавалёва, ні пра «Дзённік паэта», ні пра «Крымскі дзённік» — а гэта ўсё ж аўтэнтычны, напісаны рукой паэта тэкст, які зберагаецца ў сталічным Музеі Багдановіча.

Сумнавядомаму крытыку-вульгарызатару Алесю Кучару месца ў энцыклапедыі знайшлося, а аўтару бліскучага эсэ «Жыта і васілёк» Алесю Разанаву — не. Паэт Уладзімір Карызна, які прысвяціў М. Багдановічу два (!) вершы, асобным артыкулам уганараваны, а таленавіты паэт Алесь Салавей, аўтар 15 «багдановічаўскіх» твораў, які цалкам апраўдана лічыў сябе паслядоўнікам Багдановіча, — для нашых энцыклапедыстаў не існуе. Як не існуе для іх і Ларыса Геніюш, чый першы зборнік «Ад родных ніў» (Прага, 1942) названы знакамітым багдановічаўскім радком. Ды і пазней яна ў сваіх творах і лістах шматкроць звярталася да постаці «песняра чыстай красы»...

Як бачым, энцыклапедыя «Максім Багдановіч» далёка не поўная. І наўрад ці тут можна ўзяць пад сур'ёзную ўвагу апраўданні накшталт: выданне рыхтавалася ў спешным парадку, амаль на грамадскіх пачатках, самі ведаеце ў які час і г. д. Час для аўтараў і выдаўцоў энцыклапедыі мусіў быць адзін — Багдановічаўскі.

У савецкую эпоху на кантрольным асобніку тае ці іншае кнігі пасля адпаведнае працэдуры ставіўся штамп: «Праверана цэнзурай». Над старонкамі энцыклапедыі «Максім Багдановіч» мяне ўвесь час не пакідала думка, што і яе перад адпраўкай на Менскую фабрыку каляровага друку прасеялі праз цэнзурнае сіта, бо выкінутыя з выдання імёны (у пераважнай сваёй бальшыні) падазроныя з гледзішча сённяшняй улады (эмігранты, антысаветчыкі і г. д.). І сіта тое было каму патрымаць — сярод сяброў рэдкалегіі выдання значацца прозвішчы дзяржаўных чыноўнікаў, якія да айчыннага багдановічазнаўства ніякіх адносінаў не маюць.

*2011*

# ДОЎГАЧАКАННАЯ КНІГА

Кнігу Леаніда Галубовіча «З гэтага свету: вершы пасля вершаў» чытачы чакалі доўгіх дванаццаць гадоў. Роўна столькі часу прайшло з таго дня, калі паэт публічна, у радыёэфіры, пакляўся больш ніколі не вершаваць. Тады гэтую навіну абмяркоўвала ўся літаратурная супольнасць: а вы чулі?.. ды кіньце вы — будзе пісаць, куды ён дзенецца... вось да чаго даводзіць абсалютна цвярозы лад жыцця... Калегі і са спачуваннем выказваліся, і дасціпнічалі, і кепікі строілі. Што ж, на чужыя вусты не накінеш хусты... Але ўсе, хто любіў Галубовіча-паэта, меў у сваіх кнігазборах яго выдатныя зборнікі «Таемнасць агню» і «Заложнік цемры», патаемна чакалі, што ён парушыць сваё ж слова, не стрывае працяглага маўчання.

Чакалі і прычакалі... зборніка пад назовам, які гучаў развітальна, як эпітафія, — «апошнія вершы леаніда галубовіча». І тут усе зразумелі, што паэт не жартаваў. Бо адна справа — сказаў і забыўся, і зусім іншая — напісаў, ды яшчэ на вокладцы. Быццам распісаўся і пячатку паставіў. І паэту нарэшце паверылі.

І Леанід Галубовіч трымаўся колькі мог. За дванаццаць гадоў у друку не з'явілася ніводнага ягонага верша. З'яўляліся папулярныя ў чытачоў зацемкі, эсэ, рэцэнзіі. Паэт заняўся складальніцкай працай — сабраў і выдаў спадчыну Міколы Купрэева і Васіля Гадулькі. І вось, калі амаль дарэшты звялося і так нешматлікае племя аматараў паэзіі (чаму звялося — гаворка асобная), беллітсвет абляцела новая нечаканая навіна — Галубовіч выдаў новы зборнік вершаў. Прычым не друкаваных у перыёдыцы, што само па сабе ўспрымаецца як невялічкае дзіва. Сенсацыйна адышоў ад паэзіі, сенсацыйна вярнуўся — такім чынам можна сёння патрактаваць учынкі Леаніда Галубовіча, хоць ён і не любіць шуму вакол свайго сыходу-прыходу. Але — «не дадзена прадбачыць нам, як наша слова адгукнецца...». На нядаўняй прэзентацыі доўгачаканай кнігі ў сталічным Музеі гісторыі беларускай літаратуры вы-

ступоўцы — усе да аднаго! — найперш гаварылі пра маўчанне Галубовіча, нібы забыўшыся, што сабраліся зусім з іншай нагоды. Міжволі складвалася ўражанне, што паэтава маўчанне — больш дарэчная і актуальная тэма для нашай беларускай рэчаіснасці, чым ягоная — любая — прамова.

Але пра маўчанне ды ягоныя прычыны хай разважае нехта іншы. Для мяне ж дванаццаць маўклівых гадоў Леаніда Галубовіча — усяго толькі перапынак дзеля назапашвання новай крытычнай масы паэтычнай энергіі. У кагосьці з творцаў гэты перапынак цягнецца дзень-два, а ў кагосьці — на гады расцягваецца. А што паэтычная творчасць — самы энергазатратны літаратурны жанр, для мяне гэта бясспрэчна. Дык вось, усё залежыць ад колькасці выдаткаванай энергіі — хтосьці яе фармацэўтычным пінцэтам адмервае, а хтосьці — спальвае яе даастатку, ні трошкі не пакідаючы на заўтрашні дзень. Прыгадайма — і Янка Купала на гады замаўкаў, і Аркадзь Куляшоў, і Анатоль Сыс...

«Чем продолжительней молчанье, тем удивительнее речь», — гэта, здаецца, прызабыты сёння Мікалай Ушакоў. Вынік працяглага маўчання Леаніда Галубовіча — кніга «З гэтага свету» — перад намі. Прычым гэта менавіта кніга паэзіі, кампазіцыйна прадуманая, падзеленая на тэматычныя цыклы пад вылучна займеннікавымі загалоўкамі: *Нада мною — Пра мяне — Са мною — У маіх — Маё — Мае — Мая.* І гэта невыпадковыя назвы, бо перш чым аддаць, паэт павінен спачатку ўсё прыўласніць. Пералічаныя «эгацэнтрычныя» загалоўкі — як абручы на дыхтоўна збітай бочцы, каб вершы-клёпкі не рассыпаліся. І яны насамрэч стаяць па сваіх месцах трывала. Але вось што дзіўна (прынамсі, для мяне): вершы згуртаваныя ў цыклы, але кожны з іх — самадастатковы, не патрабуе перагуквання з суседам. Можа быць, тут больш дарэчы прыйдзецца другое параўнанне — вершы ў кнізе «З гэтага свету» нагадваюць сселеныя ў адну вёску хутары. Кожны хутар і ў вёсцы працягвае жыць сваім жыццём, у яго свая гаспадарка і свае традыцыйныя звычаі, якія не супярэчаць агульнай вуліцы. А агульнымі для былых хутаранцаў былі не толькі вуліца

і ваколіца, але і могілкі. З гэтага гледзішча вельмі характэрны для новай кнігі верш «Дом пры могілках», дзе знікае мяжа паміж гэтым і тым светам і дзе так проста працягваецца супольнае суіснаванне і прадаўжаецца сумоўе між тымі, хто т а м, і тою, якая т у т.

Да могілак глухой сцяной
Стаіць хаціна Маніна.
Там ноччу спіць яна спіной
Да ўсёй радзіны мамінай.
Яе суседзі тут даўно
Для ўсіх жывых — нябожчыкі,
А Маня ім штодня ў акно
Пастукае-пабожкае.
То міскай бразне, то вядром,
То пілкай, то матыкаю...
І па ваду ідзе з Пятром,
А з граблямі — з Мікітаю.
Капае з Янам агарод,
З Іллёй жыты прарошчвае,
Смяецца з Паўлам цераз плот,
З Платонам плача роспачна...

Аўтар назірае за сваёй гераіняй, можна сказаць, з зацікаўленай прыхільнасцю — пастукацца і дастукацца на той свет з гэтага не кожнаму дадзена. А мне таксама было цікава, як паэт завершыць сваю канстатацыю жыцця на памежжы, ці знойдзе ён той заключны акорд, які не абразіць насельнікаў таго свету і не прынізіць іроніяй жыхарку гэтага. Без такога акорда верш страчваў бы сваё высокае экзістэнцыйнае гучанне. І акорд — патрэбны і неабходны — аўтарам быў шчасліва знойдзены. Знойдзены на тых самых могілках,

Дзе муж не можа ўсё заснуць,
Пільнуючы хвіліну,
Каб дом нарэшце свой замкнуць,
Забіць, як дамавіну...

Эсхаталагічны дыскурс кнігі «З гэтага свету» істотна дапаўняецца паэтычным цыклам, прысвечаным памяці Маці. Па пранізлівасці гучання, па спавядальнасці інтанацыі мне хочацца параўнаць яго са знакамітым барадулінскім цыклам «Бяроза з лістам гаварыла», прысвечаным памяці Куліны Андрэеўны Барадулінай. У Галубовічавым цыкле найлепшыя вершы — «Маміна хата» і «Пасля саракавін». Сыноўскі смутак стаў паэтычнымі радкамі, якія не сорамна прачытаць і над дарагой магілай...

Пасля шматгадовага расстання людзі прыглядаюцца адзін да аднаго, заўважаючы змены не толькі ўзроставыя. Карцела і мне, зазірнуўшы пад стракатую вокладку новай кнігі Леаніда Галубовіча, даведацца, ці змяніўся ён як паэт. Бо змены за прамінулыя дванаццаць гадоў адбыліся грандыёзныя, у тым ліку і ў літаратурнай прасторы. З'явіліся інтэрнэт-часопісы і цэлыя інтэрнэт-бібліятэкі, паэтычныя вечарыны ператварыліся ў пэрформансы і слэм-паядынкі, вершы цяпер нярэдка пішуцца без рыфмы і рытму (а часам і без сэнсу) і публікуюцца без усякага рэдагавання на ўласных сайтах. Ёсць ад чаго разгубіцца (раз-згубіцца?) сучаснаму чытачу. Вось і трывожыла мяне думка, як усе гэтыя рэвалюцыйныя змены перажыў Галубовіч. Прачытаўшы новую кнігу, я з палёгкай уздыхнуў: паэт на слэм-галавы не пабег за наваяўленай модай. Памудрэў — так, стаў больш лаканічным — несумненна. Але са свайго шляху не збочыў і са сваёй нетаропкай хады не збіўся.

Здаецца, у рамане Жуля Верна «Падарожжа на Месяц» грамадка авантурыстаў задумала стрэлам з велізарнай гарматы змяніць арбіту Зямлі, каб такім чынам ямчэй сягнуць на зямны спадарожнік. Усчаўся вялікі гармідар — хтосьці ўзяўся дапамагаць авантурнікам, хтосьці чакаў канца свету. І толькі адзін фізік спакойна сядзеў у сябе дома, бо зрабіў дакладныя разлікі і ведаў, што аніякім стрэлам арбіту Зямлі не зменіш... Вось і Леанід Галубовіч нагадвае мне таго разважлівага фізіка — ён таксама сёе-тое разлічыў і за будучыню сваёй «планеты» спакойны.

Два гады таму на ягонай літаратурнай вечарыне ў Клецкім раённым Доме культуры я трошкі паэксперыментаваў.

Пачынаў з памяці чытаць верш Галубовіча і ўдавана «забываўся». Напрыклад: «І раптам скажа дзед які / з развагай аналітыка...» І тут жа з залы нехта падказваў: «Хлеб трэба сеяць, мужыкі, / без хлеба — дрэнь палітыка». Альбо — верш пра бабулю Алімпіяду, якая «стаіць у двары як вечнае, / нібыта душа сама...» І слухачы імгненна давяршвалі: «І сонца яе прасвечвае, / і ценю яе няма». Пагадзіцеся — гэта пра шмат што гаворыць.

Слынны наш мовазнавец і пісьменнік Фёдар Янкоўскі намагаўся ў свой час скласці слоўнік пісьменніцкіх афарызмаў, якія шырока разышліся ў народзе, па сутнасці, сталі народнымі. Перагарнуў гімалаі кніг, а слоўнічак у выніку атрымаўся зусім невялічкім. І хто ў тым вінаваты — пісьменнікі, патрабавальны складальнік ці народ, — я не бяруся вызначыць і сёння. З тае пары мінула паўстагоддзя, а ніхто не адважыўся дапоўніць слоўнік крылатых выразаў Ф. Янкоўскага. Афарызмы пісьменніцкія з'яўляюцца, але ці знаходзіць іх народ? І ці знаходзяць яны — народ?

Вось калі яны сябе ўзаемна адшукаюць, будучыя айчынныя лексікографы складуць новы, шматтомавы слоўнік. І безліч аўтарскіх афарызмаў для таго слоўніка знойдзецца ў кнігах Леаніда Галубовіча, у тым ліку і ў вершах «З гэтага свету». Вось яны, пазбаўленыя слоўнай лішніцы, ёмкія чатырохрадкоўі:

Агонь — і агмень, і геена.
Вада — і крыніца, і вір.
І сам чалавек — праменна —
То гліна жывая, то жвір...

*

А той і гэты свет
Не адгародзіш строга,
Як Новы Запавет —
Старонкай — ад Старога.

Ясна, выразна і дакладна, а значыць — афарыстычна. Дзякуй паэту за яго нешматслоўнасць, за выгайданыя ў калысцы маўчання, ужо не падуладныя хваробам росту вершы. Іх нібыта і няшмат, але — дастаткова, паколькі «болей чым імгненне не прыме вечнасць ад цябе». Гэтыя стральцоўскія радкі апошнім часам успамінаюцца мне ўсё часцей.

«З гэтага свету» — кніга не толькі доўгачаканая, але і доўгачаканная. Доўга чакаціў Леанід Галубовіч свае новыя творы. Нарэшце дачакаціў — на радасць чытачам, якія дачакаліся.

*2012*

# РАМАН-ДУЭЛОГ З ТУРМОЙ

Дзіўны атракцыён давялося мне аднойчы назіраць на сонечным востраве Іф у Міжземным моры. Цягам доўгіх гадоў там знаходзілася дзяржаўная турма Францыі, дзе трымалі асабліва небяспечных злачынцаў. А з 1926 года востраў-вязніца Іф — выключна турыстычны аб'ект, і ўвішныя цеплаходзікі ледзь паспяваюць прывозіць-адвозіць усіх ахвотнікаў да экзотыкі. Дык вось — турысты гатовыя плаціць грошы за тое, каб пасядзець у тамтэйшай турме!

На дзвярах кожнай камеры — шыльдачка з надпісам: тут сядзеў граф Мірабо, там — польскі пасланнік, а там — яшчэ нехта. Але найбольш жадаючых трапіць у камеру, дзе «сядзеў» Дантэс — не забойца Пушкіна, а выдуманы Дзюма герой славутага рамана «Граф Монтэ-Крыста».

Назіраючы за чаргой у турэмныя вязні, я, па-першае, здзіўляўся прадпрымальніцкай спрытнасці французаў, якія паспяхова гандлююць няволяй, а па-другое, усцешана думаў пра незвычайную сілу мастацкага слова, якое літаратурных герояў ператварае ў герояў рэальных.

Наўрад ці ў агляднай будучыні турма беларускага КДБ стане музеем — яна працягвае заставацца запатрабаванай па сваім наўпростым прызначэнні. Але шыльдачкі на турэмных камерах у ёй таксама глядзеліся б нядрэнна: тут чакала прысуду паэтка Ларыса Геніюш, тут сядзеў аўтар выдатнай кнігі «Люблю Беларусь» Павел Севярынец, тут трымаў сухую галадоўку паэт Славамір Адамовіч, тут пісаў свае «амерыканскія вершы» кандыдат філалогіі Аляксандр Фядута, тут паэт і кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Някляеў ствараў сваю паэму «Турма»...

Стоп. Каля гэтай камеры з лічбачкай 9 на дзвярах мы трохі затрымаемся. Бо тут была напісаная не толькі згаданая паэма, але і цэлая, беспрэцэдэнтная ў гісторыі беларускай літаратуры, кніга «Лісты да Волі». Чаму беспрэцэдэнтная? Уявіце сабе тузаніну турэмнага жыцця: частыя і нечаканыя выклікі на допыт, вобшукі-шмоны ў камерах, цясноцце і халадэча ў тых

каменных мяшках, ізаляванасць ад вонкавага свету... І вось, нягледзячы на ўсё гэта (і на ўсё астатняе), кожны дзень на паперы (у памяці) натуецца верш.

Напісаў я «ўявіце сабе» і міжволі задумаўся — як нам тое ўявіць, ні разу не пабачыўшы? Як уявіць тое аўтару гэтых радкоў, чый арыштанцкі досвед абмяжоўваецца двухгадзінным знаходжаннем у адным са сталічных пастарункаў, хай сабе і з кайданкамі на руках? Мы ж не пабывалі ў той скуры, мы ж пра турму, па сутнасці, нічога не ведаем. І ўсё ж — мы ведаем пра яе шмат. Калі прачыталі кнігу «Лісты да Волі».

Штодзень — верш. 1 студзеня 2011 года — «Як плашчаніца, бел-чырвона-белы...» 2 студзеня — «Не ўсё дарэмна, што дарэмна...» 3 студзеня — «Дождж, што ў снежні без патрэбы...» Можа быць, такім чынам для паэта пачаўся адлік часу, запрацаваў нейкі патаемны гадзіннік — там, дзе час спыніўся, дзе блытаюцца ноч і дзень, дзе пад столлю круглыя суткі гарыць лямпачка. Бо самае, відаць, няўтульнае адчуванне, калі ты ў бясчассі. А найгорай, калі мы ўсе — у бясчассі. Хоць і на свабодзе. Але тут не пра гэта гаворка.

Паэт і турма — для беларускай рэчаіснасці сюжэт далёка не арыгінальны. Сядзелі многія. І напісана ў турме нямала — дастаткова назваць «Новую зямлю» вязня турмы яшчэ царскай Якуба Коласа ці «Пана Тадэвуша», перакладзенага вязнем турмы польскай Браніславам Тарашкевічам. Але ніхто з беларускіх паэтаў не даследаваў турму так падрабязна, як тое зрабіў Уладзімір Някляеў. Ён не адпрэчыў турму, не самазамкнуўся ў ёй, а павёў з ёю бясстрашны дуэлог (дыялог і дуэль адначасова). Атрымаўся псіхалагічна-паэтычны партрэт турмы.

Спачатку някляеўская турма, як ёй і належыць, страхотліва бразгае жалезнымі засаўкамі, запалохвае рознымі ўласцівымі ёй спосабамі. Думаю, шмат у каго з чытачоў перахапіла дыханне там, дзе паэт апісвае, як трое нервовых турэмшчыкаў абвяшчаюць яго дзяржаўным злачынцам (25 гадоў альбо вышэйшая мера!), потым вядуць сутарэннямі і ставяць тварам да сцяны з падазронымі шчарбінамі... Пасля такіх эксперыментаў над паэтам неяк па-іншаму, з халадком па скуры, чытаюцца

радкі: «І замірае камера ў здранцвенні / на ўскрык нямы... / Тут некалі стралялі ў сутарэнні / такіх, як мы».

Потым турма і паэт узаемапрыручаюцца, і закручваецца такая ліхаманкавая драматургія, ад якой нават спрактыкаваны чытач можа забыць усе раней чытаныя ім драмы. Турма ажывае, спакушае паэта, і пад яе гарачыя нашэпты ўжо аніхто не здольны разабрацца — дзе турма, дзе тая Воля, чый Дзень мы адзначаем 25 сакавіка, а дзе тая Воля, якая марознымі раніцамі стаяла на ганку КДБ з перадачамі для свайго мужа-паэта. Які для гэтага патройнага, перажытага з неверагоднымі жарсцямі рамана прыпісаў у канцы эпілог, які нагадвае дыягназ, пастаўлены безнадзейна хвораму пацыенту: «Турма — не сцены. Для турмы / не камяні сабраны — мы».

Някляеўская Турма вартая энцыклапедыі літаратурных герояў, якая калі-небудзь з’явіцца і ў Беларусі. Турма, грымнуўшы жалезнымі дзвярамі, увайшла ў літаратуру, а літаратура — далікатна так, на дыбачках, прашамацела ў турму. Прашамацела тым абрыўкам газеты, які выпадкова трапіўся на вочы паэту, дзе ён прачытаў гэтак патрэбныя ў тую хвіліну словы: «Держись, Володя! Твой брат Евгений Евтушенко». Прачытаў, каб у падзячным пасланні ў адказ дапісаць вядомую паэтычную формулу свайго расійскага сябра: «Поэт в России больше, чем поэт, — / и в Беларуси он ничуть не меньше».

Пракраўшыся ў турму, літаратура не пакідала паэта і ў закратаваным «варанку», у якім яго вазілі на высокі суд. Аўтару гэтых радкоў удалося папрысутнічаць на адным з судовых паседжанняў, у дэкарацыі да якога напрошваліся то мрыеўскі «Самсон Самасуй», то купалаўскія «Тутэйшыя», то дунін-марцінкевічаўская «Пінская шляхта». Невыпадкова ўрывак з апошняй гэтак трапна прагучаў у апошнім слове падсуднага, якое сталася і пасляслоўем у кнізе «Лісты да Волі»: «Расследавав дзела саабразна ўказу всеміласцівейшага гасудара... свідзецелям, каторыя не відзелі дракі, за то, што не відзелі, а цем самым і не маглі разняць дзерушчыхся, назначаецца па 5 лоз на дыване і па 5 рублёў штрафу в пользу врэменнага прысутствія». Пра што гэта? Пра Пінск у XIX стагоддзі ці пра Менск у стагоддзі XXI? І хто гэта гаворыць — самаўпэўнены

станавы прыстаў Кручкоў ці неўязная ў краіны Еўразвязу суддзя, якой, у адрозненне ад яе падвойніка, падчас абвяшчэння прысуду ўсё ж бракавала хрэстаматыйнага глянцу.

З глянцам у нас заўсёды так — то густа, то пуста. Трохі загуста яго і ў аздабленні кнігі «Лісты да Волі». Неяк няёмка чытаць пра змрочнае турэмнае жыццё на глянцавай паперы, спаміж пастановачных здымкаў аўтара, зробленых невядомым майстрам фотамадэльнай справы. Ды і той, хто даглянцоўваў кнігу перад яе сустрэчай з варштатам Скарыны, яўна перастараўся. Інакш як растлумачыць, што напісаныя пераважна ў 2011-м «Лісты...» «падпісаныя ў друк 19 снежня 2010 года». Гэткай датай у друк іх мог падпісаць хіба згаданы ўжо прыстаў Кручкоў.

Самы поўны (7000 адзінак) беларускі слоўнік фразеалагізмаў прафесара Івана Лепешава падае толькі адзін устойлівы выраз са словам «турма». У кнізе «Лісты да Волі» іх набярэцца з ладны дзясятак — ёмкіх, дакладных, крылатых. А той адзіны, уключаны ў слоўнік, гучыць праз меру сентыментальна і загадкава: па ім турма плача. Па кім жа яна, суровая, плача? Прачытаўшы «Лісты да Волі», я зразумеў — па кім. Турма плача па сваім паэце. Бо наўрад ці хто калі-небудзь напіша пра яе з такім разуменнем і любоўю, як тое зрабіў яе былы вязень Уладзімір Някляеў.

*2011*

# У ЧЫМ КРАМОЛА «ГРОДНАЗНАЎСТВА»?

Пра такую кнігу марыць кожны горад. Тысячагадовая гісторыя раскладзеная па палічках параграфаў, сотні ўнікальных архіўных фотаздымкаў. Чытаеш — і інфармацыйна насычаны тэкст засвойваецца лёгка, як школьны ўрок. Як на добры розум, асобніку «Гродназнаўства» самае месца ў гарадзенскай мэрыі на адмысловым стэндзе, а дзяжурны чыноўнік штодня мусіў бы здзьмухваць з каштоўнага выдання пыл.

Спачатку здавалася, што «гісторыя еўрапейскага горада» (з такім падзагалоўкам кніга пабачыла свет) і насамрэч усім прыйшлася даспадобы — і чытачам, і ўладам. «Гродназнаўства» з задавальненнем бралі на рэалізацыю нешматлікія гарадзенскія кнігарні, ціхамірна прайшла і прэзентацыя кнігі, наклад яе амаль разышоўся.

І тут, як гром з яснага неба, прастору байнэту абляцела вестка: «Гродназнаўства» гарадзенскімі ўладамі прызнанае крамольнай кнігай, яе сканфіскоўваюць з кнігарняў і бібліятэк, аўтараў выклікаюць на допыты ў абласную ўправу КДБ, звальняюць з працы ў Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы.

Зразумела, што кніга-скандалістка ў адзін момант набыла незвычайную папулярнасць, чытачы пачалі мэтанакіравана шукаць тое забароненае «Гродназнаўства». Казалі, што кніга, як і ў савецкія дэфіцытныя часы, прадавалася на гарадзенскім рынку «Паўднёвы», праўда, па даволі кусlівым кошце.

Як шчаслівы ўладальнік гэтай самай запатрабаванай у Гародні кнігі, я доўга не мог уцяміць, у чым яе крамола. А потым да мяне дайшло — проста трэба прачытаць яе вачыма чыноўніка, якога-небудзь Сан Саныча.

Вось Сан Саныч прыходзіць раніцай на працу, сядае за свой груваскі стол пад партрэтам правадыра і ў стосе тэчак з дакументамі на подпіс выяўляе прыгожа аздобленую кні-

гу. Адклаўшы ўбок сумныя дакументы, ён заўважае на кнізе лагатып «Гарадзенскай бібліятэкі» і злёгку насцярожваецца. Сан Саныч — чалавек пільнавокі і чуйнавухі і без падказкі сакратаркі прыгадвае, што ў гэтай самай серыі адносна нядаўна выходзілі сумнеўныя з гледзішча партрэта за яго спіной кнігі Васіля Быкава і Ларысы Геніюш.

Пакруціўшы кнігу ў руках, Сан Саныч насцярожваецца яшчэ больш — на тыльным баку вокладкі проста з моста ў Нёман скача заўсёды ваяўнічая, халера на яе, Пагоня, мабілізуючы ў паспалітае рушанне за сабой месцічаў на беразе і аленя святога Губерта, які спатольваў смагу на водмелі. Туды ж, відаць, скіруецца і полк жаўнераў з беларускага войска, якія прысягалі пад бел-чырвона-белым сцягам на апошніх старонках кнігі.

Сан Саныч для супакаення нерваў прыпальвае цыгарэту, уважліва гартае кнігу і пачынае прафесійна ўчытвацца ў яе змест.

У раздзеле «Гродна ў складзе Расійскай імперыі» яму кідаецца ў вочы знаёмы партрэт, неаднойчы бачаны ім у Новым замку ў галерэі гарадзенскіх губернатараў. Так, той самы Міхаіл Мураўёў, які ў сучасных падручніках па гісторыі Беларусі названы «таленавітым адміністратарам». Але подпіс пад партрэтам у кнізе — Мураўёў-Вешальнік!

Яшчэ студэнтам Сан Саныч бываў у Полацку на экскурсіі і з тае пары запомніў невысокі будынак на беразе Дзвіны. Экскурсаводка з непрыхаваным піетэтам называла яго дамком Пятра І, а гасудар імператар (Сан Саныч, вядома ж, у курсе) летась перамог на расійскім тэлерэферэндуме і стаў гістарычнай асобай № 1. Калі ён асоба № 1 у Расіі, то і на тэрыторыі ўсёй «саюзнай дзяржавы» павінен уваходзіць у непарушны арэапаг — лагічна разважаецца Сан Санычу. Ён знаходзіць у «Гродназнаўстве» адпаведны параграф і са здзіўленнем чытае: «Пётр І... у Беларусі вызначыўся тым, што ў 1705 г. па яго загадзе было ўчынена забойства ўніяцкіх манахаў у Полацку, а ў 1708 г. была зруйнаваная адзіная цытадэль праваслаўя ў Рэчы Паспалітай — горад Магілёў».

Пасля такой праўды пра цара-героя Сан Саныч канчаткова насцярожыўся і нават не стаў удакладняць, а чым вызначыўся Пётр I у Гародні. Ліхаманкава гартануўшы старонкі, ён спыняецца на рубрыцы «Пытанні і заданні». «Як змянілася жыццё гарадзенцаў з прыходам бальшавікоў?» — павеяла ад пытання больш блізкай гісторыяй, у якой Сан Саныч лічыў сябе як мае быць абазнаным. Адказ на старонках «Гродназнаўства» даваўся ад імя гісторыка Юзафа Ядкоўскага, які напісаў пра Гародню ажно дванаццаць кніг: «Бальшавіцкае нашэсце прымусіла польскія ўлады пакінуць Гародню. Амаль дзесяць тыдняў горад заставаўся ў сферы бальшавіцкага “раю”. Дзясяткі расстраляных, сотні вывезеных, здзекі з насельніцтва, разбураная гаспадарка, разрабаванне ўсяго, што можна было разрабаваць на працягу гэтага часу...»

Далей у кнізе гаварылася пра знішчэнне ў 1961 годзе Фары Вітаўта. Шчыра кажучы, гэты акт вандалізма асуджаў і Сан Саныч. Калі б старажытны касцёл не ўзарвалі, у Гародню багатыя турысты з Еўропы сёння ехалі б куды ахвотней. Недальнабачна паступілі таварышы. Каб залішне не хвалявацца з гэтай нагоды, Сан Саныч нават прыдумаў хітры ход — пераклаў віну за знішчаны храм на... палякаў. І праўда, калі б яны не перавезлі з Фары Вітаўта на кракаўскі Вавель прах пахаванага ў Гародні караля Стэфана Баторыя, тым самым парушыўшы яго апошнюю волю, то хто б адважыўся ўзрываць святыню разам з парэшткамі венцаноснай асобы? А так адважыліся. Але чакайце — навошта публікаваць прозвішчы членаў выканкама, якія санкцыянавалі тую ганебную акцыю? Воронов, Чернышёв, Романов, Сахарова, Солодилов... Іх нашчадкі могуць жыць у Гародні, і абнародаванне падобных дакументаў можа нанесці ім маральную шкоду — небеспадстаўна затрывожыўся Сан Саныч.

Не выклікалі ў яго энтузіязму і старонкі кнігі, дзе з відавочнай сімпатыяй паведамлялася пра гарадзенскага дысідэнта Браніслава Ржэўскага, які за крытыку нацыянальнай палітыкі ў БССР шэсць гадоў адбыў у ГУЛагу, а вярнуўшыся на пачатку 60-х у Гародню, так і не змог аднавіцца на месцы ранейшай працы ў педінстытуце. Сан Саныч па абавязку сваёй службы

ведаў, што ў новых навучальных праграмах (універсітэцкіх і школьных) чорным па белым напісана: мінімізаваць тэму рэпрэсіяў пры савецкай уладзе. Відаць, аўтары «Гродназнаўства» праігнаравалі гэтае патрабаванне, бо з яго старонак чытачам настойліва падсоўваюцца менавіта факты рэпрэсіяў. Ну навошта было дадаваць на белы свет забытую справу студэнта таго ж педінстытута Іосіфа Клышэвіча, які ў 1950 годзе на студэнцкіх сходках выступаў за стварэнне незалежнай беларускай дзяржавы і атрымаў за гэта 25 гадоў лагера? А яшчэ адзін студэнт тае ж ВНУ — Мікалай Стрэльчык — атрымаў столькі ж толькі за тое, што даў пачытаць аднакурсніку выдадзеную за часам нямецкай акупацыі кнігу Ларысы Геніюш «Ад родных ніў».

Ад аднаго ўпамінання імя Ларысы Геніюш у Сан Саныча звычайна пачынала пабольваць галава. З паэткай яму заўсёды хапала клопату — то помнік ёй без ведама абласнога начальства ў Зэльве ўсталююць, то мемарыяльную шыльду несанкцыявана на доме павесяць, то мясцовы бацюшка праявіць празмерную актыўнасць і музей Геніюш проста ў царкве адчыніць. А яна ж да гэтага часу не рэабілітаваная, бо — тут Сан Саныч мае дакладныя інструкцыі — «ліставалася з Гітлерам»... То якія тут могуць быць помнікі, шыльды, музеі?

Але найбольшая неспадзяванка чакала Сан Саныча на стар. 317 таго ж «Гродназнаўства». Прабегшы вачыма змешчаную там стэнаграму галасавання ў Вярхоўным Савеце за прыняцце дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, ён ажно прыўзняўся з крэсла і інстынктыўна захінуў сабой кнігу ад суровага позірку з партрэта за спіной. У стэнаграме было напісана, што дэпутат Аляксандр Лукашэнка не галасаваў за дэкларацыю...

Нюхам спрактыкаванага апаратчыка Сан Саныч адчуў, што ў ягоным кар’ерным росце могуць узнікнуць праблемы, і неадкладна звязаўся з непасрэдным выканаўцам сваіх мудрых рашэнняў. З падначаленымі ён любіў паказаць сваю літаратурную эрудыцыю і найперш пацікавіўся, ці ведае выканаўца, што калісьці ў Гарадзенскай губерні служыў паэт Аляксандр Сяргеевіч... Ды не Пушкін, невук, а Грыбаедаў. Дык вось, ён

напісаў актуальныя на ўсе часы радкі, проста гатовую інструкцыю да дзеяння: «Чтоб вольномыслие пресечь — взять книги все и сжечь». Ёсць тут у мяне адна кніга... Так точна, Сан Саныч, мы гатовы — прагучала са слухаўкі, адкуль іншага гучаць не магло.

І закруцілася машына, якая ў нашай краіне стаіць заўсёды напагатове — механізм змазаны, экіпаж ніколі не спіць.

Вось так маглі развівацца падзеі ў еўрапейскім горадзе Гародні вакол адной нядаўна выдадзенай кнігі. А магло ўсё адбывацца і па-другому. Вось жа ў хвіліны, калі пішацца гэты тэкст, з Гарадзенскага ўніверсітэта прыйшла вестка, што адзін з аўтараў «Гродназнаўства» адноўлены на працы. Нібыта ўлада зразумела сваю памылку. А як быць з маральнай шкодай? І тут я хачу параіць Сан Санычу неардынарны крок: у якасці кампенсацыі аўтарам «Гродназнаўства» Андрэю Чарнякевічу, Алесю Госцеву, Аляксандру Дабрыяну, Віталю Карнелюку, Святлане Марозавай і Вячаславу Шведу прысвоіць званні ганаровых грамадзянаў Гародні. За іх самаадданую працу па даследаванні гарадзенскай гісторыі. А ўсім вышэйназваным — мая чытацкая ўдзячнасць і парада: на меншае не згаджайцеся.

*2012*

# ТУРМА ЯК ДОМ ТВОРЧАСЦІ

Калі сплюсаваць усе тэрміны, адседжаныя беларускімі пісьменнікамі ў турме, атрымаецца больш за тысячагоддзе.

Былі пісьменнікі, якіх турма асабліва любіла. Я ніколі не забудуся, як мы, студэнты філфака БДУ, прыйшлі ў госці да паэта Сяргея Новіка-Пеюна. Рухавы і ўсмешлівы гаспадар парассаджваў нас на канапе, крэслах і зэдліках, а на заўвагу, чаму сам не прысядзе, адмахнуўся: «Ой, хлопчыкі, насядзеўся я. Пры паляках сядзеў, пры першых саветах сядзеў, пры немцах і пры другіх саветах таксама сядзеў...» Так і гутарыў з намі, успамінамі гулагаўскімі дзяліўся і свае знакамітыя «Зорачкі» спяваў — стоячы.

Былі творцы, якіх музы не пакідалі і за кратамі. Максім Танк неяк прызнаўся, што найлепш яму пісалася ў польскай турме.

А як тут не згадаць унука паўстанца 1863 года драматурга Каруся Каганца? Таго самага, які хадзіў па перадрэвалюцыйным Менску і даводзіў звыклым жыць у «северо-западном крае» суайчыннікам, што «трэба Беларусь паднімаць». Дайце веры — ён сам прасіўся ў турму!

«Дарагая Ганулька! — пісаў ён жонцы Ганне Кастравіцкай у ліпені 1910 года, — дагэтуль яшчэ не дабіўся, каб мяне пасадзілі, але ўжо ў панядзелак абяшчалі пасадзіць». І ўжо ў наступным лісце, як пра нейкае дасягненне: «Сеў у турму з лёгкаю душою 26 ліпеня. Тутака і адзін паэт, што пісаў у “Нашу ніву” і завецца Якуб. Будзь здаровенька».

Пасядзець у адной турме адначасова з Якубам Коласам — гэта як знак лёсу. Але каб самахоць — на турэмныя нары?! Што за драматургічны сюжэт?

Аказваецца, Віленская судовая палата ў тым жа 1910 годзе прысудзіла Каруся Каганца да года зняволення ў менскай турме. А тая стаяла перапоўненая. І мусіў пісьменнік дамагацца ўласнай пасадкі, каб хутчэй выйсці на свабоду і вярнуцца да гаспадаркі, у сваю шматдзетную сям’ю. Дамогся і — сеў. У ту-

рме пісаў вершы і маляваў ілюстрацыі да Коласавай чытанкі. Ператварыў турму ў Дом творчасці.

Дзіўна, чаму пры такіх задушэўных адносінах паміж пісьменнікамі і турмой у Беларусі за доўгі час не з'явілася хоць бы сціплага літаратурнага зборніка на турэмную тэму. Выходзілі ў свет паэтычныя анталогіі пра хатынскую і чарнобыльскую трагедыі, пра ўз'яднанне Беларусі ў 1939-м, пра слаўных савецкіх правадыроў ды іхнюю адзіна кіроўную партыю, пра Новы год і старую Вільню, нават адмысловы зборнік «Верш і храм» выйшаў у Беластоку. Тэма турмы ніколі не была кнігаўтваральнай для айчынных анталагістаў.

І вось на 497-м годзе існавання друкарскага варштата Скарыны (дарэчы, і ён пабываў у турме!) такая кніга нарэшце з'явілася — анталогія «Голас волі з-за кратаў». Склаў яе дыпламаваны літаратуразнаўца Аляксандр Фядута, які пасля Плошчы-2010 таксама апынуўся ў турэмнай камеры. Праўда, не забавіўся там, як і Скарына. Не ведаю, ці навучыўся чамунебудзь у вязніцы наш слаўны першадрукар, а вось Фядуту турэмны досвед відавочна дапамог у працы над анталогіяй.

Васямнаццаць яе аўтараў — людзі розных прафесій і жыццёвых зацікаўленняў, якіх аб'яднала тое, што па волі лёсу суаўтарам кожнага стала турма. І рэдактарам, ці, дакладней, цэнзарам, яна ж. Часцей — строгім і прыдзірлівым, радзей — літасцівым, з прыплюшчаным на імгненне-другое вокам. Бо сачы не сачы, усё роўна не дапільнуеш. Як пісаў класік, «не скуеш толькі дум ланцугамі». Найбольш думаюць і мараць вязні, вядома ж, пра свабоду, а пра што пішуць?

Спецыяліст па электроніцы Ігар Аліневіч стварыў цэлы турэмны трактат — з неабходнымі статыстычнымі дадзенымі, ад якіх робіцца непамысна. Аказваецца, за дваццаць апошніх гадоў праз беларускую пенітэнцыярную сістэму прайшло 1 200 000 чалавек — кожны другі працаздольны мужчына, а кожны пяты адбыў большы ці меншы турэмны тэрмін. Кожны другі і кожны пяты! Калі гэта сапраўды так, то ёсць усе падставы перайменаваць Рэспубліку Беларусь у які-небудзь Беларусьлаг, а па перыметры дзяржаўнай мяжы паставіць вышкі з аўтаматчыкамі.

Журналістка Ірына Халіп апісвае яшчэ адзін — дагэтуль невядомы — від катаванняў, які з'явіўся ў арсенале менскіх турэмшчыкаў. Да расцяжак і «ластавак», да камераў-халадзільнікаў, да круглясуткавага яркага святла дадаліся яшчэ і пустапарожнія «дамскія» раманы, якія ў неабмежаванай колькасці дастаўляліся ў камеры, калі іх насельнікі прасілі пачытаць класіку. Начальнік СІЗА на пратэсты дасціпна адказваў: «Вы ў турме, а якая ж турма без катаванняў? Вось жанчынаў мы і вырашылі катаваць “дамскімі” раманамі».

Гісторык і паэт Алесь Кіркевіч, наадварот, даймаў турэмную адміністрацыю, выкарыстоўваючы ў зносінах з ёю адметную беларускую лексіку. У сваіх аповедах ён з гумарам прыгадвае, як адзін прапаршчык літаральна шалеў, не знайшоўшы ў крапівоўскім слоўніку слова «шпацыр».

Праваабаронца Алесь Бяляцкі, для якога вязніца стала сапраўдным домам творчасці (за няпоўныя тры гады — дзве дыхтоўныя кнігі), трапіў у анталогію з успамінамі пра моладзевы нефармальны рух у Гомелі і Менску, пра сустрэчы з палкоўнікам КДБ Данілікам. О, гэта быў незвычайны палкоўнік! У 70-я гады ён узначальваў Ваўкавыскі аддзел дзяржбяспекі, а сярод яго падапечных была сама Ларыса Геніюш. Відаць, добра апекаваўся таварыш палкоўнік апальнай паэткай, бо пасля яе смерці быў пераведзены па службе з райцэнтра адразу ў сталіцу. У геніюшаўскім архіве прысвячэнняў Даніліку я пакуль не знайшоў, а вось Алесю Бяляцкаму сутнасць тых спатканняў у спецпакоі Акадэміі навук удалося вызначыць проста афарыстычна: «Сустрэчу з гэбэшнікамі ў тыя часы можна параўнаць з сутыкненнем з гадзюкай на вузкай сцежцы пасярод дрыгвы».

Складанне тэматычных анталогій — справа ўвогуле рызыкоўная. Паколькі ў пэўны момант, шукаючы і знаходзячы ўсё новыя тэксты, складальнік можа страціць пільнасць, і тады тэма пачынае дамінаваць над якасцю тэкстаў. Тады анталогія пухне, а яе мастацкая значнасць мізарнее.

На шчасце, Аляксандру Фядуту густ не здрадзіў, і яму ўдалося датрымаць планку якасці на належным узроўні, нягледзячы на аб'ём ягонай анталогіі — амаль 1000 (!) старонак.

І ў дынамічнай прозе Змітра Дашкевіча, і ў духаўздымных эсэ Паўла Севярынца, і ў шчырых да спавядальнасці вершах Арцёма Грыбкова і Змітра Дразда, і ў задзірыстых польскамоўных дзённіках Андрэя Пачобута — паўсюль адчуваецца тая адушаўлёнасць, без якое няма літаратуры. Гэта як у біблейскай гісторыі — была месапатамская гліна, а Бог душу ўдыхнуў, і з'явіўся на белы свет чалавек.

«Голас волі з-за кратаў» — радок Рыгора Барадуліна, адзінага аўтара анталогіі, чый жыццёвы шлях з турмой шчасліва размінуўся. Але паэт, будучы ўжо цяжка хворым, палічыў сваім абавязкам адмыслова для анталогіі напісаць верш. Змешчаны на вокладцы, ён стаў своеасаблівым corona astralis — зорным вянком — гэтай унікальнай, першай у гісторыі беларускай літаратуры кнігі.

«Голас волі з-за кратаў» гучыць як неаспрэчны адказ на чарговае нервовае апраўданне каго-небудзь з айчынных палітыкаў: «У Беларусі няма палітвязняў!» Яны былі ўчора і ёсць сёння. І пішуць свае тэксты-сведчанні для новых анталогій. У турме, якая для многіх з іх неспадзявана стала Домам творчасці.

*2015*

# ААЗІСЫ НІЛА ГІЛЕВІЧА

Слушна сказана: каб зразумець паэта, трэба пабываць на ягонай радзіме. У праўдзівасці гэтых словаў я неаднойчы пераконваўся, наведваючы разам з паэтамі іх родавыя гнёзды: з Уладзімірам Някляевым — старадаўняе Крэва, з Хрысцінай Лялько — хутар Хадзюкі на Лідчыне, з Эдуардам Акуліным — вёску Вялікія Нямкі паблізу стараверскае Веткі... Паходзіш тымі самымі сцежкамі, падыхаеш тым самым паветрам, прытулішся да вушака тае самае хаты — і разнасцежыцца твая душа для радкоў, у якіх — водсветы і водгукі паэтавых зямлі і неба.

Але з любога правіла бываюць выняткі. Я ніколі не быў у вёсцы Слабада на Лагойшчыне — у родным кутку Ніла Гілевіча. Чаму ж ягоная паэзія шырокай ракой плыве ў маю душу, цярэбячы і скаланаючы яе, не патрабуючы нейкіх дадатковых ландшафтных ці іншых радзімазнаўчых падказак? Чаму мне, яшчэ школьніку, наўслед за паэтам так летуценна хацелася «толькі з роднага долу, толькі ў роднай дуброве / як не дрэвам, хоць кветкай прарасці для жывых»? Чаму рэдкая паэтава радасць заўсёды станавілася і маёй радасцю, а куды часцейшы боль ягоны так нясцерпна балеў і мне?

Сам сабе я задаваў гэтыя пытанні, сам сабе і адкажу. Ніл Гілевіч — фенаменальна шчыры і да апошняга эрытрацыта ў крыві беларускі паэт. Перад такой шчырасцю і такой беларускасцю міжволі адсланяюцца ўсе самаахоўныя засланкі чытацкіх душы і сэрца. Атрымліваецца, як у той прыказцы (запісанай, дарэчы, на Лагойшчыне Адамам Варлыгам): каб былі грудзі на завесах, дык бы сэрца паказаў. А што ёсць паэзія як не паказанні сэрца? Без усякіх там завесаў...

Дзень 30 верасня прыпаў сёлета на нядзелю. Пра што і паведаміў нам каляндар «Родны край» — жыццёвы спадарожнік некалькіх пакаленняў беларусаў. Шмат гадоў карыстаюся ім і я, яшчэ з тых даўніх часоў, калі «Родны край» складаў наш

выдатны энцыклапедыст Янка Саламевіч. Верыў я яму, верыў і заснаванаму ім календару. А тут упершыню — не паверыў. Усё на месцы — і чырвань лічбаў, і беларускі арнамент пад імі, і ўсход сонца, і заход месяца. Але няма галоўнай даты — ні словам не паведамлена, што 30 верасня — юбілейны дзень народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. Круціў я той каляндар у руках і са скрухай думаў, што і «Родны край» пачужэць можа...

Другая неспадзяванка чакала мяне над той жа старонкай пачужэлага «Роднага краю». Аказваецца, 30 верасня адзначаецца Сусветны дзень сэрца. І гэта, думаецца, невыпадковае супадзенне. А калі дадаць, што 30 верасня нарадзілася яшчэ і Зоська Верас — таксама ж чалавек вялікага, шчырага і беларускага сэрца, — то становіцца зразумелым, што каляндар нашага жыцця не аддадзены цалкам у рукі выдавецкіх складальнікаў і рэдактараў. Ёсць і над імі Складальнік, які вызначыў — у дзень народзінаў беларускага паэта Ніла Гілевіча людзі свету адзначацьмуць Дзень сэрца!

Добрых святаў усё ж замала ў нашым наўмысна забудзёненым, паспешліва-мітуслівым жыцці. Часам людзі самі ўсвяточніваюць свае календары, і тут ужо ўсё залежыць ад прыхільнасцяў і стану душы чалавека. Вось у мяне сёння Дзень новай кнігі Ніла Гілевіча. Яе назва — «Пацеркі Божай Маці», падназва — лірыка 2009–2010 гадоў. Невялікая, з густам аздобленая ў выдавецтве «Про Хрысто» кніга. Як жа хораша гучыць гэтае загалоўнае слова — пацеркі! Яно перагукаецца з лацінскім *pater*, з нямецкім *Vater*, з грэцкім *πατέρας*, з беларускім *пацеры*... Пацеркі — каштоўныя каменьчыкі ператвараюцца ў пацеры — малітоўныя словы. І наадварот — пацеры нанізваюцца ў пацеркі. Шкада, што словы гэтыя сёння рэдкаўжывальныя. А мама мая працягвае штодзённа *адгаворваць пацеры*, а бурштынавыя каралі, якія нібыта дапамагаюць ёй пры хваробе шчытавіднай залозы, упарта назвае *пацеркамі*. Хай жа ўслухаюцца ў глыбінна-высокае гучанне гэтых словаў усе тыя, хто, паводле Ніла Гілевіча, звыкла на суседскіх падворках

падбірае чужамоўя пацепкі,
нацярушаныя ператрускай...

А на шыі Божай Маці пацеркі
з самацветаў мовы беларускай.

У свой час паэт Іосіф Бродскі раўніва заўважыў, што музыкі маюць перавагу над паэтамі. Маўляў, Бах звяртаўся ў сваіх месах адразу і беспасярэдне да Бога, а паэты мусяць апяваць Божую тварбу — прыроду. Не аспрэчваючы Бродскага, усё ж заўважу, што паэты, наадварот, атрымалі ад Бога найадказнейшае і найганаровейшае заданне — прадаўжаць адухаўляць прыроду. Бог удыхнуў душу ў чалавека, а чалавек адухаўляе прыроду. Пра гэта думалася мне, калі чытаў Гілевічаў «Дыфірамб доўгачаканаму дажджу», якім распачынаецца новая кніга. Дваццаць дзеясловаў руху (*наляцеў, шугануў, зашалясцеў, устрапянуў, зашапацеў, загаманіў, запаланіў*...) сапраўды ператварылі дождж у жывую істоту, агучылі яго «цымбальныя скокі» (Я. Брыль) па засмяглым ад спёкі лісці, па бязлюдных ходніках.

Кнігу «Пацеркі Божай Маці» завяршае «Споведзь крывічанкі» — маналог-малітва ад імя маладой беларускі, якая паставіла над усім сваю чалавечую годнасць, сваю праўду, сваю атрыманую ў спадчыну ад продкаў мараль. Твор гэты, рэфрэнам «Гэта я, міласэрны Божа» ўзведзены ў ранг найвышэйшага дыялогу, варты вывучэння ў школах, дзе сённяшнім старшакласнікам гэтак бракуе ўзору, з каго «рабіць жыццё». А трэба і ім памятаць словы полацкай князёўны Рагнеды, якія з вуснаў Гілевічавай крывічанкі гучаць таксама смела і пераканаўча: «Сына рабыні я разуваць не буду».

Дзень новай кнігі Ніла Гілевіча я адзначаю сёлета прыканцы года, калі сабраны з поля ўраджай, калі хочацца «з двара прыйсці і сесці ля агню» (М. Стральцоў). А быў жа ў мяне падобны дзень і летась, калі выйшла Гілевічава кніга «Дзверы ў гісторыю», і пазалетась, калі пабачыў свет яго ж паэтычны зборнік «Замова ад страху», і ў няблізкім ужо 2006-м, калі прыйшла да чытача кніжачка кішэннага фармату «У ноч на Пакровы».

Здараліся ў маім жыцці падобныя святы Гілевічавага навакніжжа і раней, але найбольш дарагія мне менавіта гэтыя

зборнікі, выдадзеныя з дапамогай паэтавых прыхільнікаў бібліяфільскімі накладамі — 100, 200, 300 асобнікаў. У кожным з іх я знаходзіў ці то разважлівую паэтычную прыпавесць («Аб рыфме “свабоду — народу”», «Аповед пра чалавечнасць тырана», «Сказ пра ўзбекаў»), ці то з’едлівую сатыру на антыгерояў нашага часу («Па словах анёла», «Балада пра Маньку і Ваньку», «Аповед пра трубу»), ці то «зрубленую ў лапу» эпіграму-афарызм, якая запамінаецца з першага прачытання, накшталт гэтай замалёўкі *амаль з натуры*: «Сядзіць з карэлай мордай, / не мае чым адмыць. / А морда хоча гордай / і незалежнай быць».

На маім стале — ліст з Зэльвы. Знаёмы настаўнік напрамілы Бог просіць прыслаць Гілевічавы «Дзверы ў гісторыю». Ён быў на настаўніцкіх курсах, там нехта чытаў услых гэтую кнігу — спадабалася і фізікам, і лірыкам. Зямляк так і піша: «Творчасць Ніла Гілевіча — мой тут галоўны аргумент у мястэчковых дыскусіях пра пакручастыя шляхі айчыннай гісторыі. Дзе не даходзіць слова празаічнае, спрацоўвае трапная і дасціпная эпіграма: «Дзверы ў гісторыю вузкія вельмі — / цяжка праходзяць і людзі, і шэльмы. / Дзверы ж адтуль — шырэй за вароты: / вылеціш вон — і не ўспомняць, хто ты».

Творчасць Ніла Гілевіча — аргумент... Як тут не згадаць паэта Анатоля Вярцінскага, які, нібы падслухаўшы зэльвенскага настаўніка, напісаў верш пад назвай «Здарэнне ў Судны дзень, альбо Ніл Гілевіч як аргумент». Каб не цытаваць гэты вялікі (ва ўсіх сэнсах!) твор, коратка перакажу яго змест.

Сын Божы судзіў народы, якія размаўлялі з ім на сваіх мовах. Калі ж дайшла чарга да беларусаў, найвышэйшы суддзя мусіў перапытаць: «Дык вы — беларусы?» Адказ прагучаў бязладна і не задаволіў Сына Божага. Тады ён запатрабаваў назваць беларуса, «хто мову родную прыняў з маленства / як запаветны скарб, як Божы дар, / хто потым на шляху жыццёвым / быў верны ёй і вусна, і пісьмова, / быў верны ёй і ў радасці, і ў горы, / быў верны ёй у мроях і ва ўчынках, / хто ні на хвілю уявіць не мог / свой лёс і лёс свайго народа / без мовы роднай...». І назвалі беларусы імя Ніла Гілевіча, і прынеслі да Хрыстовага пасаду ўсе кнігі паэта ўлучна з галоўным

аргументам Гілевічавай вернасці роднай мове — кнігай «Любоў прасветлая». «І склаўся з кніг тых велічэзны стос — / дзівіўся, гледзячы на іх, Хрыстос». І — змяніў гнеў на літасць. Так былі ўратаваныя беларусы ад апраметнай.

Як на маё меркаванне, верш Анатоля Вярцінскага «Здарэнне ў Судны дзень...» — гэта шэдэўр, не заўважаны нашай крытыкай. Шэдэўр, які ўзнік у выніку зусім не блюзнерскага, а адпаведна пашанотнага сумяшчэння тэксту Евангелля ад Мацея з нашай рэчаіснасцю. І шэдэўр гэты дапамог напісаць аўтару адзін з ягоных герояў — сваім жыццём.

Ніла Гілевіча ў такой — біблейскай — іпастасі згледзела (яшчэ ў 1965 годзе!) і Ларыса Геніюш. У адным з лістоў да літаратуразнаўцы-медыявіста Міколы Прашковіча яна трапна заўважыла, што і ў Беларусі ёсць свой Ніл — «жывіцель пустэльні».

«Жывіць пустэльню» — праца велічэзная, яна пад сілу толькі волатам-рэкам і волатам-паэтам. З усіх бакоў наступаюць пяскі, а трэба зберагчы і памножыць аазісы. Ніл Гілевіч свае аазісы збярог і памножыў — аазіс веры ў свой вечны народ, аазіс любові да сваёй святой зямлі, аазіс, у якім ад сухмені ратуецца мова. Бо калі мову як нацыянальную каштоўнасць не ахоўвае закон, яе зберагуць дасканалыя творы, напісаныя на ёй. А менавіта той стос, на які глядзеў і дзівіўся Хрыстос. А калі б ён прыдумаў для беларусаў яшчэ адзін іспыт і запатрабаваў праспяваць песні, якія ведалі б усе, я перакананы — над грамадой суайчыннікаў залунала б і «Вы шуміце, шуміце нада мною, бярозы...».

Вядомае і небясспрэчнае выслоўе, якім пачаліся гэтыя нататкі, можна перайначыць і так: хочаш зразумець паэта — запрасі яго на сваю радзіму. І я запрасіў. У 2005 годзе мы з Нілам Сымонавічам, Эдуардам Акуліным і Сяргеем Чыгрыным выступалі на Зэльвеншчыне — у Галынкаўскай і Елкаўскай сярэдніх школах, а потым заехалі ў маю родную вёску, дзе нас сустрэла мама. Шэсць гадоў з тае пары мінула, а яна ў кожны мой прыезд усё перадае паклоны таму «папраўдзі добраму паэту, які піша так жалосна».

Не толькі жалосна, мама! Але і громагалосна, калі дае адпор ворагам беларушчыны. І мілосна, калі прызнаецца ў сваёй вялікай і бясконцай любові — адзінай жанчыне і адзінай айчыне.

Усё зробленае Нілам Гілевічам мае падвынікаваць Збор твораў у 23 тамах, які пачаў выходзіць у 2003 годзе. Але не шукайце яго ў кнігарнях ці бібліятэках. Свой шматтомавік народны паэт выдае сам — за сваю мізэрную пенсію. Без удзелу дзяржаўных паліграфкамбінатаў, занятых больш пільнай друкарскай справай, чым кнігі жывога класіка. І факт гэты таксама застанецца ў найноўшай гісторыі Беларусі — сведчаннем вытрываласці беларускай літаратуры і беларускіх паэтаў, адлучаных ад варштата Скарыны на 494 годзе яго слаўнага існавання.

...Дапісваю гэтыя нататкі ў Нацыянальнай бібліятэцы. Ледзь чутна плюскоча вада ў мармуровых рыштоках, вакол кусціцца нейкая гібрыдная пальмападобная папараць — як дзенебудзь у аазісе «над хвалямі сінеючага Ніла». А высока ўгары, пад шкляным купалам, свіргочуць, як ластаўкі, малюсенькія трамвайчыкі. Па пакручастых монарэйках яны развозяць чытачам замоўленыя са сховішча кнігі. І я дакладна ведаю, што кнігам Ніла Гілевіча ніколі не пыліцца ў тым сховішчы, а штодзённа і штогадзінна ехаць па тых галавакружных маршрутах да сваіх чытачоў. Каб жывілася яшчэ адна пустэльня і ўзнікаў яшчэ адзін аазіс любові да роднага.

*2011*

# КРОПКІ НАД ПЫТАЛЬНІКАМ

Кузняй нацыянальнага духу было для мяне войска. Наша асобная дэсантна-штурмавая брыгада напалову складалася з заходніх украінцаў і стаяла на Львоўшчыне, ля самай украінска-польскай мяжы. За месяц да вялікіх савецкіх святаў мы маруднымі аўтакалонамі выязджалі ў Львоў — на рэпетыцыю парадаў. Набівалі на падэшвы ботаў жалезныя пласцінкі і маршавалі па начным горадзе, гарланячы шыхтовыя песні, ад якіх львавяне, трэба думаць, былі не ў вялікім захапленні.

Вярнуліся аднойчы да сваіх «уралаў», а ў іх колы паспусканыя, а на бартах — антыакупанцкія налепкі. «Дык гэта ж і я — акупант!» — памятаю, доўга не давала спакою думка. Падліваў смалы ў агонь і старшына нашай роты Барыс Андрусішын, які па вечарах пасля адбою любіў расказваць пра свайго дзеда — ваяра Украінскай паўстанцкай арміі, што змагалася адначасова і з немцамі, і з саветамі. (Потым высветліцца, што ўнук паўстанца даводзіцца стрыечным братам беларускаму спеваку Данчыку.)

Ішоў 1986 год, і самы заняты нацыянальны аптыміст у Менску наўрад ці мог спрагназаваць, што ўсяго праз пяць гадоў Беларусь стане незалежнай краінай.

Дык вось, на памяць пра Львоў падараваў мне адзін сябра-ўкраінец выдадзеную там кнігу — «Словник Берестейщини» Уладзіміра Леанюка. Як я пазней зразумеў — з пэўным прыцэлам. Маўляў, памятай, «акупант», што і ўкраінцы на экспансію здольныя. І што я ў тым слоўніку вычытаў? Што Уладзімір Караткевіч, калі пісаў пра Палессе, «вдавався до білорусіфікації української мови поліщуків». Што Юрка Віцьбіч беспадстаўна «поширяв поняття Білорусь і на Берестейщину». Што Рыгор Шырма, берасцеец паводле нараджэння, «вдавався до перекладу місцевих українських пісень на білоруську мову»...

Пагартаўшы слоўнік, я палічыў патрэбным выказаць сваё абурэнне на старонках «ЛіМа». І неўзабаве атрымаў адказ ад невядомай мне Наталкі Бабінай — у «Нашай ніве». Маўляў,

няхай паэты пішуць вершы і не лезуць у палітыку з геаграфіяй, дзе нічога не петраць. Я запомніў імёны аўтараў слоўніка і допісу ды зрыхтаваўся і надалей бараніць цэласць і непадзельнасць роднай Беларусі ад нечаканых наскокаў з боку паўднёвай мяжы.

І тут трапіла мне на вочы апавяданне Наталкі Бабінай «Баль», надрукаванае, здаецца, у часопісе «Arche». Пра старую, якая паехала перад Калядамі ў горад купіць прысмакаў і памерла ў дызелі паміж станцыямі Бернардыны і Прылукі. Апавяданне зачапіла за жывое. Апрача запамінальнага вобразу бабулі, убачылася мне ў ім і блізкаподумнае: чаканне свята часта бывае лепшым за само свята.

У біяграфічную ўрэзку пад апавяданнем («літаратарка родам з Берасцейшчыны, піша па-беларуску і па-ўкраінску») я ўчытваўся ўжо трывожна-раўніва. Як гэта — «і па-ўкраінску»? Адразу ўспомніліся тыя творцы, хто трапіў у сілавое поле чужой мовы, так дарэшты і не здолеўшы пазбавіцца прыцягнення роднай. Магілёўца Ігара Шклярэўскага (пачытайце яго верш «Жалоба счастья») пацягнула ў расійскі бок. Віленчук мастак і паэт Алег Аблажэй паглядаў у бок польскі, нават выдаў па-польску кнігу. І самы паказальны і балючы для мяне прыклад — Васіль Сідарэнка, беларус, які жыў у Ірпені пад Кіевам і загубіў свой яркі паэтычны талент якраз двухмоўем. Бо гэта публіцыстычны артыкул можна на любой даступнай мове напісаць, а вершы прызнаюць толькі адну мову — мову душы.

Гадоў дзесяць я дапільноўваў кожнае новае апавяданне Наталкі Бабінай і ў думках з радасцю клаў яго на беларускую шалю тых уяўных вагаў, на якіх мусіў узважвацца яе літаратурны плён. І мне здавалася: яшчэ адно апавяданне, яшчэ адно, яшчэ — і вагі канчаткова засведчаць неад’емную прысутнасць Бабінай менавіта ў беларускім прыгожым пісьменстве. Год 2007-ы прынёс мне неспадзяваную палёгку. Выйшлі ў свет адразу дзве кнігі Бабінай — зборнік апавяданняў «Крыві не павідна быць відна» і раман «Рыбін горад». Вагі апошні раз хістануліся і знерухомелі.

У «Рыбін горад» я нырнуў, як у вір з высокага берага. Усё, што засталося зверху, адразу паблякла, прыглухла і засталося чакаць майго вяртання. А ўсплываць-вяртацца не хацелася. Я сам сабе дзівіўся. Лічыў, што да прыгодніцкай літаратуры маю стойкі імунітэт. А тут — захапіла. Адчуў сябе натуральным насельнікам тых прыбугскіх Дабрацічаў, дзе развіваліся падзеі рамана. Вынырваў у наш час, каб хуценька зрабіць нешта абавязкова-тэрміновае, а ў думках працягваў жыць з героямі. ...Так, паслаць падводку да свабодаўскай «Вольнай студыі» ў Прагу... А чым там закончылася сустрэча галоўнай гераіні з бізнесменам Кукалем? ...Не забыцца падагрэць і даць малому сыну ёгурт... А хто ж атруціў старую Макрыню, без якой, здавалася, прыпыніцца ўсё дзеянне ў рамане... І гэтак тузаўся я два дні — пакуль не перагарнуў апошнюю старонку «Рыбінага горада».

Несумненная вартасць рамана — ягоны дынамізм, хутказменныя падзеі супадаюць з нашым імклівым часам. А менавіта адчування тэмпаральнасці, суадпаведнасці з часам бракуе часам беларускім аўтарам буйнафарматных жанраў. Пакуль герой раскатурхаецца, пакуль прыдумае, што мае ўчыніць, — глядзіш, старонак дзесяць і зляпілася.

У «Рыбіным горадзе» ўсё варушыцца, рухаецца і не ведае стану спакою. Галоўная гераіня Ала Бабылёва па начах прапалвае бульбу, старая Лёніха лазіць праз падземны тунель у Польшчу, па берасцейскіх ваколіцах носяцца на іншамарках бізнесмены і актывісты грамадскіх рухаў, на мяжы вые сігналізацыя, Буг разліваецца, па ім плыве млын, а на млыне лапоча крыламі і кукарэкае певень...

Вы заўважылі: калі глядзіш фільм 70-х гадоў, складана засяродзіцца на сюжэце, які падаецца гэткім павольным! Проста мы ўжо звykліся з другім тэмпам жыцця. Калі працягнуць паралель з кіно, то «Рыбін горад» нагадвае мне фільмы Эміра Кустурыцы, дзе таксама ўсё ў руху, у экспрэсіі, у эмоцыі.

Іосіф Бродскі ў свой час гаварыў, што значны творца заўсёды нараджаецца на мяжы культураў. Завязь ягонага таленту мусіць прайсці стадыю перакрыжаванага апылення. Але, дадамо ад сябе, сакавіты плод, як правіла, выпадае скаштаваць

нейкай адной культуры. І ўсё ж той залаты пылок, які трапіў на вашы песцікі і тычынкі з суседняга саду, ён не знікне бясследна і дадасць сакавітасці саспеламу плоду.

«Рыбін горад» акрэсліў у беларускай літаратуры нечапаную геаграфічную прастору — новае Палессе. Яно знаходзіцца на другім баку Беларусі — калі глядзець з боку Палесся Рэчыцкага, апісанага Чэславам Пяткевічам і Іванам Мележам. Гэта на Мележавым Палессі ў «хатах, што стаялі на востраве» палешукі зрэдку прастарэкваліся: «каб ето було». Гэта на Пяткевічавым Палессі кемлівы паляшук, каб не піць на самоце, прыдумваў гэткі вясёлы дыялог з напоўненай чаркай: «Хто ты? — Акавіта. — А з чаго ты? — З жыта. — А пашпарт у цябе ёсць? — Няма. — Дык вось табе турма!» І аніякага табе лінгвістычнага каларыту. Прызнаюся, у творах пра Рэчыцкае Палессе мне заўсёды бракавала моўнай паліфаніі.

Берасцейскае Палессе Наталкі Бабінай мае гэтай паліфаніі колькі хочаш — героі «Рыбінага горада» размаўляюць па-беларуску, па-ўкраінску, па-расійску. Часам і сама аўтарка не ведае, якую мову ўкласці ў вусны герою ў той ці іншай сітуацыі. І я спрабую яе зразумець: памежжа ёсць памежжа. Але ў рамане відавочныя моўныя несупадзенні. Калі героі пачуваюцца ўсё ж свядомымі беларусамі, спрабуюць удзельнічаць у выбарах прэзідэнта Беларусі, чытаюць «Народную волю», «Нашу ніву» і «Arche», то чаму ў адпаведным настроі зацягваюць то «Там на горі, там женці жнуть», то «Як сонечко зійде, кохання відійде», то «Там у полі три дуби зібралися до купи». Так ніводнай беларускай песні ў рамане і не прагучала, хоць самадзейных песняроў там хапае...

Калісьці свякроў Ларысы Геніюш гаварыла маладой нявестцы, калі тая перабралася жыць да мужа ў Зэльву: «Яшчэ ты, Ларысачка, не прыжылася ў нас, песні табе ў нашай хаце яшчэ не спяваюцца». У «Рыбіным горадзе» сітуацыя адваротная: песні гучаць, але не прыжываюцца.

Відаць, Наталка Бабіна і сама засумнявалася ў песенным рэпертуары сваіх герояў. І з'явіўся на старонцы васямнаццатай рамана сказ, які, на думку аўтаркі, і павінен паставіць усе (дзве) кропкі над ї. Гучыць сказ так: «Тут па-ўкраінску гаво-

рыць і зямля, але гэта вельмі і вельмі рэдка». Рэдка ды метка. Вось так адным махам пераагучваецца ўся зямля, якая, трэба думаць, цягам многіх стагоддзяў размаўляла і на іншых мовах.

Гаварылі мы пра гэта з Наталкай Бабінай і сам-насам, і пры мікрафоне. Толькі кожны застаўся пры сваіх перакананнях. Што ж, мастацкая праўда часам перамагае ўсе іншыя праўды. Напрыклад, сказаў Аляксандр Пушкін, што дрэва анчар — атрутнае, значыць, так яно і ёсць насамрэч. Абмовіўся Максім Багдановіч, што ліпа, калі расце, вышэй і вышэй узнімае выразаны на яе кары надпіс «Вераніка», значыць, так і мае быць. З класікамі спрачацца не выпадае. У іх і памылкі вялікія.

Гадоў дзесяць мы з сябрам штолета ездзілі ў вандроўкі па Беларусі. Прычым выбіраліся маршруты па колішніх уладаннях князёў Сапегаў. Сябра, гарадзенскі прадпрымальнік і літаратар Валянцін Дубатоўка, пісаў пра сапегаўскія палацы і фундацыі кнігу, а я проста назіраў-цікавіўся. Аб'ехалі амаль увесь «архіпелаг Сапегаў», не дабраліся хіба да Кодані пад Берасцем. Зірнуў я цяпер на мапу — ад рэальнай Кодані да прыдуманых Дабрацічаў рукой падаць. Значыць, маршрут чарговай летняй вандроўкі вызначаны — у Кодань і ў ваколіцы Рыбінага горада. Паедзем слухаць, на якой мове там гаворыць зямля. А пакуль кропкі над ї не пастаўленыя. І не толькі над ї. Кропкі такія ж не шкодзіла б «паставіць» і над пазасталым пытальнікам. Хоць, здаецца, такога знака ні ў беларускай, ні ва ўкраінскай арфаграфіі няма.

*2007*

# КНІГА-ПАРАТУНКА

Чытаю ў анатацыі да кнігі Алы Сямёнавай «Таямніцы пакутны колер», што аўтарка нарадзілася на Камчатцы, і міжволі кідаю пагляд на геаграфічную мапу над сталом. Божа ты мой, дзе тая Камчатка! Прыглядаюся больш пільна і знаходжу на той накрайсветнай паўвыспе, што матляецца, як рукаў на азіяцкім мацерыку, рэчку пад назвай Паратунка.

Мастак Алесь Мемус, які гадоў дваццаць пражыў на Камчатцы, неяк расказваў мне, што гарачыя камчацкія рэкі лечаць ад многіх хваробаў, варта толькі паплёхацца ў зацягнутай парай затоцы. Каго ж вылечыла-паратавала рэчка Паратунка?

У кожнага свае беды і паратункі свае, а мяне нярэдка ратуе добрая кніга. «Таямніцы пакутны колер» — адна з іх. Там словы — як спеў, як светлякі на поплаве цёмнай купальскай ноччу. Проза Алы Сямёнавай (у гэтым адна з яе адметнасцяў) *гучыць*, успрымаць яе трэба не толькі вокам, але і вухам. Не перакажаш, цытаваць трэба гэтую музыку святла: «Санта Марыя дэль Ф'ёрэ... Ці гэта гук чэлясты? Здалёк, з арэа дэль Соль, дарогі Сонца, святыня здаецца не проста забудовай, а творам, стварэннем, што нясе ў сабе высокую трывогу і энергію звыш... Як знак нябёсаў, відзежа, пераможнае хараство».

Адзін з крытыкаў, прачытаўшы падарожныя эсэ Алы Сямёнавай, абураўся: ну, не ўзрушвае мяне тая замежная экзотыка, не быў я ў Неапалі і не патраплю туды ніколі, дык што з таго? А нічога. Проста навакольны ландшафт уплывае на людскі светапогляд, фармуе характар чалавека і менталітэт народа. І не толькі ландшафт адвечны, прыродны, але і рукатворны. Калі мы замілавана глядзім на руіны Крэва, Наваградка, Любчы, то і самі прыпадабняемся тым руінам, якія толькі ўспамінаюць пра сваю былую веліч.

Я перакананы, што быць дробязным чалавеку менш за ўсё хочацца каля велічных збудаванняў — Сынкавіцкай царквы ці сабора Sagrada Familia Антоніо Гаўдзі. Ды не кожнаму ў жыцці выпадае даехаць не толькі да няблізкай Барселоны,

а нават і да мае роднае Зэльвеншчыны, дзе вось ужо больш за шэсцьсот гадоў самоціцца згаданы храм-крэпасць. А таму адзначым для сябе яшчэ адну — і немалаважную, культураносную — ролю твораў Алы Сямёнавай.

Ці не найбольш уразіла мяне яе эсэ «Sursum corda!» («Угору сэрцы!»). Безліч разоў бываў у Навагрудку і не ведаў пра акт беспрэцэдэнтнай ахвярнасці, які адбыўся тут пад час мінулай вайны, калі 11 сясцёр-назарэтанак пайшлі на смерць, каб выратаваць нявінных мірных землякоў. У кнізе — кранальны расповед пра самаахвярніцаў, пра пілігрымку аўтаркі ў Рым, дзе ў 2000 годзе адбылася іх беатыфікацыя.

Пяро Алы Сямёнавай у добрым сэнсе пераборлівае. На старонках невялікай кнігі чытач спаткае безліч імёнаў і цытатаў. А кожнаму чытачу заўсёды карціць даведацца: што той ці іншы творца цытуе, што ўспрымае як сваё? Можна перафразаваць: пакажы мне, якія вершы ты ведаеш на памяць, і я скажу, хто ты. Сямёнава верная сабе і тут: і П’ер дэ Рансар, і Блок, і Джакама Леапардзі, і Данута Бічэль, і Казімір Сваяк — паэты арыстакратычнага светагляду (прынамсі, так бачыцца мне).

Дарэчы, пра арыстакратызм. У апавяданні Алы Сямёнавай «І даруй нам грахі нашы» герой раніцай каля крамы сустракае сябра, які відавочна жадае пахмяліцца. Пахмелле пахмеллем, але прамаўляе ён на дзіва галантна: «Мілорд, даравання не будзе. Зганьбаваў лепшыя намеры ў такі светлы дзень». Бачылі вы такога прамоўцу каля піўнога ларка? А яны ёсць.

Апрача згаданага, у кнігу ўвайшло яшчэ адно апавяданне — «In Te, Domine, speravi» («На Цябе, Пане, спадзяюся»). Пра асуджанага лекарамі, з безнадзейным дыягназам чалавека, які знаходзіць нечаканую падтрымку ў веры. Лекары ведаюць, наколькі важна для хворага не падаць духам, але належным чынам падбадзёрыць чалавека ім няма ні часу, ні цярпення. Ды нездарма кажуць, што душа хворага чалавека бліжэй да Бога. І ў набліжэнні гэтым яна адчувае сваю зямную марнасць, бо і насамрэч — «будет *здесь* ей ничего не надо, когда *оттуда* ринутся лучи».

Прачытаў апавяданні ў кнізе і пашкадаваў, што іх толькі два. У сувязі з гэтым асмелюся звярнуцца да шаноўнай аў-

таркі: Вы заўсёды шчодра трацiлiся на iншых, не шкадавалі высілкаў душы, каб заўважыць, падтрымаць таго ці іншага творцу. Ці не прыйшоў час абраць (хоць часова) сваім галоўным жанрам мастацкую прозу? Чытач быў бы Вам бязмежна ўдзячны за новую кнігу-паратунку.

*2004*

# ПАДСУСЕДЗІЦЦА ДА НЕБА

У горадабудаўніцтве за савецкім часам існавала добрая завядзёнка апошнія паверхі высокіх дамоў аддаваць пад мастацкія майстэрні. Праўда, не заўсёды хапала каналізацыйных трубаў на тыя паверхі, але тут ужо самі мастакі павінны былі паклапаціцца. Пад майстэрняй Аляксея Марачкіна на Старажоўцы — дванаццаць паверхаў, над майстэрняй — неба, сонца і зоры. Мастак нібы падсуседзіўся да нябёсаў.

Вясёлая вясёлка падлогі нагадвае вітраж. Пасярод майстэрні паруе, як саган з гарачай бульбай, хітры апарат, выдыхаючы пару не пару, хутчэй туман уласнай гадоўлі, каб палотны не псаваліся ад сухога паветра. У перадпакоі, на антрэсолях і па кутах грувасцяцца карціны, якім бракуе прасторы.

Адразу з прыходу вас сустракаюць ваяўніча-шэрыя «Шчытаносцы». З падрамніка ўсміхаецца ў фацэтным пражскім капелюшы маладая Ларыса Геніюш. Затуляе ад ветру агеньчык трапяткой свечкі Зянон Пазняк, сам як свечка на скавышах эпохі. На вышэйшых за аблокі электраленіях вешае беларускі сцяг няўлоўны Мірон. З кута выглядае прасніца, з якой, нібы фрэска са сцяны полацкай Сафійкі, праступае чыёсьці аблічча...

Майстэрня населеная сапраўднымі і міфічнымі героямі беларускай гісторыі, у яе сценах лунае дух свабоды.

Аляксей Марачкін выстаўляецца з 1966 года, аб’ездзіў з персанальнымі выставамі ўсю Еўропу, дзясяткі ягоных палотнаў знаходзяцца ў замежных галерэях. І там мастака разумеюць і прапагандуюць. Як разумелі Шагала і Бялыніцкага-Бірулю, Фердынанда Рушчыца і Міколу Селешчука. Але мы, суайчыннікі мастака, ведаем, што піша ён найперш для *нас*. А таму выхад у свет аўтаманаграфіі «Алесь MARA» — найперш на *нашай* вуліцы свята. Так, свята, бо падобнага мастацкага выдання ў Беларусі яшчэ не было, і кожнаму, хто возьме яго ў рукі, гарантаваны святочны настрой. Мастак сабраў пад ад-

ной вокладкай свае жывапісныя творы, вершы і дзённікавыя запісы, фотаздымкі сваіх сваякоў і сяброў.

Пэндзлем Марачкіна створаны цэлы беларускі сусвет, укаранёны ў стагоддзях айчыннай гісторыі. Дарога і неба — вобразы-дамінанты на ягоных пейзажах. Дарога — то каралавая ад шэрані ўзімку, то месяцовая — як разлітае па вадзе срэбра, то кружная, агароджаная крыжамі, прарэзаная праз Курапаты бульдозерамі. Неба абжытае Марачкіным, як родны падворак, яно — галоўны прасторавы кампанент многіх карцінаў. Мастакі 20-х гадоў у Віцебску пісалі на фасадах дамоў. Адчуваецца, што Марачкіну таксама зацесна на палотнах традыцыі. Хоць злаўчыся з балкона і нацягні на падрамнік шэра-бялёсую палатніну неба.

У фільме рэжысёра Уладзіміра Арлова «Мара» ёсць эпізод, дзе Марачкін з лесвіцай у руках перакрочвае экран і знікае за кадрам. Лесвіца — таксама як сімвал параднёнасці з яго высокасцю небам.

Вобраз і абраз — словы-блізняты, але далёка не кожны мастак адважыцца пісаць абразы. Марачкін адважыўся. Мо таму «шчытаносцы» і не чапалі першых Чарнобыльскіх шляхоў, бо паперадзе шэсця людзі неслі яго Маці Божую ахвяраў Чарнобыля. А яшчэ адзін абраз мастака апынуўся на Гомельшчыне, у Гарошкаве — роднай вёсцы Анатоля Сыса, у тамтэйшай царкве. Судакрананне з сакральным мастацтвам працягнулася ў Кліўлендзе (ЗША), дзе Марачкін разам з сынам Ігарам распісалі беларускую аўтакефальную царкву Маці Божай Жыровіцкай. З аўтаманаграфіі мы даведваемся, які гэта быў няпросты працэс. Як адымаліся рукі пасля працяглай працы на рыштаваннях пад купалам. Як даводзілася ўступаць у мастацка-тэалагічныя дыскусіі з мітрапалітам БАПЦ Мікалаем і адстойваць сваё бачанне аздобы храма.

Пытаюся ў мастака, што дае сілы ў такіх выпадках — упэўненасць у сабе ці ўсё ж вера? Марачкін адказвае імгненна, не задумваючыся: «Толькі вера ў Бога! Без яе я б не адважыўся на роспіс храма. Вера мастака праяўляецца ў вобразах — гэтага немагчыма пазбегнуць. Калі ў цябе чорная душа і ты пішаш святыя вобразы, то яны не будуць малітоўнымі. Чым больш

духоўнай энергіі ты ўкладаеш у святыя лікі, тым больш яны будуць уплываць на чалавека. Гэта было маёй звышзадачай, з якою я, вядома ж, да канца не справіўся, паколькі з'яўляюся свецкім чалавекам».

Звычайна мастакі стараюцца пазбягаць актуальных сюжэтаў, маўляў, ёсць вечныя тэмы, а на будзёншчыну няма чаго пераводзіць фарбу. Марачкін умее любую падзею ператварыць у з'яву мастацтва. Прыгадваюцца выставы мастацкай суполкі «Пагоня», на якіх неаднойчы забараняўся паказ інсталяцыі «Зона», альбо прыбіраўся з экспазіцыі твор з бяскрыўдным назовам «Шклоўскія агуркі»...

Ды ліха з імі, з агуркамі, трэба ж і пра паэтычную частку аўтаманаграфіі сказаць слова. Аўтар паспрабаваў сябе ў жанры балады, лірычнага верша і эпіграмы. Асабліва прыцягваюць увагу творы, напісаныя пэндзлем і дапісаныя пяром. Як, напрыклад, «Звычайны нацюрморт», подпіс да якога чытаецца як акраверш:

Ляжу ля крамлёўскай сцяны, халадзею.
Узлезці наверх я ўжо страціў надзею.
Каму я тут лішні, урэдзен і гадак?
Адольф, памажы мне навесці парадак!

Дзеля справядлівасці варта заўважыць, што традыцыйны лірычны верш вабіць Марачкіна ўсё ж болей. З чатырох дзясяткаў змешчаных у аўтаманаграфіі я вылучыў бы «Лазню», «Калодзеж у жыце», «У небе белыя аўчыны».

Перад Старажоўкай шырока разлілася Свіслач. Прывязаныя чаўны тыцкаюцца ў бераг, як сляпыя кацяняты. Вуліца Няміга бяззубай пашчай моста ашчэрылася на студзяністыя хвалі. А на паддашку высокага дома — збеглы ад людской мітусні мастак, якога прыняло ў падсуседзі неба.

*2002*

## РАСПЛЯТАННЕ ТКАНІНЫ

Кросны для мяне — не экспанат у музеі. У мае школьныя гады ў вёсках на Гарадзеншчыне яшчэ ткалі. Адзін з дарагіх успамінаў — зімовым вечарам вучу ўрокі, а за перагародкай мякка пастукваюць кросны. Маці ткала посцілкі на ложкі — у нас іх называлі радзюжкамі. Ромбікі, палоскі, дробныя квадрацікі, нейкія мудрагелістыя карункі сняжынкападобнай формы — невядома адкуль тыя арнаменты браліся. Спалучэнне колераў і па сёння выклікае здзіўленне — то чорным па жоўтым, то зялёным па чорным, то палосы ўсіх колераў вясёлкі па такой жа стракатай тканіне.

Маці ткала доўга, пачасту далёка за поўнач, але вельмі марудна. Так мне, прынамсі, здавалася. Імкліва лётаў чаўнок, хутка, як веласіпедныя педалі, апускаліся-падымаліся панажы, але гатовая ўзорыстая тканіна накручвалася на навоі надзвычай павольна. Амаль незаўважна — па некалькі сантыметраў за гадзіну. На тканне адной посцілкі ішоў мінімум месяц. Што і казаць, нудная была праца ткалляў, мусілі яны апрача ўсяго іншага мець вялікае цярпенне.

Каб развеяць нуду, да нас у хату штовечар прыходзілі суседкі. Успаміналі маладосць, часам ціха спявалі, часам прыладжвалі ў куце калаўротак. О, гэта было за шчасце — пакруціць яго з паўгадзіны. Уяўлялася, што некуды едзеш і едзеш на вялікім драўляным коле. Кола шпарка круцілася, бёрды ў кроснах мякка пастуквалі, няспешна цякла размова, і раптам...

– Лёдзя, ты ж няправільна тчэш, тут у строгі раёк трэба, а ты закасіла. Распускаць трэба! — гэта маладзейшая і нібыта больш відушчая суседка, якая незадоўга перад тым зайшла ў хату.

Жаночы кансіліум схіляецца над свежавытканай посцілкай. Прыглядаюся да яе і я, хоць, прызнацца, ніякіх «райкоў» і «перакосаў» не бачу. Узор ляжыць роўна, сіметрычна, і мне незразумелыя прэтэнзіі патрабавальнай суседкі. Тым не менш

прымаецца калегіяльнае рашэнне распусціць немалы адрэзак посцілкі.

Гэта была самая недарэчная, самая антыпрадукцыйная праца, якую мне даводзілася назіраць у маленстве. Па настойванні суседкі, якая, падазраю, разбіралася ў народных ткацкіх арнаментах, як у канфігурацыі зорак на небе, колькідзённая работа ішла кату пад хвост. Маці як не сваімі рукамі, прыгалошваючы, выцягвала назад «няправільна» ўтканыя ніткі, каб па-новаму выткаць той строгі раёк.

Яшчэ раз паўтару, расплятанне тканіны выглядала нават у дзіцячых вачах відавочнай непатрэбшчынай. Ды і маці шкадаваў, яе вачэй і рук, што «цягам доўгія часіны» (ужо тады я ведаў на памяць «Слуцкіх ткачыхаў» Багдановіча), сантыметр за сантыметрам, выштукоўвалі тыя неабходныя ў хатнім побыце посцілкі.

Той даўні выпадак прыгадваецца мне кожнага разу, калі сёння ў СМІ ці на інтэрнэт-форумах чытаю пра неабходнасць адмовіцца ад назвы Беларусь. Маўляў, накінула яе нам расійская імператрыца, каб прывязаць Белую Русь да Русі Маскоўскай. А вось калі мы адмовімся ад гэтай імперскай «белай рашкі» на карысць гістарычнай Літвы, то ўсё ў нас адразу пойдзе на лад: і нацыянальная свядомасць адновіцца, і мова адродзіцца, і самы заціяты імперац з намі ва ўсім палахліва згодзіцца. І тады ўжо, маўляў, мы падкуем сваіх коней залатымі цвікамі — як нібыта казалі некалі ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Не падкуем, на жаль. Па-першае, коней амаль усіх звялі, па-другое, золата ў Нацбанку — кот наплакаў, каб хоць на падтрымку штаноў хапіла, не тое што на цвікі.

А калі сур’ёзна, то хочацца спытацца ў ахвотнікаў пераназвацца — вы сапраўды думаеце, што калі трухлявы плыт назваць ледаколам, то ён лёд пачне крышыць? Сёння вам “прывязка” да Расіі жыць замінае, а заўтра “прывязка” да Летувы — не будзе?

На маю думку, дыскусіі пра змену назвы краіны — гэта тое самае расплятанне тканіны. Цягам стагоддзяў, хай сабе з вымушанымі перапынкамі, працавалі кросны і ткаўся і напаўняўся сэнсамі назоў Беларусь. Са сваімі пазнавальнымі, хоць

і някідкімі, узорамі. А тут прыходзіць «суседка» (ці свой, ёю падвучаны) і кажа: саткана няправільна, трэба разаткаць назад. І калі пагадзіцца, то пачнецца доўгае і пакутлівае расплятанне тканіны. Камусьці, відаць, патрэбнае, але з нашага нацыянальнага гледзішча — самае звычайнае марнатраўства.

Пакаленні і пакаленні працавалі за тымі кроснамі. Працавалі стваральна, пакідаючы сваю залатую нітку ў агульным узоры. Марудна, праз неймаверныя высілкі палатно ўсё ж ткалася. Прыходзіў вораг, ламаў кросны, драпежыў ільняныя палеткі і зганяў за сабой воўну, якая яшчэ бляяла і мэкала. Але мінаў час, недатканае палатно даставалася са схованi, рабіліся новыя кросны, і праца працягвалася.

І калі Францішак Багушэвіч у прадмове да сваёй «Дудкі беларускай» накрэсліваў нашы этнічныя межы — ён стvараў нацыянальнае палатно пад назвай Беларусь.

І калі касінеры Кастуся Каліноўскага на пытанне «каго любіш?» адказвалі «люблю Беларусь!» — яны імкнуліся даткаць тое самае палатно.

І калі Янка Купала, які па прыродзе сваёй не ўмеў пісаць лозунгі, усё ж апошнім радком выдыхаў «гэта крык, што жыве Беларусь!» — ён дастварaў тое самае палатно, якое ў часы паэта ператварылася ў напоўнены сэнсам габелен, які можна было і на сцяну павесіць.

І Максім Багдановіч («Беларусь, твой народ дачакаецца»), і Уладзімір Жылка («О як соладка сэрцу маліцца: Беларусь, Беларусь, Беларусь»), і Уладзімір Дубоўка («О Беларусь — мая шыпшына»), і Наталля Арсеннева («Беларусь, Беларусь залатая»), і Ларыса Геніюш («Як жыць — дык жыць для Беларусі»), і Рыгор Барадулін («Беларусь — ты мой сон велікодны»), і сотні іншых выдатных творцаў жыццё паклалі, каб той габелен Беларусь даткаць, дарабіць, дастварыць. І амаль даткалі, дарабілі, засталося пару ўзораў давяршыць ды кутасікамі аздобіць.

А тут з'яўляюцца разумнікі і кажуць: усё не так, трэба габелен назад расплесці і з тых самых нітак выткаць новы, пад другой назвай — Літва ці Вялікалітва. А мы ўсе пад тым габеленам станем, назавемся літвінамі, і ад той пары ні Кацярына

Вялікая, ні Уладзімір маленькі над намі ніякай улады не мецьмуць.

У сацыяльных сетках растуць, як грыбы пасля дажджу, кіраваныя спрактыкаванай рукой літвінскія суполкі, выдаюцца тэматычныя альманахі, любы гісторык, які разумее ўсю небяспеку кампаніі па перайменаванні, літаральна задзёўбваецца на інтэрнэт-форумах (прычым, хутка і дружна — відно, што працуе адмысловая каманда). Паступова падобная дзейнасць дае свой плён. І вось ужо моладзь пляскае ў ладкі, а знаны празаік, аўтар гістарычных раманаў пра Міндоўга, Усяслава Чарадзея і Канстанціна Астрожскага пасяляе сваіх герояўсуайчыннікаў у краіне Ліцвініі...

Усё гэта — закрэсліванне працы папярэдніх пакаленняў, падсяканне сука, на якім мы ўсе сядзім. Распусканне тканіны, расплятанне палатна.

У старажытнай міфалогіі ёсць адпаведнік апісанаму тут беларускаму выпадку. Памятаеце, Пенелопа замест таго, каб прагнаць з двара нахабных залётнікаў, ткала і расплятала палатно. Праца бессэнсоўная, але яна ведала, што вернецца Адысей і паразганяе нахабнікаў, якія спустошвалі каморы. Нам на Адысея-збаўцу спадзявацца не выпадае. Таму не гуляйма з агнём і не падпускайма да беларускіх кроснаў сумнеўных тыпаў, мэта якіх адна — расплятанне палатна.

*2015*

# НА ЯКУЮ ТРАСЦУ НАМ ТРАСЯНКА?

Нядаўна знаёмы расійскамоўны пісьменнік звярнуўся да мяне з не зусім звычайнай просьбай. Зрэшты, просьба як просьба, але матывацыя... Карацей кажучы, знаёмец папрасіў перакласці на беларускую мову яго дзіцячую кнігу. А калі я запытаўся ў яго, навошта гэта табе, то пачуў адказ — хай для ўнукаў застанецца.

Гэта значыць, яшчэ даволі малайцаваты дзядуля, які ўсё жыццё гаварыў па-расійску, напісаў па-расійску дзясяткі два кніжак, у зрусіфікаванай амаль дарэшты Беларусі дзіўным чынам упэўнены, што ягоныя ўнукі будуць чытаць і размаўляць па-беларуску! Дзеля пацверджання свае ўпэўненасці калега нават гатовы раскашэліцца і ганарары ад маскоўскіх выданняў пусціць на выданне добра праілюстраванай беларускамоўнай кнігі.

Прызнаюся — я быў уражаны, але не падаў выгляду. Маўляў, так і павінна быць. Толькі працытаваў свайму знаёмцу Купалу: «К свабодзе, роўнасці і знанню / мы працярэбім сабе след, / і будзе ўнукаў панаванне...» Я наўмысна «забыўся» апошні радок гэтага вядомага чатырохрадкоўя, бо дзед зусім не плакаў, а прыехаў на сустрэчу на даволі прэзентабельным аўто.

І ўсё ж дзіўнаватае адчуванне мяне тады доўга не пакідала. Далёка не аднадумцы ў дні сённяшнім, мы цалкам сыходзіліся ў бачанні беларускай будучыні. І ў той будучыні нам — рознамоўным і адрозным светапоглядна — аднолькава бачылася наша краіна. Беларускамоўная Беларусь. Умацаваная адзінай мовай.

І мне ўспомнілася, як алімпійская чэмпіёнка Надзея Астапчук (штурхальніца ядра) прызнавалася ў выкарыстанні незвычайнага стымулятара. Аказваецца, мае яна такую завядзёнку — перад самым выхадам у сектар для штурхання ў вузкім коле паразмаўляць па-беларуску. І — адразу адчувае прыліў энергіі. Вынік — залатыя і срэбныя медалі, якія не даюць спакою допінг-кантралёрам. Будзем спадзявацца, што

хоць «моўны стымулятар» беларускай чэмпіёнкі не выкліча ў іх падазрэнняў.

Мова — гэта сіла. І для адной спартсменкі, і для шматмільённага народа. Як адолець сілу? Трэба яе аслабіць знутры. Так у стан непрыяцеля засылаецца спрактыкаваны лазутчык, які ўмее дэмаралізаваць варожае войска. Так пад кару здаровага дрэва запаўзае шашаль і пачынае яго тачыць — ад абалоні да сарцавіны.

Шашаль беларускай мовы — трасянка. Здаўна яна існавала на маргінэсе грамадскага жыцця, не робячы ў ім надвор'я. Але апошнім часам статус трасянкі пачаў штучна падвышацца. З'явіліся высакалобыя разумнікі, якія абвесцілі трасянку самабытнай і цікавай моўнай з'явай, якая мае права на жыццё. На трасянцы пачалі пісаць некаторыя маладыя паэты, і вось ужо разнеслася па краіне пагаласка пра першую трасяначную кніжку з пазнавальнай назвай «Пішчавыя лішкі».

Як ні дзіўна, у падтрымку трасянкі шматкроць выступаў і працягвае выступаць старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў (назвы ягоных інтэрв'ю — «Лупіце на трасянцы!», «Нас спасает трасянка»). А апагеем навязвання грамадству трасянкі стаў апошні перапіс насельніцтва, падчас якога кіраўнік Беларусі заявіў на ўсю краіну, што размаўляе на трох мовах — па-расійску, па-беларуску і... на трасянцы. Пасля такога прызнання заканамерна было чакаць указа ці рэферэндума аб трох дзяржаўных мовах. Але не трэба будзіць ліха, хай спіць ціха.

Высакалобыя разумнікі тлумачаць, што трасянкі розных гатункаў распаўсюджаныя ва ўсім свеце, параўноўваюць беларускі варыянт з піджынам і суржыкам. Але піджын — з'ява зусім іншага парадку, ён узнікае ў экстрэмальнай сітуацыі, пры міжэтнічных кантактах (часам — канфліктах), калі з'яўляецца вострая неабходнасць паразумецца, каб не нарабіць яшчэ большай бяды. А суржык — гэта той самы шашаль, толькі точыць ён мову ўкраінскую. З трасянкай яны сапраўды як блізняты, і паходжанне ў іх аднолькавае, і спосабы пранікнення.

Маладым паэтам хочацца вылучыцца, хочацца пазбегнуць падабенства з астатнімі. Усе пішуць па-беларуску? А я буду на

трасянцы, да чаго вунь і старшыня ТБМ заклікае. І вось ужо фэйсбукі і твітары разносяць па свеце рыфмаванкі накшталт: «Жэншчына з вядром на галаве, / вы каво удумалі пугаць ім? / Мы ведзь вам за эпатаж не плацім, / жэншчына з вядром на галаве». Смешна? Яшчэ як. Моладзь пасцябацца любіць. Але сцёб гэткі прыядаецца пасля першай жа порцыі. Што добра разумелі Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч у «Пінскай шляхце», Янка Купала ў «Тутэйшых», Ніл Гілевіч у «Родных дзецях», уводзячы трасянку ў тэкст невялічкімі дозамі, і то дзеля таго, каб паказаць у камічным святле сваіх герояў-прыстасаванцаў.

Аўтарытэтны гісторык Алег Трусаў мае, вядома, права выступаць у абарону трасянкі. Але, як на добры лад, ён мусіў бы спачатку сысці з пасады старшыні ТБМ. Бо што ж гэта за садоўнік, які ў давераны яму сад кашамі носіць жукоў-караедаў? Калісьці я публічна, у прысутнасці шаноўнага Алега Анатолевіча, прапанаваў пераназваць трасянку ў трусянку — у ягоны гонар. За асаблівыя, так бы мовіць, заслугі. І — не пачуў пярэчанняў. Відаць, спадабалася. Калі так — хай будзе трусянка. Прынамсі, будучым этымолагам не прыйдзецца ламаць галаву над паходжаннем слова, а то ў трасянцы нейкая трасца чуецца.

Калі пазіцыя старшыні ТБМ адносна трасянкі-трусянкі выглядае дзіўнавата, то пазіцыя «трохмоўнага» палітыка ясная як Божы дзень. «Трэцяя мова» патрэбная для размывання, для падточвання першай. Шашаль трасянкі падточыць мову беларускую, і тады «другая дзяржаўная» запануе ў Беларусі з усім уласцівым ёй размахам.

Трасянка — рэч далёка не бяскрыўдная, як некаму працягвае здавацца. Гэта з'ява пачварная, антыкультурная. Гэта — траянскі конь русіфікацыі, і ўцягваць яго на беларускі падворак небяспечна.

Беларусам трасянка далася ў знакі яшчэ на самым пачатку сталінскага тэрору. Не, на ёй «тройкі» не пісалі свае прысуды. Проста тагачасны сакратар моўнай камісіі Інбелкульта Язэп Воўк-Левановіч у 1929 годзе выступіў на моўнай канферэнцыі ў Акадэміі навук з яўна правакацыйнай прапановай — увесці ва ўжытак наступныя словаформы: «інцярэсы», «ліцаратура»,

«шчот», «случай», «фяўраль» ды інш. Пісьменнікі і мовазнаўцы пачалі пратэставаць супраць відавочнай бязглуздзіцы. Іх пратэсты адсочваліся ГПУ, і ў 1930-м усе нязгодныя з засмечваннем беларускай мовы апынуліся ў ГУЛагу. Следам за імі саслалі да белых мядзведзяў і Ваўка-Левановіча, адкуль ён, як і большасць ягоных калегаў, ужо не вярнуўся.

Беларуская мова перажыла многіх сваіх прытоеных незычліўцаў і зацятых ворагаў. Расійскага цара, які абвесціў яе па-за законам. Першага сакратара ЦК КПБ, які пісаў на яе даносы Сталіну. Маскоўскага генсека, якому яна перашкаджала рухацца да камунізму. Усіх перажыла. А паводле словаў Генадзя Бураўкіна, і «тых перажыве, хто з трасянкаю ў галаве».

І ўсё ж наймудрэй паступіла студэнтка-перапісчыца ў Драздах. Пачуўшы ад рэспандэнта пра трэцюю мову — трасянку, яна яе мужна праігнаравала і нават не пазначыла такое ўзніклае ў асобна ўзятай галаве «трохмоўе» ў апытальніку.

*2013*

# СТРАШНЫ СОН ВАСІЛЯ СТУСА

Два гады праслужыўшы ў войску на Львоўшчыне, я «Заповіт» Шаўчэнкі мог прачытаць услых без акцэнту, а песню «Ніч яка місячна...» спяваў нават пад купалам парашута, калі душа сягала ў пяткі, а пяткі боўталіся ў паветры. Гэта няпраўда, што савецкае войска было паўсюль школай інтэрнацыяналізму. Скажам, у нашай асобнай дэсантна-штурмавой брыгадзе вайсковая іерархія была зусім не інтэрнацыянальнай: і камбрыг Яцэнка, і камбат Каваленка, і ротны Ткачук, і ўзводны Ільчук, і старшына роты Андрусішын — усе былі ўкраінцамі. Адпаведна і шыхтавыя песні былі ўкраінскімі, і бібліятэка нашай в/ч 32291 на добрую палову складалася з украінскай класікі.

Прачытаў я тады гару кніг. Асабліва не зважаючы на імёны і якасць твораў, з адзінай мэтай — засвоіць мову. І, здавалася, засвоіў. Бо калі ты без праблемаў чытаеш прозу заходнікаў Франка і Стэфаніка, разумееш паэзію кіянаў Ліны Кастэнка ды Івана Драча, а чарнігавец Паўло Тычына беспасярэдне цешыць твой слых сваімі сонечнымі кларнетамі, то адчуваеш сябе кумам каралю і сватам гетману Сагайдачнаму. Прыблізна так я сябе і адчуваў. Пакуль украінскія сябры адносна нядаўна не падаравалі мне два тамы паэта Васіля Стуса. Над імі я і засеў.

«Жалощів брості коцюрбляться в снінні», «схарапуджене дляння», «кушпела», «довсібіч», «ізвомплені», «папуші» — мне надакучвала тузаць, амаль заўсёды безвынікова, google. Не дапамагаў і чатырохтомавы Грынчэнка. Адкуль жа ў Стуса такая своеасаблівая ўкраінская мова? У двухгадовым узросце ён быў прывезены бацькамі ў Данецк (тады — Сталіна), вучыўся ў звычайнай данецкай школе, заканчваў Данецкі педінстытут, настаўнічаў у Горлаўцы на Данеччыне, працаваў вуглякопам на адной з данецкіх шахтаў, быў літаратурным рэдактарам газеты «Социалистический Донбас»... У лепшым выпадку паэт чуў вакол сябе ўкраінскі варыянт трасянкі — суржык, у горшым — падсоленую вугальным пылам і мацюкамі расійскую

мову. І вось жа — і на пустапарожнім тэрыконе ўзрасціў зыркі квет самабытнай і гнуткай, як языкі агню, мовы ўкраінскай.

Паводле мовы Стус для беларусаў — як Барадулін для ўкраінцаў. Адна менская літаратарка ўкраінскага паходжання прызналася мне, што чытае барадулінскія вершы як «Слова пра паход Ігаравы». І там, і там — шмат цёмных месцаў, якія асвятляюцца ўспышкамі метафараў, хоць да сэнсу часам усё роўна даводзіцца даходзіць інтуітыўна. Так і ў выпадку са Стусам.

Васіль Стус яшчэ жыў, калі я малаціў львоўскія брукаванкі падкаванымі салдацкімі ботамі — у складзе дэсантнай сотні на парадах, што адбываліся двойчы на год — 9 траўня і 7 лістапада. Дакладней, дажываў — у лагеры строгага рэжыму ў Пермскай вобласці. Восенню 1985 года ён памёр у карцары, перад гэтым адседзеўшы год у камеры-адзіночцы, ужо маючы за плячыма дванаццаць гадоў турэмнага стажу. У брэжнеўскага бяззубага рэжыму на такіх, як Стус, зубы знаходзіліся, і пазбавіцца ад іх мёртвай хваткі ўдавалася далёка не ўсім.

Асуджаны за антысавецкую дзейнасць, Васіль Стус і ў вязніцы не ламаў шапкі перад уладай. Кагэбіста, які праводзіў допыт, прылюдна назваў гестапаўцам. А найгалоўнаму кагэбісту Андропаву паслаў тэлеграму, дзе назваў ягоную кантору зборышчам зладзюгаў, якія крадуць лісты вязняў. Кваліфікаваў савецкую ўладу як антыўкраінскую па сутнасці. Ён не супадаў з тою ўладаю ніводнай сваёю думкаю, ніводным паэтычным радком. Не маючы наконт яе аніякіх ілюзій, яшчэ ў 1982-м напісаў і перадаў на волю тастамант, дзе прасіў сяброў знайсці ў Данецку і ўзяць пад апеку ягоную старэнькую маці...

Прастую шлях — па вымерлай пустыні,
дзе мёртваму спажытку мне няма.
Глядзяць хаціны вокнамі пустымі —
чакаюць на вяртанне, ды дарма.
Іду-брыду з адкульсьці у нікуды,
бо спадзяюся я яшчэ, што там,
дзе кубляцца апушчаныя юды,
ёсць трохі месца і маім братам.

Ну хоць бы хто натрапіўся на вочы,
схапіцца б позіркам за позірк чый...
Змяіцца шлях — хаўруснік цёмнай ночы,
і хоць на поўню ваўкалакам вый.
Бо ўжо не я — нібы чыясь лучына
гарыць ва мне, вяшчуючы адно —
мне сэрца спапяляе Украіна,
якой мне, хоць аслепні, не відно...

Перакладаць Васіля Стуса надзвычай цяжка, і наўрад ці мне тыя пераклады ўдаліся. Як шаравую маланку чужога болю перагнаць праз праўдную сістэму сваёй мовы і на выхадзе атрымаць усё тую ж шаравую маланку?

Жыхару Данецка, з крыві, косці і мовы ўкраінцу, Васілю Стусу хіба ў страшным сне магло прысніцца тое, што адбываецца сёння на яго роднай Данеччыне. Сепаратысты-тэрарысты і «дабравольцы» з Расіі захопліваюць цэлыя гарады, бяруць у палон закладнікаў, збіваюць за ўкраінскую мову на вуліцах, зрынаюць з дзяржаўных флагштокаў і шматаюць на кавалкі ўкраінскія сцягі...

Яму, ідэйнаму ворагу імперыі, які ў закратаваным вагоне праехаў яе ўсю ажно да Магадана, не магло і прымроіцца, што пройдзе ўсяго трыццаць гадоў, і ненасытная імперыя раззявіць сваю пашчу над усёй Усходняй Украінай.

Па ўспамінах былых вязняў, у прысутнасці Стуса стараліся не мацюкацца нават крымінальнікі. Як зрэагаваў бы паэт на тыя ніягары хлусні, якія штодзённа выплюхваюцца расійскімі тэлеканаламі на галовы мільёнаў ягоных суайчыннікаў? Як бы адказаў тым тэлешаўкам, якія зняважліва называюць ягоную краіну Маларосіяй?

Спрабую ўявіць Васіля Стуса на вуліцах сённяшніх Горлаўкі ці Славянска. Не атрымліваецца. Для ўсёй выразна прарасійскай «самаабароны Данбаса» ён адразу стаў бы бандэраўцам № 1, і які-небудзь барадаты бабай з георгіеўскай стужкай на грудзях палічыў бы сваім абавязкам пусціць паэта ў расход. А ўцякаць ён не стаў бы — не ў ягоным характары былі ўцёкі. Ды яшчэ з роднай зямлі.

На роднай зямлі паэта Стуса мне давялося пабываць гадоў сем таму — пад час Шаўчэнкаўскага паэтычнага фестывалю. Цэлы тыдзень мы, пісьменнікі, начавалі ў данецкім гатэлі, а штораніцы выязджалі з запланаванымі выступамі па Данецку і Данецкай вобласці. Прызнаюся, з такімі адносінамі да майстроў пяра я раней ніколі не сустракаўся. Мясцовае, пераважна расійскамоўнае, начальства спускала нас у шахту, узнімала на тэрыконы, вадзіла ў драматычны тэатр і музей жывапісу, вазіла ў царкву дзеля службы і на дэгустацыю нейкай мясцовай антрацытаўкі дзеля дружбы. Завезла нават на Паўночны Данец, за горад з вясёлай назвай Краматорск — у высечаны ў надрэчных скалах манастыр. І паўсюль нас частавалі, нам налівалі, за нас гаварыліся красамоўныя тосты. І ўсё гэта толькі дзеля аднаго — каб мы як мага меней выступалі. Каб звесці да мінімальнага выніку тыя Шаўчэнкаўскія дні на Данеччыне.

І, трэба прызнаць, начальству гэта часткова ўдалося. У Данецкім педінстытуце (тым самым, дзе вучыўся Васіль Стус) запланаваная сустрэча так і не адбылася. А калі пісьменнікам усё ж удавалася трапіць у народную гушчу, то рэакцыю аўдыторыі прадказаць было немагчыма. Запомнілася, як у распісаным выцвілымі савецкімі лозунгамі Доме культуры ў Славянску мясцовыя аматары паэзіі засвісталі аднаго таленавітага кіеўскага паэта і запатрабавалі: «Про любовь давай! И без финтифлюшек разных, шобы понятно было». Паэт не разгубіўся, аказаўся не з гордых і выканаў сацыяльны заказ, як мне падалося, гратэскавым экспромтам. Перадаю па-беларуску сэнс тае рыфмаванкі: «На крутым тэрыконе аддалася ты мне / сярод белага дня у суботу. / І паглядваў на нас ўвесь Данбас, ўвесь Данбас, / прыпыніўшы работу». Зала захлынулася ў авацыях.

З яшчэ адным замежным госцем Шаўчэнкаўскіх дзён на Данеччыне латышом Янісам Элсбергсам (сынам славутай паэткі Візмы Бэлшавіцы) у апошні вечар мы яшчэ раз схадзілі да помніка Тарасу Рыгоравічу. У Данецку яму ўсталяваны, відаць, самы незвычайны помнік. Кабзар там стаіць на пастаменце, які нагадвае адначасова мармуровы ледакол і непрыступную фартэцыю. Тады мы хіба смутна здагадваліся, дзеля чаго гэта

зроблена. У наш час, калі ў суседнім Харкаве сепаратыстамі жорстка збіты ўкраінскі паэт Сяргей Жадан, відавочна, што пастамент той абарончы Тарасу Шаўчэнку зусім не лішні.

Вайна паміж Украінай і Расіяй яшчэ ўчора здавалася хваравітай фантазіяй. А між іншым, пра магчымасць такой вайны пісаў яшчэ Аляксандр Салжаніцын. Гаварыў наш Алесь Адамовіч. Згадвалася такая вайна і ў творах узгадванага Данеччынай вялікага ўкраінскага паэта Васіля Стуса. Бо пра што гаворыцца ў вершы «Сон», калі не пра сённяшнюю вайну на ўсходзе: «Стенаються в герці скажені сини України, / той з ордами бродить, а той накликає москву».

Адразу прыходзіць на памяць Баркалабаўскі летапіс: «москву от Могілева отперлі». У абодвух выпадках «москва» пішацца з малой літары, бо маецца на ўвазе не горад. Страшны сон паэта на нашых вачах ператвараецца ў яшчэ больш жахлівую яву.

Цытуючы Стуса, я заўважыў, што абедзве ягоныя кнігі з маёй бібліятэкі выдадзеныя з дапамогай украінскіх прэзідэнтаў. «Вечір. Зламана віть» (1999) выйшла дзякуючы падтрымцы Леаніда Кучмы. «Палімпсест» (2003) — дзякуючы Віктару Юшчанку. І неяк само па сабе напрошваецца пытанне: ці з'явіцца калі-небудзь у Беларусі прэзідэнт, які заапякуецца выданнем збору твораў, ну, напрыклад, Ларысы Геніюш?

*2014*

# КРЫМСКАЯ АЎТАНОМІЯ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Крым і Крэмль — аднакаранёвыя словы. Так, не думаючы пра наступствы, напісаў сто гадоў таму Макс Валошын. Той самы, які паўжыцця пражыў у Кактэбелі, супернічаў з Адамам Міцкевічам у напісанні крымскіх санетаў і якому на карадагскай скале прымроіўся ўласны профіль. І мовы замежныя, здаецца, ведаў, а такія сумнеўныя высновы рабіў. На падставе чаго? Ды на падставе ўсяго трох літараў КМР, якія ў старагабрэйскай мове нібыта ўтвараюць куст словаў са значэннем змрок, зацьменне, закінутае месца. Калі ўсю гэтую этымалогію прыняць на веру, то і які-небудзь Крэмянчуг, а за ім і Каракумы трэба прызнаць аднакаранёвікамі Крамля з усімі магчымымі наступствамі.

Наўрад ці прагматык Пуцін чытаў рамантыка Валошына. Проста так супала. Прачнуўся расійскі прэзідэнт аднае раніцы, і здалося яму, што Крэмль і Крым — сваякі-браты. У выніку Крым анексаваны, і там пачалася нябачаная дагэтуль экспрапрыяцыя. Расійцы захопліваюць украінскія караблі і гавані, украінскія санаторыі і вінаградныя плантацыі, фактычна крадучы ў аслабленай краіны ледзь не апошняе. На гэтыя беспрэцэдэнтныя рабункі свет рэагуе неяк млява, што можа падагрэць апетыты рабаўніка.

Заграбастаўшы Крым з усёй рухомай і нерухомай маёмасцю, Масква, як на добры розум, павінна была б выплаціць Кіеву шматмільярдную кампенсацыю. Але дзе вы бачылі той добры розум у расійскай палітычнай вярхушкі? Яе апанаваў імперскі шал, які ўжо не хаваецца, які штовечар пырскае на нас з тэлеэкранаў. Пра якую кампенсацыю гаворка? Пераможцаў не судзяць.

Здавалася б, чаго мне гэтым усім пераймацца? Вунь Кіеў і то не асабліва пераймаецца, здаўшы Крым фактычна без супраціву. Але справа ў тым, што разам з украінскімі караблямі і

ваеннымі базамі, разам з вінаграднікамі Масандры і Судацкай крэпасцю, разам з «Артэкам» і пісьменніцкім Домам творчасці «Кактэбель» Расія захапіла і маленькі кавалачак Беларусі. Магілу Максіма Багдановіча на старых ялцінскіх могілках. Выбачайце, але гэта гісторыка-мемарыяльная каштоўнасць, кажучы бюракратычнай мовай. Усталяваны ўжо ў часы незалежнасці помнік з белага мармуру ў антычным стылі каштаваў беларускаму Міністэрству культуры нятанна. Грошы ўсё ніяк не знаходзіліся, нездарма так доўга і пратрымаўся стары помнік з недарэчнай зоркай. Нятанна — гэта паводле рахункаў Мінкульта. А як ацаніць той помнік і тую магілу паводле рахункаў беларускай душы?

«Не прылятаюць з выраю магілы», — напісала Данута Бічэль, якая стварыла ў Гародні свой уласны помнік Багдановічу — Музей паэта. Але часам магілы ратуюць ад занядбання ці знішчэння, перавозячы іх у другое месца. Вось і пасля расійскай анексіі Крыма ў Беларусі ізноў загаварылі пра вяртанне парэшткаў Багдановіча на радзіму. Узяць бы ўсё разам з беламармуровым ансамблем ды перавезці ў Менск, дзе паэт нарадзіўся. Вызваліць, так бы мовіць, святыню з расійскага палону.

Усё нібыта слушна. І пытанне гэтае не ўпершыню паўстае. І падымалі яго ў розныя часы людзі аўтарытэтныя. Скажам, яшчэ ў 1981 годзе Зоська Верас, якая ўспрымалася ў беларускім грамадстве як ахоўніца памяці Багдановіча, звярталася ў гэтай справе ў Саюз пісьменнікаў. А Ларыса Геніюш тады ж, у пачатку 80-х, у лістах да ўплывовых сяброў (Максіма Танка, Васіля Быкава, Адама Мальдзіса) прыводзіла ў прыклад культурных чэхаў: «Я бачыла, як стваралі яны сабе пантэон на Вышаградзе. “Ač zemřeli, ještě mluvi” («Хоць памерлі — яшчэ прамаўляюць») — напісана там. Быў у чэхаў найбольшы паэт-рамантык Карэл Маха. У цяжкі для іх час і ягоныя астанкі забралі ўрачыста з зямлі Судэцкай і перанеслі ў Прагу, дзе на той час абавязаны быў пабываць кожны чэх. Здавалася, што браў у гэтым удзел увесь народ — так усё было ўрачыста, ахвярна. Чаму ж бы і нам не перанесці нашага Страціма-Лебедзя

на ручніках бліжэй да сэрца народа?» (ліст да А. Мальдзіса ад 17 траўня 1981 г.).

Ідэя стварэння беларускага пантэона, бясспрэчна, і сёння заслугоўвае ўвагі. Добра было б перавезці ў той пантэон Уладзіміра Жылку з Уржума, Алеся Гаруна з Кракава, Уладзіміра Дубоўку з Масквы, Браніслава Эпімаха-Шыпілу з Пецярбурга...

На жаль, перапахаванне Максіма Багдановіча, якое сапраўды магло б стаць агульнанацыянальнай акцыяй, немагчымае ў прынцыпе. Нават калі расійскія акупацыйныя ўлады адгародзяць Крым калючым дротам і жывым ланцугом з зялёных, узброеных да зубоў, чалавечкаў, якія будуць рабіць асабісты дагляд усім, хто ехацьме з боку мацерыковай Украіны (а кудой мы маем ехаць? Не праз Маскву ж).

Справа ў тым, што дакладнае месцазнаходжанне магілы Максіма Багдановіча невядомае. Няхай мяне паправяць дасведчаныя багдановічазнаўцы (буду з гэтага толькі ўсцешаны), але наяўныя на сёння звесткі пра месца, дзе закончыў свой зямны шлях беларускі геній, прымушаюць засумнявацца нават самых легкаверных.

Дакладнае апісанне пакінуў нам толькі адзін чалавек — бацька паэта. Адам Ягоравіч спазніўся на пахаванне, яго звадзіла на могілкі гаспадыня, у якой кватараваў Максім. Пазней Багдановіч-старэйшы запіша ў сваіх успамінах: «Похоронили его на самой окраине кладбища внизу, в трёх саженях от окраины, близ дороги, со стороны, противоположной к морю, т. е. со стороны гор. В головах поставлен небольшой белый крест с надписью на жестяной табличке его имени (студент Максим Богданович), и когда он скончался. В двух саженях по прямой линии от изголовья похоронен студент Карисон. Место выбрано чрезвычайно неудачно: ливни и потоки с крутого склона кладбища легко могли размыть могилу. Я нанял сторожа, чтобы могилу укрепить, но сделано ли это, не знаю. Дважды писал из Ярославля, но не получил ответа: известно, как действовала в то время почта, да и людям было не до чужих могил».

Звернем увагу на асаблівую прыкмету — суседняе пахаванне студэнта Карысана, да якога зробленая асноўная прывязка магілы Багдановіча. Яно не захавалася, а там, дзе яно магло быць, — сёння можна пабачыць пампезны надмагільны помнік нейкаму Бірукову.

Ці не размылі магілу на даволі крутым схіле ліўневыя плыні, якіх асцерагаўся Адам Ягоравіч? Цалкам магчыма. Прынамсі, калі ў 1924 годзе ў Ялту прыехалі маладыя паэты Уладзімір Дубоўка, Анатоль Вольны і Андрэй Александровіч, дакладнае месца яны вызначыць не змаглі. Паводле ўспамінаў Анатоля Вольнага, дзеці на могілках мелі забаўку — на старых крыжавінах з'язджалі з горкі. Бляшаная таблічка з магілы Багдановіча з ледзь бачным надпісам валялася на зямлі. Менскія паэты купілі ў прымогілкавай вартоўні новы крыж і паставілі яго на падазрона роўным месцы (захаваўся здымак). Андрэй Александровіч праз тры гады апублікаваў элегічны верш: «Крыж невялічкі, / ад сонца на ім / паблякла таблічка: / студэнт Максім...»

Падкрэслім: ужо не статычная магіла студэнта Карысана, а лёгкарухомая таблічка зрабілася асноўным арыенцірам. Але яе вадой магло знесці ўніз па схіле.

А цяпер уявім цяжкаўяўнае. Адмыслоўцы асцярожна дэмантуюць беламармуровы помнік, раскопваюць магілу, а там — парэшткі не Багдановіча. Ці ўвогуле няма ніякіх парэшткаў. І што далей? Ціхенька закапаць і вярнуць помнік на месца? Не, розгаласу пазбегнуць не ўдасца, і тады рэальная на сёння магіла Багдановіча ператворыцца ў кенатаф — сімвалічнае пахаванне. Як пахаванне Антона Луцкевіча на віленскіх Росах ці ксяндза Адама Станкевіча ў Арлянятах на Смаргоншчыне.

Нічога не паробіш — магілы геніяў губляліся і ў пазнейшы час. Скажам, у Ялабузе на старых могілках шыльда паведамляе: «В этой стороне кладбища похоронена Марина Цветаева». Пахаваная ў 1941-м, пад час Другой сусветнай, калі таксама «было не да чужых магілаў».

У выпадку з Багдановічам сітуацыя ўсё ж больш канкрэтная. Дзякуючы тром паэтам-маладнякоўцам, якія ў вершах

часам хапалі Бога за бараду, а паехаўшы ў Ялту, паставілі на меркаваным месцы пахавання ўлюбёнага паэта хрысціянскі крыж. Калі б не яны — беларусы таксама ведалі б толькі, што «ў тым баку могілак...»

На тыя Ауцкія (пазней названыя Брацкімі) могілкі аўтар гэтых радкоў трапіў перад самым скананнем савецкай імперыі — улетку 1991-га. Ні мапаў, ні паказальнікаў на могілках не было. Зайшоў у адміністрацыйнае памяшканне, дзе мяне падазрона агледзела чырванатварая цётка, перад якой на стале стаяў пачаты трохлітровік мясцовага віна (яго прадавалі на набярэжнай з бочак, на разліў). «Белорусский поэт? Умер в 1917 году? Ну, у нас книги записи погребений только с после войны. Да вы не огорчайтесь, херес вот у нас замечательный. Хотите?»

Піць з цёткай крымскі херэс мне не хацелася, і я пайшоў далей блукаць па неабсяжных могілках. Ужо амаль без надзеі. Хадзіў і чытаў, што помнілася: «У родным краю ёсць крыніца / жывой вады. / Там толькі я змагу пазбыцца / сваёй нуды...»

Раптам у вузкім праходзе між пахаваннямі з'явіўся кот. Чорны з белымі лапкамі. Беллап — сказалі б мае папярэднікі, паэты-маладнякоўцы. Кот быў дагледжаны, зусім не выглядаў на могілкавага валацугу. Ён упэўнена лавіраваў між агароджамі, садзіўся і азіраўся, нібы чакаючы. Я пайшоў за катом, і неўзабаве ён вывеў мяне проста да магілы Багдановіча. Пасядзеў трохі ля клумбы са штучнымі васількамі і знік — як растварыўся між помнікамі... Што гэта было?

Той незвычайны кот-навігатар паслугаваў не толькі мне. Праз гады два я са здзіўленнем прачытаў у «ЛіМе» эсэ Зянона Пазняка «Светлы, самотны наш Максім», дзе таксама дарогу да паэтавай магілы паказваў кот...

Багдановіч прыжыўся ў Крыме, а Крым упісаўся ў легенду ягонага жыцця. Згадайма хоць бы таямнічы Крымскі дзённік, вершы пра Клаву ці развітальнае: «Ў краіне светлай, дзе я ўміраю, /у белым доме ля сіняй бухты...» Не трэба пазбаўляць паэта «краіны светлай», хаваецца тут нейкая неразгаданая загадка. І сумненні ж наконт страчанай магілы не адкінеш, ад якіх мы ўжо ніколі не пазбавімся.

Сёння Крым пад ціскам абставінаў мяняе грамадзянства — з украінскага становіцца расійскім. Крэмль і Крым — адкаранёвыя словы... Жывыя стаяць у чэргах па расійскія пашпарты, а мёртвым уся гэтая мітусня непатрэбная. Ці ў складзе Украіны, ці ў складзе Расіі магіла Багдановіча павінна мець аўтаномны, недатыкальны статус. І хай над усім Крымам сёння — расійскі трыкалёр, над маленькай аўтаноміяй Багдановіча сёння і назаўжды — бел-чырвона-белы. А тым, хто заблукае ў пошуках гэтае аўтаноміі, дарогу пакажа кот Беллап, якому, падазраю, таксама не варта прапаноўваць расійскае грамадзянства.

*2014*

# ВІЦЕБСКІ ДЫСКАМФОРТ КНЯЗЯ АЛЬГЕРДА

Помніка князю Альгерду віцябчане чакалі чатыры гады. І чакалі б яшчэ сорак чатыры, каб не «новая палітычная сытуацыя», як выказваўся самы хамелеоністы герой беларускай сцэны Мікіта Зносак. Вось жа ўмеў чалавек прыстасавацца — і да палякаў, і да немцаў, і да бальшавікоў, і да БНР. Праўда, трапляў часам у вартыя жалю становішчы, і гледачы ў зале не ведалі, плакаць ім ці смяяцца. Што ж, на тое яна і трагікамедыя — як вызначыў жанр сваіх «Тутэйшых» Янка Купала.

«Новую палітычную сытуацыю» для кіраўніцтва Беларусі гэтым разам вызначылі падзеі ва Украіне. Азірнуўшыся вакол, яно неспадзявана пабачыла «русский мир», на абарону якога ў любы момант можа прыляцець расійскі дэсант. Гэта ж трэба — дваццаць гадоў будаваць «сильную и процветающую» Беларусь, якая па ўсіх прыкметах (найперш моўных) падыходзіць пад гэтае прыдуманае ў Крамлі вызначэнне. Ніякі Даль вам не растлумачыць, што такое гэты «русский мир». А на абывательскім узроўні ўсё выглядае прасцей простага: гаворыш па-расійску — значыць, ты і ёсць «русский мир». Што тут галаву ламаць?

Быць часткай «русского мира», хай сабе і шасцігубернавай, кіраўніцтву Беларусі відавочна не хочацца. Як там наш мудры народ гаварыў у падобных выпадках? Калі топішся, то і за саломінку ўхопішся. Вось і пачало кіраўніцтва хапацца за ўсё, што адрознівацьме яго ад «русского мира». Мову беларускую раптам успомніла. На Дзень Перамогі георгіеўскія стужачкі забараніла, замест іх чыноўнікі чырвона-зялёныя банцікі пачапілі — маўляў, мы адрозныя ад «русского мира». Думаецца, што і новы пампезны Палац незалежнасці ў ландшафт ускраіны «русского мира» абсалютна не ўпісваецца. Беларускага там усё ж нямала — «на камні, жалезе і золаце». Ад слуцкага пояса ў зіхотным ад раскошы фае да Пагоні на прылеглай плошчы.

З тае самае оперы і новапаўсталы ў Віцебску конны помнік вялікаму князю Альгерду. Міндоўг у Наваградку пачакае, Гедымін у Лідзе пачакае, сённяшняя «палітычная сытуацыя» вымагае ўзняць на пастамент Альгерда! На Маскву трыма паходамі хадзіў? Хадзіў. Да Крамлёўскай брамы дзіду прысланяў? Прысланяў. Ад маскоўскіх баяраў выкуп на Паклоннай гары браў? Браў. Ах ты, князь наш геройскі, такі як трэба, сядай на бронзавага каня і пільна аглядай усходнюю мяжу, ці не паўзе падступны вораг абвяшчаць «Віцебскую народную рэспубліку». Мы табе і відушчага сокала на руку пасадзім — толькі ж не праваронь захопнікаў. Як заўважыш, дай знаць — змабілізаваны па трывозе БРСМ за ноч выкапае супрацьтанкавы роў ад Віцебска да Гомеля такой глыбіні і шырыні, што ўсе ўсходнія ўкраінскія губернатары пазайздросцяць...

Урэшце, ліха з ёю, з «палітычнай сытуацыяй». Сітуацыя пераменіцца — помнік застанецца. І ў Віцебску застанецца, і ў Полацку, дзе князь Усяслаў Чарадзей з пастамента таксама не дужа міралюбна на ўсход паглядвае. Думаецца, і Міндоўг з Гедымінам свой час падгадаюць і асядлаюць бронзавых коней адпаведна ў Наваградку і Лідзе. А раз пайшла ў нас такая тэндэнцыя — вялікіх князёў ушаноўваць, то трэба паклапаціцца, каб прыжыліся яны не толькі на нашых вуліцах і плошчах, але і ў школьных падручніках, у свядомасці людзей. Умоўна кажучы, каб пстрыкнуў я тэлекнопкай, а на экране — гістарычная рэканструкцыя, скажам, міцкевічаўскай балады «Тры Будрысы»: «Маю клопат я пільны — наказалі мне з Вільні, / што ідуць ваяваць неўзабаве / Кейстут-князь з крыжакамі, а Альгерд — з маскалямі, / а Скіргайла на ляхаў зуб мае. / Я наказ вам цяпер дам: ты ідзі за Альгердам, / ён на Ноўгарад сілу абрыне...» Пстрыкнуў яшчэ раз, а на другім канале — мастацкая экранізацыя гістарычных раманаў Вольгі Іпатавай «Вяшчун Гедыміна» і «Альгердава дзіда».

Прыйдзе час — будзе і квас, не ўсё зараз — чую я галасы нацыянальных аптымістаў. Пагаджаюся. Каб уся Польшча прыйшла ў захапленне ад «Пана Тадэвуша» і «Пана Валадыёўскага», мусілі праміную дзесяцігоддзі і нарадзіцца Анджэй Вайда і Ежы Гофман. Здаецца, пакуль кінастудыя «Беларусьфільм» на

маштабныя гістарычныя праекты і не замахваецца. Зрэшты, аднойчы замахнулася — на «Каласы пад сярпом тваім». Праўда, замах той далей сцэнарыя не пайшоў.

Прызнаюся, блукаць доўгімі і змрочнымі калідорамі «Беларусьфільма» ў мяне вялікай ахвоты няма. Школьныя падручнікі па гісторыі з гледзішча прысутнасці там вялікіх князёў пагартаем таксама хіба іншым разам. А тут і цяпер давайце зазірнем у гісторыю Віцебска. Без сумневу, жыццяпіс князя Альгерда — адна з яе яскравых старонак.

Мяркуючы па тым, як доўга і далікатна князя ўсаджвалі верхам, як нешта там шліфавалі і падкручвалі, сядзець яму на кані камфортна. Але ці камфортна князю ў горадзе Віцебску? Ці не абражае што яго княжацкую годнасць? Як жа не абражае? Вялікага князя, абаронцу і збіральніка беларускіх земляў гарадскія ўлады прапісалі на вуліцы... Суворава. Абаронцу — на вуліцы захопніка! Касінераў Касцюшкі з гарматаў расстрэльваць — вось і ўсе ягоныя ратныя подзвігі ў Беларусі. Як жа тут не абразіцца князю?

Падазраю, што па начах ён цішком з’язджае з пастамента і ў пошуках больш адпаведнага месца вандруе па Віцебску. Як той Медны коннік з аднайменнай пушкінскай паэмы. І тут я князю спачуваю. Бо вялікі князь Альгерд абавязкова заблукае ў хітраспляценнях гарадскіх вуліцаў з самай недарэчнай у Беларусі тапанімікай.

Мяркуйце самі — у Віцебску дзесяць вуліцаў (!) носяць імя Надзеі Крупскай, пяць названыя ў гонар Якава Свярдлова (прычым ёсць вуліцы з парадкавымі нумарамі 10 і 11), чатыры вуліцы маюць імя Валерыя Чкалава, столькі ж дасталося Канстанціну Заслонаву, тром нададзена імя Мікалая Чарнышэўскага, яшчэ тром — Аўгуста Бебеля, дзвюм — Міхаіла Фрунзэ...

А заверне князь каня ў другі бок — патрапіць на пяць вуліцаў Сацыялістычных, тры Кастрычніцкія, чатыры Саўгасныя, тры Першамайскія, дзве Пралетарскія і рызыкуе закончыць свой шлях аж на васьмі (!) Клінічных.

Ці ж не вар’ятня? Тут не толькі ў князя, але і ў звычайнага таксіста галава закружыцца.

Назва вуліцы павінна хоць нешта гаварыць тым, хто на ёй жыве. Віцябчане з вуліцаў Мопраўскіх (іх у горадзе дзве) наўрад ці ведаеюць, што МОПР — даўно канулая ў лету *Международная организация помощи революционерам*.

А як вам такая раскладка — у Віцебску ажно чатырнаццаць (!) вуліцаў Лучосных, але адна вуліца — на двух актораў Яроменкаў (дарэчы, не чужых Віцебску, як пералічаныя вышэй дзеячы).

Прызнаюся, такога бязладдзя ў гарадской тапаніміцы я больш нідзе не сустракаў. У Віцебску дзясяткі вулічных найменняў шматкроць (па тры, чатыры, пяць, шэсць, сем разоў!) паўтараюцца. Гэта нейкі віцебскі феномен чыноўніцкай дурноты, ад якой старажытнаму гораду трэба патроху пазбаўляцца. Ну каму патрэбныя тры вуліцы Шавардзінаўскія, чатыры Азіна, пяць Лужаснянскіх, шэсць Палярных, сем Стадыённых, дзевяць Задарожных і дзесяць Лугавых?

Не ведаю, як называліся віцебскія вуліцы ў часы Альгерда, але думаю, што нават у XIV стагоддзі ў горадзе над Дзвіной з гэтым быў большы парадак.

Толькі ўдумайцеся: у Віцебску ажно дзесяць вуліцаў імя Крупскай і — няма вуліцы імя Васіля Быкава. За што такі гонар Крупскай, якая ў 20-я гады апантана чысціла бібліятэкі ад кніг Платона, Канта, Ляскова, Аксакава і Чукоўскага ды іншай «буржуазнай каламуці»? У горадзе пяць вуліцаў Свярдлова і — ніяк не ўшанаваны Рыгор Барадулін. Затое ўшанаваны Свярдлоў, які прымаў рашэнне аб расстрэле царскай сям'і, дзе былі непаўналетнія дзеці, які быў адным з ініцыятараў чырвонага тэрору. Навошта віцябчанам дзве вуліцы Фрунзэ, які тапіў у крыві масавыя сялянскія паўстанні ва Украіне і Самарскай губерні? Пераназавіце адну з іх у гонар паэта Генадзя Бураўкіна.

І Быкаў, і Барадулін, і Бураўкін — нараджэнцы віцебскай зямлі, яе гонар і слава. Пра быкаўскія Бычкі на Віцебшчыне ведае ўвесь свет. Апошнім жаданнем Барадуліна было — легчы ў віцебскую (вушацкую) зямлю. Песні Бураўкіна штолета лунаюць над Віцебскам падчас «Славянскіх базараў»... Дык чаму мясцовая ўлада і пальцам не паварушыць, каб хоць на

паўадсотка выправіць тую тапанімічную бязглуздзіцу, якая сёння існуе ў горадзе? Некаму ж трэба пачынаць.

А можа, змены да лепшага прынясе ў Віцебск вялікі князь Альгерд? Няўжо ён не адолее Суворава? Не такі ўжо непераможны гэты расійскі генералісімус. Вунь у вёсцы Малыя Круговічы на Ганцаўшчыне сабраліся жыхары і пераназвалі вуліцу Суворава імем свайго земляка, паэта Віктара Гардзея. Прыжыццёва. А старыя вулічныя шыльды сабралі і спалілі. Каб і духу сувораўскага на ганцавіцкай зямлі не было.

Учынак мірных сялянаў варты пераймання па ўсёй Беларусі. А для ваяўнічага князя Альгерда прагнаць са сваёй зямлі акупанта — справа гонару.

*2014*

# ЯК АБАКРАЛІ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

Свабоды і гадоў шэсцьдзясят жыцця прасіў у лёсу малады Уладзімір Караткевіч. Узамен абяцаўся напісаць сто тамоў, дадаючы ў дужках — пры штодзённай катаржнай працы. Лёс паскупіўся і не дадаў просьбіту цэлых шэсць гадоў. На што іх пісьменнік патраціў бы? На стварэнне гісторыі беларускай літаратуры? На напісанне вясёлай кнігі «Парнас дыбкі»? На кнігу публіцыстыкі «Вы, беларусы»? А мо на серыю гістарычных раманаў «Век», якая якраз і павінна была складацца з шасці тамоў — па адным томе на год? Усё пералічанае ўваходзіла ў план задумаў Караткевіча, якіх было так многа, што ён жартам прапаноўваў іх у яго купляць.

Наўрад ці знайшоўся б пакупнік на гэткі спецыфічны тавар. Бо чаго вартыя былі самыя арыгінальныя задумы без караткевічаўскай неўтаймоўнай фантазіі, без яго вобразнага бачання свету, без усяго таго, што з часавай адлегласці звычайна абазначаецца адным словам — геній?

Геніяльнага Караткевіча няма з намі ўжо дваццаць восем гадоў, а мы яшчэ не прачыталі ўсіх ягоных твораў. І каму тут выстаўляць рахунак? Затузанаму рознымі бязглуздымі рэарганізацыямі акадэмічнаму Інстытуту літаратуры? Караткевічаўскаму музею ў Оршы, які, безумоўна, мусіў бы не толькі захоўваць мемарыяльныя набыткі, але і займацца даследчыцка-публікатарскай працай? Гэтак званым караткевічазнаўцам пры ўніверсітэцкіх кафедрах, якія паабаранялі кандыдацкія дысертацыі па творчасці пісьменніка, але ні разу не папрацавалі ў ягоным маладаследаваным архіве?

Маладаследаваным — бо аднаго нястомнага Анатоля Вераб'я ўсё ж недастаткова, каб апрацаваць увесь архіў, адначасова вышукваючы караткевічаўскія тэксты па прыватных зборах і збіраючы пісьменніцкі эпісталярый літаральна па ўсім свеце. Патрэбныя галіновыя даследчыкі — найперш тэк-

столагі, якія заняліся б параўнальным аналізам аўтографаў і апублікаваных за савецкім часам твораў, як тое зрабіў Глеб Лабадзенка з «Ладдзёй роспачы».

Мяркуючы па фальклоры, беларусы — ад прыроды талакоўцы. Адна пчала мёду не наносіць. Адна галавешка і ў печы не гарыць... Але насамрэч — яшчэ як гарыць і другія запальвае. Менавіта дзякуючы таму самаму Анатолю Вераб'ю ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» сёлета пачаў выходзіць Збор твораў Уладзіміра Караткевіча ў 25 тамах. Пасля папярэдняга васьмітомавіка дадалося тэкстаў адразу ажно на 17 тамоў! Ведаю, колькі скептыкаў было ў гэтага праекта, але ён, нягледзячы на ўсе аб'ектыўныя і суб'ектыўныя перашкоды, усё ж ажыццяўляецца.

Прызнаюся, у першым томе, у які ўвайшлі вершаваныя творы за адно толькі дзесяцігоддзе (1950–1960), я адразу пачаў падлічваць колькасць упершыню апублікаваных тэкстаў. Іх аказалася больш за паўсотні. Думаецца, і наступныя тамы таксама парадуюць нас першапублікацыямі. Што само па сабе сведчыць пра ўнікальнасць і беспрэцэдэнтнасць гэтага збору твораў у гісторыі айчыннага кнігавыдання.

Але я не пішу рэцэнзію на распачаты збор твораў. Проста хочацца засцерагчы і выдавецтва, і ўкладальніка ад паўтарэння зробленай калісьці памылкі. Яна мела месца, калі ў 1987–1991 гадах выдаваўся Збор твораў Караткевіча ў 8 тамах. Тым больш што выдавецтва і ўкладальнік абодвух збораў твораў — тыя самыя. І тут мне не абысціся без невялічкага адступлення ў мінулае.

1968 год. У выдавецтве «Беларусь» рыхтуецца да друку паэтычны зборнік Рыгора Семашкевіча «Леснічоўка». Раптам перад здачай рукапісу ў набор Галоўліт выяўляе ідэалагічную дыверсію — адзін з вершаў прысвечаны студэнту філфака БДУ (Семашкевіч там выкладаў), паэту-пачаткоўцу Алесю Разанаву, які незадоўга перад гэтым разам з Віктарам Ярцам і Лявонам Барташам разварушылі ўвесь філфак, сабраўшы подпісы за выкладанне ўсіх дысцыплінаў па-беларуску. Зразумела, верш з прысвячэннем цэнзура зняла, а дырэктару выдавецтва наківалі пальцам за страчаную пільнасць.

Апёкшыся на малацэ, і на ваду дзьмухаць будзеш. Таму любыя прысвячэнні ў наступных кнігах разглядаліся ледзь не пад мікраскопам і пры найменшых сумненнях выдаляліся. Асабліва не пашанцавала паэтычнаму зборніку Караткевіча «Мая Іліяда» (1969). У ім было знята ажно дванаццаць (!) прысвячэнняў тым сябрам паэта, якія з афіцыйнага гледзішча не выглядалі ідэйна беззаганнымі. Пад рэдактарскую рэзекцыю трапілі наступныя вершы: «Дзядзькаў кубак» (з прысвячэннем Васілю Сёмуху), «О любоў мая, Беларусь!» (прысвечаны Ларысе Геніюш), «Скарына пакідае радзіму» (прысвячэнне — Вячаславу Рагойшу), «Генуэзская крэпасць» (ахвяраваны Уладзіміру Дамашэвічу), «Энкелад» (меў прысвячэнне Валянціну Тарасу), «Балада пра дзіка і чалавека» (тут падазрэнне выклікаў кінааператар Анатоль Забалоцкі, які здымаў з Караткевічам дакументальныя фільмы на Палессі, а пазней — «Каліну чырвоную» В. Шукшына)...

За кожным са знятых прысвячэнняў — свая гісторыя, нейкія эпізоды сяброўства, якія павінны вывучацца біёграфамі Уладзіміра Караткевіча. Скажам, «Дзядзькаў кубак» на свет з'явіўся пасля таго, як Васіль Сёмуха разам з Караткевічам пражылі цэлы месяц у Рагачове — у дзядзькі пісьменніка Ігара Грынкевіча. За маладым перакладчыкам сцігавалі тады спецслужбы, і Уладзімір Сымонавіч своечасова прадаставіў свайму сябру «палітычны прытулак» у зацішным гарадку на беразе Дняпра. Дарэчы, тады ж Васілём Сёмухам быў зроблены пераклад на расійскую мову рамана «Леаніды не вернуцца на зямлю», які падчас генсакратарства «дарагога Леаніда Ільіча» палахлівымі рэдактарамі быў пераназваны ў «Нельга забыць». Але гэта — гісторыя асобная.

Прысвячэнне Ларысе Геніюш над вершам «О любоў мая, Беларусь!» так напалохала выдавецкага рэдактара Хведара Жычку, што ён увогуле выкінуў гэты кароценькі пяцірадковы твор з «Маёй Іліяды». Ён быў апублікаваны толькі праз васямнаццаць гадоў у пасмяротнай кнізе Караткевіча «Быў. Ёсць. Буду» (зноў жа — без прысвячэння).

Ці трэба казаць, у якім непрыемным становішчы апынуўся аўтар пасля выхаду «Маёй Іліяды»? Па словах таго ж Васіля

Сёмухі, ён на чым свет стаіць лаяў выдавецтва, абзвоньваў сяброў і прасіў у іх прабачэння. Шляхотны, далікатны Уладзімір Караткевіч, які сваю сяброўскую вернасць засведчыў аўтографам на кнізе, падараванай Міколу Аўрамчыку: «...ад таго, хто ніколі не падводзіў сяброў і заўсёды ўмеў любіць іх».

Ці будзе нарэшце выкананая воля аўтара? Ці пабачым мы ў новым зборы твораў, які цяпер выходзіць у свет, дванаццаць караткевічаўскіх прысвячэнняў? У «Мастацкай літаратуры» няпэўна паціскаюць плячыма*. Аказваецца, галоўлітаўскія традыцыі жывуць дагэтуль, і сёння прысвячэнні нядобранадзейным асобам з тым самым імпэтам і запабяганнем перад начальствам здымаюцца, а Міністэрства інфармацыі патрабуе на кожнага «прысвечанага» адмысловае дасье...

У папярэднім Зборы твораў, папулярным васьмітомавіку (наклад — 60 000 асобнікаў!), прысвячэнні У. Караткевіча сябрам не замоўчаныя, але яны апынуліся ў каментарнай частцы. А месца іхняе — у асноўным тэксце. Захаваліся ж аўтографы пісьменніка — святая святых для любога публікатара.

Уявім сабе, што «Маленькі прынц» Антуана дэ Сент-Экзюперы друкуецца без знакамітага прысвячэння — «Лявону Верту, калі ён быў маленькім»... Альбо ўявім, як з «Песні пра зубра» Міколы Гусоўскага хтосьці задумаў прыбраць прысвячэнне каралеве Боне Сфорца ды яе сакратару Людвіку Альфію... У Экзюперы прысвячэнне ўвогуле ўспрымаецца як першы раздзел ягонай славутай казкі. А прысвячэнне Гусоўскага — як нітка, тузянуўшы за якую, можна разблытаць цэлы клубок жыццёвых калізій з побыту аўтара ў Рыме, без разумення якіх і «Песню пра зубра» нам да канца не зразумець. Гэтаксама шмат чаго не зразумеем мы і без караткевічаўскіх прысвячэнняў.

Аднойчы ў хату да Уладзіміра Караткевіча залезлі зладзеі. «Абакрасці Караткевіча — як абакрасці храм», — адразу ж адгукнулася на гэтую вестку Ларыса Геніюш у адным з лістоў да Зоські Верас. Я не ведаю, што тады вынеслі з кватэры-храма

---

* У Зборы твораў Уладзіміра Караткевіча ў 25 тамах усе аўтарскія прысвячэнні адноўленыя.

зламыснікі — грошы, рэдкія кнігі, рукапісы? Але ўкрасці можна не толькі матэрыяльныя каштоўнасці. Савецкая цэнзура ў 1969 годзе паспрабавала скрасці ў Караткевіча сяброў. І пакінуць гэтую ганебную спробу без адпаведнай увагі ўкладальнікі, рэдактары і выдаўцы новага Збору твораў пісьменніка проста не маюць права.

*2013*

# КАЛІ СВАЯ СВІТА, ТО — ШЫТА-КРЫТА

Уявім сабе: сустрэліся на тым свеце Якуб Колас і Уладзімір Жылка. Пагаварылі, паўспаміналі агульных сяброў і знаёмцаў, прыгадалі сваю першую сустрэчу на Акадэмічнай канферэнцыі ў 1926 годзе ў Менску. А потым старэйшы класік бярэ маладзейшага за гузік і сурова так пытаецца: «Дык хто напісаў верш “Беларускаму люду” — вы ці я?»

Збянтэжаны Жылка з нездаровым румянкам на шчоках яшчэ больш чырванее: «Выбачайце, дзядзька Якуб, няма маёй віны ў тым, што верш гэты прыпісалі мне. Як сёння памятаю, у дзень яго апублікавання ў газеце “Звязда” — 23 лістапада 1926 года — я прыходзіў у рэдакцыю на агледзіны, а неўзабаве быў прыняты туды літсупрацоўнікам. Тады ўвесь Менск гаварыў пра вашу поўху бальшавікам. Дык як я магу забыцца, хто аўтар?»

Колас моўчкі працягвае пакручваць гузік, і Жылка яшчэ больш бянтэжыцца. Збіваючыся, ён паспешліва расказвае народнаму паэту ўсё, што ведае пра верш «Беларускаму люду». Твор гэты друкаваўся ў зборніку «Водгулле» (1922) і яшчэ паспеў увайсці ў першы Збор твораў Якуба Коласа ў двух тамах (1928). Затое потым ні ў сямітомавік (1952–1954), ні ў дванаццацітомавік (1961–1964), ні нават у чатырнаццацітомавік (1972–1978) верш гэты не трапіў. Затое з дзіўнай паслядоўнасцю стаў з’яўляцца ў кнігах самога Жылкі — у «Творах» (1996) і ў зборніку «Матылі» (2009). Абедзве кнігі выйшлі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» агульным накладам 8000 асобнікаў і прызначаліся для школьных бібліятэк.

Уражаны эрудыцыяй маладога калегі, Колас пацяплелым позіркам зірнуў у будучыню, убачыў старшакласніка ля школьнай дошкі, які баявіта дэкламаваў: «Нас падзялілі — хто? Чужаніцы, / цёмных дарог махляры. / К чорту іх межы! К д’яблу граніцы! / Нашы тут гоні, бары...» Потым скіраваў

зноў пасуровелы позірк на выдавецтва «Мастацкая літаратура», дзе ў зацішных кабінетах сядзелі, унурыўшы галовы ў рукапісы, дыпламаваныя рэдактары і карэктары, адпусціў гузік і працадзіў скрозь зубы сваё ўлюбёнае слоўца: «Хамуты!»...

Няўдзячная і рызыкоўная гэта справа — прыдумваць падобныя сустрэчы і гутаркі. Але я ўпэўнены: калі б два класікі сапраўды спаткаліся, то пра забраны ў аднаго і аддадзены другому верш загаварылі б абавязкова. Бо твор гэты — знакавы для Коласа, ён быў водгукам паэта на драпежніцкі падзел Беларусі пасля Рыжскага міру ў 1921 годзе. Ды і ўвогуле, каму з паэтаў такое можа спадабацца? Вунь Янка Купала ва Уладзіміра Хадыкі за адзін пазычаны радок ганарар спаганяў, хай сабе і жартоўна. А тут цэлы верш (ды які!) аддалі другому аўтару.

Як жа такое магло стацца? Паспрабуем разабрацца. У падсавецкай Беларусі пабачылі свет дзве кнігі Уладзіміра Жылкі — «Вершы» (1970) і «Пожні» (1986). Абедзве былі складзеныя дасведчаным знаўцам заходнебеларускай літаратуры прафесарам Уладзімірам Калеснікам. Абедзве невялікія аб'ёмам, яны і не прэтэндавалі на ахоп усёй разнажанравай літаратурнай спадчыны паэта. Не ўзнікала ў чытача асаблівых прэтэнзіяў і да нешматлікіх, але прыкметных купюраў у Жылкавых тэкстах — прыкладам, у паэме «Уяўленне». Што ж, «быў час, быў век, была эпоха», калі і выдаўцамі, і рэдактарамі, і аўтарамі апекавалася сумнавядомая ўстанова, менаваная Галоўлітам. Чытачы разумелі: раз купюра зробленая — значыць, так яно і павінна быць. Да пары да часу.

У пачатку 90-х вершы Жылкі былі ўключаныя ў школьныя праграмы, і сама сабой паўстала праблема аднаўлення тэкстаў. Я тады працаваў намеснікам галоўнага рэдактара навукова-метадычнага часопіса «Роднае слова» і пры падрыхтоўцы твораў Жылкі да публікацыі звярнуўся да Калесніка з канкрэтнай просьбай — аднавіць першапачатковы тэкст у «Вершах аб Вільні». Адказ шаноўнага прафесара збянтэжыў: «А ці варта гэта рабіць?» Пасля колькіхвіліннай тэлефоннай дыскусіі Уладзімір Андрэевіч пагадзіўся, што варта, і ў «Вершах аб Вільні» з'явілася адсутная ў ранейшых выданнях страфа:

Ў жыдоўскім гета дробязь, клопаты
І аб Сіёне сны ў туман,
І гэткі ж сум, і тыя ж допыты
Вядуць тапалі базыльян.

Пасля распаду савецкай імперыі і ператварэння ўсёмагутнага беларускага Галоўліта ў шараговае ўпраўленне ва ўстанове пад назвай Дзяржкамдрук (Дзяржкумдруг — як часам называлі яе ў пісьменніцкіх колах) наспела новае выданне твораў Жылкі. Калі яно ў 1996 годзе з'явілася, я найперш паглядзеў, ці на месцы тое адноўленае «жыдоўскае гета». Гета было на месцы, але ў вернутай з забыцця страфе адзін з радкоў быў перайначаны. Мяне гэта насцярожыла, я пагартаў кнігу і ўбачыў у ёй той самы верш Якуба Коласа «Беларускаму люду». Паўтаруся — убачыў у кнізе Уладзіміра Жылкі.

А паколькі гэтым разам усчынаць дыскусію не было з кім — Уладзімір Калеснік, на вялікі жаль, ужо адышоў у лепшы свет, — то я пайшоў у Акадэмічную бібліятэку і замовіў прыжыццёвыя выданні Жылкі — «На ростанях» (1924) і «З палёў Заходняй Беларусі» (1927). Параўнаўшы іх тэксты з выдадзенымі ў «Мастацкай літаратуры», я быў проста шакаваны. У многіх вершах былі замененыя словы, некуды пазнікалі асобныя радкі і цэлыя строфы, нейчаю зламыснаю рукою без відочнай патрэбы была парушаная аўтарская пунктуацыя. Пасядзеўшы пару дзён у бібліятэцы, я налічыў 575 (!) брутальных умяшанняў у аўтарскі тэкст. Прызнаюся, нічога падобнага я раней не бачыў. Пачаткоўцаў у рэдакцыях правяць больш ашчадна, чым гэта было зроблена з Уладзімірам Жылкам у дзяржаўным выдавецтве!

Так, у вершы «Палімпсест» на месцы «народнага духу» аднекуль узнік «працоўны дух».

У вершы «Сёмуха» — «паўбітыя бярозкі» зрабіліся чамусьці «вясёлымі».

У вершы «Дарма, што значны раны...» словазлучэнне «душа Яе ў палон» загучала, як «душа ў яе палон». Гэта ў матэматыцы ад перамены месцаў складнікаў сума не змяняецца, а ў паэзіі змяняецца не толькі сума, але і сэнс.

У вершы «Бяспынна, глуха процьма часу...» не толькі «бяздушны» заход стаў «бясшумным», але і ўзнік няўцямны неалагізм «радзімей» на месцы слова «балючай».

У вершы «Летунковасць, нерашучасць...» словазлучэнне «юнаку было прынадна» няўзнак перакінулася ў «юнаку была прынада», а аўтарская «напеўнасць» стала «няпэўнасцю». (Як тут не прыгадаць пацешны выступ колішняга сакратара ЦК КПБ Гарбунова ў Саюзе пісьменнікаў: «Броўка вершаў, напеўна, не напіша».)

У вершы «Каму жыццё — атруты келіх...» пяшчотныя «абдоймы» раптоўна змяніліся на ваяўнічыя «абоймы», а слова «капец» прадказальна ператварылася ў «канец».

У вершы «Наш лёс, бы кат, з рукой забойнай...» вой, які да гэтай пары стаяў «цвёрдакаленна», раптам паўстаў «цвёрдакаменна», выклікаючы ў чытацкім уяўленні хіба выяву якоганебудзь выкапнёвага Шклоўскага ідала, а не адважнага ваяра.

У адным з найскладанейшых вершаў Жылкі, у «Альбігойцы», «авечая цнота» зрабілася «адвечнай», што дарэшты збівала з панталыку чытача, якому і так нялёгка было разблытваць вузлы асацыяцыяў і гістарычных аналогіяў, якімі літаральна перанасычаны твор.

Не пашанцавала і паэме «Уяўленне». Яе асобныя страфы пасля выдання ў «Мастацкай літаратуры» ўвогуле патрабавалі расшыфроўкі. Прыкладам, як разумець наступныя радкі:

Шырокаю тропай
Ў час гэты з пакус
На мапу Еўропы
Ўзышоў беларус?

З якіх-такіх «пакус» на еўрапейскую мапу вылез беларус, мабыць, добра-такі пакусаны? Глядзім у зборнік «З палёў Заходняй Беларусі», і ўсё становіцца зразумелым — «у час гэты спакус», а значыць — у спакуслівы час.

Праз колькі строфаў — новая загадка: «Мой дух не барух». Разгублены чытач гатоў лезці ў філасофскі слоўнік, мо што падкажа той Барух — па прозвішчы Спіноза. Але Спіноза не

падкажа, бо наўрад ці што кеміць у беларускай паэзіі. Падкажа той, хто зірне ў прыжыццёвае выданне, проста трэба чытаць: «Мой дух не патух».

Не абмінула ліхая доля і найвядомейшы Жылкаў твор — «Тастамант», поўная назва якога, дарэчы, гучыць, як «Тастамант, або Духоўніца, адпісаная Уладзімірам з Адама і Таццяны сынам Жылкавым люду паспалітаму на карысць і спажытак, пісьменству прыгожаму на росквіт і аздобу». Гэткі падзагаловак вымагаў бездакорнага пісьма, а чытач з першых радкоў пачынаў спатыкацца аб няўцямныя словазлучэнні «гуляў у бор» (замест «ганяў»), «баяй бясконца» (замест «буяй»), «спачыцьмуць спакой» (замест «сачыцьмуць»).

Не надта давяраючы «Беларускай газеце», дзе «Тастамант» быў упершыню надрукаваны 6 жніўня 1942 года Яўхімам Кіпелем, я праз добрых людзей звярнуўся да сына публікатара — Вітаўта Кіпеля, дырэктара Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку. І неўзабаве атрымаў ад яго копію аўтографа. Параўнаў тэксты — аўтэнтычны нью-ёркскі і менскі — і налічыў ажно 35 памылак і недакладнасцяў!

На гэтым мае сумныя «адкрыцці» не спыніліся. З некаторых твораў па невядомай прычыне былі выкасаваныя цэлыя строфы. Так, у вершы «Ўзысці на вогнішча натхнення...» не ставала чатырохрадкоўя:

Перадбачаць далёкім вокам
І з нестрыванай яснатой
Над хаосам і ночы змрокам
Ўладаць гармонні глыбінёй.

Але найбольш пацярпеў верш «Антону Навіну», скарочаны напалову — з дзесяці строфаў у кнігу трапілі толькі пяць. Абсалютна незразумела, з якой прычыны, такое ўражанне, быццам проста не хапіла месца на старонцы.

На фоне такога складальніцка-рэдактарскага самаўпраўства адзін радок, прапалы ў вершы «Будзь бласлаўлёна, мая маладосць...», здавалася б, невялікая бяда. Але названы верш — унікальны ў беларускай паэзіі. Яшчэ крытык Антон Адамовіч

у заўвагах да нью-ёркскага выдання Жылкавых «Твораў» (1955) выказаў меркаванне, што страфічная схема гэтага верша вынайдзена самім аўтарам, і прапаноўваў назваць новы від верша ў гонар паэта — жылкай.

І трэба сказаць, што жылка прыжылася-такі ў беларускай паэзіі. Прынамсі, мне вядомы адзін верш, напісаны з выкарыстаннем аналагічнай рыфмоўкі. Гэта «Прыйсце» (1958) Міхася Кавыля. На мой пісьмовы запыт паэт паведаміў, што ён насамрэч свядома напісаў менавіта жылку. А яшчэ дадаў: выкінуць з яе адзін радок — значыць разбурыць усю архітэктоніку. Гэта тое самае, як у класічным санеце пакінуць толькі трынаццаць радкоў.

Скрэсліўшы папраўкамі знявечаныя ў «Мастацкай літаратуры» тэксты Уладзіміра Жылкі, я цвёрда пастанавіў выдаць іх у аўтэнтычным выглядзе. І ў 1998 годзе Жылкаў том выйшаў у класічнай серыі «Беларускі кнігазбор».

Здавалася б, усе наступныя выдаўцы, складальнікі і рэдактары не палянуюцца пры патрэбе ў яго зазірнуць. Паленаваліся. Праз пэўны час тая ж «Мастацкая літаратура» выдала чарговае выбранае шматпакутнага Жылкі пад назвай «Матылі». І што там убачыў чытач? Той жа верш Якуба Коласа «Беларускаму люду», той жа знявечаны «Тастамант», таго ж невядома кім «пакусанага» беларуса, таго ж «цвёрдакаменнага» воя і дзясяткі іншых згаданых і не згаданых раней памылак. Плюс да ўсяго Жылку прыпісалі яшчэ адзін чужы верш — «Пры Roentgen» чэшскага паэта Іржы Волькера...

Пры гэтым складальнік-інкогніта (імя ў выходных дадзеных не пазначана) не пасаромеўся напісаць, што кніга друкуецца паводле «кнігазбораўскіх» «Выбраных твораў». Як складальнік і аўтар прадмовы да таго выдання, я мушу канстатаваць: гэта хлусня. Скажу болей: выдавецтва «Мастацкая літаратура», так свавольна (тройчы!) абышоўшыся са спадчынай Уладзіміра Жылкі, зняважыла ягоную памяць і засведчыла прафнепрыгоднасць сваіх супрацоўнікаў.

Рэдактар, які не можа адрозніць Якуба Коласа ад Уладзіміра Жылкі (паэтаў абсалютна непадобных), і карэктар, які пакутуе на моўную глухату, адназначна заслугоўваюць прафесійнай

дыскваліфікацыі. Такіх на гарматны стрэл нельга дапускаць да выдавецтва. Але ў «Мастацкай літаратуры» лічаць іначай. У выдавецтве аніхто аніякага спагнання за ўчыненае не атрымаў. Атрымалася, як у той прыказцы: калі свая світа, то — шыта-крыта. А калі камусьці свярбіць, то няхай ён і чухаецца...

Уладзімір Жылка, якога крытыка 20-х гадоў называла другім Багдановічам, не вярнуўся са сталінскага ГУЛагу. Ён памёр ад туберкулёзу 1 сакавіка 1933 года ў горадзе Уржум Кіраўскай вобласці. Праз трыццаць гадоў — у красавіку 1961-га — Вярхоўны Суд БССР рэабілітаваў паэта. Але рэпрэсіі супраць яго, як выглядае, працягваюцца і ў нашыя дні. У сумнавядомыя 30-я паэтаву далікатную лірыку нявечыла бальшавіцкая цэнзура, нацдэмаўскую крамолу вышуквалі ў ёй крытыкі Тодар Глыбоцкі і Лукаш Бэндэ. Сёння іх ролю, як бачым, выконвае дзяржаўнае выдавецтва «Мастацкая літаратура».

*2012*

# МУЗЕЙ АЙЧЫННАЙ ПАЎВАЙНЫ

У Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны я быў двойчы. Першы раз — школьнікам-пяцікласнікам; добра памятаю, што на многія экспанаты даводзілася глядзець знізу ўверх, а гусеніца танка, на які мы марна пнуліся залезці, праходзіла дзесьці на ўзроўні падбароддзя. Той непрыступны танк, чырвоныя сцягі пад шклом, партызанская зямлянка з велічэзнай трафейнай бензапілой ды яшчэ падсветленыя літары на фасадзе «Подвигу народа жить в веках» — вось і ўсё, што засталося ў хлапечай памяці.

Другі раз трапіў я ў той жа музей ажно праз трыццаць з гакам гадоў, калі ён з Кастрычніцкай плошчы пераехаў на праспект Пераможцаў.

Думалася, прайшло столькі часу, мы сталі жыць у другой краіне, пра тую ж вайну шмат чаго новага даведаліся — адпаведна і музейная экспазіцыя мусіць быць абноўленая, пазбаўленая савецкага ідэалагічнага камуфляжу.

На жаль, у мадэрновым звонку будынку са шкла і бетону панавала ўсталяваная даўным-даўно традыцыя, якая, думаю, не ў аднаго мяне выклікала расчараванне. Я пераходзіў з залы ў залу і — нібы вяртаўся ў далёкі 1979 год. Мяне не пакідала адчуванне, што ўсё гэта я ўжо бачыў — падчас той даўняй школьнай экскурсіі.

Парадныя мундзіры з жоўта-срэбнай луской медалёў, плакаты, што заклікалі «раздавіць фашысцкую гадзіну», гармата на колах ад калгаснай жняяркі... Зразумела, што і зямлянка з бензапілой нікуды не падзеліся, а чырвоных сцягоў увогуле, здаецца, пабольшала.

Я зусім не супраць тых сцягоў і савецкіх лозунгаў. У музеі ім — самае месца. З гісторыі нельга выкідаць таго, што насамрэч было. Але чаму ў новым музеі не знайшлося месца для экспанатаў, якія паказалі б нам трагедыю вайны не плакатна-аднабакова, а з розных ракурсаў?

Скажам, у музейнай экспазіцыі заслужана знаходзіцца знакамітая кніга-помнік «Я з вогненнай вёскі» — пра спаленыя фашыстамі беларускія паселішчы. А чаму поруч не пакласці кнігу Віктара Хурсіка «Кроў і попел Дражна» — пра вёску ў Старадарожскім раёне, якая ў 1943 годзе таксама была спаленая, але — савецкімі партызанамі? Таксама ж кніга-помнік, заснаваная на дакументах і ўспамінах відавочцаў. А колькі вёсак у Беларусі паўтарылі лёс Дражна! Якімавічы на Слонімшчыне, Нацкава на Мастоўшчыне, Боркі і Була ў Івацэвіцкім раёне... Ці гэта не гісторыя Вялікай Айчыннай вайны і там забівалі і палілі ў хатах людзей нейкага другога гатунку, нявартых нашай памяці?

Карнай аперацыяй у Дражне камандаваў камбрыг Іваноў, на яго сумленні — дваццаць пяць бязвінных ахвяраў, у тым ліку жанчыны і малалетнія дзеці. Пасля вайны той камбрыг не быў асуджаны, працаваў на кіроўных пасадах, стаў героем тысячастаронкавай кнігі «Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков». Яе аўтар — міністр МГБ БССР Лаўрэнцій Цанава. Праўдзіваму даследаванню Хурсіка месца ў экспазіцыі не знайшлося, а псеўдагістарычная кніга Цанавы, дзе сам аўтар, падазраю, не напісаў ні старонкі, — калі ласка, навідавоку. Тую «Всенародную войну...» падчас хрушчоўскай адлігі, кажуць, сканфіскавалі з усіх бібліятэк і адправілі на макулатуру. Музейшчыкі недзе адкапалі і выставілі.

Увогуле, шмат якая літаратура ў сталую экспазіцыю, як выглядае, трапіла выпадкова. Незразумела, як баявы дух вайскоўцаў і тых жа партызанаў маглі падтрымліваць «Выбраныя вершы і паэмы» Тараса Шаўчэнкі 1948 года выдання, «Выбраныя творы» Аркадзя Куляшова, выдадзеныя ў 1947-м, ці зборнік вершаў Канстанцыі Буйло «Світанне», якія пабачыў свет толькі ў 1950-м? Як на добры розум, на тым стэндзе мусілі б экспанавацца куляшоўскі «Сцяг брыгады» ды «Слуцкі пояс» Анатоля Астрэйкі, якія з'явіліся ў 1943 годзе, а значыць — сапраўды паспелі «паваяваць».

Паводле падлікаў гісторыка Юрыя Туронка, за часы нямецкай акупацыі ў Беларусі было выдадзена 117 кніг — школь-

ныя падручнікі, слоўнікі, мастацкая літаратура. Сярод іх, прыкладам, паэтычныя зборнікі Наталлі Арсенневай «Сягоння» і Алеся Салаўя «Мае песні», у якіх — ніводнага ўхвальнага слова на адрас нямецкіх захопнікаў. Выходзілі пад акупацыяй і «Граматыка беларускай мовы» Браніслава Тарашкевіча і «Беларускі правапіс» Антона Лёсіка», па якіх вучыліся тысячы беларускіх дзетак. Хіба гэтыя выданні — не частка той гісторыі, спасцігаць якую ў новы музей ідуць і ідуць наведнікі?

Кідаецца ў вочы і пэўная тэндэнцыйнасць у размяшчэнні некаторых экспанатаў. Скажам, франтавы партрэт Васіля Быкава дзіўнавата глядзіцца поруч з выявай Сталіна. Нягледзячы на тое, што на фотаздымку — малады лейтэнант, подпіс на трох мовах абвяшчае: Герой Сацыялістычнай Працы... Гэта як таго ж Сталіна падпісалі б: навучэнец духоўнай семінарыі.

Падакупацыйная перыёдыка прадстаўленая ў экспазіцыі адной-адзінай «Беларускай газетай», што, вядома ж, не дазваляе займець хоць прыблізнае ўяўленне пра беларускі перыядычны друк пад нямецкім кантролем. Ні слова пра часопіс «Новы шлях», пра газету «Раніца», якія выходзілі гадамі, сумарны наклад якіх налічвае сотні тысячаў асобнікаў. А ў якім выглядзе выстаўленая тая ж «Беларуская газета» — здагадацца няцяжка. Вядома ж, з партрэтам Гітлера на паўпаласы і перадавіцай «Крыжовы паход Еўропы супраць бальшавізму». Перагартаўшы ў свой час гадавікі ўсіх падакупацыйных выданняў, магу сказаць адно — такі нумар трэба было яшчэ пашукаць.

Чаго нельга пабачыць у музеі, дык гэта дакументаў пра дзейнасць Беларускай Цэнтральнай Рады, Беларускай народнай самапомачы, Беларускай краёвай абароны. А гэтыя арганізацыі актыўна дзейнічалі на тэрыторыі акупаванай Беларусі, ад іх залежалі тысячы людскіх лёсаў.

Не памятаю ў старым музеі і васковых фігураў. Артылерыст пры гармаце, кухар пры палявой кухні, партызан у зямлянцы... Дзеці ахвотна фатаграфуюцца поруч з імі. Але калі прыгледзецца больш пільна... Скажам, партызан з засяроджаным выглядам нешта чытае. Зазірнуўшы яму цераз плячо, я са здзіўленнем пабачыў, што чытае ён... школьныя пропісі.

Вядома ж, правільныя з ідэалагічнага гледзішча: «Наша радзіма — Савецкі Саюз. Мы любім нашу радзіму». Навошта спатрэбілася паказваць партызанаў такімі ўжо бязграматнымі? Праўдзе жыцця больш адпавядалі б зробленыя з тых пропісяў самакруткі.

Помніцца, на адкрыццё новага музея прылятаў прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін. Мабыць, адмыслова для яго ў адной з залаў павесілі жывапісны партрэт Аляксандра Пушкіна, прастрэлены нямецкімі кулямі. Пуцін з'ехаў, а Пушкін застаўся. І глядзіцца трохі недарэчна па суседстве з партызанскімі пропісямі. Партрэт Купалы тут больш прыйшоўся б да месца — разам са славутым вершам «Партызаны, партызаны, беларускія сыны...».

Агляд музея заканчваецца ў зале баявой славы — на верхнім паверсе, пад шкляным купалам. Тысячы прозвішчаў загінулых за Беларусь, сотні найменняў вайсковых фармаванняў, золата і мармур. І — ні слова па-беларуску. Прэзідэнту Расіі, мабыць, спадабалася.

Пакінуў я музей з дзіўным пачуццём. Быццам пабачыў толькі палову вайны. Гэта як купіць квіток на цэлы кінасеанс, а пасярод фільма вам кажуць — выбачайце, больш кіна не будзе, не ўсю плёнку праявілі.

А яшчэ музей падаўся мне насупленым ва ўсе бакі айсбергам, які адарваўся ад ледавіка пад назвай Савецкі Саюз, заплыў у цёплае мора і не растаў. Гэткая сабе савецкая выспачка з навершам у выглядзе стылізаванага фашысцкага рэйхстага, якая плыве па Менску ў туманную далячынь. А следам за ёю дрэйфуе і ўся краіна, у якой заклініла стырно.

*2015*

# РАСЕЯ — АД ВОЛГІ ДА ЕНІСЕЯ?

Падабаецца мне лагатып рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Белкартаграфія» — контур Беларусі на тле зямнога шару. Вагомы такі контур — на асобны мацярык цягне. Бачыцца мне ў ім тая дэфіцытная ў нашай краіне беларусацэнтрычнасць, якой так заўважна бракуе айчынным медыям, палітыкам ды чыноўнікам розных узроўняў. Калі б мая воля, то прадукцыя «Белкартаграфіі» вісела б у кожным кабінеце — ад прэзідэнцкага да сельсавецкага. Каб зірнуў гаспадар кабінета на мапу даверанай яму тэрыторыі, а там, як у той вядомай песні, — «Беларусь перадусім».

А выгледзеў я той сімпатычны лагатып на вялікай каляровай мапе «Краіны і народы свету», якую набыў для сына-трэцякласніка. Пакуль там тая геаграфія ў гімназіі пачнецца, хай, думаю, пройдзе дома кароткі курс сусветнага народазнаўства.

Павесілі мы тую мапу на сцяну, і ў майго гімназіста вочы разбегліся. З малюнкаў глядзяць на яго розныя расы, знаёмыя і ніколі раней не чутыя народы. Вунь палінезійцы з выспаў Кука адважна скараюць акіян на сваім лядашчым ветразёвіку. Вунь паўночна-амерыканскія індзейцы сіу (з выгляду — рыхтык крылатыя гусары часоў ВКЛ) выйшлі на паляванне з лукамі. Вунь камчацкія ітэльмены б’юць у тамтамы. А там шатландцы ў спадніцах дзьмуць у свае шматбурдонныя дуды. А там кітайцы запускаюць у паветра шаблязубага цмока. А там казахі ў малахаях дэманструюць сакалінае паляванне. Амерыканскія і аўстралійскія каўбоі скачуць на конях, арабы пераплываюць Сахару на двухгорбых караблях пустыні, жарсныя індускі выгінаюцца ў танцы жывата, а рахманыя в’етнамкі носяць бананы кошыкамі на каромыслах...

Стоп. А як самапрэзентуюцца беларусы ў сям’і нялічанай зямлян? Адгадайце з трох разоў. Ездзяць на «БелАЗе» на тле бульбяной піраміды? Зуброў пасвяць? Буслоў з выраю вітаюць? Не.

Беларусы — танчаць! «Лявоніху». Маладая пара ў нацыянальных строях так разышлася, што не заўважыла, як заскочыла ў другую краіну. Кіламетраў так на тысячу. І пад узнятым вострым абцасам танцоркі неяк не зусім паліткарэктна апынулася... Масква. Вось-вось абцас апусціцца, і толькі хрусне белакаменная.

А што на гэта расіяне? Яны ж таксама танчыць умеюць — шапку з размаху на падлогу, і пайшла плясаць губернія.

А расіяне таксама танчаць. Толькі чамусьці не ў маскоўскіх ваколіцах, каб, значыцца, своечасова перакрыць дарогу чужым танцорам, а дзесьці далёка на ўсходзе, паміж Волгай і Енісеем.

А паміж беларусамі і расіянамі — татары. Суседзі нашы. Стаяць так ціхамірна, самі свайму становішчу дзівуючыся.

Вось такое геаграфічнае адкрыццё зрабіла «Белкартаграфія». Прычым асабіста я не маю да яе аніякіх прэтэнзій. Ужывемся мы і з татарамі. Вунь і мячэці ў нас у Іўі ды Наваградку захаваліся, і на ворагаў супольных мы з лёгкай рукі вялікага князя Вітаўта разам хадзілі.

Непакоіць мяне хіба сынава адзнака па геаграфіі. Калі ён на ўроку адкажа, што беларусы на ўсходзе мяжуюць з татарамі, яму ж «двойку» паставяць. Але паводле «Белкартаграфіі» — сапраўды мяжуюць! А «Белкартаграфія» — установа дзяржаўная, і там сядзяць не лыкам шытыя спецыялісты, да якіх мне хочацца прынагодна звярнуцца з наступнай просьбай.

Дарагія айчынныя картографы! Калі вы ўжо не лыкам шытыя і маеце гэткі файны фірмовы лагатып, дапамажыце ажыццявіцца запаветнай мары ўсіх настаўнікаў-географаў з беларускіх школаў. Зрабіце вы нарэшце глобусы на роднай мове. За ўзор можаце ўзяць беларускамоўны глобус, зроблены ў 1939 годзе ў Ленінградзе, узор якога (ці не адзіны пазасталы асобнік?) экспануецца ў Гудзевіцкім этнаграфічным музеі. Думаю, вырабіць неабходную колькасць такіх глобусаў вам будзе працай простага. Не складаней, чым размясціць Расію паміж Волгай і Енісеем.

*2016*

# ЦІ «ЕЎРАЗІЙСКІ» ПАЭТ АДАМ МІЦКЕВІЧ?

Падарункі ад палітыкаў належыць прымаць з асцярогай. У многіх на памяці, як у 1991 годзе перад самымі Віскулямі прэзідэнт Расіі Ельцын, выступаючы ў Вярхоўным Савеце Беларусі, падараваў Станіславу Шушкевічу «сімвал братэрскага вызвалення» — «Ахоўную грамату Оршы 1664 года». Помніцца і больш блізкі па часе падарунак — расійскі «Букварь», паднесены папу Бенедыкту XVI малалетнім Колем Лукашэнкам пад апекай бацькі. Калі з роляй аршанскай граматы збольшага ўсё ясна, то пытанне — навошта папу буквар — так і засталося без уцямнага адказу. Малаверагодна, каб для яго знайшлося ганаровае месца ў знакамітай сваімі старадрукамі Ватыканскай бібліятэцы.

Чарговы неадназначны падарунак ад Аляксандра Лукашэнкі дастаўся расійскаму пісьменніку, рэдактару газеты «Завтра» Аляксандру Праханаву. Як публічная асоба ён мае даволі скандальную рэпутацыю і ў абароне свайго палітычнага куміра — Сталіна — гатовы бесцырымонна растаптаць любога апанента. Чамусьці якраз Праханаў і мае даволі частыя аўдыенцыі ў кіраўніка Беларусі. Праўда, гэтым разам удзячнасць апошняга матэрыялізавалася ў дзіўнаваты падарунак — альбом «Адам Міцкевіч на паштоўках канца XIX — пачатку XX стагоддзя», складзены вядомым беларускім філакартыстам Уладзімірам Ліхадзедавым. Як на маю думку, гэта не вельмі паліткарэктны падарунак. Але ж у падараванага каня, як вядома, зубоў не лічаць. Праханаў падзякаваў, назваўшы Міцкевіча «еўразійскім паэтам». На якой курасадні якой чубаткай выседжаная гэтая думка (цэлае літаратуразнаўчае адкрыццё!), маскоўскі госць не патлумачыў.

Справа ў тым, што Адам Міцкевіч аніяк не надаецца на ролю песняра еўразійскай прасторы. Паўднёвей за Крым (згадайма славутыя «Крымскія санеты») ён у сваёй творчасці не

апускаўся. Прыканцы жыцця ўласная неўтаймоўная пасіянарнасць прывяла яго ў Стамбул, на памежжа Еўропы і Азіі, дзе 26 лістапада 1855 года ён і памёр ад халеры. Нараджэнец Навагрудчыны і яе верны паэт, Міцкевіч і на ролю песняра Польшчы не вельмі надаваўся. Пісаў на нейкім «смаргонскім дыялекце» (з гледзішча варшаўскіх крытыкаў), ні дня не жыў ні ў адной з польскіх сталіцаў — Кракаве і Варшаве, нібыта адмовіўся ў запеўным радку «Пана Тадэвуша» замяніць зваротак «Litwo» на «Polska».

Польскі паэт і прафесар Юльян Пшыбась напісаў пра Міцкевіча цэлую манаграфію, але так і не здолеў патлумачыць ужытае ў тым самым «Пане Тадэвушы» слова «свірэпа», пра што спакорліва прызнаўся ў лісце да свайго сябра Янкі Брыля.

Тою анекдатычнай сітуацыяй у міцкевічазнаўстве натхніўся паэт Канстанты Галчыньскі, напісаўшы іранічны верш «Ахвяры свірэпы»:

Знайшлі ў паэме «Пан Тадэвуш» вобраз гожы:
«Свірэпа ў белай грэчцы бурштынам залачае...»
З-за той свірэпы ўсе прафесары ў адчаі.
О мілы Божа!

Спыталі ў пана Крыдла:
— А што гэта — свірэпа?
Крыдл адказаў:
— Магчыма,
кабета-незачэпа?

Спыталіся ў Пігоня —
той думае і сёння.

Шукалі ў энцыклапедыях,
у каталогах і слоўніках,
у старапольскіх трагедыях,
у статутах і гербоўніках,

гарышчы прайшлі і склепы —
нідзе не знайшлі свірэпы.

І ўжо прадавачкі ў краме,
кіроўцы і гаршкалепы
гавораць: «Дзякуй, Адаме,
мы ўсе — ахвяры свірэпы!»*

Абвяшчаючы Адама Міцкевіча еўразійскім паэтам, расійскія дзеячы павінны спачатку добра падумаць. Ну, дальбог, на гэтую ролю больш надаецца хоць бы Алжас Сулейменаў, які спрытна падвёў азіяцкую базу нават пад такі бясспрэчны помнік усходнеславянскага пісьменства, як «Слова пра паход Ігаравы».

Што да Міцкевіча, то рэдактар газеты «Завтра», відаць, даўно яго не перачытваў. Верагодна, ягонае ўяўленне пра паэта базуецца на звыклым расійскім стэрэатыпе: сябра Пушкіна, наведнік салона Зінаіды Валконскай, супрацоўнік канцылярыі маскоўскага генерал-губернатара... Усё гэта так — былі і сяброўства, і бліскучыя салонныя імправізацыі, і служба. Але быў і другі Міцкевіч — пасля 1830 года, калі расійскія ўлады жорстка душылі Лістападаўскае паўстанне ў Беларусі і Польшчы. Як адданы патрыёт свайго Краю, паэт не спакусіўся акрайцам здрадніцкага хлеба і выступіў на баку паўстанцаў. Прызнаюся, выхаваны савецкай школай і такім жа ўніверсітэтам, дзе ўсё антырасійскае замоўчвалася, я яшчэ і ў 2002-м быў моцна здзіўлены некаторымі вершамі Міцкевіча, якія трапілі ў рэдагаваны мною кнігазбораўскі аднатомавік паэта. Вось, прыкладам, дзве страфы з «Песні жаўнера»:

Мне заснуць ужо няўзмогу,
Рукі зброю возьмуць самі,
Кліч пачуць бы: «У дарогу!
Пойдзем біцца з маскалямі!»
І капралаў голас цвёрды
Чую як бы над палямі:
«Уставай! — ён кажа, горды. —
Пойдзем біцца з маскалямі!»**

* Пераклад аўтара.
** Пераклад К. Цвіркі.

А вось чатырохрадкоўе з нізкі паэтычных афарызмаў «Думкі і заўвагі»:

Вясной працуюць косы, серп — восеньскай парою,
Бяруцца за сякеры гаспадары зімою.
Пачаў касіць Касцюшка, цяпер да мазалёў
Малоцім, каб з сякерай пайсці на маскалёў*.

Ці чытаў такога Міцкевіча публіцыст з імперскім свербам у адным месцы Аляксандр Праханаў? Прачытаў — і змірыўся? І прапаноўвае «песняра Літвы» на ролю еўразійскага інтэгратара? Пабойцеся Бога, гаспадзін-таварыш, і прыслухайцеся лепш да свайго паэта — Аляксандра Пушкіна, які не змірыўся і прысвяціў свайму былому сябру з'едлівую водпаведзь: «Он между нами жил / средь племени ему чужого... / его мы проводили. Но теперь / наш мирный гость нам стал врагом — и ядом / стихи свои, в угоду черни буйной / он напояет. Издали / до нас доходит голос злобного поэта, знакомый голос!»

Чаму ж раптоўна мірны госць і блізкі сябра стаў ворагам? Зразумела, найперш спрычыніліся да такой метамарфозы палітычныя погляды Пушкіна, якога ў сучаснай Расіі любяць называць «государственником». Але ці існавала насамрэч тое блізкае сяброўства, якое наўрад ці магчымае без раўнапраўных адносінаў?

Сучаснік Пушкіна Восіп Пржэцлаўскі пакінуў на гэты конт цікавыя ўспаміны — яны апублікаваныя ў нядаўна выдадзенай кнізе «Поляки в Петербурге в первой половине XIX века» (М., 2010). Міцкевіч і Пушкін пазнаёміліся ў 1828 годзе ў пецярбургскім доме свецкай ільвіцы Караліны Сабаньскай. Далей — слова мемуарысту: «Першыя прывітанні Пушкін прыняў з даволі сухой, ледзь не пагардлівай ветлівасцю. Міцкевіч паводле свайго звычаю быў просты і натуральны. Між імі завязаўся дыялог пра літаратуру і мастацтва. Міцкевіч быў чалавекам рэдкай, энцыклапедычнай вучонасці і агромністай начытанасці; Пушкін жа, як вядома, быў з тых, якія, паводле яго ўласных словаў, "учились понемногу, чему-нибудь и как-нибудь".

* Пераклад К. Цвіркі.

Міцкевіч пра гэта і не падазраваў і, адчуваючы, што многае ў размове падаецца Пушкіну няўцямным, спытаўся: “Вы чыталі Газліта?” — “Не”. — “А Шлегеля?” — “Не”. — “А Сізмондзі?” — “Не”. Тут Пушкін канчаткова развітаўся з пратэкцыйным тонам і неўзабаве сышоў... На трэці дзень ён першым прыехаў да Міцкевіча. І гэта быў не звычайны свецкі візіт. Пушкін, горды Пушкін, з усёй шчырасцю, якае надае яму гонару, сказаў: “Вы не маглі падчас нашага спаткання не заўважыць майго невуцтва ў тэорыі мастацтва. Не здзіўляйцеся гэтаму. Адчуваю, што мне трэба закончыць маё выхаванне, — але не ведаю, з чаго пачаць, за што ўзяцца. Дайце мне параду”».

І геній Міцкевіч раіць генію Пушкіну чытаць Мільтана, Байрана, Шэкспіра, раіць вывучыць ангельскую мову, што дазволіць пашырыць светагляд. Даводзілася Пушкіну прызнаваць і яшчэ адну перавагу Міцкевіча — яго імправізацыйны дар. Агульнавядомы факт: пасля адной міцкевічаўскай імправізацыі тэмпераментны Аляксандр Сяргеевіч ускочыў і забегаў па пакоі з воклічамі: «Які геній! Які святарны агонь! Што я побач з ім?!»

І гэта прызнанне «сонца расійскай паэзіі», паэта, які для расійцаў — «іхняе ўсё». Дык ці не паспяшаўся Аляксандр Праханаў з вылучэннем кандыдатуры Міцкевіча на еўразійскі паэтычны сталец? Бо пры ягонай адпаведнай раскрутцы першае сонца можа лёгка паблякнуць, а гэта адчувальна саб’е расійскую імперскую пыху. А без пыхі гэтае Расія абыходзіцца пакуль не навучылася.

Аляксандр Праханаў прэзідэнцкі падарунак па дарозе ў Маскву, вядома ж, пагартаў. І пабачыў там дзясяткі паўстанцкіх паштовак з выявамі і вершамі Міцкевіча. Паштоўкі тыя расійскія карнікі знаходзілі ў кішэнях забітых беларускіх шляхціцаў, якія пад сцягамі з Пагоняй змагаліся за незалежнасць свайго Краю. Магчыма, вярнуўшыся дамоў, Аляксандр Праханаў знайшоў у сваёй бібліятэцы і перачытаў міцкевічаўскі верш «Сябрам маскалям», на які да гэтай пары так хваравіта рэагуюць расійскія інтэлектуалы, бо сябрамі ў тым вершы названыя адно павешаныя «высакародны Рылееў» і «паэт-змагар Бястужаў». Больш уважліва пазнаёміўшыся з

творчасцю Міцкевіча, наўрад ці Праханаву альбо каму-небудзь з ягоных аднадумцаў захочацца ўздымаць паэта на шчыт расійскай славы і ўпіхваць яго ў сумнеўныя палітычныя праекты.

Даволі няўтульна пачувацьмецца вялікі Адам паміж трох розных па велічыні Аляксандраў. Дык чаму ж у наймалодшага з іх не знайшлося для старэйшага другога падарунка? Адказ на гэтае пытанне можна пашукаць у самога Міцкевіча. Калі ў 1828 годзе ў Санкт-Пецярбургу выходзіла ў свет ягоная паэма «Конрад Валенрод», цэнзар выкрасліў з яе толькі адзін радок: «Ты раб, а адзіная зброя раба — хітрасць». Хто хітрыць у нашым выпадку — пакажа час.

У бібліятэцы Адама Міцкевіча ў Парыжы зберагаецца кніга, на палях якой даследчыкі прачыталі зроблены рукой паэта надпіс па-беларуску: «На Божым с*у*дзе ўсім у с... будзе». Па-мойму, для гэтай гісторыі лепшай кропкі мне не знайсці.

*2012*

# КРЫВОЕ ЛЮСТЭРКА РОЯ МЯДЗВЕДЗЕВА

Гісторыка Роя Мядзведзева ў перабудовачны час чыталі мільёны. Да гэтай пары помняцца ягоныя артыкулы ў часопісе «Огонёк», адкуль чытачы на ўсім абшары СССР упершыню даведваліся праўду пра сталінскія канвееры смерці, пра ператвораную ў ГУЛаг адну шостую частку зямной цвердзі. Па той лімітаваны «Огонёк» людзі з самай раніцы спяшаліся да кіёскаў, займалі чэргі ў бібліятэках. Імя Роя Мядзведзева стала тады сінонімам змагання за праўду, і гісторык не расчароўваў сваіх чытачоў — добрасумленна працаваў у архівах, акуратна абыходзіўся з фактамі, любога сталініста ў любы момант мог заткнуць за паяс.

Здавалася б, тэмы сталінскага тэрору, тэмы рэпрэсій Рою Мядзведзеву хопіць на ўсё жыццё. Толькі не лянуйся варочаць папяровыя гімалаі ў архівах ГПУ-НКВД-КГБ-ФСБ. Але шаноўнаму гісторыку, відаць, надакучыла займацца тэрорам і рэпрэсіямі. І праўда, тэма гэтая вымагае не толькі інтэлектуальнай моцы, але і не слабых нерваў. Трэба быць Аляксандрам Салжаніцыным, каб апісаць гулагаўскае пекла ўраўнаважаным пяром летапісца. Да таго ж Сталін у сённяшняй Расіі ізноў у грамадскім фаворы, тэлеапытанні залічваюць яго ў першую тройку знакавых дзеячаў расійскай гісторыі. ГУЛагам яшчэ працягваюць займацца энтузіясты «Мемарыялу» дзе-небудзь у Архангельску ці Саляхардзе, а ў асяродку маскоўскіх гісторыкаў тэма гэтая неяк паступова-незаўважна стала непапулярнай.

І замест сутарэнняў Лубянкі Рой Мядзведзеў стаў прыглядацца да Рэспублікі Беларусь і да яе харызматычнага кіраўніка. Прыглядаўся, трэба сказаць, нядоўга. У выніку ў таямнічым выдавецтве ЗАО «ББПГ» на свет з’явілася кніга пад назвай «Александр Лукашенко: контуры белорусской модели». Ухваленая ў адпаведных інстанцыях, яна стала абавязковай для дзяржаўных кнігарняў і чыноўніцкіх кабінетаў, а таксама

ўвайшла ў пералік тавараў, прызначаных на экспарт у краіны СНД, дзе яшчэ не забылі расійскую мову.

Чытаць гэтую кнігу мне было дужа некамфортна. І не толькі з прычыны бясконцых хвалебстваў на адрас яе галоўнага героя, з-за чаго біяграфічны жанр цалкам капітуляваў перад агіяграфічным. Атрымалася гэткае «жыціе мае», як гаварыў адзін з герояў камедыі «Іван Васільевіч мяняе прафесію».

Паводле Роя Мядзведзева, Аляксандр Лукашэнка здолеў стварыць у Беларусі вельмі эфектыўную эканамічную мадэль — найэфектыўнейшую ў СНД. Калі беларуская эканамічная мадэль насамрэч такая эфектыўная, то чаму тады знешні доўг Рэспублікі Беларусь з кожным годам павялічваецца, а пенсіі і заробкі ў яе грамадзянаў — як кот наплакаў?

У адрозненне ад свайго героя, які, і вокам не зміргнуўшы, саманазываецца то гісторыкам, то эканамістам, то кім заўгодна, гісторык Мядзведзеў з высновамі ў галіне эканомікі мог, вядома ж, памыліцца. І тут у мяне да яго асаблівых прэтэнзій няма.

Але ж і з беларускай гісторыяй Рой Мядзведзеў абыходзіцца не лепшым чынам. Дзе-нідзе перакручвае факты, а часам наўпрост уводзіць чытача ў зман. Можна толькі здагадвацца, хто яму прачытаў кароткі курс гісторыі Беларусі, але калі ты прафесіянал, то абавязкова мусіш правяраць падсунутую табе інфармацыю. Не правяраў. Ці часу пашкадаваў, ці жадання не было, ці заказчык прыспешваў.

І піша гісторык Мядзведзеў у сваёй кнізе на поўным сур'ёзе, што «древний белорусский знак Погоня — с изображённым на нём всадником с копьём» (стар. 76). Ну, зблытаў чалавек старажытны герб магутнай калісьці дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага з сучасным гербам Масквы. З кім не бывае. Але бывае — і варона лапці абувае. А гісторыку з імем такая блытаніна не да твару.

Вядомую падзею ў Віскулях Рой Мядзведзеў аналізуе з дапамогай кнігі нейкага З. Ісакава з вельмі красамоўнай назвай «Расчленение» (М., 1998). Відаць, адтуль жа шаноўны гісторык вывудзіў і векапомны факт, які паўтараецца ў кнізе двойчы (стар. 80 і 261): быццам супраць белавежскіх пагадненняў у Вярхоўным Савеце Беларусі галасаваў адзін-адзіненькі

дэпутат — Аляксандр Лукашэнка. Хоць у неаднойчы апублікаванай стэнаграме таго сапраўды гістарычнага паседжання называецца другое імя — Валерый Ціхіня. Але стэнаграмы тае Рой Мядзведзеў, падобна, не бачыў.

Блытаецца прыхільнік «беларускай мадэлі» і калі піша пра наданне беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай. Паводле яго, статус гэты беларуская мова атрымала дзякуючы фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. Але ж названая фракцыя з'явілася толькі ў ВС 12-га склікання, а Закон аб мовах з адпаведным артыкулам быў прыняты ВС БССР 11-га склікання. Калі быць дакладным — 26 студзеня 1990 года. Што і засведчана, напрыклад, у такой сур'ёзнай крыніцы, як энцыклапедыя «Беларуская мова» (Мінск, 1994). Але наўрад ці Рой Мядзведзеў ставіў перад сабой мэту — дакопвацца да першакрыніцаў ды звярацца з энцыклапедыямі...

Раздражняе сваёй павярхоўнасцю і тэндэнцыйнасцю гісторык і тады, калі піша пра «белорусско-русского (?) писателя» Васіля Быкава, пра «паэта і фатографа» Зянона Пазняка, пра рэйтынг Лукашэнкі, які ніколі не апускаўся ніжэй за 85%, пра рэканструяваны ў 2010 годзе Купалаўскі тэатр... Калі Мядзведзеў пісаў пра тэатр, у ім яшчэ адбываліся прэм'еры, і рэканструкцыя нават не пачыналася. Толькі праз два гады пасля выхаду кнігі будынак тэатра пачнуць «рэканструяваць», а фактычна — разбураць, забыўшыся, што ён з'яўляецца помнікам архітэктуры.

Але найбольш расчароўвае Рой Мядзведзеў сваіх чытачоў, калі звяртаецца да, здавалася б, блізкай яму тэмы сталінскіх рэпрэсій. Ён піша: «В Беларуси нет памятников или мемориалов жертвам сталинских репрессий, как, например, в Казахстане. Массовые репрессии 1940–1941 годов не привлекли большого внимания белорусских исследователей». І далей (увага!): «Только 29 октября 2009 г. в "Советской Белоруссии" была апубликована статья главного редактора газеты П. Якубовича "Куропаты: мир под соснами"».

Пасля такіх «адкрыццяў» Роя Мядзведзева можна з поўным правам прылічыць да почату сумнавядомых фальсіфікатараў беларускай гісторыі Лаўрэна Абэцадарскага і

Якава Трашчанка. Бо можна з Масквы не ўбачыць помнік у Маладзечне ці народны мемарыял у Курапатах, але недаравальна для гісторыка свядома «забыцца» на Зянона Пазняка, дзякуючы якому яшчэ ў 1988 годзе пра тыя самыя Курапаты даведаўся ўвесь свет. Ведае пра іх, несумненна, і сам Мядзведзеў, якому, тым не менш, на месцы Пазняка ні з пушчы ні з поля прымроіўся Якубовіч. Шчыра кажучы, я ўсё чакаў, што апошні неяк запратэстуе, бо гэта называецца — пагрэцца ў промнях чужой славы. Але ніхто, здаецца, пратэставаць не збіраецца.

Напалеон цынічна называў гісторыю хлуснёй, з якою ўсе пагаджаюцца. Магчыма, хлуслівая гісторыя Роя Мядзведзева таксама камусьці прыйшлася даспадобы. І найперш, напэўна, аднаму чытачу, чый парадны партрэт змешчаны на вокладцы кнігі і каго аўтар па-падхалімску называе «нязменным камендантам Беларускай крэпасці». Відаць, кніга і пісалася насамперш для таго «каменданта» — каб пацешыць ягоныя амбіцыі. Але астатнім 14 999 чытачам (гэткі наклад) кнігу Мядзведзева чытаць я не раю. Нават калі яна стаіць за шклом у вашым кабінеце. Бо ў кнізе той Беларусь выглядае — як у крывым люстэрку.

*2012*

# «ЯНКИ ГОЛОС СОЛОВЬИНЫЙ...»

Падымаеш галаву ў маскоўскім метро, і проста над табой — даваенны герб БССР. Такое адчуванне, што ён табе на макаўку зваліцца. Спрабуеш інстынктыўна ўхіліцца, але вірлівы натоўп падхоплівае цябе і, не даўшы апамятацца, нясе да эскалатара. А ў таксоўцы ездзіць па Маскве — трэба мець вялікае цярпенне і яшчэ больш часу. Як на добры розум, масквічам варта пратэставаць не толькі супраць трэцяга-чацвёртага тэрміну Пуціна ці развязанай ім вайны ва Украіне, але і супраць аўтазатораў, бо свабоду кожнай асобна ўзятай асобы на маскоўскіх вуліцах абмяжоўваюць найперш яны. «Заплутаным і невыразным горадам» назваў перадрэвалюцыйную Маскву Янка Купала. І гэта ў той час, калі па ёй ездзілі толькі рамізнікі ды рэдкія аўто, а самым хуткім сродкам транспартных зносінаў лічыўся самакат. Што б сказаў Купала пра сённяшнюю Маскву?

Зрэшты, на Кутузаўскім праспекце, дзе сённяшняя Масква дала прапіску Купалу, затораў практычна не бывае. Пешаходныя пераходы схаваныя пад зямлю, святлафораў таксама не відно, і шматпалосная аўтастрада ў сваім імкненні вырвацца за кружную дарогу нагадвае ўзлётную паласу ў кірунку Беларусі. Настаяўшыся на скрыжаваннях у цэнтры горада, легкавікі тут ідуць пад сотню, не асцерагаючыся гібэдэдэшнікаў.

Купала стаіць у акуратным скверыку на невысокім пастаменце, апершыся на поручні. «Мо нізка поручні былі / у тым гатэлі?» — адразу ўспамінаюцца радкі Сержука Сокалава-Воюша. Няма ўжо таго маскоўскага гатэля, у якім паэт загінуў 28 чэрвеня 1942 года. Мясцовыя беларусы спрабавалі адшукаць архіўную справу аб ягонай загадкавай гібелі. І справа знішчаная — такі быў афіцыйны адказ. І тут адразу напрошваецца пытанне: калі тую справу спачатку засакрэцілі, а потым знішчылі (у што верыцца слаба), то, значыцца, расійскія спецслужбы не хацелі разгалошвання нейкай інфармацыі адносна смерці Купалы?

Відаць, у той справе былі адпаведныя інструкцыі, імёны агентаў ды іх данясенні? Відаць, былі нейкія рэзалюцыі на спецпаведамленні, адпраўленым у тыя трагічныя дні на імя Сталіна і Берыі, дзе, дарэчы, Купала тройчы названы чужым прозвішчам — Луцкевіч. Маўчаць маскоўскія архівы, маўчыць бронзавы Купала на Кутузаўскім праспекце, маўчыць за яго спіной навамаскоўскі халодны краявід са шклянымі хмарачосамі.

Калі помнік у 2006 годзе ўсталявалі, неяк падышлі да яго маскоўскі пісьменнік і маскоўскі беларус, які ўсё жыццё рупіўся пра ўшанаванне памяці песняра ў Маскве. Пісьменнік іранічна пасміхнуўся і, кіўнушы на манумент, спытаўся:

– А не великоват ли? Ведь, поди, вровень с Пушкиным будет...

У гэтым пытанні — праўдзівае стаўленне расійцаў і да Янкі Купалы, і да незалежнай Беларусі. Маўляў, не павінен «малодшы брат» зраўняцца са «старэйшым» нават вышынёй помнікаў сваім галоўным паэтам. І тут справа не ў маштабах літаратурных талентаў, а ў нечым яшчэ больш істотным, што мелі на ўвазе тыя самыя расійцы ў сціслай формуле: «Пушкін — наша ўсё».

І тут мне прыгадваецца гісторыя, пачутая калісьці ад Янкі Брыля. Падчас нейкага літаратурнага свята ён жыў у адным гатэльным нумары з пісьменнікам-таджыкам. Вярнуўшыся вечарам з банкета, яны працягвалі гаворку пра дружбу народаў — дружбу літаратур. І тут таджык пытаецца: «За што вы так узвышаеце свайго Купалу? Чытаў я яго ў расійскіх перакладах — нічога асаблівага». Брыль пачаў казаць, што поўны Купала да гэтай пары не перакладзены, пачаў наракаць на перакладчыкаў-халтуршчыкаў. А потым вырашыў ураўнаважыць спрэчку і заўважыў, што і веліч Фірдаўсі значна перабольшаная. Пачуўшы такое, таджык ледзь не кінуўся на беларуса з кулакамі. А, можа, і кінуўся б, каб не двухметровы брылёўскі рост і вывучка былога марпеха. Але пра тое, што Фірдаўсі — самы геніяльны паэт усіх часоў і народаў, пачуў у той вечар увесь гатэль...

Помнік Янку Купалу ў Маскве ўсталяваны гадоў дзесяць таму, але дасюль афіцыйна не адкрыты. Чаму? Невядома.

Беларуская амбасада раіць маскоўскім беларусам забыцца на гэты факт. Для яе гэтае пытанне закрытае. Але як можна, даруйце за каламбур, закрыць неадкрытага Купалу?

Штодня па Кутузаўскім праспекце праносіцца прэзідэнцкі картэж. Праехаць міма і не заўважыць Купалу немагчыма — хвала за гэта маскоўскім архітэктарам. А заўважаючы, пра што думае ВДЛ (высшее должностное лицо — са слоўніка гібэдэдэшнікаў) Расіі? На ягоны запытальны погляд памочнік мог бы працытаваць радкі Дзям'яна Беднага: «Янки голос соловьиный / превратился в шип змеиный». А за што гэты Янка ўдастоіўся такой джалячай эпіграмы ад крамлёўскага сатырыка? — магло б пацікавіцца ВДЛ, азірнуўшыся на ўсталяваны пры «страціўшым давер» мэру Лужкове помнік. І памочнік, клацнуўшы накрыўкай свайго айпэда-ўсёзнайкі, мог бы прачытаць верш пра расійскага чынадрала:

Он снит былую мощь и ширь:
Цари, царицы, царский трон,
Погромы, каторги, Сибирь...
О Русь! Прими раба поклон!
Разбитых не сорвёшь оков
И ты, Москвы отребье, знай:
Былых не воскресишь веков,
С какой брехнёй ни вылезай...

У Маскве не адкрыты не толькі Купала-помнік. У Маскве не адкрыты і Купала-паэт. Перакладзены ён на расійскую мову (за нешматлікімі выняткамі) дрэнна. Каб не быць галаслоўным, прывяду некалькі яскравых прыкладаў неадэкватнага ператлумачэння ягоных твораў.

У Купалы: «Там за вёскай у полі / тры стаялі таполі». У перакладзе Эдуарда Багрыцкага атрымалася: «За околицей в грозы (?) / три стояли берёзы».

У Купалы: «Чаго вам хочацца, панове, / які вас выклікаў прымус?..» Перакладчык С. Спаскі сёе-тое падправіў: «Чего вам, господа, угодно? / Что растревожило ваш вкус?» Пагадзіцеся: прымус і вкус — зусім не сінонімы.

У Купалы: «Як вецер, свабодны мой дух, / хоць рукі закуты ў ланцуг». У перакладчыка Р. Куранёва выйшла стылёва

нязграбнае: «Как ветер, свободен мой дух, / хоть горя таскаю за двух».

Купала піша: «Годзе заходняй і ўсходняй культуры». Выхадзец з Магілёўшчыны масквіч Іван Бурсаў перакладае: «Хватит свои прививать нам культуры».

А вось як гучыць па-расійску вядомы купалаўскі верш «...О так! Я — пралетар!»: «Я — пролетарий... Это я — / покорный раб, вчерашний нищий, / низвергнув бога и царя, / всем на земле владею нынче». Але Купала ў арыгінальным тэксце не зрынае Бога. Навошта той жа Куранёў зрабіў атэістам беларускага паэта, які, да слова, вянчаўся ў маскоўскім Петра-Паўлаўскім касцёле?

Купала пачынае верш «Царскія дары» так: «Цар грозны, маскоўскі, вясёлы...» Той жа Бурсаў па-зямляцку самаўпэўнена падпраўляе песняра: «Хмельной от побед царь московский...»

Часам перакладчыкі (ці рэдактары) папросту скарачалі купалаўскія вершы. Гэтак, з вершаў «Прыстаў я жыць» і «Паўстань» выкінута па дзве страфы, у тым ліку знакамітыя фінальныя радкі: «Паўстань з народу нашага, Ўладар, / і адбудуй свой збураны пасад». Думаецца, скароты гэтыя насілі яўна не выпадковы характар. І добра, што падобная перакладчыцкая дзейнасць яскрава паказаная ва ўкладзенай доктарам Аляксеем Каўкам кнізе Янкі Купалы «Молодая Беларусь», што дзіўным чынам пабачыла свет у 2008 годзе ў маскоўскім выдавецтве «Московский писатель».

Купала застаецца неадкрытым у тых шматлікіх перакладных кнігах, што выходзілі ў розныя часы ў Маскве і Ленінградзе. Купала застаецца закрытым у архівах ФСБ. Помнік на нелегальным становішчы... І тут асабліва не паўстанеш, як тыя Прарок, Ваяк і Уладар у аднайменным вершы...

Адкуль жа такія дзіўныя, калі не сказаць непрыяцельскія, адносіны да беларускага класіка? Няўжо ізноў «Янки голос соловьиный превратился в шип змеиный»? Дарэчы, верш гэты напісаны ў Крамлі, дзе жыў Дзям'ян Бедны ў раскошнай кватэры.

*2013*

# ХІБА Ж АГЛОБЛЯ — АРГУМЕНТ?

Аматары айчыннай гісторыі, відаць, звярнулі ўвагу на кніжную серыю «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры». Не заўважыць яе немагчыма — за апошнія гады два брашурак з пазнавальнымі партрэцікамі на вокладках выйшла даволі шмат, і часам у кнігарнях іх ставяць на паліцу ў адмысловай скрынцы. Ян Чачот, Мітрафан Доўнар-Запольскі, Аркадзь Смоліч, Мікола Ермаловіч... Дзясяткі сапраўды годных імёнаў — здавалася б, як тут не парадавацца за распрацоўнікаў, аўтараў і выдаўцоў серыі, якая, да слова, і каштуе вельмі танна. Пакупнік па такой цане набывае кнігі, не прыцэньваючыся. Набыў і я — жыццяпіс Міколы Ермаловіча, напісаны Анатолем Астапенкам.

Набыць набыў, але радаваўся нядоўга. Радасць маю, як туман над ранішнім лугам, дарэшты развеяла прадмова, напісаная Анатолем Тарасам — «заснавальнікам, каардынатарам і рэдактарам» усёй серыі. У той прадмове я не знайшоў ні слова пра вартасці Астапенкавай кніжкі, там і сам Ермаловіч прысутнічае як дапаможная фігура, як «сведка на працэсе». А сам «працэс», увесь ягоны пафас і гнеў скіраваныя супраць гісторыка Алеся Краўцэвіча. «Заснавальнік і каардынатар» вырашыў скарыстаць сваю ж серыю для звядзення асабістых рахункаў. І зрабіў гэта ў беспардонна-агрэсіўнай форме. Прычым — прыкрыўшыся партрэцікам Ермаловіча.

У прадмове ён цвердзіць, што «такія, як Краўцэвіч, старанна служаць тым, хто дае ім грошы, — летувісам, палякам, расійцам», што «для людзей, падобных Краўцэвічу, галоўнае ва ўсе часы — добра ўладкавацца», што «да 1992 года ўсе яны хаваліся пад шафай, як мышы». Паводле А. Тараса, Краўцэвіч — і хлус, і прыстасаванец, і кан’юнктурнік.

Бі хоць таўкачом, абы было па чом — кажуць у народзе. Па чым жа б’е аўтар прадмовы, якая не мае аніякага дачынення да кніжкі, напачатку якой змешчаная? Аказваецца, прагнявіў яго надрукаваны ў «Нашай ніве» тэкст А. Краўцэвіча

«Анатоль Тарас і Парнас», дзе крытычна (але, на маю думку, аргументавана) ацэньвалася дзейнасць А. Тараса як гісторыка і публікатара. І вось — адказ, які нагадвае размахванне аглобляй на навуковай дыскусіі. Што ж, махай, калі бракуе аргументаў і запярэчыць не можаш, але — у іншым месцы. Пры чым тут Ермаловіч?

У прадмове А. Тарас вінаваціць прафесійных гісторыкаў (усіх без вынятку!) у тым, што падчас застою тыя «пісалі казкі пра дасягненні савецкага ладу і змаганне беларусаў за камунізм». А ў якасці ўзору такой творчасці чамусьці прыводзіць працу А. Краўцэвіча «Гарады і замкі беларускага Панямоння XIV–XVIII стст.», як быццам насельнікі тых гарадоў і замкаў яшчэ паўтысячагоддзя таму за камунізм змагаліся.

«Заснавальнік, каардынатар і рэдактар», мабыць жа, ведае, што на рахунку доктара гістарычных навук Алеся Краўцэвіча — больш за дзясятак кніг па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, у тым ліку падрабязныя жыццяпісы вялікіх князёў. Кнігі тыя сталі настольнымі для маладых гісторыкаў, іх вывучаюць ва ўніверсітэтах, прэзентацыі іх адбываюцца па ўсёй Беларусі. Прывяду толькі адзін факт: кніга «Стварэнне Вялікага Княства» вытрымала ўжо чатыры перавыданні і стала сапраўдным бестселерам, што з літаратурай падобнага жанру здараецца надзвычай рэдка. Дык адкуль такі безапеляцыйна-ваяўнічы тон?

Беспадстаўна вінавацячы А. Краўцэвіча за прыслужванне камуністычнай ідэалогіі, Тарас мог бы згадаць (і гэта выглядала б дарэчы) пра кніжку таго ж М. Ермаловіча «Дарагое беларусам імя» (1970), дзе расказвалася не пра Гедыміна ці Міндоўга, а пра... Леніна. Як па мне, гэта быў вымушаны кампраміс, які аніякім чынам не дыскрэдытуе імя славутага гісторыка. Але аўтар прадмовы забываецца на гэты факт, апантаны жаданнем затаптаць у гразь імя другога гісторыка.

У гэтай апантанасці «заснавальнік і каардынатар» серыі забываецца, што ён яшчэ і рэдактар. А таму ў кніжцы А. Астапенкі безліч арфаграфічных памылак, стылёва недапушчальных выразаў накшталт «адгадаваныя тлустыя літоўцы», «эйфарыя прыйшла ў свой антыпод», «паходзіў хоць з

сялянскай, але пародзістай сям'і», «ішоў, як сабака па следу» (гэта пра М. Ермаловіча!). Сустракаюцца і факталагічныя памылкі. Скажам, рэдактарам часопіса «Маладосць», які надрукаваў Ермаловічаву «Старажытную Беларусь», быў не Генрых Далідовіч, а Анатоль Грачанікаў.

Ведаючы А. Астапенку, я патэлефанаваў яму і сказаў: прадмова пахавала тваю кніжку. У адказ пачуў, што «заснавальнік, каардынатар і рэдактар» уставіў яе туды без ведама аўтара... Як кажуць, далей ехаць няма куды.

За паклёп і шахрайства Статут ВКЛ 1588 года, якім больш за два стагоддзі карысталіся нашы продкі, прадугледжваў пакаранне — «быць бітым ля ганебнага слупа розгамі». Пра гэта, напэўна ж, ведаў Мікола Ермаловіч — герой кніжкі, якой так не пашанцавала з прадмовай. Думаю, і для яе «антыгероя» Алеся Краўцэвіча Статут ВКЛ — падручная кніга. Не шкодзіла б і Анатолю Тарасу часцей заглядаць у той статут — асабліва перад «каардынаваннем» свайго чарговага выдавецкага праекта ці напісаннем да яго прадмовы. А раптам падзейнічала б, і выдавецтву «Харвест» (менавіта яно выпускае серыю «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры») не давялося б чырванець за сваю прадукцыю.

На гэтым можна было б паставіць кропку. Але днямі мне патэлефанаваў адзін паважаны чалавек і «ад імя Анатоля Тараса» папрасіў напісаць кніжку пра Ларысу Геніюш — для тае самае «харвестаўскай» серыі. Натуральна, я адмовіўся. Кніжку тую, хутчэй за ўсё, нехта напіша. А ў прадмове да яе «заснавальнік, каардынатар і рэдактар» зможа даць свой чарговы суровы адлуп, і я нават здагадваюся — каму...

*2016*

# ХТО КАНАНІЗАВАЎ ГАЎЛЯЙТАРА КУБЭ?

За апублікаваныя карыкатуры на прарока Мухамеда рэдакцыя французскага часопіса «Шарлі Эбдо» была расстраляная тэрарыстамі. Водгалас тых аўтаматных чэргаў доўга яшчэ чуўся ў еўрапейскіх сталіцах і мусульманскіх краінах. І неяк усе эксперты сышліся на тым, што маляваць падобныя карыкатуры непажадана, але ўвогуле можна, а вось забіваць за іх — катэгарычна нельга. Хто ж тут будзе пярэчыць наконт самасуду і забойства? Не забі — пастулат у хрысціянскім свеце неаспрэчны.

Але свет хрысціянскі — толькі частка свету агульнага, дзе могуць дзейнічаць зусім другія правілы. Ну не прыдуманая яшчэ нейкая прымальная для ўсіх народаў канстытуцыя, паўсюль абавязковая да выканання. Ды і пра зацверджаную ААН Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека палова насельніцтва зямлі ў лепшым выпадку толькі чула. І жыве тая палова, кіруючыся сваімі законамі, у тым ліку рэлігійнымі. Таму, на вялікі жаль, чалавецтва і ў будучыні не абыдзецца без разборак на рэлігійнай глебе. Занадта блізка, проста небяспечна блізка сышліся ў паўсядзённым жыцці розныя рэлігіі. Рана ці позна іскра паміж імі праскочыць, і штосьці выбухне.

Міжрэлігійныя, нават міжканфесійныя адносіны — увогуле вельмі далікатная сфера. І спрадвеку талерантная Беларусь тут не вынятак. Згадайма верш Алеся Гаруна «Спрэчка», героі якога сустрэліся на местачковым кірмашы. І ўсё было б у іх добра, каб хтосьці не скіраваў кірмашовую дыскусію ў рэлігійнае рэчышча.

Так ад цэнаў, бульбы, меры,
Што на рынку фальш дае,
Зачапілі справы веры
Дый... счапілісь за яе!

Гэтта слоў ім не хапіла, —
Знана вёска: словаў брак!
Потым, слова — хіба ж сіла?
Хіба ж зробіць, як кулак?

От і пляснуў Тодар ў вуха
Па-суседску Тамашу,
І паўстала завіруха
У карчме на кірмашу.

Завіруху тую праз пэўны час супыніў дзед Ігнацы — гэткі сабе міратворца, хоць і не ў аанаўскай касцы. Ён разняў разгарачаных сварліўцаў і прачытаў ім цэлую лекцыю пра неабходнасць мірнага суіснавання. А каб не дзед Ігнацы? Пазабіваліся б да смерці тыя дзядзька Тодар, два Пранцішкі, сват Гілерык і кум Тамаш.

Як падаецца, у сучаснай Беларусі падставаў для міжрэлігійнай варажнечы няма. Дзве асноўныя канфесіі — праваслаўная і каталіцкая — маюць свае прызнаныя дзяржавай святы, іхнія кафедральныя саборы ў сталіцы нярэдка перазвоньваюцца цераз вуліцу, свае духоўныя семінарыі маюць і тыя, і тыя. Адраджаецца і будуе свае храмы царква ўніяцкая, чыйго святога Язафата Кунцэвіча, праўда, на дух не пераносіць РПЦ. Якімі толькі эпітэтамі не хрысціць яго праваслаўны друк, тая ж «Жыровіцкая абіцель»: і вераадступнік, і ерэтык, і схізматык... Ну, але гэта гісторыя даўняя, тагачасныя падзеі «ў капцах паснулі, зеллем парасьлі».

Не той, кажаце, Язафат Кунцэвіч святы? А як вы паставіцеся да другога святога, імя якога неяк адразу і не назавеш. Кананізаваў яго не Папа Рымскі з Калегіяй кардыналаў, а малады празаік Андрэй Лазуткін, чыя аповесць «Полигон» выйшла нядаўна ў выдавецтве «Кнігазбор».

Сучасных чытачоў мала чым здзівіць ці абурыць можна. Прывыклі ўжо да ўсяго. Тым больш калі выдавецкая анатацыя папярэджвае, што кніга, напісаная ў жанры «ост-мадэрнізму», «кагосьці раніць, для кагосьці стане адкрыццём». То бок аўтар загадзя намерыўся нанесці камусьці рану. Але і папярэджаны чытач, думаю, спатыкнецца аб наступны тэкст

(стар. 39): «Наша греко-католическая церковь причислила убиенного гауляйтера Вильгельма Кубэ к лику мучеников — иконку со святым Вильгельмом Минским можно купить в любой церковной лавке».

Вось дык «адкрыццё» зрабіў Андрэй Лазуткін — беларуская ўніяцкая царква ў почат святых да пакутніка за веру Язафата Кунцэвіча дадала гаўляйтара Кубэ! Вось такі «ост-мадэрнізм» атрымаўся ў аўтара. Як ні дзіўна, гэтае «адкрыццё» і гэткі «ост-мадэрнізм» не выклікалі пярэчанняў у дасведчанай рэдактаркі кнігі Людмілы Рублеўскай.

Мастацкая аповесць, скажаце? Выдуманая фабула, гратэскавы сюжэт? Але ж уніяцкая царква ў Беларусі — рэальнасць, ды і Кубэ — не выдуманы персанаж. І калі мітрапаліт Сяргей Гаек звернецца з адпаведным пазовам у суд — хто адважыцца яго папракнуць? Я не адважуся, бо лічу, што «кананізацыя Кубэ» — свядомая правакацыя з мэтай выклікаць скандальчык. Праз скандальчык і ўвядоміцца можна, і героем у чыіхсьці вачах стаць.

Гісторыя з гаўляйтарам — не адзінае «адкрыццё» Андрэя Лазуткіна. На старонках ягонай кнігі можна прачытаць пасажы накшталт: «Белорусская центральная рада — хуже фашистов», або: «полешуки — что-то вроде чукчей». А калі хтосьці ў ягонай аповесці вітаецца: «Хайль Гітлер!», то абавязкова чуе ў адказ: «Жыве!» А калі, выбачаюся, камусьці падцерціся трэба, то аўтар знаходліва падсоўвае яму «Беларускую газету» з партрэтам прэзідэнта БЦР Радаслава Астроўскага. Увогуле, прыбіральняў у «Полигоне» яўна не хапае, таму галаву галоўнага героя пастаянна «сверлит навязчивая мысль: где бы поссать?».

Вось такой «честной и талантливой прозой» (з тае самае анатацыі) частуе нас малады пісьменнік. Чытаючы яе, міжволі ўзгадваеш показку: калі пад дзвярыма хтосьці наваліў, а потым пазваніў, то мае месца інсталяцыя, а калі спачатку пазваніў, а потым наваліў, то гэта перформанс.

«Полигон» таварыша Лазуткіна (ён сябра камуністычнай партыі, таму падобны зварот да месца) — гэта названыя вы-

шэй жанры ў адным флаконе. Таму і пахне адпаведна, ажно на ваніты цягне.

Я ўжо не кажу пра «адкрыцці» ў галіне адукацыі. Аўтар, які нібы на машыне часу раз-пораз апынаецца ў акупаваным немцамі Менску, цвердзіць, што ў тагачасных беларускіх школах вучылі толькі лічыць да ста. А для каго ж тады друкаваліся падручнікі статысячнымі накладамі? Ці іх «кананізаваны» неўзабаве гаўляйтар у райх вагонамі адпраўляў? На распалку, выбачаюся, печаў у Дахау і Бухенвальдзе...

Палігоны бываюць розныя. Напрыклад, «палігон ног і лап» паэта Віктара Жыбуля — гэта паліндром, які чытаецца аднолькава з абодвух бакоў. Гульня словаў, якая нікога не раніць. А «Полигон» Андрэя Лазуткіна чытача без адпаведнага імунітэту абражае і раніць, і выклікае ўстойлівае жаданне выкінуць увесь гэты «ост-мадэрнізм» у кантэйнэр для смецця. Пакуль, крый Божа, хто-небудзь не кінуў гранату ў акно выдавецтва «Кнігазбор»...

*2016*

# ПРАЎДА З-ПАД ШЫБЕНІЦЫ

*Памяці Генадзя Кісялёва,*
*летапісца Паўстання 1863 г.*

Улетку 1987 года звольніўшыся з савецкага войска, я закінуў свой дэсантніцкі блакітны берэт з усёй так абрыдлай за два гады вайсковай формай на гарышча і, захмялелы ад доўгачаканай свабоды, на пару з сябрам паехаў на колькі дзён у Гародню. Пра тыя пару дзён можна было б зняць прыгодніцкі фільм, дзе фігуравалі б светлай памяці гарадзенскі рэстаран «Зубр», купанне ў хуткаплынным Нёмане проста ля падножжа Каложы, дэманстрацыя рукапашнага бою ў студэнцкім інтэрнаце на вуліцы Парыжскай Камуны...

Але ўсё пералічанае ўспамінаецца неяк фрагментарна і — нібы ў тумане. Кантрасна і да драбніцаў запомнілася іншае. Аднойчы пасля вясёлай начы мы з сябрам зайшлі на зацішнай вуліцы ў Музей Максіма Багдановіча. Там на сцяне вісеў плакат са словамі Кастуся Каліноўскага: «Я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасліва, калі над табою маскаля ўжо не будзе».

Уражаныя, мы з сябрам надоўга спыніліся каля таго плаката. Прачыталі ўслых, з выклікам паглядваючы на прысутную супрацоўніцу музея. Нуль увагі. Учарашнія савецкія вайскоўцы, мы добра ведалі, што такое інтэрнацыянальныя адносіны ў дзеянні і што дзевяноста адсоткаў канфліктаў у войску адбываліся акурат на нацыянальнай глебе. Прычым пераважна з удзелам тых самых маскалёў, якія ў любым вайсковым фармаванні, як правіла, колькасна пераважалі. Дык тое ў войску, пасля адбою, дзе-небудзь у сушылцы ці капцёрцы. А тут у савецкім дзяржаўным музеі, навідавоку, вісіць плакат выразнай антырасійскай скіраванасці, і ніхто і ў вус не дзьме...

Ледзьве дачакаўшыся восені, я аднавіўся на родным філфаку БДУ і найперш пачаў шукаць твор Каліноўскага, цытата з

якога мне так запомнілася ў гарадзенскім музеі. Добрыя людзі далі пачытаць «Лісты з-пад шыбеніцы» і «Мужыцкую праўду».

Сто пяцьдзясят гадоў таму з гэтай самай нелегальнай «праўды» пачалася беларуская незалежная прэса. «Мужыцкая праўда» ад шляхціца Каліноўскага, першы нумар якое датуецца чэрвенем 1862 года, за кароткі час разварушыла тры губерні — Гарадзенскую, Менскую і Віленскую. Пярэдадзень паўстання ўвідавочніўся і для селяніна адкуль-небудзь з-пад Саколкі, і для найвышэйшых чыноўнікаў у Пецярбурзе.

«Мужыцкая праўда» стала тым крэсівам, ад якога запаліўся народны гнеў. Пра яе складалі цыркуляры прыставы і губернатары. Гэта ёй аддавалі пальму першынства выдаўцы «Нашай нівы», калі ў падзагаловак свайго выдання «першая беларуская газета» дадалі: «з рысункамі». Бо «без рысункаў» газета ўжо існавала. І менавіта яна ператварала ўчарашніх мірных касцоў у ваяўнічых касінераў.

Кастусь Каліноўскі быў не толькі адважным і таленавітым аўтарам, але і распаўсюднікам-рызыкантам. Ён сам давозіў «Мужыцкую праўду» да чытачоў. Прыстаў Слонімскага павета зафіксаваў у адным з данясенняў: 7 кастрычніка 1862 года невядомы ехаў балаголам па дарозе Слонім–Ваўкавыск і не хаваючыся раскідваў крамольную газету па навакольных вёсках. Гэтым невядомым быў Каліноўскі.

«Мужыцкую праўду» часам знаходзілі ў самых нечаканых месцах. Так, тэрмінова пасланы ў Гарадзенскую губерню штабс-капітан Чарнапятаў дакладваў, што выявіў газету на прыдарожных крыжах. Скрыжаванні былі сялянскімі чытальнямі. Едзеш на кірмаш ці на вяселле — спыніся і пачытай.

У мястэчку Дзятлава прыстаў знайшоў «Мужыцкую праўду» ў згубленым на вуліцы вузельчыку з медзякамі.

Трыццаць сем асобнікаў «Мужыцкай праўды» ўлады пад час ператрусу выявілі нават у казённай установе — у Гарадзенскай палаце дзяржаўнай маёмасці. У газетны скрутак была ўкладзеная запіска: «Разаслаць у вёскі непрыкметным спосабам у форме лістоў. Зямляк, не парушай веры, у адваротным выпадку — спалі».

«Мужыцкую праўду» завучвалі на памяць, каб пераказаць тым, хто не ўмеў чытаць. Жыхар Сакольскага павета Міхал Зянцюк прызнаўся на допыце, што чытаў газету з памяці свайму суседу, калі яны разам збіралі ў лесе ламачча.

Яшчэ ў 1960 годзе (амаль праз сто гадоў пасля выхаду ў свет!) «Мужыцкую праўду» знайшлі рамонтнікі на гарышчы старога дома ў Вільні. У схоўніцы ляжаў нумар газеты і заржавелы штык, прыхаваныя, відаць, да новага паўстання.

«Мужыцкая праўда» трапіла і ў далёкае замежжа — у Лондан, дзе расійскі палітэмігрант Аляксандр Герцэн назваў яе «лятучым лістком». А прадстаўнік другога лагера славянафіл Іван Аксакаў абазваў першую беларускую газету «паскудным польскім творам, поўным паклёпаў на Расію». Польскім, відаць, таму, што «Мужыцкая праўда» друкавалася беларускай лацінкай, якую расійцы (не толькі славянафілы) пачасту блыталі з польскай мовай.

Невядома, дзе знаходзіўся той друкарскі варштат, з якога зляцелі ў свет сем нумароў «Мужыцкай праўды». Даследчыкі называюць толькі верагодныя гарады — Беласток, Гародню, Вільню. Невядомы і друкар, які на свой страх і рызыку падклаў бомбу пад усю паўночна-заходнюю ўскраіну велізарнай імперыі. Вось каму пасаваў бы (хай сабе і пасмяротна) ордэн Францішка Скарыны! А то апошнім часам яго чапляюць на грудзі такім дзеячам, што хочацца наўслед за Высоцкім запратэставаць: «Отберите орден у Насера, не подходит к ордену Насер!»

Сто пяцьдзясят гадоў прамінула, а «Мужыцкая праўда» і сёння актуальная, яе нумары можна даваць перадавіцамі ў цяперашніх незалежных газетах, і які-небудзь «станавы прыстаў» з Міністэрства інфармацыі абавязкова знойдзе там крамолу — «распальванне нацыянальнай варажнечы» ці штосьці падобнае.

Дзіву даешся, як малады (дваццацічатырохгадовы!) Кастусь Каліноўскі, для паважнасці ўзяўшы сабе псеўданім Яська — гаспадар з-пад Вільні, так трапна і празорліва вызначыў, што павінны былі зрабіць беларусы яшчэ ў XIX стагоддзі, не зрабілі ў XX і не спяшаюцца зрабіць у XXI. А Каліноўскі ўсё распісаў,

склаў для сваіх суайчыннікаў навырост своеасаблівы кодэкс будаўніка Беларускай дзяржавы.

Вось у першым нумары «Мужыцкай праўды» гучыць яго палымяны заклік да салідарнасці: «Возьмемся, дзецюкі, за рукі і дзяржэмася разам!»

Галоўная тэма другога нумара — грамадзянскае непадпарадкаванне: «Калі хочаце бараніць сваю зямлю, то не служэце паншчыны і не плацеце падаткі ў казну — от і будзе справядлівасць».

У трэцім нумары — на першым месцы імператыў свабоды і несакрушальная вера ў свой народ, кіраваны Божым провідам: «Нам вольнасці трэба, але такой, якую мы самі паміж сабой зробім. Толькі, дзецюкі, смела, бо з намі Бог і праўда, а калі мы з Богам, то з намі ваяваць трудна, бо Боская моц вялікая, а народу многа».

Каліноўскі, відаць, быў выдатным прамоўцам. «Мужыцкая праўда» літаральна нашпігаваная афарызмамі.

У чацвёртым нумары адразу кідаецца ў вочы крылаты выраз, з якога павінны пачынацца ўсе беларускія падручнікі па паліталогіі: «Не народ зроблены для ўрада, а ўрад для народа — гэтак, дзецюкі, ёсць на цалюсенькім свеце». Тамсама знаходзім словы пра зрусіфікаваную школу: «У нас, дзецюкі, адно вучаць у школах, каб ты знаў чытаць па-маскоўску, каб цябе зусім праўна перарабіць на маскаля». У часы Каліноўскага гэткай школе ў дапамогу прызначаўся расійскі штык, а сёння свае ж айчынныя міністры і падміністры без усякіх штыкоў самахоць нішчаць нацыянальную адукацыю на карані.

Мы безліч разоў чулі, як доблеснае беларускае войска збіраецца касцьмі легчы, а не прапусціць натаўскія танкі на Расію. А адносна нядаўна падпісаная дамова пра калектыўную бяспеку дазваляе ў выпадку патрэбы кінуць беларускіх вайскоўцаў у якую-небудзь гарачую кропку на тэрыторыі Расіі. Вось жа і пра гэта яшчэ сто пяцьдзясят гадоў таму ведаў і пісаў Кастусь Каліноўскі ў пятым нумары сваёй «Мужыцкай праўды»: «Нашымі грудзьмі цар маскоўскі застаўляецца і нашымі рукамі ўсмірае бунты і запрагае ўсіх нас у вечную няволю».

Шосты нумар газеты прысвечаны пытанню веры, і тут Каліноўскі не вагаецца: «Цар маскоўскі перакупіў многа папоў і вялеў нас у схізму запісаць і, як антыхрыст, адабраў ад нас нашу справядлівую ўніяцкую веру». За прыхільнасць да ўніяцтва аўтара «Мужыцкай праўды» шмат хто з айчынных гісторыкаў ушчуваў. Шматлікіх праваслаўных бацюшак, узнагароджаных расійскім дзяржаўным медалём з надпісам «За усмирение польского мятежа 1863 года», Каліноўскі наўрад ці паспеў пабачыць. Але галоўную ролю РПЦ на беларускіх землях ён разумеў выдатна. Пройдзе паўтара стагоддзя, і беларускі аддзел гэтай разгалінаванай структуры збярэцца кананізаваць самага зацятага змагара з уніяй — мітрапаліта Іосіфа Сямашку...

І нарэшце, сёмы, апошні нумар «Мужыцкай праўды» адкрыта заклікае да ўзброенага паўстання: «Трэба нашым хлопцам спяшыць з віламі ды косамі туды, дзе дабіваюцца волі і праўды, адкуль цягне на нас нячыстая маскоўская сіла».

Мяркуючы па арэале распаўсюджвання і па колькасці выяўленых асобнікаў, наклад «Мужыцкай праўды» сягаў некалькіх тысячаў. Але спрацаваў прынцып «прачытай і перадай (перакажы) другому», і ў паўстанцкія шэрагі сталі каля дваццаці пяці тысячаў чалавек. Супраць ста дваццаці тысячаў рэгулярнага войска. Косы ды вілы — супраць штуцараў і гарматаў...

Праз год з чытачоў «Мужыцкай праўды» будуць фармавацца арыштанцкія роты, брыгады катаржнікаў у сібірскіх рудніках. 128 чалавек будуць павешаныя — па распараджэнні генерал-губернатара Мураўёва. Паводле сучасных беларускіх падручнікаў па гісторыі — «таленавітага адміністратара», чыю дзейнасць некаторыя высакалобыя дактары навук называюць амбівалентнай. Маўляў, ён не толькі караў бунтароў, але і школы адчыняў. Але шыбеніца не бывае амбівалентнай!

На прапанову пакаяцца Кастусь Каліноўскі адказаў следчаму: «Усведамленне сваёй годнасці і таго становішча, якое я займаў у грамадстве, не дазваляе мне ісці іншым шляхам». І пайшоў на эшафот.

У камеры смяротнікаў дапісваў Каліноўскі сваю «Мужыцкую праўду». Прычым калі напярэдадні паўстання ён звяртаўся да дзецюкоў і мужыкоў, то з-за кратаў ён ужо прамаўляў да народа. І стоячы на Лукішках халоднай сакавіцкай раніцай, ён бачыў перад сабою народ, дзеля якога ішоў на смерць.

Якая ж асноўная думка Каліноўскага, ягоны запавет, які ён хацеў данесці да свайго народа? Што ж, пачуйма — ціхі голас з таго свету часам больш чутны для нас, чым адчайныя ляментацыі з гэтага. Вось цытаты з тае самае «Мужыцкай праўды»:

«Ад маскаля няма чаго дабра спадзявацца... Маскаль хітры, урад маскоўскі нас дурманіць... Бяспечнасці пад маскалём ніякай няма... Жыццё пад маскалём — горкая доля... Паспрыяеш маскалю — саграшыш перад Богам... Маскаль — як саранча, што худобу гаспадарскую глуміць... Храмы нашы маскаль перарабіў на стайні... Як дзень з ноччу не сходзяцца, так не ідзе разам навука праўдзівая з няволяй маскоўскай... З усіх старон маскалі цяпер талкуюць нам без устанку аб сваім брацтве з намі, але брацтва там нямнога знойдзеш».

Ясна ўсё як Божы дзень. А беларускія палітыкі (як прыўладныя, так і апазіцыйныя) так любяць пры кожным зручным выпадку пахваліцца сваімі крамлёўскімі сувязямі...

Цяпер зразумела, чаму постсавецкая афіцыйная гістарыяграфія Кастуся Каліноўскага на дух не пераносіць і з нацыянальнага героя спрабуе ператварыць у тэрарыста з варшаўскай арыентацыяй.

Вось чаму, нягледзячы на ўсе высілкі інтэлігенцыі і безліч праектаў, ні ў сталіцы Беларусі, ні нават у абласных цэнтрах так і не з'явілася ніводнага помніка Каліноўскаму. Адзіны ў Беларусі помнік герою яшчэ за савецкім часам усталяваны ў мястэчку Свіслач на Гарадзеншчыне. Сучасная ўлада дэмантаваць яго не адважылася. Затое паставіла непадалёк помнік Сталіну. Так і стаіць Кастусь Каліноўскі пад пільным наглядам генералісімуса — каб крый Божа зноў якога паўстання не арганізаваў.

*2012*

# КАІНАВА БРАТЭРСТВА

«І сказаў Каін Авелю, брату свайму: хадзем у поле. І калі яны былі ў полі, паўстаў Каін на Авеля, брата свайго, і забіў яго» (Быццё, 4:8). Першае ў гісторыі чалавецтва братазабойства было ўчыненае з-за дробязі: ахвяра Авеля прыйшлася больш даспадобы Богу, чым ахвяра Каіна, і апошні зараўнаваў. Факт забойства знайшоў сваё адлюстраванне ў шматлікіх творах мастацтва, спарадзіў крылатыя выразы: каінава пячатка і г. д. Набыў, адным словам, шырокую вядомасць.

Чамусьці падрабязнасці гэтай біблейскай гісторыі заўсёды выклікалі куды меншую цікавасць. Ну вось, напрыклад, чым Каін забіў Авеля?

Славуты ілюстратар Бібліі Густаў Дарэ паказвае Каіна з нейкай невыразнай ламачынай. Ды і забойства адбываецца відавочна не ў полі, а ў нейкім змрочным, зарослым хмызняком яры.

На карціне Аляксея Марачкіна «Каін і Авель» старэйшы брат забівае малодшага штылетам, які, па праўдзе кажучы, не зусім спалучаецца з набедранымі павязкамі сыноў Адама і Евы.

У паэта Алеся Пісьмянкова мне сустрэліся радкі: «Ох і лёгкі у Каіна нож, / ох і цяжкі у Каіна грэх!»

Мастак, вядома ж, мае права на фантазію, на свой, сучаснай мовай кажучы, відэашэраг у асэнсаванні біблейскага сюжэту. Але калі трымацца першакрыніцы, то смяротнай зброяй Каіна была звычайная асліная сківіца. Што трапілася пад руку зайздросніку, тым і ўдарыў.

Наўрад ці гэтая старазапаветная трагедыя і праз тысячы гадоў захавала б сваю прыцягальнасць, каб у тым бязлюдным полі насмерць сышліся ў двубоі проста араты і проста пастух. Але адбылося братазабойства, якое мусіў не дазволіць, не дапусціць голас крыві. Мусіў не дапусціць, але дапусціў.

Біблейскія тэксты не павінны ўспрымацца літаральна, гэта хутчэй павучальныя прыпавесці, якія лёгка накладаюцца і на сучаснасць. За прамінулыя з часоў Каіна і Авеля тысячагод-

дзі брат брата забіваў безліч разоў. І спадцішка, і на барыкадах грамадзянскіх войнаў, і ў міждзяржаўных закалотах. Да паслугаў братазабойцаў былі і ёсць цэлыя арсеналы бясконца дасканаленай зброі. Але якой бы сучаснай і эфектыўнай яна ні была, за ёю ўсё роўна праглядаецца асліная сківіца.

У контурах установак залпавага агню «Град», якія зруйнавалі дзясяткі гарадоў і вёсак на Данеччыне, можна заўважыць абрысы аслінай сківіцы. Драпежныя гарбаносыя МіГі ляцяць, як асліныя сківіцы. Кожны калашнікаў у руках салдата — як асліная сківіца. Калі «Град», МіГ і калашнікаў — зброя ў братазабойчай вайне, гэта — асліныя сківіцы XXI стагоддзя. Нават тэлевізар можа прыняць абрысы аслінай сківіцы, калі з яго няспынна льецца братазабойчая хлусня.

Гісторыя пра своеасаблівае — Каінава — братэрства міжволі прыходзіць на розум, калі глядзіш федэральныя расійскія тэлеканалы, чытаеш афіцыйныя і прыватныя расійскія сайты. Братэрскі народ, брацкая краіна, браты-славяне... А ў тых, хто спявае пра братэрскую любоў, з-пад крыса вытыркаецца асліная сківіца. Менавіта яна з’яўляецца неад’емным атрыбутам расійска-ўкраінскіх адносінаў апошнім часам.

І калі «Газпрам», што гарыць сінім полымем, абвяшчае Украіне газават — газавую вайну, — ён таксама ваяўніча трасе над галавой аслінай сківіцай.

Дзіўна, але нават некаторыя расійскія пісьменнікі (прадстаўнікі яшчэ той, «самай гуманнай у свеце» савецкай літаратуры) парабіліся глашатаямі вайны. Прычым літаратурныя ветэраны накшталт Аляксандра Праханава дарэмна думаюць, што іх на перадавую не пашлюць. Памыляюцца, бо іхняя зброя — усё тая ж асліная сківіца слова, і яна як, злавесны бумеранг, імгненна далятае да Украіны хоць сабе і з берагоў Байкала.

Дакладны дыягназ сваім калегам, якія ўзялі ў рукі братазабойчую зброю, паставіў расійскі празаік Віктар Ерафееў, нават не спрабуючы кагосьці адвесці ўбок, далей ад тых, хто падхапіў, як ён піша, «вірус імперыялізму». Гэта не правакацыйныя прыдумкі злых бандэраўцаў, так расіяне бачаць саміх сябе: «Мы даже не скрываем наше чувство превосходства перед нашим

младшим братом, украинцем, или, скорее сказать, хохлом. Мы его зовём к себе как заблудшую овцу, и когда эта овца к нам вернётся, её нужно будет как следует взгреть».

Небяспечныя вірусы ў нашых камп'ютарах лёгка выяўляюцца і знішчаюцца адмысловымі праграмамі. Але ніякі касперскі не здольны знішчыць імперскі вірус у свядомасці нашага ўсходняга суседа. Не Праханаў з Захарам Прылепіным яго прыдумалі. На вялікі жаль, вірус гэты можна заўважыць шмат у каго з расійскіх класікаў. Хто там да нас найбліжэй? Пачытайма позняга Іосіфа Бродскага (маці якога, дарэчы, была родам з Дзвінска): «Прощевайте, хохлы, пожили вместе — хватит. / Плюнуть, что ли, в Днепро, может он вспять покатит». І далей — зняважліва пра «брехню Тараса». Тут ужо не вірус, а падазрэнне на доўгі час хаваную форму хранічнай хваробы.

Малы Ося — такую мянушку Бродскаму дала Ганна Ахматава, якая ў свой час блізка ведала вялікага Осю — Мандэльштама. А што сама Ганна Андрэеўна? У сваіх дзённіках паэтка пакінула недвухсэнсоўны запіс: «У меня в Киеве была очень тяжёлая жизнь, и я страну ту не люблю и язык. Мамо, ходимо — не люблю». Ці не ад аўтаркі знакамітага «Рэквіема» падхапіў вірус нелюбові да Украіны малы Ося? Падхапіў, каб падгадаваць і пры зручным выпадку пусціць далей.

А калі зірнуць не далей, а глыбей? Скажам, у стагоддзе XIX, дзе свяціла сонца расійскай паэзіі Пушкін? Плямы на сонцы і шукаць не трэба, яны відны няўзброеным вокам: «Славянские ручьи сольются в русском море...» Верш гэты, «Клеветникам России», быў пакліканы да жыцця нацыянальна-вызвольным Паўстаннем 1830 года, «волнением Литвы» — паводле Пушкіна. Ён у 1831 годзе зусім у духу сучасных пуцінскіх прапагандыстаў даваў адлуп ліберальнай Еўропе і заклі́каў да рашучых дзеянняў суайчыннікаў: «Вы грозны на словах — попробуйте на деле! / Иль старый богатырь, покойный на постеле, / Не в силах завинтить свой измаильский штык? / Иль русского царя уже бессильно слово? / Иль нам с Европой спорить ново? / Иль русский от побед отвык?» Дарэчы, паз-

ней паэт паплаціўся за гэты верш уласным помнікам — ён быў прыбраны з бульвара ў Вільні і схаваны ў музей.

Пасля «Клеветников России» імперскі вірус проста з падскокам гуляў па ўсёй расійскай літаратуры. Некаторыя паэты захварэлі невылечна, як, напрыклад, Цютчаў: «Так мы под горестной Варшавой / удар свершили роковой, / купили сей ценой кровавой / Росии целость и покой». «Кичливый лях», «орёл презренный, хоть одноплеменный» — гэта тое, што было дазволена цэнзурай, якая, трэба прызнаць, часам стрымлівала сваіх песняроў. Нават сам цар быў вымушаны на адным з падобных твораў накрэсліць рэзалюцыю: «Прошу вас поляков не ненавидеть». Падумаць толькі — цар уціхамірваў паэтаў!

Наўрад ці мы прычакаем падобных міралюбных заклікаў ад Пуціна — адносна ўкраінцаў. Наадварот, крамлёўская прапагандысцкая машына гоніць мітынговую хвалю па ўсёй Расіі — ад Уладзівастока да Белгарада і Бранска. Хваля пераліваецца цераз мяжу, і ўжо пад расійскімі трыкалёрамі хвалюецца плошча ў Харкаве. Асабліва хутка распаўсюджваецца імперскі вірус там, дзе ёсць аазісы з адпаведным кліматам — расійскія вайсковыя базы, манастыры РПЦ... Летась я звазіў аднаго замежнага прафесара-беларусіста ў Жыровічы. Ён выйшаў за манастырскую браму, азірнуўся і паныла прадэкламаваў: «Там русский дух, там Русью пахнет».

Сітуацыя ва Украіне — апошняе папярэджанне нам, беларусам. Традыцыйныя яшчэ з савецкіх часоў узаемныя прызнанні ў братэрскай любові чым далей, тым часцей гучаць як шаманскія камланні. І хочацца зазірнуць за спіну шаману — ці не прыхаваў ён там асліную скіўіцу? Каінава братэрства — вось такая сёння ў нас з Расіяй ступень сваяцтва.

*2013*

# «АБЫ ВОЛЬНОСТИ УЖИВАТИ МОГЛИ»

Для пільных беларускіх памежнікаў кніга — тавар кантрабандны. Як наркотык ці зброя. Паспрабуйце ў прысутнасці суворага чалавека ў пагонах прызнацца, што ўвозіце ў Беларусь кнігі, — і вас будуць абшукваць доўга і настойліва. Магчыма, нават з чацвераногім памочнікам. Вам любы сабака з задавальненнем пацвердзіць, што свежавыдрукаваная кніга — рэч дужа пахучая, і знюхаць яе ў любым багажы, нават пад накрухмаленымі кашулямі, вельмі проста.

Як пахне кніга, выдадзеная чатыры з чвэрцю стагоддзі таму, мабыць, ніводны сабака, што служыць на мяжы, не ведае. Рэдка возяцца падобныя рарытэты з краіны ў краіну, таму практыкі ў сабак аніякай. На розны антыкварыят больш «настроеныя» рукі і вочы ў людзей. Вось жа і ў расійскіх памежнікаў, відаць, свярбелі рукі затрымаць на мяжы Статут ВКЛ, які нядаўна везлі з Масквы ў Менск. Як-ніяк гісторыка-культурная каштоўнасць. Дзеля гэтага сучасным карацупам не трэба было дзяжурыць ночы напралёт — у СМІ нават быў абвешчаны дзень, калі той Статут павязуць. Але дзіва дзіўнае — каштоўнасць вывезці дазволілі, як быццам ехала яна не ў другую краіну, а куды-небудзь у Сыктыўкар ці ў Пензу.

Мала таго, дайце веры, старадрук на маскоўскім аўкцыёне быў куплены з дапамогай расійскай кампаніі «Альпары». Для братняй Беларусі нам грошай не шкада — патлумачыў яе прадстаўнік. Ну і азадачылі вы нас, рабяты, — як любіла гаварыць мая школьная настаўніца беларускай мовы і літаратуры.

Стагоддзямі вывозілі, а цяпер нарэшце вяртаць пачалі? Дык, можа, і дзясятак-другі слуцкіх паясоў падкінеце? А то барысаўскія ткачыхі ў роспачы: з высокай трыбуны абвешчана: слуцкі пояс — у кожны дом, а ўзорных экзэмпляраў — няма. А можа, і Крыж Ефрасінні Полацкай па запасніках маскоўскіх музеяў пашукаеце? Бо дзе ж яму было падзецца з ахопленага ваеннай панікай Магілёва, як не на ўсход? А там, глядзіш, і мастацкія скарбы з сапегаўскага Дзярэчына, сканфіскаваныя

пасля паўстання 1831 года, надумаеце вярнуць. Што праўда, паў-Эрмітажа падчысціць давядзецца...

Вось была б праява ісцінна братэрскай любові — пасля памятнага пуцінскага візіта ў Менск — «на сваю зямлю», як прагучала ў прывітальным вернападданіцкім слове ад прымаўшага боку. Пасля Пуціна — і Статут прыбыў. Вось такія ў нас цяпер з Расіяй новыя статутныя адносіны.

Ці тут няма прычынна-выніковай сувязі, проста так усё супала? І ахвяраўскладанне на алтар братэрства ад кампаніі «Альпары», і згаворлівасць невядомага маскоўскага калекцыянера, і актыўнасць (нарэшце!) беларускіх мецэнатаў ды грамадзянскай супольнасці ў справе вяртання на радзіму насамрэч каштоўнай музейнай рэчы?

Зрэшты, у любым выпадку мы пабагацелі, і цяпер Беларусь па колькасці статутаў ВКЛ апынулася нароўні з Вялікабрытаніяй: у Лондане — адзін статут і ў Магілёве — адзін. А ў Расіі гэтых статутаў — хоць у макулатуру здавай...

Але найбольш мяне пацешыла ў гэтых беларуска-расійскіх статутных адносінах пазіцыя літоўскіх гісторыкаў. Маўляў, Статут ВКЛ 1588 года для літоўцаў — не унікум... Калі для вас не унікум, то перадайце (прадайце, абмяняйце) беларусам, для якіх Статут гэты — найунікальнейшая рэч, якая па сваёй каштоўнасці можа зраўняцца хіба са Скарынавай Бібліяй. Бо Статут і Біблія, напісаныя на старабеларускай мове, — гэта ж проста кутнія камяні пад гмах нашай дзяржаўнасці. А пад што могуць літоўцы «падкласці» наш Статут? Гэта ж не Пагоня, не вершнік збройны на кані, якому хвост вышэй задраў — і паводле геральдычных законаў гэта ўжо зусім другі герб...

Сёлета я зайшоў у кнігарню на праспекце Гедыміна ў Вільні і літаральна аслупянеў. Ля прылаўка, проста на падлозе, ляжаў цэлы штабель статутаў ВКЛ 1529 года! Выдадзеных яшчэ ў савецкай Літве, у супервокладках, на трох мовах — у арыгінале, па-расійску і па-літоўску, з навуковымі каментарамі. Яшчэ больш я разгубіўся, калі на кожным фаліянце згледзеў налепку — 1 літ. Думаючы, што тут мае месца нейкая памылка, я перапытаў пра кошт у прадавачкі. Не, памылкі не было. Факсімільнае перавыданне Статута 1529 года насамрэч каш-

тавала 1 літ. Для параўнання — квіток на тралейбус у Вільні каштуе 2 літы.

Больш за дваццаць гадоў статуты тыя праляжалі на кніжным складзе, і вось ад іх нарэшце вырашылі пазбавіцца. Дзякуй Богу, цывілізаваным чынам, шляхам фактычна бясплатнай раздачы ўсім зацікаўленым. А маглі б парэзаць на макулатуру. Для іх — не унікум... Вось такія ў нас цяпер з Літвой статутныя адносіны.

Гісторыкі кажуць, што канцлер Леў Сапега строга сачыў за выкананнем усіх патрабаванняў Статута, які сам і распрацаваў. Як там у прадмове яго княжацкая міласць напісалі: «Яко Цыцеро поведил, иж естесмо невольниками прав для того, абысмы вольности уживати могли».

Дзвесце гадоў нашы продкі былі «нявольнікамі законаў», і гэтая двухвяковая законапаслухмянасць — у крыві беларусаў. Таму ў РБ можна прыняць любы закон, і ён будзе выконвацца пераважнай большасцю насельніцтва. Адкуль, думаеце, у сённяшняй Беларусі малазразумелая народная любоў да найвышэйшай меры пакарання? Разгарніце Статут (менскае факсімільнае перавыданне 1989 года): за здраду дзяржаўным інтарэсам, за забойства, за згвалтаванне, за падробку грошай, за наезды на гумны шляхецкія і г. д. — караць горлам...

Перавыдадзены ў Беларусі Статут 1588 года — наклад 10 000 (!) — немагчыма сёння набыць у букіністычных крамах. Зрэшты, адразу па выхадзе ў свет ён стаў бестселерам і быў раскуплены імгненна. Як вострасюжэтны раман ці якое іншае папулярнае чытво. Што само па сабе выглядае даволі загадкава.

Памятаю, прыканцы 90-х прыехаў у Беларусь князь Яўстах Севярын Сапега — з тых самых Сапегаў, якія і статуты выдавалі, і гетманамі польнымі ў ВКЛ былі, і з пакалення ў пакаленне змагаліся за незалежнасць свайго Краю. Князь прыехаў здалёку — з Кеніі, пераадолеўшы ў васьмідзесяцігадовым узросце пяць тысячаў кіламетраў. Прыехаў, маючы тры мары: пабыць у Ружанах і Дзярэчыне, дзе калісьці месціліся рэзідэнцыі ягоных продкаў; папаляваць у сваім Ружанскім лесе; займець у сваю фамільную бібліятэку Статут ВКЛ.

Збылася толькі першая мара князя — паездкі ў Ружаны і Дзярэчын мы з сябрамі яму арганізавалі. У Ружанскім лясніцтве госць з далёкай Афрыкі пачуў, што па дазвол на паляванне яму трэба звяртацца да самога прэзідэнта Беларусі... І Статут мы князю, нягледзячы на ўсе намаганні, на жаль, не знайшлі. Сам я яго тады не меў, а ўсе мае знаёмыя і сябры, якія мелі, расставацца са сваім кніжным скарбам не захацелі.

Яўстах Севярын Сапега асаблівых фанабэрый не меў і, здаецца, не пакрыўдзіўся, бо неўзабаве прыслаў з Найробі ўсім сваім спрыяльнікам па асобніку ўласнай мемуарнай кнігі. Калі б князь, які, без сумневаў, лічыў сябе грамадзянінам Вялікага Княства Літоўскага, дажыў да нашых дзён, я перакананы — ён таксама паўдзельнічаў бы ў акцыі вяртання арыгінальнага Статута ў Беларусь. Як тое зрабілі (апрача кампаніі «Альпары») шматлікія беларусы, якія і ў XXI стагоддзі згодныя, як і іхнія далёкія продкі, быць «нявольнікамі законаў», абы толькі «вольности уживати могли».

*2012*

# «ДУХ ИЗ ТУАЛЕТИЩА», альбо ЧАМУ ГЕНЕРАЛА Ч. У САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ НЕ ПРЫМАЛІ?

*Прысвячаю калегам з СПБ*

Раптоўнага паўстання на мінулым з'ездзе Саюза пісьменнікаў Беларусі не адбылося — ягонага старшыню пераабралі на другі тэрмін. Прычым перавыбары тыя сталі трыумфальнымі для генерала Ч. — за яго прагаласаваў 461 дэлегат, адзін выказаўся супраць і трое ўстрымаліся. З чым і віншую пераможцу і ўвесь гэтак адданы яму СПБ. Такога адзінства ў пісьменніцкіх шэрагах не змог дамагчыся ніводзін папярэдні старшыня. Нават у савецкія часы пры Максіму Танку сякое-такое іншадумства дазвалялася. А ў сённяшнім СПБ, як у войску: «Вы — за?» — «Так точна, таварыш генерал!»

Але, як выглядае, і ў генерала Ч. неўзабаве можа з'явіцца моцны канкурэнт. На нядаўняй сустрэчы з пісьменнікамі Аляксандр Лукашэнка прыгадаў, што і сам у маладосці вершы папісваў. «А давайце мы іх апублікуем, а вас у наш саюз прымем», — тут жа прагучала падхалімская прапанова. Прапанова падхалімская, але небеспадстаўная: пры жаданні Аляксандр Лукашэнка можа хоць сёння зарэкамендавацца аўтарам некалькіх кніг (скажам, зборніка ўласных афарызмаў, сабраных Уладзімірам Падголам), ды і прысуджаная яму літаратурная прэмія імя Шолахава — ого які падмацунак. І вось калі такі новы член з'явіцца ў СПБ, старшынёўскае крэсла з-пад генерала Ч. само выскачыць і на ўсіх чатырох ножках перабяжыць самі ведаеце пад каго. Не быць жа яму шараговым членам. Ды і да павышанай грамадскай нагрузкі яму не прывыкаць — Нацыянальным алімпійскім камітэтам вунь як кіруе! Лядовыя палацы па гарадах і мястэчках як грыбы растуць. Хай бы і дамы літаратара па ўсёй Беларусі размнажаліся...

Уступіць у сцэментаваныя любоўю да свайго старшыні шэрагі СПБ дастаткова проста. Паводле статуту, прэтэндэнт нібыта павінен мець за душой хоць адну ўласную кнігу. Але насамрэч — можна і без кнігі. Так прынялі, напрыклад, былога дырэктара выдавецтва «Мастацкая літаратура», які ні паэзіі, ні прозы аніколі не пісаў. Не пісаў, а чырвоную кніжачку члена СПБ мае. Колькі там такіх творцаў, мне, шчыра кажучы, да лямпачкі. Гэта генерал Ч. увесь час падлічвае колькасны склад саюза-канкурэнта.

Між іншым, калі ў Саюз пісьменнікаў у далёкім ужо 1978 годзе ўступаў сам генерал Ч., разгляд прэтэндэнтаў быў куды больш прынцыповым. Падчас разгляду ягонай кандыдатуры ўстаў Іван Пташнікаў (які і тады меў вагомае імя, і сёння яго не страціў) і сказаў літаральна наступнае: «Я вельмі паважаю міліцыю і вельмі люблю чытаць дэтэктывы, але вось гэта «никакого касательства к литературе не имеет» (Ніл Гілевіч. Запісы з дзённікаў розных гадоў. 2006, с. 47). Апошнія словы былі прамоўленыя па-расійску, трэба думаць, для большай даходлівасці. Дайшло не толькі да прысутных на тым пасяджэнні, але і да кандыдата ў саюз. Генерала Ч. тады з трэскам праваліліі. А Іван Пташнікаў ужо ў незалежнай Беларусі так і не атрымаў заслужанага ім звання народнага пісьменніка. Дакументы на яго былі падрыхтаваныя і пададзеныя наверх, дзе ўсё і спынілася. Хадзілі чуткі, што перашкодзіў добрай справе нейкі ўплывовы чалавек ва ўладным атачэнні...

Можна падумаць, што я занадта прыдзірліва і тэндэнцыйна стаўлюся да генерала Ч. Зусім не, і кніжкі ягоныя разам з блогерам Яўгенам Ліпковічам я не паліў і паліць не збіраюся. Паленне кніг выклікае ў маёй свядомасці тры гістарычныя паралелі: сярэдневяковую інквізіцыю (тады разам з кнігамі і людзей палілі), гітлераўскую Нямеччыну і сталінскі СССР, калі вогнішчы з кніг палалі і ў Менску, у дворыку «амерыканкі». Зразумела, што я не хачу, каб да такой барацьбы з іншадумствам вярнуліся ў Рэспубліцы Беларусь. Так што не прыдзірлівы я і не тэндэнцыйны. А вось генерал Ч. да маёй сціплай асобы чамусьці даўно неабыякавы. Каб у гэтым пераканацца, дастаткова пачытаць афіцыйны сайт СПБ. Ці, ска-

жам, дае генерал інтэрв’ю «Белгазете» і раптам ні з пушчы ні з поля выгукае: «Не нужен нам Михась Скобла!» («Белгазета», 15 лютага 2010 г.). Як быццам я днюю і начую ў генеральскай прыёмнай — прыміце мяне ў ваш саюз чатырыста шостым членам! І памкнення такога ў мяне не было. Так што, як кажуць у народзе, бі хоць таўкачом, абы было па чом. А няма па чым, дык схавай свой таўкач куды падалей.

Цяпер колькі словаў пра ўжо згаданую сустрэчу прадстаўнікоў прыўладнага Саюза пісьменнікаў з Аляксандрам Лукашэнкам. Падчас тае нарады ён некалькі разоў скіроўваў свой праведны гнеў супраць тых пісьменнікаў з незалежнага СБП, якія вось ужо пяць гадоў неяк абыходзяцца без дзяржаўных ганарараў і некралогаў у тыднёвіку «ЛіМ». Кіраўнік краіны чамусьці называў іх свядомымі, у сувязі з чым мне хочацца звярнуцца да яго беспасярэдне.

Аляксандр Рыгоравіч, можа, вы не ведаеце: свядомы — гэта сознательный, находящийся в сознании, ці, як у народзе кажуць, пры сваім розуме. Называючы свядомымі толькі пісьменнікаў з СБП, вы псіхалагічна траўмуеце членаў адданага вам саюза, бо атрымліваецца, што яны несвядомыя, то бок нешта з галавой у іх не ў парадку. Не злуйце вы іх. Пісьменнікі — істоты помслівыя і могуць пра вас з’едлівых эпіграмаў насачыняць.

Правільна вы наконт цэнзуры выказаліся. Не павінна яе быць. А яна, ліха на яе, завялася ў дзяржаўных выдавецтвах. Прывесці прыклады? Можна і прыклады. Няхай вам міністр інфармацыі Праляскоўскі прынясе нядаўна выдадзеную выдавецтвам «Літаратура і мастацтва» кнігу «Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы». Там на старонцы 26 вы ўбачыце такі значок [...]. Гэта і ёсць след цэнзуры. З кнігі была выкінутая цэлая старонка тэксту пра нейкага нячысціка з берагоў Дняпра. Дык вось, цэнзары палічылі, што нячысцік гэты — вы. Гэта ж дадумацца толькі! Уталкуйце вы ім, што рабіць так больш нельга.

Існуе ў нашай краіне і найгоршы від цэнзуры — на імёны. Калі ў 2008 годзе ў выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя» рыхтаваўся да друку двухтомны «Слоўнік фразеалагізмаў» прафесара Івана Лепешава, з яго пільнымі «энцыклапедыстамі» былі выкасаваныя імёны трынаццаці пісьменнікаў, у

тым ліку і аўтара гэтых радкоў. Следам пад цэнзарскія нажніцы трапілі і цытаты з нашых твораў — больш за 500. Прафесар назваў гэткую праполку свайго слоўніка «напорыстай, бескампраміснай і жорсткай цэнзурай». І як тут з ім не пагадзіцца?

Салідарны я з вамі, Аляксандр Рыгоравіч, і наконт вульгарнасці і пошласці, якія падступна пракраліся ў нашу літаратуру. Вось тут адназначна трэба ставіць заслон вышынёй з «дом Чыжа» ў Траецкім прадмесці, каб ніводзін пашляк у наша прыгожае пісьменства не пратачыўся. А то заходжу я нядаўна ў сталічную кнігарню «Светач», міма якой вы штодня на работу ездзіце, і чытаю ў кнізе, выдадзенай ва ўсё той жа РВУ «Літаратура і мастацтва»:

Что-то печень, что-то печень расходилася,
А как ляжешь — в почки отдаёт.
Мне снотворное бы очень пригодилося,
Да понос вот что-то не перестаёт.

Аўтар кнігі, відаць, сапраўды не вылазіў з прыбіральні, бо ў наступным вершы апавядалася пра «народище» нейкай незвычайнай «породищи», які

В унитаз — за ихних двух,
Только дай борща...
И раз в двадцать крепче дух
Из туалетища.

Любы прафесійны крытык (а пра крытыку вы таксама на сустрэчы гаварылі) пацвердзіць вам, што працытаваныя радкі і ёсць праява вульгарнасці і пошласці. Паэта трэба было б пакрытыкаваць, каб ён і надалей не разбэшчваў чытача. Але крытыкам да яго не дастукацца — высакавата сядзіць. Патэлефануйце вы яму па ўрадавай сувязі ў Савет Рэспублікі, паўшчувайце. Паэта завуць Анатоль Рубінаў, ён там старшынюе.

Разумею я вашу заклапочанасць і дрэннымі школьнымі праграмамі па літаратуры, куды напралазіла «другарадных аўтараў». Правільна, і жук і жаба цяпер у той праграме. Гэта

ж кожнага разу, калі па вашым загадзеператрасалі тыя праграмы, яны і шчаміліся туды — хто ціхенька, хто пішчом лез. Так што тут яшчэ раз не трэба ровар вынаходзіць. Трэба проста вярнуць старыя праграмы, па якіх дзеткі вучыліся да ўсіх рэвізій, і ўсе другарадныя застануцца на сваіх купінах сядзець.

Што да «навядзення парадку з ганарарамі, якіх пісьменнікі чакаюць па 5–7 гадоў», то ў мяне на гэты конт ёсць прапанова. Хай тыя два рэстараны, якія размяшчаюцца сёння ў Доме літаратара, з кожнай прададзенай там чаркі адлічваюць пэўны адсотак у касу пісьменніцкай узаемадапамогі. Хачу вас запэўніць — тады хопіць усім, не толькі апарату СПБ. А то цяпер атрымліваецца, як у той прыказцы: гарую, бацюшка, гарую — з адной карчмы ды ў другую.

Праўда, не ведаю, як да маіх парадаў і прапановы генерал Ч. паставіцца. Можа, ізноў выгукне, як калісьці ў «Белгазете»: «Не нужен нам Михась Скобла с его советами!»...

Але тут я не раю яму апярэджваць падзеі. А раптам Аляксандр Лукашэнка і сапраўды пажадае ўступіць у саюз пісьменнікаў, але не ў ягоны? Каб чарговым разам усіх з панталыку збіць — і Захад, і Усход, і «свядомых», і «несвядомых». Вось жа нядаўна ўступіў у СБП яго колішні паплечнік — Аляксандр Фядута. Ён і рэкамендацыю свайму былому шэфу не адмовіцца напісаць. Ой, што ні кажыце, цікавае жыццё на беларускім Парнасе можа пачацца.

*2011*

# КАБ НЕ ЗАСТАЦЦА Ў САРКАФАГУ СТРАХУ

— Што гэта было? — пытаецца ў мяне Надзея Белахвосцік з «Комсомольской правды». Перад ёю на століку ляжыць анталогія «Расстраляная літаратура» з творамі знішчаных пад час сталінскага тэрору беларускіх пісьменнікаў. Там — шэсцьдзясят шэсць аўтараў, а магло быць у два разы болей, магло быць два ці нават тры тамы.

Мы сядзім у Нацыянальнай бібліятэцы, дзе гэтую самую страшную ў гісторыі беларускага пісьменства кнігу не трэба замаўляць са сховішча, яна стаіць на паліцы ў агульнадаступным фондзе — поруч з найбольш запатрабаванымі энцыклапедыямі, даведнікамі, з творамі айчынных і замежных класікаў. Зроблены ўжо ў бібліятэцы дадатковы — умацавальны — пераплёт анталогіі сведчыць, што яна на паліцы не застойваецца.

– Што гэта было? — пытаецца ў мяне калега-журналістка, чый сваяк, наркам асветы Антон Баліцкі таксама загінуў у ГУЛагу. Пытаецца пра тую страшную расстрэльную ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года, калі па маршруце турма НКВД — Курапаты курсавалі дадатковыя спецмашыны, а ў жоўты пясочак пад Менскам ляглі 104 асуджаныя да найвышэйшай меры, сярод якіх 22 пісьменнікі. Пытаецца пра ноч, якая пераўзышла па працягласці самыя доўгія палярныя ночы і расцягнулася на гады.

Што гэта было... У штучных рыштоках плюскоча вясёлая вада, а высока пад шкляным дахам бібліятэкі свіргочуць на паваротках манарэйкавыя трамвайчыкі, якія вязуць кнігі ў дзясяткі чытальных залаў. Магчыма, і кнігі тых дваццаці двух...

Магчыма, па той пакручастай рэйцы едзе да маладога чытача ў беларускую залу паэтычны зборнік «Чарнакудрая радасць» Анатоля Вольнага — з вокладкай, аздобленай пад

слуцкі пояс. Ужо адна назва ў спалучэнні з аздобай выпраменьвае паэзію.

Магчыма, універсітэцкі прафесар у зале навуковай літаратуры з нецярпеннем чакае «Анталогію новай ангельскай паэзіі», якая выйшла акурат у 1937-м у Ленінградзе. Анталогія друкавалася, а аднаго з яе аўтараў — Юлія Таўбіна — у гэты час везлі на расстрэл у Курапацкі лес. Імя перакладчыка цэнзары не паспелі выкрасліць са зместу, хоць для падобных выпадкаў мелі дакладныя інструкцыі. Скажам, калі ў 1935-м арыштавалі Юрку Гаўрука, ягоны «Гамлет» у тым жа годзе выйшаў у свет без прозвішча перакладчыка. Атрымалася — Шэкспір пісаў адразу па-беларуску. Але такімі дробязямі савецкія цэнзары не пераймаліся.

А магчыма, нейкі прыхільнік «крывіцкага саманазову» беларусаў вырашыў знайсці падмацаванне сваім тэзам у мастацкай літаратуры і замовіў часопіс «Полымя» з пачаткам рамана Міхася Зарэцкага «Крывічы». Рукапіс твора быў сканфіскаваны ў арыштаванага ў 1936-м і праз год расстралянага пісьменніка і не знойдзены да гэтай пары.

А можа, дзесьці пры зрыхтаваным сканеры заклапочаны выдавец чакае «Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры» Ігната Дварчаніна, каб падрыхтаваць яе факсімільнае перавыданне? Хрэстаматыя выйшла ў 1927-м, складальніка расстралялі праз дзесяць гадоў, але і па сёння спасылак на гэтае выданне ў сучасных даследаваннях — безліч.

Перакладчык Блока, аўтар напісанай па-чэшску манаграфіі пра Скарыну, доктар філасофіі Ігнат Дварчанін пакінуў пасля сябе яшчэ і вельмі яскравы дакумент — свае турэмныя паказанні. Калі хто з гісторыкаў аналагічныя дакументы схільны ўспрымаць усур’ёз і рабіць паводле іх далёкасяжныя высновы, няхай пачытае паказанні Дварчаніна.

«Являюсь выходцем из контрреволюционной партии... в 1917 г. активно участвовал в контр.-рев. нацдемовских съездах... сотрудничал в контр.-рев. газете “Беларуская Рада”... помещал в ней свои контр.-рев. стихотворения... печатался в контр.-рев. газете “Вольная Беларусь”, участвовал во всех мероприятиях белорусской контрреволюции... в 1918 г. в Москве

был связан с махровыми контрреволюционерами... по дороге в Минск вошёл в связь с отпетыми контрреволюционерами... в деревне Погири Слонимского уезда в 1918–20 гг. внедрял в массы националистические и контр.-рев. идеи... в Вильно связался с контр.-рев. Национальным комитетом и Школьной радой... в 1921 г. отправился в Латвию для ведения контр.-рев. националистической работы... в Праге в университете (1921–1926) проводил среди студентов контр.-рев. работу... в Вильно в 1927 г. на средства нацдемовской Громады издал контр.-рев. «Хрестоматию белорусской литературы»... по приезде в БССР в 1932 г. всё время являлся нацдемом, контрреволюционером и двурушником»...

Такое і доктару філасофіі сачыніць не пад сілу. У якім стане гэтыя паказанні пісаліся і пад чыю дыктоўку — больш чым відавочна. Думаецца, і астатнія аналагічныя паказанні, выбітыя ў падсудных на следстве, падпісаныя імі пасля бяссонных і бясконцых допытаў амаль у непрытомным стане, могуць быць сведчаннямі толькі супраць тае сістэмы, якая ўсё гэта прыдумала і ажыццяўляла.

Калі ў 1921 годзе бальшавікі за «недоносительство» расстралялі царскасельскага гранда Мікалая Гумілёва, гэта ўспрымалася як страшная памылка, фатальны збег абставінаў. Калі ў 1936-м фалангісты ў Іспаніі расстралялі Федэрыка Гарсія Лорку, літаратурная грамадскасць Еўропы была ў шоку. Праз год у Беларусі ўжо працаваў адладжаны канвеер смерці, які сістэматычна і мэтанакіравана вынішчаў нацыянальную эліту, і нікому ў Еўропе да гэтага не было аніякай справы. Заходнееўрапейскія пісьменнікі прыязджалі ў Савецкі Саюз, захапляліся збудаваным на людскіх касцях Беламорканалам, пісалі пра Сталіна памяркоўныя кнігі.

А тут забівалі іх калегаў — дзясяткамі і сотнямі. З прыкладна 2000 загубленых у СССР пад час бальшавіцкага тэрору літаратурных работнікаў кожны пяты — беларускі. І гэта невыпадкова. Без культурнай эліты няма народа — таму крамлёўскі правадыр заўсёды выдаваў беларусам павышаную квоту «па першай катэгорыі».

Нейкі аматар змрочнага гумару прыдумаў ходкае выслоўе: смерць аднаго чалавека — гэта трагедыя, а смерць сотняў і тысячаў — статыстыка. Калі і статыстыка, то хіба для нейкай д'ябальскай канцылярыі. Заўчасная смерць — заўсёды трагедыя, а масавае забойства — трагедыя, памножаная на колькасць ахвяраў. Да таго ж сталінская гільяціна ў Беларусі прайшлася пераважна па маладых пісьменніках. Бальшыня з іх так і не паспела напісаць свае галоўныя творы. Бо што для пісьменніка 40-50 гадоў? Пачатак.

45-гадовы Максім Гарэцкі ў шмат якіх сваіх творах не паспеў паставіць апошнюю кропку. Куля паставіла. А іншыя былі знішчаныя яшчэ маладзейшымі. Міхась Чарот — у 40 гадоў, Адам Бабарэка і Францішак Грышкевіч — у 39, Фабіян Шантыр — у 36, Міхась Зарэцкі, Уладзімір Хадыка, Паўлюк Шукайла і Сяргей Дарожны — у 35, Тодар Кляшторны — у 34, Алесь Дудар — у 32, Лукаш Калюга і Валерый Маракоў — у 28, Алесь Салагуб — у 27...

У савецкім літаратуразнаўстве пра многіх з іх пісалася: верылі ў партыю, падтрымлівалі нацыянальную палітыку Крамля і г. д. Хто так і сёння думае, хай пачытае верш Алеся Дудара «Пасеклі Край наш папалам...». Гэты верш — учынак героя, які ведае, што вернецца ў родную краіну толькі на шчыце — у пасмяротнай славе.

Але часам беларускія паэты па-партызанску білі сваіх ворагаў іх жа зброяй. Прыгавораны да расстрэлу Сяргей Фамін пасля абвяшчэння прысуду заспяваў «Інтэрнацыянал». І яго не расстралялі ў Менску, а адправілі ў Рэспубліку Комі, дзе праз некалькі гадоў яшчэ раз далі «вышку», але ўжо па іншым артыкуле.

Што гэта было... Пасля публікацыі ў «Комсомольской правде» я атрымаў некалькі водгукаў з Украіны. Аказваецца, Беларуская Чорная Ноч рэпетавалася ў Кіеве, дзе 15 снежня 1934 года адным махам было расстраляна 15 пісьменнікаў. Грыгор Касынка, Олэкса Влызько, Дмытро Фальківскі... Дзе яшчэ і калі пісьменнікаў стралялі паўзводна?

А яшчэ невядомы мне ўкраінскі чытач паведаміў, што быў у іх і свой чэмпіён сярод катаў — капітан НКВД Матвееў, які

за пяць дзён уласнаручна расстраляў 1111 асуджаных. Потым у таго капітана ягоныя ж саслужбоўцы ўзялі пісьмовыя тлумачэнні: як жа ты справіўся? І той падрабязна і без лішніх эмоцыяў апісаў, колькі разоў на дзень выязджаў на «оборудованное место», як правяраў памеры ямаў 4 × 4, падрыхтоўваў пісталеты...

Што гэта было... І хто з беларускіх катаў мог бы прэтэндаваць на крывавыя лаўры капітана Матвеева?

Можа быць, той энкавэдыст, які ў лесе пад Чэрвенем у 1941-м паклаў цэлую калону палітычных, бо надакучыла гнаць іх пешкі на ўсход, а немцам пакідаць не меў права? У той дзень сярод смяротнікаў аказаўся і пісьменнік Рыгор Бярозкін, і быў таксама расстраляны, але выжыў і, дачакаўшыся начы, выпаўз з прысыпанай наспех вялікай ямы-магілы.

У ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года 22 беларускія пісьменнікі ляглі ў курапацкі жвір. Каты думалі, што такімі тэмпамі яны на карані знішчаць беларускую літаратуру датэрмінова, як гэта ў іх было прынята — да чарговай чырвонай гадавіны. Да паслугаў катаў былі не толькі «оборудованные места», але і ГУЛаг, які аплёў калючым дротам адну шостую частку зямной цвердзі. Але расстраляная ў Курапатах і нішчаная дзесяцігоддзямі ў ГУЛагу беларуская літаратура ўсё ж выжыла і адпаўзла ад магільнай ямы. Выжыла, каб выступіць сведкам на судовым працэсе, які калі-небудзь абавязкова адбудзецца. Іначай мы самі сябе замуруем у тым страшным часе, як у саркафагу страху.

*2012*

# ЗБУДАВАЦЬ СВОЙ КАЎЧЭГ

## 1

Адна з памятных падзеяў 2011 года — у Іерусаліме з’явілася табліца з тэкстам малітвы «Ойча наш» на беларускай мове. Падобных мемарыяльных табліцаў — на многіх мовах — там усталявана больш за сотню, цяпер і паломнік з Беларусі можа спыніцца каля сваёй і прачытаць: «Ойча наш, каторы ёсць у небе...» Кожны добры хрысціянін ведае гэтую малітву на памяць, праўда, яе праваслаўны і каталіцкі варыянты адрозніваюцца. І мне неаднойчы даводзілася чуць, як рознаканфесійныя вернікі падчас супольнага набажэнства збіваліся, не патрaплялі ва ўнісон, дакорліва паглядаючы адзін на другога.

Вось жа яшчэ праблема: адзін і той жа тэкст перакладзены на адну і тую ж мову, а гучыць па-рознаму ў царкве і касцёле. І чым даўжэй гучыць па-рознаму, тым менш у яго шанцаў загучаць аднолькава. І ўсё ж вернікі ўсіх канфесій могуць прыйсці да згоды, кампрамісна змясціўшы ў сваіх малітоўніках трэці варыянт малітвы «Ойча наш» — у паэтычным пераказе Рыгора Барадуліна. «Ойча наш, што ў нябёсах, / хай свяціцца Імя Тваё і ў зорах, і ў лёсах. / Хай прыйдзе Валадарства Тваё, як спатоля, / хай Твая ўсеўладарная збудзецца воля / як на небе, гэтак і на зямлі. / Хлеб наш надзённы пашлі, / Жыццядар, сёння нам / і даруй нам нашы даўгі, / як даруем і мы даўжнікам...» Ладна, складна і ў адпаведнасці з арыгіналам.

У сваёй новай кнізе «Anima», якую летась выдала рымска-каталіцкая парафія Святых Сымона і Алены, Рыгор Барадулін не толькі «Ойча наш» зарыфмаваў. Паэт працягвае свой высокі дыялог з Богам, распачаты яшчэ на старонках кнігі «Ксты» (2005), якая па сваёй спавядальнасці, малітоўнасці, па змесце сваім хрысціянскім не мае сабе роўных у беларускай паэзіі. Біблейскія тэксты тысячы разоў ператтлумачаныя, мільёны разоў працытаваныя, хто іх толькі не выкарыстоўваў у якасці

будматэрыяла для ўласных твораў! Здавалася б, немагчыма застацца першапраходцам, ідучы па безліч разоў таптаных сцежках. Аказваецца — магчыма. Калі ты сапраўдны вершапраходзец, то ты — першапраходзец усюды. Што нам і дэманструе Барадулін, у кім шчасліва спалучыліся гэтыя дзве якасці.

Паэзія — мастацтва хадзіць па вясёлцы. Пахіснешся — упадзеш, засумняваешся ў цвердзі пад нагамі — упадзеш таксама. А ісці па вясёлцы і весці дыялог з Богам — занятак архіскладаны. У свой час Янка Купала, губляючы веру ў народ, адчайна выкрыкнуў: «Вярні нам Бацькаўшчыну нашу, Божа, / калі ты Цар і неба, і зямлі!» І ад гэтага лёгкасумнеўнага «калі» восілка вясёлкі хіснулася пад паэтам так, што мільёны вачэй ад страху прымружыліся: упадзе — не ўпадзе... Не ўпаў. Ішоў яшчэ доўга. Пакуль не дапамаглі, не падпіхнулі...

Барадулін не размаўляе з Богам на мове ультыматумаў. Ён таксама ўмее хадзіць па ўскраі (па вясёлцы як ні ступі — скрай), але мяжу адчувае: «Белую аблачынку вішні, / здаецца, выдыхнуў Усявышні», «Ізноў жывыя нада мной, / як думкі Госпада, аблокі», «Зямля — парушынка ў Гасподнім воку». Чытаеш такое і пачынаеш бачыць свет і сусвет у нейкім касмічным маштабе. Як астранаўт, які прыляцеў на Месяц. Ці падабаецца гэта Таму, Хто, па словах паэта, думае аблокамі? Відаць, падабаецца. Нездарма ж кажуць, што паэзія — ад Бога. Калі б не падабалася, атрымаў бы паэт пажыццёвую пячатку на вусны — а гэта для творцы як найвышэйшая мера. З другога боку, знакі звыш нам увесьчасна пасылаюцца, трэба іх толькі бачыць і распазнаваць. Ехалі мы аднойчы з Рыгорам Барадуліным на Вушаччыну — на адкрыццё Быкаўскага музея ў Бычках. Перад паваротам на Бараўляны Барадулін кажа: «А вось тут Васілёва машына заўсёды ламалася». І толькі ён гэта прамовіў, як мая да гэтай пары безадмоўная «Аўдзі-80» пару разоў чмыхнула і заглухла. І завёў яе толькі выкліканы па тэлефоне рамонтнік, з добрую гадзіну пакорпаўшыся пад капотам. Што гэта было — выпадковасць ці знак?

У Бычкі і Вушачы мы тады ўсё ж даехалі. І загаварылі вушацкія краявіды да мяне вершамі Барадуліна. Адчуванне было — быццам нямое кіно проста пры табе агучылі. І наш

настрой таксама падымаўся «на дыбачкі над возерам ля Глыбачкі», дзе ён заўсёды распагоджваўся ў Васіля Быкава. І бачылі мы, як на ўскрайку амаль адзічэлага саду «маладзюткі туман сівеў». І чулі, як на ўсе лады за вокнамі барадулінскай хаты гаманіла брукаванка, пакрытая парэпанымі панцырамі камянёў. Заязджалі мы тады і на стары вушацкі могільнік, дзе паэт так проста і натуральна пацалаваў барэльеф маці на пацямнелым ад часу помніку...

Сваю малую радзіму Барадулінператварыў у вялікую — у літаратурным вымярэнні. Вушаччына столькі яму дала як паэту, а ён усё ёй вярнуў — як доўгатэрміновую пазыку, з залатымі адсоткамі сваёй паэзіі. І сёння я, чытаючы ў новай кнізе «Ліст Васілю Быкаву ў Нямеччыну» («На бацькоўшчыне ў даўнюю хату заходзь, / вінавата сагніся ў малебным паклоне»), прыгадваю нізкія дзверы быкаўскай хаты, што сапраўды ад кожнага наведніка вымагалі паклону. Прызнацца, я спачатку думаў, што гэта цяслярскія недаробкі, а тут, як аказалася, цэлая жыццёвая філасофія.

Барадулін уславіў Вушачы, як Гамер Трою. Вушачы і мысліліся ім, як і Троя ў гамераўскім эпасе, горадам-крэпасцю, які належыць абараняць да апошняга слова: «Ірве стаеннік павады, / на волю скача. / Мне адступаць няма куды — / за мной Вушача».

За Барадуліным — не толькі Вушачы. Хто абароніць беларускую мову перад навалай чужамоўнага цунамі? Ніякімі дамбамі тут не абгародзішся, ніякімі шчытамі не прыкрыешся. Мову ўратуе толькі шэдэўр, створаны на ёй. Значыць, паэт — самы эфектыўны абаронца мовы. Вобразна кажучы, творчасць Барадуліна — гэта і ёсць той Ноеў каўчэг, у якім мова беларуская выплыве ў будучыню праз усе цунамі.

Барадулін афарыстычны — у сваіх ахвярынках (так называюцца ягоныя двух-чатырохрадкоўі). Барадулін па-апостальску мудры — у «Псальмах Давідавых» і «Біблейскіх баладах». Барадулін вынаходлівы і нечаканы — у кожным вершы, а іх у кнізе больш за тры сотні. Часам уражваюць не толькі вершы, але і подпісы пад імі. Так, верш «Як па сухому...» напісаны ў рэанімацыі менскай лечкамісіі 24 лютага 2007 года, калі

жыццё паэта вісела на валаску. Жыццё на валаску вісела, а ён перажываў, што... верш запісаць не паспее. Верш запісаць не паспее — значыць, выратавальны каўчэг для мовы не дабудуе. У свой час Бог падоўжыў век Ною, які пасля сусветнага патопу пражыў яшчэ 350 гадоў. Падоўжыў Бог век і паэту. Каўчэгабудаўнікі мусяць жыць доўга.

Не ведаючы яшчэ і пра гэткую — выратавальніцкую — місію паэта, сёй-той часам зманьвае яго з радзімы, абяцаючы на чужыне залатыя горы. Гадоў пяць таму Рыгор Барадулін атрымаў з адной з каўказскіх рэспублік за пераклады з тамтэйшай паэзіі незвычайны ганарар — папаху, бурку і... сертыфікат на валоданне ладнай дзялянкай зямлі ў адным з аулаў. Шчодры ганарар. Беспрэцэдэнтны ў гісторыі беларускай літаратуры. Магчыма, нехта і паквапіўся б на тую нятанную зямлю. Але — не Барадулін. Бо за ім — Вушача, бо за ім — недабудаваны каўчэг, бо гэта ж ён сам сабе вызначыў звышмэту: «Паэт, ствары сабе Радзіму!» І ён яе створыць, калі ўлягуцца цунамі, а каўчэг ягоны прыткнецца да зямное цвердзі.

«Anima» (у перакладзе з лаціны — душа) — дзясятая па ліку кніга Рыгора Барадуліна, выдадзеная Чырвоным касцёлам. Яго пробашч, ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк — сам паэт, аўтар летапіснай паэмы «Так хацеў Бог!», прысвечанай фундатару касцёла Эдварду Вайніловічу. У сваіх казанях ксёндз — яшчэ і бліскучы прамоўца — часта цытуе вершы Барадуліна. І, падаецца, ім у Чырвоным касцёле ўтульна, яны там прыжыліся, як тыя ластаўкі ў стрэсе ці жаўрукі ў паднябессі. «Сонцакрылы жаўранак кахання», — любіць пасмакаваць ксёндз Уладзіслаў выдатны барадулінскі вобраз, які сее святло ў душы вернікаў не раўнуючы як касцельны абраз. Паслухаеш, і міжволі прыгадаецца польскамоўны выраз cały w skowronkach — увесь у жаўруках. Гэтак палякі называюць нечым нечакана ашчасліўленага чалавека. Ксёндз цытуе Барадуліна шчодра, і неўзабаве відно, што і ён — увесь у жаўруках барадулінскай паэзіі, і ўсе вернікі — у тых жаўруках. У такія хвіліны ў храме — свята.

Касцёл выдае кнігі Барадуліна, у касцёлах жа ладзяцца і сустрэчы з паэтам. Аўтару гэтых радкоў давялося быць удзель-

нікам адной такой сустрэчы — у адноўленым храме Святога Лаўрэна ў Вушачы. У светлай святыні не было дзе яблыку ўпасці — на спатканне са сваім паэтам з'ехалася ўся ваколіца, прыехаў з Віцебска і біскуп Уладзіслаў Блін. І як жа духаўздымна гучала з амбона барадулінскае слова — як своеасаблівая паэтычная казань ясным велікодным днём:

Чарнобыльскі жах не ўпалыніць наш лёс.
І стане пагодлівым летам Прадвесне.
Хрыстос уваскрос! Хрыстос уваскрос!
Хрыстос уваскрос! І наш Край уваскрэсне!

Гучанне вершаў у храме — выпрабаванне для іх, бо намоленая прастора вельмі чуйная да слова гарманічнага, якое гучыць у згодзе і лагодзе са Словам, што было напачатку. Вершы Рыгора Барадуліна такое выпрабаванне вытрымліваюць. Кніга «Anima» можа шмат каму дапамагчы зрабіць крок насустрач Богу — нават з цемры бязвер'я і з прорвы ліхадзейства, куды нас часам кідае жыццё. Нескланяльная «Anima» — як нясхільная душа Паэта, які з году ў год, нястомна і адказна будуе свой беларускі каўчэг — дзеля нашага ж уратавання.

**2**

У кнізе Рыгора Барадуліна «У неба пехатою», якая рыхтавалася Сяргеем Шапранам да друку пры жыцці паэта, а сталася першай пасмяротнай, маю ўвагу надоўга запыніў верш, які пачынаецца афарыстычным чатырохрадкоўем:

Паэт будуе сам сябе, як храм
Ці як пахіленую халабуду.
У храме весялей адбыцца цуду,
У халабудзе вылежыцца хлам.

І далей — тройчы, як малітоўны рэфрэн, паўтараецца радок: «Паэт будуе сам сябе, як храм». Не ведаю, што будзе напісана на надмагільным помніку Барадуліна ў Вушачах, дзе пачаўся і дзе закончыўся яго зямны шлях. Калі б гэта залежала ад

мяне, на помніку з’явіліся б менавіта гэтыя словы: «Паэт будуе сам сябе, як храм».

Бо ўся паэзія Барадуліна — як выбудаваны ў неба вечнасці Беларускі Храм. З усімі неабходнымі для святыні атрыбутамі. Ёсць там свой іканастас, свае спавядальні і свае званіцы. Храм — як антытэза грахоўнай халабудзе, дзе збіраецца смецце нашага мітуслівага побыту.

«У храме весялей адбыцца цуду...» Цуды здараюцца не толькі ў храме, а паўсюль, дзе патрабуецца ўратаваць чалавецтва ад поўнай зняверы. Вось і з’яўленне ў 1991 годзе на мапе свету Рэспублікі Беларусь я разглядаю як адзін з цудаў. Упершыню ў беларускай гісторыі была прынятая Канстытуцыя, якая насамрэч адпавядала нацыянальным інтарэсам, урэшце сама ўлада загаварыла па-беларуску. І як адна з праяваў таго цуду — наданне звання народнага паэта Рыгору Барадуліну. Неяк я загаварыў пра гэта з тагачасным кіраўніком Беларусі Станіславам Шушкевічам, і ён сказаў, што «Барадулін для яго вялікі паэт і святы чалавек» і што тою пастановай Вярхоўны Савет проста замацаваў відавочнае — Барадулін і без усякіх званняў народны.

Доўгі час у нашым літаратуразнаўстве ствараўся стэрэатып, як ні дзіўна, жывы і па сёння, паводле якога беларуская літаратура — пераважна патрыярхальна-вясковая, яе героі ледзь не ўсё ХХ стагоддзе аборай хлеб кроілі. Гэта, вядома ж, не так. У процівагу я мог бы прывесці дзясяткі імёнаў і сотні твораў. Але дастаткова назваць аднаго Барадуліна, у чыёй творчасці адлюстравалася ўсё наша шматпраяўнае беларускае быццё. І глядзім мы з радасным здзіўленнем на тое адлюстраванне: а мы, аказваецца, і цікавыя, і самадастатковыя, і нябедныя, і хадзіць нам у пазыкі да чужога дзядзькі не абавязкова. Паводле сваёй метафорыкі, вобразатворчасці Барадулін як паэт папросту не мае сабе роўных. Хоць раўнялі неаднойчы і яго. Як усіх.

Доўгі час Барадуліна адносілі да гэтак званага філалагічнага пакалення, пазней вобразна названага пакаленнем, абпаленым вайной. Але Барадулін не становіцца ні ў які шэраг, як ты яго ні стаў. Можна, вядома, уявіць яго ў нейкім пачэсным арэапагу разам з творцамі-равеснікамі, з якімі ён сябраваў. З заглыб-

леным у гісторыю жыццялюбам Уладзімірам Караткевічам, які праз свае творы намагаўся прышчапіць жыццялюбства ўсяму народу. З далікатным і тонкім знаўцам душы чалавечай Міхасём Стральцовым. З пажыццёва задзірыстым (нават на чыноўніцкіх пасадах) Генадзем Бураўкіным.

І ўсё ж Барадулін — не ў шэрагу, ён сам па сабе, як той зубр-адзінец.

Выйшла больш за сотню кніг паэта. Цяпер разбіраецца і апрацоўваецца яго архіў — ужо выйшаў у свет першы том дзённікаў і запісаў. І міжволі прыходзіш да думкі, што, каб ацаніць усё ім створанае і пакінутае нам як дар, не шкодзіла б заснаваць цэлы Інстытут барадуліназнаўства. Спадзяюся, у будучай Беларусі такая ўстанова з'явіцца.

Так, Барадулін сам па сабе, але — з народам. Калі ў свой час выйшаў знакаміты зборнік «Здубавецця», я наўпрост спытаўся ў паэта: ці ўсё там народнае, ці вы трошкі і свайго дадалі? Адказ быў даволі ўхілісты, і я зразумеў, што нават не трошкі. Тое самае, думаю, адбылося і з кнігай «Вушацкі словазбор». Дадумваць за народ — Барадулін меў такое права.

Гэта немагчыма высветліць і ўдакладніць, але ў кожнай народнай прыказкі ёсць канкрэтны аўтар. Часта яна — мастацкі міні-твор, часам нават рыфмаваны: «памёр багатыр — за ім ідзе ўвесь мір, а памёр худачок — ідуць поп ды дзячок»; «хваліўся старац, што пералсыў марац, ажно ў ма́ю — нясуць яго да гаю»; «добраму чалавечку ўтульна і ў запечку, а ліхаце — кепска і на куце». Хто аўтар гэтых і сотняў іншых такіх жа запамінальных выслоўяў? Нехта ж пусціў іх у свет, а народ узяў, як кажуць, на ўзбраенне, штосьці дадаўшы. Так і Барадулін часам пісаў у суаўтарстве з народам. І гэта ёсць найвышэйшы пілатаж для паэта. Перачытайце, скажам, барадулінскі паэтычны цыкл «Бяроза з лістам гаварыла», прысвечаны памяці маці — Куліны Андрэеўны. «Грабовыя дошкі сціснулі ножкі, сырая зямля на сэрца лягла» — гэта фальклор ці гэта Барадулін? Пытанне для будучага Інстытута барадуліназнаўства.

Кажуць, што сапраўдным паэтам радкі Бог дыктуе. Аднаму, каб пачуць іх, патрэбна засяродзіцца і настроіцца. А другі

чуе іх увесьчасна, дзе б ні быў — «ці на піры, ці ў бары». Як чуў Божую дыктоўку, прыкладам, Адам Міцкевіч, і сучаснікі дзіваваліся з яго імправізатарскага таленту. Гэткім жа рэдкім талентам валодаў і Барадулін.

Прыгадваецца далёкі ўжо 1996 год. У Доме літаратара праходзіць паэтычная вечарына, прысвечаная Дню Волі. Сярод шаноўных выступоўцаў і Рыгор Барадулін. Пасля вечарыны — чарга па аўтографы. Спецыяльна прыстройваюся пасля ўсіх, каб мець магчымасць перакінуцца словам з паэтам. Дастойваюся. Барадулін бярэ кнігу і піша нешта падазрона доўга. Я нецярпліва выцягваю шыю і пачынаю разумець, што на маіх вачах нараджаецца верш. Для мяне тады гэта было нечуваным дзівам. Пазней ужо я даведаўся, што Барадулін шмат каму кнігі падпісвае вершамі. Вось ён, самы дарагі для мяне барадулінскі аўтограф-імправізацыя:

Маладым ад былых маладых
Пераходзіць законнае права
І на пышкі, й на шышкі, й на ўздых,
Што не ўсё ў гэтым свеце цікава.
Ад былых маладых маладым
Нельга адгарадзіцца лясамі.
Дроў наломяць на полымя й дым,
Смалякі на распал знойдуць самі.
Маладых, будучых ды былых,
Сталакуе клопат дакосін.
І пачуе самоту слых,
І вясною прыкінецца восень.

Памятаю, як выйшла ў свет унікальная ў кантэксце ўсёй сусветнай літаратуры кніга «Паслаў бы Табе душу...» — перапіска Барадуліна з маці. Я параіў бы прачытаць яе ўсім сынам і дочкам, бо яна літаральна сатканая з любові і пяшчоты. Матчынай і сыноўскай. Маці ўведзеная Барадуліным у почат святых — згадайма яго кнігу «Евангелле ад Мамы». Ён штодня маліўся да мамы, нават напісаў адмысловую малітву. У мяне ёсць яе дыктафонны запіс, і калі слухаю — перахоплівае дыханне...

Аднойчы па дарозе ў быкаўскія Бычкі мы заехалі ў Вушачы, на Бутаўскія могілкі. Барадулін падышоў да помніка з барэльефам Куліны Андрэеўны, абняў яго і пацалаваў. І стаў гаварыць з маці — як з жывою. Мы з Сяргеем Шапранам ажно разгубіліся. Слухаў я і песні ў выкананні Куліны Андрэеўны. Што ні песня — то сюжэт. Думаю, што яна шмат дала сыну як паэту. Ён проста кшталтаваў тыя сюжэты, аздабляў літаратурна.

Год таму на апошнім развітанні з паэтам я чуў: Барадулін — вялікі паэт, гонар нацыі, чаму вырашана пахаваць яго ў Вушачах? Менавіта ў Вушачах. Па-першае, каля мамы, як ён сам наказваў. Па-другое, выпраўляючыся ў паломніцтва да святыні, чалавек мусіць пераадолець пэўны шлях. Як пераадольваюць яго людзі, кіруючыся ў Святыя Горы да Пушкіна ці ў Зэльву да Ларысы Геніюш. Так будуць ісці і ехаць у Вушачы — да Барадуліна.

Гэта неабходна нарэшце зразумець і мясцоваму начальству. Прыкра ўспамінаць той факт, што ў вушацкай раённай кнізе «Памяць» біяграфія Барадуліна даецца толькі да 1986 года. І гэта пры тым, што «Памяць» тая выйшла ў 2003-м! Ажно 17 гадоў актыўнага — творчага і грамадскага — жыцця паэта падаліся камусьці непатрэбнымі. Начальнікі, відаць, пакуль не зразумелі: Вушачы — гэта не яны, дачаснікі, і не абкарнаная «Памяць». Вушачы — гэта Барадулін. І ўжо навечна.

Раней я лічыў, што геній — вызначэнне пасмяротнае. Геніі так рэдка сустракаюцца на зямлі, што ў прысутнасць іхнюю боязна паверыць. Тым болей боязна паверыць у гэта нашаму наскрозь скептычнаму грамадству. І ўсё ж шмат для каго даўно было ясна як Божы дзень — Рыгор Барадулін геній, які жыве побач з намі. Але — і гэта вельмі істотна — яго геніяльнасць нікому не перашкаджала.

Дваццаць гадоў ён быў для мяне дзядзькам Рыгорам (ягоная просьба — называць менавіта так), ад яго ў любую хвіліну можна было пачуць чарговы досціп, вершаваны экспромт, літаратурную паказку, якія сыпаліся, як з чарадзейнага рога ці бяздоннага меха. Нездарма Сяргей Шапран кнігу сваіх гутарак з паэтам так і назваў — «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, аль-

бо Сам-насам з Барадулінымʼ». І гэткі «сам-насамны» Рыгор Барадулін ёсць у кожнага з нас.

Аднойчы дзядзька Рыгор па тэлефоне папрасіў пашукаць для яго лекі (у аптэцы паблізу ягонага дома такіх не было). Я зрыхтаваўся запісаць мудрагелістую лацінскую назву, але пачуў у слухаўцы — лірыка. Падумаў, што паэт жартуе. Аказалася, пілюлі пад назвай Lyrica сапраўды існуюць, і ветлівая аптэкарка неўзабаве расказала мне пра іх эфектыўнасць.

Эфектыўныя лекі — і барадулінская лірыка. Неабходна прымаць іх як мага часцей. Гэтыя лекі не для схварэлага цела, лекі гэтыя ўмацоўваюць зняверануню душу. Нездарма сваю выніковую кнігу Рыгор Барадулін назваў знакавым словам «Ксты». Менавіта духоўныя вершы з «Кстоў», выдадзеных і некалькі разоў перавыдадзеных менскім касцёлам Святых Сымона і Алены, дзе настаяцелем дзейсны і адданы Богу і беларушчыне ксёндз Уладзіслаў Завальнюк, сталіся малітоўнай канвой Крыжовага шляху, які сёлета быў зладжаны ў парафіі Святога Андрэя ў Нарачы.

«Паэт будуе сам сябе, як храм...» І ўсе мы наўслед за паэтам мусім будаваць сябе, як храмы, а не як халабуды. Бо кім ні ёсць чалавек на зямлі, на якіх шыкоўных аўто ні ездзіць, у неба, як прыйдзе час, ён адпраўляецца пехатою. І ў гэтым мне бачыцца галоўны запавет Паэта з Божай ласкі Рыгора Барадуліна.

*2011, 2015*

# ТРЫ ДНІ Ў МАРСЭЛІ

Чарговы аэробус падае ў акіян, і тэлефонны званок маці заспявае мяне акурат на выхадзе з авіякасаў: «Сынок, не ляцеў бы ты ў той Марсэль. Самалёты разбіваюцца, людзі гінуць...» Як магу, супакойваю маці: і ляцець я буду ўсяго тры гадзіны, і нізенька, ды і недалёка тая Францыя з яе курортным Міжземнаморскім узбярэжжам. Маці ўздыхае-ўздыхае і завяршае размову пажаданнем: «Каб жа хоць лётчык добры натрапіўся...»

Лётчык натрапіўся добры, і калі самалётнае шасі плаўна кранулася пасадачнай паласы марсэльскага аэрапорта, мне ажно крыўдна зрабілася — апладысментаў у салоне не пачулася. Раней на міжнародных рэйсах пасажыры ахвотна пляскалі.

Ціхі начны аўтобус падрульвае да гарадскога вакзала Сен-Шарль, я ўваходжу ў яго даўжэзную каменна-шкляную стадолу і — ажно прыпыняюся. Проста пасярод вакзала растуць высокія дрэвы. Не дэкаратыўна-хударослыя, а па-лясному разгалістыя, на два абхваты. Аказваецца, іх не спілавалі і не выкарчавалі, калі будавалі вакзал, а асцярожна ўзвялі вакол сцены і дах паднялі адмыслова высока — навырост. Каб яшчэ мох пад дрэвамі рос, то пасажыры ў чаканні цягніка маглі б і грыбы пазбіраць.

Прыляцеў я ў Марсэль для ўдзелу ў міжнародным літаратурным кангрэсе Mare Nostrum («Наша мора»), арганізаваным Еўрапейскай пісьменніцкай асацыяцыяй (European Writers Council). Уласна кажучы, удзел той меў на мэце адну нескладаную, але пачэсную місію. На завяршальным этапе кангрэса я мусіў прэзентаваць Саюз беларускіх пісьменнікаў — як новага чальца гэтай прэстыжнай арганізацыі, што займаецца абаронай аўтарскіх і грамадзянскіх правоў пісьменнікаў. Забягаючы наперад, скажу, што, нягледзячы на шматлікасць шэрагаў асацыяцыі (48 пісьменніцкіх суполак), у лік яе чальцоў пакуль не трапілі ні ўкраінцы, ні палякі, ні расійцы. Беларусам быў аказаны асаблівы давер, і гэта — прыемна.

Гатэль «Меркурый», што месціцца ў гістарычным цэнтры Марсэля, гудзеў, як вулей. Чуваць французская, ангельская, іспанская, нямецкая, італьянская, грэцкая мовы. Пакуль што ў статусе запрошанага госця наведваю адно з пленарных паседжанняў кангрэса. Хочацца ж ведаць, якімі клопатамі жывуць калегі-пісьменнікі па ўсёй Еўропе.

Румынка Габрыэла Адамесцяну расказвае, што пры дыктатуры Чаўшэску ў яе краіне чытачоў мастацкай літаратуры было ў сто разоў болей. Цяпер хатнія бібліятэкі — атавізм, нават дэтэктывы не распрадаюцца. Ва ўсёй Румыніі толькі два выдавецтвы займаюцца выданнем паэзіі, многія румынскія пісьменнікі з'язджаюць за мяжу, пішуць на чужых мовах.

Ода Барака з Лівана апавядае пра жахі грамадзянскай вайны, што працягваецца на яе радзіме ўжо дваццаць гадоў без надзеі на блізкае заканчэнне. Адчуўшы сваю непатрэбнасць на радзіме, яна эмігравала ў Францыю, жыве ў Парыжы, дзе выдала чатыры кнігі ў перакладзе на французскую мову.

Суданец Джамаль Махджуб называе сябе падарожнікам, які згубіў свой білет і сам згубіўся ў гэтым мітуслівым свеце. Нарадзіўся ён у Лондане, у Іспанію з радзімы бацькоў — Судана — яго таксама выгнала грамадзянская вайна. Ваеннае супрацьстаянне шаснаццаці рознапляменных партый і груповак працягваецца ў гэтай краіне ўжо больш за паўстагоддзя. А пасля таго, як у 1999 годзе ў суданскіх пустэльнях знайшлі вялікія радовішчы нафты, вайна разгарэлася з яшчэ большым размахам. У яе агні загінулі сотні тысяч мірных жыхароў, у тым ліку каля 150 пісьменнікаў.

Фуад Ляруй з Марока ўжо дзесяць гадоў жыве ў Амстэрдаме. Ён прызнаецца, што самае непрыемнае адчуванне ў ягонай душы выклікае людская абыякавасць, якая паступова забівае ў ім творцу. Мараканскія апельсіны больш запатрабаваныя ў Еўропе, чым мараканскія пісьменнікі...

Вось такая яна, сучасная літаратурная Еўропа, дзе, як і ў Еўропе геаграфічнай, перамяшаліся расы і народы. У перапынку паміж паседжаннямі знаёмлюся з прэзідэнтам ЕПА шведам Джонам Эрыкам Форслундам і генеральным сакратаром

Мірыям Дыякарэц, якія літасціва дазваляюць госцю з Беларусі цэлы заўтрашні дзень патраціць на знаёмства з горадам.

І вось — ранішні Марсэль гатовы прыняць мяне ў свае гарачыя субтрапічныя абдымкі. Куды, як вы думаеце, найперш павінен скіравацца ў партовым горадзе грамадзянін сухаземнай Беларусі? Вядома ж, да мора. Тым болей — да яго рукой падаць, пра што сведчыць прахалодны брыз, які з разгону залятае ў лабірынты прыбярэжных вулачак.

У Старым Порце бела і цесна ад незлічоных яхтаў. Іх тут некалькі тысяч. Старэнькія і мадэрныя, ветразёвыя і маторныя, невялікія і двухпалубныя, рыбалоўныя рабацягі і беласнежныя для адпачынку, яны ківаюцца на прывязі, цярпліва чакаюць сваіх гаспадароў, як застаялыя коні. На яхтах марсэльцы не толькі ходзяць у мора. Даўняя мясцовая традыцыя — у нядзелю абедаць на яхце, не здымаючыся з якара, — датрывала да нашых дзён. Яхта — плывучае лецішча марсэльца.

На ўзбярэжжы ідзе бойкі гандаль дарамі мора — крабамі, ракаўкамі, рыбай. Вялізныя рыбіны з насамі-дзюбамі карыстаюцца найбольшым попытам. Пяць еўра — і ўвішная маладзіца назубленым нажом адпілуе вам кілаграмовую калянку — на здароўе, месье. Побач з рыбнымі латкамі — гандлёвыя намёты мылавараў. Аказваецца, Марсэль — французская сталіца мыла, якім праславілася на паўсвету. Мыла сапраўды пахучае — вырабляецца яно з аліўкавага і пальмавага алею і марской солі. Дайце веры — у канцы XVIII стагоддзя тут штогод варылі па 70 000 тон мыла! Такой колькасцю гэтага прадукта можна было адмыць не толькі ўсю Францыю і Еўропу, але і палову чорнай Афрыкі, да якой цераз мора не так і далёка.

Сіняе неба і гэткае ж сіняе мора нагадваюць велізарную раскрытую ракаўку, у глыбіні якой бялеецца круглы, як жамчужына, замак Іф. Гуляць дык гуляць — і праз паўгадзіны на турыстычным катары мы ўжо прычальваем да яго белакаменнага схілу. Замак быў пабудаваны як абарончая крэпасць яшчэ ў 1526 годзе, але — дзіва з дзіваў! — за паўтысячы гадоў на яго так ніхто і не напаў. Надта ўжо страхотлівы выгляд меў. І тады практычныя французы — не прападаць жа дабру! — зрабілі ў замку турму для самых небяспечных дзяржаўных злачын-

цаў. Тысячы арыштантаў сядзелі ў турме Іф, сярод іх сустракаліся міністры і графы, але самым знакамітым вязнем усё ж застаўся Эдмон Дантэс — герой рамана Аляксандра Дзюма «Граф Монтэ-Крыста». За дадатковую плату вы можаце нават зачыніцца ў ягонай камеры і пакарміць чаек на закратаваным падваконні. Такой бяды, што аніякага Эдмона Дантэса на свеце ніколі не існавала. Турысты ў тую камеру валам валяць... Вось яна, яўленая зняверанаму свету сіла мастацкага слова!

У белай зацішнай і амаль бязлюднай бухце нарэшце дападаю да вады. Плыву і адчуваю, як мора выпіхвае мяне са свайго ўлоння. Шчыльнасць вады настолькі вялікая, што нырнуць аніяк не ўдаецца — падскокваеш на хвалях, як паплавок, і разумееш, чаму паблізу няма станцыі выратавання. Не мора — гатовы расол, у якім, здаецца, можна налавіць адразу селядцоў.

Трэба сказаць, што Марсэль спрадвеку лічыўся ці не самым свабодалюбным горадам Міжземнамор'я і чужой улады над сабой не цярпеў. Марсэльцы не захацелі падначаліцца рымскім імператарам Юлію Цэзару і Карлу V, французскія каралі таксама доўга не маглі падпарадкаваць сталіцу Праванса, што падумваў пра ўласны суверэнітэт. Пакуль самы кемлівы з іх — Францыск I — не прыехаў у 1526 годзе ў Марсэль і на гарадскім свяце на радасць месцічам не паўдзельнічаў у традыцыйнай бітве гнілымі апельсінамі. Гэткі манарх прыйшоўся даспадобы паспалітаму люду, і горад больш не бунтаваў.

Нягледзячы на цёплае мора і няспынную працу мылавараў, Марсэль нельга назваць чыстым горадам. Проста на ходніках, як пшаніцу прадаўшы, спяць мурзатыя клашары, ажно мінакі мусяць іх абыходзіць. У кожнага ў галавах — пачатая бутэлька добрага віна, закусь у пластыкавым пакеце. Раніцай на вуліцы Канаб'ер (ад французскага «канабі», што азначае каноплі) сустрэўся мне адзін такі прадстаўнік роду чалавечага. Ён стамлёныя рукі вольна ўшыркі раскінуў, а нагамі ўвесь ходнік загарадзіў. Спаў, а вёрткі верабей выдзёўбваў хлебныя крошкі з ягонай чорнай, як смала, барады... Калі ў 1942 годзе ў нейтральны да гэтай пары Марсэль прыйшлі чыстаплюі-немцы, то ўзарвалі цэлы квартал Сен-Жан — прытулак клашараў. Думалі такім чынам пазбавіцца ад іх назаўсёды...

Нягледзячы на сваё пабрацімства з морам, Марсэль заўжды меў праблемы з пітной вадой — да найбліжэйшай ракі Дзюранс амаль восемдзесят кіламетраў. І калі ў сярэдзіне XIX стагоддзя да горада нарэшце пракапалі канал, марсэльцы цэлы месяц гулялі і весяліліся. А пасярод Марсэля паўстаў фантастычна прыгожы палац Ланшан. Гэта гімн вадзе, праспяваны на мове архітэктуры. Вада ў Ланшане спявае ў незлічоных вадападах і фантанах, яна льецца з бычыных рагоў і львіных пашчаў на скульптурах, весела плюскоча ў рыштоках саду, афіцыйным апекуном якога быў самы знакаміты паэт Праванса Фрэдэрык Містраль.

Ён пісаў на сонечнай правансальскай мове, паэтызаваў працу вінаградараў і хлебаробаў; у ягонай паэме «Мірэй» смуглявыя маладзіцы дояць у вялікія кашы спелыя алівы, жнеі вяжуць залатыя перавяслы, а вясёлыя хлопцы смакуюць маладое віно. Ці — вось такі эпізод. Пастух авечак за доўгія гады, праведзеныя ў гарах, забыў усе малітвы, але перад смерцю вырашыў паспавядацца. Ён прыйшоў у храм і прызнаўся капелану, што грэшны — ненаўмысна забіў птушку.

«Ці ж грэшны ён? Як падаянне,
Навошта просіць пакаянне?» —
Падумаў стомлены імшою капелан.
Але ў святле лагодным свечак
Прыняў ён пастуха авечак:
«На жэрдку вешай свой запылены каптан».
А жэрдкай той быў промень сонца,
Што падаў наўскасяк з аконца —
Танчэйшы там, дзе верх, таўшчэйшы там, дзе ніз.
Пастух паслухаў капелана,
Адзенне скінуў паслухмяна,
На промень кінуў, і — о цуд! — каптан павіс!*

Прыжыццёвыя помнікі рэдка застаюцца стаяць пасля смерці герояў. Помнік Фрэдэрыку Містралю, усталяваны ў Марсэлі яшчэ пры жыцці паэта, удзячны народ шануе і сёння.

* Пераклад аўтара.

Палацы Ланшан і Фарос, фантан Канціні і кляштар Святога Віктора, вядома ж, уражваюць. Але бясспрэчнай архітэктурнай дамінантай Марсэля з'яўляецца ўсё ж базіліка Маці Божай Міласэрнай. Збудаваная на ўзвышшы ў рамана-візантыйскім стылі архітэктарам Эсперандзье, яна была асвечаная 4 ліпеня 1864 года. А 21 чэрвеня 1931 года ў прысутнасці 300 000 паломнікаў на дзесяціметровую статую Маці Божай, што аглядае горад з вышыні птушынага палёту, была ўскладзеная карона. Спачатку статуя была чорнага колеру, потым яе пакрылі залатымі пласцінкамі, якіх спатрэбілася ажно 29 400.

Да 1974 года турысты і паломнікі да базілікі ўздымаліся па канатнай дарозе, збудаванай пры ўдзеле славутага Густава Эйфеля. За восемдзесят гадоў яна перавезла ажно 20 мільёнаў чалавек і была разабраная дзеля бяспекі пасажыраў. Цяпер па вулачцы-серпанціне да базілікі як мага бліжэй стараюцца пад'ехаць аўтобусы, але ўсё роўна значную частку шляху трэба праходзіць пешкі. У самой базіліцы і ў будзень людна. На прасторных высокіх сценах храма развешаныя тысячы невялікіх карцінаў з біблейскімі сюжэтамі, з выявамі Маці Божай з маленькім Езусам на руках. У гэткі спосаб жыхары Марсэля — прафесійныя мастакі і аматары — выказалі сваю любоў і пашану да Той, Якая ўжо паўтара стагоддзя наглядае за горадам і мае яго пад сваёй апекай.

Пры ўваходзе ў базіліку — святы Ян і святы Ісая. Над галавой святога Яна выразна відаць сляды ад куляў. Французскія марскія пяхотнікі падчас Другой сусветнай вайны амаль два месяцы трымалі абарону ля падножжа Маці Божай Міласэрнай (уся Францыя здалася хутчэй). Апошнім заставаўся на пазіцыях лёгкі танк шэрман, названы імем бясстрашнай Жанны д'Арк. Пакалечаны гранатай, ён так і застаўся стаяць на схіле ўзвышша, ператвораны ў музейны экспанат. Сонца б'е прамой наводкай па ягонай гарачай брані, а на разарванай гусеніцы, як матылькі, бялеюць пялёсткі язміну.

Эсперандзье спраектаваў для Марсэля яшчэ адзін велічны храм — кафедральны сабор Дэ-Ля-Мажор. Уражваюць ягоныя памеры: дыяметр купала — 20 метраў, даўжыня сабора — 150 метраў, а вышыня такая, што фігуркі на капітэлях можна

разгледзець хіба ў бінокль. Глядзеў я ўгору і думаў: для каго стараліся дойліды, калі з зямлі іхняе працы не відно? Для Бога? А можа, з падобным адчуваннем («раблю для Бога») павінен працаваць кожны творца? А то почасту сучасныя мастакі лепяць, малююць і пішуць з адзінай думкай — каб як хутчэй займець людское прызнанне.

Ёсць у Марсэлі і свая Трыумфальная арка — копія парыжскай. А ў прыбярэжным парку Прадо ўсталяваны самотны Давід, скапіяваны мясцовым умельцам з Мікеланджэла. Дзеля чаго клануюцца архітэктурныя помнікі, я, шчыра кажучы, не разумею. Бо кожны з іх «упісваецца» аўтарам у пэўны архітэктурны пейзаж, які ў іншай мясцовасці паўтарыць немагчыма. Аднойчы архітэктар Леанід Левін расказваў мне, як кіраўнік адной сярэднеазіяцкай рэспублікі хацеў купіць у Беларусі копію... Хатыні. Маўляў, бавоўнаводы шмат працуюць, ім няма калі ездзіць за тысячы кіламетраў, каб паглядзець помнік спаленым вёскам... Уяўляеце нашу Хатынь між бавоўняных плантацый дзе-небудзь у ваколіцах Бухары?

Марсэль — горад гандляроў, мылавараў, вінаробаў і рыбакоў, але менавіта ён падараваў Францыі дзяржаўны гімн. «Марсэльеза» Ружэ дэ Ліля («Мы супраць тыраніі...») была адказам Праванса на рэвалюцыйны тэрор у Парыжы, дзе была зруйнаваная Бастылія, але без утомы працавала жудасная машына доктара Гільятэна. Парыж хацеў замаўчаць «Марсэльезу», але песня вольнакрылай птушкай разляцелася па ўсёй краіне. За больш чым двухсотгадовую гісторыю яе некалькі разоў забаранялі, трыццаць чатыры гады яна знаходзілася на нелегальным становішчы, але — выжыла, і сёння мільёны французаў спяваюць «Марсэльезу», паклаўшы руку на сэрца. А шчыраму каталіку-марсэльцу чуецца ў гэтым слове малітоўнае «Беражы Марсэль, Езу...».

Песні не клануюцца, як архітэктурныя помнікі. І «Беларуская марсэльеза» па змесце дужа адрозніваецца ад сваёй знакамітай папярэдніцы. Калісьці яна мела незвычайную папулярнасць у абедзвюх Беларусях — савецкай і Заходняй, якая да 1939 года знаходзілася ў межах Польскай дзяржавы. А сёння яе памятаюць хіба гісторыкі літаратуры... Гэй, мар-

сэльскія клашары, ці не пра вас таксама спяваецца ў гэтай песні, напісанай нараджэнцам беларускага мястэчка Шацк Аляксандрам Мікульчыкам? «Ад веку мы спалі, ды нас разбудзілі...» Але клашараў не хочуць будзіць ні мінакі, ні паліцыя, і яна соладка спяць пад плюскат цёплага мора.

Вечаровы Марсэль прыціх, ці не ўпершыню пачуўшы на сваіх вуліцах «Беларускую марсэльезу». А ўвогуле гэта даволі крыклівы горад, дзе, нібы ў плавільным катле, сутыкнуліся розныя этнасы і народы. Хіба эскімосаў не пабачыў я на вузкіх марсэльскіх вулачках, усе астатнія — у наяўнасці. Часам несупадзенне тэмпераментаў правакуе парушэнне грамадскага парадку, але гарадскія ўлады не вельмі гэтым пераймаюцца. Скажам, мне даводзілася бачыць мабільныя дэманстрацыі курдаў у цэнтры Марсэля. На дзесяці адкрытых легкавіках яны носяцца па вуліцах, раптоўна спыняюцца, дастаюць транспаранты і выкрыкваюць у мегафоны палітычныя лозунгі. Часам гэтыя спантанныя выступы замінаюць аўтамабільнаму руху, але паліцыянты лічаць за лепшае не ўмешвацца.

Побач з гатэлем «Меркурый» — вялікая кнігарня. Заходжу і назіраю незвычайнае відовішча — на мяккай, з дывановым пакрыццём, падлозе паміж стэлажамі сядзяць дзясяткі пераважна маладых людзей і чытаюць кнігі. Не кнігарня, а хата-чытальня. Прашу пардону ў захопленых чытаннем маладзёнаў і прабіраюся да стэлажоў з мастацкімі альбомамі. На адной з вокладак пазнаю знаёмыя віцебскія званіцы, рука машынальна цягне сваё да сябе, і вось ужо я шукаю вачыма, дзе прымасціцца, каб пагартаць альбом Марка Шагала. Купіць яго мне наўрад ці ўдасца — кнігі ў Францыі дарагія. Няспешна перагортваю старонкі. «Au-dessus de Vitebsk», «Vitebsk, scene de village», «Vitebsk, 1914», «Nu au-dessus de Vitebsk», тры партрэты паэта Гіёма Апалінэра, чый дзед быў беларускім паўстанцам...

Без асаблівай надзеі гляджу на цэтлік — неверагодна! Шыкоўны альбом можна купіць па кошце двух кухляў піва! Прыветная маладзіца на касе тлумачыць мне мой шанцунак і паказвае някідкую налепку на альбоме, дзе я разбіраю толькі два словы — Special prize! Што ж, я ўдзячны за неспадзяваны падарунак, месье Шагал. Калісьці, зачараваны вашымі ўнеба-

ўзлётнымі палотнамі, я прысвяціў вам верш, дзе былі гэткія радкі: «Маляваў ён не ў вазе лотаць / і не вулічную любоў, / ён вучыў чалавецтва лётаць, / з рук пускаючы, як галубоў!»

Дзякуй вам і за гэтыя ўрокі палётаў, месье Шагал, прыземленаму чалавецтву яны вельмі дарэчы. Поўдзень Францыі паспрыяў вашаму даўгалеццю, але на працягу ўсяго жыцця натхняліся вы ўспамінамі пра Віцебск. Вы не паверыце, але і сёння на віцебскім Пескавацiку пасуцца козы, і драўляныя хаты па-ранейшаму просяцца на вашы карціны, дзе ім не пагражацьме наступ урбанізацыі. Шкада, што вы не паспелі ўвекавечыць кожную з іх, месье Шагал...

Шагалаўскі Віцебск абуджае ў душы пачуццё настальгіі. Раніцай у расчыненае гатэльнае акно развітальна бомкае звон з базілікі Маці Божай Міласэрнай, і праз тры гадзіны імклівы «Боінг» абтрасае з крылаў сыравата-шэрую вату аблокаў, пакуль на вышыні дзесяці тысяч метраў не вынырвае ля самага сляпучага сонца. У салоне ўсталяваныя адмысловыя экраны, на якіх відно, як самалёт імкліва рухаецца над Еўропай. Турын, Мюнхен, Прага, Уроцлаў, Лодзь, Варшава... Ад Беластока да Менска авіялайнер далятае ўсяго за 20 хвілінаў. Што яшчэ трэба засумаваламу па радзіме падарожніку?..

*2009*

# ПЯЦІДЗЁННЫ РАПТУЛЯР*

У панядзелак прачнуўся, а галава — як вараны гарбуз: свядомасць дрэйфуе бязвёсельным чоўнам і не ведае, дзе кінуць якар. Адчуваю сябе апошнім расхэйдусам, што гатовы бязмэтна пралайдачыць яшчэ адзін дзень. Каб разварушыцца, вырашаю традыцыйную вечаровую прабежку перанесці на раніцу. Бягу па звыклым трохкіламетровым маршруце ў сваёй Малінаўцы. Наўслед гаўкаюць сабакі, якіх выгульваюць задуменныя гаспадыні. Іхняя задуменнасць аднойчы ўжо абярнулася для мяне парванай калашыной, бо надзяваць на чацвераногіх сяброў наморднікі ў нас не прынята — негуманна. Сёння, дзякуй Богу, абышлося.

Пасля прагулянкі для цела вырашаю зрабіць мацыён і для душы: стаўлю ў прайгравальнік нядаўна набыты «Беларускі альбом» Валерыя Дайнэкі. «Гаю мой, не кліч», «Зачарованая мая», «Стася»... Настрой праясніваецца, як, зрэшты, і неба за акном. Штосьці мне зарупіла, калі пачуў словы: «Ой ты Стася, смуглявая Стася... А што да́лей — у ветра спытайся». Дастаў з паліцы том Язэпа Пушчы — так і ёсць, верш ягоны, прысвечаны жонцы, Станіславе Плашчынскай. А на Дайнэкавым кампакце аўтарам «Стасі» названы Алег Лойка. Правяраю аўтарства песні на сайце «Беларускіх песняроў» — там ейным бацькам зарэкамендаваны паэт-песеннік Аляксандр Лягчылаў. Плюс да ўсяго прыгадваецца, як на апошнім «Славянскім базары» ў Віцебску на аўтара «Стасі» зусім забыліся, хоць яе выканаўца і атрымаў Гран-пры. Вось як не шанцуе Пушчу. Паўтараецца сітуацыя, пра якую ён сам пісаў па вяртанні з савецкіх лагераў:

Выстрыгалі з фотакартак,
выстрыгаюць і цяпер.
Ўспамінаць яго не варта
ні ў нядзелю, ні ў чацвер...

---

* Запісы рабіліся для перадачы «Прыватны дзённік» радыё «Свабода».

Па абедзе на адной «канспіратыўнай» кватэры сустракаемся з колішнім актывістам Саюза беларускай моладзі і асвятовым афіцэрам Беларускай краёвай абароны Юрасём Дубовікам, які адмыслова прыехаў у Менск на прэзентацыю часопіса «Veritas». Спадар Юрась за СБМ, БКА ды арганізацыю беларускага школьніцтва на Маладзечаншчыне падчас Другой сусветнай вайны адбыў 10 гадоў у ГУЛагу. Выйшаўшы на волю, двойчы спрабаваў паступіць у навучальныя ўстановы — беспаспяхова, падводзіла біяграфія. І Дубовік вырашыў рызыкнуць: пры чарговым паступленні ў адну з маскоўскіх ВНУ ў анкетнай графе «ранейшыя месцы працы» ён сумленна напісаў, што «з 1947 па 1957 год працаваў у сістэме НКВД». Праз два тыдні з Масквы прыйшло запрашэнне на іспыты, на якіх дзяржаўная прыймовая камісія была надзіва непатрабавальнай да абітурыента з Беларусі. «Супрацоўніка НКВД» выкрылі толькі гадоў праз пятнаццаць. Дзякуй Богу, часы змяніліся, і авантура закончылася звычайнай прафілактычнай гутаркай з пільнавокім і чуйнавухім «таварышам маёрам».

На сустрэчы з Дубовікам быў і гісторык Міхась Чарняўскі, ад якога атрымліваю каля трох дзясяткаў лістоў Ларысы Геніюш — для кнігі яе эпісталярнай спадчыны, што павінна выйсці сёлета ў адным з мінскіх выдавецтваў.

*

У аўторак з раніцы бяруся расчытваць лісты Ларысы Геніюш. Ідэя збору і выдання эпісталярнай спадчыны Ларысы Геніюш узнікла ў 2000 годзе, калі ў серыі «Беларускі кнігазбор» выйшаў том выбраных твораў паэткі. Тады я, як укладальнік, атрымаў шмат водгукаў менавіта на яе эпісталярый. А Данута Бічэль, якая доўгі час сябравала з Ларысай Антонаўнай, параіла сабраць яе лісты ў асобную кнігу. Я пачаў звязвацца з патрэбнымі людзьмі, наведвацца ў архівы. За пяць гадоў матэрыялу набралася на ладную таміну. Спадзяюся, сёлета першая ў беларускай літаратуры кніга-эпісталярый пад назвай «Каб вы ведалі» выйдзе ў свет.

Гартаю ў камп’ютары ўжо набраныя лісты. 1980 год, ліст сакратару ЦК КПБ Аляксандру Кузьміну: «Высокапаважаны

тав. Кузьмін, звяртаюся да Вас, бо інакшай рады не маю. Я нечаму веру ў Вашую чалавечнасць. Апошні час я многа перанесла ў Зэльве рознай прыкрасці, здзеку і ўмела арганізаванай знявагі... Я дажываю век суджанага вамі, змучанага турмамі, лагерамі і вечным праследаваннем зэльвенскіх уладаў чалавека. Я ведаю і веру, што Вы не з той кагорты людзей, якія мучаць паэтаў, і таму ў імя людскасці прашу — дапамажыце мне выехаць з СССР хоць да папуасаў...» Тав. Кузьмін выехаць «да папуасаў» паэтцы, вядома ж, не дапамог. Але прыслаў у Зэльву пісьменніка Алеся Жука (на той час — інструктара ЦК), які «асадзіў назад» некаторых зэльвенскіх партдзеячоў, што выжламі стаялі вакол хаты Геніюш у чаканні каманды «фас». Папіўшы гарбаты з Ларысай Антонаўнай, сталічны госць з'ехаў, а выжлы засталіся...

У другой палове дня Рада Саюза пісьменнікаў. Генерал Ч., які па волі выпадку стаў яшчэ і старшынёй Літфонду, падрабязна расказвае, як ён клапоціцца пра пісьменніцкі Дом творчасці «Іслач». З установы, дзе асноўнае месца працы тав. Ч., пісьменнікам ужо прапаноўвалася перадаць «Іслач» дзяржаве, прычым «оперативно и безвозмездно». Пісьменнікі, зразумела, не пагадзіліся. І вось цяпер руплівы літфондаўскі старшыня начамі не спіць, ездзіць у іслацкі лес і падпірае сваімі шырокімі генеральскімі плячамі пахіленыя муры Дома творчасці, каб не ўпалі... Жаласліва гледзячы на пісьменнікаў, генерал Ч. запінаецца і кажа, што ператварыць «Іслач» у рай для творцаў яму перашкаджае нейкі Скобла-еў. Я ажно ўздрыгваю. «Скобелеў», — тут жа папраўляецца генерал.

Прыгадваю, як аднойчы самы красамоўны беларускі чыноўнік з прозвішчаў Барадулін і Бураўкін ляпіў Барадаўкіна, і разумею, чыё гэта вынаходніцтва. Што ж, «от тебя мне хула — похвала», хочацца сказаць генералу Ч. словамі Ганны Ахматавай. Але ён, выступіўшы, хуценька збягае. А мы застаемся і прымаем у Саюз дванаццаць новых сяброў, сярод якіх Алесь Краўцэвіч з Гародні, а таксама дзве красуні Аксаны — Данільчык і Спрынчан. На банкеце прысуседжваюся да іх, і будучыня Саюза пісьменнікаў уяўляецца мне светлай і даўгавечнай.

*

У сераду, 23 лютага, калі, паводле афіцыйнага календара, належыць адчуваць сябе абаронцам Айчыны, разам з Эдуардам Акулiным і Леанідам Дранько-Майсюком едзем у Капыль прэзентаваць часопіс «Дзеяслоў». Па слуцкай шашы Эдуард лёгка дасягае 150 кіламетраў за гадзіну. Пасадка ў «Маздзе-323» нізкая, адчуванне, што вось-вось кранешся дарогі далікатным месцам, а асфальт — шурпаты, як наждачка. Міжволі згадваецца анекдот пра памаўзлівага ката, ад якога пры спробе пакоўзацца па аналагічнай паверхні засталіся адны вушы...

Першая сустрэча — у гарадской гімназіі, дзе калісьці вучыўся паэт Аляксей Коршак. Леанід чытае вершы пра каханне — старшакласніцы аж млеюць. Эдуард бярэ ў абдымкі гітару, і хлопцы-гімназісты сходу пачынаюць падцягваць арыю галоднага ваўка: «Я не шкодны воўк, я галодны воўк — у-у-у-у». Гэтае ваўчынае «у-у-у» настолькі дружнае і натуральнае, што ледзь сапраўдныя ваўкі з усіх навакольных лясоў не пазбягаліся.

Другі выступ — у раённай бібліятэцы імя Анатоля Астрэйкі, аўдыторыя — бібліятэкары з усёй Капыльшчыны. Што нам і трэба, бо калі «Дзеяслоў» патураць з кнігарняў (а справа да гэтага ідзе), застанецца спадзявацца толькі на падпіску ды бібліятэкі. Слухачы і тут натрапіліся ўдзячныя. Нават Ленін з партрэта на сцяне, здаецца, па-сяброўску падміргвае і з картавінкай прамаўляе: «А неплохой жугнальчик вы, гебята, соогудили. Но “Искга”, батенька, всё-таки погеволюционнее была».

У Менск вяртаемся ў прыўзнятым настроі. Пад вёскай Вялешына дарогу перамяло, і Эдуард літаральна тараніць белыя варухлівыя сумёты. Поўня, як залатое ядро, ляціць паўзверх спалоханых прыдарожных бярозаў. Яна так шчодра лье долу пазычанае ў сонца па той бок зямлі святло, што кіроўца выключае фары, і мы кіламетраў пяць едзем адно пад яе савіным наглядам, як партызаны. Каб не падпасці пад чарадзейны ўплыў поўні, я пачынаю чытаць услых Кандрата Крапіву, які, у адрозненне ад нас, Капыля відавочна недалюбліваў:

Вось Капыль: свінарнік бачу,
Чую музыку свінячу.
Тут, як помніцца, даўней
добрых шмат было свіней.
Жарабцы былі, паэты —
пладавіты горад гэты.
За тры мілі ад Капылі
Кузьму белага чарнілі...

Пачуўшы гэткую «мужыцкую» сатыру, пані поўня грэбліва хаваецца ў хмарах, і на душы спакайнее.

Вечар заканчваецца звыкла — пры камп'ютары: рыхтую для «Беларускага кнігазбору» том Рыгора Крушыны. Тэксты падабраныя, прадмова напісаная, засталася самая няўдзячная праца — каментары.

*

Чацвер пачынаецца з прыемнага — па тэлефоне віншую з 70-годдзем Рыгора Барадуліна. Дзядзьку Рыгору нядужыцца, нягледзячы на тое, што нядаўна паднаўляў сілы ў санаторыі «Крыніца» ў Ждановічах. Падзіўляю яго энергію і працаздольнасць: у свой юбілейны год паэт напісаў кнігі «Песні матчыны з Вушаччыны» і «Дуліна ад Барадуліна», пераклаў паэтычныя зборнікі Папы Рымскага Яна Паўла II і віцэ-прэзідэнта Чачэніі Зелімхана Яндарбіева. Гэта тое, што выдадзена, а колькі барадулінскіх твораў яшчэ чакаюць на сустрэчу з варштатам Скарыны, пэўна і сам паэт не ведае, бо кажа: «Заблудзіўся я ў вершах, як у лесе».

Па дарозе ў Акадэмічную бібліятэку забягаю ў кнігарню і набываю «Старажытныя маёнткі Берасцейшчыны» Анатоля Федарука. Чакаючы замоўленыя выданні, гартаю прыемны на дотык гросбух і бачу цэлую галерэю княскіх партрэтаў: канцлер Леў Сапега, паўстанец Яўстах Каэтан Сапега, генерал літоўскай артылерыі Францішак Сапега... А вось і князь Яўстах Севярын Сапега, з якім мне выпала тройчы сустракацца — у Гародні, Дзярэчыне і Варшаве. Жыве князь у сталіцы

Кеніі Найробі, размяняў дзявяты дзясятак, але малады душой і любіць прыязджаць на радзіму.

Гадоў пяць таму мой сябра Валянцін Дубатоўка ўсталяваў у Дзярэчынскім касцёле памятную шыльду па Сапегу-паўстанцу і прывёз на адкрыццё ягонага праўнука, што не паленаваўся прыляцець з Афрыкі. Паглядзець на сапраўднага князя Сапегу збеглася паў-Дзярэчына. Князю паднеслі каравай на бел-чырвона-белым ручніку, пасадзілі, як самага ганаровага госця, на амбоне. Падчас вячэры, акурат калі князь устаў з чаркай у руках, з касцельнай вежы бомкнуў стары сапегаўскі звон. «Ён пазнаў мяне!» — узрушана прамовіў князь і не змог стрымаць слёз.

Па дарозе ў Гародню высокі госць прызнаўся, што хацеў схадзіць на паляванне ў фамільным лесе пад Ружанамі, але мясцовы начальнік сказаў, што трэба прасіць дазволу ў больш высокага начальніка. Давялося паехаць «таварышу Сапегу» дахаты без паляўнічых трафеяў...

«Накаментаваўшыся» да рабаціння ў вачах і трохі адпачыўшы дома, позна ўвечары сядаю за «Галасы з-за небакраю». Анталогія сусветнай паэзіі ў беларускіх перакладах (720 паэтаў, 190 перакладчыкаў) амаль гатовая, засталося дадаць пару твораў. У бібліятэцы знайшоўся заходнебеларускі часопіс «Chryścijanskaja dumka» за 1932 год з вядомым «Гімнам» Юльюша Славацкага ў перакладзе Вінцука Адважнага.

Сумна мне, Божа! Хоць пагода красна,
Зямелька ўвосень багацее дужа,
На небе сонца яшчэ свеціць ясна —
Прыходзе і служа...
Мяне ўсё гэта пацешыць не можа.
Сумна мне, Божа!

Захацелася зверыцца з арыгіналам, палазіў па кутніх паліцах і знайшоў тое, што шукаў, — «Wiersze i poematy» вялікага польскага рамантыка. Чытаю:

Smutno mi, Boże! — Dla mnie na zachodzie
Rozlałeś tęczę blasków promienistą;

Przede mną gasisz w lazurowej wodzie
Gwiazdę ognistą...
Choć mi tak niebo ty złocisz i morze,
Smutno mi, Boże!

Параўноваю пераклад Адважнага з перакладам Гальяша Леўчыка і, трохі паразважаўшы, аддаю перавагу першаму. У паэта-ксяндза зварот да Бога атрымаўся ўсё ж лепш.

*

Раніцай у пятніцу недаспаў. Паводле арыентацыі ў часе сутак я — сава. Звык марнець пра камп'ютары да дзвюх, а то і трох гадзінаў ночы. Пад'ём а сёмай ці восьмай раніцы, калі часам трэба адвесці дачку ў школу, для мяне — катастрофа. А тут тэлефонны званок а шостай! Не расплюшчваючы вачэй, з патаемнай надзеяй, што нехта памыліўся нумарам, бяру слухаўку. Вясёлы голас паведамляе: «Сяджу пад кактусам на беразе акіяна, і для поўнага шчасця мне не хапае беларускай мовы!» Сон мяне яшчэ не адпусціў дарэшты, але я пачынаю кеміць, што нехта мяне разыгрывае. Бо мовы для шчасця можа не хапаць, на беразе таксама пасядзець можна, але каб — пад кактусам?! Гэта дзе ж такія кактусы растуць? Аказалася, у Мексіцы. А засумаваў без роднай мовы на далёкім кантыненце Валодзя Клімовіч — кампанейскі хлопец родам з Лідчыны, аўтар дзвюх кніжак харошай прозы.

Гадоў колькі таму ён, папулярны вядоўца тэлеперадачы «Землякі», разам з сям'ёй нечакана для многіх махануў за акіян, вывучыў гішпанскую мову — чытае ў арыгінале Борхеса. Але ні Борхес, ні Маркес, ні Актавіё Пас на дадзены момант ашчаслівіць яго не могуць. Тэрмінова спатрэбілася беларуская мова. З паўгадзіны, ужо канчаткова прачнуўшыся, размаўляю з земляком па-беларуску і чую ў трубцы, як недзе далёка ўздыхае Атлантычны акіян. На развітанне расчулены Валодзя абяцае сёлета прыехаць і прывезці ў падарунак папругу з кракадзілавай скуры...

Вечарам сядаю за рэдагаванне кнігі Лявона Юрэвіча «Мемуары на эміграцыі». Уся кніга — класічным правапісам, а

прадмова Міколы Нікалаева з Пецярбурга — наркамаўкай. І як мы з выдаўцом ні пераконвалі шаноўнага навукоўца паправіць свае дзве старонкі, ён зрабіць гэта катэгарычна адмовіўся. Што ж, пагодзімся з Платонам, які сцвярджаў: «Temperancia est custos vitae» («Памяркоўнасць — захавальніца жыцця»). Захаваем жыццё добрай кнізе.

*21–25 лютага 2005 г.*

# ВЫПРАБАВАННЕ НЕМАТОЙ

*Шэсць зацемак з Леанідам Галубовічам*

Леаніды — зоркі. Хто ж не памятае, як яны «сыходзілі на зямлю» ў рамане Уладзіміра Караткевіча «Нельга забыць»? А імя, як цвердзяць псіхолагі, нярэдка накладае свой адбітак на характар і паводзіны чалавека. Вось жа і сучасны крынкаўска-беластоцкі Сакрат усіх павучае і кідае парады праз мяжу: як мусяць жыць беларусы ў РБ...

Дзякаваць Богу, не заўсёды чалавек ёсць паслухмянцам свайго імя. Леанід Галубовіч не захварэў на зорную хваробу, хоць крытыка пра яго не аднойчы выказвалася ў суперлатывах. І ў большасці выпадкаў — заслужана. Не ведаю, як праз агонь і ваду, а праз медныя трубы (ва ўсіх сэнсах) паэт прайшоў. Як правіла, пад дажджом хваласпеву творцы бранзавеюць і ходзяць па доме літаратуры няйначай як камандорскім крокам. Альбо залазяць на пастаменты і аглядваюць наваколле звысоку. Прычым ніхто яшчэ не бачыў, каб помнікі самі спускаліся долу. Звычайна іх адтуль сцягваюць пад свіст і ўлюлюканне натоўпа.

Леанід Галубовіч падмосткаў сабе не шукаў і на катурны не самаўздымаўся. Цягнуў свой літаратурны воз як мог. І хто толькі на тым возе ні пад'язджаў на Парнас! Дзясяткі паэткаў з глыбінкі мусяць быць удзячныя Леаніду за той падвоз. Асобна ад усіх стаяць Мікола Купрэеў і Васіль Гадулька. Хто і калі ўзгадаў бы пра іх, выдаў бы іх кнігі, каб не Леанід Галубовіч? Тут жывых забываюць, не тое што мёртвых...

Рэдка хто з сучасных творцаў пагодзіцца запрэгчы свайго крылатага каня ў калёсы і пабыць, хоць ненадоўга, літаратурным рамізнікам. Галубовіч рабіў гэта неаднойчы. І вось ужо на нашым прыцьмелым небасхіле пабольшала краплінак святла. І перагукваюцца між светамі *міколы*, *васілі* і *леаніды*. «Зорка зорцы голас падае...»

* * *

Леанід Галубовіч ужо дванаццаць гадоў не піша вершы. Маўчанне любога паэта — тэма складаная, і паглыбляцца ў яе мімаходзь не хочацца. Вершы не пішуцца — і Бог з імі. Паэт піша прозу, крытычныя агляды, рэцэнзіі. Але гэта — як у залатым паціры вазоны разводзіць... Галубовічу вершы не пішуцца, а мне чамусьці няёмка, адчуваю — віна нейкая і на мне ляжыць. За што за якое? А вось за што. Дванаццаць гадоў таму мы сядзелі з Леанідам у радыёстудыі і гутарылі пра літаратурнае жыццё-быццё. На маё напаўжартоўнае пытанне, ці можаш ты не пісаць, мой суразмоўца раптам усур'ёз пакляўся, што пакідае паэзію назаўсёды. Думаючы, што ўсё гэта гульня ў словы, я пажадаў Леаніду адзін раз у жыцці стаць клятваадступнікам. Але ад сваёй клятвы паэт не адступіўся. Больш за тое, ён сваю вусную клятву замацаваў пісьмова, выдаўшы неўзабаве кніжку пад назвай «Апошнія вершы Леаніда Галубовіча». Я разумею, што маўчанне Галубовіча-паэта выклікана не маім пытаннем. «Но всё же, всё же, всё же...» — як пісаў другі паэт, які таксама зведаў выпрабаванне нематой.

* * *

Паэты — барометры духоўнага клімату ў грамадстве. «Я задыхаюся», — папярэджвае спавуцінены высокімі тэхналогіямі свет літоўскі паэт Томас Венцлава, які ўжо не першы дзясятак гадоў жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі. «Духоўны смог вісіць над краінай», — прызнаецца беларускі паэт Леанід Галубовіч, які ніколі не выязджаў за мяжу (Маскву, дзе ён вучыўся літаратурнаму рамяству, у разлік не бярэм). Прычым гэтыя прызнанні два паэты робяць амаль адначасова, незалежна адзін ад аднаго. Прафесар амерыканскага ўніверсітэта і пенсіянер паводле сацыяльнага статусу з вёскі Вароніна Клецкага раёна...

* * *

Яшчэ студэнтам трапляў я на падначоўкі да Леаніда Галубовіча — у яго цесную кватэру на вуліцы Каліноўскага.

Спаць мяне клалі ў зацішнай баковачцы за галоўным, прахадным пакоем. Здаецца, падобныя кватэры паўтарачкамі называюцца. Да гэтай пары і гасціннасць паэтавай жонкі Веры, і гутаркі за поўнач помняцца. Але найбольш чамусьці запомніўся той прахадны пакой, у якім фактычна і жыла сям'я з трох чалавек. Малая проза Леаніда Галубовіча — таксама прахадная, столькі праз яе людзей праходзіць...

* * *

Сапраўдны паэт часам міжволі *да-гаворвае* да ўжо сказанага — ужо прамоўленымі словамі. І тое *да-гаворанае* ўспрымаецца як істотны дадатак, хоць і ўтрымліваецца незаўважна ў асноўным тэксце. Бывае, такі дадатак і схіляе чытача на бок аўтара, змушае паверыць канчаткова ў напісанае. Прывяду два прыклады. Украінская паэтка Ліна Кастэнка ў гістарычнай баладзе пра полацкую князёўну Рагнеду і кіеўскага князя Уладзіміра называе колькасць ягоных жонак: «У нього *сто* таких на Бере*сто*ві, і кожна з них заходиться плачем». У радку двойчы гучыць лічба *сто*. А сто і сто — дзвесце. Нібы выпадкова, а — дасягаецца патрэбны эфект падвойнага мноства. А Леанід Галубовіч, пішучы пра Восіпа Мандэльштама, усклікае: «Ня*ма ма*гілы *Ма*ндэльшта*ма*!» І гэтае двойчы прамоўленае, па-дзіцячы роспачнае *ма-ма*, *ма-ма* ўважліваму чытачу пра мандэльштамаўскую трагедыю гаворыць больш, чым усе астатнія словы.

* * *

Даўней літаратурных зладзеяў называлі плагіятарамі. За прысвоеныя радкі ў турму не саджалі, але з рэпутацыяй плагіятара жыць у літаратуры было складана. Сёння непрыхаваны крадзеж, то бок здольнасць уплесці чужы радок у свой твор, сталі называць майстэрствам і постмадэрнісцкім мастацтвам. І вось ужо сучасныя постмадэрністы пішуць вершы, амаль цалкам складзеныя з чужых радкоў. Адчуванне такое, як быццам яны адшчыкваюць па лісточку з лаўравых вянкоў класікаў і прышываюць тыя лісточкі да сваіх вянкоў. Ці складана гэта

рабіць? Зусім не. Дэманструю, як можна складаць вершы з чужых радкоў, не дадаючы сваіх. Бярэм два радкі ў Пушкіна, два — у Канстанцыі Буйло, і атрымліваецца «новы твор»:

Зима!.. Крестьянин, торжествуя,
На дровнях обновляет путь.
І песню родную люблю я,
Што дзеўкі ў полі запяюць.

Начытаешся падобных твораў — нібы ідзеш ляснымі гушчарамі па компасе са збітым азімутам. Хочацца тупкай сцежкі пад нагамі, працярэбленай прасекі, у якую неба заглядвае. У такія хвіліны я люблю перачытваць Леаніда Галубовіча, яго першую кнігу «Таемнасць агню». Цытаваць з яе не буду. Баюся, давядзецца ўсю перапісаць — ад першага верша «Шукаю чытача — хаўрусніка душы...» да верша апошняга «Я — раб паэзіі...». Такіх цэльных і самадастатковых кніг у айчыннай паэзіі — адзінкі.

У наш сурагатны век вытворцы пачасту змушаныя пісаць на сваёй прадукцыі: *натуральны* мёд, *натуральнае малако*, *натуральная* вада. Што азначае — без дамешкаў, у дадзеным матухнай-прыродай выглядзе. На кнізе «Таемнасць агню» мне хочацца напісаць: *натуральная* паэзія.

*2010*

# TERRA NOVA АЛЕСЯ САЛАЎЯ

Дзевяностагоддзе паэта Алеся Салаўя наўрад ці будзе адзначана на Койданаўшчыне, дзе ён нарадзіўся, ці ў аўстралійскім Мельбурне, дзе ён памёр. На радзіме на яго ізноў, як за савецкім часам, забыліся, а на чужыне хто памятацьме пра тыя ўгодкі? Паэтавы сябры-раўналеткі — Мікола Аўрамчык у Менску ды Ігар Качуроўскі ў Мюнхене — ужо размянялі па дзясятым дзясятку. А ён пражыў усяго пяцьдзясят сем, з іх трыццаць чатыры — па-за межамі Беларусі, якую пакінуў дваццацітрохгадовым юнаком.

Рэдка хто з беларускіх паэтаў тае пары мог пахваліцца ўладкаваным жыццём, шмат хто здзейсніў падканвойнае падарожжа ў Сібір... Але нават на фоне тых трагічных падзеяў жыццёвы шлях Алеся Салаўя ўражвае сваёй беспрытульнасцю. Вёска Крысава пад Койданавам (дзе ён, тады яшчэ Альфрэд Радзюк, прыйшоў на свет 1 траўня 1922 года) — Самахвалавічы — Наталеўск — Вялікія Навасёлкі — Менск — Лагойск — Ілля — Рыга — Вільня — Беласток — Пуйкуле — Руйене — Масяру — Гедэмэстэ — Лібава — Кёнігсберг — Талін — Берлін — Прага — Вена — Зальцбург — Кірхгайм — Кротынген — Адэлаіда — Мельбурн (там паэта не стала 22 студзеня 1978-га)...

Вось тыя кропкі на геаграфічнай мапе, дзе знаходзіў свой часовы прытулак (кароткі ці больш працяглы) Алесь Салавей. Хіба толькі ў Мельбурне займеў нарэшце ўласны дом, на падворку якога з сябрамі пёк бульбу ў прыску. Бульба з прыску, можа, і смакавала, але занадта непадобная на Беларусь тая Аўстралія, каб хоць часткова замяніць радзіму. Радзіму, да якой прырос усімі каранямі і галінамі, з якой спалучаны самым непарыўным злучвом — мовай. Паэт немагчымы без роднай мовы, яна — залаты запас паэта, які зберагаецца, як у банкаўскіх сейфах, у памяці і душы. Пакуль яна там, назапашаная, гучыць усімі дзівоснымі сугуччамі, — паэт здольны шаптацца з зорамі. А заціхае мова — замаўкае і паэт, і хвіліны ягонага

жыццё на зямлі пачынаюць перасыпацца сухім пяском у пустэльні, бясплодным і нікому, нават яму самому, не патрэбным.

Можна дэкаратыўнае карлікавае дрэўца перасадзіць у гаршчок і перавезці на другі кантынент. Эўкаліпт не перасадзіш з Аўстраліі ў Беларусь — не прыжывецца. Так і паэт беларускі не прыжыўся ў Аўстраліі, хоць зямля і паветра нібыта паўсюль аднолькавыя. Без мовы, яе непаўторнай прасодыі і мілатонікі, занікнуў паэтычны дар. Без радзімы жыццё страціла сэнс.

Алесь Салавей прыйшоў да мяне са старонак часопіса «Новы шлях». Часопіс гэты трапіўся мне на вочы ў 1989 годзе, на перадапошнім курсе філфака БДУ, у студэнцкім інтэрнаце. Аднакурснік вярнуўся з вакацыяў са сваёй Мядзельшчыны не толькі з ладным апольцам смачнай шынкі, але і з падшыўкай невядомага мне да той пары выдання. Даў на вечар пагартаць і, забіраючы, папрасіў лішне не распускаць язык.

Не скажу, каб мяне моцна ўразілі фотаздымкі нямецкай бранятэхнікі ці партрэты фюрара на вокладцы. Уразіў змест часопіса, асабліва той факт, што выдаваны падчас вайны ў Рызе «Новы шлях» шчодра аддаваў свае старонкі беларускім гісторыкам, этнографам і пісьменнікам. Прачытаўшы паэму Алеся Салаўя «На хуткіх крылах вольнага Пегаса», я зразумеў, якога паэта не хапае ў праграмным спісе класікаў, чые творы вывучаліся на філфаку.

Прайшоў год-другі, і літаратуру беларускай эміграцыі пачалі заўважаць у метраполіі. І не толькі заўважаць — усе менскія газеты і часопісы лічылі сваім абавязкам надрукаваць на сваіх старонках пісьменнікаў-эмігрантаў.

Памятаю, кампанія «БелаПАН» (дай Божа здароўя яе заснавальніку — Алесю Ліпаю) даставіла ў Беларусь цэлы кантэйнер беларускіх кніг, выдадзеных у Мюнхене, Нью-Ёрку, Лондане, Таронта. Па іх запісваліся ў чаргу. Тады і трапілі ў мой кнігазбор «Спадчына» Янкі Купалы (з неразрэзанымі, нібы ў XIX стагоддзі, старонкамі), мюнхенскага крою «Вянок» Максіма Багдановіча і «Матчын дар» Алеся Гаруна, бінімаўскія тамы Наталлі Арсенневай і Алеся Салаўя. Арсенневай яшчэ пашанцавала патрымаць у руках кнігу сваёй

выбранай паэзіі, якая паспела выйсці ў сталічным выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1996 годзе. Потым перад пісьменнікамі-эмігрантамі айчынныя дзяржвыдавецтвы ізноў, як за савецкім часам, звыкла апусцілі забаронны шлагбаум.

Падарожнік, які едзе па Арарацкай даліне ў Арменіі, міжволі спыняецца каля незвычайнай аркі. Спыняецца і бачыць у ёй далёкі Арарат — святую для кожнага армяніна гару, якая апынулася на тэрыторыі Турцыі. Армяне змясцілі сваю недаступную святыню ў архітэктурную раму, як змяшчаюцца ў каштоўныя аклады старажытныя абразы. Так і на Беларусь мы часам глядзім праз трыумфальную арку нашай паэзіі.

Памятаеце Жылкава: «О, як соладка сэрцу маліцца: “Беларусь, Беларусь, Беларусь”»? Гэтак і Алесь Салавей багавейна ўсклікваў: «Скажу, укленчыўшы: Крывіччына святая! / Хай Ты на смерць была распятай, а жывеш». У яго аўстралійскіх вершах неаднойчы сустракаецца слова «паладзін». І сапраўды, ён — верны паладзін радзімы. Ён прызнаваўся ёй у любові, як каханай дзяўчыне, ён трымаў яе, як намолены абраз, на покуці сваёй душы, ён звяртаўся да яе на «ты», але нават гэтае «Ты» пісаў заўсёды з вялікай літары. Усё гэта вельмі нагадвае сярэднявечную рыцарскую паэзію, з якой даму сэрца неяк незаўважна выцесніла Беларусь-Крывія.

Я нездарма параўнаў Жылку з Салаўём, бо яны сапраўды блізкія — найперш сваімі паэтычнымі радаводамі ад Максіма Багдановіча. Што Алесь Салавей вучыўся ў Багдановіча — тое бясспрэчна. Алюзій на творчасць настаўніка, а часам і непрыхаваных цытатаў у вершах вучня — безліч. Не кажучы ўжо пра тое, што пераймаліся пэўныя эстэтычныя ўстаноўкі ды арыенціры накшталт гэтага: «Як месяц зіхаціць адбітым светам, / так ззяюць вершы даўніх форм красой». Вось адкуль яны, Салаўёвы санеты і трыялеты, актавы і рандо, гекзаметры і тэрцыны. Вось чаму адну са сваіх так і нявыдадзеных кніг паэт хацеў назваць па-багдановічаўску — «Вянкі».

Мне здаецца, што вершамі з папярэдняга і несмяротнага «Вянка» Алесь Салавей не толькі захапляўся, ён жыў паводле

іх. Памятаеце «Перапісчыка», створанага ўявай Багдановіча? «На чыстым аркушы прад вузенькім акном / прыгожа літары выводзіць ён пяром...» Падобным перапісчыкам стаў і Алесь Салавей, калі некалькі разоў перапісаў ад рукі зборнік вершаў Вацлава Ластоўскага, намаляваўшы ўсе застаўкі і буквіцы, каб падараваць яго найбліжэйшым сябрам. Трапляліся мне і вершы Ларысы Геніюш, перапісаныя каліграфічным почыркам Салаўя і разасланыя ім суродзічам па ўсім свеце. А рукапісы ягоных уласных кніг нагадваюць старасвецкія даскарынаўскія інкунабулы — здаецца, іх вынеслі на белы свет з якой-небудзь палаты кнігапіснай.

У савецкім літаратуразнаўстве існаваў гэткі тэрмін — паэт-самавук. Памятаю, так называлі Старога Уласа, які працаваў ляснічым у графа Тышкевіча. Але хто з беларускіх паэтаў першай паловы ХХ стагоддзя мог пахваліцца закончанай літаратурнай адукацыяй? Хіба адзін Уладзімір Дубоўка — выпускнік маскоўскага Брусаўскага літінстытута. Але дзе ён мог скарыстаць сваю сапраўды выдатную адукацыю? Не будзеш жа расказаваць пра ямбы ды амфібрахіі мядзведзям у краснаярскай тайзе...

Беларускія паэты вучыліся свайму рамяству не ў акадэміях, не ў сівагаловых прафесараў ці надомных рэпетытараў. Навука паэзіі перадавалася паэтамі эстафетна — з рук у рукі, з радка ў радок. І шырокія, як марскія хвалі, памеры Гамера, і выказаная безапеляцыйна, як судовы вырак, рацыя Гарацыя — усё спасцігалася непасрэдна над старонкамі кніг.

Алеся Салаўя таксама можна залічыць у паэты-самавукі. Не выпадае ж месячныя літаратурныя курсы перад вайной назваць лесвіцай на Парнас. Ды і ці да навукі было шаснаццацігадоваму юнаку (тады яшчэ — Альфрэду Радзюку), на вачах якога нядаўна арыштавалі маці і бацьку, на плечы якога лёг нялёгкі клопат пра малодшую сястру і братоў?

На тых жа курсах навучаўся паэт Мікола Аўрамчык, які пазней успамінаў: «Альфрэд быў вельмі сціплы, крыху нясмелы, занадта сентыментальны. Затое, калі яго крыўдзілі, ён бываў ганарліва-яршысты. Скардзіўся на слабое сэрца, не мог

хутка хадзіць, яму цяжка было падымацца на трэці паверх. На працягу месяца вучобы жыў на поўным утрыманні Літфонду. Аднойчы наш агульны сябра Аркадзь Марціновіч, які ўжо настаўнічаў і якраз атрымаў зарплату, запрасіў Альфрэда ў рэстаран. Дык той пасля прызнаўся, што ўпершыню за доўгі час папалуднаваў па-людску».

Паесці не было за што, а на кнігу (чытайце — самаадукацыю) грошы знаходзіліся. Што ж, многія пачаткоўцы аддавалі перавагу хлебу духоўнаму перад хлебам надзённым. Як тут не прыгадаць аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Альгерда Абуховіча-Бандынэлі: «Хоць галодзен — я свабодзен, дзе мне цягне — там бягу...»

Філосаф Эрых Фром пісаў пра ўласцівыя чалавеку ўцёкі ад свабоды. Наўрад ці зразумелі б ягоныя мудрагельствы грамадзяне дзяржавы, якая мільёны запіхнула за калючы лагерны дрот.

Што да рыфмы «галодзен — свабодзен», то яна мела поўнае права прапісацца ў паэтычным арсенале Алеся Салаўя. Падцягваць пояс яму ў жыцці давялося неаднойчы. І ў акупаваным немцамі Менску, дзе хлеб выдаваўся па картках, і ў Рызе, дзе на беларусаў, супрацоўнікаў часопіса «Новы шлях», латышы паглядалі падазрона, як на акупантаў. Блыталі з расійцамі. А савецка-расійскія акупанты прыйшлі ў Латвію першымі, апярэдзіўшы немцаў... Падцягваўся пояс і ў Зальцбургу, у лагеры для безрадзімцаў і бесхацінцаў, якіх у паруйнаванай Еўропе налічвалася сотні тысячаў.

І тут я чую зларадны галасок, які абавязкова прагучыць, які ў сучаснай Беларусі не можа не прагучаць: «Так яму і трэба, калабаранту, нямецкаму паслугачу. Па ім Сібір плакала!» Так, Алесь Салавей працаваў у «Беларускай газеце», у цывільнай адміністрацыі мястэчка Ілля на Вілейшчыне, у рэдакцыі згаданага ўжо «Новага шляху». Друкаваў і ў газеце, і ў часопісе лірычныя і патрыятычныя вершы. Але ні разу, ні пад адным прапагандысцкім артыкулам я ні ягонага сапраўднага прозвішча, ні ягоных менш вядомых псеўданімаў (Антон Дабрыдзень, Алесь Вясновы, Максім Блакітны, Банадысь Свой) не бачыў.

«А чаму ён не стаў савецкім партызанам?» — чую я той жа галасок. А чаму ён, уласна кажучы, павінен быў са зброяй у руках бараніць той палітычны лад, які яго асіраціў?

Гэтаксама не мела за што асабліва любіць савецкую ўладу і супрацоўніца тае ж «Беларускай газеты» Наталля Арсеннева, якую таксама вінавацяць у калабаранцтве сучасныя чыстаплюі. За што любіць? За казахстанскую ссылку? За мужа на Лубянцы?

У самае недарэчнае становішча трапіў сябра Салаўя паэт Масей Сяднёў. Прыход немцаў літаральна вызваліў яго з савецкай турмы. Дык што, і ён мусіў ісці ў партызанскі лес, дзе яму, учарашняму «ворагу народа», які-небудзь засланы з усходу камісарык мог без лішніх роспытаў уляпіць кулю ў патыліцу?

Нам, беларусам, у ацэнцы гэткай складанай з’явы, як калабарацыя, трэба браць прыклад з еўрапейскіх краінаў. У выдаваных падчас нямецкай акупацыі газетах друкаваўся і чэшскі паэт Яраслаў Сайфэрт. Але яго за гэта ніхто не пазбаўляў волі на дваццаць пяць гадоў, як Ларысу Геніюш. Наадварот, прайшоў час — і ён быў уганараваны найвышэйшай у свеце Нобелеўскай прэміяй. На радасць усім чэхам.

А прэзідэнт Францыі генерал Дэ Голь публічна, праз нацыянальнае радыё, неўзабаве пасля вайны выказваў падзяку тым настаўнікам, якія пры немцах вучылі дзяцей на французскай мове.

Чаму ж вінаватымі аказаліся беларускія настаўнікі, якія на свой страх і рызыку адраджалі нацыянальнае школьніцтва ў акупаванай Беларусі? Паваенны савецкі рэжым праследаваў іх не за тое, што вучылі пры немцах, а за тое, што вучылі па-беларуску. Трэба проста зірнуць на пэўныя падзеі з уласна беларускай званіцы, і мы перастанем бачыць ворагаў там, дзе іх ніколі не было.

Алесю Салаўю праца ў «Беларускай газеце» і «Новым шляху» давала магчымасць, па-першае, фізічна выжыць, па-другое — працягваць самаадукацыю. Што ён, нядаўні вучань савецкай школы, мог ведаць з гісторыі сваёй радзімы? Пра каўтун на галаве дакастрычніцкага беларуса і пра небыва-

лы росквіт Беларусі пасля вялікага Кастрычніка? А тут на старонках выдання, дзе ты працуеш, друкуецца з працягам «Беларусь учора і сёння» Язэпа Найдзюка, «Кароткая гісторыя Беларусі» Вацлава Ластоўскага, гістарычныя нарысы Усевалада Ігнатоўскага... Чытай — не хачу.

Невыпадкова менавіта ў 40-я гады гістарычная тэма ў творчасці Салаўя выходзіць на першае месца. Ды і пазней, перабраўшыся з Аўстрыі ў Аўстралію, паэт яе абмінаць не будзе.

Гісторык Юры Туронак у сваім даследаванні «Беларуская кніга пад нямецкім кантролем» прыводзіць цікавую статыстыку. Аказваецца, і падчас акупацыі варштат Скарыны не прастойваў, а наклады некаторых кніг («Беларуская граматыка для школ» Браніслава Тарашкевіча», «Беларускі правапіс» Антона Лёсіка) сягалі 100 000 (!) асобнікаў.

У спісе выданняў знаходзім і паэтычны зборнік Алеся Салаўя «Мае песні», надрукаваны трохтысячным накладам у 1944 годзе ў Рызе. А перад гэтым паэт мусіў некалькі разоў прыязджаць у Менск, выбіваць на вайсковым складзе паперу, дамагацца дазволу на друк, палагоджваць справы з цэнзурай.

Рарытэтны асобнік гэтай падобнай на школьны сшытак кніжкі мне давялося патрымаць у руках у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. На форзацы — аўтограф: «Уладзімеру Кушалю — Алесь Салавей». Бэрлін, 22.IX.44 г.».

Пасля «Вянка» Максіма Багдановіча я не ведаю другой такой кнігі (таксама ж — першай), дзе была б гэтак наглядна прадэманстравана тэматычная, метрычная і поліфанічная разнастайнасць верша.

Зборнік пачынаецца санетамі «Гайна» і «Лідскае замчышча», далей ідуць творы, напісаныя ў форме тэрцыны, рандо, белага верша. Паэт умела абыходзіцца і з абрывістым брахікаланам і з даўжэзным гекзаметрам. Яму падуладныя пярэваратні-трыялеты і вершаваныя цыклы, напісаныя ўрачыстым александрыйскім вершам. Ёсць у зборніку і рыфмаваныя афарызмы, і пераказаныя па-беларуску фрагменты з «Калевалы», і наследаванні Гамеру, і прыпавесць пра грэцкага мастака Апелеса і Аляксандра Македонскага...

Хто з беларускіх савецкіх паэтаў на той час мог сабе дазволіць такое? Ад іх патрабавалася адно — прыраўняным да штыка пяром весці вайну з фашызмам. Але вайна рэдка натхняе паэтаў на стварэнне шэдэўраў. Паэзія любіць жыццё і цураецца смерці.

У рэдакцыі «Новага шляху» Алесь Салавей працаваў разам з літаратуразнаўцам Уладзімірам Сядурам (ён значыўся галоўным рэдактарам) і паэтам Пятром Сакалом. Сваім чалавекам у часопісе быў і Кастусь Езавітаў — дзеяч яшчэ БНРаўскай плеяды. А жыў паэт у Рызе хоць і на чужамоўнай Бісмаркштрасэ, але ў кватэры Міколы Дзямідава — беларускага вайскоўца таксама старой, яшчэ царскай, закваскі, які ласкава перадаў землякам ключы, а сам паехаў настаўнічаць у беларускія раёны Латгаліі.

У «мемуарна-каментатыўных нататках» Антона Адамовіча «Так пяяў Салавей» (фактычна — манаграфіі) рыжскі перыяд у жыцці паэта выглядае ці не празмерна гусарскім. Наведваў літаратурны салон, пазнаёміўся з мастачкай, якая зрабіла малюнкі да ягонай кнігі...

Магчыма, у тым латышска-расійскім салоне Алесь Салавей і знаходзіў часовую кампанію, дзе збіраліся неабыякавыя да паэзіі і мастацтва людзі. Але — якой блізкай да адчаю самотай вее з ягоных тагачасных лістоў да Масея Сяднёва! Нібы жыў паэт не ў еўрапейскай сталіцы, а на бязлюдным востраве. Лісты пісаў — па дваццаць і больш старонак. Ад празмернай адзіноты спрабаваў ратавацца алкаголем. Даходзіла да псіхічных зрываў. Па начах сам сабе чытаў уголас вершы, будзіў суседзяў.

Вось урывак з ліста, напісанага 31 снежня 1943 года: «А я — адзін. На ўсю кватэру адзін. Вярнуўшыся з пошты, вазьмуся за Байрана. Разам з ім пакіну сваю кватэру, пакіну зямлю і палячу ў аблокі. Разам з Байранам там, у аблоках, я і спаткаю Новы год».

Новы год — з Байранам... Вось такі літаратурны салон — у рыжскім небе. І далей: «Сапраўды, няма збавення. Хай яе пярун спаліць, гэтую Рыгу! Цяпер мне б — на Беларусь, у чыстае поле або ў асабнячок у Менску, каб не трывожыць суседзяў...»

Колькі беларускіх паэтаў жыццё дажывалі, марачы пра падобнае! На берагах Енісея і Гудзона, у казахскіх бяскрайніх стэпах і запалярнай тундры, на падканвойнай Калыме і ў «вольным краі тым, дзе ўдаль плыве Мурэй»...

Чым страшная адзінота? Чалавек застаецца сам-насам з няспынным бегам часу, які няўлоўна ўцякае, які не стрымаць, не дагнаць. У аднаго мудрага чалавека спыталіся: «Які самы злавесны гук на свеце?» І той адказаў: «Гадзіннікавае цік-так».

З Рыгі Алесь Салавей пакручастым шляхам — праз Эстонію, Кёнігсберг і Балтыйскае мора — трапляе ў Берлін, дзе кароткі час працуе бібліятэкарам пры Беларускай Цэнтральнай Радзе. Калі нехта (ізноў жа) хоча папракнуць паэта за знаходжанне па сваёй волі ў логаве фашызму, хай прачытае хоць бы гэты верш, названы па нямецку «Fröhliche Weihnachten», што азначае звыклае і для нас пажаданне: «Вясёлых Калядаў»:

Так, Fröhliche Weihnachten! Так, паны,
з грубой душой пад знакам павучыны.
Што ж маеце, вандалавы сыны,
да той жанчыны?

Яна з малой дзяўчынкаю — дачкой,
асіліўшы пакуты і знямогу,
вязе ў касцёл праз ваш несупакой
малітвы Богу.

Дзяўчынка ўся ссінела, як той «Ost»
на світцы ў маці. Ost'аўка — не пані,
ёй месца і ні ў свята, і ні ў пост
няма ў S-Bahn'е.

Арыйскі дух з вагона гоніць прэч
жанчыну-маці і дачку жанчыны...
...Карае вас, карае Божы меч
ліхіх, бясчынных.

І знікне чорны прывід Сатаны,
і згіне зверства след на хіжым твары.

Так, Fröhliche Weihnachten! Так, паны,
людства пачвары!

Пад вершам дата — 24 снежня 1944 года. S-Bahn — гэта гарадская чыгунка. «Павучыны знак» — безумоўна, свастыка. А як называе Алесь Салавей фанабэрыстых прадстаўнікоў арыйскай звышрасы? Вандалавымі сынамі і пачварамі. Ці трэба казаць, куды мог трапіць паэт, калі б яго «вясёла-каляднае» пасланне трапіла ў рукі дасведчанага немца? У Бухенвальдзе і Дахау яшчэ дыміліся печы...

Увогуле, чаму ніхто з нашых літаратуразнаўцаў да гэтай пары не напісаў адмысловага даследавання на прыблізна такую тэму — «антыфашысцкія настроі ў беларускай паэзіі пад нямецкай акупацыяй?» Дзе можна ўбачыць гэтыя настроі? Уважліва прачытайце верш «Годзе!» Наталлі Арсенневай (год напісання — 1942), верш «Маем сілы і край свой» Уладзіміра Дудзіцкага (датаваны 1943 годам) ці санет «Лідскае замчышча» таго ж Алеся Салаўя, напісаны ў 1942-м...

Новы, 1944 год паэт сустракаў з Байранам у Рызе. А свой дваццаць трэці дзень народзінаў — проста на дарозе з Вены ў Зальцбург, з яшчэ адным выгнанцам, паэтам Алесем Змагаром. Упрогшыся ў брычку, пагрузіўшы на яе самы неабходны жыццёвы набытак, паэты пешкі ратаваліся ад савецкіх войскаў, якія ўжо занялі паў-Еўропы і занялі б яе ўсю, каб не гістарычная сустрэча з саюзнікамі на Эльбе.

У Зальцбургу Алесь Салавей трапляе ў адзін з лагераў для выгнанцаў, якія знаходзіліся на ўтрыманні міжнародных арганізацый. Хоць лагеры гэтыя размяшчаліся па-за савецкай акупацыйнай зонай, іх наведвалі савецкія рэпатрыяцыйныя місіі, агітавалі вяртацца ў Савецкі Саюз. Антон Адамовіч пазней успамінаў, як сярод місіянераў нечакана пазнаў свайго колішняга калегу па згуртаванні «Узвышша», ад якога пачуў сказанае з аглядкай, напаўголасу: «Не вяртайся». Не будзем варажыць-падлічваць, колькі суайчыннікаў былы ўзвышэнец выратаваў ад Сібіры. Думаецца, той учынак залічыўся яму на судзе высокім і справядлівым.

Паінфармаваныя пра небяспеку вяртання на радзіму, са згоды сваіх утрыманцаў насельнікі лагераў мянялі прозвішчы, рыхтаваліся да выезду з падзеленай на два антаганістычныя станы Еўропы. Алесь Салавей атрымаў часовы пашпарт на імя Альберта Кадняка, але салаўіныя песні працягвалі гучаць у ягонай змучанай настальгіяй і вайной душы. Чатыры гады, пражытыя ім у Зальцбургу, на паўгалодным лагерным пайку, як ні дзіўна, сталіся самым плённым перыядам у жыцці паэта. Разам з сябрамі Аляксеем Грыцуком і Уладзімірам Дудзіцкім Алесь Салавей выдае часопіс «Пагоня», друкуецца ў «Шыпшыне» Юркі Віцьбіча і «Сакавіку» Антона Адамовіча, знаёміцца з украінскімі паэтамі Ігарам Качуроўскім і Барысам Аляксандравым, перакладае творы пабрацімаў на беларускую мову.

Калі гэтая кніга ўжо рыхтавалася да друку, я даведаўся, што Ігар Качуроўскі жыве ў Мюнхене. Украінскія сябры падказалі адрас, і я папрасіў паэта і літаратуразнаўцу, аўтара вядомай ва Украіне кнігі «Строфіка», успомніць зальцбургскія гады. Пісьмовы адказ ад дзевяностагадовага прафесара прыйшоў хутка. Пан Качуроўскі ахвотна прыгадаў падзеі шасцідзесяцігадовай даўнасці, расказаў, што Алесь Салавей у Зальцбургу належаў да Саюза ўкраінскіх навукоўцаў, пісьменнікаў і мастакоў. І яшчэ паведаміў: «Некалькі разоў мы выступалі перад публікай супольна — Алесь, Барыс і я. Найпрыгажэй дэкламаваў вершы Алесь». Я папрасіў Ігара Качуроўскага пашукаць у сваім архіве прысвечаны яму ўкраінскамоўны верш Алеся Салаўя, ад якога засталося адно-адзінае чатырохрадкоўе:

Тільки очі лукаво примружить
І зі швабом тікае за ріг.
О мій Ігоре, любий мій друже,
Вже нікуди немае доріг.

Качуроўскі, які дваццаць пасляваенных гадоў пражыў у Аргенціне, са скрухай расказаў мне пра сваю бяду: «Калі я ў 1996 годзе наведаўся на свой хутар паблізу Буэнас-Айрэса, мне

расказалі, што мой прыяцель, які той хутар даглядаў, спіўся і памёр за пару тыдняў да майго прыезду, а ягоны малодшы брат спаліў мае архівы. Так што я застаў у садзе круглае выпаленае месца і яшчэ раз нядобрым словам згадаў Міхаіла Булгакава з ягоным хлуслівым выслоўем: "Рукапісы не гараць"» (ліст ад 12 снежня 2008 года).

Недзе з тым спаленым архівам пайшоў дымам у аргенцінскае неба і працытаваны вышэй верш Алеся Салаўя, і фотаздымкі зальцбургскай пары, і другія сведчанні шчырай дружбы двух паэтаў — беларускага і ўкраінскага.

Зальцбургскія гады былі плённымі не толькі ў літаратурнай творчасці — у 1945 годзе Алесь Салавей ажаніўся, а праз два гады ўжо стаў бацькам дваіх дзяцей — сына Міхася і дачкі Ганны. А сем'і з малалетнімі дзецьмі краінамі вольнага свету (дзе патрабавалася найперш працоўная сіла) прымаліся менш ахвотна. Таму і напісалася ў прысвячэнні сябру адчайнае: «Вже нікуди немає доріг». Сябры выязджалі — хто ў Злучаныя Штаты Амерыкі, хто ў Канаду, хто ў Аргенціну... Вызвалены ад працы Алесь Салавей (пісьменнік у лагеры мог не працаваць) з акна свайго барака сузіраў суровыя Альпы і зноў адчуваў сваю непатрэбнасць у свеце...

У 1948 годзе пабачыў свет яго зборнік «Сіла гневу», другі пасля «Маіх песняў». Гэтыя два зборнікі заўважна розняцца між сабою: калі ў першым паэт жыццялюбна славіў «чыстую красу», то ў другім, кажучы біблейскімі словамі, «упаў у адчай і беспрасветны смутак», усё часцей адчуваў сябе фаталістам, якому паўсюль мроіліся вобразы смерці (вершы «Зямля ў агні», «Плыве вадаплаў і плыве...»). «Міндаловы горкі пах» наплываў не толькі з Багдановічавага «Вянка» — настольнай кнігі Алеся Салаўя. Спрабуючы растлумачыць схільнасць паэта да вобразаў смерці, як не ўспомніць прыгаданы Юркам Віцьбічам вусцішны факт: дзед будучага паэта пасля арышту сына Васіля ў 1937-м наклаў на сябе рукі, і падлетку Альфрэду давялося вымаць яго з пятлі... Ратаваўся Салавей творчасцю, літаратурай — як відно з лістоў сябрам, што пачыналі новае жыццё за акіянам. Апошні ў «Сіле гневу» верш невыпадкова

мае дзеяслоўную назву «Жыць» і заканчваецца радком-заклёнам: «З цясніны я ірвуся, каб жыць, каб жыць, каб жыць!»

«У якім вершы Янкі Купалы згадваецца Пагоня?» — аднойчы запытаўся ў мяне гісторык літаратуры Анатоль Сідарэвіч, хітравата ўсміхаючыся, маўляў, усё роўна не адгадаеш. Але я адгадаў — з дапамогай Алеся Салаўя. Ёсць у яго верш «Конадзень» — пра хуткага конніка, на чыім «шчыце вастракутым крыж Ярылаў мігае». А цяпер прыгадаем радок-рэфрэн аднаго з самых вядомых купалаўскіх вершаў: «Паўстань з народу нашага...» Заклікаюцца паўстаць і Прарок, і Пясняр, і Уладар. Даходзіць чарга і да Ваяра: «Паўстань з народу нашага, Ваяк, / і волатам на вогненным кані...» І ў Купалы, і ў Салаўя ваяр-коннік не называецца, даецца праз апісанне.

Перагукваецца з Купалам Алесь Салавей і яшчэ ў адным выпадку. Памятаеце іранічнае купалаўскае: «Я не паэта, о крый мяне Божа!» А ў сваім «Лісце да крытыка» Салавей упэўнена і з выклікам заяўляе: «Я — паэта!»

І калі Янка Купала, прыбядняючыся, пісаў: «Я — пан касы», то Алесь Салавей мог бы з поўным правам прадэклараваць: «Я — пан красы». Нездарма яго выніковая кніга, выдадзеная ў 1982 годзе Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, мае назву «Нятускная краса». Назва — аўтарская, хоць паэта на той час ужо не было сярод жывых.

Выказвалася, і неаднойчы, меркаванне, што выезд Алеся Салаўя ў 1949 годзе ў Аўстралію быў памылкай, якая ўрэшце і прыспешыла ягоную смерць. На новым мацерыку, як пазней у прыватным лісце прыгадвала ўдава паэта Зінаіда Кадняк, абжыцца было сапраўды няпроста: «Галоўнай праблемай быў дах над галавой. Наняць кватэру ў тыя часы з дзецьмі было амаль немагчыма. У нас жа ў Аўстраліі ў 1950 годзе нарадзіўся другі сын — Юра. Трое дзяцей, адно з іх глуханямое... Па сканчэнні двухгадовага кантракту, які адбывалі ў Адэлаідзе, мы пераехалі ў Мельбурн. Сябры дапамаглі пабудаваць частку дома (два пакоі). Далей будаваліся па меры магчымасці, ашчаджаючы кожны грош, куплялася толькі самае неабходнае.

Дужа мала знаходзілася часу на пісанне вершаў, ды і муза вельмі рэдка наведвала Алеся».

Антон Адамовіч, каму і адрасаваўся працытаваны ліст, старанна падлічыў усе паэтавы спатканні з музай пасля выезду з Еўропы. І хоць алгебра ў спасціжэнні гармоніі — памочнік, як вядома, ненадзейны, прывядзём тут гэтыя сухія лічбы. Такім чынам, у 1949 годзе Алесь Салавей напісаў 17 вершаў (улічваючы створаныя па дарозе ў Аўстралію), у 1950-м — 6, у 1951-м — 8, у 1952-м — 28, у 1956-м, 1959-м, 1964-м, 1966-м, 1967-м, 1968-м, 1969-м, 1970-м, 1976-м — па адным вершы; не названыя гады былі ўвогуле бясплённымі.

Чым жа займаўся паэт па першым часе ў той Аўстраліі? Дамо слова яму самому: «Насіць цэглу, капаць ямы, пілаваць дровы, вазіць вагонікі з пяском, забіваць кіркаю каменне пад шпалы, мясіць гліну, цягаць скрынкі і валізкі, мыць вокны і падлогі, бяліць сцены, раўняць рыдлёўкай дарожкі ў алеях, падмятаць, прыбіраць — гэта мае спецыяльнасці». Пералік «спецыяльнасцяў», вядома ж, уражвае. Што ж, Аўстралія — не Аўстрыя, дзе пісьменніку дазвалялася не працаваць.

А яшчэ Алеся Салаўя не пакідае спрадвечнае беларускае жаданне «купіць зямлю, прыдбаць свой кут». І ён ці не ў кожным лісце параскіданым па свеце сябрам піша і піша пра свой няўхільны клопат: «Учора і сёння шукаў зямлю ў Адэлаідзе», «добрая зямля каштуе нямала, затое — хоць адразу будуйся на ёй», «учора купіў зямлю і нарэшце стаўся собснікам (18 метраў ушыркі і каля 50 — удоўжкі)», «гэтая зямля — мая няўхільная патрэба»...

У другім паўшар'і шукалася Алесем Салаўём новая зямля — terra nova — літаральна і метафарычна. І калі ў першым выпадку пашанцавала, то ў другім — шанцавала ўсё радзей і радзей. Маўчанне паэта — тэма далікатная, таму наўрад ці мэтазгодна дашуквацца прычынаў гэтага маўчання. Розныя паэты па-рознаму пераадольвалі зону нематы: спрабавалі пісаць прозу, перакладалі.

Алесь Салавей звяртаўся да перакладаў і раней, яшчэ ў Рызе і Зальцбургу, але рабіў гэта ад выпадку да выпадку. Часам — з ветлівасці. Сяброўскія беларуска-ўкраінскія дачы-

ненні вымагалі і паэтычных перазоваў. І перазовы гэткія мелі месца: украінцы Барыс Аляксандраў і Анатоль Галан пераклалі з дзясятак твораў Алеся Салаўя — апошні дапамог абазваца па-беларуску Тарасу Шаўчэнку і Леаніду Палтаве. Але толькі ў Аўстраліі Салавей вырашае заняцца перакладамі грунтоўна.

У 1951 годзе ён спрабуе перакладаць вершы Джона Кітса. Вынік перакладчыка не задавальняе, і гэта зразумела: перакладаць англійскую класічную паэзію з павярхоўным веданнем мовы немагчыма. Паэт просіць сябру Янку Філістовіча, які застаўся ў Еўропе, прыслаць ангельскі слоўнік. І той прысылае — перад сваім дэсантаваннем у Беларусь, дзе будзе схоплены і расстраляны вясною 1953 года. Ці ведаў пра гэта Алесь Салавей?

А пакуль ён перакладае новых аўстралійскіх паэтаў, вяртаецца да сваіх ранейшых перакладаў з Рыльке, шліфуе іх і дасылае ў часопіс «Конадні». Пра намеры Салаўя-перакладчыка гаворыць адзін з ягоных лістоў у Беларускі інстытут навукі і мастацтва, адпраўлены з аўстралійскага Мельбурна акурат падчас чарговага перыяду маўчання: «Узяўся за пераклады з аўстралійскіх паэтаў у беларускую мову. Неўзабаве пашлю вам колькі вершаў-перакладаў. Абставіны жыцця і лёс мой склаліся гэтак, што мне праз гады — далей і далей ад пяра. Калі ж будзе выходзіць у мяне адзін верш-пераклад у месяц, дык пры жыцці і здароўі, калі дазволіць Бог, праз 10 гадоў збярэцца больш сотні вершаў. І гэта сталася б зборнікам. Назваў бы яго “Узлёты ў свет: аўстралійская паэзія па-беларуску”».

На жаль, запланаваны на дзесяцігоддзе праект так і застаўся неажыццёўленым. І па сёння аўстралійская паэзія застаецца для беларускага чытача terra incognita. А таму падвойнае пачуццё жалю ахоплівае, калі думаеш пра тыя няспраўджаныя з невядомых прычынаў «узлёты ў свет».

І ўсё ж літаратура свету заўважна ўплывала на паэзію Алеся Салаўя і ўзбагачала яе. Астэроіды, пралятаючы міма вялікіх планетаў і трапляючы ў іх гравітацыйнае поле, змяняюць свае арбіты. Гэтак і паэзія Салаўя часам карэктавалася блізкай прысутнасцю Максіма Багдановіча і Янкі Купалы, Дантэ і Рыльке, Уладзіміра Жылкі і Мікалая Гумілёва. Салаўёва цікавасць да

заходнееўрапейскіх формаў, ягоная пранесеная праз усё жыццё вернасць санету таксама сведчаць пра ўлучанасць паэта ў планетарную энергасістэму сусветнай літаратуры.

Алесь Салавей стварыў пад сотню санетаў (калі ўлічваць і паэму «На хуткіх крылах вольнага Пегаса», напісаную санетнай страфой). Відавочна, што з усіх «старабудаў» архітэктонікі паэт аддаваў бясспрэчную перавагу гатычнаму замку санета. У 1958 годзе часопіс «Конадні» ў адным нумары сенсацыйна надрукаваў адразу два вянкі санетаў — Алеся Салаўя і Міхася Кавыля. Каму з іх належыць пальма першынства — без вывучэння архіваў абодвух сказаць цяжка. Па сведчаннях сучаснікаў, узбагаціў беларускі санетарый першым вянком усё ж Алесь Салавей. Проста затрымаўся з высылкай свайго вянка ў рэдакцыю, бясконца дасканаліў і шліфаваў яго. Што праўда, відаць, забыўся паставіць на рукапісе дакладную дату. А вось Міхась Кавыль не забыўся датаваць свой вянок — 22 студзеня 1956 года (а потым стварыў яшчэ адзін вянок санетаў). Паўтаруся, я не схільны прызнаваць чыёсьці першынство — не маю пад рукою неаспрэчных доказаў. Бясспрэчна адно — вянок санетаў сапраўды патрабуе віртуознага валодання і мовай, і формай, і дасканаліць ды папраўляць яго можна гадамі.

У Старажытным Кітаі існавала адметнае мастацтва — лакавы жывапіс. Спачатку карціну шліфавалі дробназярністымі каменьчыкамі, потым — вугальным пылам, потым — вугальным попелам, і нарэшце — попелам саломы, самым далікатным матэрыялам. Санеты Алеся Салаўя робяць уражанне адшліфаваных «попелам саломы» — настолькі ў іх кожнае слова на сваім месцы, а ўсе кананічныя правілы выкананыя без найменшых адхіленняў.

«Каго вы лічыце найлепшым паэтам на эміграцыі?» — аднойчы запытаўся ў Наталлі Арсенневай журналіст з урадавай газеты з Менска. І пачуў у адказ імя Алеся Салаўя.

Думаецца, не толькі Наталля Арсеннева лічыла Салаўя найлепшым беларускім паэтам-эмігрантам. Ведалі яму цану і ў савецкай Беларусі. Прытым, не толькі ў літаратурным асяродку. У 1958 годзе ў Камітэце дзяржбяспекі нават распрацоўвалася

спецаперацыя па ягоным вяртанні на радзіму. Не апошнюю ролю ў ёй, па задумцы распрацоўшчыкаў, павінен быў выканаць паэт Мікола Аўрамчык — даўні сябра Алеся Салаўя, а галоўнае — былы палонны, які не застаўся на Захадзе, а вярнуўся ў Беларусь. Да гонару Міколы Якаўлевіча, ён змог адмовіцца ад настойлівай прапановы.

Што магло чакаць Алеся Салаўя на радзіме — тлумачыць наўрад ці трэба. За адзін «Новы шлях» чакалі яго доўгія шляхі ў адным кірунку — на ўсход, у спавіты калючым дротам ГУЛаг. Адкуль не вярнуліся паэты Уладзімір Жылка, Сяргей Астрэйка, Уладзімір Хадыка, Леапольд Родзевіч, Сяргей Дарожны...

Часопіс «Новы шлях», які калісьці хаваўся ў самых патаемных месцах студэнцкага інтэрната, сёння знаходзіцца ў адкрытых фондах Нацыянальнай і Акадэмічнай бібліятэк. Праўда, да яшчэ аднаго «фонда» мне так і не ўдалося атрымаць доступу. Аднойчы добрая знаёмая, ведаючы мае літаратурныя зацікаўленні, прызналася, што яе бацька ў гады Другой сусветнай вайны выпісваў «Новы шлях». А перад вяртаннем савецкай улады запакаваў часопісы ў вялікую снарадную гільзу, засмаліў і закапаў на падворку. Ці трэба казаць, што навіна мяне ўзрушыла, і я вырашыў арганізаваць пошукавую экспедыцыю.

Праз пэўны час мы з сябрамі, прыхапіўшы з сабой вайсковы металашукальнік, выехалі па ўказаным адрасе ў адну з вёсак Нясвіжскага раёна. Знайшлі патрэбную хату, паразумеліся з новымі гаспадарамі і — распачалі пошук. Праз кожныя паўметра металашукальнік папіскваў, і мы адкопвалі то вялікі ржавы цвік, то бляшанку з-пад кансерваў, то падкову.

А тым часам на падворку збіраліся вяскоўцы, якія прачулі, што нейкія чужакі прыехалі ў іхнюю вёску і шукаюць... золата. Мы не паспелі апрацаваць і трэціны накрэсленай на плане дзялянкі, як да нас падышлі два парламенцёры з рашучым выглядам на тварах. «Мясцовае самакіраванне» вырашыла выправадзіць «золаташукальнікаў» за межы вёскі. Нашыя адчайныя тлумачэнні пад увагу не браліся, а яшчэ больш узʼюрвалі натоўп. Давялося падпарадкавацца.

Часопіс «Новы шлях» з творамі Алеся Салаўя застаўся ляжаць у надзейнай схованi да лепшых часоў. Я запомніў тую вёску, тую хату і той падворак. Прыхаванае — знойдзецца. Як знойдзецца калісьці і неапублікаваная паэма Алеся Салаўя пра Грунвальдскую бітву, і недапісаная аповесць «Пад нагамі гарыць зямля», раздзелы з якой аўтар чытаў сябрам.

Усё схаванае позна ці рана знаходзіцца. Як зусім неспадзявана знайшлася родная хата паэта ў Крысаве пад Койданавам-Дзяржынскам — па другі бок ад імклівай аўтастрады, празванай у народзе «алімпійкай». З койданаўскім краязнаўцам Алесем Баркоўскім мы прайшлі ўсю вёску, напытваючы старажылаў, якія маглі б памятаць сваіх колішніх аднавяскоўцаў Радзюкоў. Такіх не знайшлося. Затое адна сямідзесяцігадовая бабуля паказала нам хату, дзе калісьці жыў будучы паэт. Яе, старэнькую, урослую ў зямлю, у 1987 годзе набыў беларускі настаўнік Серафім Бохан — толькі таму, што гэта была Салаўёва хаціна! Падрамантаваная, яна і цяпер служыць прытульным лецішчам для нашчадкаў настаўніка, якія зусім не супраць, каб на хаце з'явілася мемарыяльная шыльда ў гонар выдатнага паэта.

*2010*

# GENIUS БЕЛАРУСІ

*Пра эпісталярый Ларысы Геніюш*

Адзінай сапраўднай раскошай назваў звычайнае чалавечае сумоўе Антуан дэ Сент-Экзюперы. У працяглых начных пералётах над тысячакіламетровай пустэльняй аўтару «Маленькага прынца», відаць, сапраўды надакучвала адзінота, і на зямлі яму не хапала шчырай сябрыны, цікавай гутаркі. Нездарма ягоны анёлападобны герой, наведаўшы сем планетаў, на кожнай з іх найперш шукаў суразмоўцу: дапытваўся і слухаў, слухаў і дапытваўся.

Нават на неабжытым востраве чалавек не скараецца самоце: піша ліст, закаркоўвае яго ў бутэльку і — спадзяецца на дапамогу марскіх плыняў.

Нават у абложанай з усіх бакоў фартэцы выпускае ў вольнае неба паштовага голуба — а раптам крык аб дапамозе будзе пачуты і прыйдзе доўгачаканы ратунак.

Нават з-пад акупанцкай шыбеніцы пішуцца лісты — у лепшую прышласць, будучаму народу...

Свае безназоўныя ўспаміны («Споведзь» — назва рэдакцыйная) Ларыса Геніюш пісала таксама для будучыні. Яны заканчваюцца згадкамі пра Абезь — адну са шматлікіх выспаў у злавесным архіпелагу ГУЛагу, дзе паэтка правяла восем гадоў з прысуджаных ёй дваццаці пяці. Чамусьці працягваць успаміны Ларыса Антонаўна не стала, хоць падзяліцца перажытым на «беласмертнай Поўначы», расказаць аб паднаглядным жыцці на пачужэлай радзіме лічыла сваім абавязкам. Дзялілася і расказвала — без аглядак на цэнзуру — у лістах. Напісаныя пераважна ва «ўспамiннай» манеры, яны сталі своеасаблівым працягам «Споведзі».

Лагерных лістоў захавалася няшмат, найбольш іх збярог Мікола Канаш са Жлобіна, сам колішні лагернік — за сяброўства ў Саюзе беларускай моладзі. На пажаўцелых ад часу аркушах пазначаныя зваротныя адрасы: «Абезь, да запатрабаван-

ня», або — Пячора ці Інта. А часцей на тых лістах зваротны адрас не значыўся, яны выпраўляліся ў доўгі шлях патаемна, у вагонах з вугалем.

...У старой зэльвенскай хаце Геніюшаў тэлефона не было. Каб пагаварыць з сынам Юркам, які жыў у замежным Беластоку, Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч ішлі на пошту, да якой было рукой падаць. Па вуліцы Савецкай (колішняй Царкоўнай) уніз, пад гару, на якой у зарасніках бэзу віднеліся парэшткі старога, яшчэ XVI стагоддзя, касцёла.

Супрацоўнікі пошты ставіліся да Івана Пятровіча з павагай, ён быў вядомым на ўсю ваколіцу лекарам. Доктар Геніюш прымаў пацыентаў у раённай паліклініцы, размаўляў з імі толькі па-беларуску і выпісваў рэцэпты на беларускамоўных бланках, адмыслова надрукаваных па ягонай просьбе ў мясцовай друкарні.

Ларыса Антонаўна таксама карысталася павагай простых зэльвенцаў. У яе быў найлепшы кветнік у Зэльве, яна бараніла перад уладамі мясцовага бацюшку, звяртаючыся праз сваіх сяброў адразу ў сталічныя інстанцыі. Да таго ж усе ведалі, што яна піша вершы, выдала некалькі кніг. Зрэдку яе творы траплялі на старонкі раённай «Працы» ці абласной «Гродненской правды». Зэльвенцам асабліва падабаліся вершы пра іх роднае мястэчка: «Раненым крыллем / сонейка хіліцца, / коўзаецца і, як птушка, далоў. / Тонкім вэлюмам / дым над Зэльваю / ўецца з пабеленых каміноў». Прыгожа. У такой Зэльве хацелася жыць.

На пошце здзіўляліся колькасці лістоў, якія ішлі ў мястэчка з усяго свету. Адрасаваныя Ларысе Геніюш і адпраўленыя з Вільні, Львова, Чыкага, Мельбурна, Прагі, Менска, Гародні, Беластока, Вроцлава, Рыма, Нью-Ёрка... Часам лістоў тых прыходзіла па пяць-шэсць адначасова. Паэтка ведала, што іхні змест цікавіць не толькі яе. Паштавікі не зычылі ёй зла, але што паробіш — служба ёсць служба. Праўда, адмыслоўцаў патрэбнай кваліфікацыі на месцы не знайшлося, і ў канторы стаў з’яўляцца статны чалавек малапрыкметнай знешнасці. Адкуль? З Ваўкавыска. Месца працы не ўдакладнялі — і так было зразумела. Чалавек прыязджаў, заходзіў на пошту і зачы-

няўся ў кабінеце начальніка, дзе яго чакала падрыхтаваная загадзя карэспандэнцыя.

У абавязкі мясцовых работнікаў уваходзіла заклейванне акуратна распакаваных канвертаў. Што і казаць, занятак малапрыемны, але наверсе відней, чые лісты неабходна правяраць. А раптам у іх — сапраўды крамола і антысавеччына? Усё ж Геніюшы — людзі зацятыя, старых крыўдаў не забылі і не прынялі савецкага грамадзянства, хоць і жывуць на вуліцы Савецкай.

Правяраліся не толькі лісты. Прыходзіў «пажарнік», лез на гарышча і ўсталёўваў там апаратуру для праслухоўвання — гэтак званыя «жучкі» (потым гэты чалавек прызнаўся і пакаяўся).

Сачыла за Геніюшамі і адна з суседак — для зручнасці яе пасялілі ў адной з імі хаце, адабраўшы частку дома ад вуліцы ў законных гаспадароў.

Выехаць у Чэхію былым лагернікам не далі. У Беласток, да сына і ўнукаў, паэтку, праўда, аднойчы выпусцілі, але далі зразумець, што ў выпадку чаго муж апынецца ў закладніках.

Для сувязі з сябрамі і суайчыннікамі за мяжой заставалася ліставанне. Vivos voco de profundis. Кліч да жывых з бяздоння. З таго бяздоння нацыянальнага бяспамяцтва, у якое была кінута Беларусь крамлёўскай уладай. І паэтка не маўчала, і заглушыць яе голас можна было толькі новай высылкай у тундру.

Сёння на пласе родная мова,
Вырваць жывую належыць з агню.
Слова «кахаю» — слабае слова,
Мужнае слова — «абараню».

Такія вершы дапамагалі выжыць, абнадзейвалі. Таму ў Зэльву ехалі суайчыннікі з усёй Беларусі, з праверанымі людзьмі завязваліся працяглыя эпісталярныя сяброўствы. Хто яны, тагачасныя карэспандэнты Ларысы Геніюш?

Мікола Прашковіч быў энергічным і ўдумлівым даследчыкам старажытнай літаратуры, бясстрашным змагаром з фальсіфікатарамі айчыннай гісторыі. Яго ліставанне з паэт-

кай вельмі інтэнсіўнае, каля 300 геніюшаўскіх лістоў захоўваецца ў гарадзенскім Музеі Максіма Багдановіча. Ларыса Антонаўна моцна перажывала, калі Прашковіч, звінавачаны ў 1973 годзе за «беларускі нацыяналізм», быў вымушаны пакінуць акадэмічны Інстытут літаратуры і працаваў грузчыкам у гастраноме. Пазней ён загіне падчас пажару пры нявысветленых абставінах...

Нашчадка паўстанца 1863 года, журналіста, перакладчыка серба-лужыцкай, кашубскай і ўкраінскай паэзіі Алеся Траяноўскага Ларыса Антонаўна цаніла за розум, за шляхотныя паводзіны. Ён працаваў у галоўнай партыйнай газеце «Звязда», а таму, як меркавала паэтка, мог уплываць на ўладу.

Доўгія гады сяброўства звязвалі Ларысу Геніюш і Алеся Белакоза — настаўніка і заснавальніка Гудзевіцкага літаратурна-краязнаўчага музея. У 1973 годзе начальства загадала зняць з экспазіцыі матэрыялы пра Геніюш, пагражала звальненнем. Белакоз не паслухаўся. Дапяў да касманаўта Пятра Клімука і атрымаў ад яго аўтограф на кнізе «Невадам з Нёмана». Імгненна распаўсюдзілася чутка, што кніга пабывала ў космасе. У гэткім статусе яна доўга служыла ахоўнай граматай для музея.

Да Зоські Верас, якая жыла хутаранкай у падвіленскім Панарскім лесе, Ларыса Антонаўна мела асаблівую прыхільнасць. Людвіка Антонаўна памятала Максіма Багдановіча, друкавалася ў «Нашай ніве», склала першы айчынны батанічны слоўнік. Да таго ж, з 30-х гадоў не пакідала Вільню — духоўную беларускую Мекку, куды менчукі выпраўляліся як у паломніцтва. У лістах Ларысы Антонаўны да старэйшай сяброўкі можна адшукаць не толькі рэцэпты старажытнага крупніка і згадкі пра агульных знаёмых з Заходняй Беларусі, але і перажыванні сапраўднай футбольнай заўзятаркі: «А як там згулялі нашы з галандцамі ў Амстэрдаме?»

Максім Танк працяглы час быў галоўным рэдактарам часопіса «Полымя», потым — кіраўніком Саюза пісьменнікаў (пасада на той час амаль міністэрская). Менавіта Танк вярнуў імя Ларысы Геніюш у літаратуру, дапамагаў з выданнем кніг. Мог на службовай «Волзе» знянацку заехаць у Зэльву і заві-

таць не да раённага начальства, а да Геніюшаў. Іх ліставанне па-сяброўску шчырае і ўзаемапаважнае, але часам, калі Танк пачынаў думаць залішне «касмічнымі катэгорыямі», старэйшая на два гады паэтка старалася вярнуць калегу на зямлю.

Гісторык Мікола Ермаловіч першым напісаў пра Вялікае Княства Літоўскае як пра старабеларускую дзяржаву. Дзвесце гадоў лічылася, што Літва захапіла беларускія землі, і ніхто да Ермаловіча не даўмеўся пашукаць, а дзе тая Літва знаходзілася. Доўгі час праца гісторыка-самавука «Па слядах аднаго міфа» хадзіла па руках як самвыдат. Безумоўна, чытала яе і Геніюш, і нават палемізавала з гісторыкам (часцей, праўда, раілася і высвятляла малаўцямныя гістарычныя падзеі). Сяброўствам з Ермаловічам Ларыса Антонаўна даражыла, зводзіла яго са знаёмымі лекарамі, старалася выратаваць ягоны зрок.

Адам Мальдзіс амаль трыццаць гадоў адпрацаваў у Акадэміі навук, адкапаў у архівах і апублікаваў цэлы архіпелаг невядомых тэкстаў, якімі заўважна «прырос» беларускі літаратурны мацярык. Калі ў 1967 годзе дзякуючы спрыянню Максіма Танка выйшаў зборнік «Невадам з Нёмана», на яго ў цэнтральным друку з'явілася адна-адзіная рэцэнзія «Іскрыцца паэзіяй невад», напісаная Мальдзісам.

Гісторык Міхась Чарняўскі даследаваў крамянёвыя шахты ў Росі пад Ваўкавыскам. Быў удзельнікам разагнанага ўладамі ў 1973-м «Акадэмічнага асяродка». Безумоўна, сваім дысідэнцкім мінулым выклікаў у апальнай паэткі «даверра» (слоўца з яе лексікона). Нездарма менавіта Чарняўскаму яна перадала свой самы патаемны рукапіс — «Споведзь».

Паэтычны талент Дануты Бічэль патрабавальная Ларыса Антонаўна прызнавала без агаворак. Яе імя ў геніюшаўскіх лістах да розных асобаў сустракаецца ці не часцей за ўсіх. Рука Бічэль як рэдактаркі адчуваецца ў зборніку «На чабары настоена», прадмова там таксама яе.

Усе гэтыя людзі і дзясяткі іншых былі ўдзячнымі ліставымі суразмоўцамі Ларысы Геніюш. Ратаваліся самі і ратавалі яе ад духоўнай задухі.

Часам лісты, асабліва з далёкага замежжа, не даходзілі да адрасаткі, бывала, даходзілі ў вартым жалю выглядзе — нехта квапіўся на заморскія маркі. У такія моманты паэтка жартавала, што на зэльвенскай пошце развялося зашмат філатэлістаў...

Перажытае ў ГУЛагу патрабавала асэнсавання. Не толькі ў вершах. Па просьбе аднаго з выдавецтваў для зборніка пісьменніцкіх аўтабіяграфій Ларыса Геніюш падрыхтавала свой жыццяпіс «Сто ранаў у сэрца». Сябры-пісьменнікі прыгладзілі яго, «заэзопілі» (слоўца Уладзіміра Караткевіча). Усё роўна цэнзары ўбачылі ў тэксце крамолу і выкінулі яго з кніжкі.

У савецкай Беларусі паэтцы дазвалялі друкаваць толькі лірыку, якая таксама адпаведным чынам рэдагавалася. Пра тое «рэдагаванне» мне ўжо даводзілася пісаць на старонках тыднёвіка «Літаратура і мастацтва» («Палімпсесты Ларысы Геніюш», 20 лютага 1998 г.).

Сваю «Споведзь», як ужо гаварылася, паэтка пісала патаемна, без спадзеўкі на публікацыю. Каб зразумець, як успрымаліся тыя ўспаміны ў пачатку 80-х, прыгадаем адну акалічнасць: Міхась Чарняўскі вывозіў рукапіс з Зэльвы позна ўвечары, пешкі адыходзіў ад мястэчка праз лес і дабіраўся да сталіцы на спадарожных машынах...

Ларысе Геніюш хацелася падзяліцца перажытым з сябрамі, знайсці адгуклівую душу, здольную на паразуменне і спагадання. «Успаміны, як драты, апуталі — не варухнешся. Я на волі на Радзіме ўздрыгваю (да сяння!), калі бачу ваенную форму, аглядаюся, ці штык мне не ў плечы. Жудасна», — пісала паэтка Максіму Танку 22 кастрычніка 1966 года.

Танк імкнуўся легалізаваць творчасць Ларысы Геніюш, пасля прыняцця грамадзянства меркаваў прыняць яе ў афіцыйны Саюз пісьменнікаў. І гэта — без рэабілітацыі: паводле савецкага заканадаўства, паэтка фактычна заставалася злачынцай, якую гуманная ўлада вызваліла па дабрыні сваёй. Ларыса Антонаўна з годнасцю адказвала свайму высокапастаўленаму сябру: «Я Вам не ахвяра, не пасмешышча і не той мурын, які зрабіў сваё і можа адысці! Дзясяткі гадоў нікому не залежала на мне як на чалавеку і як на паэтэсе. Я не маю чаго ўстыдацца свае мінуласці — яна на далоні правяраецца

ўсімі! Я мусіла друкавацца ў цяжкі і страшны час — гэта быў загад сэрца. Друкаваліся і Грубін, і Нэйман, і Сайфэрт, аднак ім па 25 лет зняволення не паспелі даць, а яны — мужчыны, што гаварыць».

У лістах з Зэльвы жыццё грамадскае шчыльна пераплятаецца з асабістым. Янка Геніюш, калі адпачываў ад дзяжурстваў у больніцы, мог гадзінамі слухаць радыё. «Пішы, калі мяне няма», — спакойна адказваў на прэтэнзіі жонкі. І Ларыса Антонаўна, відаць, прыгадаўшы прыказку пра клін, які выбіваюць такім жа клінам, вырашыла набыць... тэлевізар. Замежныя сябры, ведаючы, што Геніюшы жывуць на адзін заробак галавы сям'і, паспяшаліся дапамагчы — выслалі каштоўны падарунак поштай. Незразумела з якой прычыны, але той тэлевізар да Зэльвы не дайшоў. Геніюшы купілі айчынны — «Рубін-205».

Па ім Ларыса Антонаўна любіла глядзець тэатральныя пастаноўкі. Але і тэлегледачом яна была надзвычай патрабавальным, асабліва калі бачыла на экране карыкатурны вобраз беларуса. Тады сядала за пісьмовы стол і ўшчувала тэлевізійнікаў: «Нават той вобраз “Славянскага нявольніка”, які скарыстаў у сваім “Колоколе” Герцэн, выглядае амаль элегантным у параўнанні з тым, як Вы паказваеце беларусаў. Гэтак нядоўга і на дзерава пасадзіць нашых дзядоў! Прачыталі б Вы хоць як след “Песню пра зубра” Міколы Гусоўскага і падумалі б, якімі мы былі ўжо тады, стрымоўваючы напады крыжаносцаў, татараў і туркаў?! Мы ж выжылі, захаваліся як суцэльны народ. Мы ўсё можам вытрываць» (ліст ад 23 кастрычніка 1974 г.).

У сваёй перапісцы Ларыса Геніюш не пазбягала і палітычных тэмаў: асуджала савецкую акупацыю Прагі, іранізавала з «кукурузнай палітыкі» Мікіты Хрушчова, разважала пра савецка-кітайскі канфлікт на Далёкім Усходзе.

У яе лістах можна адшукаць цэлую палітычную праграму, паводле якой можна было ўладкаваць і палагодзіць паўсвету. Такое ўражанне, што гэта піша не бяспраўная паэтка без грамадзянства, а генеральны сакратар ААН: «Нельга нам сварыцца з цэлым светам, а трэба кантакты наладжваць. Наш паклон у бок іслама — гэта не выхад! Як не выхад і сам іслам, тым болей, што гэта даволі вялікая сіла. Сяння не час заваёўваць,

а час суіснаваць і шляхам эвалюцыі, культуры ліквідоўваць няроўнасць між людзьмі з захаваннем гуманнасці і сапраўднай культуры. Няхай амерыканскія фермеры сеюць хлеб — яны гэта робяць з любоўю да зямлі і коласа. Няхай нафты будзе ўсім пакрысе. Няхай атамная энергія служыць толькі для гаспадарчых мэтаў. Згубіць у сябе даверра чалавецтва, паступіцца прынцыпамі гуманнасці — гэта ўжо пройгрыш. Тут ужо гутарка не пра дзяржавы, а пра планету. На выпаленай атамам не завядзеш ні камунізму, ні дэмакратыі» (ліст Дануце Бічэль ад 7 лютага 1980 г.).

Увогуле, у лістах Ларысы Геніюш — цікавасць да ўсяго, што адбываецца ў Беларусі і свеце, паэтка без аглядкі на лішнія вочы дзеліцца са сваімі карэспандэнтамі не толькі думкамі і пачуццямі. Вось яна ладуе для перасылкі ў Канаду для Раісы Жук-Грышкевіч бандэроль з кнігамі, сярод якіх — «Чалавечы знак» Анатоля Вярцінскага, «Чалавек напрадвесні» Рыгора Бярозкіна, «Падарожжа ў XIX стагоддзе» Адама Мальдзіса. Паэту Алесю Салаўю ў Аўстралію пасылаецца выбранае Пімена Панчанкі, гістарычны нарыс «След на зямлі» Аляксея Карпюка, зборнік вершаў «Мой бераг» Алеся Барскага. Вітаўт Тумаш у ЗША быў удзячны за высланыя з Зэльвы «Вершы пяці кніг» Генадзя Бураўкіна, «Вечалле» Рыгора Барадуліна, «Зямлю пад белымі крыламі» Уладзіміра Караткевіча. Часлаў Найдзюк дзякаваў за «Акраец хлеба» Янкі Брыля, «Веча славянскіх балад» Янкі Сіпакова, за тую ж папулярную і за межамі Беларусі «Зямлю пад белымі крыламі»...

Цікава, як Ларыса Геніюш размяркоўвала кнігі ўласныя. У зэльвенскую кнігарню яны чамусьці ніколі не траплялі, і паэтка прасіла сяброў у Менску, Гародні ці Ваўкавыску, каб прыслалі, але крый Божа не скуплялі апошніх. Павінна было застацца людзям.

Праз пэўны час кнігі ў хаце заканчваліся, і паэтка паўтарала сваю просьбу: «Трэба даць пару кніг на сяло». Гэта значыць — паслаць настаўніку Пятру Марціноўскаму ў Дзярэчын ці вясковаму бібліяфілу Язэпу Таранцею ў Ізабелін.

Наогул, у хаце Геніюшаў кніга заўсёды была на пачэсным месцы. Наўрад ці ў Зэльве жыў калі-небудзь яшчэ адзін такі

заўзяты кнігалюб, як Янка Геніюш. Ён набываў літаральна ўсе выданні, якія траплялі ў раённую кнігарню, прычым па некалькі асобнікаў. На слушныя заўвагі жонкі гаварыў, што кожная беларуская кніга ёсць дасягненнем айчыннай культуры. Сямейны кнігазбор займаў палову сценаў у хаце — пад цяжарам кніг прагіналіся самаробныя паліцы.

У адрозненне ад свайго мужа, Ларыса Геніюш была куды больш пераборлівай чытачкай. Часам крытыкавала той ці іншы твор вельмі катэгарычна. Але калі ўжо трапляла ў рукі добрая кніга, то ўсе сябры мусілі ведаць, чаго заслугоўвае яе аўтар. Прачытаўшы вершы Ніла Гілевіча, Ларыса Антонаўна тут жа падзялілася з М. Прашковічам уражаннямі: «Дарагі Ніл нагадвае егіпецкага жывіцеля пустыні... Было б у мяне багацця, я б з ім раздзяліла яго за такія пачуцці» (ліст ад 26 снежня 1965 г.).

Праз тыдзень паэтка паведамляла таму самаму адрасату пра яшчэ адзін малады талент: «Алесь Разанаў многаабяцаючы, будзем думаць, што вырасце ў сілу, якая нам цяпер найболей патрэбная». Тут варта ўдакладніць, што на момант напісання ліста (2 студзеня 1966 г.) паэт-пачатковец Разанаў надрукаваў усяго некалькі вершаў.

Цікавілася Ларыса Геніюш і гісторыяй Зэльвы. Першае ўпамінанне пра яе, датаванае 1258 годам, Мікола Ермаловіч адшукаў у Іпатаўскім летапісе, пра што, вядома ж, паведаміў Ларысе Геніюш. За два месяцы да сваёй смерці паэтка дзякавала даследчыку за гістарычную праўду і пагаджалася, што толькі непасрэдны зварот да летапісаў не дазволіць сфальшаваць беларускую мінуўшчыну.

Іпатаўскі летапіс, Баркалабаўскі летапіс, летапісы Рачынскага і Красінскага... Шкада, што беларускае летапісанне ў XVIII стагоддзі спынілася. Пазней яно знайшло працяг у гарадскіх хроніках, але і гэтая традыцыя перарвалася пасля таго, як Беларусь трапіла ў склад Расійскай імперыі.

Калі ўчытваешся ў лісты Ларысы Геніюш (а іх — тысячы), міжволі ўзнікае думка, што і ў XX стагоддзі, у другой яго палове, у Беларусі пісаўся своеасаблівы — эпісталярны — летапіс. Гэты Геніюшаўскі летапіс вёўся рэгулярна і падрабязна, з

акуратнай перыядычнасцю. Проста дзіву даешся, як далёка і шырока бачыла Ларыса Антонаўна са сваёй зэльвенскай хаты. Яе інфармаванасці можа пазайздросціць і чалавек сучаснай інтэрнэтнай эпохі.

Расшукаўшы і апублікаваўшы значную частку геніюшаўскага эпісталярыю, я сам неспадзявана «атрымаў» ад паэткі незвычайнае пасланне. Адбылося гэта ў памятны для мяне ліпеньскі дзень 2011 года. З новай гаспадыняй старой Геніюшавай хаты Марыяй Васільеўнай Дайкала мы праглядалі тэхнічны пашпарт будынка, вопіс гаспадарчых пабудоваў і саду. Усе дакументы былі складзеныя работнікамі Зэльвенскага камунгаса падчас куплі хаты ў спадкаемцаў паэткі ў 1987 годзе.

Я праглядаў тыя паперы і ўсцешана думаў, што яны дапамогуць калісьці майстрам-рэстаўратарам аднавіць першапачатковы выгляд хаты, якая, дарэчы, мае шаноўны век — збудаваная яшчэ ў 1895 годзе. І будзе адчынены ў ёй Музей Ларысы Геніюш, на які вернецца мемарыяльная шыльда, самаўпраўна сарваная са сцяны зэльвенскімі ўладамі ў жніўні 2010-га — акурат перад 100-мі ўгодкамі паэткі.

Раптам спадарыня Марыя ўспомніла, што дзесьці ў адным з падвалаў (пад хатай іх два) захаваліся некалькі старых крэслаў, якія засталіся ад былых гаспадароў. Па маёй просьбе яна спусцілася ўніз і неўзабаве вынесла на белы свет два крэслы з загнутымі па тагачаснай модзе падлокцевікамі.

Ужо дома я іх уважліва агледзеў. Крэслы надзіва добра захаваліся ў сырым падвале. Праўда, былі ўсе ў кроплях белай фарбы. Відаць, іх выкарыстоўвалі ў якасці падмосткаў, калі фарбавалі столь.

Пад седзівам аднаго з крэслаў я ўбачыў дзве выразна напісаныя літары: Ż. B. Памяць імгненна падказала: Ż. B. — гэта скарочаныя словы Żywie Belaruś! Так пазначалі свае лісты беларусы ў ГУЛагу.

Мяне як токам пранізала, паколькі з геніюшаўскай перапіскі я ведаў, што фарбаваннем хаты займалася сама паэтка. Значыць, з вялікай доляй верагоднасці можна сказаць, што літары Ż. B. напісаныя ёю ўласнаручна. Усяго дзве літары, але якія дарагі і знакавы ўбачыўся мне ў іх сэнс!

Зразумела, рана ці позна тыя крэслы вернуцца ў хату-музей як каштоўныя меморыі. Разам з пісьмовым сталом, друкаркай, насценным кілімам, прасам, прывезеным з Прагі, і другімі рэчамі, месцазнаходжанне якіх мне вядомае. Іх сённяшнія ўладальнікі проста чакаюць адпаведнага часу.

І час той хутка настане, калі жыццёвая праўда Ларысы Геніюш стане і нашай жыццёвай праўдай. А праўда яе — у самаахвярным служэнні Беларусі, у адданасці хрысціянскім каштоўнасцям, у незвычайных па сіле ўздзеяння творах, якія далёка не ўсе апублікаваныя. Новыя знаходкі чакаюць нас у спарадкаваных архіўных фондах, у прыхаваных да пары да часу спадчынных валізах, у спадзяваных і неспадзяваных месцах. Як тыя дзве літары на аплеценым павуціннем крэсле — Ż. В...

Існуе вядомы лацінскі выраз genius loci, што азначае — дух месца, які аберагае пэўную мясцовасць. Думаецца, што прозвішча паэткі нездарма сугучнае з тым выразам. Бачыцца ў гэтым нейкі таямнічы знак нябёсаў. Для многіх беларусаў Геніюш сёння гучыць як Genius і азначае — дух-абярэг нашай зямлі. Верны Айчыне і спрыяльны адданым ёй суайчыннікам — Genius Беларусі.

*2005, 2012*

# ЧАЙКА З ЛЁТАМ АРЛІНЫМ
*Гісторыі з жыцця Ларысы Геніюш*

## 1. РАСКУЛАЧВАННЕ МІКЛАШЭВІЧАЎ

Род Міклашэвічаў, з якога паходзіла Ларыса Геніюш, валодаў немалымі надзеламі зямлі. Найперш дзякуючы Паўлу Францавічу Міклашэвічу — дзеду будучай паэткі па мячы, які быў добрым гаспадарнікам. Дзед не пакрыўдзіў нікога са сваіх сыноў, кожнаму дапамог стаць на ногі. Усе сыны атрымалі па фальварку: Уладзімір — Гудзевічы, Рыгор — Поплава, Павел — Сабалеўшчыну, Антон — Жлобаўцы.

Шматдзетная сям'я Антона Міклашэвіча (у якой 9 жніўня 1910 года нарадзілася Ларыса) была заможнай і працавітай — парабкі наймаліся толькі ў пільніцу, калі бацька з сынамі Расціславам, Аркадзем і Аляксеем не маглі самі ўправіцца на сенажаці ці на таку. У блізкай да Жлобаўцаў вёсцы Палаўкі яшчэ нядаўна жыў Сцяпан Навіцкі, які ў 30-я гады наймаўся да «пана Міклаша» сезонным рабочым і які дагэтуль згадвае свайго працадаўцу з удзячнасцю.

У 1939 годзе заходнебеларускія землі ў выніку падпісання пакта Молатава–Рыбентропа апынуліся ў Савецкім Саюзе. Заможныя сяляне новай уладай кваліфікаваліся як «сацыяльна небяспечны кулацкі клас», які мусіў быць перавыхаваны альбо вынішчаны.

21 кастрычніка 1939 года бяда завітала і ў Жлобаўцы. «Буйны памешчык» Антон Міклашэвіч быў арыштаваны органамі НКВД і змешчаны ў гарадзенскую турму. Лічылася, што ён там і загінуў. Прынамсі, пра смерць бацькі ў вязніцы пісала Ларыса Геніюш у сваёй «Споведзі». Аднак Антон Міклашэвіч быў асуджаны тройкай НКВД на пяць гадоў ГУЛага і этапаваны ў Карагандзінскую вобласць. Там ягоныя сляды і згубіліся.

Не ведала Ларыса Антонаўна і падрабязнасцяў раскулачвання пазасталай без гаспадара-кармільца сям'і. У архіўнай

картатэцы ўпраўлення ўнутраных справаў Гарадзенскага аблвыканкама захоўваецца спіс грамадзянаў, высланых 13 красавіка 1940 года са Жлобаўцаў ва ўсходнія вобласці СССР.

У тым спісе значацца імёны маці паэткі — Аляксандры Васільеўны, трох яе братоў — Расціслава, Аляксея і Аркадзя і трох сясцёр — Ксеніі, Ніны і Людмілы. Была ў спісе і... Ларыса — на той час ужо жыхарка Прагі. На шчасце, адна з «кулацкіх дачок» не трапіла тады ў настаўленыя НКВД сілкі.

У тым жа архіўным дакуменце пазначана, што «ўсе выселеныя члены сям'і Міклашэвіча Антона Паўлавіча рэабілітаваныя ўпраўленнем унутраных справаў Гарадзенскага аблвыканкама 5 чэрвеня 1990 года». Усе — пасмяротна.

Ад калісьці абжытай сядзібы Міклашэвічаў у Жлобаўцах засталіся толькі тры прыступкі, якія вялі ў вялікі дом. Сам дом, на шчасце, не быў разбураны ці спалены. Перавезены пасля вайны ў Ваўкавыск, ён і сёння стаіць на вуліцы Перамогі, 40. Да 100-годдзя Ларысы Геніюш мясцовы краязнавец Мікола Кавальчук усталяваў на доме памятную шыльду, якую ў той жа дзень знялі міліцыянты.

Мемарыяльны знак усталяваны і ў Жлобаўцах, куды на талаку ўлетку 2010 года сабраліся дзясяткі людзей з Менска, Гародні, Ваўкавыска, Мастоў, Свіслачы, Зэльвы. Пасля заканчэння талакі, калі ўсе раз'ехаліся, я прысеў на мураваным ганку, і ўспомніліся радкі Ларысы Геніюш: «Мы душой заўжды з сваімі хатамі, / бо арлы не пакідаюць гнёзд».

Нават калі гнёзды гэтыя раскіданыя.

## 2. ЗАЛАТАЯ ПРАГА

Калі скульптар Генік Лойка ўжо распачаў працу над мемарыяльнай дошкай, якую меркавалася ўсталяваць у Празе на доме, дзе жыла Ларыса Геніюш, мы доўга абмяркоўвалі, якімі словамі павінна паэтка прамаўляць з тае дошкі да мінакоў. І нарэшце спыніліся на цытаце са «Споведзі»: «У поўную сілу беларускай, роўнай усім і не ўніжанай, я адчула сябе толькі ў Чэхах». За гэтым выказваннем — насычанае падзеямі дзесяцігадовае жыццё ў чэшскай сталіцы.

У Празе Ларыса Геніюш напісала дзве кнігі вершаў — «Ад родных ніў» і «Рукапісны зборнік (1945–1947)», якія пабачылі свет толькі ў 1992 годзе ў Лондане. Думаецца, паэтку натхнялі і Градчаны, дзе калісьці працаваў садоўнікам Францішак Скарына, і Карлаў мост са скульптурамі апосталаў, і ўзнёслы сабор Святога Віта, і аблюбаваны галубамі пляц Яна Гуса, і Вышаград, дзе яна любіла гуляць з малым Юркам, і Влтава ў срэбных каралях перакатаў...

У Празе Ларыса Геніюш апекавалася хворым старшынёй Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Васілём Захаркам, з рук якога перад смерцю прыняла палітычны тастамент і пячатку з Пагоняй.

У пераважна каталіцкай Празе праваслаўная верніца Ларыса Геніюш мела свайго духоўніка — архімандрыта Ісакія (Вінаградава), да якога прыходзіла на споведзь у Свята-Мікалаеўскі сабор. Пасля вайны архімандрыт, як і ягоная прыхаджанка, быў арыштаваны і этапаваны ў ГУЛаг.

У Празе на Вышаградскіх могілках Ларыса Геніюш бачыла, як чэхі ствараюць свой нацыянальны Пантэон — яна была сведкай, як там перазахоўвалі прах вялікага чэшскага паэта Карла Махі. Пройдзе час, і Ларыса Антонаўна ў лісце да Адама Мальдзіса прапануе стварыць беларускі Пантэон — на ўзор чэшскага, найперш перанёсшы на радзіму прах Максіма Багдановіча з Крыма.

Сярод іншых памятных месцаў у Празе на мапах беларускіх турыстаў павінны значыцца і два дамы — № 70 на вуліцы 5 Траўня (названы ў «Споведзі» Кашпаракам) і № 7 на вуліцы Гежманова — у іх жылі Геніюшы.

У пражскіх архівах захоўваецца нямала дакументаў, звязаных з жыццём беларускай паэткі. Частка з іх ужо знойдзеная і апублікаваная даследчыцай Францішкай Сокалавай. Але да гэтай пары застаецца невядомым, напрыклад, месцазнаходжанне спачувальнага ліста Ларысы Геніюш прэзідэнту Чэхаславакіі Эдуарду Бенешу — з нагоды захопу часткі краіны гітлераўцамі ў 1938 годзе.

Ларыса і Янка Геніюшы ўжо даўно кіркавалі мерзлату ў савецкай тундры, а на іхні апошні пражскі адрас усё прыходзілі

позвы з магістрата. Праз тыя позвы чэшскія ўлады шукалі месцічаў, якія нібыта заплямілі сябе супрацоўніцтвам з немцамі, і выпісвалі невялікія штрафы. Гэтак быў аштрафаваны спявак Міхась Забэйда-Суміцкі, які падчас акупацыі даваў канцэрты ў Народным тэатры ў Празе, у Рызе, у Варшаве і некалькі разоў прыязджаў з гастролямі ў Беларусь. Грашовы штраф і 25 гадоў ГУЛага — адчуваеце розніцу?

Калі ў 1968 годзе па старых пражскіх брукаванках загрукаталі гусеніцамі савецкія танкі, Ларыса Геніюш слала лісты падтрымкі чэшскаму прафесару Яраміру Вострaму. Яна захаплялася мужнасцю чэхаў і шкадавала, што на той час Беларусь не мела свайго нацыянальнага лідара:

На сэрцы ў нас рубцы і рубчыкі
Ад кіпцюроў, мядзведжых лап.
Каб беларускага мы мелі Дубчака —
Інакшай гутарка была б!

У адной з будучых анталогій вершаў, прысвечаных Празе, абавязкова з’явіцца верш Ларысы Геніюш «Бывай», дзе паэтка выказала падзяку старажытнаму гораду ад імя «ўнучкі Францішка Скарыны».

Зробленая Генікам Лойкам мемарыяльная дошка з выявай маладой, у модным капялюшыку, Ларысы Геніюш пакуль так і не з’явілася на пражскай вуліцы Гежманова. Але яна там абавязкова з’явіцца, і Францішку Скарыну не будзе так сумна аднаму ў залатой Празе.

**3. ГАЗЕТА «РАНІЦА»**

Янка Купала дэбютаваў як паэт на старонках менскай расійскамоўнай газеты «Северо-Западный край». Якуба Коласа адкрыла віленская газета «Наша доля». Максім Багдановіч пачаў друкавацца ў «Нашай Ніве» — «першай беларускай газеце з рысункамі». Мы сёння з удзячнасцю згадваем гэтыя выданні ды іхніх рэдактараў.

Паэткай Ларысай Геніюш апекавалася газета «Раніца», якая выдавалася ў Берліне са снежня 1939 па сакавік 1945 года. На

яе старонках былі надрукаваныя каля сотні вершаў паэткі, крытычныя агляды яе творчасці, біяграфічныя матэрыялы. Ужо адно гэта змушае нас больш пільна прыгледзецца да гэтага выдання.

«Раніца» пачала выходзіць пры Беларускім прадстаўніцтве ў Берліне і прызначалася спачатку для палонных беларусаў, якіх пасля захопу немцамі Польшчы налічвалася каля 70 000. Скажам, чытачом «Раніцы» быў марскі пяхотнік Войска Польскага Янка Брыль, які трапіў у палон пад горадам Гдыняй. Газета спрабавала стаць тыднёвікам, але часам на месяц выходзіў толькі адзін нумар. Наклад даходзіў да 12 000 асобнікаў, усяго свет пабачылі 233 нумары.

З пачаткам вайны паміж Нямеччынай і Савецкім Саюзам цэнзураванне газеты ажыццяўляла нямецкае Міністэрства ўсходніх акупаваных абшараў, адсочваючы, каб першыя старонкі аддаваліся пад пераможныя рэляцыі з фронта. Але на старонках «Раніцы», якую ў розны час рэдагавалі Мікола Шкялёнак, Вітаўт Тумаш, Станіслаў Грынкевіч і Станіслаў Станкевіч, шырока асвятлялася і жыццё ў самой Беларусі, дзе ролю грамадскага карэспандэнта-арганізатара выконваў энергічны Кастусь Езавітаў. Як бачым, газета ўяўляла з сябе даволі сур’ёзную грамадскую трыбуну, якая яднала беларусаў на ладным абшары еўрапейскай тэрыторыі.

Першы твор Ларысы Геніюш — лірычны абразок пра вясну — чытачы маглі і не заўважыць. Надрукаваны ў велікодным нумары за 28 красавіка 1940 года, ён асабліва не кідаўся ў вочы. Да таго ж не меў загалоўка і быў падпісаны нязвыклым для сухаземнай Беларусі псеўданімам *Чайка*. Затое верш «Беларуска», які з’явіўся ў наступным нумары, павінен быў запомніцца. Ён быў сугучны думкам многіх, у ім адчувалася дакладна акрэсленая грамадзянская пазіцыя маладой паэткі:

Калі цябе, мілы, Краіна пакліча
за родны змагацца парог,
то суму не будзе ў мяне на абліччы
і страху не будзе ў грудзёх.

Ты пойдзеш у бой, а я плуг пакірую,
каня накармлю, напаю, —
і так абаронім, засеем, збудуем
Беларусь дарагую сваю.

Рэдакцыя «Раніцы» не шкадавала газетнай плошчы для здольнай аўтаркі: толькі цягам 1941 года там былі апублікаваныя больш за пяць дзясяткаў яе вершаў. З працягам друкавалася паэма «Рагнеда», а ў нумары за 5 траўня таго ж 1941 года з'явіліся адразу 11 вершаў паэткі — больш, чым усіх разам узятых астатніх аўтараў літстаронкі.

Самым зычлівым, хоць і патрабавальным рэдактарам твораў Ларысы Геніюш быў Вітаўт Тумаш. Пры яго чыннай дапамозе ў 1942 годзе выйшла першая кніга паэткі «Ад родных ніў», усе вершы якой прайшлі апрабацыю менавіта ў «Раніцы».

Ларыса Геніюш праз усё жыццё была ўдзячная свайму рэдактару і ў лістах да сяброў ласкава называла яго Месячыкам.

Гісторыя беларускага перыядычнага друку пад нямецкай акупацыяй яшчэ не напісаная. Але ўжо сёння відавочна, што адно з ганаровых месцаў у ёй будзе адведзена газеце «Раніца» — адкрывальніцы паэтычнага таленту Ларысы Геніюш.

## 4. ДРУГІ УСЕБЕЛАРУСКІ КАНГРЭС

Улетку 2004 года ў Вільні мне давялося сустрэцца з апошнім пазасталым на той час у жывых дэлегатам II Усебеларускага кангрэса Аляксеем Анішчыкам-Чэмерам. Мы сядзелі ў яго застаўленай кніжнымі паліцамі невялічкай кватэрцы на вуліцы Жырмуну. Гаспадар час ад часу ўставаў з канапы і выцягваў з патаемнага закутка то рэдкі заходнебеларускі часопіс, то стосік старых фотаздымкаў, то аўтограф Наталлі Арсенневай на кнізе «Сягоння» (1944)...

Перад нашай сустрэчай я прачытаў зборнік матэрыялаў II Усебеларускага кангрэса, выдадзены Беларускай Цэнтральнай Радай у 1954 годзе. У ім сярод другіх дэлегатаў значылася і імя Ларысы Геніюш.

Натуральна, мяне цікавілі і другія падрабязнасці, якія не трапілі ў стэнаграму кангрэса. І Аляксей Анішчык-Чэмер ахвотна прыгадваў...

Пра тое, як яго 27 чэрвеня 1944 года ўразілі будынак Менскага гарадскога тэатра, аздоблены бел-чырвона-белымі сцягамі, і вышкаленыя жаўнеры з Беларускай краёвай абароны, якія неслі варту вакол будынка і ў зале паседжанняў.

Пра тое, як больш за тысячу чалавек пад аркестр праспявалі гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», і ў многіх прысутных на вачах заблішчалі слёзы.

Пра тое, як яго, аднаго з выступоўцаў, за крысо сцягваў з трыбуны старшыня кангрэса Яўхім Кіпель — за перавышэнне рэгламенту...

На маё пытанне, ці прысутнічала на кангрэсе Ларыса Геніюш, Аляксей Анішчык упэўнена адказаў — не. З паэткай ён сустрэўся ў Беларускім культурным згуртаванні, калі кангрэс ужо закончыўся. Тут гаспадар пакорпаўся на адной з паліцаў і паклаў перада мной фотаздымак, на якім пазнаваліся Юрка Віцьбіч, Ларыса Геніюш, Кастусь Езавітаў, Наталля Арсеннева і — мой суразмоўца.

Пра свой няўдзел у кангрэсе паэтка пісала і ў «Споведзі». Дык чаму яе імя трапіла ў спіс удзельнікаў? Праўда, у тым жа зборніку матэрыялаў змешчаная справаздача мандатнай камісіі, дзе прыведзеная колькасць дэлегатаў ад акругаў і замежных беларускіх згуртаванняў. Апошніх налічвалася 16, у тым ліку з Варшавы, Рыгі, Лодзі, Кракава, Кёнігсберга, Вены і Берліна. З Прагі не было нікога. Дык каго прадстаўляла на кангрэсе залічаная ў дэлегаты Ларыса Геніюш? Як яна ўвогуле трапіла ў прыфрантавы Менск з зацішнай Прагі ў чэрвені 1944-га?

За тыдзень да кангрэса на стол нямецкага чыноўніка ў акупаванай Празе Франка легла тэрміновая тэлеграма за подпісам штурмбанфюрара СС Андрэса, у якой паведамлялася: «Са згоды Генеральнага камісарыята ў Менску 27 чэрвеня адбудзецца арганізаваны Беларускай Цэнтральнай Радай антыбальшавіцкі кангрэс, на якім будзе вырашана пытанне аб аддзяленні Беларусі ад СССР. У кангрэсе павінны ўзяць удзел

сябры Беларускага камітэта ў Празе Міхась Забэйда-Суміцкі, Іван Геніюш, Ларыса Геніюш і Васіль Русак».

Падобныя тэлеграмы былі разасланыя і ў другія замежныя гарады, дзе існавалі беларускія асяродкі. Лірычны тэнар Забэйда-Суміцкі быў на чарговых гастролях, лекара Геніюша прытрымалі на працы, а хатняя гаспадыня Ларыса Геніюш мусіла ехаць. У выпадку непадпарадкавання акупацыйным уладам яе чакала суровае пакаранне.

Паэтка прыехала ў Менск, але са спазненнем — кангрэс ужо закончыўся. Гэтае спазненне падаецца мне невыпадковым — Геніюш іранічна ставілася да кіраўніка БЦР Радаслава Астроўскага, які да паэткі адносіўся таксама без асаблівай прыязнасці. Гэткія іх адносіны выглядаюць цалкам зразумелымі — Ларыса Геніюш прымала палітычны тэстамент з рук другога прэзідэнта, і канкурэнцыі ці кан'юнктуры тут быць не магло.

У Менску Ларыса Геніюш адпачывала з дарогі ў кватэры Наталлі Арсенневай; тады ж яна пазнаёмілася з паэтамі Алесем Салаўём і Масеем Сяднёвым, з празаікам Юркам Віцьбічам. Апошні, развітваючыся, паказаў паэтцы сваю зрыхтаваную ў далёкую дарогу валізку, дзе сярод самых неабходных рэчаў ляжала кніга «Ад родных ніў».

Калегаў-пісьменнікаў чакала пажыццёвая эміграцыя. Ларысу Геніюш — вяртанне на радзіму ў закратаваным вагоне. Усяго праз чатыры гады.

## 5. ЧЭХАСЛАВАЦКАЯ ГРАМАДЗЯНКА

З зацішнай Зэльвы ў залатую Прагу да мужа Ларыса Геніюш у 1937 годзе выязджала як грамадзянка Польшчы. Прычым дазвол на выезд польскія ўлады давалі з адной умовай — у графе «нацыянальнасць» мусіў стаяць запіс «полька».

Ларыса Антонаўна адмовілася выканаць гэтае бязглуздае патрабаванне. У выніку маладая сям'я змагла з'яднацца толькі праз два гады пасля нараджэння сына Юркі.

У 1939 годзе польская дзяржава перастала існаваць, і Геніюшы засталіся без грамадзянства. Калі ў Прагу прыйшлі немцы, яны толькі запатрабавалі, каб усе некарэнныя жыхары

аб'ядналіся ў нацыянальныя арганізацыі. Так узнік пражскі Камітэт самапомачы, у якім Ларыса Геніюш выконвала абавязкі скарбніка.

Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны над сотнямі тысячаў уцекачоў з Савецкага Саюза навісла пагроза прымусовага вяртання на радзіму. Па вызваленай ад гітлераўцаў Еўропе ездзілі савецкія рэпатрыяцыйныя місіі ды агітавалі вяртацца ў «камуністычны рай». У адной з такіх місій, дарэчы, нёс службу пісьменнік Максім Лужанін. Сустрэўшы ў лагеры для ўцекачоў свайго былога калегу па літаб'яднанні «Узвышша» Антона Адамовіча, ён паспеў шапнуць таму: «Не едзь!» Так ён, відавочна, выратаваў не адзін дзясятак жыццяў.

Асаблівую цікавасць савецкае МГБ выяўляла да Геніюшаў. У іхні гасцінны дом у Празе на вуліцы Гежманова, 7 пачалі наведвацца дзіўныя знаёмыя з яшчэ заходнебеларускіх часоў, перадаваць «прывітанні» ад Максіма Танка (з якім, зазначым, Ларыса Геніюш упершыню ўбачылася толькі ў 1966 годзе).

Трэба было неяк ратавацца. І паэтка 5 верасня 1945 года піша роспачны ліст тагачаснаму амбасадару ЗША ў Чэхаславакіі Лорэнсу Стайнгарду, у якім, між іншага, гаварылася:

«Мы ніколі не былі савецкімі грамадзянамі, і я была паінфармаваная, што немагчыма выдаць ордар на наш арышт. Але ўсё ж у падобных выпадках людзей часам прымусова вывозяць у Савецкі Саюз, там звінавачваюць і караюць. Савецкія агенты ўжо спрабавалі гвалтоўна ўварвацца ў маю кватэру. Чэхаславацкія ўлады не могуць нічога зрабіць дзеля нашай бяспекі. Я ведаю, што савецкія агенты хочуць мяне зацягнуць у канцлагер у Страшніцах і адтуль, як злачынцаў, дэпартаваць у СССР, дзе нас чакае бяда, калі не смерць. Я прашу, каб мяне і маю сям'ю ўзялі пад апеку ўлады і войскі Злучаных Штатаў у Чэхаславакіі».

Амбасадар падышоў да справы фармальна: паінфармаваў аб сітуацыі Пражскі Град і супакоіў Ларысу Геніюш: маўляў, баяцца вам няма чаго.

«Хто вас, асобаў без грамадзянства, абароніць ад саветаў?» — пытаўся ў Геніюшаў іхні знаёмы англічанін. «Наша абарона — Бог», — адказвала Ларыса Антонаўна. «А нас, ан-

глічанаў, бароняць Бог і англійская каралева», — дасціпнічаў знаёмец.

Урэшце Янка і Ларыса Геніюшы звярнуліся да чэхаславацкіх уладаў з просьбай аб грамадзянстве і атрымалі яго 27 ліпеня 1947 года — акурат у дзень народзінаў Ларысы Антонаўны (паводле старога стылю). У пастанове аб наданні грамадзянства зазначалася, што грамадзянінам Чэхаславакіі таксама стаў «непаўналетні сын Геніюшаў Іржы, які нарадзіўся 21 кастрычніка 1935 года ў Зэльве».

29 ліпеня 1947 года Ларыса Геніюш атрымала чэхаславацкі пашпарт, папярэдне запоўніўшы ва ўправе дзяржаўнай бяспекі анкету, дзякуючы якой мы сёння ведаем, што паэтка мела рост 169 сантыметраў, валасы цёмна-русыя, а вочы шэра-блакітныя.

На жаль, чэхаславацкае грамадзянства не абараніла Ларысу і Янку Геніюшаў ад ГУЛага. Не прайшло і года, як пашпарты ў іх былі адабраныя, а на працытаванай вышэй анкеце чыясьці рука размашыста накрэсліла: «Дэпартаваць з ЧСР!».

Аднак гэта ўжо іншая гісторыя.

## 6. ДЭПАРТАЦЫЯ З ЧЭХАСЛАВАКІІ

Пасля Другой сусветнай вайны ва ўсходнееўрапейскіх краінах адна за другой — дзе бурлівыя, дзе ціхмяныя — адбываліся рэвалюцыі, у выніку якіх да ўлады прыходзілі камуністы. Іх падтрымліваў Савецкі Саюз-вызваліцель, які меў дастаткова рэсурсаў і паўнамоцтваў, каб дыктаваць сваю волю. Не стала выключэннем і Чэхаславакія, дзе кіраўніком урада ў 1946-м і прэзідэнтам у 1948-м стаў лідар КПЧ Клімент Готвальд.

Маскоўскія спецслужбы, дачакаўшыся прыходу да ўлады аднапартыйцаў, атрымалі магчымасць легальна чыніць свае цёмныя справы. І яны распачалі «дзікае паляванне» на людзей.

10 лютага 1948 года Пражскі Град атрымаў з Масквы афіцыйнае патрабаванне выдаць трох «ваенных злачынцаў». Двума з іх былі Ларыса і Янка Геніюшы. У тым дакуменце, апублікаваным Францішкай Сокалавай у трэцім выпуску альманаха «Асоба і час», між іншага, гаварылася: «Ларыса Геніюш — актыўная ўдзельніца антысавецкіх нацыяналістыч-

ных арганізацый, з 1942 года ўзначальвала пражскі аддзел "Беларускага камітэта падтрымкі". У цяперашні час распаўсюджвае розныя антысавецкія ідэі, у сваіх артыкулах і вершах паклёпнічае на Савецкі Саюз».

Адносна Янкі Геніюша ў сакрэтным мемарандуме паведамлялася, што ён «таксама прымаў удзел у антысавецкіх нацыяналістычных групоўках у Чэхаславакіі, а ў 1942 годзе актыўна выступаў супраць Савецкай арміі і савецкіх партызанаў на тэрыторыі Беларусі, занятай немцамі».

У верхніх эшалонах чэхаславацкай улады ўсчаўся лёгкі перапалох: як жа так — усяго год таму Геніюшы атрымлівалі грамадзянства і аніякіх грахоў у іхніх біяграфіях тады выяўлена не было! Адпаведныя міністэрствы і ведамствы абменьваліся ў гэтай справе тэрміновымі цыркулярамі і ўрэшце прыйшлі да высновы, што грамадзянства Геніюшаў неабходнаануляваць, як... незаконнае. Чаму незаконнае — ніводзін чыноўнік патлумачыць не змог.

5 сакавіка 1948 года Ларыса і Янка Геніюшы былі арыштаваныя чэхаславацкімі спецслужбамі ў мястэчку Вімперк (ад Прагі 140 кіламетраў), дзе Іван Пятровіч працаваў лекарам.

За арыштантаў паспрабаваў заступіцца абласны суд у Празе, схарактарызаваўшы дзеянні ўладаў як неправамоцныя. Аднак слугаў Феміды ніхто не паслухаў.

Першай вязніцай Геніюшаў стаў старажытны вімперскі замак, чые сутарэнні і сёння ўражваюць сваёй змрочнасцю і двухметровымі глухімі сценамі.

Міністэрства ўнутраных спраў Чэхаславакіі адмысловай пастановай ад 1 красавіка 1948 года пазбавіла Ларысу і Янку Геніюшаў грамадзянства, а 7 ліпеня іх пад канвоем дэпартавалі з тэрыторыі Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспублікі без права вяртання ў краіну...

Пасля вызвалення з ГУЛага, у 1956 годзе Ларыса Геніюш у адным з вершаў прыгадала тыя поўныя драматызму дні і ночы ў Чэхаславакіі:

Нягадана мне на шляху сустрэчаны,
прадаўшы ў путах душу не адну,

о край чужы, ты з людскасцю развенчаны, —
я да цябе ніколі не прыйду!

Аднак гэта не перашкодзіла паэтцы ў 1968 годзе, калі ў Прагу ўвайшлі савецкія танкі, адкрыта выказаць сваю салідарнасць з чэхамі.

## 7. СУД У МЕНСКУ

Вагонзак, у якім Ларыса і Янка Геніюшы прыехалі на радзіму, на менскім вакзале сустрэлі ўзброеныя канваіры з сабакамі. Вольных месцаў у турме не было, і вязні доўга сядзелі ў закратаваным вагоне. А калі варанок заехаў у двор турмы-амерыканкі, нядаўніх чэхаславацкіх грамадзянаў сустрэў сам начальнік турмы і дасціпна, як яму здалося, пажартаваў: «Хорошо, что вы к нам без сына пожаловали».

Пацягнуліся бясконца доўгія дні і ночы зняволення. На допытах следчыя задавалі Ларысе Геніюш пытанні пра жыццё ў Празе, пра Беларускі камітэт самапомачы, пра старшыняў Рады БНР Васіля Захарку і Міколу Абрамчыка.

Аднойчы ўночы яе завялі ў кабінет да тагачаснага міністра дзяржбяспекі БССР Лаўрэнція Цанавы. Той, ведаючы, што паэтка адзінаццаць гадоў пражыла ў Празе, прапанаваў паклікаць чэшскага перакладчыка. На што пачуў адказ: «Вам, як беларускаму міністру, належыць ведаць беларускую мову». Заўвага вывела Цанаву з сябе, ён грукаў кулаком па стале, пырскаў слінай, патрабаваў аддаць архівы БНР.

На змену злосным і крыклівым гэбістам прыходзілі «добрыя і культурныя». Паэтцы запомніўся намеснік Цанавы Новік, які добра размаўляў па-беларуску і цытаваў на памяць вершы з кнігі «Ад родных ніў».

Суд адбыўся 7 лютага 1949 года. Ён быў закрыты, без пракурора і адваката. Ларысу Геніюш прызналі вінаватай і асудзілі на 25 гадоў папраўча-працоўных лагераў (такі ж тэрмін атрымаў і Янка Геніюш). Абвінавачванне грунтавалася на артыкулах 66 і 76 тагачаснага Крымінальнага кодэкса БССР.

Зазірнем у той кодэкс — якія злачынствы мусілі карацца паводле артыкула 66? Цытую на мове арыгінала: «Оказание каким бы то ни было способом помощи той части международной буржуазии, которая, не признавая равноправия коммунистической системы, приходящей на смену капиталистической системы, стремится к её свержению»...

Абвінавачванне і прысуд гучалі нават па тым часе бязглузда, бо паводле згаданага артыкула пакаранне магло наступіць у выглядзе «пазбаўлення грамадзянства БССР і выгнання вінаватых за межы СССР». Суддзя, мабыць, пазычыў у сабакі вочы, калі зачытваў вырак гвалтоўна прывезеным з-за мяжы падсудным, якія ніколі не былі савецкімі грамадзянамі.

Суд мусіў яшчэ спаслацца на ўказ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 26 траўня 1947 года «Аб адмене смяротнага пакарання». Не было б указа — Ларысу і Янку Геніюшаў маглі расстраляць...

У судовай справе Ларысы Антонаўны зберагаецца фотакопія «Менскай газеты» ад 25 кастрычніка 1942 года, дзе былі надрукаваныя дзесяць вершаў паэткі. Літаратурная творчасць у часы акупацыі таксама ставілася ёй у віну.

Закідалася Ларысе Геніюш на судзе і яе супрацоўніцтва з газетай «Раніца», якая падчас вайны выдавалася ў Берліне. Я ўважліва прагледзеў усе нумары гэтага выдання і не знайшоў там аніводнага ўхвальнага слова фюрару за подпісам Ларысы Геніюш, Чайкі ці Лясной Кветкі (псеўданімы паэткі, якімі яна зрэдку карысталася ў 40-я гады).

Ужо даўно «дапамога міжнароднай буржуазіі» перастала лічыцца ў Беларусі злачынствам. У Крымінальным кодэксе Рэспублікі Беларусь і блізка няма артыкулаў, падобных на тыя, па якіх судзілі Ларысу Геніюш. Аднак паэтка да гэтай пары застаецца не рэабілітаванай.

Для кагосьці ў сённяшняй Рэспубліцы Беларусь яна — злачынца. Але для ўсё большай колькасці беларусаў — вялікая паэтка і нацыянальная гераіня.

## 8. АРХІЎ БНР

10 красавіка 1983 года нас, дзевяцікласнікаў Дзярэчынскай сярэдняй школы, адпусцілі дамоў на гадзіну раней — быў адменены ўрок расійскай літаратуры. Настаўнік Пятро Мікалаевіч Марціноўскі ездзіў у недалёкую Зэльву, на пахаванне Ларысы Геніюш. Назаўтра ён запрасіў мяне да сябе дахаты, расказаў пра ўбачанае і даў прачытаць аддрукаваныя на тонкай папіроснай паперы вершы паэткі. Найбольш уразіў мяне твор, жанр якога я і сёння не бяруся вызначыць — ці то нізка вершаў, ці то паэма. У ім апісваўся допыт паэткі ў менскай турме:

Стаю, бы ў боі, не з палахлівых,
а ён — як звер.
«Дзе ёсць архівы, аддай архівы
мне БНР!»

Ён — гэта Цанава, міністр дзяржбяспекі БССР, якога за вочы называлі Лаўрэнцій ІІ. «Першым быў Берыя», — тлумачыў настаўнік.

Праз два гады з «турэмным» творам Ларысы Геніюш пазнаёміліся мае аднакурснікі на філфаку БДУ. Мы нават надрукавалі яго ў студэнцкім самвыдатаўскім часопісе «Парсуна».

У сваёй «Споведзі» Ларыса Антонаўна падрабязна апісвае, як яны з Міколам Абрамчыкам аглядалі архіў БНР, пазасталы пасля смерці Васіля Захаркі. Агляд рабіўся з мэтай выбраць самыя каштоўныя дакументы і вывезці іх у больш бяспечнае месца.

«Сартаваць архіў нам ніхто не перашкаджаў. Адкідаючы непатрэбнае, Мікола адсунуў убок пудэлачак ад запалак. Я падняла яго і знайшла там цудоўныя беларускія значкі з Пагоняю — яшчэ з 1918 года. Узяўшы ў рукі дзяржаўную пячатку, я пацалавала яе», — успамінала Ларыса Геніюш.

Два чамаданы архіўных матэрыялаў Мікола Абрамчык вывез у Парыж. Усё астатняе трапіла ў рукі Івана Ермачэнкі — кіраўніка Беларускай народнай самапомачы і дарадцы гаўляйтара Вільгельма Кубэ. Гаўляйтар таксама цікавіўся архівам і нават пасылаў у Прагу свайго ўпаўнаважанага Рыхеля, які

нібыта перадаў бэнээраўскія дакументы ў пражскі Расійскі архіў. Пасля вайны гэты архіў быў вывезены ў Маскву, дзе ўсе датычныя БНР матэрыялы зніклі ў невядомым кірунку. Даследчыца Ганна Сурмач знайшла толькі іх вопіс.

Прапалі некуды і «два чамаданы» Міколы Абрамчыка. Да нядаўняга часу лічылася, што іх ніхто, апрача Ларысы Геніюш і самога Абрамчыка, не бачыў. На шчасце, іх не толькі пабачыў, але і патрымаў руках Янка Запруднік, калі ў 1970 годзе адведваў удаву прэзідэнта БНР у Вільпінце пад Парыжам. Ніна Абрамчык, хоць і неахвотна, але дазволіла яму падняцца на гарышча дома і агледзець архіў. Праўда, на тым гарышчы Янка Запруднік пабачыў ужо толькі адзін чамадан.

Шаснаццаць дакументаў, датычных дзейнасці БНР, даследчык апублікаваў у гадавіку «Запісы БІНіМ» за 2009 год. Гэтая публікацыя засведчыла рэальнае існаванне «парыжскага» архіва БНР, які з-за сваёй недаступнасці на працягу дзесяцігоддзяў ледзь не стаў лічыцца легендарным.

Нягледзячы на ўсе просьбы і дамаганні беларускай дыяспары, Ніна Абрамчык так і не перадала архіў новаабранаму старшыні Рады БНР. Пасля смерці маці ў 2002 годзе не спяшаецца зрабіць гэта і сын чацвёртага прэзідэнта БНР Альгерд Абрамчык, які, па ўспамінах відавочцаў, яшчэ хлопчыкам на пытанне «Хто ты?» упэўнена адказваў: «Я — грамадзянін Беларускай Народнай Рэспублікі!»

Месцазнаходжанне архіва, які адыграў не апошнюю ролю ў трагічным лёсе Ларысы Геніюш, да гэтай пары застаецца невядомым.

## 9. ВЕРШЫ ЛЯЦЯЦЬ НА ВОЛЮ

Пасля абвяшчэння прысуду — 25 гадоў пазбаўлення волі — Ларысу і Янку Геніюшаў не адразу адвезлі ў турму. За вокнамі згасаў кароткі зімовы дзень, зняволеныя доўга сядзелі ў пустой зале, агаломшаныя такім суровым выракам Вярхоўнага Суда. У галаве Ларысы Антонаўны ўзніклі і шматкроць паўтарыліся радкі: «Дзе гора, дзе боль свой дзенеш, / паэтка Ларыса Геніюш?» Верш пазней так і не дапісаўся. У перасыльных ту-

рмах, у першыя гады гулагаўскай катаргі было не да вершаў. Але ГУЛаг не прымусіў замаўчаць паэтку. Да нас дайшло нямала яе твораў, напісаных за калючым дротам. Як жа яны траплялі на волю?

У свой час Мікола Канаш — сам былы гулагавец, за сяброўства ў Саюзе беларускай моладзі, — перадаў мне больш за дзясятак лагерных лістоў і вершаў Ларысы Геніюш. Я звярнуў увагу на паштовыя штэмпелі, дзе месцам адпраўкі значыліся Котлас, Варкута і Ленінград. Аказваецца, праз гэтыя гарады, пакручастымі шляхамі вершы Ларысы Геніюш і траплялі на волю.

У лагеры Мікола Канаш атрымліваў лісты ад паэткі праз нелегальную, строга законспіраваную пошту. Разумеючы іх каштоўнасць, пры першай магчымасці перасылаў сябрам на свабоду. Звычайна лісты збіраліся ў пакунак, які абгортваўся паперай з-пад аманіту і пражыўляўся стэарынам, каб не праходзіла вільгаць. Пакунак мацаваўся да сценкі вагона, які запаўняўся вугалем. Лісты з ГУЛага знаходзілі добрыя людзі падчас разгрузкі ў тых жа Котласе, Варкуце ці Ленінградзе, распакоўвалі і апускалі ў паштовую скрынку. Часам для заахвочвання «лістаношаў» у пакунак клаўся сцізорык, выраблены вязнямі.

Праз Котлас, Варкуту і Ленінград лісты даходзілі спраўна, а вось калі чарговая іх порцыя пайшла на Чарапавец, то на тамтэйшым металургічным заводзе трапіла ў рукі гэбістаў. У выніку Мікола Канаш атрымаў 15 сутак карцара і быў пазбаўлены афіцыйнай перапіскі на год.

І праз паўстагоддзя Мікола Імполевіч памятаў імёны зняволеных, якія працавалі на загрузцы вагонаў у Інце і з рызыкай для сябе перасылалі на волю тыя лісты: Вячаслаў Прыстаўка з Шаркаўшчыны, Іван Мароз з Менска, Валянціна Салагуб з Маладзечна.

Цэлы зборнічак лагерных вершаў Ларысы Геніюш пераправіў на волю і Васіль Супрун, які таксама атрымаў 25 гадоў ГУЛага — за стварэнне антысавецкай арганізацыі «Чайка» на Слонімшчыне. Падчас сустрэчы з Васілём Рыгоравічам я спытаўся, ці няма сувязі паміж слонімскай «Чайкай» і паэткай

Чайкай, якая друкавалася на пачатку 40-х у газеце «Раніца». І мой суразмоўца пацвердзіў, што сапраўды назваў сваю арганізацыю ў гонар тае Чайкі з лётам арліным (гэта быў адзін з псеўданімаў Ларысы Геніюш).

Лісты з лагера Васіль Супрун адпраўляў на адрас сваёй сястры Надзеі Рубец, якая зберагла іх і перадала брату пасля яго вяртання з ГУЛага ў 1956-м.

Яшчэ каля двух дзясяткаў вершаў паэткі Васіль Супрун вынес на волю зашытымі ў сваёй лагернай ватоўцы.

Лагерная паэтычная перапіска Ларысы Геніюш і Васіля Супруна склала кнігу «Жыць для Беларусі», якая пабачыла свет у 1998 годзе ў серыі «Архіў найноўшай гісторыі».

На жаль, не ўсе творы паэткі часоў ГУЛага ўдалося выратаваць. Па сведчанні таго ж Васіля Супруна, частка з іх так і засталася ляжаць пад лесвічнай прыступкай у лябёдачнай шахты № 2 горада Інты, дзе слонімскі падпольшчык працаваў машыністам скрэпернай установкі.

Інцінскі краязнаўца Віктар Ложкін, з якім у мяне завязалася перапіска, яшчэ не страціў надзею адшукаць тыя вершы.

## 10. «РЭАБІЛІТАЦЫІ НЕ ПАДЛЯГАЕ»

Заявы аб рэабілітацыі Ларыса і Янка Геніюшы пісалі тройчы — у 1956, 1966 і 1968 гадах. І тройчы атрымлівалі несуцяшальныя адказы. Савецкая судовая сістэма як сляпы плоту трымалася палажэнняў і кодэксаў, выпрацаваных яшчэ ў сталінскія часы. Хай сабе «ворагаў народа» і перасталі расстрэльваць, але яны мусілі быць у наяўнасці — на ўсякі выпадак.

Пытанне аб адмене прыгавору судовай калегіі па крымінальных справах Вярхоўнага Суда БССР ад 7 лютага 1949 года ў адносінах да Ларысы Геніюш неаднойчы ўздымалася і ў суверэннай Беларусі. Напрыклад, у 1999 годзе з адпаведным хадайніцтвам у Генеральную пракуратуру звяртаўся Беларускі Хельсінкскі камітэт.

Адмоўны адказ за подпісам намесніка старшыні Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь Яўгена Царэнкі быў нібы спісаны з аналагічных адказаў савецкага часу: «Пастановай Прэзідыума

Вярхоўнага Суда Геніюш Ларыса Антонаўна прызнаная не падлягаючай рэабілітацыі... Яе крымінальная справа вернутая на захаванне ў КДБ Беларусі».

Рыхтуючы да выдання «кнігазбораўскі» том Ларысы Геніюш, я напісаў ліст тагачаснаму старшыні КДБ Уладзіміру Мацкевічу — з просьбай азнаёміцца з той самай справай. Маўляў, пры напісанні прадмовы сутыкнуўся з белымі плямамі ў біяграфіі паэткі — дапамажыце. Адказ быў прадказальным — начальнік аддзела (незразумела якога) Л. Піменаў паведаміў, што «да вырашэння пытання аб рэабілітацыі Ларысы Геніюш КДБ Рэспублікі Беларусь не мае магчымасці дазволіць вам азнаёміцца з матэрыяламі яе архіўнай крымінальнай справы».

За часы незалежнасці Беларусі звароты аб рэабілітацыі Ларысы Геніюш дасылаліся ў адпаведныя дзяржаўныя ўстановы як мінімум пяцёрачы — ад грамадскіх арганізацый і фізічных асобаў. Безвынікова.

Факт упартай нерэабілітацыі паэткі дзяржаўныя юрысты ў прыватных размовах называюць недарэчнасцю. Сапраўды, варта зазірнуць у артыкулы 66 і 76 Крымінальнага кодэкса БССР узору 1928 года (!), на падставе якіх і асудзілі Геніюшаў, каб пераканацца, што іх справа разглядаецца сёння не ў юрыдычнай, а ў палітычнай плашчыні.

Што і пацвердзілася выступам Аляксандра Лукашэнкі па Беларускім тэлебачанні ўлетку 1999 года. Дакладная цытата з таго выступу: «Я разобрался с трудной судьбой Ларисы Гениуш». Сказаў — як звязаў. І вузел гэты не адважыцца развязаць ні генеральны пракурор, ні самы вярхоўны суддзя.

## 11. НЕГРАМАДЗЯНКА СССР

Цікавы факт: Ларыса Геніюш за ўсё жыццё ні разу не галасавала на выбарах. Аднойчы ёй надарылася магчымасць выканаць свой канстытуцыйны абавязак — падчас выбараў у Польскі Сойм, але выбары тыя беларусы Зэльвенскай гміны байкатавалі. Ва ўсіх астатніх выбарах Ларыса Геніюш як асоба без грамадзянства ўдзельнічаць не магла.

У яе пашпарце стаяў штамп «Без грамадзянства» з прыпіскай ад рукі: «Былая грамадзянка Чэхаславацкай Рэспублікі».

Надаць Ларысе Геніюш грамадзянства СССР улада спрабавала шматкроць. Дзеля гэта выкарыстоўваліся бізун і пернік, былі задзейнічаныя некаторыя сябры і знаёмыя паэткі. Угаворваць несавецкую грамадзянку стаць савецкай у Зэльву адзін за адным прыязджалі ўпаўнаважаныя агітатары.

З Гародні заяўляўся рашучы старшыня абласной пісьменніцкай арганізацыі Аляксей Карпюк і абяцаў (у выпадку прыняцця грамадзянства) кватэру ў Менску, пісьменніцкую пенсію — 100 рублёў у месяц, выданні кніг не толькі ў Менску, але і ў Маскве.

З Менска — па даручэнні Максіма Танка — прыязджаў Мікола Прашковіч. Медыявіст, знаўца скарынаўскіх стадрукаў, ён наіўна верыў, што савецкая грамадзянка Ларыса Геніюш адразу зажыве бесклапотна, уступіць у Саюз пісьменнікаў, будзе ездзіць па дамах творчасці і пісаць, не ведаючы творчых крызісаў.

Максім Танк і сам аднойчы прыязджаў — у рангу Старшыні Вярхоўнага Савета, на службовай «Волзе», напалохаўшы раённае начальства. Ларыса Антонаўна акурат выбірала ў гародзе моркву, выглядала, па яе словах, як «Сорка Янкелева», і патрэбнай высокаму госцю размовы не атрымалася. Праўда, і гэта трэба адзначыць, Танк не вельмі настойліва выконваў чыёсьці даручэнне наконт грамадзянства, а ў прыватных лістах у Зэльву настойваў зусім на іншым: «Беражыце сваю свабоду, як берaглі яе ўсё жыццё».

У ролі агітатаркі наведвалася ў Зэльву і Паўліна Мядзёлка. Жыла ў Геніюшаў два тыдні, збіралася нават назусім перабрацца да іх са свайго Будслава, чым канчаткова вывела з сябе Івана Пятровіча. Ён ведаў у Празе былога Мядзёлчынага мужа — Тамаша Грыба і, відавочна, разумеў, чым тлумачыцца такая настойлівасць Паўліны Вінцэнтаўны...

Нягледзячы на ўсе дамаганні, савецкай грамадзянкай Ларыса Геніюш так і не стала. Па-першае, яна разумела, што, прыняўшы грамадзянства, дыскрэдытуе БНР, сакратаром Рады якое з'яўлялася з 1943 года. Па-другое, ад савецкай

улады яна чакала найперш рэабілітацыі. Па-трэцяе, савецкі лад паэтка лічыла чужародным для Беларусі і юрыдычна не хацела быць ад яго залежным. «З пекла ўпала на голаў мне / ўся гэта СССР», — пісала яна ў адным не разлічаным на публікацыю вершы.

Не абміналася тэма грамадзянства і ў лістах. Вось што паведамляла Ларыса Геніюш Адаму Мальдзісу ў 1968 годзе: «Візіт Аляксея Карпюка і патрабаванне грамадзянства без рэабілітацыі даканалі мяне канчаткова. Аб грамадзянстве думаю, але бярэ мяне жах, калі ўспомню свае мучэнні і тое, што палічылі іх заслужанымі. Кінга зрабіла чалавекам не ягонае амерыканскае грамадзянства, а змаганне за волю суайчыннікаў. Калі вазьму грамадзянства, яны мяне даканаюць. Яны мяне пераніцуюць, як старую вопратку, на новы манер, а мне ўсё гэта нецікава».

Так і жыла несавецкая грамадзянка на зэльвенскай вуліцы Савецкай. Дарэчы, 173 яе жыхары ў 2010 годзе падпісаліся за наданне вуліцы імя Ларысы Геніюш.

## 12. РЭДАКТАР КАРАТКЕВІЧ

Уладзімір Караткевіч ніколі не працаваў рэдактарам. Ён увогуле не служыў ва ўстановах з дакладным працоўным графікам, калі не лічыць некалькігадовага настаўнічання пасля заканчэння Кіеўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Пісьменнік бярог свой час і сваю свабоду.

Але адну кнігу паэзіі яму ўсё ж давялося адрэдагаваць. Прычым на грамадскіх пачатках. З павагі да паэткі, якая яе напісала.

Калі ў 1966 годзе Максім Танк перадаў Караткевічу рукапіс будучай кнігі для рэдагавання, яна яшчэ не мела назвы. На першай старонцы значылася толькі імя аўтаркі — Ларыса Геніюш.

Азнаёміўшыся са зместам зборніка, рэдактар захацеў пабыць заадно і ягоным хросным бацькам. Ён чорным атрамантам упэўнена накрэсліў пасярод старонкі назву — «Айчына». Але Ларыса Геніюш чамусьці яе не ўпадабала і прапанавала

некалькі сваіх — на выбар: «Льняное прадзіва», «Мы — беларусы», «Клёкат буслiны», «З кахання i веры», «Насуперак долі», «Вытканае з зарніц», «Невадам з Нёмана»...

Аддамо належнае густу рэдактара — ён выбраў найлепшы варыянт. І — узяўся за працу. Дзеля ўзгаднення з аўтаркай сваіх паправак нават прыязджаў у Зэльву і жыў там цэлы тыдзень. Гасцінная Ларыса Антонаўна аднойчы пачаставала Караткевіча крупнікам — хмельным напоем, які гатавала сама паводле адмысловага рэцэпту. Магчыма, рэдактар разлічваў на больш шчодрыя пачастункі за сваю, як ён сам выказаўся, «катаржную працу».

Паэтка, якая ў Комі АССР кіркавала вечную мерзлату, катаржную працу разумела па-свойму. Яна не на жарты засердавала і без доўгіх роздумаў выправадзіла свайго рэдактара з хаты. У Менску Караткевіч зразумеў, што ляпнуў лішняе, і напісаў у Зэльву прабачальны ліст. Доўга яшчэ Ларыса Антонаўна ў лістах да сяброў згадвала свайго рэдактара-«катаржніка», але ўжо без злосці.

Жадаючы як найхутчэй загладзіць сваю віну, Уладзімір Караткевіч адшукаў у сталічным Батанічным садзе насенне «туліпанаў» рэдкага гатунка і паслаў Ларысе Геніюш, чый кветнік быў найлепшым у Зэльве.

Як жа рэдагаваў Уладзімір Сымонавіч творы Ларысы Антонаўны? Патрабавальна, але не прыдзірліва, часам з аглядкай на Галоўліт. Скажам, у вершы «Нішто так няміла» рукой Караткевіча закрэслена чатырохрадкоўе: «Нішто так няміла, як родны наш сцяг, / як нашы дзядоўскія гоні; / нішто так няміла, як тое дзіця, / што сэрцам вітае Пагоню!» Замест ужыванага паэткай слова «крывіцкі» рэдактар знаходліва падстаўляў зусім не сінонімы: «бясстрашны», «магутны», «тутэйшы».

Дзеля справядлівасці варта сказаць, што самыя вялікія скароты ў вершах зробленыя не рукой Караткевіча. Больш за сотню радкоў проста да нечытэльнасці затушаваныя. Верагодна — цэнзарам, пільнасць якога рэдактар стараўся якраз прыменшыць, расстаўляючы пад вершамі ваеннай пары даты — 1936, 1938, 1939.

Ларыса Геніюш з разуменнем ставілася да хітрыкаў Караткевіча-рэдактара і давярала яму. Напісаўшы на замову выдавецтва «Беларусь» аўтабіяграфічны нарыс «Сто ранаў у сэрца», паэтка на першую чытку аддала яго двум самым надзейным сябрам — Міколу Прашковічу і Уладзіміру Караткевічу. Апошні, як чалавек адкрыты, неўзабаве выказаў свае заўвагі: «Прачытаў толькі што Вашу аўтабіяграфію. Работа выключная. Па напалу і страсці, па стрыманасці інтанацыі, за якою — непрымірымасць. Але наўрад ці можна сказаць: "розніцу між Богам і кліРам". Гэта занадта ў лоб. Не пусцяць, заразы, і расправы над сям'ёй (а як шкада!). Час для сапраўднай Вашай біяграфіі яшчэ не прыйшоў. Але Вы яе пішыце. Без скідак. З разлікам на недалёкую будучыню».

Так Караткевіч падштурхоўваў Ларысу Геніюш да напісання «Споведзі», якой у надрукаваным выглядзе ўжо не ўбачаць ні паэтка, ні яе зычлівы рэдактар.

Калі кніга «Невадам з Нёмана» ў 1967 годзе выйшла ў свет, сігнальны асобнік прывёз у Зэльву Уладзімір Караткевіч. Па старадаўнім звычаі ў кілішкі ізноўналіваўся крупнік...

## 13. «НЕ ПІ, РЫГОР, НЕ ПІ, СЫНОК...»

У гады майго школьнага юнацтва ў зэльвенскім касцёле прымалі пустыя бутэлькі з-пад віна і гарэлкі. У прыёмныя дні каля храма ўтваралася чарга з дзядзькоў і цётак з азызлымі тварамі, чые бацькі і дзяды, магчыма, таксама стаялі тут у чарзе — да прычасця. Што ж, савецкі чалавек, адурманены атэістычнай прапагандай, прычашчаўся пераважна з бутэлькі — маліўся шкляному богу, як гаварылі ў народзе.

Ларыса Геніюш магла пачаставаць сяброў чарачкай самаробнага крупніку, але злоўжывання ў гэтай справе не цярпела.

Паэтка называла гарэлку нацыянальнай хваробай беларусаў.

Яна не стамлялася паўтараць, што беларускаму народу патрэбныя ўсебакова цвярозыя людзі.

За празмерна частыя абдымкі з Бахусам Ларыса Геніюш дзе далікатна-памяркоўна, а дзе патрабавальна-катэгарычна

дакарала Уладзіміра Караткевіча, Анатоля Вялюгіна, Юрку Голуба...

Жонка паэта Алеся Салаўя з далёкай Аўстраліі прасіла Ларысу Антонаўну паўплываць на мужа, бо толькі слова Геніюш магло адвадзіць яго ад лішняй чаркі. Але якую чарку трэба лічыць лішняй? Яшчэ антычны мысляр Анахарсіс, які жыў дзве з паловай тысячы гадоў таму, гаварыў, што на вінаграднай лазе растуць тры гронкі — гронка асалоды, гронка п'яноты і гронка мярзоты. Але як вызначыць дакладную мяжу паміж гэтымі трыма станамі?

У адным з сяброўскіх лістоў да супрацоўніка акадэмічнага Інстытута літаратуры Міколы Прашковіча Ларыса Геніюш пісала: «Сябра Мікола, мы ж гінем! Гінем і губім наш народ і фізічна, і маральна — гарэлкай. Каму гэта выгадна, сябра Мікола? Я нядаўна бачыла фільм, у якім стары індзеец аддае апошні залаты пясок за чарку гарэлкі, а калі наліваюць яго-наму сыну, дык той плаціць, а пасля з абрыдлівасцю вылівае яе на зямлю, як каланіяльную прыманку і спосаб зняволення і згубы свайго народа... Божа, калі б бачыць сваіх землякоў, выліваючых гэтую чужую атруту чужакам пад ногі!»

Узорам непахіснасці ў супрацьстаянні з Бахусам паэтка лічыла Максіма Танка, які не піў з часоў Заходняй Беларусі. Імпанаваў ёй у гэтай справе і старшыня гарадзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Аляксей Карпюк, які марыў стварыць усесаюзнае таварыства цвярозасці.

Але найбольшае занепакоенне Ларысы Геніюш выклікаў таленавіты з маладосці Рыгор Барадулін, якога паэтка называла ў лістах: «Барадулька мая харошая, шляхотны пабраціме зубра барадатага».

Аднойчы Барадулін з пахмелля ледзь не запісаўся добраахвотнікам на амерыканска-в'етнамскую вайну. Разумеючы, што паэта ў адпаведным стане і надалей будзе цягнуць да геройскіх учынкаў, Ларыса Антонаўна не магла дапусціць, каб беларуская літаратура панесла яшчэ адну передчасную і непапраўную страту.

Неўзабаве на свет з'явіўся верш-замова «Не пі!», які па сіле ўздзеяння пераўзыходзіў, відаць, усе наркалагічныя пігулкі:

Праз час, прастор крычу здалёк:
не пі, Рыгор, не пі, сынок!
Не п'юць жа людзі ля стырна,
і ксёндз не п'е ля алтара,
і той не п'е, хто ў бой ідзе,
і той не п'е, хто ў бой вядзе!
Хто піў — той без пары замоўк...
Не пі, Рыгор, не пі, сынок.
Радзіма — карабель, наш твар,
і бою пляц, і наш алтар.
А ты — і стырнік, і баец,
святар ад кніг і свой хлапец...
Не пі!

З таго часу Рыгор Барадулін і стаў непахісным цвярэзнікам. Вось як незвычайна праявілася магічная сіла паэзіі Ларысы Геніюш!

## 14. КНІГА-КАСМАНАЎТ

У Гудзевіцкім літаратурна-краязнаўчым музеі налічваецца больш за пятнаццаць тысячаў экспанатаў. Ёсць сярод іх і ўнікальныя, на якія зайздросліва касавурацца экскурсіі музейных работнікаў з Гародні і Менска. Прыкладам, у Гудзевіцкім музеі зберагаецца адзіны ў свеце беларускамоўны глобус, выраблены яшчэ ў даваенны час для адной з заходнебеларускіх гімназій.

Надоўга спыняюцца наведнікі і ля экспазіцыі, прысвечанай Ларысе Геніюш. Сярод аўтографаў і фотаздымкаў паэткі іх увагу нязменна прыцягвае кніга «Невадам з Нёмана» з дарчым надпісам першага беларускага касманаўта Пятра Клімука. Гэты экспанат мае сваю гісторыю.

Гудзевіцкі музей быў створаны настаўнікам мясцовай школы Алесем Белакозам прыканцы 60-х гадоў. Ён ад пачатку выклікаў нараканні мастоўскага і гарадзенскага начальства за «нацыяналістычныя ўхілы» ў экспазіцыі. Але заснавальнік музея аказаўся не з ліку палахлівых і ў піку начальству размясціў у адным з музейных пакояў стэнд Ларысы Геніюш. Што вы-

глядала натуральным — у Гудзевіцкай школе паэтка вучылася, на тутэйшых могілках пахаваны яе дзед Павел Міклашэвіч.

Але на двары стаяў 1973 год, і ініцыятыва Белакоза была кваліфікаваная ўладай як антысавецкая дыверсія ў савецкай школе.

У Гудзевічы тэрмінова прыехала адмысловая камісія і вырашыла ўсё і ўсіх зняць: Белакоза — з працы, а геніюшаўскі стэнд — з экспазіцыі. Адміністрацыя школы паступіла больш мудра — няхай непакорлівы настаўнік спачатку экспазіцыю пераробіць, а потым піша заяву на звальненне. Белакозу нічога не заставалася, як пагадзіцца. На пераробку далі два тыдні.

Так сталася, што акурат у тыя дні вярнуўся з waколземнай арбіты Пятро Клімук — у арэоле заслужанай славы. Да героя-земляка і вырашыў звярнуцца па дапамогу Алесь Белакоз. За ноч ягоная жонка Вера выткала гальштук з беларускім арнаментам і іменным надпісам. Алесь Мікалаевіч да каштоўнага падарунка далучыў кнігу «Невадам з Нёмана» і тэрміновай поштай адправіў усё ў Зорны гарадок.

Праз два тыдні расчулены касманаўт прыслаў падзячны ліст, абяцаў прыехаць у Гудзевічы, а на дасланай кнізе напісаў: «Вучням Гудзевіцкай школы з пажаданнем любіць радзіму і шанаваць родную мову. 11.09.73. П. Клімук».

Кніга, што вярнулася з Зорнага гарадка, адразу набыла статус каштоўнага экспаната і ўпрыгожыла сабою тую самую экспазіцыю, якая выклікала гнеў начальства. У Гудзевічы панаехала карэспандэнтаў, прымчалася здымачная група абласнога тэлебачання. Мастоўская раённая газета «Зара над Нёманам» на першай паласе дала сенсацыйны матэрыял «Падарунак касманаўта», з якога вынікала, што кніга Ларысы Геніюш пабывала ў космасе.

Ці трэба казаць, што пасля такога павароту падзеяў недатыкальным зрабіўся не толькі ўвесь музей, але і ягоны стваральнік? Ніхто з начальнікаў ужо нават і не заікаўся пра ягоную дыверсію. Наадварот, на педагагічных нарадах Алеся Белакоза хвалілі за ўкараненне новых метадаў пазашкольнага выхавання. І калегі-настаўнікі паважна ўздыхалі: «Ну і Белакоз — ужо і ў космас дабраўся!»

Калі Ларыса Геніюш дачулася, якую ахоўную грамату займеў Гудзевіцкі музей, яна прысвяціла касманаўту прачулыя радкі:

Хлопча палескі, з харошых найлепшы,
што вылецеў к сонцу з дрымотных балотаў.
Скуль мне узяць дасканалыя вершы,
вартыя гэтак далёкіх палётаў?

Дзякуй, што наш ты з палескае вёскі,
слаўна ўзляцеў і шчасліва вярнуўся.
Дзякуй, што ў сэрцы адданым, сыноўскім,
насіў ты і носіш імя Беларусі.

На жаль, Пятро Клімук так і не прыехаў у Гудзевічы. А легендарная кніга з ягоным надпісам і сёння знаходзіцца ў музейнай экспазіцыі. Што праўда, Гудзевіцкі музей мог бы яе значна пашырыць, паколькі мае ў сваіх фондах некалькі соцень экспанатаў з зэльвенскай хаты Ларысы Геніюш.

## 15. ДНІ НАРОДЗІНАЎ

Адзначаць дні народзінаў за бяседным сталом у коле сяброў Геніюшы навучыліся, жывучы ў Празе. У Заходняй Беларусі такой традыцыі не існавала. Што ж, ці мала чаго беларусы перанялі ад заходнееўрапейцаў, у тым ліку звычаёвага.

Найбольш Ларысе Геніюш запомніліся дні народзінаў, сустрэтыя ў ГУЛагу. Аднойчы канваіры акурат у дзень народзінаў прымусілі паэтку лезці ў халодную ваду рэчкі Інты і распіхваць заторы з бярвення, якое сплаўлялася з канцлагерных лесапавалаў да Белага мора. Пасля такога «купання» паэтка моцна хварэла і ўспамінала той дзень з жудасцю.

Але нават у ГУЛагу вязні стараліся па-людску адзначаць святы, у тым ліку дні народзінаў. У «Споведзі» Ларыса Геніюш кранальна згадвае, як аднойчы сулагерніцы прыйшлі яе павіншаваць і прынеслі злеплены з падсалоджанага сушанага хлеба торт. І як яна падчас шмону хавала той торт у карыце з разведзенай для печніка глінай.

Яшчэ адзін гулагаўскі дзень народзінаў прыпаў на пасляспалінскі час, калі ў лагерах паслабілі рэжым і нават дазволілі адзін выходны.

«Была нядзеля, цёпла было і хораша — нават у тундры. Цвіў іван-чай. Раптам у наш барак пачалі сыходзіцца людзі. Ішлі яны не ўсе разам, ішлі неяк нацыямі, і не бракавала прадстаўнікоў ні ад каго! Нашу секцыю барака (на 50–60 чалавек) усю заставілі іван-чаем. Усе нешта мне напісалі, панарысоўвалі. Мілыя літовачкі нарысавалі Нёман, а над ім — майго сына, аднаго і сумнага... Хто што мог і прыдумаў, той пісаў, рысаваў і нёс, і так да вечара».

Паказальна тут тое, што «ішлі нацыямі». Падзея як бы набывала міжнародны маштаб...

Віншавальныя лагерныя паштоўкі паэтка зберагала і на волі. А ў яе зэльвенскай хаце вісеў абразок Маці Божай, вышыты на турэмнай прасціне рыбнаю косткаю, а рамка была зробленая з хлебнага мякішу.

Выйшаўшы на свабоду і прыехаўшы ў Зэльву, Ларыса Геніюш выкарыстоўвала свае дні народзінаў для сустрэчаў з сябрамі з усяе Беларусі. Сяброў было шмат, і паэтка пачала адзначаць свой дзень народзінаў двойчы — 27 ліпеня і 9 жніўня (паводле старога і новага стыляў). Часам у хаце збіраліся да сарака чалавек, каб усіх рассадзіць за сталамі, выносілі мэблю.

Хто ж прыязджаў павіншаваць знакамітую паэтку? Давайце хоць краем вока зазірнем у прыадчыненае акно гасціннага дома № 7 па вуліцы Савецкай.

Вось Ніна Мацяш, прыехаўшы з няблізкага Белаазёрска, спявае для імянінніцы сваю шчымлівую «Калыханку маме».

Вось Аляксей Пяткевіч з Гародні падносіць Ларысе Антонаўне інкруставаны саломкаю куфэрак, у якім ляжаць кнігі ўсіх гарадзенскіх пісьменнікаў з аўтографамі. Куфэрак купіў Васіль Быкаў, а гравіраваць яго вазілі ажно ў Друскенікі.

Вось Пётра Рашэтнік з Баранавічаў запявае добра пастаўленым голасам песню: «Пад гоман вясёлы, пад звон чары поўнай, / пры зборы усіх нас прысягу даём — / не зломяць нас віхры у бітве няроўнай...» І ўсе былыя гулагаўцы ўстаюць, як пад гімн, плячо да пляча, за імгненне прыціхлым сталом.

Вось Данута Бічэль пад воплескі прысутных завяршае чытанне свайго верша: «Ларыса Антонаўна, вы — як ранне!»

Вось віншуе бабулю ўнук Міхась, які адмыслова прыехаў з Беластока...

Дні народзінаў Ларысы Геніюш адзначаюцца ў Зэльве і сёння. Прадстаўнікі дэмакратычнай супольнасці ў гэты дзень ускладаюць кветкі да яе помніка на цвінтары Свята-Троіцкай царквы, ідуць паломнікамі на яе магілу. 9 жніўня — адзіны дзень, калі над Зэльвай лунаюць бел-чырвона-белыя сцягі.

## 16. КУФЭРАК АД БЫКАВА

Літаратурны кансультант «Гродненской правды» Васіль Быкаў як мог падтрымліваў апальную паэтку. Амаль кожны свой ліст у Зэльву ён заканчваў нязменнай просьбай: прысылайце вершы — надрукуем. І друкавалі. Калі гартаеш газетную падшыўку за 60-я гады, імя Ларысы Геніюш сустракаецца на літстаронках даволі часта.

На той час паэтка яшчэ не мела друкавальнай машынкі, перапісвала вершы ад рукі. Яе почырк Васіль Быкаў расчытваў з цяжкасцю, уласнаручна перадрукоўваў тэксты і дасылаў аўтарцы — на зверку.

Аднаго разу Васіль Уладзіміравіч вырашыў зрабіць Ларысе Антонаўне прыемны сюрпрыз — пашырыць кола яе чытачоў да ста тысячаў. Ён дамовіўся наконт публікацыі яе вершаў у рэдакцыі часопіса «Нёман», сам знайшоў перакладчыка. Той выканаў заданне Быкава, паслаў свае пераклады на аўтарызацыю і... атрымаў з Зэльвы катэгарычную адмову публікаваць іх у беларускім расійскамоўным часопісе. У маскоўскіх выданнях — калі ласка...

Але звычайна Ларыса Геніюш прыслухоўвалася да парадаў свайго малодшага сябра. У 1972 годзе Быкаў нават угаварыў яе паўдзельнічаць у адной чыста савецкай акцыі. На Гарадзеншчыне праводзілася антыалкагольнай кампанія, і абкам распарадзіўся падключыць да справы мясцовых пісьменнікаў. Шукаць празаіка патрэбы не было: Аляксей Карпюк змагаўся з п’янствам і без абкамаўскіх кампаній. А вось паэты

акцыю дружна збайкатавалі. Вось тут Быкаў і скарыстаўся тым, што Ларыса Антонаўна на дух не пераносіла п'яніцаў.

Яе верш «Хмель», надрукаваны ў «Гродненской правде», быў нават адзначаны ганаровым дыпломам абласнога ўпраўлення Міністэрства ўнутраных справаў. Мабыць, гэта адзіная ўзнагарода ад улады, якую атрымала паэтка за сваю літаратурную дзейнасць.

Звычайна стрыманы ў ацэнках літаратурных твораў, Васіль Быкаў не прытойваў уражанняў пасля знаёмства з вершамі Ларысы Геніюш у часопісе «Полымя» (1967. № 2): «Адразу хочацца сказаць Вам: надта ж добра. Добра па настроі, па думках, па інтанацыях. А верш «Зубры» — проста цудоўны. Я рады за Вас і ганаруся Вашай залатой паэтычнай жылачкай».

Улюбёным літаратурным героем Ларысы Антонаўны быў Іван Цярэшка з быкаўскай «Альпійскай баллады». І ўсё ж, на яе думку, аўтар аповесці мусіў зрабіць толькі адну «папраўку на гуманізм»: каб Іван загінуў не такой жудаснай смерцю — ад сабачых іклаў. На загрызеных канвойнымі аўчаркамі вязняў, што адважваліся на ўцёкі, паэтка наглядзелася ў лагеры, і ёй хапіла...

Калі савецкая крытыка драпежыла Быкава за аповесць «Мёртвым не баліць», Ларыса Геніюш узнімала ўсіх сваіх сяброў на яго абарону. Дачуўшыся, што ў акадэмічным Інстытуце літаратуры мае адбыцца абмеркаванне творчасці пісьменніка, яна рашуча запатрабавала ад літаратуразнаўцы Міколы Прашковіча:

«Падтрымайце Быкава! Яго стыхія — гэта бічаванне бесчалавечнасці, хамства і нізасці ў людзях. На вайне асабліва. Быкаў лечыць гэтыя балячкі на целе грамадства. Ён ускрывае іх дасканала. Так, не баліць толькі мёртвым! Быкаў "прапалвае" грамадства, і гэта вялікая справа. Ён — глыбокі аналітык, амаль геніяльны, як само жыццё. Не шкадуйце для яго добрых пачуццяў і разумнага мужнага слова! Танных і бязважкіх словаў ён не любіць і не прыме».

Геніюш ці не першай разгледзела геній Быкава. Пра пісьменніка ў суперлатывах тады яшчэ ніхто не гаварыў. Быкаўская сусветная слава толькі замігцела на даляглядзе.

У Музеі Максіма Багдановіча ў Гародні, у мемарыяльным пакоіку Ларысы Геніюш, і сёння можна пабачыць інкруставаны саломкай куфэрак — падарунак паэтцы да яе 70-годдзя. Васіль Быкаў набыў яго ў мясцовага разбяра па дрэве — адмыслова для Ларысы Антонаўны. У ім паэтка доўга перахоўвала розныя каштоўныя рэчы.

## 17. ГЕНІЮШАЎСКІ КРУПНІК

Сялянскі ўнук, сын паштовага службоўца, выпускнік славутага Карлавага ўніверсітэта ў Празе, доктар Іван Пятровіч Геніюш часам выяўляў панскія звычкі і капрызнічаў, сеўшы за абедзенны стол. Дагадзіць тут яму было няпроста, хоць Ларыса Антонаўна, па словах відавочцаў, гатаваць умела і ведала безліч кулінарных рэцэптаў.

Чарговым разам выправіўшы мужа ў санаторый, яна чакала яго дамоў датэрмінова, перакананая, што на казённых харчах той доўга не вытрымае.

Нельга без усмешкі чытаць адзін з лістоў паэткі да Зоські Верас: «Баюся, што муж не дабудзе належнага часу на тым курорце. Ён капрызны. Капусты ўдома — не есць, грыбоў — не любіць, катлеты яму не смакуюць, заечы паштэт — нядобры, каўбаса — надаела ў маладосці, цяляціна залазіць у зубы, калдуны — фэ! Вось цяпер там недзе з'еў бы ўсё».

Сумняваюся, што можна было знайсці той заечы паштэт у напаўгалоднай на той час Зэльве, дзе і свіныя галовы лічыліся далікатэсам. Але Ларыса Геніюш і пры савецкім дэфіцыце знаходзіла патрэбныя прадукты, каб муж і госці засталіся задаволеныя пачастункам.

Перакладчык Алесь Траяноўскі доўга ўспамінаў зэльвенскую мачанку. Паэтка Данута Бічэль — печыва, якое Ларыса Антонаўна пякла ў электрычнай духовачцы. Унук Міхась і сёння шукае па вёсках на Беласточчыне сухую паляндвіцу, якая нагадвала б бабуліну.

Зэльвенцы замаўлялі Ларысе Геніюш вясельныя караваі і тарты. І паэтка часам іранізавала, што Зэльва цэніць яе як кухарку, а не як паэтку...

Аднойчы Ларыса Геніюш прачытала ў тыднёвіку «Ніва», што беластоцкія беларусы задумалі пабудаваць у Белавежы прыдарожную карчму. І тут жа склала для іх падрабязны план: чым тую карчму накрыць, як абсталяваць падворак, што на сцены павесіць, як персанал апрануць. Кулінарныя парады займалі цэлую старонку:

«Зубраціну есці не абавязкова (зуброў шкада!), хопіць дзікоў, зайцоў з бурачкамі ў сезон, качак, а найлепей нашы вырабы з парсюка. У свеце няма такіх каўбасаў, сальцісонаў, вантрабянкі і вяндліны, якія ўмеюць рабіць беларускія гаспадыні. А грыбы? А бульба? А капуста пад бігос, а верашчака, а дранікі, а бабка мяккая, як пуп, а халадзец і шынкі?! А яешня, печаная як малодзіва, альбо са скваркамі?! А калдуны, а панцачок з грыбамі, маслам заложаны і смятанай забелены... А піць? Меней алкаголю — болей старыны. Апроч зуброўкі, трэба абавязкова варыць крупнік беларускі...»

Крупнік Ларысы Геніюш запомніўся многім. Вось ягоны рэцэпт, перахаваны ў памяці гісторыка Міхася Чарняўскага: 0,5 літра спірту (ці добрай гарэлкі), 0,5 кіпеню, 4 лыжкі мёду разбавіць у кіпені і змяшаць са спіртам, дадаць трохі карыцы, гваздзікі, мускатных арэхаў і духмянага перцу; усё разам варыць 15 хвілінаў, але не кіпяціць.

Па сведчанні сына паэткі Юркі Геніюша, «такой медавухі кубак ламатнуўшы, мёртвыя ўскрасалі, будзілі заснуўшых». А ён толк у напоях ведаў.

## 18. «ДУМАЙЦЕ, ТАВАРЫШ МАШЭРАЎ...»

1 ліпеня 1956 года Ларыса і Янка Геніюшы выйшлі на свабоду. Яны былі вызваленыя камісіяй Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, якая перагледзела справы былых чэхаславацкіх грамадзянаў і запісала ў сваёй пастанове: «Прызнаць віну абгрунтаванай, але, улічваючы добрыя паводзіны ў лагеры і добрасумленныя адносіны да працы, тэрмін пакарання зменшыць да 8 гадоў і па адбыцці тэрміна вызваліць з-пад варты».

З Дубраўлага ў Комі ССР Геніюшы прыехалі ў Зэльву, дзе з вялікімі цяжкасцямі змаглі вярнуць сабе толькі частку хаты,

якая калісьці належала свёкру паэткі Пятру Станіслававічу Геніюшу (памёр у 1952-м, так і не дачакаўшыся сына з нявесткай).

Як жылося Ларысе Геніюш у Зэльве — мы збольшага ведаем. Асуджаная і нерэабілітаваная, без грамадзянства, яна была зручнай мішэнню для ўлады, найперш мясцовай. Пошта яе праходзіла перлюстрацыю, прыезды сына з Польшчы строга лімітаваліся, хата праслухоўвалася — чалавек, які пад выглядам пажарніка ставіў на гарышчы «жучкі», потым прызнаўся і пакаяўся...

Зразумела, што ў такіх умовах не маглі не ўзнікнуць думкі пра эміграцыю. Тым больш, у розных краінах свету Ларыса Геніюш мела сяброў, якія запрашалі яе да сябе. Прычым не ў госці. Дык ці збіралася апальная жыхарка Зэльвы выязджаць за мяжу?

Здаецца, адказ на гэтае пытанне адназначны і ляжыць на паверхні. Дастаткова пагартаць эпісталярную кнігу паэткі «Каб вы ведалі» і пераканацца ў гэтым.

У лісце Міколу Прашковічу (1965 год) Ларыса Геніюш піша: «Думаю сапраўды куды-небудзь выехаць, стала цяжка і нясцерпна жыць на сваёй зямлі».

Ліст Максіму Танку (1968 год) заканчваецца просьбай: «Дапамажыце мне выехаць і закончыць жыццё маё між людзьмі, дзе і я буду чалавекам».

У тым жа 1968 годзе паэтка тлумачыць Аляксею Пяткевічу: «Мы з мужам доўга жылі на Захадзе, і таму нам так немагчыма душна. Тут, пры найлепшым, можа быць толькі сытасць, але свабода — там!»

І нарэшце, Ларыса Геніюш звяртаецца да Пятра Машэрава ў лісце ад 31 сакавіка 1979 года: «Я хачу прасіць Вас, каб Вы запэўнілі мне хоць крыху спакой, пакуль не зраблю парадак з магілкаю мужа, а пасля дапамаглі мне выехаць недзе, хоць да папуасаў. Думайце, тав. Машэраў, бо Вы не ведаеце, што тут з людзьмі вырабляюць».

Пра што «думаў тав. Машэраў», мы сёння таксама ведаем. У Зэльву неаднойчы прыязджалі ягоныя пасланцы з адзіным даручэннем — каб Ларыса Геніюш прыняла савецкае гра-

мадзянства. Калі быць больш дакладным — каб сакратарка Рады БНР прызнала Беларусь савецкую.

Не прымаючы грамадзянства, Ларыса Геніюш цудоўна разумела, што ні да якіх «папуасаў» яе не выпусцяць. А калі выпусцяць у Польшчу да сына (што адбылося толькі аднойчы), то ў закладніках пакінуць мужа.

Таму, на маю думку, намеры паэткі выехаць на эміграцыю носяць, хутчэй, дэкларатыўны характар. Звяртаючыся ў высокія інстанцыі з падобнымі просьбамі, яна адначасова ўздымала перад імі столькі праблемаў! І ўціск беларускай школы, і пераслед зэльвенскіх святароў, і змаганне Алеся Белакоза за Гудзевіцкі музей... І — «думайце, тав. Машэраў». А калі думаць не схочаце, буду патрабаваць законнае права на выезд. А гэта ўжо праблема палітычная, чаго ў «ціхай» Беларусі Машэраў стараўся не дапускаць.

Мне вядомая адзіная канкрэтная спроба «вывезці» Геніюш на Захад. У 1955 годзе з ГУЛага выйшаў грамадзянін Нямеччыны князь Васіль Святаполк-Мірскі. Каб вызваліць і паэтку, ён прапанаваў ёй... фіктыўны шлюб. Ларыса Антонаўна ў лістах ніколі не лаялася, а тут не вытрымала...

Калісьці Вячаслаў Адамчык назваў Ларысу Геніюш «беларускай Ахматавай». Відаць, меў на ўвазе падабенства лёсаў, унутраную эміграцыю, на якую асудзіла абедзвюх паэтак савецкая сістэма. Але было ў іх яшчэ адно падабенства — яны аднолькава разумелі тэму неразлучнасці паэта з народам.

Ахматаўскія радкі вядомыя: «Я была всегда с моим народом / там, где мой народ, к несчастью, был». А гэты геніюшаўскі верш-зварот да калегаў-пісьменнікаў упершыню апублікаваны толькі ў юбілейным двухтомавіку (2010): «Спявайце Сталіну і гіньце, / як ветрам скручаны чарот. / Мяне ў зняволенні пакіньце — / там, дзе сягоння мой народ».

А ўвесь народ на эміграцыю выехаць не можа.

## 19. ГЕНІЮШАЎСКІ ЛЕТАПІС

Ліставанне — натуральная патрэба чалавечай душы. Меў рацыю паэт, калі пісаў, што і радасць не радуе, і гора не засмучае, калі імі няма з кім падзяліцца.

На жаль, эпісталярыі беларускіх пісьменнікаў захаваліся толькі часткова. Усяго два лісты засталося пасля Алеся Гаруна. Дзевяць лістоў дайшло да нас ад Цёткі. Дзевятнаццаць — ад Максіма Багдановіча. Дваццаць сем лістоў увайшло ў выніковы «кнігазбораўскі» том Уладзіміра Жылкі. Дзевяноста сем лістоў — выяўлены эпісталярый Максіма Гарэцкага. Купалазнаўцы адшукалі сто сорак лістоў Янкі Купалы — улучна з тэлеграмамі, жартоўнымі экспромтамі і рэкамендацыямі ў Саюз пісьменнікаў...

Ларысе Геніюш з захаваннем эпісталярнай спадчыны пашанцавала як нікому.

Лік яе лістоў, што зберагаюцца ў дзяржаўных і прыватных архівах, ідзе на тысячы (апублікавана пакуль што каля 1200). У гісторыі сусветнай літаратуры я не ведаю другога такога пісьменніка, які гэтак жа шчодра выдаткоўваў бы свае душэўныя сілы ў эпісталярным жанры, як тое рабіла Ларыса Геніюш. З зайздроснай перыядычнасцю фіксуючы ў лістах да шматлікіх карэспандэнтаў самыя розныя падзеі, паэтка нібы стварала свой уласны летапіс, адрасаваны, як і ўсе летапісы, будучым пакаленням.

Вязні ГУЛага называлі геніюшаўскія лагерныя лісты глюкозай — яны дапамагалі пераждыць доўгія гады змушанага бездзім'я. Гэткай жа глюкозай беларушчыны, відавочна, былі і зэльвенскія пасланні Ларысы Геніюш суайчыннікам па ўсім свеце — у Вільні і Маскве, у Нью-Ёрку і Мельбурне, у Лондане і Празе, у Чыкага і Уроцлаве, у Рыме і Львове.

Чытаеш, напрыклад, перапіску Ларысы Геніюш і Зоські Верас і толькі дзіву даешся: як гэтыя дзве бабулі падтрымлівалі на духу, кажучы па-царкоўнаму, духоўна акармлялі дзясяткі і сотні людзей, якія да іх звярталіся!

У лістах з Зэльвы — цікавасць да ўсяго, што адбывалася ў Беларусі і свеце. Паэтка без агляду на лішнія вочы дзялі-

лася са сваімі карэспандэнтамі думкамі і пачуццямі, патрабуючы наўзамен навінаў і навінаў. Шчодрасці яе душы хапала на ўсіх. Вось яна абмяркоўвае з Адамам Мальдзісам магчымасць пераносу праху Максіма Багдановіча з Ялты на радзіму, «бліжэй да сэрца народа». Вось дзеліцца з Ірынай Крэнь трывогай за лёс Белавежскай пушчы, якую пачалі пілаваць і карчаваць за Поразавам. Вось шле рэцэпты схварэламу, але непакананаму духоўна Алесю Белакозу. Вось абмяркоўвае з Васілём Быкавым яго новую аповесць «Альпійская балада», а Уладзіміру Караткевічу падказвае сюжэт апавядання «Сіняя-сіняя»...

Пасля смерці мужа ў 1979 годзе паэтцы прызначылі мізэрную пенсію. Мясцовым уладам было дадзена заданне кантраляваць кожны яе крок. Пасылкі з лекамі не даходзілі. Сына ў Беластоку спрабавалі завербаваць польскія органы бяспекі, якія на той час былі філіяй Лубянкі. Некалькі разоў на падаваныя заявы аб рэабілітацыі прыходзіў адзін адказ: «Осуждены правильно». Разам з адзінотай у старэнькую хату пачаў наведвацца адчай.

І Ларыса Геніюш піша ліст на імя тагачаснага першага сакратара ЦК КПБ Пятра Машэрава: «Я дажываю век суджанага Вамі, змучанага турмамі, лагерамі і вечным праследаваннем зэльвенскіх уладаў чалавека... У імя людскасці прашу — дапамажыце мне выехаць з СССР...»

Адказ з ЦК КПБ прыйшоў, але быў адрасаваны не Геніюш, а — Ценіюш. Магчыма, прозвішча паэткі напісалі з памылкай невыпадкова, каб яшчэ раз нагадаць: вы толькі часовы цень на зямлі, вы нават не грамадзянка гэтай краіны...

Зразумела, што выехаць настала за мяжу Ларысе Геніюш не далі. Найдалей, дзе ёй давялося пабываць пасля вызвалення, — у Беластоку і Вільні.

Геніюшаўскі лістоўны летапіс з цікавасцю чытаецца і сёння. Нездарма зборнік «Каб вы ведалі: з эпісталярнай спадчыны (1945–1983)» стаў, паводле версіі газеты «Наша ніва», найлепшай кнігай 2005 года.

## 20. ПАЭТКА І «ПЕСНЯРЫ»

Аднойчы ў сталічную «Кнігарню пісьменніка» зайшоў саліст ансамбля «Песняры» яшчэ мулявінскага складу Аляксандр Кацікаў. Са стосіка беларускіх кніжак ён выцягнуў паэтычны зборнік у мяккай зялёнай вокладцы пад назвай «Ад родных ніў». Імя аўтаркі спеваку і кампазітару нічога не гаварыла. Аляксандр разгарнуў кнігу, учытаўся ў адзін верш, у другі і зразумеў, што з ім адбываецца нешта незвычайнае. Чытаныя тэксты тут жа спалучаліся ў ягонай душы з мелодыямі, якія хацелася неадкладна запісаць, каб не забыцца...

Праз месяц былі напісаныя дзесяць песняў на вершы Ларысы Геніюш. А яшчэ праз паўгода я атрымаў ад Аляксандра Кацікава густоўна аздоблены альбом пад назвай «Жывем», з вокладкі якога на мяне глядзела 17-гадовая паэтка. Аляксандр не толькі напісаў музыку да песняў, не толькі праспяваў большасць з іх, але і ўласнаручна набраў усе тэксты, знайшоў фундатараў, выступіў прадзюсарам усяго праекта. А яшчэ — напісаў прадмову да альбома, дзе, між іншага, гаварылася: «Ларысу Геніюш не зламалі ні сталінскія лагеры, ні гады вымушанай эміграцыі, ні забыццё, на якое асудзіла паэтку камуністычная ўлада».

Мы доўга сядзелі з Аляксандрам у скверыку за Белдзяржфілармоніяй. Майго суразмоўцу цікавіла ўсё, звязанае з Ларысай Геніюш і легендарнымі «Песнярамі». Што ведаў, я тады яму расказаў.

Пра тое, як паэтка купіла дэфіцытную па тым часе кружэлку «Песняроў» і так захоплена напісала пра яе мужу ў санаторый Лётцы пад Віцебскам, што той не вытрымаў да канца тэрміну і прымчаўся ў Зэльву, каб слухаць разам.

Пра тое, як Ларыса Антонаўна ездзіла ў Гародню — адмыслова на канцэрт «Песняроў». Як падаравала Уладзіміру Мулявіну сваю кнігу «Невадам з Нёмана», а наўзамен атрымала фотаздымак усяго ансамбля з аўтографам маэстра з пацешнымі памылкамі: «Ларісе Антоновне Геніуш од “Песняроў”. В. Мулявин».

Пра тое, як паэтка рассылала кружэлкі «Песняроў» суродзічам па ўсім свеце, называючы ўдзельнікаў ансамбля «нашымі саколікамі», «партызанамі» і «адзінымі ў Беларусі мужчынамі, якія здольныя за сябе пастаяць»...

Вярнуўшыся з канцэрта ў Гародні, Ларыса Геніюш падзялілася свежымі ўражаннямі са сваёй даўняй сяброўкай Зоськай Верас, якая жыла ў Вільні: «Мяне асабліва захапіла песня "А ў полі вярба нахілёная". Так прачула перадаць гэтую песню мог толькі беларус з крыві і косці Наднямоння. А які акампанемент! Так калі не пяяў, дык адчуваў, напэўна, той, хто стварыў яе, яна проста зашчыра выканана, ажно страх. Якое ж цуда — гэтыя хлопцы! Народная душа аж дрыжыць на іх вуснах, трапяткая, жывая, спрадвечная і вечная. Няхай пяюць шчасліва і як найдаўжэй. Гэтак ажываюць скарбы, утаптаныя ў жвір прыдарожны».

Ці ведала Ларыса Антонаўна, што спявак, які меўся быць «з крыві і косці Наднямоння», нарадзіўся і гадаваўся ажно на Урале?

Аляксандр Кацікаў (сам родам з Астравеччыны) паведаміў мне не менш цікавую навіну. Аказваецца, апошняй выкананай Уладзімірам Мулявіным песняй стала «Краю мой родны» — на словы Ларысы Геніюш. Славуты пясняр зрабіў рабочы запіс, а дашліфаваць песню не паспеў — здарылася аўтакатастрофа...

Калі на душы робіцца непамысна, я стаўлю на прайгравальнік дыск «Жывем» і слухаю непаўторны мулявінскі голас:

Крывіч там стагоддзі загон свой старожа,
а звычаі, мова жывуць з года ў год.
Там Край, быццам казка старая, прыгожы,
удалы і верны Краіне народ.

З гэтай песняй Уладзімір Мулявін і адышоў у лепшы свет. Магчыма, ён сустрэўся там з Ларысай Антонаўнай і праспяваў ёй яе ўлюбёную «А ў полі вярба нахілёная»...

## 21. СТАЛІНАЗАЎРЫ

Навукоўцы сцвярджаюць, што біялагічны від, які лічыцца вымерлым, пры спрыяльных і нязменных на працягу тысячагоддзяў умовах (прыкладам, у акіянскіх глыбінях) можа існаваць даволі працяглы час. Хай сабе і ў межах нешматлікай папуляцыі.

Нешта падобнае назіраецца і ў Рэспубліцы Беларусь, дзе рудыменты савецкасці трывала ўвайшлі ў жыццё цэлых пакаленняў. Здавалася б, за апошнія дваццаць гадоў чаго толькі не адбылося на адной шостай зямной цвердзі! Знікла кіроўная і адзіна правільная партыя, распалася велізарная імперыя, БССР перайменавалася ў РБ, якая займела ўсе атрыбуты дзяржаўнасці.

Але — па вялікім рахунку — нічога не змянілася, і час нібы закансерваваўся на вуліцах Савецкіх па ўсёй Беларусі (а наяўнасць такой вуліцы ў кожным абласным ці раённым цэнтры — абавязковая). Сучасны беларускі чыноўнік мысліць і дзейнічае па-савецку.

«Дваццаць пяць гадоў за абы-што ў Савецкім Саюзе не давалі», — заявіў мне адзін такі мастадонт ад ідэалогіі, калі я нагадаў яму пра блізкае стагоддзе Ларысы Геніюш. Прызнацца, мне і дых заняло. Перада мною сядзеў не замшэлы гэбіст-адстаўнік, а мой равеснік, які, трэба думаць, і Салжаніцына чытаў, і пра маштабы рэпрэсіяў у Беларусі ўяўленне меў. На такіх дзеячоў Ларыса Геніюш за сваё жыццё наглядзелася і нават радкі ім прысвяціла:

Світае. Нявінныя ўсталі з калень,
а мёртвыя выйшлі па лаўры.
І толькі ад праўды схаваліся ў цень
апошнія сталіназаўры.

27 ліпеня 2010 года сталіназаўры выйшлі з ценю ў Ваўкавыску і сарвалі памятную шыльду з перавезенай са Жлобаўцаў роднай хаты паэткі.

4 жніўня таго ж года сталіназаўры выпаўзлі з ценю ў Зэльве і, парушаючы закон аб прыватнай уласнасці, знялі шыльду з барэльефам Ларысы Геніюш з яе зэльвенскай хаты.

Сталіназаўры, што знайшлі сабе ўтульныя пячоры ў Міністэрстве адукацыі, выкінулі «Споведзь» Ларысы Геніюш са школьнай праграмы па літаратуры.

Сталіназаўры ў судзейскіх мантыях працягваюць лічыць Ларысу Геніюш злачынцай, адмаўляючы ёй у рэабілітацыі.

Усе яны саманадзейна лічаць сябе пераможцамі ў гэтым зацятым змаганні з паэткай. Але Ларысу Геніюш, яе праўду перамагчы немагчыма. І як жа памыляецца галоўны беларускі сталіназаўр, калі самаўпэўнена заяўляе з экрана БТ, што ён, ці бачыце, «разабраўся з Геніюш». Ларыса Геніюш пераможа і яго. Не дапаможа і дасье, сфабрыкаванае на паэтку службістамі Цанавы і схаванае за сямю замкамі ў іхнім сумнавядомым ведамстве.

Увогуле, усе сталіназаўры павінны ведаць: вайна з пісьменнікамі, з літаратурай бессэнсоўная. Ваяваць з літаратурай — як страляць з рагаткі па зорках. І ўсё ж знаходзяцца аматары павалваць. Не навучыла іх савецкае мінулае рабіць высновы з ранейшых памылак. З усёй пароды выкапнёвых сталіназаўры аказаліся самымі жывучымі. Але і яны вымруць.

## 22. ПАХАВАННЕ

Калі нейкую з’яву немагчыма растлумачыць, кажуць, што адбыўся цуд.

10 красавіка 1983 года, у дзень пахавання Ларысы Геніюш, ён адбыўся ў нясхільнай да цудаў Зэльве. Я апытаў дзясяткі відавочцаў, і ніхто мне не змог уцямна растлумачыць, як тады, пры моцнай яшчэ савецкай уладзе, у савецкім запалоханым і дарэшты кантраляваным мястэчку на вуліцу Савецкую прыйшлі тысячы савецкіх людзей, каб правесці ў апошні шлях несавецкую грамадзянку.

Ніхто ж нікога з хаты не гнаў, з працы арганізавана не адпускаў. Наадварот, бралі на ўлік тых, хто падпісваў па-беларуску вянкі, хто збіраўся прысутнічаць на адпяванні ў цар-

кве. І ўсё ж людзі прыйшлі. Як на маўклівую маніфестацыю, перамогшы вонкавы і ўнутраны страх, усім сваім выглядам нібы пацвярджаючы словы Ларысы Геніюш: «Мы вам не племя слугаў, мы — народ!»

Лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры Марыс Метэрлінк, які быў яшчэ і выдатным прыродазнаўцам, у сваёй кнізе «Разумныя кветкі» апісаў паводзіны раслінаў у самых розных умовах існавання. Аказваецца, асобная кветка можа памыліцца, зацвісці не ў пару і загінуць, можа несвоечасова высеяць у зямлю насенне, якое не дасць працягу роду. Але ў цэлым кветкавы род ніколі не памыляецца, ён разумны і ведае, як дзейнічаць у надзвычайных сітуацыях.

Магчыма, падобная сістэма паводзінаў характэрная і для людзей. Асобна ўзяты жыхар Зэльвы мог не чытаць кніг Ларысы Геніюш і не ведаць, з кім жыў побач на адной вуліцы. Але настаў момант ісціны, і ён уліўся ў шматлюднае жалобнае шэсце, якое ў той дзень і ў той час уяўляла з сябе менавіта народнае рушэнне, над якім не мела сілы ўсёмагутная тады савецкая ўлада.

Дарэмна прадстаўнікі гэтай улады запалохвалі святара зэльвенскай Свята-Троіцкай царквы і настойвалі, каб не было адпявання. Айцец Васіль Чыкіда пры паўнюткай царкве адпяваў рабу Божую Ларысу чатыры гадзіны. А ў сваёй пропаведзі назваў Ларысу Геніюш чалавекам «з крыштальна чыстай душой, чые творы будуць жыць вечна».

Дарэмна афіцыйныя распарадчыкі пахавання, упаўнаважаныя той жа ўладай, падганялі пад царкву грузавік з апушчанымі бартамі. Труну ад храма да самых могілак людзі неслі на плячах.

Дарэмна пісьменнікаў з Гародні і Менска па чарзе выклікалі ў райвыканкам і папярэджвалі, каб «никаких речей» тыя не прамаўлялі. На могілках выступілі Адам Мальдзіс і Уладзімір Арлоў, які прачытаў верш Сержука Сокалава-Воюша, напісаны на смерць паэткі.

Дарэмна ў Зэльву панаехала «службоўцаў у цывільным» з Ваўкавыска і Гародні, якія мусілі кантраляваць сітуацыю.

Наўрад ці нехта з іх здабыў чарговую зорку на пагоны за тое сапраўды народнае пахаванне.

«Дома свечкі даўно пагашаны, / і магілкі пад снегам спяць. / Дык няўжо і мяне, няшчасную, / пад канвоем будуць хаваць?» — пыталася Ларыса Геніюш у адным з апошніх сваіх вершаў. Спасцярога паэткі не спраўдзілася. Хавалі яе пад аховай любові ў атмасферы шчырага чалавечага смутку.

Калі я гляджу на здымкі з таго пахавання, мне міжволі хочацца параўнаць развітанне з Ларысай Геніюш з праводзінамі ў апошні шлях Васіля Быкава. І 10 красавіка 1983 года ў Зэльве, і 25 чэрвеня 2003 года ў Менску за трунамі творцаў ішоў Народ, дзеля якога яны жылі і пісалі.

## 23. ВЫРАТАВАНЫ АРХІЎ

За савецкім часам у Саюзе пісьменнікаў дзейнічала цвёрдае правіла: пасля смерці літаратара стваралася адмысловая камісія па ягонай творчай спадчыне. Сябры тае камісіі пераглядалі архіў калегі, рыхтавалі да публікацыі нявыдадзеныя творы.

Пасля смерці Ларысы Геніюш, якая хоць і не ўваходзіла ў пісьменніцкі саюз, але сябравала з ягоным старшынёй Максімам Танкам, камісію па спадчыне стварыць не паспелі.

Пахавалі паэтку 9 красавіка 1983 года, а ўжо 11 красавіка ў апусцелай хаце Геніюшаў быў учынены — сіламі мясцовых уладаў — ператрус. Пратэсты Юркі Геніюша, які яшчэ не паспеў апрытомнець пасля смерці маці, не спынілі старшыні пасялковага Савета і яго памагатых, якіх прыслалі «даследаваць» архіў паэткі і знойдзеную (абавязкова!) антысавеччыну тэрмінова даставіць у спецкабінет на спецпрагляд.

Юрка Геніюш у роспачы патэлефанаваў у Менск Адаму Мальдзісу — на той час супрацоўніку Інстытута літаратуры Акадэміі навук. Той звязаўся з Алесем Адамовічам, які меў сувязі ў ЦК КПБ. Сакратар ЦК па ідэалогіі Аляксандр Кузьмін распарадзіўся: архіў Ларысы Геніюш захаваць у цэласці і вывезці ў больш бяспечнае месца. Імгненна была арганізаваная выратавальная экспедыцыя ў Зэльву, дзе Мальдзісу давялося літаральна адваёўваць рукапісы паэткі ў новаяўленых

«геніюшазнаўцаў». Тыя не спяшаліся пакідаць захопленую хату, тэлефанавалі райкамаўскаму начальству, тое звязвалася з Менскам... Нарэшце старшыня пассавета быў вымушаны патлумачыць сваім памочнікам: «Товарищ Мальдис — тоже исследователь, но с большими, чем у нас, полномочиями».

Надвячоркам таго ж дня ад дома № 7 па вуліцы Савецкай у Зэльве ад'ехаў рафік, пад завязку наладаваны пакаўнымі мяхамі. Валюхаючыся на брукаванцы яшчэ польскіх часоў, няспешна прамінуў старыя могілкі, аўтастанцыю і схаваўся, як за бруствeрам, за высокай насыпной дамбай, што мелася неўзабаве запыніць хуткаплынную Зальвянку.

На слонімскай шашы сталічную экспедыцыю спынілі міліцыянты. Прымусілі з'ехаць з дарогі ў лес, доўга распытвалі пра характар груза, правяралі дакументы. Паспрабавалі зазірнуць у мяхі, але яны нечакана аказаліся апячатанымі. Старэйшы па званні міліцыянт доўга круціў у руках прад'яўленае яму чырвонае пасведчанне з надпісам «Саюз пісьменнікаў СССР», размаўляў з кімсьці па рацыі. Нарэшце атрымаў каманду адпусціць затрыманых.

Так быў уратаваны архіў Ларысы Геніюш, які яшчэ пры жыцці паэткі не даваў сяму-таму спакою. Сем мяхоў з рукапісамі былі дастаўленыя ў Менск і здадзеныя ў Акадэмічную бібліятэку. Сёння Геніюшаўскі фонд 31 — адзін з самых багатых пісьменніцкіх архіваў у Беларусі, які па колькасці неапублікаваных тэкстаў, відаць, не мае сабе роўных. У гэтым фондзе, як у залатых капальнях, даследчыкі знаходзяць усё новыя і новыя скарбы, якім канца-краю няма.

Як жа памыляўся Барыс Пастарнак, калі кідаўся ў вершаваную дыдактыку: «Не трэба нам збіраць архівы, / над рукапісамі дрыжаць». Архівы заводзіць трэба. І рукапісы зберагаць неабходна. Яны — дакументы часу, ягоныя метрыкі і пашпарты.

## 24. СЛОНІМСКАЕ ВЫДАННЕ «АД РОДНЫХ НІЎ»

На пятым курсе філфака БДУ я пісаў дыпломную працу па творчасці Ларысы Геніюш. Навуковая кіраўніца Любоў Тарасюк прачытала маю пісаніну і сказала, што аналізаваць паэзію Геніюш, абмінаючы яе першую кнігу «Ад родных ніў», — гэта несур'ёзна.

Сапраўды, названай кнігі я і ў вочы не бачыў. На кніжнай паліцы ў студэнцкім інтэрнаце стаялі толькі зборнікі «Невадам з Нёмана», «На чабары настоена» і свежанькае выбранае «Белы сон». Не знайшоў я пражскай кнігі і ў даступных студэнту фондах тагачаснай Ленінскай бібліятэкі.

Дастаць рарытэтнае выданне дапамагла мне аднакурсніца Алеся Сёмуха, якая ўжо тады часта вандравала па замежжах. Фотакопія зборніка «Ад родных ніў» была тэрмінова дастаўленая ў Менск з Прагі, з тамтэйшай Славянскай бібліятэкі. Асобнік аказаўся нават з аўтографам аўтаркі: «Незраўнянаму мастаку Міхасю Забэйду-Суміцкаму. Прага, 8 верасня 1942 г.».

Патрэбны раздзел у дыпломную працу я дапісаў і паспяхова абараніўся. А мая навуковая кіраўніца пазычыла ў мяне пражскі зборнік і ад рукі перапісала яго для ўласных патрэбаў. Неўзабаве ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва» з'явіўся яе артыкул пра паэзію Ларысы Геніюш «Маці Беларуская». Ён мяне ўразіў, але яшчэ больш уразіў факт перапісвання. З таго часу мяне не пакідала задума перавыдаць кнігу «Ад родных ніў» факсімільным спосабам.

Дзеля гэтага патрэбна было зрабіць тры рэчы: адшукаць саму кнігу, знайсці фундатара і дамовіцца з друкарняй. Як ні дзіўна, найлягчэй знайшоўся фундатар — гарадзенскі прадпрымальнік Валянцін Дубатоўка. Калі мы сустрэліся з ім на ягоным уласным тартаку ў мястэчку Дзярэчын і ён пад віскат пілаў прачытаў на памяць верш Ларысы Геніюш «О краіна шчасця, родная матулька...», я зразумеў, што трэба як мага хутчэй шукаць друкарню.

Працаваў я на той час у Міністэрстве культуры і друку, таму з лёгкасцю трапіў на прыём да міністра. Міністр знаўся на кніжнай справе і цярпліва пераказаў мне палажэнне аб

факсімільных выданнях. З яго вынікала, што на іх маюць права толькі бясспрэчныя класікі — Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі... Міністр паперакладаў на стале прынесеныя мной фотааркушы і, прыцішыўшы голас, прачытаў:

Няхай разгорне сваё крылле,
як сторож вечнага жыцця,
хай зашуміць хоць на магіле
мне бел-чырвона-белы сцяг.

На календары быў 1995 год, толькі што прайшоў рэферэндум па змене дзяржаўнай сімволікі, краіна працягвала адзначаць 50-годдзе перамогі над фашызмам. «Ветэраны нас не зразумеюць», — рэзюмаваў міністр і працягнуў на развітанне руку.

Але ж я, як супрацоўнік міністэрства, незадоўга перад гэтым ездзіў з інспекцыямі па абласных і раённых друкарнях. А што калі...

Першым адгукнуўся Сяргей Чыгрын са Слоніма: «Нашая друкарня гатовая выдаць кнігу Ларысы Геніюш у самы сціслы тэрмін і любым накладам!» Я адразу ж паехаў у Слонім. Усе мае засцярогі дырэктар дзяржаўнай Слонімскай друкарні Уладзіслаў Філіпаў адпрэчыў сходу: «Мы на гасразліку, і міністэрства мне не ўказ... Кнігу Геніюш я надрукую. Вязіце ўзорны асобнік».

Заставалася знайсці той узорны асобнік. Я абзваніў і абышоў з дзясятак менскіх бібліяфілаў — безвынікова. Адны раілі пашукаць у Вільні ў спадчыннікаў Янкі Шутовіча, другія — у Валянціна Грыцкевіча ў Санкт-Пецярбургу, трэція — звярнуцца ў тую ж Славянскую бібліятэку ў Празе...

Неспадзявана патрэбная кніга ўсё ж знайшлася — у кнігазборы аднаго шаноўнага доктара філалогіі. Уладальнік згадзіўся пазычыць свой рарытэт з адной умовай — нідзе не згадваць яго імя.

Неўзабаве мы з Сяргеем Чыгрыным ужо вывозілі гатовы трохтысячны наклад са Слонімскай друкарні. І сёння кніга «Ад родных ніў» ёсць ва ўсіх буйных бібліятэках краіны. А ў маім

кнігазборы яна стаіць на адной паліцы з «Дудкай беларускай» Мацея Бурачка, «Жалейкай» Янкі Купалы, «Песнямі жальбы» Якуба Коласа, «Вянком» Максіма Багдановіча, «Матчыным дарам» Алеся Гаруна, «Рунню» Максіма Гарэцкага...

Вось так слаўны горад Слонім узвёў Ларысу Геніюш у ранг класіка.

## 25. АБАРОНЕНЫ ПОМНІК

Ідэя ўсталяваць у Зэльве помнік Ларысе Геніюш была ўпершыню агучаная старшынёй гісторыка-культурнага клуба «Спадчына» Анатолем Белым на старонках часопіса «Полацак» у 1996 годзе. Да яе з прыхільнасцю паставілася беларуская дыяспара, распачаўся збор сродкаў.

Створаны неўзабаве аргкамітэт пісьмова звярнуўся ў Зэльвенскі райвыканкам з просьбай вызначыць месца пад помнік, над якім заканчваў працу скульптар Міхась Інькоў — зэльвенец з нараджэння. Неўзабаве прыйшоў адказ: «Раённы выканаўчы камітэт вырашыў дазволіць устаноўку бюста Ларысы Геніюш па вуліцы Савецкай, у скверы перад будынкам былога пасялковага Савета дэпутатаў за сродкі аргкамітэта».

Перапоўнены радаснымі пачуццямі, я паехаў у Зэльву. Разам са старшынёй райвыканкама Віктарам Будрэвічам мы агледзелі вызначанае месца (акурат насупраць хаты, дзе жылі Янка і Ларыса Геніюшы). Памятаю, з якім энтузіязмам старшыня вымерваў крокамі пляцоўку, прыкідваў, дзе і як размясціць клумбы, якія словы ад удзячных нашчадкаў напісаць на пастаменце.

Не ведаю, наколькі самастойным быў на той час райвыканкам у прыняцці рашэнняў. Але праз пэўны час я атрымаў з Зэльвы другі ліст, з якога вынікала, што раённая ўлада «перавырашыла» сваё ж рашэнне і адклала ўзвядзенне помніка да прыняцця адпаведнай пастановы Саветам Міністраў.

На гэтым справа з помнікам мела ўсе шанцы завіснуць у паветры да лепшых часоў. І яна ледзь не завісла. Прайшлі гады, і ініцыятыву ізноў узяў на сябе Анатоль Белы. Ён дамогся аўдыенцыі ў мітрапаліта Філарэта, падаў яму чалабіт-

ную і атрымаў на ёй рэзалюцыю Уладыкі: «Бог благословит доброе начинание. 2.12.2002».

З рэзалюцыяй у кішэні, прыхапіўшы неабходнае начынне і сам бюст, Анатоль Белы ў той жа дзень паімчаўся ў Зэльву. Праз дзве гадзіны помнік ужо стаяў на царкоўным цвінтары.

Такіх «буры і націску» мясцовыя ўлады аніяк не чакалі. Раніцай наступнага дня настаяцель зэльвенскай Свята-Троіцкай царквы айцец Аляксандр быў выкліканы ў райвыканкам. Ва ўльтыматыўнай форме яму было загадана цягам трох дзён дэмантаваць помнік. Святар паказаў чыноўнікам дабраславенне Філарэта і сказаў, што такога ж дабраславення на дэмантаж не мае. Улады заняліся «вывучэннем сітуацыі». Асабліва настойвала на зносе помніка чыноўніца з Гарадзенскага аблвыканкама Марыя Бірукова.

Уявіўшы бульдозер на царкоўным цвінтары, я факсам перадаў у Зэльву ліст-пратэст, у якім гаварылася, што «разбурэнне асвечанага па ўсіх праваслаўных канонах помніка станецца беспрэцэдэнтным актам вандалізму і выкліча абурэнне грамадзянаў Беларусі і розгалас па ўсім свеце». Сярод іншых ліст падпісалі народныя пісьменнікі Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, акадэмік Радзім Гарэцкі.

Ліст разглядаўся на паседжанні выканкама, якім кіраваў ужо другі старшыня — Леанід Эльяшэвіч. Ён не захацеў застацца ў найноўшай гісторыі Беларусі руйнавальнікам помніка Ларысе Геніюш. Скажам за гэта дзякуй і яму, і мітрапаліту Філарэту, які заўсёды з належнай павагай ставіўся да памяці вялікай паэткі і хрысціянкі.

Помнік і сёння стаіць у ахоўным полі царквы, нібы прывячае ўсіх вернікаў перад багаслужбай. На правым ягоным крыле — выява Пагоні, а на пастаменце — тры словы, якія гучалі калісьці ў малітве вязняў ГУЛага: «Божа, барані Беларусь!»

*2010*

# ЗМЕСТ

**Бараніць вуллі свае**



**Мост у краіну Неманіну**

**Расплятанне тканіны**



**Каінава братэрства**



**Збудаваць свой каўчэг**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 84

**Скобла** Міхась

**Саркафагі страху**
*Прознае*

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Барыс Пятровіч
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Карэктура Алены Спрытніч

Падпісана да друку 10.08.2016. Фармат 84х108 1/32.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 20,58. Ул.-выд. арк. 16,4.
Наклад 300 ас. Зак. 327.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.